№2(63)
/сакавік-красавік/ 2013

Дзе

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Рыгор Барадулін



...Пад небам вернасці і чысціні
Свабодныя самыя
Вязні свабоды...

# Вершатэрапія

### *УЗГАДАНАЕ*

Голіцца кудлаты гром
Хітрай брытвай бліскавіцы.
Хмель зялёны за бугром
Вучыцца сукрыста віцца
У разважлівага дыма.
Возера.
Вярба.
Паром.
Зачакалася Радзіма...

### *НІХТО*

Ніхто
Да часу так не прыкуты,
Як гадзіннік,
У боты турботы абуты...

### *ПЫТАННЕ*

Рух
Пытаецца ў ценяў наўкола,
Дзе пачатак
Няспыннага кола?..

* * *

Дождж
Ходзіць змалку басанож
І не баіцца застудзіцца...

* * *

Свой неўміручы лёс
Кропля разбівае аб туман.

* * *

Кожнаму самы верны
Толькі ягоны боль...

### *ПОШУК*

Гукае рэха сонную саву.
Нясмела
Цені ў лазняку зніцелі.
А капялюш шукае галаву,
З якой у вырай
Думкі адляцелі...

* * *

Спагаду замяняе дакор,
Чаканы спакой – трывога.
Гук –
Геніяльны актор
Падмяняць галасы
Усяго жывога...

* * *

Кожны праявіцца рад
Ці ў старанні,
Ці ў гульбе.
Час

Абцасы збіў да пят,
Даганяючы сябе...

* * *

Ніколі крот не можа стаць крылатым.
Не ўмыецца слязьмі сваімі кат.
Самому ўрэшце
Трэба быць вар'ятам,
Каб зразумець,
А што за ён – вар'ят...

* * *

Адвячорак ступае па ўчарашняй траве.
На негабляваных лавах
Застолле плыве.
Хочацца здзейсніцца
Млечнаму Шляху.
Вецер не можа
Дабраць апранаху
Голаму жаху.
Давярае вавёрка
Свае кіпцюркі сасне.
Усё сябе ўспамінае
У задуманым сне...

* * *

Я адзін,
Як пытальнік
У канцы апошняга сказа
Пазычанага жыцця.
Ад каго
Чакаю адказу?..

* * *

Агонь тушыць
Я па наіву
Браўся.
Збіраўся жыць,
Ды так
І не сабраўся...

* * *

Не пакутуе ад бяссоння
Дарога з учора ў сёння...

## ЗНЯНАЦКАЕ

Агонь глядзіць на дрэва –
Бачыць дровы.
Адлезе ў снезе
Крэкча крыгалом.
На хутары
Сузор'і лічаць совы.
Вятрак вітае страх
Аднакрылом.
Даверу ветру
Развярэдзіць стому.
Сівому ветраку
Падам руку.
Дам тэлеграму
Нейкаму нікому,
Каб сон наслаў
На рупную раку...

* * *

У небе выбоістая шаша.
Сплываюць хмурыністыя масты.
Пакуль цябе церпіць
Твая душа,
Сябе пераконвай,
Што ты – гэта ты...

* * *

Жыць як апошнім днём,
Адужаўшы знямогу.
Прыгашаным агнём
Свяціць наскрозь дарогу.

Дарогу,
Што вядзе
У соннае пытанне,
Паром вяртання дзе
Да берага прыстане.

У леташняй журбе
Час волю дасць спакою.
Бягун ручай сябе
Захоча зваць ракою...

* * *

Ідэя для таго даецца,
Каб ціха ехала страха.
І чалавецтва,
І авецтва
Не могуць жыць
Без пастуха...

* * *

Усё паўтараецца на зямлі.
Руплівасць корміць
Галодную стому.
Няўтульнае самае –
Гэта калі
Ты больш непатрэбны
Сабе самому...

### *КАСТРЫЧНІЦКАЕ*

Маланка –
Пляменніца вышыні
Не верыць даверу стром.
Датоптвае летнія пашлапні
Застуджаны восеньскі гром...

* * *

Зярняты дзён
Дзяўбе, як певень,
Час.
Галодны
Ён –
Не заўважае нас...

* * *

Калі абвяў канец,
Не думай пра вянец...

* * *

Пераканаць хваробы свае
Хвораму кворуму не стае...

* * *

Ажно нябёсам цесна
Ад крумкачовага суму...

* * *

Гром кірпаты
Кудлатую цішыню
Сватае не ўпершыню...

* * *

Не дадзена нікому выбіраць
Умельства жыць,
Майстэрства паміраць...

* * *

Бясконцасць векавечыцца ў жыцці.
Бяздомна
Ісціна блукае ў свеце.
Знайсці, каб страціць,
Страціць, каб знайсці.
Балюча
Немінучасць верыць мэце...

***ЗАЎСЁДЫ***

Вецер спрабуе голас.
Думкай цяжэе колас.
Ціха шалее асцё.
Смела хмялее жыццё.
Сціплая, маладая
Ісціна галадае...

* * *

Тое,
Чаго ўжо няма,
Страта шукае дарма.
У сподзева ў галаве
Вецер жыве...

* * *

Паўдзён
Заплеччу цень нясе
У змрок...

* * *

Памяць
Учапілася ў жыццё.
Каб не адпускала...

* * *

Абух
Не ад думак апух –
Ад цвердалобасці...

* * *

З сусвецця па нітцы –
Шыбельніку пятля...

***АКРАНАВАГОДНЯЕ***

**В**ітаю дзень, калі цябе сустрэў,
**А**днойчы адшукаў і назаўсёды.
**Л**агодай юнай гнеў цябе сагрэў,
**Я**кая павянчала сцежкі згоды.
**Н**е верыць лёс, што ўсё нарэшце дым.
**Ц**ень недаверу сочыць за гадамі.
**І**мгненне мроіць час зрабіць сваім.
**Н**іякавее перад халадамі
**А**пошні ў край даверу пілігрым...

* * *

Сябры гадоў маіх маладых.
Ані вас, ані тых гадоў.
Толькі сум
Дасюль не заціх
Спадзяванак – удоў...

* * *

Сама сябе гадуе трывога.
Голад недаядае.
У жыцця launch пераtomленага, сівога
Душа – маладая.

* * *

І не залежыць ні ад плошчы лоба,
Ні ад жывой вагі таго, хто піша.

Паэзія – сусветная хвароба.
Бездапаможныя і скальпель, і афіша...

## *АКРАЛІСТ*

**В**ек людскі пялегваюць турботы.
**А**крыляюць свет сузор’і кроз.
**Л**ьецца на ўспамін журба ляноты.
**Е**дзе на падводзе дрогкай лёс.
**Р**аніцой сцяжына выбягае
**У** далечыні сябе знайсці.
**Д**абрыня характар мудры мае –
**У** спакоі дрэмле ў забыцці.
**Б**оль нахабна патрабуе ўвагі.
**О**думу спяшаць няма куды.
**Ў**рэшце провід расчытае сагі.
**С**тоды скінуць прэч з плячэй гады.
**К**оміны маленства тыя цені,
**А**д якіх свяцее ўсё вакол.
**М**агія чакання і трымцення
**У** бажбе трымае небадол...

## *VIVAT!*

*Акразычэнне Сяргею Панізніку на 10 трайня 2012 г.*

**З**ялёная вясна баялася спазніцца.
**П**аганца валуна хрысціла бліскавіца.
**А**тожылак цягнуўся да святла.
**Ў**раселыя сябе шукалі гукі.
**Н**амер крылатых стрэл гукалі лукі.
**А**бачлівасць сцяжыну сноў вяла.
**Г**аіла чысты боль нябёс вясёлка.
**О**дахвале начы пярэчыць золак золка.
**Д**алічваў ветравей свае гады.
**Д**абегчы цень хацеў да той гары,
**З** якой пачатак браў ручай настрою.
**Е**ў з голаду агонь журбу сырою.
**М**еў профіль малады вятрак стары...

## *ЗБІРАЎ БЯССОННА...*

*Памяці Анатоля Белага*

Раскрадзены родны кут
Па свеце збіраў бяссонна,
Каб дні не жылі без сонца,
Знайшоўшы свой клопат
Тут.

Хапіла жаданых пакут
Для непаслушэнца кона.
Узнесеная ікона
Свянціць нябесны прысуд.

Рабіў усё,
Што было
Магчыма і немагчыма.
Са стомленымі вачыма
Пайшоў
Сустракаць святло...

## СВАБОДНЫЯ САМЫЯ...

*Аляксандру Мілінкевічу*

Свабода –
Зорная нарачонка.
Вякі –
Нясхібныя дзівакі
Дабіваюцца ейнай рукі
Для небасхілавага пярсцёнка.

Свабода
Смелы абсяг паважае.
Няшчадна знішчаючы
Краты й замкі.
Да мэты
Вучыць ісці напрасткі.
Баліць свабодзе
Бяда чужая.

Адпрэчваючы
Прыслужнікаў згоды,
Слугуе свабода
Крылатай радні.
Пад небам вернасці і чысціні
Свабодныя самыя
Вязні свабоды...

## ІМГНЕННЕ З РЫСІКАМ

З белай грудкай
Рыжы кот
З форткі звіс у надвячорак,
Як скупой газоўкі кнот
З панядзелка
У аўторак.

Дзе ні глянеш –
Відната.
І ўзгадаў начныя міты
Палымністага ката
Позірк немасцю прашыты...

* * *

Каб роспач вітаць,
Не знаходжу прычын:
Свой век дажываць
Пастухом аблачын...

* * *

Над мамінай хатаю,
Як вавёркі,
Зоркі хвастатыя.
Доле
Дыміцца задумліва
Снег гарачы.
Сон
Сябе ўспамінае сам
У наканаванай Вушачы,
Ці, можа, ўжо там...

* * *

Чысціня душэўная са святла.
Перад шчырасцю
Бездапаможная злосць.
Камень зацяты
Не хутка разбудзіш.
Дзякуй табе,
Што была.
Дзякуй за тое,
Што ёсць.
Дзякуй за тое,
Што доўга будзеш...

* * *

Таямніцу берага і дна,
Таямніцу кораня і кроны,
Пэўна, можа разгадаць адна
Тая,
Што трываліць свет зялёны...

* * *

І ў радасці, і ў журбе,
І ў роспачным забыцці
Лёгка выйсці з сябе,
Цяжка назад увайсці...

* * *

Каб абганялі далягляд
Сцяжыны думак маладыя,
Шукаць дапамагае клад
У мроях
Вершатэрапія...

## ЗАБЫТАЯ ХАТА

Прыслеплі вокны.
Сцялі сківіцы дзверы.
Апусціліся плечы страхі.
Рукі цаглін сашчапіў комін
І ўсё яшчэ
Успамінае салодкі дым...

## І НАОГУЛ...

Ноч смяшыў хітры нож.
Пень развучваў ноты.
Дождж бег басанож.
Гром купіў боты...

* * *

Чарнее срэбра.
Цьмее медзь.
Перамагае здраду змога.
Час, чалавеча, зразумець –
Ты толькі цень
Сябе самога...

* * *

Не можа ўсмешку ўтаіць заход.
Іржавее імжа сырая.
Як цяпельца халоднае,
Дагарае
На стале маім
Рыжы кот...

* * *

Над крысом зааблочна,
Над халоднай хадой
Бераг ранішні хоча
Думаць разам з вадой...

* * *

Глядзіць здзіўленне
Пазычанымі вачыма,
Само сабе зайздросцячы,
Магчыма...

* * *

Ад здрады, ад хлусні,
Ад сквапнасці ў дзяльбе
Нялёгка дзень пры дні
Хаваць сябе ў сабе...

* * *

Спрабуе дагрукацца
Да ўчарашняе радні
Грукат –
Пасынак цішыні...

* * *

Ростань смагла прыкута да болю.
Роспач сноў
Прачынаецца ў страце.
Сустракаемся мы з табою,
Быццам стрэлкі на цыферблаце...

* * *

Быццам хто яго
З рыжага каменя высек
І паставіў на стол да мяне.
Бачыць рыжыя сны
Ветрапрофільны Рысік
І не верыць няўтульнай мане.

Хітралапы, антэнавусаты,
Ён у злоўленым свеце жыве.

Восень сыпле жывыя дукаты
Дагараць на гарачай траве.

Летуценіцца да небакраю
Незямнога даткнення тварба.
На жаданне варожыць журба.
Золата стомлена дагарае...

## *ДАПАМАГАЎ КРАСЕ...*

*Памяці Генадзя Асташонка*

Дапамагаў красе сябе знайсці,
На гэты свет
Зірнуць спрадвечнай сутнасці.
І сталь, і срэбра ў даўнім забыцці
Чакалі,
Каб у мастака прысуд знайсці.

І адляцела светлая душа.
І пачынаў у слёз вучыцца
Град ісці.
Гаркоту смутак п’е
З таго каўша,
Які ён выдыхнуў
Для смутнай радасці...

## *ВІЛЬНЮС*

*5. Х. 2003 г.*

На гмах аблочны
Свой замах
Час цесны не пакінуў.
Плыве ў каменных берагах
Здаўна
Рака ўспамінаў...

* * *

У кожнай справе
Варта старацца.
Гультайства –
Таксама нялёгкая праца...

## *АКРАЧАЛОМ ПРАЗ АКІЯН*

**Р**адзіма там, дзе бачыць сны душа,
**А**днойчы зразумеўшы цягу ценю
**Д**а вогнішча з прычыннага сушша.
**З**айздросціць асцярожны змрок трымценню.
**І** запытаюцца ў вятроў гады,
**К**уды спяшаюць хвалі на размін.
**У** крыўды днее позірк малады.
**Ч**акаць сябе не топіцца ўспамін,
**А**тулены бяссонным спачуванем.
**Л**ятуць лісты, што выдыхнуў нахлын
**О**даўрачыстым раннім віншаваннем.
**М**агчымасць мае пасівець палын...

## *ВУШАЦКІ АБРАЗОК*

Шчырэе сонца дзень пры дні.
Свой цень схавалі таямніцы.
Чуваць сасмяглай цішыні
Вільготны голас навальніцы.

Сарваўшыся з высачыні,
Гром пачынае заікацца.
Не дужа пніся, адпачні, –
Худой спякоце раіць праца.

Вісяць на плоце гладышы,
Як чарапы вятроў пустыя.
На распрыгоненай шашы
Рух у слядах гарачых стыне...

## *АКРАГУКАННЕ*

**Г**арыцца ціха вогнішчу былога.
**Е**сць крыўда ўпартасць, як іржа ланцуг.
**Н**е хочацца слязе ўзнікаць з нічога.
**А**д мітусні адпачывае рух.
**Д**а золку абыйшло зямлю здзіўленне.
**З**лічыць шляхі вятроў задумаў змрок.
**Ю**рыць спакусе ашукаць цярпенне.
**М**яняецца кіямі з ценем крок.
**А**тожылкам пашану ўзносяць кроны.
**Ц**ячэ і доле, і ў нябёсах час.
**У** даўжніках у сонца свет зялёны.
**Р**асце ў захмар'і ліўневы запас.
**У** радасці бяссонныя імёны...

* * *

Дождж лясны
Стараецца ў нашым баку:
А раптам
Радні нарасце?..

## ДАКЛАДНЫ АДКАЗ

А як лямант людскога вар'яцтва заціх,
Я запытаўся ў Някляева:
– Чаму ты геній?
Адказаў:
– Таму што зайздрасці меней
Ува мне, чым ва ўсіх...

## ТАК!

У галаве
Ў Бураўкіна Генадзя
Плямёны мужных думак у засадзе.
Не паслабляйце ўвагу,
Чытачы, –
У вояў гартаваныя мячы!

* * *

*штодня бліжэй да вясны...*
Алесь Камоцкі

Штодня да вясны бліжэй.
Святло пачынае акупацыю.
І ў лужынцы верабей
Паруніцца пакупацца.

Штодня бліжэй да вясны.
Туман з барадой пасівее.
Чаўнарыць у два вяслы
Закруціцца ветравею.

Бліжэй да вясны штодня.
Цяплеюць хвалі на румах.
Смялей расце вышыня
У ценях жывых
І ў задумах...

### КАБ...

Некалі, каб назаўсёды...
Сёлета, каб нікуды...
Рэдкі хмыз, каб калоды...
Сонны бераг, каб вуды...

### * * *

Народзіны.
Народзе, на
Яшчэ адну
Труну.
Яшчэ аднога
Нікога...

Госпадзе,
Малю
Тваю стому –
Не аддавай назусім
Ні вёсен, ні зім
Нікому!..

*3 чэрвеня 2011 г.*

### ЯК ЖЫВЫ...

Вырас мярэц
З пугурка цыбатага.
Закінуў анямелую галаву
Прывітаць неба.
Рукі развёў
Абхапіць як болей жыцця,
У паветры разлітага.

Ды знянацку
Некуды сплыла галава
Абедзве рукі
Струнка адцяла маланка.

І дасюль
Панылы крыж
Усё чакае,
Што вернецца галава
На войструю шыю,
Дзве рукі адрастуць
Нахабна і сарамяжліва.

Хоць зноў
У сцямнелы холад
Не надта хочацца...



## Алесь Усеня



...Калі народ патрабуе Месію,
ён з'явіцца, павінен з'явіцца.
І мы ў гэтым яму дапаможам...

# Грэх

***Раман***

### Ад аўтара

*У маёй роднай вёсцы сталі часта паміраць людзі. Што ні тыдзень, то пахаванне. Я звярнуўся да старадарожскага настаяцеля Свята-Мікалаеўскай царквы айца Ігара, каб ён патлумачыў, чаму так адбываецца. Святар з'ездзіў у Жыровіцкі манастыр, і там яму параілі: у вёсцы трэба пабудаваць хаця б капліцу.*

*"Ну што капліца? – падумаў я. — Калі ўжо будаваць, дык адразу царкву". Тым болей, што грошай у мяне тады ставала.*

*Пабудаваную царкву я хацеў назваць імем святой Надзеі, бо так звалі маю маці. Айцец Ігар сказаў, што ёсць святыя Вера, Надзея, Любоў і маці іх Сафія. Іх немагчыма аддзяліць адну ад адной. Царква была названая ў гонар гэтых святых пакутніц.*

*І тут я злавіў сябе на думцы, што пра Веру, Надзею, Любоў і маці іх Сафію нічога не ведаю. Закарцела зазірнуць у гісторыю і напісаць пра іх хоць невялікае апавяданне — каб і землякі ведалі, якім святым яны будуць маліцца. Пачаў збіраць матэрыял і паступова зразумеў, што абысціся адным толькі апавяданнем не ўдасца.*

*Юныя пакутніцы былі закатаваныя і забітыя па загадзе рымскага імператара Адрыяна (кіраваў імперыяй з 117 па 138 г. н. э.) напрыканцы ягонага жыцця. Натуральна, мне хацелася дакапацца, чаму ён пайшоў на такое злачынства. І чым болей я вывучаў біяграфію Адрыяна, тым болей узнікала пытанняў. Справа ў тым, што ён быў ледзь не самым справядлівым, самым лаяльным да іншаверцаў, самым міралюбным за ўвесь час існавання Рымскай імперыі. І раптам у апошнія гады перад смерцю Адрыян пачынае жорсткі перасled усіх, хто не прызнае рымскіх багоў. Асаблівая нянавісць — да хрысціянаў. Чаму?*

*У 132-135 гг. н. э. рымскую правінцыю Іудзея ахапіла адно з самых магутных паўстанняў, якое скалыхнула ўсю імперыю, паставіла пад пагрозу яе існаванне. Паўстанне было жорстка задушана. Менавіта пасля тых падзей яўрэяў пазбавілі надзеі на аднаўленне храма Саламона, яны страцілі сваю тэрыторыю і змушаны былі рассяліцца па ўсёй зямлі. Імператар Адрыян узненавідзеў і яўрэяў, і іхнюю веру. Ён быў вельмі адукаваным, вельмі дасведчаным чалавекам і, безумоўна, ведаў, што паміж іудзеямі і хрысціянамі вялікая розніца. Аднак жа ён ведаў і тое, што хрысціянства вырасла з іудаізму (гісторыкі так і называюць самую раннюю плынь — іудзеяхрысціянства), адтуль ягоныя вытокі, нават Стары Запавет і для тых, і для другіх — адзін і той жа. Таму Адрыян узненавідзеў не толькі іудаізм, але і ягоны парастак — хрысціянства. Бо хто ведае, што вырасце на гэтым дрэве...*

*Вось чаму, каб растлумачыць жорсткасць Адрыяна да хрысціян, да Веры, Надзеі, Любові і маці іх Сафіі, мне давялося паглыбіцца ў гісторыю іудзейскага паўстання. Вось чаму менавіта яму прысвечаная першая кніга рамана. Вызначальнае і тое, што спачатку ворагам хрысціянства была не толькі Рымская імперыя. Яшчэ больш бязлітасна ставіліся да хрысціян супляменнікі-іудзеі: забівалі, гвалцілі, праклiналі. Яны бачылі ў хрысціянах не толькі ворагаў, але і (што галоўнае) адшчапенцаў, здраднікаў, якія адракліся ад самага святога — іхняга Бога.*

*Наколькі магчыма, я імкнуўся прытрымлівацца гістарычных фактаў і падзей. Аднак жа ў мастацкай прозе нельга абысціся без пэўнай долі фантазіі, тым болей, што пра тыя часіны звестак засталося не так і шмат. Таму, папярэджваючы заўвагі ці нават абурэнне найбольш "уедлівых" гісторыкаў, прашу ўспрымаць гэты твор толькі як маю асабістую версію.*

## Кніга першая

## АКІБА

*Я вылучу ім Прарока з асяроддзя братоў іхніх... і ўкладу словы Мае*
*ў вусны Яго, і Ён будзе гаварыць ім усё, што Я загадаю Яму;*
*а хто не паслухае слоў Маіх, якія Прарок той будзе гаварыць*
*ад Майго імя, з таго Я спаганю; але прарока, які асмеліцца гаварыць*
*ад імя Майго тое, чаго Я не загадваў яму гаварыць,*
*і які будзе гаварыць ад імя багоў іншых, такога прарока аддайце смерці.*

Другазаконне 18:18-20.

### Пасланец ад Бога

Змрочны пакой роўненька разразала палоска святла, што прабівалася праз вузенькае прадаўгаватае вакенца ў мураванай і злёгку парэпанай сцяне. Яна, гэтая палоска, выхоплівала з цемры краёчак стала, на якім сіратліва туліліся адзін да аднаго гліняныя збан і кубак, а потым перакідвалася на драўляныя дзверы. Апроч насцілу-ложка, што, калі доўга ўзірацца, можна

было намацаць вачыма ў кутку, ніякай іншай надобы ў памяшканні, здаецца, не было. І немаведама, ці было то жытло заскарузлага пустэльніка, ці аскетычны каземат небяспечнага арыштанта.

Па келлі (а гэта, мусіць, усё ж была келля) бязгучна, нібы цень, соўгалася прыгорбленая чалавечая постаць. Ейныя рухі былі такія запаволеныя і зграбныя, што, здавалася, постаць не шпацыруе, а плавае ад сцяны да сцяны. Палоска святла, калі яе перасякала постаць, адбівала на дзверы абрысы доўгага, да падлогі, балахона і галавы старога чалавека са звіслымі на плечы космамі і барадой ледзь не да жывата.

Якісь дакучлівы клопат ці нэндзу, шпацыруючы, выношваў гэты стары і нешта няўцямна-незадаволена буркнуў, калі ў ягоныя развагі нахабна ўварваўся лёгкі стук у дзверы. Нават не стук — па той бок нехта ціха шкрабаў, каб няўзнак не спудзіць важлівыя думкі гаспадара.

— Чаго табе, Пінхас? — выхрыпеў з грудзей стары, тым самым дазволіўшы ўвайсці ў келлю клышаногаму дзецюку з дзідаю ў правай руцэ — па ўсім бачна, ахоўніку.

— Р***а***бі, тут да цябе рвецца адзін незнаёмец...

Гаспадар перабіў ахоўніка:

— Я прасіў нікога да мяне не пускаць. Ці ты, Пінхас, не зразумеў?

— Прабач, рабі, але гэты чалавек... ну... нейкі не такі... Плявузгае абышто. Кажа, што ён — вястун ад Бога...

— Значыць, Месія? — стары дазволіў сабе скрывіць вусны ва ўсмешцы. — Шчэ адзін атожылак роду Давыдава? Каторы па ліку? Гані яго, Пінхас, як далей.

— Так, прайдзісвет, — жвава, зрэшты, як і зазвычай, пагадзіўся ахоўнік. — Праўда, здаровы, як бугай. Мы такі добра ўпрэлі, яго лагодзячы.

— Вы пыталіся, што яму трэба?

— Ён хоча бачыць цябе, рабі. Хоча, каб ты яго выслухаў.

Стары абыякава махнуў рукою:

— Прэч яго.

З напругай павярнуўся — ажно скрыгатнулі косці ў суставах — і паплыў да свайго ложка.

— А ўрэшце, — на паўдарозе стары раптам схамянуўся, нібы штосьці прыгадаў, — можна і паслухаць. Вядзі.

Ахоўнік высунуў галаву за дзверы і зычна галёкнуў:

— Тамір, давай яго сюды!

Неўзабаве чацвёра ахоўнікаў уштурхнулі-ўвалаклі ў келлю мажное цела і знарок паставілі яго акурат на тую самую палоску святла.

— Вось ён, рабі.

Незнаёмец быў гонкі і гожы. З-пад зношанай і месцамі абдзёрта-залатанай апраткі вытыркаліся мускулістыя бугры. Аднак жа найболей адметным быў ягоны твар. А лепей сказаць, барвовы шнар, што распаласаваў гэты твар ад левае скроні — па ўсёй шчацэ — ледзь не да шыі. Усякі дасведчы ваяр доўга не гадаў бы над тым, што гэтакі след мог пакінуць толькі меч. Са шнара ці не сачыліся кропелькі крыві.

На руках незнаёмца ўсё яшчэ віселі ахоўнікі — крый Божа, наробіць шкоды рабі, — аднак жа бачылася, што калі дужа захоча ён стрэсці з сябе гэтае ашмёцце, паляцяць блазнюкі на падлогу пераспелымі жалудамі.

— Адпусціце яго, — пачуўся з цемры ціхі і адначасна ўладарны голас старога.

Ахоўнікі адступілі назад, гатовыя ў любы момант ганчакамі накінуцца

і загрызці сваю ахвяру. Прымружанымі глыбокімі вачыма, што ўжо трохі прызвычаіліся да змроку, незнаёмец свідраваў цемрадзь. Нарэшце ягоны позірк спатыкнуўся аб ледзь прыкметную постаць.

— Рабі Акіба, гэта ты? — голас незнаёмца быў падобны на гул перуна.

— Хто ты такі і чаму шукаеш мяне?

— Я — Сімон Бар Козіба[1].

— Сын Козібы? Дзіўна... Слухаю цябе.

Сімон нерашуча пераступіў з нагі на нагу — на глінянай падлозе засталіся крывавыя адбіткі пальцаў: відаць, шлях ягоны быў няблізкі і камяністы — і пачаў распавядаць:

— Я прыйшоў сюды як пасланец ад Бога. І не думайце, што я вар'ят ці самазванец. Калі б я папраўдзе быў гэтакім, то не шукаў бы сустрэчы з табою, рабі. Самазванцы, наадварот, баяцца цябе, як агню, бо ведаюць: аднаго твайго позірку досыць, каб назнайніцу вывернуць іхняе хлуслівае нутро. А я — вось, перад табою. І гатовы пайсці на любы іспыт. Бог паслаў мяне для збавення роднай Іудзеі ад рымскага прыгнёту, я прыйшоў даць волю ўсім насельнікам Палесціны...

— Годзе! — перабіў Акіба. — Іудзеі патрэбны не Месіі. Іудзеі патрэбны ваяры. Рымляне не разумеюць слоў. Да іх даходзіць толькі адна мова — мова зброі. Зрэшты, гэта напісана і на тваім твары... Ці, можа, такі знак ты адхапіў у вулічным духане?

На ілбе Сімона выступілі кропелькі поту, а пісаг ад напругі зрабіўся цёмна-бэзавым.

— Рабі, калі б такое сказаў хтосьці іншы, я перагрыз бы яму глотку. Не крыўдзі мяне, рабі. Рымлянін, які нанёс гэты ўдар, пэўна, не лічыць мяне за жывога... Калі да нашага мястэчка дакацілася вестка, што Іудзея зноў палыхнула паўстаннем, я за лічаныя дні сабраў тры сотні ваяроў. У нас было мала зброі, дый тую многія ці не ўпершыню трымалі ў руках. Аднак жа неяк ноччу мы спадобіліся напасці на рымскі гарнізон. Мы разлічвалі неспадзеўкі перарэзаць іх ледзь не ў ложках. Разлічвалі... А не прадбачылі галоўнага: вывучкі рымскіх ваяроў. Іх было меней, значна меней, чым нас. І ўсё ж яны перамаглі. Легіянеры, што стаялі на варце, паспелі даць знак астатнім. І праз нейкія імгненні супраць нас ашчацінілася дзідамі жывая сцяна рымлян. Я ні ў чым не магу папракнуць сваіх сяброў, яны змагаліся, як маглі. Яны засланяліся далонямі ад мячоў, бо не было ніводнага шчыта, яны кідалі свае целы на дзіды, каб пракласці шлях іншым. Сутычка была кароткаю. Нам удалося прыдушыць ці прыкалоць з дзясятак рымлян, аднак ніводзін іудзей не выйшаў жывым з таго пабоішча. І мне прыкра, што я ацалеў. Але, відаць, на ўсё воля Божая... Я ачуняў, калі схлынула цемра. З боку мястэчка даляталі стогны і крыкі: рымляне пакінулі гарнізон і ўчынілі расправу над жыхарамі за нашую вылазку. Я выбраўся з груды целаў маіх забітых сяброў і ўжо дакладна ведаў, куды трымаць кірунак... Сюды, у Бетар, дзе мудры рабі Акіба збірае з усяе Палесціны, з усяе зямлі незлічонае іудзейскае войска, каб скінуць, нарэшце, рымскае ярмо з шыі майго народа. Ты спытаешся, рабі, чаму я лічу сябе прыхадцам ад Бога ці, як ты кажаш, Месіяй? Адкажу. Калі, зранены і ледзь не беспрытомны, абкладзены целамі, я абыякава пазіраў у шэрае ранішняе неба, раптам нібы маланка шуганула наўсцяж, раздзіраючы смугу, і з гэтага разрыву на мяне хлынула незвычайнае, велічнае святло-ззянне. І адразу я пачуў

[1] У літаральным перакладзе — "сын хлусні", "сын ашуканца".

моцны, уладарны голас, здавалася, ён запаўняў усю прастору, і немаведама было, ці далятае ён адтуль, з неба, ці вырываецца з мяне самога... “Сімон, — урачыста сказаў гэты голас, — ты, нашчадак Давыдаў, стаў Маім абраннікам, і табе наканавана збавіць сыноў Ізраілевых ад прыгнёту, абвясціць і заснаваць на зямлі царства міру. Зараз ты пойдзеш у Бетар, дзе збіраецца войска іудзейскае, і ўзначаліш яго, і павядзеш свой народ да перамогі...” Чуйдух неба зноў заслалася шэранню, аднекуль усчаўся гулкі подых ветру, нібы побач пранеслася конніца, а я колькі хвілін усё яшчэ ляжаў нерухома і ніяк не мог усвядоміць, што са мною размаўляў Ён... Паступова цела маё налівалася незразумелаю сілаю, і неўзабаве я конча акрыяў. Я ні ў каго не пытаўся ні шляху, ні сцежкі. Быццам нечая рука прывяла мяне сюды. І вось я перад табою, рабі Акіба...

Стары наблізіўся да Сімона, стаў насупраць — твар у твар — і па ягоных ручайках-маршчынах хваляю прабегла ледзь прыкметная іранічная ўсмешка.

— Кажаш, голас з неба? А ці не трызніў ты, ці не прымроілася ўсё табе, параненаму і амаль беспрытомнаму?

— Я быў пры сваім розуме, рабі.

— І чаму ж гэта Гасподзь абраў менавіта цябе?

— Не ведаю.

— Дык ты папраўдзе выхадзец з роду Давыдава, сын Козібы?..

— Не ведаю і гэтага.

— Цікава, — Акіба адышоў да стала, абапёрся даланёю аб ягоны краёчак. — А ты, Сімон, сапраўды прайдзісвет. Нямала такіх пабачыў я на сваім вяку. Хочаш славы? Хочаш павагі і пашаны? Але замест гэтага ўсяго можаш атрымаць дзіду пад рабро...

— Не зневажай мяне, рабі! — з адчаем і крыўдаю мовіў Сімон. — Я не маню! Чым я магу даказаць гэта? Чым? — позірк ягоны пачаў мітусіцца па келлі, нібы сапраўды шукаў нейкія доказы, і раптам застыў на цесаку, што тырчаў за поясам ахоўніка Пінхаса. Ніхто не паспеў і здрыгануцца, як цясак гэты апынуўся ў Сімонавай руцэ. Ахоўнікі здолелі толькі жахнуцца — не за сябе, за Акібу, — а сам Акіба нават брывом не варухнуў, не спускаючы з твару тую ж усмешку і выказваючы пагарду да небяспекі.

Аднак Сімон зрабіў зусім не тое, што ад яго чакалі. Ён не кінуўся ні на Акібу, ні на ахоўнікаў. Ён узмахнуў цесаком і секануў па мезенцы левае рукі — адцятак пакаціўся акурат пад ногі Акібы.

— Я не маню, рабі! Я не ашуканец! — у адчаі Сімон узбіўся ледзь не на крык.

Са знявечанай рукі на падлогу вішнямі ападалі буйныя кроплі крыві, а Сімон па-ранейшаму ўчэпіста сціскаў цясак і ліхаманкава зыркаў вакол, нібы шукаючы, што яшчэ на сабе адцяпаць, каб давесці сваю праўду.

Акібу, падобна, гэтае дзейства аніяк не праняло, быццам самаэкзекуцыю яму даводзілася назіраць штодня. Ён гідліва пхнуў нагою адцятак-мезенец і абыякава мовіў:

— Гэта — не доказ. Пазбаўляцца кавалкаў цела дазвольна хіба што ў баях з рымлянамі. Па ўсім бачна, у цябе гэта атрымалася няблага, — Акіба зноў напусціў на твар кплівасці. — А ўвогуле ты можаш стаць вартым ваяром. Нам такія патрэбны. Пінхас, адвядзі яго ў які-небудзь атрад. І гэтае... дайце яму якую анучу, каб перавязаць руку.

— Слухаю, рабі!

Пінхас выкалупіў цясак з рукі разгубленага Сімона і падштурхнуў яго ў плячо:

— Пайшлі.

Сімон паслухмяна паклыпаў да дзвярэй. На парозе азірнуўся і ўжо без крыўды, ціха і цвёрда мовіў:

— Я не маню, рабі!

## Легат-прапрэтар

Гэтага чалавека баялася і ненавідзела ўся Іудзея. Аднае толькі згадкі пра яго было досыць, каб у адных падкасіліся ногі, а другія скрыгатнулі зубамі і сціснулі кулакі. Гэтым чалавекам быў легат-прапрэтар правінцыі Іудзея Ціней Руф. Зрэшты, зазвычай яго называлі інакш — Tyrannus Rufus. Інакш кажучы, тыран.

Нейкім чынам яму ўдалося пераканаць імператара Адрыяна, што трэба прыняць эдыкт аб забароне абразання. Каб сказаць, што Адрыян на дух не пераносіў вернікаў і багоў, якія супярэчылі рымскім, дык не. З вышыні свайго становішча ён пазіраў на іх паблажліва-іранічна, як добры і мудры бацька на мурзатых неразумных дзяцей, бо сам лічыўся галоўным богам на зямлі. Пасля аднаго са сваіх падарожжаў Адрыян пісаў свайму зяцю Сервіяну: “Егіпет, які ты мне так хваліў, мой мілы Сервіян, я знайшоў легкадумным, які вісіць на валаску, паддаецца кожнаму павеву моды. Тут паклоннікі Серапіса ў той жа час хрысціяне; а тыя, што называюць сябе епіскапамі Хрыста, пакланяюцца Серапісу. Няма ніводнага кіраўніка сінагогі, ніводнага самараніна, ніводнага хрысціянскага святара, які б не сумяшчаў гэтых пасад з пасадамі астролага, варажбіта, шарлатана. Сам патрыярх, калі ён з’яўляецца ў Егіпце, аднымі прымушаецца пакланіцца Серапісу, а другімі — пакланіцца Хрысту. Адроддзе бунтарскае, карыслівае, дзёрзкае!.. Іхні адзіны бог — грошы. Вось баство, якому пакланяюцца і хрысціяне, і яўрэі, і featureзнага роду людзі”.

А калі ў некаторых правінцыях хрысціян пачалі караць толькі за тое, што яны — хрысціяне (даносчык атрымліваў выдзел пакаранага), Адрыян адразу ж “абсек рукі” задужа імпэтным праконсулам. Ментарскі ліст, напрыклад, атрымаў праконсул Азіі: “Адрыян — Мініцыю Фундану. Я атрымаў пісьмо, якое мне напісаў Ліцыній Граніян, чалавек вядомы, якога ты замяніў. Мне здаецца, што гэтая справа не можа быць пакінутая без разгляду, каб людзі, увогуле мірныя, не падвяргаліся непрыемнасцям і каб паклёпнікам не была дадзеная поўная свабода. Такім чынам, калі ў тваёй правінцыі ёсць людзі, якія могуць, па іх перакананні, прад’явіць супраць хрысціян салідныя абвінавачанні і могуць даказаць гэтыя абвінавачанні перад судом, дык я не забараняю ім ісці законным шляхам. Але я не дазваляю ім абмяжоўвацца прашэннямі і крыкамі, што ўзбуджаюць смуту. У такіх выпадках лепш за ўсё табе самому знаёміцца са скаргай. Такім чынам, калі хто выступіць абвінаваўцам і дакажа, што хрысціяне парушаюць законы, прызначай нават пакутлівую кару, зыходзячы з важнасці ўчынка. Але гэтак жа, клянуся Геркулесам, калі хто па-паклёпніцку данясе на аднаго з іх, пакарай даносчыка караю яшчэ болей строгаю, адпаведнаю ягонаму злу”.

І вось такога справядлівага, мудрага бацьку-бога-імператара Цінею Руфу ўдалося “ўламаць”, каб ён-такі падпісаў “абразальны” эдыкт[1]. Што

[1] Наступнік Адрыяна, Антанін, каб улагодзіць яўрэяў, адмяніў гэты эдыкт.

яшчэ магло болей абразіць і абурыць прававерных іудзеяў? Некалі яны заключылі са сваім богам “дамову”, запавет: ім, іудзеям, Яхве перадасць уладу над усёй Палесцінай, а яны ў аддзяку не будуць шанаваць іншых, апрача Яхве, багоў і спаўняць толькі ягоныя жадобы. А як “подпіс” пад гэтаю дамоваю, як знешні яе сімвал — абразанне.

У рымлян было шмат багоў і багінь. Усе яны былі вясёлыя, гуллівыя, дабрадушныя, не прасыхаючы, паглыналі нектар-амброзію, з мутнымі вачыма гойсалі на калясніцах ад акаёму да акаёму, кралі адно ў аднаго авечак і зрэдчас, кінуўшыся ў блуд, спускаліся на зямлю, каб састругаць байструка якой-небудзь кабеціне, што трапілася пад руку. Найболей распусным быў іхні завадатар, Юпітэр. Карацей кажучы, зразумелыя багі, свойскія.

А ў іудзеяў, далдоніў імператару Ціней Руф, бог адзін, ды яшчэ нейкі няўцямны, помслівы, злы. Не варта шанаваць такога бога. Абразанне было прыроўнена да кастрацыі і забаронена пад страхам смерці.

Вядома ж, забарона абразання не была галоўнаю прычынаю смуты сярод яўрэяў, хоць яны і ўспрынялі эдыкт як гвалт, як пагрозу для існавання нацыі. Ціней Руф добра разумеў, што яна, прычына, знаходзіцца тут, у Ерусаліме, дзе на месцах яўрэйскіх святыняў узводзяцца рымскія помнікі і забудовы...

...Легат-прапрэтар за дзень стаміўся ад важлівых і дробязных спраў, якіх для яго ў гэтым ненавісным горадзе заўсёды было аж занадта — Ерусалім, лічы, нанова адбудоўваўся. Цяжкаю хадою немаладога чалавека ён пратупаў-праслізгаў па гладкай падлозе, выкладзенай парфірам — зялёным мармурам, і, як сноп, плюхнуўся ў шырокае крэсла, абабітае касматаю поўсцю дзікага буйвала. Гэта было нават не крэсла, а амаль што ложак, абкладзены з усіх бакоў шаўковымі падушкамі, якія прыемна казыталі твар, рукі і пяшчотна схілялі, заклікалі да сну. Ціней Руф і хацеў менавіта гэтага — падрамаць гадзіну-другую, скінуць стому, бо ўвечары, на свежую галаву, меў намер напісаць адказ Адрыяну. Імператарскі табілярый[1] тыдзень таму даставіў Руфу пасланне, якое прапрэтара не дужа ўзрадавала, нават абурыла. Ён, во, і цяпер, як і ўсе гэтыя дні і ночы, не можа супакоіцца, цалкам аддацца ў рукі Марфею.

Руф прыкрыў вейкі, усё яшчэ маючы спадзеў на сон, і колькі хвілінаў паляжаў нерухома. Ён паспрабаваў падумаць пра што-небудзь прыемнае, але памяць чамусьці не хацела выкідваць на паверхню згадкі пра радасныя пачуцці ці падзеі, мажліва, таму, што іх апошнім часам не было ўвогуле.

Прапрэтар прыўзняўся, абапёрся на локаць і працягнуў правую руку да невялічкага, прымацаванага да падлогі століка, які адною ножкаю месціўся побач з крэслам і на якім сіратліва ляжаў імператарскі скрутак. Разгарнуў яго і ў каторы раз стаў перачытваць роўненькія радкі паслання.

Найперш Адрыян цікавіўся, як ідзе адбудова Ерусаліма. Імператар наказваў прыспешыць працу, бо ён мяркуе бліжэйшым часам наведаць Палесціну, на ўласныя вочы пабачыць новы храм.

Асноўную ж частку паслання складалі павучанні, як трэба ставіцца да мясцовага люду. Адрыян, да якога дайшлі чуткі, што ў Іудзеі зноў пачалі ўзнікаць лёгкія хвалі смуты, раіў не ўціхамірваць народ агнём і мячом, а шукаць з ім паразуменне, магчыма, у чым-кольвеч яму саступіць. Новая вялікая вайна, даводзіў Адрыян, імперыі не патрэбная.

[1] Пісьманосец.

А яшчэ ён чамусьці цікавіўся, як паводзяць сябе ў Ерусаліме хрысціяне. Вялікай розніцы паміж іудзеямі і імі няма, пісаў Адрыян, але ж цярпімасць хрысціян да ўлады, да пакоры можна толькі ўхваляць.

Імператар патрабаваў прысլаць справаздачу як мага хутчэй, неадкладна, бо ў бліжэйшы час ён мяркуе падацца ў Грэцыю, у ягоныя любімыя Афіны, і не хоча, каб у падарожжы думкі абцяжарваліся клопатам пра далёкую і вельмі ўжо праблемную правінцыю.

Наконт Ерусаліма Руфу было што напісаць імператару, нават пахваліцца. Будаўніцтва храма не супынялася ні на хвіліну, дый сам горад адраджаўся на вачах. Так што Адрыяну, калі ён сюды наведаецца, будзе чым пацешыць душу — у гэтым сумневу нямашака. Дый з хрысціянамі ніякіх супярэчнасцяў не ўзнікае. Жывуць сабе адзіным кагалам на ўскраіне горада, не абураюцца, не бунтуюць, адно што збіраюцца часам на агульныя сходкі ды моляцца свайму незразумеламу богу. У тых сходках шкоды для імперыі аніякай, Руф гэта дакладна ведае, бо ёсць у яго ў той грамадзе свае інфарматары-шпегі. Дый большасцю гэтыя хрысціяне — адна галыцьба. Калі б і закарцела ім узбунтавацца, дык за што ж набыць зброю ці амуніцыю?

А вось што тычыцца іудзеяў... О, як неўзлюбіў, як узненавідзеў Ціней Руф гэтае ганарыстае ваяўнічае племя! Зрэшты, як і гэтую чужую для яго зямлю, засушлівую і неўрадлівую, як і аскетычна-камяністыя абшары, толькі дзе-нідзе аздобленыя кволаю зелянінаю, як і пякельна-бязлітасную спёку, ад якой немагчыма ўратавацца. Нянавісць да гэтых людзей і мясцін вырасла ў душы Цінея Руфа яшчэ тады, калі Адрыян прызначыў яго, былога прэтара[1], легатам-прапрэтарам, загадаў перабірацца з бесклапотнага, гаманлівага, вірлівага Рыма ў невядомы, загадкавы і, як даходзілі чуткі, неспакойны, небяспечны Ерусалім. Руф неўзлюбіў гэты горад, нават яго не пабачыўшы, бо ён адбіраў у прэтара звыклае і разгульнае жыццё, напоўненае ледзь не штоночнымі пірамі ў асяродку самых знакамітых сенатараў і крывава-жудасна-салодкімі відовішчамі гладыятарскіх бойняў. Праўда, некаторыя з паплечнікаў Руфа, консулаў і прэтараў, успрымалі ад імператара як вялікую ласку, калі ім даручалася кіраваць правінцыяй. Што ні кажы, а ў рукі давалася рэальная, сапраўдная ўлада, хай сабе і на асобнай тэрыторыі. Таму і нарадзілася сярод патрыцыяў выслоўе: “Лепей быць першым у правінцыі, чым другім у Рыме”.

У рэшце рэшт, і Руф прытрымліваўся гэткае ж думкі, але адна справа кіраваць якой-небудзь квітнеючай Сіцыліяй, а другая — гібець у далёкай пустэчы, утаймоўваць дзікія плямёны. Адмовіцца ад прызначэння было немагчыма — непаслушэнства імператару каралася смерцю. Руф разлічваў толькі на тое, што праз год-другі, як і заўвычай, яму на змену ў Іудзею прышлюць новага легата-прапрэтара, а сам ён, атрымаўшы ад імператара падзяку, вернецца ў любімы Рым, дзе і правядзе бестурботна астачу жыцця. Аднак жа атрымалася зусім не так, як думалася. Мінуў ужо не адзін год, а Адрыян не адклікае Руфа з гэтага пекла. Мусіць жа, не надта шмат ахвочых сюды патрапіць. З-за гэтага душа легата-прапрэтара кіпела ад злосці і на ні ў чым не вінаватую Іудзею з ейнымі насельнікамі, і нават на самога імператара...

З першых дзён свайго кіравання Іудзеяй Руф зразумеў: спакойнага

[1] Прэтар — вышэйшы кіраўнік суда ў Рыме, ім мог быць абраны як патрыцый, так і плебей.

жыцця не будзе. Яшчэ не адгулі адгалоскі чарговага паўстання, жорстка задушанага, яшчэ яўрэйскія маці аплаквалі сваіх забітых сыноў, а ўжо другая, ацалелая палова іудзеяў выношвала планы новае смуты. У сваіх пасланнях Руф спрабаваў давесці імператару, што з гэтым бунтарскім племем валаводзіцца нельга, яго трэба альбо знішчыць зусім, альбо рассяліць па іншых правінцыях, прадаўшы ў рабства. Аднак на ягоныя пісьмовыя прапановы Адрыян не зважаў, спасылаўся на тое, што іудзеі ўжо напоўніцу напіліся ўласнай крыві, каб думаць пра новыя бунты.

Два гады таму ў прапрэтара з'явілася мажлівасць не толькі выкласці свае трывогі на папірусе, але і данесці іх да вушэй імператара пры сустрэчы. Адрыян тады падарожнічаў па ўсходніх правінцыях, прычым світу меў невялікую, і ў ім ніхто не мог разгледзець валадара самай магутнай імперыі на зямлі. З Егіпта ў Ерусалім прыбыў табілярый, які прынёс вестку, што цяпер імператар знаходзіцца ў Александрыі і бліжэйшым часам збіраецца наведаць Палесціну, найперш Іудзею. А з-за таго, што шлях ад Александрыі да Ерусаліма бяспечным назваць нельга, тым болей для адзінокага падарожніка, Адрыян загадваў Руфу паслаць у егіпецкі горад, дзе ён з асалодаю бавіць час, цэнтурыю, шэсцьдзесят легіянераў, для аховы і суправаджэння.

Руф вырашыў сам выбрацца з цэнтурыяй у Александрыю. Адно што хацеў засведчыць сваю павагу да імператара, а другое — меркаваў, што на зваротным шляху ў яго будзе ўдосталь часу, каб пагутарыць з Адрыянам і ў чым-кольвеч яго пераканаць.

Так сталася, што да ўскраіны Александрыі цэнтурыя дабралася глыбокаю ноччу. Адразу ісці на прыём да імператара не выпадала, да таго ж і сам Руф, і легіянеры надта здарожыліся. Патрабаваўся нейкі час на адпачынак, таму прапрэтар загадаў рухацца да палаца Апаладора — багатага александрыйскага яўрэя. З ім Руф ведаўся даўно, ледзь не з першых дзён свайго прапрэтарства. Тады іудзеі ці самахоць, ці па загадзе імператара масава высяляліся з Ерусаліма, і ён, алабарх, даслаў Руфу просьбу, каб прапрэтар паблажліва паставіўся да нейкай ягонай радні. А чаму б і не паспрыяць? Руф хоць і ненавідзеў яўрэяў, але ж у багатых людзей, якія ў любы час могуць спатрэбіцца, нацыянальнасці няма...

У палацы Руф нечакана заспеў егіпецкага прэфекта Цітыяна. Як высветлілася, самыя ўплывовыя і самыя багатыя людзі горада сустрэліся ў гэткую познюю пару нездарма. Яны абмяркоўвалі трагічную падзею, якая здарылася тры дні таму і магла мецъ для Александрыі немаведама якія наступствы. Цітыян коратка распавёў Руфу пра здарэнне:

— Справа ў тым, што імператар падарожнічаў не адзін. Да цябе ж, пэўна, даходзілі чуткі, што ў Адрыяна з'явілася новая "пасія" — Антыной. Наш імператар увогуле неабыякавы да прыгожанькіх хлопчыкаў, а гэты — самому давялося ўбачыць — ну як лялечка. Накінь на яго столу[1], і нізавошта не адрозніш ад цнатлівае дзяўчынкі... Кажуць, знайшоў імператар гэтага юнага грэка-прыгажуна ажно ў віфінійскім Клаўдыопалі. Дык вось... Адрыян не разлучаўся са сваім палюбоўнікам ні на хвіліну. Падобна, іхняя сімпатыя была ўзаемнай. Звычайна ўдзень Адрыян і Антыной садзіліся ў папірусную лодку, плылі далёка-далёка супраць цячэння і дзе-нідзе прыставалі да берага. Мы пераконвалі імператара, што ў гэтую

[1] Туніка, жаночая верхняя вопратка, якая даходзіла да ног і мела ззаду шлейф.

пару Ніл вельмі бурлівы, таму не варта рызыкаваць, садзіцца ў лодку-душагубку. Ды дзе там! Хіба ж ён паслухаецца?.. Праўда, у апошні раз Адрыян запланаваў рачное падарожжа на некалькі дзён. Ужо хочаш не хочаш, а давялося садзіцца ў фялуку[1]. У нас трохі адлегла на душы: карабель надзейны дый каманда вопытная. Так што непажаданых прыгодаў не чакалася... А тут — на табе! — фялука вяртаецца ў порт у той жа дзень, каманда ў роспачы, Адрыян ірве на сваёй галаве валасы. Аказалася, утапіўся Антыной. Матросы потым расказалі: зрабіў ён гэта свядома, дабрахоць. Стаў ва ўвесь рост на карму і з крыкам “Аддаю сваё жыццё за любімага імператара!” кінуўся ў цёмныя хвалі. Вылавіць цела не ўдалося... Ты ж ведаеш, Адрыяну ўжо за пяцьдзясят, чалавек немалады. А напярэдадні адзін з нашых прадказальнікаў — мы яшчэ яму язык вырвем! — публічна выказаўся, што жыццё імператара можна падоўжыць, калі людзі, асабліва блізкія, ахвяруюць дзеля гэтага сабою... Вось Антыной і ахвяраваў... Імператар не выходзіць са сваіх пакояў тры дні і начы запар, а мы не маем рашучасці да яго паткнуцца. І вось гадаем, чым усё гэта можа скончыцца для нас, бо, як ні круці, у нечым да гэтае бяды датычныя...

Аповед Цітыяна дужа засмуціў Руфа. І не таму, што было шкада гэтага Антыноя — Руф з пагардаю ставіўся да ўсіх чалавечых істотаў, — а з-за таго, што ён, бадай, так і не зможа дэталёва пагутарыць з імператарам пра набалелае. Магчыма, Адрыян увогуле не захоча з ім сустрэцца.

Аднак жа, як ні дзіўна, ужо назаўтра апоўдні Цітыян паведаміў, што імператар, нарэшце, акрыяў, больш за тое, кліча яго, Руфа, у цэзарэю[2] прэфекта. Цітыян прыслаў чатырох асабістых ліктараў[3], якія правялі Руфа з ускраіны да самага адметнага палаца ў Александрыі.

Адрыян не прымусіў прапрэтара чакаць. Цёмнаскуры раб з да бляску выгаленаю галавою правёў яго ў вялікі і злёгку змрочны пакой. Адрыян сустрэў Руфа каля самых дзвярэй, моцна абняў, прытуліўся шчакою да шчакі.

— Рады цябе бачыць, — суха сказаў імператар. — Рады, што ты жывы-здаровы.

Ён зрабіў два крокі ўбок, да століка, застаўленага зяленівам і пітвом, узяў адтуль кубак са слановае косткі, аздоблены вытанчанай разьбой, і працягнуў яго Руфу. Гэта быў знак прыхільнасці.

Руф зрабіў тры каўткі знакамітага фалернскага віна, трохі цемнаватага і вельмі ўжо моцнага. Яно, гэтае віно, адзінае, якое гарэла. Аднак кубак Руф не адставіў, трымаў яго ў руцэ, каб не пакрыўдзіць імператара.

Іхняя размова доўжылася амаль гадзіну. Зрэшты, гэта была нават не размова, бо гаварыў толькі Руф. Найболей жа даводзіў, што Іудзея вось-вось зноў можа выбухнуць паўстаннем, яўрэі нешта задумваюць, таму варта прыслаць у Ерусалім хаця б яшчэ адзін легіён. Адрыян слухаў няўважліва, адчужана, хоць раз-пораз і перабіваў прапрэтара нязначнымі пытаннямі, пры гэтым ягоны задумлівы позірк, зусім не выпрабавальны, як зазвычай, а нейкі спустошаны, скіроўваўся ўгару, міма Руфавых вачэй. Вусны імператара пры кожным слове выцягваліся ў трубачку і крывіліся — быццам бы для насмешкі. Мусіць, ён яшчэ не адышоў ад вялікай страты і ў думках па-ранейшаму быў разам са сваім Антыноем...

---

[1] Дзесяціметровае судна, якое выкарыстоўвалася егіпцянамі з фараонаўскіх часоў.
[2] Рэзідэнцыя кіраўнікоў правінцыі.
[3] Ганаровая варта ў вышэйшых рымскіх прадстаўнікоў улады.

Адрыян увогуле выглядаў зусім не такім, якім Руф бачыў яго апошнім разам у Ерусаліме, калі абіралася месца для храма. Тады імператар трымаўся жвава, імпэтна, як маладзён. Цяпер жа твар асунуўся, кучаравыя валасы на галаве і барадзе пасерабрыліся, а шырокі лоб узаралі глыбокія маршчыны.

У рэшце рэшт Адрыян перабіў Руфа красамоўным жэстам і абыякава мовіў:

— Годзе. Мне здаецца, ты перабольшваеш пагрозу. Іудзеі, думаю, надоўга засвоілі апошні ўрок і болей не асмеляцца супярэчыць Рыму. Ты перабольшваеш...

Руф колькі хвілінаў памаўчаў, уцяміўшы, што пераканаць імператара не ўдалося, і памкнуўся задаць апошняе пытанне, аднак Адрыян зразумеў яго з паўслова і дадаў:

— Гэтым разам Іудзею, як і ўвогуле Палесціну, я не наведаю. Планы змяніліся. Мне трэба ў Рым...

Перад тым, як пакінуць імператара, Руф звярнуў увагу, што падчас усяе размовы ён так і не выпусціў з рукі кубак з вінам, хоць і не зрабіў болей ніводнага глытка. І цяпер ён, перш чым паставіць кубак на столік, паднёс яго да вуснаў і нагбом выпіў усё віно. Яно чамусьці не здалося задужа моцным, але затое — горкім...

І вось цяпер, узгадаўшы тую няўцямную і бясплённую сустрэчу з Адрыянам, Руф не быў упэўнены, што яму ўдасца выказаць сваю трывогу пісьмова. Спадзеў толькі на тое, што Адрыян ужо выкінуў з галавы свайго Антыноя, конча акрыяў і напоўніцу займаецца дзяржаўнымі справамі.

Развярэджаны думкамі, Руф зразумеў, што хоць трохі паспаць, мусіць, ужо не зможа. Рашуча, хоць і з неахвотаю ён саслізнуў з крэсла-ложка і падаўся да вялізнага прапрэтарскага стала, заваленага рознымі прашэннямі і пісьмамі — васкаванымі дошчачкамі, папіруснымі скруткамі ды пергаментам, рукой адгарнуў іх на край. Адмысловы пергамент, выраблены з тонкай скуры жывёлы, якім Руф карыстаўся толькі ў выключных выпадках, быў падрыхтаваны загадзя. Прапрэтар узяў востра абрэзаную з аднаго боку палачку егіпецкага трыснягу і абмакнуў яе ў чарніла, атрыманае з соку каракаціцы.

Абдумваючы кожнае слова, Руф пісаў доўга — да тае пары, пакуль у пакоі не згусціўся змрок. “Усякі злодзей, які паўстае супраць улады, — даводзіў ён імператару, — тут прызнаецца святым, кожны разбойнік становіцца патрыётам. Затрыманне рабаўніка лічыцца здрадай: “Воцат, — сын віна, — кажа рабін яўрэю, абавязак якога заключаецца ў вышуку злачынцаў. — Навошта даносіш ты на народ божы?” Або сустракае добрага жаўнера і таксама раіць яму як мага хутчэй кінуць сваё бессаромнае рамяство”...

У Руфа чамусьці была ўпэўненасць, што на гэты раз імператар да яго прыслухаецца. І ён, замацаваўшы напісанае прапрэтарскаю пячаткаю (асабісты подпіс на падобных пасланнях не ставіўся), з лёгкаю душою падняўся з-за стала.

## Архелай

Пінхас павёў Сімона ледзь не праз увесь горад, на паўночную ягоную ўскраіну, дзе большасцю кучкаваліся атрады наймітаў. Бетар не мог праглынуць ваяроў, што прыбывалі сюды з усяе Палесціны, а то і з немаведама адкуль. Атрады, сабраныя з жыхароў Іудзеі, можна сказаць, мясцовыя,

разбівалі свае лагеры пераважна побач з блізкімі да Бетара мястэчкамі ці ў іх саміх. Прышлых стараліся рассяліць у горадзе-крэпасці, для чаго на ягоных ускраінах хуценька ўзводзіліся лёгкія часовыя пабудовы. Зрэшты, і ў іх было мала патрэбы, бо надвор'е стаяла спякотнае, сухое і мажліва было жыць пад адкрытым небам. У адзін з такіх лагераў і кіраваўся Пінхас.

Зрэшты, па дарозе здарылася невялічкая замінка. Калі Сімон і Пінхас мінавалі някідкі рыначак, а ён месціўся ледзь не ў цэнтры горада, з аддаленых радоў данесліся спачатку раз'ятраныя мужчынскія, адале і пранізлівыя жаночыя крыкі. І хоць перанаселены Бетар бесперапынна гудзеў, як пчаліны вулей, захлынаўся ў шуме-гаме, не пачуць гэты лямант было немагчыма. Сімон насцярожыўся, прыслухаўся і, дакладна вызначыўшы для сябе, адкуль менавіта далятаюць крыкі, памкнуўся ў той бок, сваімі магутнымі грудзьмі, нібы плугам, рассякаючы мітуслівы базарны натоўп. Сімон, звыклы да ціхага, размеранага местачковага быцця, у гэтай вірлівай гарадской плыні ўвогуле пачуваў сябе не надта ёмка, а тут яшчэ нехта лямантуе. Вядома ж, ён проста абавязаны разабрацца, што да чаго, як без розгаду зрабіў бы гэта ў родным мястэчку, бо калі ёсць вэрхал і енк, значыць, некаму дрэнна.

— Куды?! — гаркнуў Пінхас, для якога падобныя звягі ды сутычкі не былі ў навіну, аднак, зразумеўшы, што аніякая сіла гэтага горнага бугая спыніць не здолее, рушыў следам за ім.

Канфлікт разгарнуўся нават не на самім рынку, а ў вусцы адной са шматлікіх вулак, што сцякаліся сюды з усяго горада. Двое дзябёлых дзецюкоў адчайна валтузілі трэцяга, а калі ён паваліўся на зямлю, пачалі перакочваць яго сакавітымі ўдарамі ног. Жанчына, якая верашчала, пэўна, не мела да гэтае разборкі дачынення, а галасіла хутчэй ад жаху і спагады.

Сімон, зразумела, не ведаў, за што раз'юшаныя дзецюкі гэтак адчайна лупцуюць сваю ахвяру. Магчыма, што і не задарма. Хутчэй за ўсё, спрабаваў што-небудзь украсці. Аднак жа двое супраць аднаго, ды яшчэ паваленага, — гэта задужа. Сімон вырашыў, што разабрацца можна апасля, а пакуль трэба неадкладна ратаваць чалавека калі не ад смерці, дык ад калецтва.

Падступіўшыся да дзецюкоў і палічыўшы, што сутычку мажліва прыпыніць без фізічных намаганняў, Сімон схапіў аднаго з іх за плячо і лёгка пацягнуў на сябе.

— Спыніцеся! Я каму кажу!

Дзяцюк, незадаволены тым, што нехта не дае засяродзіцца яму на прыемнай справе, неахвотна азірнуўся, тупа лыпнуў на Сімона налітымі крывёю вачыма і рыкнуў:

— Адыдзі!

І ягоныя ногі з яшчэ большым імпэтам затарабанілі па амаль нерухомым целе, выбіваючы з яго кароткія гукі-цмокі.

Збіты на горкі яблык чалавек, што ляжаў на зямлі, ужо не толькі не супраціўляўся — нават не варушыўся, адно прыкрываў твар рукамі.

Няўвага з боку дзецюка прыйшлася Сімону не даспадобы. Ён ужо з усяе сілы тузануў таго за плячо:

— Двойчы паўтараць я не люблю!

— Я таксама! — злавесна мовіў дзяцюк і з развароту трэснуў Сімону кулаком у сківіцу. Тут ён, бадай, узяў на сябе лішняе ці замутнелымі ад шаленства вачыма добра не разгледзеў, што за вярнідуб спрабуе яго ўлагодзіць. Бо калі б разгледзеў, тройчы падумаў бы, перш чым зняважыць і нацкаваць на сябе гэткага мацака.

Сімон такога нахабства, вядома ж, не чакаў, таму ўдар атрымаў досыць шчыльны і балючы. З месца Сімон не скрануўся, адно што галава злёгку адкінулася назад, але якую хвіліну ён разгублена і няўцямна пазіраў на свайго крыўдзіцеля. А той ужо пеўнем скакаў перад Сімонам, ладкуючыся, каб прыкласціся на гэты раз поўху. На сваю бяду, не паспеў, бо Сімон, нарэшце, выйшаў са здранцвення. Кароткі, без размаху, тычок у твар — і няшчасны крыўдзіцель, апісаўшы дугу над зямлёю, ластаўкай праляцеў метры з два, глуха гупнуў на брук і “заснуў”.

Другі дзяцюк, які па-ранейшаму ўвіхаўся над ляжачым целам, мусібыць, краёчкам вока ўсё ж згледзеў гэты малюнак. Доля паплечніка яго не натхніла, таму ён борздка адскочыў да сцяны, паўсагнуў ногі, падаўшы тулава наперад і прымаючы такім чынам баявую стойку. Пры гэтым ён ліхаманкава варочаў па баках галавою, заклікаючы кагосьці на помач. І яна, помач, пэўна, прыйшла б, бо іх тут, падобна, была цэлая хеўра. Ва ўсялякім разе, з натоўпу, які падковаю акаляў месца сутычкі, пагрозліва насоўваліся некалькі грамілаў з хмурымі шэрымі тварамі. Пры такім раскладзе становішча Сімона выглядала не надта зайздросным, і экзекуцыя над ім наспявала не меней жорсткая, чым над тым небаракам, які ўсё яшчэ нерухома ляжаў на перасмяглай зямлі. Калі б Сімон мог напоўніцу задзейнічаць левую руку, так-сяк абгорнутаю белаю анучаю, якая ўжо набрыняла крывёю, дык нейкіх шанцаў годна пакінуць рысталішча ён бы не страціў. У любым выпадку, не адзін чэрап хруснуў бы пад ягонымі кулакамі-кувалдамі.

На шчасце, незайздросныя перспектывы не спраўдзіліся, бо скрозь шчыльную падкову натоўпу нарэшце праціснуўся Пінхас. Ён імгненна ацаніў пагрозу, якая навісла над Сімонам, стаў побач з ім, адну руку падняў угару, а другую красамоўна паклаў на рукаятку цесака.

— Усім стаяць на месцы! Стаяць, я кажу!

Хмурыя твары сапраўды перасталі набліжацца, аднак супыніў іх зусім не пагрозлівы выгляд цесака — яны самі мелі такія ж, бо горад быў нашпігаваны рознай зброяй, — проста паўзверх натоўпу зашамацела пачціва-сцішаная гамана:

— Гэта ж Пінхас...

— І праўда, ён самы...

— Галоўны ахоўнік Акібы...

Пінхаса ведаў у твар, бадай, кожны насельнік Бетара. Ягоная постаць знаходзілася побач з самым паважаным і мудрым чалавекам Іудзеі. І ўжо нават тое, што Пінхас меў мажлівасць штодня сузіраць, а калі-нікалі і слухаць — якое шчасце! — самога рабі Акібу, надавала ягонай асобе ледзь не боскі напыл.

Вось і зараз шэрыя твары неяк вельмі борздзенька пасвятлелі, а іхнія ўладальнікі прыгнулі галовы ў лёгкім паклоне.

Прычакаўшы, пакуль натоўп, уражаны ягоным з’яўленнем, трохі прыціхне — а калі папраўдзе, гэткая ўвага і пачцівасць прыемна казыталі самалюбства Пінхаса, таму ён і расцягнуў асалоду, — галоўны ахоўнік строга спытаўся:

— Што тут здарылася? За што збілі чалавека?

І тут высветлілася, што гэтага акурат ніхто і не ведае. Некаторыя, прынамсі, бачылі, як вось гэтыя дзецюкі, што гандлявалі праснакамі, нечакана кінуліся ў вулачку, відаць, за кімсьці пагналіся, а за кім — немаведама, можа, якраз за ім, пабітым. Самі дзецюкі нічога патлумачыць не маглі,

бо адзін з іх пад шумок ціхенька нырнуў у людское скопішча і з усіх ног даў дзёру, не без падстаў мяркуючы, што разборка з галоўным ахоўнікам нічога прыемнага яму не зычыць, а другі ўсё яшчэ “спаў”. Можна было параспытваць саму ахвяру, аднак жаласны выгляд пабітага не натхняў лезці да яго з пытаннямі, дый калі ён што і сцібрыў, то не прызнаецца.

Пінхас, зразумеўшы, што ніякіх іншых звестак выцадзіць болей не ўдасца, абыякава махнуў рукою і звярнуўся да Сімона:

— Пайшлі!

— А гэты? — Сімон кіўнуў у бок ляжачага.

І сапраўды: калі пакінуць яго тут, дык сябры-паплечнікі дзецюкоў яму, чаго добрага, яшчэ дабавяць.

— Трасца яго не возьме! — Пінхас пачынаў злаваць: і так колькі часу змарнавана. — Ачомаецца сам, нікуды не дзенецца.

— Не, гэта не па-людску, — Сімон рашуча падступіўся да пабітага, прысеў над ім і паспрабаваў адвесці далоні, якімі чалавек усё яшчэ прыкрываў свой твар, не верачы, што небяспека мінула.

— А мой ты Божа! — Сіном не здолеў стрымаць здзіўлення. Яму адкрыўся бязвусы і безбароды твар юнака не болей як гадоў васямнаццаці. Надзвычай прыгожы твар. А найболей адметнымі былі вочы. Блакітныя! Абыдзі ўсю Іудзею, такіх не знойдзеш. А самае цікавае — у іх не было ніякага спуду. Юнак досыць жвава і з іскрынкаю ўдзячнасці пазіраў на Сімона.

— Сам устаць здолееш?

Хлопец моўчкі пачаў узнімацца. Спярша на карачкі, а затым штуршком, кідком — і на ногі. Го! Ды калі меркаваць па ягоным даволі бадзёрым выглядзе, дык яму перапала не так і шмат. Хоць дзецюкі апрацоўвалі яго нагамі шчодра, ад усяе душы. А мажліва, юнак так дасканала валодае сваім целам, што налаўчыўся трымаць удары?

Калі хлопец канча выпрастаўся, стала бачна, што ў росце ён, бадай, наўрад ці саступае Сімону, хіба што вузейшы ў плячах.

— Як цябе завуць?

— Архелай.

— Ну, што, Архелай, хадзем з намі? — Сімон ці то пытаўся, ці то загадваў. — Сам здолееш ісці альбо памагчы?

— І куды?

— Туды, дзе сёння павінен быць кожны свядомы яўрэй. У войска.

— Я не супраць.

Шлях да лагера яны працягвалі ўтрох. Пакуль ішлі, Архелай распавёў, што ён акурат і кіраваўся ў войска, прытупаў ажно з Самарыі[1], з горада Сіхема. А што тычыцца сутычкі на рынку, дык ён, Архелай, пацярпеў, можна сказаць, нізавошта.

— Я толькі сёння прыйшоў у Бетар. На рынак забрыў выпадкова. А тут бачу — на мяне нясецца хлапчук гадоў дзесяці. А ў руцэ — праснак.

---

[1] Самарыя — частка Палесціны, размешчаная на поўначы ад Іудзеі. У 587 г. да н.э. большая частка іудзеяў была пераселана вавілонскім царом Навуходанасорам II у Вавілонію. Пры пярсідскай дынастыі Ахеменідаў іудзеям было дазволена вярнуцца ў Ерусалім. Кіраўнікі новай рэлігійнай абшчыны Ездра і Неемія не прынялі ў яе іудзеяў, якія не пабывалі ў палоне, а таксама ізраільцян, што засталіся ў Палесціне, на той падставе, што яны змяшаліся з людзьмі, якія шануюць іншых багоў. Непрынятыя стварылі асобную абшчыну самарыцян, якая захоўваецца ў Палесціне і цяпер. Ва ўсе часы самарыцяне былі аднымі з самых заклятых ворагаў іудзеяў.

Вядомая справа — скраў. І праўда: за хлапчуком, як той жарабец, гупае раззлаваны гандляр. Ну, думаю, здагоніць — жывым не пакіне, прыб’е. Шкада мне стала хлопчыка. Я ж і сам такім рос. Без бацькі, без маці... Што перападзе, тое і з’ясі. А не перападзе — ідзеш красці. Словам, дзіцяці я саступіў дарогу, а калі побач апынуўся гандляр, падставіў яму нагу... І скажу я вам, ладную-такі баразну пракапаў ён сваім чэравам — мне ажно смешна стала. Аднак пасмяяцца мне не выпала, бо ў наступную хвіліну я атрымаў такі ўдар у патыліцу, што ажно скапыціўся. А што сталася? За хлапчуком гналіся двое гандляроў! І калі першага я спыніў, дык другога проста не скмеціў. Вось ён з ходу і ўрэзаў мне ў карак, бо мая падножка не засталася без ягонае ўвагі. А тут і першы гандляр ад глебы адрываецца... Пасля маёй выхадкі ўкрадзены праснак яго болей не цікавіў... Ну і ўзяліся яны калашмаціць мяне, ляжачага. Калі б я не паваліўся, — Архелай, падобна, апраўдваўся за тое, што два здаровыя бугаі здолелі натаўхаць яму ў рэбры, — яны б мяне не адужалі. А так, думаю, пачнём уставаць, дык насаком так трэснуць у зубы — не збярэш. Таму я палічыў за лепшае скруціцца ў абаранак і напружыцца, як рабіў гэта раней, у дзяцінстве, калі бойкі ўсчыняліся ледзь не штодня. Для мяне было важлівей, каб не спаласавалі пісягамі твар. А тут і вы падаспелі...

Выходзіла, што экзекуцыя зусім не была такою небяспечнаю, як гэта бачылася вачыма староннiх. І цяпер Архелай жвава крочыў на ўскраіну поруч са сваімі збавіцелямі.

Сімона і Архелая пасялілі ў пабудове, месца знайшлося толькі ў самым кутку. Пінхас развітаўся коратка і стрымана — спяшаўся вярнуцца.

Яшчэ тым жа днём Сімон вывудзіў з Архелая ўсё, што тычылася ягонага небагатага на гады і падзеі жыцця-быцця. Бацьку Архелай не памятае. Ён увогуле пра бацьку нічога не ведае, бо маці чамусьці цуралася пра яго размоваў. Цьмяна прыгадваецца і маці. Адно ведае, што звалі яе Хавівай і што пасля апошняга яўрэйскага паўстання рымляне ўзялі яе, як і іншых маладых жанчын, у рабства. Куды пагналі, дзе яна цяпер і ці жывая ўвогуле — немаведама. Калі рымскія ваяры выцягвалі з дамоў заспетых знянацку людзей і валаклі іх у адну гурму, спуджаны крыкам і енкам хлапчук зашыўся пад камень-валун, адкуль асмеліўся вылезці толькі пад вечар, калі ў мястэчку ўжо было ціха, як на могілках, — рымляне, пэўна, падгрэблі ўсіх. Зрэшты, блукаючы між апусцелых пабудоў, Архелай усё ж знайшоў адну жывую душу — бабулю Алуму. Старых рымляне ў палон не бралі. Забівалі на месцы, рассякаючы галовы кароткімі мячамі. Іхнія акрываўленыя і аблепленыя мухамі целы ўроскідку валяліся ці не ў кожным двары. Бабулю Алуму чамусьці ніхто не крануў. Відаць, захопнікі палічылі, што для Рыма яна, зморшчаная і прыгорбленая, небяспекі не ўяўляе і шкоды не прынясе.

Заставацца ў знелюдзелым мястэчку ніякага сэнсу не было, і яны, старое і малое, паклыпалі ў белы свет. Блукалі па ўсёй Палесціне, прасілі міласціну — тым і жылі. Бабуля Алума шмат распавядала маленькаму Архелаю пра бога Яхве, пра прарока Маісея, пра абранасць іудзейскага роду сярод усіх насельнікаў зямлі. Хлапчуку ўяўлялася гэта прыгожымі казкамі, можа, таму і запала ў душу.

Алума хоць і выглядала гэткаю струхнявелаю, аднак трымалася за жыццё досыць учэпіста. Архелаю ўжо споўнілася гадкоў дзесяць, калі яна, акурат за тыдзень да смерці, распавяла штосьці цікавае пра ягоных бацькоў. У Самарыі яны з’явіліся за некалькі гадоў да паўстан-

ня. Перабраліся здалёк: ці то з Егіпта, з Александрыі, ці то ўвогуле з нейкае Дакіі[1]. Жылі адасоблена, суседзяў цураліся. Сярод местачковых хадзілі чуткі, што яны ўвогуле не яўрэі. А што не іудзеі — дык тут і казаць няма чаго. Тым не менш, калі пачалося паўстанне, бацька ўзяў у рукі зброю ледзь не першы, бо такой нянавісці да рымлян, як ён, не меў ніхто. І была для таго важлівая падстава. Аднаго разу рымскі легіён, які рухаўся ў бок Сірыі, разбіў паходны лагер паблізу іхняга мястэчка. Адзін з цэнтурыёнаў, малады, прыгожы, блакітнавокі, пераняў прыгожую Хавіву, калі яна вярталася з суседняга паселішча, і пад рогат і смакаванне легіянераў згвалціў...

Пэўна ж, не варта было бабулі Алуме распавядаць хлапчуку пра гэты гвалт, але ж, палічыла, няхай ведае, няхай з маленства поўніцца нянавісцю да рымскай погані...

Бабулю Алуму пахавалі спагадлівыя падарожнікі, якія не пакінулі без увагі няшчаснага хлапчука, што хныкаў над ужо смярдзючым трупам.

З таго часу жыццё Архелая стала пакутным, небяспечным і аднастайным. Міласціну амаль не падавалі — у Палесціне зрабілася галадна. Калі быў меншы — краў. Пераважна на рынках, як той выратаваны сёння хлапчук. А трохі падрос, дык часам, бывала, парабкаваў за такі-сякі наедак.

Вось так і перабіваўся-боўтаўся, пакуль не прачуў пра іудзейскую армію, што збіраецца ў Бетары. З рымлянамі ў Архелая асаблівы рахунак — за бацькоў, за знявечанае дзяцінства...

Сімон Архелая ўпадабаў. Мажліва, яшчэ і таму, што яму дужа карцела мець уласнага сына, аднак Бог, на жаль, такое радасці яго пазбавіў: ягоная абручніца памерла пры родах зусім маладою.

## Сустрэча з Гамаліілам

Акіба бен-Іосіф, 80-гадовы[2] рабін, ужо каторы тыдзень не мог пазбавіцца ад нейкае незразумелае трывогі, ад прадчування бяды, якая хай сабе яшчэ і не насунулася, але ўжо непазбежна выспявала. Гэтае прадчуванне вярэдзіла душу, не давала спаць начамі.

Паўстанне супраць рымлян, якое з дзясятак год выношвалася, нараджалася, гадавалася Акібам, нібы адзінае і таму самае дарагое дзіця, якое стала мэтаю і сэнсам ягонага існавання, на жаль, не захліснула ўсю Палесціну. Зрэшты, на поўдні, у самой Іудзеі, усё ішло як след. У мястэчках, дзе не было рымскіх гарнізонаў, паўстанцы ўсталявалі сваю ўладу. Аднак Самарыя, Галілея і Заіарданне — а там большасць насельнікаў таксама былі яўрэямі — пакуль яшчэ па-сапраўднаму не абудзіліся.

Аснову арміі паўстанцаў складалі 24 тысячы добраахвотнікаў, якія прыбылі ў Іудзею ледзь не з усіх рымскіх калоній. Гэта былі не толькі яўрэі. Пад штандар паўстання станавіліся ўсе, для каго быў нясцерпным прыгнёт каланізатараў. Іх нават можна было назваць вучнямі Акібы, бо менавіта пад ягоным уплывам яны ўзяліся за зброю.

Акіба наведаў Парфянскае царства, Аравію, Малую Азію, Каппадокію, Фрыгію, Паўночную Афрыку, а ў Еўропе дабраўся ажно да Галіі. І ўсюды ягонае слова знаходзіла прыхільнікаў.

---

[1] Сучасная Румынія.

[2] Некаторыя гісторыкі сцвярджаюць, што на час паўстання Акібу было 120 гадоў.

Паўстанцам патрэбна была зброя — і тут Акіба знайшоў выйсце. Жыхары Палесціны павінны былі пастаўляць рымлянам пэўную колькасць зброі і вайсковай амуніцыі. Акіба наказаў, каб мячы і дзіды выраблялі хібнымі. Рымляне іх не бралі, што акурат спадаблялася паўстанцам.

Іудзеі верылі Акібу бязмежна. Яго параўноўвалі з Ездрам[1] і нават з самім прарокам Маісеем, а ягоная Мішна[2] лічылася бездакорнай і бясспрэчнай.

Да таго ж, Акіба добра ведаў жыццё простага люду, бо і сам выйшаў з незнакамітага роду-племені. Да сарака гадоў пасвіў авечак ерусалімскага магната Калбо-Шэвуа. Затым пабраўся з ягонаю дачкою, хоць сам багацей дужа гэтаму праціўіўся. Таму не дзіва, што жылі маладзёны ў галоце. Маладая жонка, Рахель, аднойчы нават прадала свае валасы, каб купіць харчу. Зрэшты, менавіта Рахель пераканала Акібу, што яму належыць набываць веды. Адвучыўшыся ў ешуве горада Лідда, Акіба адкрыў уласную ешуву — у Бен-Браку.

Дык чаму ж уся Палесціна, як бывала раней, не зважыла на заклік свайго духоўнага правадыра? Добраахвотнікі, найміты — гэта няблага, але ж ці магчыма адолець рымскія легіёны без падтрымкі ўсяго народа? Акіба разумеў: немагчыма. І гэта не давала яму спакою.

Аднойчы пасля чарговае бессані Акіба накінуў на сябе чорны балахон, захінуўся ў яго так, каб засталася толькі проразь для вачэй, і пакінуў сваю келлю. Такое здаралася досыць рэдка. Апошнім часам Акіба любіў адзіноту і кожную хвіліну прысвячаў малітвам, застаючыся сам-насам з Богам. А калі ўсё ж наспявала пільная патрэба паказацца на людзях, ён рабіў гэта з неахвотай. Гараджане, пазнаўшы яго, дакучалі просьбамі, хапалі за крысо, каб выказаць пашану.

Акіба адразу ж збочыў у ціхі завулак, які, выгінаючыся вужакаю, вілюжваў пад гару, туды, дзе большасцю месціліся селішчы галыцьбы. Ахоўнікам, якія памкнуліся было ўслед за гаспадаром, святар моўчкі, красамоўным жэстам загадаў заставацца на месцы. Атачэнне толькі прывабіла б лішнія вочы. А менавіта цяпер Акібу не хацелася гэтага найперш. Трэ было засяродзіцца, бо сустрэча чакалася нязвыклая.

Як ні імкнуўся Акіба мінуць самыя мітуслівыя месцы, усё ж ладны кавалак шляху, пад дзве сотні крокаў, яму давялося праціскацца амаль праз натоўп, па галоўнай вуліцы. Прынамсі, адно толькі слова — галоўная, а на справе на ёй наўрад ці размінуліся б двое прыстойных насілак.

Бетар быў гарадком невялікім, ён туліўся ў перадгор'і, наводшыбе ад гандлёвых шляхоў. Але ж і да Ерусаліма — не болей як тры гадзіны добрай хады. Таму і ўпадабаў Акіба гэты гарадок-крэпасць для гнездзішча ўсяго паўстання: льга было ўтаіць ад рымлян падрыхтоўку войска, а пры патрэбе — і да Ерусаліма, сэрца Іудзеі, адзін кідок.

Вось чаму на вулках Бетара, і без таго заціснутых навіслымі забудовамі, было гэтак цесна і мітусліва. Вольна пачувалі сябе хіба што коннікі, якія зрэдку валунамі рассякалі людскую плынь — ад іх жахаліся, туліліся да сцен. Узброеных людзей увогуле было амаль цераз аднаго. Тым не меней,

---

[1] Ездра — знакаміты нашчадак святарскага роду. Пры перасяленні яўрэяў з Вавілоніі ў Іудзею ў 516 годзе да н.э. апынуўся ў Ерусаліме. Пярсідскі цар наказаў Ездры прызначыць у краіне кіраўнікоў і суддзяў і вучыць народ закону Божаму. Ездра стаў “Маісеем свайго часу”. Усталяваны Ездрам “Вялікі сабор” сабраў прароцкія і гістарычныя помнікі даўніны..

[2] Яўрэйскае Евангелле, тлумачэнне да Свяшчэннага Пісання.

абапал ходжых частак вуліц астраўкамі кучкаваліся шматлікія гандляры, якія голасна прапаноўвалі садавіну, пітво, сукно ды іншую такую-сякую дробязь.

Акіба непазнаным працёрся па гэтай чалавечай пратоцы і зноў завярнуў у завулак, дзе было ўжо вусцішна. Ён выбраўся амаль на ўскраіну Бетара. Суцішыў крок каля несамавітай будыніны са шчыльна завешанымі вокнамі. Веснічкі таксама былі зачынены наглуха.

Акіба тройчы, з невялікімі прамежкамі, пастукаў аб вушак — мусібыць, гэта быў умоўны сігнал. Знутры ніхто не азваўся. Акіба пастукаў зноў. Нарэшце за агароджаю пачулася шарканне падэшваў. Акіба адхінуў з галавы балахон — цяпер яму хацелася, каб яго пазналі.

Ляснула клямка, веснічкі прыадчыніліся роўна на столькі, каб у праём магла высунуцца старэчая галава жанчыны. Акіба пазнаў яе, гэта была тая ж сядзелка, якую ён колькі гадоў таму сам жа сюды і прывёў. Падслепаватымі вачыма жанчына доўга ўзіралася ў прыхадня — такое бывае, калі чалавек трапляе з цемры на святло — і нарэшце не без радасці мовіла:

— А-а, рабі!.. Праходзьце...

Акіба ступіў у двор.

Ён прыйшоў да Гамалііла. Гэта быў апошні атожылак знакамітага на ўсю Палесціну роду Гамаліілаў, карані якога прабіваліся глыбока ў мінуўшчыну, да эпохі Давыда, калі Ізраіль і Іудзея былі адзіным царствам[1]. Шматлікія войны, асабліва апошнія, з рымлянамі, дашчэнту вынішчылі гэты род, бо захопнікі ведалі: найперш трэба выпаліць душу нацыі, якою акурат і былі Гамаліілы.

Гамалііла-малодшага, былога галаву сінедрыёна ў Ямне, Акіба лічыў сваім настаўнікам. Ніхто дакладна не ведаў, колькі яму гадоў, але, мусіць, болей чым за сотню, бо нават сам Акіба, колькі жыў, памятаў яго сталым і мудрым.

Менавіта ён, Гамалііл, закінуў у душу Акібы бунтарскае семя, падштурхнуў да падрыхтоўкі паўстання. Колькі часу таму яны разам вандравалі ад Александрыі да Антыохіі, ад Трыполіса да Вавілона. А потым Гамалііл занядужаў. Злёг. І нават не ад якой-небудзь хваробы — проста ад старасці. “Прыйшоў мой час рыхтавацца да сустрэчы з Богам, — сказаў ён Акібу. — Я адыходжу ад людскіх марнасці. І нікому не дадзена парушыць мой спакой. А ты пойдзеш далей...”

Для апошняга прытулку настаўніка Акіба нагледзеў гэты някідкі домік на ўскраіне Бетара, сам падабраў сядзелку і, як здавалася, развітаўся з Гамаліілам назаўжды. Насельнікі-суседзі не здагадваліся, хто дажывае свой век за гэтаю агароджаю. Яны бачылі толькі нямоглую жанчыну, якая зрэдку выпаўзала-выбіралася ў белы свет, каб прыдбаць у вулічных гандляроў што-нішто з харчу.

З таго часу, як і наказаў Гамілііл, Акіба ніводнага разу не наведаў гэтага месца. Ён ужо бачыў настаўніка побач з Богам. І цяпер, ідучы на сустрэчу, не быў упэўнены, што заспее Гамалііла жывым.

Аднак заклапочаны і ўзрадаваны выгляд сядзелкі падказаў яму, што завітаў ён нездарма. Сядзелка трушком, перавальваючыся, паклыпала паперадзе, гэткім чынам запрашаючы госця рушыць за сабою.

З парога Акібу ў твар патыхнула забраснявелым, застаялым пахам, які зазвычай зыходзіць ад старога і не надта ахайнага чалавека. Зрэшты,

[1] Ізраільска-Іудзейскае царства распалася ў канцы XI ст. да н.э.

грашыць на сядзелку не выпадала, у пакоі было прыбрана і нават утульна, проста ўсё тут насыцілася дыханнем і потам Гамалііла, які, падобна, з тае пары так і не ўставаў з ложка.

А ложак — драўляны, шырокі — стаяў каля сцяны, акурат супраць уваходу. Захінуты да грудзей прасцінаю, на ім ляжаў стары. Вочы ягоныя былі заплюшчаныя, а сівая барада слалася паўзверх прасціны ажно да пояса.

Акіба не адважваўся крануцца з месца, аднак Гамалііл адчуў, што ў пакоі з'явіўся староннi, векі ягоныя злёгку здрыгануліся. Ён напружыўся — ці то прынюхваўся, ці то ўслухоўваўся ў цішыню — і праз якую хвіліну празрыстаю, нібы перапончатаю, рукою паманіў Акібу да сябе.

Гамалііл загаманіў не адразу. Ён быццам запасіў у грудзях паветра, каб сіпла выдыхнуць:

— Я ведаў, што ты прыйдзеш... Бог наканаваў нам яшчэ адну сустрэчу... Мабыць, таму я ніяк не магу памерці... Што прывяло цябе, Акіба?

— Пільная патрэба, настаўнік. Я не турбаваў бы цябе, калі б самому ўдалося знайсці адказы на пытанні, важлівыя для ўсяе Палесціны. Я ў разгубленасці і роспачы, настаўнік...

— Што магло давесці да роспачы мудрага Акібу?

— Становішча ў Палесціне. Тое, чаго мы з табою дамагаліся, не споўнілася. Народ не падтрымаў паўстання. Ёсць найміты, ёсць ваяры-іудзеі, але іх мала. Настолькі мала, што Рым на нас і не зважае. Пры жаданні адзін легіён разгоніць усё нашае войска. Пэўна, мы паспяшаліся. Тур-Сімон[1] нам толькі зашкодзіў...

— А Хазрой?

Пачуўшы прозвішча парфянскага цара, Акіба пацямнеў тварам, сціснуў скіўіцы. Парфянскае царства месцілася на ўсходзе ад Палесціны. Спакон вякоў ваявала яно з Рымам, было, што і паспяхова. Імператар Траян, папярэднік Адрыяна, нанёс Парфіі сур'ёзную паразу, "прырэзаў" да імперыі ладную частку ейнай зямлі. Да таго ж, у Вавілоне здабычай Траяна стала дачка цара Хазроя, якую легіянеры знайшлі ледзь не ў калысцы. Як заложніцу, імператар прывёз яе ў Рым, дзе яна, варта аддаць Траяну належнае, гадавалася ў раскошы.

Адрыян, ступіўшы на імператарскі трон, першым чынам вырашыў улагодзіць правінцыі. Дзякуючы Траяну, ягонай ваяўнічасці, імперыя разраслася да неймаверных памераў. Раз-пораз на ўскраінах узнікалі смуты, а то і выбухалі паўстанні. Адрыян разумеў: каб уціхамірваць іх, хутка ніякіх легіёнаў не хопіць. Ён наведаў Германію, Галію, Іспанію, дзе знайшоў паразуменне з тамтэйшай знаццю, надзяліўшы яе нязначнымі прывілеямі. Прызначаныя імператарам легаты-прэпрэтары змушаны былі ставіцца да мясцовай эліты паблажліва. Вось толькі ў Брытаніі Адрыяну не ўдалося знайсці злагаду з ваяўнічымі зграямі, якія рабілі наскокі з поўначы. Таму і загадаў імператар у найбольш вузкім месцы, дзе адлегласць ад мора да мора складала ўсяго восемдзесят міляў, узвесці суцэльную мураваную сцяну, каб адгарадзіцца ад нахабных плямёнаў.

Не паспеў Адрыян вярнуцца ў Рым, як сталі прыходзіць трывожныя весткі з Усходу. Падобна было, што Хазрой канча акрыяў, і Парфія рыхтуецца ўзнавіць вайну з імперыяй. Адрыян, не трацячы часу дарма, падаўся да мяжы з Парфіяй...

---

[1] Падставай для паўстання 132-135 гг. н.э. стаў напад рымскіх салдатаў на яўрэйскую вясельную працэсію ў крэпасці Тур-Сімон.

Акурат у гэты час у Парфіі знаходзіўся і Акіба. Каторы месяц ён падбухторваў Хазроя падняць меч на ненавісны Рым, адплаціць, нарэшце, за ўсе знявагі і крыўды, вярнуць страчаныя землі. Акіба даводзіў, што падыме на паўстанне ўсю Палесціну, што ўжо цяпер ёсць тысячы наймітаў, і разам яны, Парфія і Палесціна, а ўслед за імі ўся Азія і паўночная Афрыка, здолеюць адужаць рымскія легіёны. Хазрой ужо амаль пагадзіўся з Акібам, ужо рыхтавалася шматтысячнае войска, і вось тут — на табе! — усё адначасна абвалілася.

З Маўрытаніі, дзе толькі-толькі затухла спляжанае Рымам паўстанне, табілярый імператара прывёз Хазрою пасланне. Адрыян прапаноўваў наладзіць сустрэчу, абмеркаваць наспелыя супярэчнасці, каб утаймаваць варагаванне.

Акіба як толькі мог угаворваў Хазроя адмовіцца ад гэтай сустрэчы, даводзіў, што рымлянам верыць нельга, яны ніколі не трымаюць слова і пры зручным выпадку абдураць, нават уваткнуць нож у спіну. Аднак жа Хазрой да яго не прыслухаўся. Парфянскага цара ўзрушыла і запаланіла розум згадка імператара пра дачку-заложніцу, пра тое, што Адрыян прывязе яе з сабою і, магчыма, перадасць з рук у рукі...

Сустрэча цара і імператара адбылася на левым беразе ракі Еўфрат. Акіба так і не даведаўся пра змест іхняе размовы, бо Хазрой вярнуўся ўзрушаным, задаволеным, з мірнаю дамоваю і жвавую дзяўчынкаю, якая, было бачна, роднага бацькі пакуль што трохі цуралася. Хазрой, запрасіўшы Акібу на якую хвіліну, толькі і сказаў яму: "З Рымам ваяваць не буду. Да таго ж, імператар паабяцаў аддаць мой свяшчэнны залаты трон, захоплены некалі Траянам... Адно абяцаю: калі табе ўдасца падняць на паўстанне Палесціну, я на бок рымлян не стану..."

Усё гэта Акіба пераказаў Гамаліілу і напрыканцы скрушна мовіў:

— А яшчэ горай, што многія рабіны, пастыры душ іудзейскіх, цураюцца паўстання, заклікаюць народ да пакоры. Нават фарысеі на чале з Хананіяй разбегліся хто ў Галілею, хто ў Македонію, клянуцца ў вернасці кесару...

Гамалііл доўга маўчаў. Нарэшце з напругаю, нібы цераз сіта, пачаў цадзіць з сябе словы:

— Я шмат перадумаў, лежачы тут і чакаючы, калі Гасподзь забярэ маю душу. І шмат чаго зразумеў. Нашыя з табою намаганні, Акіба, былі марнымі. Бо ўсё, праз што належыць прайсці народу нашаму, прадвызначана Небам. Колькі вякоў яўрэі спрабавалі вырвацца з ярма, колькі крывавых ручаін сцякло ў Іардан толькі пры нашае з табою памяці, Акіба![1] Народ яшчэ не акрыяў пасля тых бойняў. Народ баіцца. Народ не верыць... Мы дачасна каламуцілі людзей, мы клікалі іх на верную пагібель, бо сказана ў Торы... Месія! Толькі Ён, нашчадак цара Давыда, прынясе збавенне народу нашаму... Калі Ён прыйдзе? Аднаму Госпаду ведама... Мусіць, яшчэ не час...

Голас Гамалііла быў ужо ледзь чутны, здавалася, ён проста трызніць. Раптам мова старога пацякла ўзнёсла і вольна:

— ...І за тое, што ты, Ізраіль, не паслужыў Госпаду Богу твайму з вясёласцю і радасцю сэрца за вялікае мноства дабрачыннасцяў Ягоных, дык паслужыш ворагам тваім, якіх пашле на цябе Гасподзь, з голадам і смагаю, высільваннем усяго: і ўскладуць яны ярмо жалезнае на шыю тваю, пакуль

---

[1] Паводле гісторыка Іосіфа Флавія, у Іудзейскай вайне 66-73 гг. н. э. загінула каля паўтара мільёна яўрэяў, сто тысяч было ўзята ў палон. Крыху меншыя страты былі панесены ў час паўстання 115-118 гг. н. э.

не разбураць цябе зусім. І ад далёкага краю зямлі, з хуткасцю палёту арлінага, навядзе на цябе Гасподзь народ, мовы якога ты не разумееш: народ суровы з выгляду, які не ўшануе старцаў тваіх, і не злітуецца з юнакоў тваіх. І возьме ён чароды твае, і сажне плады зямлі тваёй; і не пакіне табе ні пшаніцы, ні віна, ні ялею, ні чарод валоў, ні авечак, а знішчыць усё. І абкружыць ён цябе ва ўсіх чародах тваіх, пакуль разбурыць ён высокія і моцныя сцены, на якія ты спадзяешся; і знішчыць ён цябе ва ўсіх гарадах, якія даў табе Гасподзь Бог...

Акіба не адразу ўцяміў, што Гамалііл чамусьці пачаў слова ў слова паўтараць прароцтвы Маісея з Другазаконня. Але чаму ён гэта робіць? Акіба і сам ведае гэтыя прароцтвы не горш. А Гамалііл, між тым, працягваў апантана жундзець:

— ...І ад жалобы і голаду, якія навядзе на цябе вораг твой, станеш есці дзяцей сваіх, карміцца плоццю сыноў і дачок, якіх даў табе Гасподзь твой. Мужчына стане бязлітасным вокам глядзець на брата свайго, і на жонку сваю, і на дзяцей, што засталіся ў яго. І не захоча падзяліцца з імі плоццю дзяцей сваіх, таму што пазбаўлены сярод нішчымніцы і жалобы, якімі абцяжараць цябе ворагі твае ва ўсіх гарадах тваіх. І між вамі жонка юная і пяшчотная, не звыклая ад спешчанасці ступаць нагою па зямлі, пазайздросціць вокам мужу свайму, і сыну, і дачцэ, і з'есць употай нованароджанае немаўля сваё...

Гамалііл, відаць, сапраўды трызніў. І Акіба пачуваў сябе ніякавата. Пайсці? Перачакаць, пакуль Гамалііл ачуняе, зможацца?

— ...І застанецеся вы колькасцю малою, вы, якія былі шматлікія, як зоркі нябесныя, таму што не паслухаліся голаса Бога вашага. І як Гасподзь спрыяў вам, даючы дабро вам і размнажаючы вас, дык гэтак жа ён стане знішчаць вас; і возьмецеся вы ад зямлі, якая цяпер даецца ў спадчыну вам. І рассее цябе Гасподзь Бог ва ўсе народы, ад краю зямлі да краю яе; і паслужыш там багам іншым, дрэву і камяню, якіх не ведаў ты і не ведалі бацькі твае. Але і сярод народаў чужых не супакоіць цябе Гасподзь і не будзе цвёрдага стаяння нагі тваёй; і дасць там табе Гасподзь сэрца журботнае, і вочы, захлынутыя нудою, і трапяткую душу. І будзе само жыццё тваё сумніцельным перад табою; і не будзеш упэўненым у жыцці сваім. Раніцай скажаш: якім жа будзе вечар? а вечарам — якая будзе раніца? такім страхам напоўніцца сэрца тваё ад таго, што бачылі вочы твае. І верне цябе Гасподзь Бог у Егіпет на караблях, шляхам, пра які я гаварыў табе; і ўжо больш не ўбачыш шляху свайго, а прададзены будзеце там ворагамі вашымі ў рабы і рабыні, і не будзе пакупніка!..

Нарэшце Гамалііл сцяў вусны, і рука ягоная адрачона звісла з ложка.

Акібу стала млосна. Ён раптам зразумеў, што Гамалііл, бадай, і не трызніў, што словы ягоныя, напоўненыя злавесным, страшным сэнсам, прызначаліся не для яго, Акібы, а немаведама для каго, і што вымаўляў іх не гэты нямоглы стары, а нехта ўсемагутны, бязлітасны... А яшчэ згадаў Акіба, што прароцтвы Маісеевы наканаваныя былі сынам Ізраілевым за непаслушэнства волі Божай і за тое, што не паслухаюцца яны Таго Прарока, якога Гасподзь вылучыць з іхняга, яўрэйскага асяродку...

Хто ён, той Прарок? Ужо прыходзіў? Ужо спаўняюцца перасцярожныя прароцтвы Маісея? Бо чаму ж так пякельна і пакутна народу абранаму? А можа, гэта яшчэ толькі пярэдзімак? Можа, акурат і наспеў час збіраць камяні ў прадчуванні прыходу Збавіцеля?..

Няўцямна-трывожныя, жахлівыя хвалі, здавалася, праменіліся ад Гама-

ліла, абвалоквалі, захлыналі Акібу, ад чаго падкошваліся ногі і хацелася кінуцца прэч як далей...

Зваротны шлях Акіба адужаў незаўважна, можа, таму, што быў у глыбокім роздуме. І ўжо напрыканцы чамусьці ўсплыло ў ягонай памяці аблічча таго самага Сімона Бар Козібы...

## Вірсавія

Пасля працяглае і крывавае асады Ерусаліма, якая стала вынікам іудзейскай вайны 66-73 гадоў, горад быў разбураны дашчэнту. Тое, што не ператрушчылі штурмавыя атрады Веспасіяна, было зраўняна з зямлёю па загадзе Ціта[1]. У другі раз быў зруйнаваны і Храм[2], галоўная святыня іудзеяў. Калі аднойчы рабі Акіба разам з паломнікамі прыйшоў сюды на багамолле, з падзямелляў і руінаў былога Храма выскачылі шакалы. “Як?! — загаласілі паломнікі. — І гэта тое месца, пра якое напісана: “Бязбожнік, які наблізіцца да яго, умерцвелены будзе?!”

Праз 52 гады імператар Адрыян у час падарожжа па ўсходніх правінцыях наведаў Ерусалім і вырашыў адрадзіць горад, але назваць яго інакш — Эlia Capitalina[3]. І каб гэта была новая сталіца Блізкага Усходу — з форумам, базілікай, амфітэатрам, порцікамі і грамадскімі лазнямі. На месцы Храма павінен быў узнесціся іншы храм, прысвечаны галоўнаму рымскаму богу Юпітэру Капіталійскаму. Па задуме, будыніна павінна была быць чатырохкалоннай, як і ўсе храмы, узведзеныя Адрыянам у Сірыі. Карніз франтона планавалася перарваць аркаю, пад якою ўзвесці неймаверна вялізную статую Юпітэра. Уласную статую Адрыян пажадаў бачыць унутры храма. І вось ужо дзесяць год на месцы Храма, дый ва ўсім Ерусаліме, кіпела работа. Гэта і стала асноўнаю прычынаю, па якой рабі Акіба пачаў рыхтаваць паўстанне.

Для яўрэяў Ерусалім быў такім жа святым, як і сам Храм. І тое, што Божы горад аднаўляецца не імі самімі, а рукамі паганцаў, вымусіла іх дзясяткамі тысяч пакідаць абжытае месца, як пракажонае. Неўзабаве ў сталіцы Іудзеі амаль не засталося ніводнага яўрэя. Ягонае насельніцтва складалі ветэраны — былыя рымскія ваяры, а таксама перасяленцы з іншых краін. Горад быў падзелены на сем астраўкоў-кварталаў, на чале кожнага з якіх меўся кіраўнік — амфадарх.

Крыху адасоблена выглядалі хілыя, незайздросныя пабудовы, якія абляпілі схілы гары. Тут жыла галыцьба. Пераважная большасць яе называла сябе хрысціянамі.

Сюды, у заскарузлае, пыльнае і хаатычнае скопішча чэзлых будоўпрыбудовак, упэўненаю хадою кіраваўся з выгляду досыць малады, але ўжо трохі адрузлы, як недасыпаны мех пшаніцы, прыземісты чалавек у баграніцы. Менавіта баграніца, ды яшчэ аблямаваная залатою вышыўкаю, выдавала ў ім не просталюдзіна, а сама меней рымскага легата. На ягоных

---

[1] Веспасіян Флавій — рымскі палкаводзец, які ў ходзе іудзейскай вайны стаў імператарам (69 г. н. э.). Асада Ерусаліма працягвалася пад кіраўніцтвам ягонага сына Ціта, які пазней таксама стаў імператарам.

[2] Храм богу Яхве быў пабудаваны царом Саламонам (сынам цара Давыда) у канцы XI ст. да н.э. і разбураны вавілонскім царом Навуходанасорам II у 587 г. да н. э. Праз 70 год пад кіраўніцтвам Дарыі І Храм быў зноў пабудаваны першымі яўрэямі-перасяленцамі, якія вярнуліся з вавілонскага палону.

[3] Элія Капіталіна. Адрыян назваў горад у гонар свайго роду: поўнае родавае імя імператара — Публій Элій Адрыян.

злёгку клышатых нагах скуранымі рамянямі былі зашнураваны паўбоцікі, абрэзаныя спераду, з-за чаго пальцы вытыркаліся вонкі і ад цягучага пылу-куравы былі шэрыя, як восеньскі частакол. Да баграніцы-вышыванкі гэтыя абуціны не дужа стасаваліся, бо насілі іх звычайна простыя легіянеры і толькі зрэдку — цэнтурыёны. Прынамсі, каб перабірацца па камяністых вулках перадгор'я, лепшага абутку, чым гэты, салдацкі, бадай, і не знайсці. Так што хадок, мусібыць, выбраў яго наўмысна.

Затое ўся астатняя амуніцыя гэтага рымскага начальніка цалкам адпавядала вайсковым канонам, і можна было падумаць, што ён шыбуе не па загаджаных разваліннах Ерусаліма, а паперадзе легіянерскай калоны ўступае ў Рым падчас імператарскага трыумфа.

З-пад баграніцы, калі хадок занадта размахваў рукамі, раз-пораз мільгаў скураны панцыр. Шырокія лусты ззаду і спераду так ёмка мацаваліся рыпучымі рамянямі, што прыкрытымі былі грудзі, спіна, плечы і нават жывот. Паверх скура была абабітая зіхоткімі металічнымі палосамі — для трываласці. На шырокім поясе, злева, мацаваўся кінжал — пляскаты і такі доўгі, што здалёк яго можна было б палічыць за меч. З-пад груваcткага меднага шалома пазіралі на свет вузенькія, як байніцы, і вельмі ўжо нахабныя лупэткі. Яны гідліва зыркалі наўзбоч, а танкагубы рот ледзь не да вушэй крывіўся ад пагарды. Над шаломам, як грэбень у пеўня, лёгка і горда калыхаўся рыжы султан з пёраў нейкай экзатычнай птушкі. Гэта, дарэчы, трохі дзівіла рэдкіх сустрэчных мяшчан, якія жахліва прыціскаліся да сцен, каб саступіць дарогу, бо рымляне зазвычай чаплялі султаны толькі напярэдадні смяротнае бойкі.

Зрэшты, тыя ж султаны, толькі ўжо з серабрыста-шэрых конскіх хвастоў і таму вельмі падобныя на ссівелыя чупрыны, гайдаліся на шаломах і двух астатніх рымлян, які подбежкам ледзь паспявалі за сваім начальнікам.

Гэта былі прэтарыянцы, альбо эвакаці — былыя легіянеры-шарагоўцы ці нават цэнтурыёны, якія годна адслужылі ў войску дваццаць год і пайшлі на спачын, але па загадзе легата зноў прыступілі да службы як вопытныя, надзейныя, правераныя і доблесныя ваяры. Яшчэ іх называлі ветэранамі, і змагаліся яны ў асобных, прывілеяваных атрадах.

Гэтым ахоўнікам было натужна не адставаць ад гаспадара, бо на іх груваcціліся такія ж панцыры, толькі ўжо не металічна-скураныя: аднаго прыкрывала кальчуга, а на другім лёгка звякала металічнае лускавінне, замацаванае да скуранoе падкладкі. На пярэвязях — з левага пляча на правае бядро — боўталіся і пры такой шпаркай хадзе ляскалі па сцёгнах шырокія і кароткія, на тры чвэрці аршына, з абодвух канцоў дбайна завостраныя мячы, шчыльна загнаныя ў драўляныя похвы — у войску іх красамоўна называлі вагінамі. На нагах, апрача тых жа паўбоцікаў-кульцяпак, былі яшчэ понажы — пласціны, якія прыкрывалі ногі ад каленяў да галёнак, а ззаду, на лытках, зашмаргоўваліся завязкамі ці зашчэпкамі. Папраўдзе, у войску гэтых понажаў не насілі ўжо з часоў Юлія Цэзара, іх чаплялі хіба што асобныя цэнтурыёны ды такія вось закасцянелыя і ахайныя ва ўсім ветэраны. Яны сіпата саплі на ўсе грудзі — ад напругі, здавалася, паразрываюцца кальчужныя кольцы і сярэбраным градам хлыне на зямлю металічнае лускавінне, — аднак жа спраўна гупалі ўслед за чалавекам у баграніцы.

"Пеўнева"-задзірысты выгляд гэтых рымлян выдаваў на тое, што яны спяшаліся на хіжае рысталішча ці, самае меншае, хочуць нагнаць на некага вялікага страху. А што іх усяго трое, дык тое не бяда. Пасля таго, як

абражаныя і ваяўнічыя іудзеі схлынулі з горада — ходзяць пагудкі, што недзе на ўскраінах правінцыі яны збіраюць-такі свае войска, — у Ерусаліме стала зацішна. Яўрэі-хрысціяне — а большасцю ў горадзе засталіся толькі яны — ставіліся да кесара рахмана, паважліва, а спадцішка дык, можа, нават радаваліся незайздроснай долі сваіх самых родных братоў па крыві і самых лютых ворагаў па веры. Імператар таксама не чыніў для хрысціян нічога благога. Не сказаць, каб спрыяў, але ж і не заўважаў: як быццам іх, што вызначылі для сябе галоўным богам не ўсемагутнага Юпітэра, а нейкага немаведама скуль вынурлага Хрыста, увогуле не існавала. Так што ерусалімскія хрысціяне і рымскія акупанты, можна сказаць, жылі ў злагадзе.

Чалавекам у баграніцы быў Акіла.

Імператар Адрыян прызначыў яго галоўным кіраўніком па адбудове Ерусаліма. Хто-ніхто дзівіўся: за якую ласку гэты сінопскі грэк узлез на такую памысную пасаду? Хадзілі ўпартыя чуткі, што Акіла быў нейкаю раднёю імператару. Хто нарадзіў гэтую пагудку — немаведама. Мажліва, сам Акіла. Аднак жа праўда і тое, што яму глядзеў у рот сам легат-прапрэтар Іудзеі Ціней Руф. Пабойваўся. Мусіць, у тых чутках-пагалосках нешта ўсё ж было. Без дай прычыны на такое хлебнае месца імператар не пасадзіць.

Прыгорбленыя хацінкі галайстры, на адзін капыл злепленыя з блакітнабелых камянёў (такія льга было накалупаць толькі ў ерусалімскіх адгорках), прыціскалі свае плечы да зямлі і гарнуліся адна да аднае. Тая, у якую завінуў Акіла, ад іншых нічым не рознілася. Цельпукаватыя ахоўнікі, якія толькі што назахапкі валюхалі за гаспадаром, нарэшце атрымалі аддуху. У сярэдзіну яны не пасунуліся, без аніякага загаду (відаць, не ў навіну ім быў гэты манеўр-перабежка), укапана сталі па абодва бакі дзвярэй.

Каб трапіць у пакой, Акілу давялося трохі згорбіцца, хоць султан, як венік, усё адно казытнуў столь. Памяшканне было аздоблена настолькі аскетычна, што воку няма за што было зачапіцца, асабліва ў той паўцемрадзі, што выпаўзала са змрочных кутоў. Упол — даўжэзны стол з высокімі лавамі ўзбоч — пэўнае месца для зборняў. Дзе-нідзе на сценах, пад самаю столлю, разбэрсаны нейкія вышыванкі. Ад чыстае падлогі пахла свежаю крынічнаю вадою — далібог, тут нядаўна прыклалася жаночая рука.

За сталом сядзеў стары. Калі Акіла ўваліўся ў пакой, ён нават не варухнуўся. Пэўна, загадзя скмеціў, хто да яго ідзе, а можа, і падказалі. Доўгія срэбна-сівыя вусы на старэчым твары сцякалі на гэткага ж адцення густую бараду. Волкія і злёгку пукатыя вочы годна і нерухома пазіралі на госця.

Нават не павітаўшыся, Акіла пасунуўся да стала і гупнуў на лаву. Зняў з узмакрэлае галавы шалом, паклаў поруч, каля локця. Якую хвіліну абодва маўчалі.

— Дык што, Іуда, ты, кажуць, ужо конча выключыў мяне са сваёй хеўры? — нарэшце зларадна працадзіў скрозь зубы Акіла. — Кажаш, выспятка я атрымаў? Ну, чаго маўчыш ты, Іуда, епіскап ерусалімскіх хрысціян?

Стары варухнуў вуснамі:

— Нам трэ было старанііцца цябе толькі за тое, што ты называеш нас хеўраю.

— А то хто ж вы? Хеўра і ёсць. Ты думаеш, Іуда, сёння я завітаў да цябе, каб прыпасці да тваіх каленяў і прасіць літасці? Гы-гы-гы. Яшчэ немаведама, хто ў каго будзе прасіць...

— Ты пагражаеш?

Адкінуўшы назад ускудлачаную, чорную да асмолкавай зіхоткасці галаву, Акіла голасна зарагатаў:

— Пагражаць — доля слабых. Такія, як я, не пагражаюць. На правах мацнейшага яны адразу б'юць у зубы. Каб я захацеў вам напаскудзіць, не варта было сюды перціся. У мяне стае аблады, каб абтрэсці схілы Сіёна ад розных галганоў.

— Дык за чым заступорка?

Неспадзявана светла-каштанавы Акілаў твар падабрэў, шыракаляпы рот кончыкамі здрыгануўся ўгару.

— Ды заступоркі няма... Няма заступоркі... Вось толькі ці мецьме гэта карысць? Пачні я вас калашмаціць, дык вы яшчэ мне і аддзячыце. Вас жа хлебам не кармі — дай папакутаваць. Услед за Хрыстом. Паслухай, Іуда, — Акіла пасунуўся на лаве бліжэй да старога, ягоныя лупэткі прыязна бліснулі. — І чаго мы, насамрэч, пагрызліся? Чаго не падзялілі?

— Ты гэта добра ведаеш, — стары адказваў ледзяніста, гледзячы нават не на Акілу, а быццам скрозь яго. — Мы прынялі цябе ў нашую абшчыну безразважна. Мы не праглі тваіх грошай, не прасілі помачы, хоць усе нашыя вернікі дзеляцца між сабою астатнім гамёлкам хлеба. Мы цябе прынялі, бо для нас няма ні багатых, ні бедных. Мы шануем толькі душы, якія прагнуць дабра і веры. Мы цябе не клікалі — ты сам прыйшоў. Я не ведаю, што было ў цябе наўме. Адно відавочна — не вера. Ды што казаць: ты не спадобіўся зазірнуць ні на адну адправу...

— Ну, я чалавек заняты, сам ведаеш...

— Ведаю. Ведаю, што на Галгофу — самае святое для нас, хрысціян, месца, дзе камяні барвяніліся крывёю Госпада, — ты ўсцёг гэтую цыцкатую бабу.

— Ну-ну! Ты... гэтае... прыкусі сабе язык, — Акіла рыкнуў непадробнагрозна. — Ведалі б у Рыме, як ты абзываеш багіню Венеру, пакравіцельніцу Рыма, то спляжылі б усе вашыя котлішчы.

— Бог адзін... А ты, калі б быў сапраўдным, годным хрысціянінам, нізавошта не змусіўся б на гэткае непатрэбства. Касцьмі лёг бы, не пашкадаваў бы жыцця. А ты, во, спаганіў святыню і — анігадкі.

— Ды што ты плявузгаеш, Іуда? Ты ж выдатна ведаеш, што месца для статуі Венеры Мілоскай выбраў сам імператар. Хто я супраць яго? Не было б мяне, знайшоўся б іншы. І яшчэ немаведама, як бы вы, хрысціяне, тут без мяне скавыталі...

Епіскап спахмурнеў — ад краёчкаў ягоных густых вей да вушэй пабеглі глыбокія баразны.

— Прынамсі, Акіла, мы адракліся ад цябе не толькі за гэта. А лепей сказаць — зусім не за гэта.

— От далася вам у знакі мая астралогія! — Акіла грукнуў кулаком па стале, ды з такой сілай, што з яго, спуджана падскочыўшы, паляцеў і грымнуўся вобзем шалом. — Яе ж сам імператар за галоўную навуку прывячае! Сам імператар Адрыян!

— Кесару — кесарава, Богу — Богава, — прыцхла мовіў епіскап. — Хай імператар шалее хоць наўзахлёб — ягоная справа. Ён няхрышчаны. А ты крыж цалаваў, ты прычасціўся да нашых святыняў. Самыя здольныя вучні апосталаў сеялі ў тваю душу зерне веры, ушчувалі цябе, калі ты збочыў. І што? Ты паслухаўся іх? Не. Ты не даў рады свайму заганнаму і бязглуздаму захапленню: адною рукою хрысціўся, а другою маляваў д'ябальскія знакі. Раніцаю з тваіх вуснаў зляталі апантаныя малітвы, ты

даводзіў, што толькі Гасподзь — творца і ўладар усяго жывога на зямлі, а ўвечары, насуперак існаму, ты па бязладнаму россыпу нябесных зорак варажыў сабе на заўтрашні дзень і на астачу жыцця. Вера — альбо яна ёсць, альбо яе няма. Меншы грэх — заставацца ідалапаклоннікам, чым двурушнічаць перад Госпадам нашым. Вось чаму, Акіла, браты і сёстры адцураліся цябе. Ганьба табе, ганьба да скону!

— Ат! — махнуў рукою Акіла і скарачыўся, каб падхапіць з падлогі шалом. — Ад вашае ганьбы мне млосна не стане. Мушу прызнацца, што вашая вера мяне ніколі не казытала і чый прыхадзень ваш Хрыстос — бога ці д'ябла — мяне мала кранае. Хачу, каб з гэтага часу ты, Іуда, ведаў тую сапраўдную нагоду, з якой я прыбіўся да вашае гурмы. Вірсавія! Твая дачка! Яна запала мне яшчэ летась, калі ўпершыню трапіла на вочы. Дасюль памятаю, як гэта было. Яна правілася ад акведука, праз Вадзяныя вароты, аберуч трымаючы зіхоткую і слізкую ад вільгаці амфару. Клянуся барадою Юпітэра, такой пекнасці пазайздросціла б сама Алена, з-за якой усчалася Траянская калатэча. Я ажно самлеў — ці не сама Венера плыла ўсцяж парушаных муроў крапасное сцяны, з якое мае рабы калупалі глыбы для падмурка. Вось так яна і праслізнула — міма, а я толькі адкапыліў губы ды высалапіў язык. Калі змогся, дык найперш быў хэнць паслаць сваіх людзей ёй напярэймы, каб перастрэць і прывесці да мяне. Я ўсё ж у гэтым горадзе гаспадар, і ніхто не будзе спрачацца, калі прыдбаю яшчэ адну рабыню. Адале адумаўся. Што ж гэта я, насамрэч: такую пекнату і зблоціць сілком. На гэта вялікага клёку не трэба. Кальнула мне пад сэрца, што не яна для мяне наложніцай будзе, а я для яе — рабом... І ўсё вінна быць самахоць, у злагадзе. Таму я вобмельгам паслаў раба, каб ён правіжаваў, куды пакіравалася гэтая маладзіца. Ну, а што было пасля, ты сам, Іуда, ведаеш. Давялося мне прыкінуцца анёлам і веру вашую няўцямную прыняць, балазе імператар да яе ставіцца паблажліва. Палічыў, што для Вірсавіі аднаверац болей спадобіцца. Так што анафема вашая — для мяне як мёртваму баліць. І не буду я болей удавацца раскайным грэшнікам[1]... Дарэчы, а дзе яна зараз, Вірсавія? — Акіла ступіў было да дзвярэй, аднак на хвіліну затрымаўся.

Іуда, якога знешне зусім не праняла бессаромная споведзь грэка (мусібыць, усё гэта не было яму ў навіну, і ён конча зміры ўся са сваёю аблудаю), суха мовіў:

— Не ведаю.

— Ну-ну, — з непрыхаванаю пагрозаю скрыгатнуў зубамі Акіла. — Ад мяне не схаваецца. Цяпер яна будзе маліцца іншаму богу. Мне! — і зарагатаў ужо на вуліцы.

Тым часам тая, пра каго ішла гамана, акурат як палёўка ў норцы перад пысаю лісіцы, баялася дыхнуць у цесным, як стаць чалавеку, катуху-бакоўцы. Каб патрапіць сюды, трэ было кіравацца не з вулкі, а праціснуцца між будынінамі, збоку. Для чаго ён быў патрэбен, гэты катух — немаведама. Сюды скідвалі розныя атрускі, атопкі, а для Вірсавіі гэта была найлепшая хованка ад чужога вока, а менавіта ад агіднага Акілы, які сляпіцаю лез да яе ў абраннікі і зрэдчас рабіў сюды наскокі. Вось і цяпер Вірсавія своечасова скмеціла надакучлівага жаніха і паспела чуйдух нырнуць у шчыліну. Пра гэты закутак Акіла не ведаў. А хоць бы і ведаў, дык пры сваім поўным парадзе, пры сваіх прычындалах застраў бы тут, як парсюк у плоце.

---

[1] Паводле некаторых крыніц, у прыватнасці, Епіфана Кіпрскага, Акіла потым "прыняў абразанне па іудзейскаму абраду" і нават пераклаў Тору на грэчаскую мову.

Вірсавія чула ўсю размову і не выбіралася са сховішча да тае пары, пакуль рогат Акілы не растварыўся ў нудным гарадскім гуле. Душна, цёмна было ў катуху — хоць вока выкалі. Аднак жа калі льга было б хоць на вобмег пырснуць сюды крыху сонца, вочы самохаць, каб не аслепнуць, прыжмурыліся б ад прыгажосці неймавернае. Меў рацыю Акіла: дзяўчынумару такой пекнаты можна шукаць усё жыццё — і марна.

Паэты зазвычай пачынаюць з вачэй. Бо з іх, кажуць, глядзіцца душа. У Вірсавіі вочы, па-ўсходняму крыху звужаныя, былі не чорныя, не шэрыя, не зялёныя і не блакітныя. Ейныя зрэнкі, нібы выкладзеныя з featured рознакаляровых шкельцаў, нагадвалі старажытныя мазаікі, пасярэдзіне якіх — сонейкамі падчас зацямнення! — праменіліся бяздонныя чорныя кропачкі. Паверсе скацерчатымі мохрамі, як дзве тлустыя коскі, выгіналіся бархатныя веі. Носік прамы, прадаўгаваты, са злёгку пашыранымі ноздрамі знізу — пэўная прыкмета чалавека жарснага і чуллівага. А вянец усяму — маленькі пунсовы роцік з прыпухлаю верхняю губкаю — ну чым не бутончык ружы, гэткі ж юны, пяшчотны і злёгку вільготны ад ранішняе расы — так і хочацца прыкласціся да яго вуснамі. Гэтая прыпухласць губ, ды яшчэ ледзь прыкметны цёмны пушок над імі надавалі дзявочаму твару выраз дзіцяці, у якога толькі што адабралі любімую цацку. І пашкадаваць хочацца, і ледзь трымаешся, каб не пырснуць ад смеху. Зрэшты, калі позірк апусціцца ніжэй, ён абавязкова зачэпіцца за нясмелыя вясновыя замчышчы нечапаных, цнатлівых грудзей, якія вулканчыкамі пнуцца з-пад цеснай сукенкі і сведчаць, што перад табою — зусім не дзіця.

І вось гэтае хараство, на хаду распускаючы сабраныя ў пук асмолкавыя валасы, выбралася, нарэшце, з катуха і прыгарнулася да Іуды.

— Татачка, што будзем рабіць? Ён жа не адчэпіцца...

Уласна, дачкою Іуды Вірсавія не была. У яго ўвогуле ніколі не было сваіх дзяцей, гэтак жа як і абручніцы. Тады, калі легіёны імператара Траяна лютавалі, пляжылі, тапілі ў крыві чарговы іудзейскі бунт, калі трупы не паспявалі прысыпаць жвірам і яны зморшчана-пераспелымі жалудамі дагнівалі па ўсёй пустэчы, калі па колкай жарстве перасмяглых дарог безнадзейна бадзяліся зграі звар'яцелых сабак, закормленых чалавечынай, і чародкі асірацелых дзяцей, ссохлых, галодных, змучаных, — тады і прыбілася да Іуды двухгадовае дзяўчо. Ён дабіраўся ў Ерусалім з Віфлеема, дзе быў па справах абшчыны, і пры дарозе румзала гэтае лічы што немаўля. І прабяжы вокам да акаёму — ні душы. Не пакідаць жа на згубу — ці загрызуць сабакі, ці памрэ з голаду і смагі. Павёў за сабою, балазе дзяўчо ўжо тупала ўласнымі ножкамі.

Няпроста было Іуду пад старасць зрабіцца нянькаю. А куды дзенешся? Карміў, пеставаў, абмываў. Гэтак Богу спадобілася. І вось глядзі-тка, якая царэўна вырасла.

Іуда дрыготкімі тонкімі пальцамі пяшчотна правёў па чорных, з блакітным адлівам, валасах Вірсавіі.

— Нічога, дачушка, Гасподзь нас не пакіне. Гасподзь міласцівы... Будзем маліцца...

## Месія

Сустрэча з Гамаліілам не толькі не дала Акібу нейкага заспакаення, але нават яшчэ болей развярэдзіла. Выходзіць, ягоныя намаганні сапраўды былі марнымі і паўстанне асуджана на паразу. Падсвядома Акіба і сам, да раз-

мовы з Гамаліілам, адчуваў, што людзям адных заклікаў мала. Ім патрэбна вера ў перамогу. І кожны яўрэй з маленства ведаў прадказанне прарокаў, што збавенне наступіць з прыходам Месіі. А дзе ён, той Месія? Чаму так доўга дазваляе язычнікам здзекавацца са свайго народа? Не стае ўжо сілы трываць... І што рабіць цяпер, калі сабрана хай сабе не такое вялікае, але ўсё ж войска? Распусціць? Пакінуць без кіраўніка, як статак авечак без пастуха? Але ж ці для таго яны дабіраліся сюды з усяе зямлі?

Месія... Акіба пабачыў нямала ашуканцаў, якія выдавалі сябе за Збавіцеляў. Выкрыць іх было няцяжка. І то: хіба будзе Месія біць сабе ў грудзі і даводзіць, што менавіта яго прыслаў Гасподзь? Сапраўднаму Месіі нічога даказваць не трэба. Гэта пацвердзяць ягоныя справы і ўчынкі.

Апошнім часам Акіба ўсё часцей лавіў сябе на думцы, што ў ягоныя развагі і роздумы міжволі ўкліньваецца той самы Сімон Бар Козіба. Хто ўсё ж ён такі? Чарговы ашуканец? Падобна, што так. Але ж чаму ён з’явіўся менавіта цяпер, калі патрэба ў Месіі адчуваецца найбольш? Выпадковасць? А можа, Гасподзь акурат і паслаў яго, хай сабе не Месію, каб не пакінуць Акібу на раздарожжы?

І вось наспеў дзень, калі Акіба прыйшоў да канчае высновы і вызначыўакрэсліў для сябе план дзеянняў.

З самае раніцы ахоўнік Пінхас па загадзе Акібы падаўся ў вайсковы лагер за ваколіцаю Бетара, дзе муштраваліся і набывалі такія-сякія навыкі будучыя ваяры. Пінхас не мог забыць, куды ён колькі тыдняў таму адвёў Сімона Бар Козібу, бо гэта быў акурат атрад ягонага земляка Яная.

Камяністае пласкагор’е перад сценамі крэпасці кішэла людзьмі, зычныя крыкі камандзіраў зліваліся з бразгатам мячоў. Здалёку-звысака гэтае зборышча нагадвала хаатычна-мітуслівы мурашнік, аднак, як і ў любым мурашніку, калі добра прыгледзецца, тут быў свой парадак і сэнс. Ніхто нікому не зашкаджаў, кожны атрад меў пэўнае месца.

У гэтым кішмені Пінхас адразу заўважыў мажнога Сімона, аднак спачатку падаўся не да яго, а да Яная, які крыху воддаль нешта даводзіў зусім яшчэ юным хлапчанятам. Можа, і не выпадзе болей перакінуцца словам з земляком: ходзяць чуткі, што вось-вось войска рушыць на Ерусалім...

Янай непрыхавана ўзрадаваўся госцю, шчыра яго абняў.

— Ну, што там чуваць пры начальстве? Ці доўга нам марнаваць час?

— А каб жа я сам ведаў. — Пінхас перасмыкнуў плячыма. — Акіба са мною планамі не дзеліцца... Аднак жа не нашага з табою розуму гэтая справа. Ты лепей вось што скажы: ці даспадобы табе мой “падаруначак”? Памятаеш, я прывёў да цябе ву-унь таго мацака?

— Ты пра каго? Пра Сімона? Дык ён жа цяпер мая правая рука!

Пінхас усміхнуўся:

— Баюся, што гэтую руку мне зараз давядзецца адсекчы...

— Не зразумеў.

— Яго кліча да сябе Акіба. Прадчуваю, што не для застольнае размовы і не для споведзі: з кожным сустрэчным-папярэчным Акіба валаводзіцца не будзе... Мне гэты Сімон з першае хвіліны дзіваком падаўся. Вястун ад Бога... І гэты адсечаны мезенец... Не, нейкі ён не такі як усе. Далібог, не такі. Зрэшты, Акіба лепей за нас разбярэцца.

За нязмушанаю гамонкаю Пінхас і Янай няспешна набліжаліся да Сімона, які адчайна адмахваўся мячом ад дваіх сваіх праціўнікаў. Быў ён аголены да пояса, і магутны смуглявы торс, па якім сцякалі ручаіны поту, нагадваў гліняна-каменную глыбу падчас навальніцы.

Захопленыя ўяўным боем, Сімон і ягоныя “ворагі” супыніліся толькі пасля таго, як Янай тройчы гаркнуў на ўсю глотку:

— Годзе! Годзе! Годзе!

Нарэшце Сімон скмеціў Пінхаса, пазнаў, аднак ніякага здзіўлення ці насцярогі не выказаў, быццам толькі і чакаў гэтае сустрэчы. Ён пільна зірнуў у вочы ахоўніку і так, што немагчыма было зразумець, пытаецца ён ці сцвяржае, мовіў:

— Мяне кліча Акіба.

Ад здзіўлення Пінхас прастакавата залыпаў вачыма і адно толькі змог кіўнуць галавою.

— Я гатовы ісці, — Сімон ужо выціраў свае ўзмакрэлыя грудзі. – А з сабою вазьму вунь таго юнака, — ён паказаў на Архелая.

У ягоных словах гучала такая ледзяная непарушнасць, што ні Янай, ні Пінхас запярэчыць не здолелі.

Тым часам у келлі Акібы ішла досыць жвавая размова. За сталом сядзеў хударлявы мужчына гадоў шасцідзесяці, мяркуючы па апратцы і звіслых да шыі пасівелых пейсах, таксама святар. Падцяўшы і без таго тонкія вусны, ад чаго доўгі гарбаты нос выцінаўся з твару яшчэ мацней, ён найболей слухаў, зрэдку аздабляючы гамонку кароткімі пытаннямі. Сам Акіба тупаў туды-сюды і, узважваючы, нібы камяні ў падмурак, кожнае слова, з розгадам даводзіў свае думкі. Зрэшты, здавалася, ён нічога нікому не даводзіў, а размаўляў сам з сабою, нібы імкнуўся ў каторы раз сябе ж і пераканаць.

Акіба запрасіў рабі Шымона бар Іёхая, якога ўсе па-просту, скарочана называлі Рашбі[1]. Рашбі быў самым здольным вучнем Акібы і найпершым паплечнікам. Яны разам цягаліся па свеце, збіраючы войска, разам яго рыхтавалі. Акіба лічыў Рашбі сваім пераемнікам. Сярод вучоных яўрэяў Рашбі быў найлепшым астраномам. Яго ведаў нават імператар Адрыян, бо сам захапляўся гэтаю навукаю. Зрэшты, цікавасць вучня да нябёсаў Акіба не ўхваляў.

Спачатку Акіба да драбніц распавёў Рашбі пра сустрэчу з Гамаліілам. Аповед атрымаўся змрочным і безвыходным.

— Што ж нам рабіць? Чакаць, пакуль з’явіцца Месія? — задаваў пытанні Акіба і сам жа на іх адказваў. — Мы не можам чакаць. Людзі занудзелі ад бяздзейнасці, яны рвуцца ў бой. Але ж нас яшчэ настолькі мала, што мы не адужаем нават Ерусалімскі легіён[2]. Народ не пайшоў за намі. Народ запалоханы мінулымі крывавымі бойнямі. Дык што: распускаць наймітаў? Расчараваць тых, хто нам усё ж паверыў? Гэта было б здрадаю... Гамалііл сапраўды выказаў ісціну: толькі Месія здолеў бы вытравіць з душ гэты страх, толькі ён змог бы ўскалыхнуць Палесціну. І Месія прыйдзе...

Апошнія словы Акіба вымавіў амаль урачыста і ўзнёсла. Рашбі ж ажно здрыгануўся ад пачутага.

— Настаўнік, ты размаўляў з Богам?

Акіба быццам не пачуў пытанне і працягваў свой маналог:

— Калі народ патрабуе Месію, ён з’явіцца, павінен з’явіцца. І мы ў гэтым яму дапаможам.

---

[1] Абрэвіятура з першых літар Рабі Шымон Бар Іёхай. Адзін з самых паважаных іудзейскіх мудрацоў. Ён аўтар асноўнай кнігі Кабалы — “Зогара”.

[2] Пасля паўстання 66-73 гг. і зруйнавання Ерусаліма рымляне трымалі на ягоных развалінах легіён Decima Pretensis (10-ы легіён), а таксама іспанскія і гальскія дапаможныя атрады — усяго 7200 чалавек.

Акіба на колькі хвілін прымоўк, дазваляючы Рашбі асэнсаваць свае словы.

— Я цябе не зразумеў, настаўнік, — нарэшце мовіў Рашбі. — Што значыць “мы дапаможам”?

Акіба супыніў хаду і ўжо без аніякай урачыстасці адказаў:

— Калі Месіі няма, мы яго прыдумаем. Мы абвесцім, што нашчадак цара Давыда сышоў на зямлю, каб аб’яднаць усіх яўрэяў і на ўсе астатнія вякі ўсталяваць царства міру, як сказана ў Торы. І народ пойдзе за Месіяй на любую бітву.

Збянтэжаны Рашбі ажно прыгорбіўся над сталом:

— Настаўнік, але ж гэта... гэта... грэх. Грэх перад Госпадам! Ты хочаш быць... роўным Богу!

— Гэта не грэх! І ў мяне не было нават думкі раўняць сябе з Богам — я Ягоны вечны раб, — Акіба амаль што перабіў Рашбі і свае доказы выказаў адным прыдыхам, відаць, самому сабе выкладваў іх не аднойчы. — Не можа быць грахом дзейства, скіраванае на тое, каб палепшыць долю абранага Богам народа! Мы звыклі ва ўсім спадзявацца толькі на Госпада. Прынясе і падасць. А самі? Што зрабілі мы, каб паскорыць з’яўленне сапраўднага Месіі? Каб усталявалася царства міру, трэба прайсці праз жорсткую вайну...

Акіба трохі суцішыў свой імпэт і ўжо зусім ціха дадаў:

— А калі гэта ўсё ж сапраўды грэх... калі сапраўды... што ж, я вазьму яго на сваю душу. І буду да скону прасіць Бога, каб Ён мне яго прабачыў...

На гэты раз маўчанне задоўжылася як ніколі і было нават напружаным. Першым парушыў яго Акіба:

— Чаму я распавёў табе пра сваю задуму? Вырашыў частку граху перакласці на твае плечы? Мог я, скажам, абвясціць Месію, не параіўшыся з табою? Мог. І мне паверылі б. Дык чаму ж уцягнуў у гэта цябе? Ты мой вучань. Лепшы вучань. Колькі часу мы разам з табою па кропельцы збіралі тое, што ёсць. Паўстанне — не толькі справа майго жыцця, але і твайго. І калі мы не пераможам, гэта будзе і тваёй трагедыяй. І яшчэ вось што, можа, нават самае галоўнае... Будзе вайна. Будзе смерць. І немаведама, што можа здарыцца са мною. Магчыма, табе аднаму давядзецца падтрымліваць веру народа ў Месію. А для гэтага ты павінен ведаць праўду...

Рашбі ўжо не выглядаў такім разгубленым і збянтэжаным, было бачна, што ідэя Акібы паволі запаланяе і ягоны розум.

— Хто ён? Ты ўжо зрабіў выбар, настаўнік?

— Для гэтага мне не давялося прыкладваць шмат намаганняў. Ён прыйшоў сам. А можа, лепей сказаць, што яго сапраўды прыслаў Бог? Хай сабе не як Месію, а як збавенне ад нашых з табою пакут. Бо нічога на зямлі не дзеецца без волі Божай... Нядаўна ў гэтай келлі стаяў чалавек, які горача даводзіў мне, што ён акурат і з’яўляецца Месіяй. У доказ на маіх вачах адсек сабе палец. Паводле ягоных слоў, ён спусціўся ў Бетар з аддаленага і малавядомага горнага мястэчка. Там ён сабраў досыць шматлікі атрад, з якім напаў на мясцовы рымскі гарнізон. Вядома ж, іх, неабвучаных і амаль безбройных, перабілі, як авечак. Ён выжыў адзін. Цудам. І пры гэтым быццам бы пачуў голас з неба, які благаславіў яго ўзначаліць паўстанне супраць рымлян... Пра бойню ў рымскім гарнізоне я магу паверыць: бачна, што той чалавек не з кагорты баязлівых і мужнасці яму стае. А пра голас з неба... Не думаю, што ён маніў. Проста яму, параненаму ў галаву, усё гэта прымроілася. Зрэшты, можа яно і лепей. Калі чалавек перакананы ў сваёй

праўдзе, ён зверне горы. Ва ўсякім разе, ён не лічыць сябе ашуканцам і прайдзісветам, яму не трэба ілжыва выдаваць сябе за Божага пасланніка, бо менавіта ім ён сябе шчыра і лічыць. Ад гэтага прасцей і мне: мой грэх, калі ён сапраўды ёсць, будзе не такім вялікім.

— Як яго завуць?

— Завуць? Завуць Сімонам. Сімон бар Козіба...

— Бар Козіба?!

— Дзіўна, ці не праўда?.. Сын ашуканца...

— Вось-вось...

— Не варта на гэта зважаць. Калі б ён папраўдзе быў ашуканцам, прыдумаў бы сабе іншае прозвішча.

— І ўсё ж мяне гэта бянтэжыць. Уяві сабе, настаўнік: ты абвяшчаеш яго Месіяй і тут жа называеш сынам ашуканца. Што падумае народ?

— Народ падумае тое, што трэба. Бар Козіба... А чаму не Бар Кохба[1]?! Гучыць амаль аднолькава...

Рашбі страціў мову. Крыху ачуняўшы, прыглушана сказаў:

— Дзіўнае супадзенне. Проста неверагоднае. Рабі, а можа... можа ён і ёсць... Месія?

Акіба незадаволена зморшчыў твар:

— Гэта не Месія, павер. Мне быў бы знак. Адтуль. Да таго ж, я добра ведаю людзей. Колькі іх было, самазванцаў...

— І ўсё ж ягонае з'яўленне не здаецца мне выпадковым...

— Пакінем гэта, — Акібу не хацелася задужа разгортваць тэму "сын зоркі". — Хоць я і задаволены, што ў тваю душу закінута семя сумневу. Аднак мяне турбуе іншае. Калі мы абвесцім Бар Козібу... Бар Кохбу Месіяй, кіраваць паўстаннем пачне ён. Народ пойдзе за ім. Бо хто мы такія? Рабы Госпада. А ён — Ягоны пасланец. Сілы і мужнасці ў Сімона досыць. Гэта адчуваецца. Але ці хопіць яму развагі і вайсковае мудрасці?

— Я думаю, нам не абавязкова перадаваць яму ўсю абладу над войскам. Там, дзе трэба, падкажам. Мы ж заўсёды будзем поруч...

— Вось тут ты памыляешся. Не забывай: Сімон сапраўды лічыць сябе Месіяй. Можа наспець час, калі нашыя парады яму абрыднуць і ён пазбавіцца ад нас, як ад непатрэбнага ашмёцця. Гэта адно. А другое — нам так ці інакш не абысціся без вайсковага кіраўніка. Што мы з табою можам? Пераканаць, заклікаць, натхніць. Але ж некаму трэба ісці і паперадзе войска, за сабою весці народ на бітву.

— Чакай, настаўнік. Мяне найбольш хвалюе твая першая турбота. Выходзіць, мы сваімі рукамі можам сябе ж і закапаць? Выпусцім у свет Месію, а ён аднойчы ўзбрыкне і не будзе мець у нас патрэбы? Калі ты, настаўнік, гэта прадбачыш, дык навошта ўсчыняць хібную гульню?

Акіба адказаў не адразу. Пратупаў у глыбіню цемры, да ложка, і ўжо адтуль данёсся ягоны стомлена-сцішаны голас:

— У нас няма іншага выйсця. Без Месіі паўстанне зачахне — тут не аспрэчыш. На кім бы мы ні спынілі свой выбар, такая небяспека будзе існаваць. Сімон якраз, мне здаецца, не самы горшы выбар. Ва ўсялякім разе, адчуваецца, што чалавек ён сумленны, а галоўнае — гатовы пакласці жыццё за свабоду Іудзеі. І мяне, папраўдзе, не дужа палохае тое, што калі-небудзь я стану яму ўпоперак сцежкі і ён адштурхне мяне на ўзбочыну.

---

[1] Бар Кохба — сын зоркі. У 17 вершы XXIV главы кнігі Чыслаў сказана: "Зорка (какаб) узыдзе ад Якава". Гэтаму вершу яўрэі надавалі месіянскі сэнс.

Мой асабісты лёс мяне мала хвалюе. Для мяне досыць, каб я ведаў, што паўстанне пераможа. А хто будзе яго ўзначальваць — Бар Кохба ці Акіба — не гэтак важна.

Акіба зноў вярнуўся да стала, прысеў побач з Рашбі.

— Сімон для нас акурат дарэчы яшчэ з аднае нагоды. Яго амаль ніхто не ведае. А тых, хто ведаў, перабілі рымляне. Месія павінен з'явіцца Адтуль, а не з горнага мястэчка...

У гэты момант у дзверы келлі пастукалі звонку. Гэта, безумоўна, Пінхас.

— Ну, вось, зараз на твае вочы з'явіцца той самы Сімон Бар Козіба, — Акіба даволі борздка, што для ягонага ўзросту і паводзінаў было нязвыкла, падхапіўся і сам пайшоў адчыняць дзверы.

Рашбі моцна ўразіў знешні воблік Сімона. Гонкі, шыракагруды, прыгожы. Мусіць, сапраўдны Месія такім і павінен быць. Левую руку Сімон увесь час адводзіў за спіну, быццам нешта ў ёй хаваючы. Праўда, Рашбі з першае хвіліны скмеціў, што рука проста абпаленая, і зразумеў: Сімон абсмальваў рану, каб у яе не трапіла якая-небудзь зараза. Значыць, дзяцюк няхілы, боль цярпець умее.

Як і пры першай сустрэчы, Бар Козіба трымаўся пачціва, паболела хіба што годнасці. Пэўна, разважаў так: калі Акіба паклікаў, то, можа, і паверыў.

Адаслаўшы Пінхаса за дзверы, Акіба падступаўся да галоўнае размовы здалёк. Дзе ўладкаваўся, ці падабаецца служба... Сімон разумеў, што гэта толькі прыказка, што паклікалі яго зусім не для таго, каб пацікавіцца ягоным жыццём-быццём, таму на пытанні адказваў стрымана. Адно калі распавялі пра войска, дазволіў сабе зрабіць колькі заўваг: пра дрэнную дысцыпліну, слабое ўзбраенне ды неналежную баявую вывучку. Акібу гэта спадабалася: задаткі кіраўніка ў Сімона былі відавочнымі.

Нарэшце Акіба, стоячы спінаю да Сімона — падчас размовы ён ніводнага разу не дазволіў сабе прысесці, — нібы цераз плячо, кінуў сваё іранічнае пытанне:

— Дык ты па-ранейшаму лічыш сябе вестуном ад Бога?

— Рабі, я не ведаю, што адказаць. Ты — самы мудры чалавек на гэтае зямлі, і табе бачна лепей. Я толькі пераказаў тое, што бачыў і чуў.

Акіба павярнуўся.

— Дык вось, Сімон, маё апошняе слова. — Я цябе расчарую, бо, як і раней, упэўнены: ніякі ты не Месія. Аднак і ашуканцам цябе не лічу. Проста табе ўсё прымроілася...

— Рабі! — памкнуўся было нешта запярэчыць Сімон, аднак уладарным жэстам Акіба яго абсек.

— Я хачу, каб ты толькі слухаў — і нічога болей. Спадзяюся, ты цяміш, што сёння я паклікаў цябе зусім не для таго, каб яшчэ раз засведчыць, што ты — наўмысна ці незнарок — памыляешся. У мяне хапае іншых турбот. А галоўная з іх — Палесціна не падтрымала паўстанне. Вось чаму зараз і патрэбен Месія, за якім пойдзе народ. Зразумеў? Месіі няма, але ён патрэбен! І ён з'явіцца! І ім будзеш ты! — апошнія словы Акіба выгукнуў ледзь не крычма.

Збянтэжаны Сімон, утаропіўшыся ў Акібу, ніяк не мог пераварыць пачутае. І то: спярша яго абзываюць самазванцам, а праз хвіліну ў літаральным сэнсе ўзносяць да нябёсаў.

Акіба (ён крыху супакоіўся) працягваў:

— Табе не трэба будзе тварыць цуды ці чытаць пропаведзі — тым болей што ты гэтага і не ўмееш. Ты будзеш выконваць толькі тое, што скажам мы, — Акіба кіўнуў у бок Рашбі, які дагэтуль у размову так і не ўступаў. — Ніякай самадзейнасці! Кіраваць войскам непасрэдна на полі бітвы — калі ласка! Але кожны свой крок узгадняць са мною. З сённяшняга дня — ніякіх зносінаў з жыхарамі Бетара, — маналог Акібы ўжо болей нагадваў загад. — Ніякага панібрацтва са знаёмцамі ці былымі сябрамі. Сімона Бар Козібы для іх болей няма, а ёсць Месія, памазанік Божы, нашчадак цара Давыда. Дарэчы, з гэтае хвіліны сатры сваё імя і з уласнае памяці. Цяпер ты не Бар Козіба, а Бар Кохба, сын зоркі, якая ўзышла ад Якава. Зрэшты, у цябе будзе цэлы тыдзень, каб хоць збольшага спасцігнуць мудрасць Торы. Паважаны рабі Рашбі табе ў гэтым падсобіць. Пінхас падбярэ для цябе належнае памяшканне, куды дачасна не зазірне ніводнае чужое вока. Гэта — коратка. Але ў нас яшчэ будзе час, каб абмеркаваць усё дэталёва. Ну, што, табе ўсё зразумела... Бар Кохба?

Лавіна Акібавых слоў зусім збіла Сімона з панталыку, ён адно толькі здолеў нема кіўнуць галавою і няўпэўнена папрасіць:

— А можна, са мною будзе знаходзіцца адзін... юнак?

— Хто такі? — Акіба насцярожыўся.

— Яго завуць Архелаем. Ён там, за дзвярыма. Разумны хлопец. Але сірата. Без мяне ён прападзе. Быў бы мне добрым памочнікам...

Акіба вагаўся. Нарэшце, прыкінуўшы, што з часам для Бар Кохбы ўсё адно давядзецца падбіраць атачэнне, махнуў рукою:

— Бяры.

І ўжо звяртаючыся да Рашбі, падвёў рысу размове:

— Праз тыдзень склічам сінедрыён.

## Прышэсце

З раніцы Бетар выглядаў асабліва святочна. І хоць ніякіх знешніх пазнак не назіралася, але, здавалася, і сонца ўзышло ўрачыста-велічна, і паветра трымціць усхвалявана. Не было чуваць звыклага бразгату мячоў на ўскраінах, рынак не поўніўся галасамі-гулам, нават абрыдлыя ўсім жабракі як быццам некуды зніклі, прытаіліся. Горад увогуле неспадзявана прыціх, супакоіўся. Аднак заспакоенасць была ўяўнаю, напружанаю — акурат гэтак пачувае сябе чалавек перад значнай падзеяй ці вырашальным выбарам у сваім жыцці.

Напярэдадні, можа, за тыдзень да гэтага, па Бетары папаўзлі неймаверныя чуткі. З вуснаў у вусны перадаваліся адныя і тыя ж словы:

— Месія!.. Прыйшоў, нарэшце, Месія! Ён вось-вось аб'явіць сябе народу!

Воля гэтым чуткам была дадзеная па загадзе самога Акібы. Далёка не ўсе рабіны сінедрыёна ўспрынялі ягоную абвестку пра блізкі прыход Месіі як належыць — з вераю і ўзнёсласцю. Вельмі ўжо крывавымі, пакутнымі былі папярэднія часіны для іудзеяў. Не дзіва, што хто-ніхто зняверыўся, страціў надзею, палічыў, што Яхве ўвогуле назаўжды адвярнуўся ад абранага народа, бо народ гэты парушыў Закон. Да таго ж, колькі іх было ўжо, самазванцаў, якія абвяшчалі сябе нашчадкамі Давыдавымі!.. І на гэты раз, нягледзячы на тое, што словы пра Месію прагучалі з вуснаў самога Акібы, паверылі збавенню не ўсе. Рабі Іянатан бар Торта на сінедрыёне нават усклікнуў:

— Акіба! Хутчэй трава прарасце скрозь твае мёртвыя сківіцы, чым прыйдзе сын Давыда!

Астатнія хоць і не пярэчылі, не задавалі пытанняў, аднак успрынялі абвестку моўчкі. Палічылі: “Калі Акіба так робіць, значыць, мае нейкі намер. А намер ягоны дрэнным быць не можа...”

Акіба прадчуваў, што менавіта так яно і будзе, што ў сінедрыёне знойдуцца хай сабе і маўклівыя, але скептыкі, якіх пераканаць не ўдасца. Таму і не прывёў туды Сімона Бар Кохбу. Адно што яму сапраўды варта хоць трохі засвоіць асновы Торы, а другое — з’яўленне Месіі павінна адбыцца пры ўсім народзе, урачыста, тады і яны, скептыкі-рабіны сінедрыёна, магчыма, натхняцца людскою ўзрушанасцю і таксама хоць трохі, але паверацьу сапраўднае прышэсце. Акіба не сумняваўся, што зняверaныя рабіны ўсё адно запусцяць у народ пагудкі пра лжэ-Месію, таму вырашыў апярэдзіць іх, загадзя даўшы волю пагалосцы пра сапраўднага Збавіцеля.

І намаганні Акібы дасягнулі мэты. Просты люд, у адрозненне ад знявераных рабінаў, успрыняў чуткі-звесткі адмыслова. Дый што яму заставалася? У гаротным, беспрасветным жыцці з’явілася не проста хоць якая надзея, а цвёрдая ўпэўненасць у будучыні.

Напярэдадні, надвячоркам, у мястэчка, дзе размясціўся атрад Янaя, прыскакаў на кані веставы з Бетара, наказаў, каб заўтра раніцай Янай са сваімі паплечнікамі кіраваўся ў горад, да галоўнае плошчы. Што там адбудзецца, ён не сказаў, магчыма, і сам дакладна не ведаў, аднак у стасунку з чуткамі пра Месію здагадка акрэслівалася досыць пэўна...

Атрад Яная быў невялікі, усяго тры дзясяткі чалавек, аднак яго можна было лічыць баявою адзінкаю, згуртаванаю, маналітнаю, бо ўсе добра ведалі адзін аднаго. Яшчэ тры тыдні таму яны разам жылі ў паселішчы пад Эн-Гадзі, а затым, адгукнуўшыся на покліч цесляра Яная, падаліся сюды, у Бетар, дзе збіраліся сілы для паўстання. Пераважна то былі дзецюкі, не абцяжараныя сем’ямі, і для іх будучая вайна ўяўлялася цікаваю прыгодаю.

У Бетар атрад Яная выправіўся на досвітку. Знешне ён нагадваў звычайны натоўп, бо ніякага падабенства з рымскімі ваярамі, якія хадзілі ў дысцыплінаваных калонах, не было і блізка. Дый узбраенне было такім, што гэты натоўп бачыўся хутчэй не вайсковым згуртаваннем, а шайкаю рабаўнікоў: на ўвесь атрад усяго сем мячоў, астатнія мелі толькі нажы, а хто дык і ўвогуле трымаў у руках кол.

Чым бліжэй атрад Яная падыходзіў да галоўнае плошчы, тым болей запаволеным рабіўся рух. Вуліцы горада нагадвалі чалавечыя рэкі, якія цяклі ў адным кірунку і з кожнаю хвіляю папаўняліся з ручаінаў-завулкаў. У гэтай каламутнай плыні лёгка было рассеяцца, растварыцца, але апалчэнцы Яная трымаліся купінаю, туліліся плячыма адзін да аднаго.

З сотняў вуснаў зляталі адны і тыя ж словы, здавалася, яны папросту вісяць у паветры:

— Месія! Прыйшоў Месія!

— Нарэшце скончацца нашыя пакуты...

— Сёння мы пабачым Збавіцеля!

Да сярэдзіны плошчы, дзе, як меркавалася, адбудзецца галоўная падзея, Янаю з паплечнікамі праціснуцца не ўдалося. Так што назіраць за будучым дзействам амаль нікому не выпадала — толькі слухаць. Хіба што цыбатаму Ювалю, галава якога вытыркалася над натоўпам, нібы карчага над паверхняй возера, бачылася ўсё як на далоні. І цяпер тыя, хто звычайна ладзілі бяскрыўдныя кепікі з ягонага гонкага, як сцябліна папіруса,

тулава і перахлябістай шыі, Ювалю зайздросцілі. А зусім абдзеленаму ростам Нахуму дык і ўвогуле давялося тыцкацца носам у спіну асілка Гефена, які стаяў папярэдзе. Нахум адчайна круціў галавою, станавіўся на дыбачкі, каб уторкнуцца позіркам у шчыліну паміж запацелымі шыямі тых, хто высіўся перад ім, аднак добра бачылася толькі светла-блакітнае, без адзінай аблачынкі, неба...

Янай заўважыў высілкі Нахума, яму стала шкада хлопца, які хоць і не быў адметны ростам, але вызначаўся неверагодным спрытам і жыццёвай кемлівасцю.

— Працiскайся да мяне! — галёкнуў Нахуму Янай. — Падсаджу цябе на сваю шыю!

Яно і праўда: шыя ў Яная — акурат як у бугая. Ды і плечы — нібы засланкі ў печы, на іх дваім гэткім Нахумам месца знойдзецца.

Узабраўшыся на карак Яная, якому давялося трошкі прысесці, Нахум акінуў вокам абсяг і радасна ўсклікнуў:

— Ну нібы на аліву залез!

— Вось і добра, — з усмешкаю азваўся Янай. — Заадно і мне будзеш пераказваць, што там дзеецца.

А дзеелася вось што.

Натоўп раптам захваляваўся, яшчэ болей загуў, загайдаўся, над ім нібы пранеслася паветраная хваля. Усе позіркі скіраваліся на дзверы сінагогі, прылепленай да плошчы. З сінагогі двума шэрагамі-ланцугамі адзін за адным пачалі выходзіць чальцы сінедрыёна, большасцю састарэлыя, нямоглыя.

— Пачалося! — усклікнуў Нахум, які і сапраўды збіраўся адпрацоўваць каментаром сваё месца на Янаевых плячах. — Вось ідуць рабіны... У балахонах, на галовах — кіпы... Ссівелыя пейсы... Прамілы Бог, я ж упершыню бачу гэткіх паважаных людзей амаль што зблізку. Якое шчасце!

Тым часам, рабіны па досыць шырокім калідоры, які разразаў людскую гурму, прашпацыравалі да сярэдзіны плошчы і гэтак, як ішлі, застылі ў дзвюх шарэнгах, трохі адступіўшыся адзін ад аднаго. Нібы па загадзе, рабіны павярнулі свае тулавы, і такім чынам чальцы абедзвюх супрацьлеглых шарэнгаў выстраіліся тварам у твар.

Нахум ні на хвілю не спыняў свой каментар і, нарэшце, на ўсе грудзі ўсклікнуў:

— З дзвярэй сінагогі выходзіць яшчэ адзін святар! Нейкі ён зусім нямоглы... Ды то ж, мусіць, сам Акіба!

Галоўнага рабіна Іудзеі Нахум дагэтуль ніколі не бачыў, таму і выказаўся няпэўна. Але гэта і сапраўды быў Акіба. Ягоныя рухі былі знарок запаволеныя, замаруджаныя, што надавала ім велічнасць і ўрачыстасць.

Няспешнаю хадою Акіба рушыў на сярэдзіну плошчы, мінаваў шарэнгі рабінаў і спыніўся там, дзе яны скончаліся. Затым павярнуўся тварам да сінагогі і ўзняў угару абедзве рукі.

Плошча, якая дагэтуль віравала, гудзела, гаманіла, адразу сцішылася. Акіба яшчэ колькі імгненняў, не апускаючы рук, пастаяў моўчкі, нібы чакаючы, пакуль прыціхне нават подых нясмелага ветрыка, а затым, нарэшце, на ўсю моцу свайго голасу выгукнуў:

— Іудзеі! Супляменнікі! Нашчадкі цара Давыда! Я прынёс вам шчаслівую вестку.

Натоўп не стаў даслухоўваць ягоных слоў, над плошчаю, як выбух, грымнуў шматтысячны воклiч. Што крычаў кожны паасобку, адрозніць

было цяжка, галасы зліваліся ў адзін магутны гул. Усе ўжо здагадваліся, што абвесціць Акіба, і таму ў прадчуванні нечага доўгачаканага не змаглі стрымаць імпэту.

Каб супакоіць натоўп, Акібу зноў давялося ўзняць рукі ўгару. Калі гукі суцішыліся нават на ўскраінах плошчы, ён загаманіў зноў:

— Іудзеі! Вякамі наш народ пеставаў надзею на тое, што, як сказана ў Торы, прыйдзе нашчадак цара Давыда, прыйдзе Месія, які пазбавіць нас ад пакут, заснуе на нашае зямлі царства Божае. І Бог не забыў пра нас! Ён, Месія, нарэшце, прыйшоў!

Потым, прыгадваючы сваю прамову, Акіба трохі шкадаваў, што яна сталася такою кароткаю. Натоўп, пачуўшы пра Месію, выбухнуў такім магутным воклічам, што ўтаймаваць, супакоіць людзей не было ніякай мажлівасці, хоць Акіба яшчэ не раз узнімаў рукі ўгару.

Плошча ўціхамірылася толькі тады, калі немаведама адкуль перад сінагогаю з'явіўся белы, без адзінае крапінкі-плямы, конь, якога за аброць з абодвух бакоў трымалі ваяры ў кальчугах і з кароткімі мячамі за паясамі. Ахоўнікі Акібы абшасталі ўсё наваколле Бетара, каб знайсці вось гэткага каня-прыгажуна, прычым абавязкова белага колеру, як загадаў галоўны рабін.

Нахум ад захаплення ледзь не зваліўся з Янаевых плячэй, пабачыўшы такі цуд. Збруя на кані, відаць, была пазалочанаю ці ўвогуле залатою — ад яе адпраменьвалася сонца. Пад такога ж залацістага колеру сядлом на конскім хрыбетніку была разасланая барвовая накідка, якая звісала ледзь не да самае зямлі, а па берагах аздаблялася зноў жа залацістымі махрамі. Конь фыркаў, матляў галавою, часам неўтаймавана біў капытом аб брукаванку.

— Вось дык прыгажосць! — толькі і ўсклікнуў Нахум, не знайшоўшы належных слоў, каб пераказаць убачанае Янаю.

Ваяры, якія трымалі за аброць, рушылі з месца і па калідоры павялі каня да Акібы і чальцоў сінедрыёна. Наблізіўшыся, разам з канём таксама развярнуліся і сталі тварамі да сінагогі.

І вось тады адбылося самае чаканае. Цішыня на плошчы стаяла неймаверная. У праёме дзвярэй сінагогі, нібы вынырнуўшы з цемры, з'явілася высокая чалавечая постаць у белай — ад плячэй да пят — рызе. На галаве — кіпа, таксама белая. Чалавек зрабіў крок з парога сінагогі на брукаванку і адразу ж, як гэта толькі што рабіў Акіба, ускінуў угару абедзве рукі. Адначасна натоўп выдыхнуў такі грамавы вокліч, што, здавалася, ад яго вось-вось абрушацца сцены прылеглых пабудоў.

Не апускаючы рук і злёгку паварочваючы тулава то ў адзін, то ў другі бок, чалавек у белай рызе паплыў-пасунуўся да святароў.

Нахум ад здзіўлення нібы праглынуў язык. Нарэшце толькі і здолеў выцадзіць са свайго горла словы:

— Гэта ж... Гэта ж наш Сімон!

Прынамсі, у бесперапынным магутным гуле-гудзе Янай іх не пачуў. Ён і сам крычаў на ўсю глотку.

Акіба не дачакаўся, пакуль чалавек у рызе наблізіцца, пайшоў яму насустрач. Святар і Сімон Бар Кохба (Нахум сапраўды не памыліўся) абняліся, злёгку прытуліліся шчакою да шчакі, а затым поруч рушылі да месца асноўнага дзейства.

І тут ужо натоўп прыціх самахоць, без аніякага заклiку-жэста Акібы, які, зрабіўшы крок наперад і працягнуўшы руку ў бок чалавека ў рызе, усклікнуў:

— Вось ён, Месія, Сімон Бар Кохба, сын зоркі, нашчадак цара Давыда!

Апошнія словы праглынуў новы вокліч натоўпу. Ён ужо не змаўкаў ні на імгненне, ды і ўвогуле з гэтае хвіліны Бетар, як пчаліны вулей, бесперапынна гудзеў ажно да самага надвячорка, нават тады, калі плошча апусцела і шчаслівыя насельнікі і ваяры разышліся па духанах ці падаліся ў свае лагеры, каб належным кілішкам віна адзначыць такую радасную, векапомную падзею.

Таму ўжо амаль ніхто і не чуў, што яшчэ гаварыў Акіба, усе толькі маглі назіраць, як ён урачыста ўручыў Бар Кохбу сімвалічнае жазло, гэтым самым прызначыўшы яго камандзірам войска, як ён, апусціўшыся на калені, падаў стрэмя Божаму пасланніку, які павядзе народ на вялікую бітву...

У рэшце рэшт, Акіба акурат і хацеў, каб усё скончылася менавіта вось гэтак — усеагульнаю ўзрушанасцю і весялосцю. І залішнія словы былі непатрэбныя, бо народ ужо ўдосталь насыціўся рашучасцю і гневам да рымлян, каб падбухторваць яго новымі заклікамі.

Па гэтай прычыне Акіба не запланаваў і зварот Месіі да абранага народа. Да таго ж, Бар Кохба пакуль што, так бы мовіць, сыры, не падрыхтаваны як след для палымяных прамоваў. Можна было б укласці ў вусны Сімона некалькі загадзя падрыхтаваных сказаў, але немаведама было, як павядзе ён сябе ў такіх нязвыклых абставінах, ці не наплявузгае чаго-небудзь лішняга ад сябе, калі пабачыць, на якую вышыню ён узняўся, адчуе, якою сілаю ён авалодаў. Што ні кажы, але Акіба ўсё ж сур'ёзна асцерагаўся, што Сімон Бар Кохба можа неўзабаве выслізнуць з-пад ягонага ўплыву...

Так што цырымонія з'яўлення Месіі перад народам, на думку Акібы, прайшла хоць і не надта пыхліва, але годна — як і належыць. Цяпер пагалоскі пойдуць па ўсёй Палесціне, кожны дадасць-прыдумае нешта сваё, і ў рэшце рэшт падзея абрасце легендамі, набудзе свяшчэнны напыл.

Тым часам Янай і ягоныя паплечнікі, прыкупіўшы на рынку ладны гляк найлепшага віна — усе духаны-шынкі ў горадзе, натуральна, былі забітыя людзьмі, — выправіліся ў зваротны шлях, каб ужо ў сваім лагеры як след замацаваць набытыя ўражанні.

Нахум, узрушаны найбольш (анягож, зверху яму ўсё бачылася лепш як каму), усю дарогу пляцкаў языком:

— Які конь!.. А збруя, збруя якая дыхтоўная!

— Ды што ты ўсё пра каня ды збрую? — нарэшце асадзіў яго мацак Гефен. — Там жа сам Месія быў! А ты "конь, конь"...

— Яно дык так, — пагадзіўся Нахум. — Праўда, вельмі ўжо ён падобны на Сімона бар Козібу, які з тыдзень таму атабарваўся ў нашым атрадзе...

— Прыкусі свой язык і не плявузгай абы-што! — нечакана цыкнуў на Нахума Янай, які і сам пазнаў у Месіі Сімона. — Хіба не мог Божы пасланнік, перш чым заявіць пра сябе ўсяму народу, пазнасіцца з такімі як мы, простымі людзьмі? Мог! Так што ганарыся... А ўвогуле лепей нічога нікому не кажы... Не твайго і не майго разуму гэтая справа...

І праўда: ні па дарозе, ні вечарам, калі ўсе ўжо былі на добрым падпітку, згадак пра тое, што ў Месію ўвасобіўся нядаўні іхні паплечнік Сімон, болей не было...

## Трывожнае чаканне

Яшчэ не акрыялая ад былых ран Палесціна, нібы мурашнік, у які ўваткнулі і пасоўгалі кіем, заварушылася, ажыла, закішэла. Ціней Руф

не асмельваўся болей — хоць бы і з цэлым легіёнам — рабіць вылазкі за межы Ерусаліма. Больш за тое: ягоная подлая і палахлівая душа — а жорсткія людзі зазвычай заўжды палахліўцы — трапятала ад аднае толькі думкі, што мяцежнікі вось-вось уварвуцца ў горад. Ну, тыдзень, ну, месяц... Колькі яшчэ адведзена для жыцця? Ад гэтага пакутлівага і безвыходнага чакання ў Руфа сапсаваўся страўнік, яго ванітавала.

Для сваёй цэзарэі Ціней Руф аблюбаваў вежу Фазаеля[1], бо гэта было самае бяспечнае месца ў горадзе.

Фазаелева вежа, выкладзеная з груватскіх глыб, мела абрысы чатырохкутніка. Зверху вежу акаляў балкон, абаронены брустверамі і выступамі, а ў сярэдзіне гэтага балкона ўзвышалася яшчэ адна вежа. Яна хутчэй нагадвала царскі замак, а не абарончую крэпасць: унутры — раскошныя пакоі і нават лазня, а звонку вяршыню аздаблялі вежкі і зубцы. І ўсё гэтае збудаванне высілася ажно на дзевяноста локцяў. Знешне Фазаелева вежа нагадвала Фароскі маяк, але значна пераўзыходзіла яго ў аб'ёме.

Колісь пры абароне Ерусаліма ад войска Ціта здраднікі-запраданцы падпалілі замак на вежы, і ўсе верхнія пабудовы згарэлі дашчэнту, але Ціней Руф, абраўшы Фазаелеву вежу для цэзарэі, першым чынам загадаў аднавіць усё былое харaство.

Знясілены цяжкімі думкамі і выбрыкамі страўніка, Руф вырашыў паклікаць на раду легата і ваенных трыбунаў легіёна, які, калі не лічыць дапаможнага атачэння, і складаў аснову ерусалімскага гарнізона. Руф хацеў выказаць ім сваю трывогу, паслухаць, што скажуць наконт блізкай небяспекі спрактыкаваныя ваяры, магчыма, яны здолеюць заспакоіць ягоную душу.

Руф не мог абысці ўвагаю і Акілу, галоўнага забудоўшчыка Ерусаліма. Па праўдзе кажучы, прапрэтар не любіў гэтага пыхлівага грэка за ягоную плебейскую прастакаватасць і бесцырымоннасць, дый у вайсковай справе ён нічога не петрыць, аднак, калі яго не паклікаць на такую вырашальную сходню, Акіла можа пакрыўдзіцца, палічыць сябе абражаным і, чаго добрага, ад злосці наробіць паскудства. Руф ведаў, што да Акілы вельмі прыхільна ставіцца імператар і што галоўны забудоўшчык час ад часу пасылае Адрыяну свае данясенні. Руфу не хацелася, каб гэтыя данясенні нагадвалі даносы.

Легат Гней з'явіўся ў Фазаелеву вежу дакладна ў прызначаны час. І не таму, што дужа баяўся ці паважаў прапрэтара. Хутчэй наадварот. Да гэтага мітуслівага, жорсткага, крывадушнага чалавека Гней ставіўся пагардліва, нават з агідаю. У рэшце рэшт, хто ён такі, гэты Руф, інакш кажучы, руды? Атожылак плебейскага роду, якога лёс выкінуў на паверхню жыцця. Ён жа, Гней, — нашчадак знакамітага, старажытнага роду Карнеліяў Сцыпіёнаў. А прыйшоў легат хвіліна ў хвіліну, бо так належыць дысцыплінаванаму ваяру. Два дзясяткі год таму, пры імператары Траяне, Гней стаяў на чале маніпулы — дзвюх цэнтурый. Якім доўгім і цяжкім быў ягоны шлях да легатства, сведчылі пасівелыя скроні і шнары на ўсім тулаве.

---

[1] Пасля пяцімесячнай асады Ерусаліма ў 70 годзе н.э. вежаў засталося ўсяго тры. Будучы імператар Ціт не даваў веры сваім вачам, калі пабачыў, якія непрыступныя гмахі адолелі ягоныя ваяры. Уражаны, ажно ўсклікнуў: "Пэўна, сам Бог, разгневаны зладзействамі іудзеяў, дапамог мне, бо ніякія чалавечыя высілкі не маглі б адолець гэткай цвярдыні!" Ціт загадаўператрушчыць усё, што можна, а тры самыя непрыступныя вежы пакінуць — як напамінак пра сваю перамогу.

Некалі іудзейскі цар Ірад загадаў узвесці вежы ў гонар брата і сябра, якія загінулі на вайне, і любімай жонкі Марыямы, якую ён уласнаручна задушыў у парыве рэўнасці. Вежы і назвы мелі адпаведныя: Гіпікава, Фазаелева і Марыяма.

Натуральна, што Гней прыйшоў разам з трыбунамі — малодшымі камандзірамі. Іх было шасцёра. Усе сталага веку, самавітыя, бо імператар Адрыян, у адрозненне ад сваіх папярэднікаў, лічыў, што ваеннымі трыбунамі могуць быць толькі тыя, “у каго вырасла сапраўдная барада”. Анягож, ім жа трэба кіраваць кагортамі, а ці ж хопіць для гэтага вопыту і аўтарытэту ў бязвусага маладзёна?

Легат і трыбуны тоўпіліся ў невялікім пакойчыку перад уваходам у шыкоўныя апартаменты прапрэтара, тупалі ад сцяны да сцяны, нервова кусаючы вусны і сціскаючы рукаяткі мячоў, а Руф не спяшаўся запрашаць іх да сябе. Адно што хацеў лішні раз паказаць ім, што менавіта ён — гаспадар Іудзеі і ўсё залежыць ад ягонае волі, а другое — як паведаміў служка-раб, пакуль што не з’явіўся Акіла. Ён увогуле меў звычку заўсёды спазняцца і не бачыў у гэтым нічога ганебнага.

Нарэшце Руф пачуў за дзвярыма гучны, адрывісты голас галоўнага забудоўшчыка. Ён вітаўся з ваярамі, нешта гундосіў, як у трубу, рагатаў — звычайна так Акіла паводзіў сябе на добрым падпітку.

“Во свалата! — сплюнуўшы і скрыгатнуўшы зубамі, падумаў Руф. — Хоць бы ўважыў маю пасаду...” Аднак жа нацягнуў на твар удаваную ўсмешку, сам расчыніў дзверы і працягнуў наперад рукі:

— Я рады вас вітаць, сябры мае!

Найперш Руф падаўся да Гнея, збіраўся нават абняць яго, але легат не зрабіў ніякага руху насустрач, толькі працягнуў руку для поціску. Руф непрыхавана сумеўся і прасвідраваў Гнея сваімі вузенькімі вачанятамі. Трыбуны таксама не кінуліся ў ягоныя абдымкі, павіталіся стрымана. Затое Акіла ці то паказна, ці то сапраўды шчыра раскінуў рукі ўшыркі. Але ад яго Руф сам паспяшаўся адхінуцца і, зняважаны халоднасцю легіянераў, суха мовіў:

— Праходзьце.

Па праўдзе кажучы, напачатку ў Руфа быў намер зладзіць для гасцей адметную вечарыну. Ён ужо загадаў прыслузе падрыхтаваць тэрму — лазню з басейнам, што месцілася побач са спачывальняю, загадзя ў трыклініі, прасторнай сталовай, з трох бакоў уздоўж стала былі пастаўлены ложы, седзячы-лежачы на якіх, госці маглі частавацца прысмакамі. Іх у вежы заўсёды было ўдостатку і ў вялікай разнастайнасці, бо Руф любіў радаваць сваё чэрава далікатэсамі. Сённяшніх гасцей ён меркаваў пачаставаць так, як гэта робіцца ў любімым і такім далёкім Рыме, каб выклікаць у іхніх душах настальгію і тым самым дадаць рашучасці перад магчымаю бітваю з мяцежнікамі. “Ад яйка да яблыкаў” — так называліся падобныя вячэры. Напачатку рабы павінны былі падаць яйкі, затым — мясныя і рыбныя стравы разам з гароднінай і розным зяленівам, вустрыцы, марскія вожыкі, марскія жалуды дый іншыя ядомыя малюскі, а ўжо напрыканцы чакаў дэсерт — сушаныя і свежыя фігі і фінікі ды арэхі. Руф загадаў падрыхтаваць і належны напой: любімы ўсімі рымлянамі мульс — віно, змяшанае з мёдам.

Безумоўна, для легата і ягоных паплечнікаў, звыклых да простага салдацкага наедку, усё гэта было б прыемнаю неспадзяванкаю, аднак пасля паказной абыякавасці, выказанай імі пры сустрэчы, Руфу раптам расхацелася прывячаць “гэтае быдла” з усёю раскошаю. “Хваробу вам, а не тэрма ды трыклінія!” — падумаў ён і далей свайго рабочага пакоя, з прыхаду ў верхнюю вежу, гасцей не павёў.

Руф пратупаў да свайго шырокага крэсла-ложка з шаўковымі падушкамі,

апусціў на яго сваё тулава і наўмысна ні словам, ні жэстам не запрасіў прысесці ваяроў ды Акілу, хоць крэслаў абапал стала было ўдостатку. Прынамсі, нахабны Акіла без запрашэння ўсё ж разваліўся на адным з іх, раскінуўшы ўшыркі ногі, а зняважаныя і дысцыплінаваныя легіянеры, не дачакаўшыся ад гаспадара запрашэння, так і прастаялі, пераступаючы з нагі на нагу, да канца размовы.

Зрэшты, яна, размова, не надта і задоўжылася, бо Руф адразу ж акрэсліў тое, дзеля чаго ён паклікаў сваіх падначаленых.

— Хачу давесці да вашага ведама, што нашае становішча апошнім часам значна пагоршылася, — суха пачаў ён сваім рэзкім і вельмі непрыемным голасам. — Калі дагэтуль мяцежнікі не распачыналі якіх-небудзь істотных дзеянняў супраць улады, адно што кучкаваліся ў сваім асіным гняздзе — у Бетары, дык цяпер яны актывізаваліся і ўяўляюць для нас сур'ёзную пагрозу. Амаль кожны дзень мне паступаюць звесткі пра тое, што мяцежнікі робяць напады на нашыя гарнізоны, асабліва на дальнія і нешматлікія. Пакуль што большасці гарнізонаў удаецца адбіцца ад гэтай набрыдзі, аднак дзе-нідзе мяцежнікі маюць поспех. У Галілеі, у Самарыі ды і тут, у Іудзеі, некалькі гарнізонаў захоплена. Ваяры перабітыя ці ўзятыя ў палон... З іх жорстка здзекуюцца... — Руф зрабіў невялікую паўзу, каб трохі перадыхнуць і даць магчымасць удумацца ў сказанае легіянерам, затым прадоўжыў: — Аднак самае небяспечнае нават не гэтае. Мае інфарматары ў Бетары днямі паведамілі, што ў мяцежнікаў з'явіўся правадыр. Іудзеі называюць яго Месіяй... Думаю, вам не трэба даводзіць, які сэнс яны ўкладваюць у гэтае слова. Паводле іхняе паганае Торы, Месія, нашчадак цара Давыда, дасць ім волю, адновіць самастойнае іудзейскае царства. Цяпер уяўляеце, які ўздым адчуюць мяцежнікі, як папоўняцца іхнія шэрагі, калі вестка пра Месію абляціць усю Палесціну? Ніводзін яўрэй, не кажучы пра іудзеяў, у баку не застанецца... Што там за Месія — мне мала вядома. Нейкі Бар Кохба. Самазванец, безумоўна, аблуда. Але нам ад гэтага не лягчэй, бо сам Акіба — той яшчэ шэльма! — прызнаў яго за Месію перад усім народам. А яму, Акібу, іудзеі вераць, як свайму богу... Вось такая дыспазіцыя. У самы блізкі час трэба чакаць наступу мяцежнікаў на Ерусалім. Там, у Бетары, толькі і размоў пра захоп сталіцы. Рыхтуецца войска, назапашваецца зброя... Войска, дарэчы, можна сказаць, незлічонае — ужо зараз ці не пяцьдзясят тысяч набярэцца... Дык што будзем рабіць? Ратавацца? Ці, можа, самім нанесці апераджальны ўдар па мяцежніках, рушыць легіён на Бетар? Я хачу паслухаць вашыя думкі.

Руф замоўк. Якую хвіліну моўчкі стаялі і легіянеры. Гней і трыбуны не горш за прапрэтара ведалі пра небяспеку, а ў Акілы дык і ўвогуле ў Бетары меліся ўласныя лазутчыкі. Менавіта ён першым і падаў голас:

— Я лічу, што найперш трэба паведаміць пра ўсё імператару. Толькі ён можа прыняць канчатковае рашэнне...

— Не хвалюйся, адпаведнае данясенне мною ўжо напісанае, — спакойна адказаў яму Руф, а затым нечакана істэрычна выбухнуў сваім пранізлівым, як у пеўня, фальцэтам. — А ты падумаў, колькі часу пройдзе, пакуль табілярый абернецца туды-сюды? У нашым становішчы марудзіць нельга ні дня! Не сёння — заўтра мяцежнікі падступяцца да Ерусаліма. А мы ўсё будзем чакаць, што адкажа імператар? Дачакаемся... Рашэнне неабходна прымаць нам самім, вось тут, цяпер!

— Я згодзен з прапрэтарам, — наўмысна звяртаючыся не асабіста да Руфа, а да ўсіх прысутных, загаварыў, нарэшце, Гней. — Рашэнне павінны

прыняць мы самі. Становішча вымагае... І найперш варта паклапаціцца пра тыя малалікія гарнізоны, якія рассеяны па ўсёй правінцыі. Трэба паслаць туды ганцоў з загадам, каб гарнізоны пакінулі свае котлішчы і перабіраліся сюды. Наколькі я ведаю, дарогі, асабліва на поўнач ад Ерусаліма, пакуль што паўстанцамі не кантралююцца. А калі ўсё ж не ўдасца пазбегнуць сутычак, дык, мяркую, яны будуць дробнымі, бо арганізаванаю сілаю паўстанцы выглядаюць толькі ў Бетары. Гэтым самым мы, па-першае, выратуем гарнізоны ад непазбежнай пагібелі, а па-другое, салдаты папоўняць мой легіён. Цяпер, як ніколі, нам, рымлянам, трэба трымацца тут разам...

— Слушная прапанова, — ужо супакоіўшыся, пагадзіўся з легатам прапрэтар. — Аднак яна не вырашае галоўнага... Ну, сцягнем мы ўсе гарнізоны ў Ерусалім, ну, павялічыцца твой легіён на дзве-тры тысячы ваяроў... А што далей? Так і будзем сядзець, як мышы ў нары, чакаць, пакуль мяцежнікі не прыступяць да асады Ерусаліма?

— А ніякай асады і не будзе, — упэўнена сказаў Акіла. — Гэты зброд, хай сабе не надта ўзброены, нахлыне на горад, як саранча, і ніякіх перашкод не мецьме. Хіба ж вы не ведаеце, што засталося ад ранейшых крапасных сценаў? Дый тое, што было, па маім загадзе разабрана для новых пабудоў... Так што бараніцца давядзецца хіба што вось тут, у тваёй вежы, прапрэтар...

Акілу ніхто не запярэчыў, бо ўсім было відавочна, што ён мае рацыю: бараніць Ерусалім азначала тое самае, што сысціся з дзясяткамі тысячаў "саранчы" ў чыстым полі. Прынамсі, у чыстым полі змагацца было б нават лацвей, бо там мелася магчымасць выстраіць легіён ці клінам, ці кругам, ці хоць бы "чарапахай", што спрактыкаванаму войску давала перавагу перад неарганізаваным натоўпам. А тут, у гарадскіх разваліна‑руінах, самкнуць абаронча ряды немагчыма ніяк, і легіён будзе нагадваць той жа натоўп.

— Дык ці не лепей нам, пакуль не позна, не чакаючы наступу мяцежнікаў, самім пакінуць горад? — з асцярогаю, каб не выглядаць панікёрам, "закінуў каменьчык" Руф, хоць для сябе ўжо даўно вызначыў, што так яно будзе найлепш. — Безумоўна, у такім разе давядзецца трохі пачакаць, пакуль гарнізоны перабяруцца ў Ерусалім. Але гэта не зойме часу болей, чым тыдзень-другі... Мы можам спакойна, без мітусні падрыхтавацца, а затым разам з усім атачэннем рушыць уздоўж узбярэжжа да Кесарыі. Там, як вы ведаеце, — асноўныя нашыя сілы. Горад добра ўмацаваны. Калі спатрэбіцца, можна вытрымаць любую асаду, дачакацца, пакуль імператар прышле падмацаванне. А затым ужо са шматлікім войскам мы вернемся ў Ерусалім, з трыумфам...

Безумоўна, ніякіх "каменьчыкаў" прапрэтар мог і не закідваць, а проста аддаць загад аб адступленні з горада — усё было ў ягонай уладзе. Аднак Руф не мог ведаць, як пасля паставіцца да гэтага плана імператар. Ухваліць? А можа, загадае адсекчы яму, як палахліўцу ці ўвогуле здрадніку, галаву? Уласна кажучы, прапрэтар мог абысціся і без гэтае сходні, яна патрэбная была толькі для таго, каб абгрунтаваць перад Адрыянам сваё рашэнне, калі яно будзе імператару неўспадоб: маўляў, не адзін толькі я гэтак думаў, вунь і легат, і Акіла падтрымалі...

Аднак выйшла неспадзяванка. Яна вынырнула з таго боку, адкуль прапрэтар чакаў найменей, — ад Акілы. Галоўны забудоўшчык ажно ўскочыў з крэсла.

— Прапрэтар, што ты плешчаш? — Акіла нават не выбіраў прыстойных слоў і пырскаў слінай. — Пакінуць Ерусалім на разрабаванне быдла? Гэта... гэта проста здрада! Выходзіць, усё, што мы адбудавалі — кату пад хвост? — стала відавочным, што Акілу найбольш хвалюе плён ягонае працы, тое, чым ён збіраўся пахваліцца перад Адрыянам. — А статуя Венеры? А помнік Юпітэру? Яны ўжо амаль гатовыя! І што з імі будзе? З нашых багоў, як і з усяго астатняга, галадранцы будуць здзекавацца, усчыняць гвалт, а затым раструшчаць у пыл! Не забывай, што гэты горад імператар збіраецца назваць у свой гонар — Элія Капіталіна. І калі мы пакінем яго на здзек быдла, гэта ў першую чаргу будзе абразаю, нават знявагаю для самога імператара! Ты падумаў пра гэта, прапрэтар?

— Супакойся, Акіла! — збянтэжаны Руф паспрабаваў утаймаваць імпэт галоўнага забудоўшчыка, хоць і не быў да гэтага падрыхтаваны. — Хіба ж я наўпрост сказаў, што нам абавязкова трэба пакінуць Ерусалім? Я толькі выказаў адзін з варыянтаў, які магчымы ў нашым становішчы, вам на абмеркаванне. Ты, Акіла, выказаўся досыць пэўна. А што думаеце вы, тыя, каму даручана трымаць у руках зброю? — прапрэтар скіраваў позірк на трыбунаў. Тыя сумеліся, зніякавелі: кожны з іх, безумоўна, меў уласную думку на гэты конт, аднак ніхто не спяшаўся “лезці папярод бацькі ў пекла”, а менавіта папярод свайго камандзіра, легата Гнея, якога трыбуны бязмежна паважалі за безаглядную храбрасць і абагаўлялі за разважлівую мудрасць. Гней, адабраўшы ў прапрэтара апошнюю надзею, таксама выказаўся папярок:

— Я мяркую, што пакідаць Ерусалім нельга. Гэта будзе ганьбай не толькі для імператара, але і для майго легіёна, мяне асабіста. Адступаць перад мяцежнікамі, хай сабе і шматлікімі, не ў маіх правілах...

— Дык што ж ты прапануеш? — раздражнёна выгукнуў Руф.

— Трэба ісці на Бетар! — рэзка, рашуча с330 секануў словамі легат. — Магчыма, варта сапраўды дачакацца папаўнення з гарнізонаў — лішнія ваяры нам не зашкодзяць. Але потым, сабраўшы сілы ў кулак, мы павінны задушыць мяцеж...

— Ты хоць уяўляеш іхнюю колькасць? — скрывіўся ў насмешцы Руф. — Я ж табе сказаў: ужо зараз — амаль пяцьдзясят тысяч. А з кожным днём іх будзе ўсё болей і болей...

— Менавіта таму я прапаную не марудзіць, выступіць як мага хутчэй.

— І што з таго? На аднаго твайго ваяра ўжо зараз прыпадае дзесяць мяцежнікаў. Яны абстануць твой легіён хмараю, закідаюць яго трупамі і ў рэшце рэшт растопчуць, размажуць па камянях вашыя маналітныя шэрагі...

— А вось гэта ты сказаў дарэмна, прапрэтар. Я сваіх людзей ведаю лепей... Кожны з маіх легіянераў варты двух дзясяткаў мяцежнікаў — сама меней.

— Ды глупства ўсё гэта! — дыскусія ўжо раздражняла Руфа, і ён перайшоў ледзь не на крык. — Тое, што ты ўпэўнены ў сваім легіёне, няблага, нават вартае пахвалы. Але чаму ты лічыш, што мяцежнікі выведуць свае зграі ў чыстае поле? Яны могуць проста засесці ў Бетары — паспрабуй іх там дастань, паспрабуй укусі! Ты ведаеш, легат, што такое Бетар? Мусіць, ні разу не бачыў... А я бачыў! Гэта горад-крэпасць! Мураванка — не горшая, чым колісь у Ерусаліме! Хоць зубамі грызі!

Гней узняў руку ўгару, даючы Руфу знак, што хоча ўставіць слова ў ягоны маналог. Руф просьбу ўважыў.

— Ты, прапрэтар, супярэчыш самому сабе. Колькі хвілінаў таму выказваў занепакоенасць, што мяцежнікі вось-вось могуць напасці не Ерусалім, гэта значыць, адважацца не толькі на бітву ў чыстым полі, але нават на штурм, які вымагае нашмат большых для іх ахвяраў. А цяпер даводзіш, што яны атабарацца, замкнуцца ў крэпасці, і адтуль іх нічым не выкурыш. Дык дзе праўда? Я лічу, што ў крэпасці войска Акібы адседжвацца не будзе. Адно што такую процьму і пракарміць няпроста, а другое — не для таго яны там сабраліся, каб чакаць асады. Яны рвуцца на бітву, бо марудзіць ім таксама нельга. Той самы іхні верхавода — як ты яго назваў, Бар Кохба? — мусіць жа, не дурны і добра разумее: вырашальная сутычка патрэбная менавіта цяпер, пакуль нас, рымлянаў, у Іудзеі не гэтак шмат. "Упусціш час, — пэўна, думае Бар Кохба, — і імператар прышле ў Ерусалім падмацаванне. Тады ўжо разлічваць на перамогу будзе значна цяжэй..." Ён, Бар Кохба, мусіць, недаацэньвае сілу майго легіёна, і гэтым нам трэба скарыстацца...

Трыбуны, якія дагэтуль стаялі моўчкі і толькі слухалі, з імпэтам падтрымалі свайго легата:

— І сапраўды, чаго мы тут сядзім, чаго чакаем?

— Трэба выпраўляцца на Бетар!

— Мы раздушым тую крэпасць, як арэх!

Руф скрывіў твар і падняў руку, каб іх супакоіць.

— Не перабольшвайце свае сілы! Я не хачу ставіць на кон ні вашыя жыцці, ні ўласную бяспеку... Без істотнага падмацавання мяцежнікаў мы не адужаем. Маю на ўвазе не толькі навакольныя гарнізоны. Патрэбен хаця б яшчэ адзін паўнавартасны легіён. Найбліжэйшы адсюль — у Сірыі. Тамтэйшы легат, Публій Марцэл, — мой даўні прыяцель. Я сёння ж пашлю да Марцэла табілярыя, папрашу, каб ён выступіў нам на падмогу.

Руф, па праўдзе кажучы, паслаў ганца ў Сірыю яшчэ тыдзень таму, бо не надта спадзяваўся на адзін толькі дзясяты легіён, аднак, каб не закрануць самалюбства Гнея, падаў усё так, быццам гэтае рашэнне ён прыняў толькі што, пад агульным уплывам. І прапрэтара вельмі здзівіла, калі ў адказ Гней яму запярэчыў:

— Не думаю, што гэта будзе правільна. Гэта нават небяспечна! Падобны рэйд праз усю Палесціну можа стаць катастрафічным. Паўсюль — мяцежнікі. Сірыйскаму легіёну давядзецца не рухацца, а, лічы, прабівацца. Няўжо гісторыя не навучыла нас як след? Прыгадайма разгром дванаццатага легіёна[1]...

— Не трэба параўноўваць! — абсек легата Руф. — Калі гэта было... Паўвека таму... Дый цяперашняя яўрэйская смута не раўня колішняй. Пакуль што мы ўсё ж захоўваем кантроль над асноўнаю часткаю тэрыторыі.

— Тым не менш, я лічу, што прасіць помачы ў Марцэла — рашэнне памылковае і рызыкоўнае, — стаяў на сваім Гней.

— А ў цябе ніхто і пытацца не будзе! — канча ўскіпеў Руф, незадаволены тым, што не ўдалося заручыцца падтрымкаю вайскоўцаў і цяпер давядзецца браць усю адказнасць на сябе асабіста. — У рэшце рэшт, хто правіцель Іудзеі — ты ці я?

— Безумоўна, ты, прапрэтар, — непарушна адказаў Гней. — Я толькі аднаго не разумею: для чаго ты нас сюды паклікаў? Навошта табе нашыя

[1] Падчас Іудзейскай вайны правіцель Сірыі Цэсцій Гал з 12-м легіёнам і шматлікімі дапаможнымі кагортамі (усяго — каля 20 тысяч ваяроў) паспрабаваў захапіць Ерусалім, але быў разбіты іудзеямі і ўцёк.

меркаванні, калі ты да іх не прыслухоўваешся? Проста аддавай загады, а мы, твае падначаленыя, будзем іх пакорліва выконваць...

— Вось так сапраўды будзе лепей! — болей не спрабуючы шукаць нейкае паразуменне, паставіў тлустую кропку Руф. На ягоным языку віселі словы "болей я нікога з вас не затрымліваю", але нечакана ў размову зноў уклініўся Акіла:

— Не варта псаваць адносіны ў такі няпросты час... Мне здаецца, галадранцаў можна адужаць і без вялікай крыві. Ёсць адна задума...

Гней зірнуў у бок Акілы з ухмылкай, а Руф, наадварот, як тапелец, што хапаецца за саломінку, — з надзеяй.

— Што ты маеш на ўвазе? — прапрэтар упёрся позіркам у Акілу.

— Ды так, дробязь... Вы ж ведаеце, што я трохі забаўляюся рознаю хімераю... Ну і з людзьмі знаюся адпаведнымі... Розныя яны... Ёсць варажбіты, ёсць астраномы, а ёсць і ўвогуле такія, што і назву падабраць немагчыма... Ну, словам, адзін мой знаёмец, таксама ўстрывожаны апошнімі падзеямі, прапаноўваў наслаць на галадранцаў мор... І ён, аказваецца, ведае, як гэта зрабіць — мае падобны навык... Карацей кажучы, варта ў водныя крыніцы, якімі сілкуецца Бетар, штосьці падсыпаць, і ягоныя насельнікі пачнуць дохнуць, як мухі... У мяне і надзейныя людзі ёсць...

— Ды што ты вярзеш? — гнеўна бліснуўшы вачыма, ускіпеў Гней. — Ці ж можна дабівацца мэты такім ганебным чынам? Дый не толькі войска, усё насельніцтва правінцыі можна выкасіць падобнаю заразаю! Тым лікам, дарэчы, і нашае атачэнне, і мяне з табою...

— Ну, як сабе хочаце... — не паспрабаваў настаяць на сваім Акіла. — Мая справа даць ідэю...

Руф таксама не выказаў захаплення ад прапановы галоўнага забудоўшчыка і, нарэшце, сказаў тыя словы, якія колькі хвілін таму віселі на ягоным языку:

— Можаце ісці. Пра сваё канчатковае рашэнне я паведамлю вам дадаткова.

Затым трохі павагаўся і дадаў:

— Аднак жа ты, Акіла, на хвіліначку затрымайся...

## Вандроўнікі

Бетар знаходзіўся на паўднёвым захадзе ад Ерусаліма, на дарозе паміж Святым горадам і Бен-Гуўрынам. Зрэшты, дарогаю гэтую трохі пашыраную сцежку можна назваць умоўна, аднак жа іншай не было. І вось па ёй, камяністай, а дзе-нідзе напаўзасыпанай дробным пустынным пяском сцежцы, якая то пакручаста збягала з узвышша, то крута ўзбіралася на невялікую гару, нетаропка брылі два падарожнікі. Яны, можа, крочылі б і хутчэй, ды адзін з вандроўнікаў выглядаў на чалавека старэчага веку, і яму, відавочна, цяжка было б паспяваць за другім, гонкім маладзёнам, які не прыспешваў хаду, каб трымацца поруч са сваім спадарожнікам.

Вандроўнікі нічым не адрозніваліся ад сустрэчных людзей ці тых, хто раз-пораз абмінаў іх на гэтай несамавітай сцежцы, не выдавалі яны і на жабракоў, якіх апошнім часам ад мястэчка да мястэчка блукала аж зашмат. Збоку выглядала, што гэта бацька і сын, а магчыма, нават і ўнук, выправіліся ў дарогу, каб праведаць сваякоў ці патрапіць на рынак у вялікім горадзе, бо сцежка акурат і слалася да самага Ерусаліма. А вандроўнікамі былі злёгку прыгорблены рабін Рашбі і Архелай.

Добраму хадаку шлях ад Бетара да Ерусаліма даўся б і за тры гадзіны, а яны адужвалі яго ўжо амаль паўдня.

У Святы горад Рашбі і Архелай выправіліся з пэўнаю мэтаю. Пасля таго, як Акіба ўрачыста аб'явіў аб прыходзе Месіі і ўручыў яму жазло камандзіра, Іудзею накрыла новая хваля энтузіязму. Гэтаму, безумоўна, паспрыяў і сам Акіба, разаслаўшы ганцоў ва ўсе гарады і буйныя мястэчкі, якія разнеслі весткі пра доўгачаканую падзею. Яшчэ болей людзей хлынула ў Бетар. Адны — каб проста пабачыць на ўласныя вочы Божага пасланніка, другія — каб папоўніць паўстанцкія шэрагі, і мелі яны хоць і самую прымітыўную, але ўсё ж зброю. Бетар ужо нагадваў суцэльны жывы натоўп. Акурат як на рынку ў святочны дзень. Адзін аднаго паўстанцы называлі братамі, і гэтае слова гучала на вулачках горада гэтак часта, што ствaралася ўражанне, быццам яго разносіць рэха.

З гэтым шматтысячным натоўпам трэба было нешта рабіць. Адно што накарміць-напаіць, другое — утаймаваць разбуджаны імпэт, накіраваць у патрэбнае рэчышча, бо ўжо дзе-нідзе ўзнікалі стыхійныя сутычкі, асабліва паміж тутэйшымі і наймітамі.

Бар Кохба на дзіва хутка ўвайшоў у ролю Месіі, напоўніцу адчуў сябе правадыром гэтага стракатага войска, адказным за зыход паўстання. Першым чынам ён дамогся таго, каб усе, хто меў у руках зброю, былі падзеленыя на пэўныя падраздзяленні са сваімі камандзірамі. Асабліва гэта тычылася тых, хто з'явіўся ў Бетар апошнім часам, бо ранейшыя згуртаванні накшталт атрада Яная, і асабліва наймiты, нейкі падзел і нават такую-сякую вывучку ўжо мелі. Безумоўна, іудзейскае войска нельга было параўнаць з рымскімі легіёнамі ні па ўзбраенні, ні па дысцыпліне, ні па акрэсленасці і пэўнай колькасці ваяроў у кожным падраздзяленні, але гэта ўсё ж было войска.

Акібу напачатку ўзрадавала, што Бар Кохба ўзяўся за ягоную арганізацыю з гэткім імпэтм, але праз колькі дзён, калі новы правадыр стаў выказваць шмат самастойнасці ў рашэннях, у душу рабіна пачала закрадвацца насцярога...

Нішто ўжо не перашкаджала рушыць шматлікую іудзейскую армію на Ерусалім. Але Бар Кохба і Акіба ўсё яшчэ вагаліся. Сімона найперш непакоіла ўласная недасведчанасць пра ерусалімскі гарнізон, хоць прыблізную колькасць рымскіх ваяроў можна было наўскідку акрэсліць: легіён ды яшчэ дапаможныя атрады — тысяч дзесяць набярэцца. Але варта было б дакладна ведаць, у якім месцы горада знаходзяцца асноўныя сілы гарнізона, якія абарончыя збудаванні рымляне паспелі ўзвесці на былых руінах. Як гэта ні дзіўна, але падобныя звесткі атрымаць было не так і проста, бо прававерныя іудзеі, амаль усе да аднаго, дружна пакінулі Ерусалім пасля прыходу рымлян. Адны лічылі, што ганебна жыць у апаганенай чужынцамі сталіцы, другія проста баяліся магчымай жорсткасці захопнікаў.

Бар Кохба, навучаны няўдалаю спробаю нападу на рымскі гарнізон у родным мястэчку, добра разумеў, як гэта важна — мець пра ворага звестак найболей. Разумеў і тое, што было б няблага, калі б падчас штурму горада якая-небудзь сіла, хай сабе і нешматлікая, абрушылася на абаронцаў з тылу — гэта ўнесла б сумятню ў іхнія шэрагі.

Свае меркаванні Сімон, які з раніцы да вечара прападаў у войску, выказаў пры чарговай сустрэчы з Акібам. Яны, сустрэчы, з кожным днём здараліся ўсё радзей і радзей, бо Бар Кохба, ашалелы ад нечаканай

улады і заняты будзённымі вайсковымі справамі, не адчуваў у гэтым вялікай патрэбы.

— Рабі, дазволь з табою параіцца, — сказаў Сімон з прыхаду, калі завітаў у тую ж келлю, дзе адбылася першая іхняя сустрэча і якую Акіба амаль ніколі не пакідаў. Сімон ужо не дужаўся з ахоўнікамі — на гэты раз Пінхас паважліва схіліў перад ім галаву, — зайшоў у келлю без запрашэння, хіба што папярэдне пастукаўшы ў дзверы.

— А-а, Сімон, — азірнуўшыся, бо стаяў тварам да сцяны, мовіў Акіба без асаблівай узнёсласці. — Апошнім часам ты прыходзіш сюды гэтак рэдка...

— Ты ж ведаеш, рабі: у мяне няма ніводнае вольнае хвіліны...

— Ведаю, ведаю... І што ж цябе змусіла адарвацца ад неадкладных спраў, каб уважыць старога чалавека сваёй прысутнасцю? — з непрыхаванай іроніяй спытаўся Акіба, тым самым выказваючы крыўду за тое, што ўзнесены ім жа да нябёсаў чалавек задужа хутка забыў, каму ён за гэта абавязаны.

Сімон зрабіў выгляд, што не адчуў іроніі святара, і адразу ж, без аніякага ўступу, пачаў гаварыць пра тое, дзеля чаго ён сюды прыйшоў:

— Рабі, мы з табою запланавалі паход на Ерусалім праз тры дні. Але, на маю думку, яго давядзецца адкласці хаця б яшчэ на тыдзень.

— І па якой прычыне?

— Нічога надзвычайнага, насамрэч, не здарылася. Людзі рвуцца ў бой, збольшага ўсе ўзброеныя... Але мне здаецца, што мы мала ведаем пра свайго ворага. Адразу, без выведкі, кідаць войска ў калатнечу — неабачліва.

— І што ж ты хочаш выведаць? Па-мойму, пра рымскі гарнізон у нас звестак удостатку. А дарога на Ерусалім — адна... — Акіба без відавочнага імпэту ўспрыняў прычыну, па якой Сімон збіраецца адкласці наступ. — Навошта марудзіць? Нашае войска гатовае. А рымляне, наколькі мне вядома, сцягваюць свае навакольныя гарнізоны ў сталіцу. З кожным днём абаронцаў Ерусаліма становіцца ўсё болей...

— Гэта так, — пагадзіўся Бар Кохба. — Але тыдзень не будзе мець істотнага значэння, не зменшыць нашую перавагу перад імі. Ну ўзрасце колькасць абаронцаў на дзве-тры сотні — толькі тае бяды... Затое пры штурме мы не будзем тыцкацца, як сляпыя кацяняты ў матчыну цыцку, ведаючы, дзе знаходзяцца іхнія галоўныя сілы, якія абарончыя збудаванні давядзецца штурмаваць у першую чаргу.

— Ты мяркуеш, што нам сапраўды давядзецца браць Ерусалім штурмам? — выказаў Акіба непрыхаванае здзіўленне. — Наіўны чалавек... Рымляне не прывыклі абараняцца! Дый хіба Ерусалім цяпер нагадвае крэпасць? Адны развалiны... У мяне няма сумневу: як толькі Руф даведаецца, што нашае войска выйшла за ваколіцы Бетара, ён вывядзе свой легіён напярэймы, каб завязаць адкрытую бітву. Гэта ж відавочна!

— Ну, як сказаць... — няпэўна абмовіўся Сімон, бо довады Акібы яго не пераканалі. — Але ж для таго, каб адкласці наступ, ёсць і іншая нагода...

— Якая яшчэ? — раздражнёна азваўся Акіба, надаўшы голасу сталёвасці.

— У нашым становішчы было б няблага займець саюзнікаў, тым болей, калі яны знаходзяцца, лічы, у асяродку ворага...

— Сярод рымлян ёсць здраднікі? — з непрыхаванаю цікавасцю запытаўся Акіба.

— Ну, не зусім... Я маю на ўвазе хрысціян. Ад рабі Рашбі, з якім мне давялося зносіцца больш за тыдзень і які напоўніў маю душу сапраўднаю

вераю ў нашага адзінага Бога, я даведаўся, што ў Ерусаліме засталося шмат яўрэяў і жывуць яны адзіным кагалам. Рымляне іх не чапаюць, бо лічаць, што яны бяскрыўдныя, а іхні бог заклікае да пакоры ўладзе... Натуральна, з гэтага боку прапрэтар ніякай небяспекі не чакае. Лёгка ўявіць, што будзе, калі падчас бітвы нечаканым для рымлян ззаду ў іх аб'явіцца яшчэ адзін вораг...

— Гэта немагчыма! — Акіба нямоглаю рукою сякануў паветра. — Яны ворагі ў першую чаргу для нас, а не для рымлян!

— Я разумею, рабі, што ты маеш на ўвазе, — сказаў Сімон надзвычай спакойна, бо быў гатовы да падобнага ўсплёску. — Так, хрысціяне — можна сказаць, здраднікі, бо адмовіліся ад нашага Бога. Але ж яны ўсё-ткі яўрэі! Зараз не той час, калі трэба дзяліць багоў. Зараз усім — і нам, і ім — трэба найперш дбаць пра тое, каб агульнымі сіламі прагнаць захопнікаў з нашае зямлі. Багоў будзем дзяліць потым...

— Я забараняю табе гэтак казаць! — конча ўскіпеў Акіба. — Ты забываеш, кім ты паўстаў перад уласным народам! Месіяй! Пасланцам нашага Бога! У рэшце рэшт, мы і паднялі народ на паўстанне, каб найперш абараніць нашую веру! Ты ў сваім розуме... Бар Козіба? — Акіба з'едліва назваў Сімона сапраўдным прозвішчам, каб нагадаць яму, з якое багны ён узнёсся да нябёсаў.

Зрэшты, Сімон і сам ужо ўсвядоміў, што з "дзяльбой багоў" хапіў лішку. Але ён і сапраўды апошнім часам болей думаў пра вайсковую перамогу з дапамогаю зброі, а не пра тое, што толькі бязмежная вера ў Бога можа прынесці поспех і што яна павінна быць адзінаю мэтаю, дзеля якой кожнаму іудзею магчыма ахвяраваць жыццём. Прынамсі, распавядаць пра гэта галоўнаму святару, мусіць, было не варта. І таму Сімон паспяшаўся заладзіць сваю неабачлівасць:

— Прабач, рабі... Прабач... Я, бадай, ляпнуў нешта не тое... Ну, неразумны яшчэ...

Акіба хоць і не адразу, але ўсё ж супакоіўся.

— Вось так будзе лепей. І ўвогуле, Сімон, мне здаецца, апошнім часам ты, як кажуць, адбіўся ад рук: усё меней і меней прыслухоўваешся да нас, святароў, сваіх настаўнікаў...

— Гэта не наўмысна, рабі. У мяне сапраўды мала часу...

— Ну, добра, добра. Спадзяюся, нашая размова пойдзе табе на карысць. А цяпер ідзі. І памятай: выпраўляемся праз тры дні...

Сімон трохі здзівіўся, калі надвячоркам, ажно за горадам, яго адшукаў Пінхас і паведаміў, што Акіба мае пільную патрэбу для яшчэ адной сустрэчы, прычым неадкладнай. Сімон паспяшаўся да святара.

— Я доўга разважаў над тваёю прапановаю, — тупаючы, як зазвычай, ад сцяны да сцяны, — Акіба павольна выціскаў з грудзей словы. — І прыйшоў да высновы, што ў нечым ты маеш рацыю. Мусіць, варта і сапраўды папярэдне правесці выведку. Дый наконт хрысціян можна яшчэ падумаць... Я столькі часу не быў у Ерусаліме! Хто яго ведае, чым там жывуць гэтыя хрысціяне, якія ў іх памкненні. Можа, таксама гатовыя ўзяцца за зброю. Усё ж радзіма ў нас адна і тая ж... Ва ўсякім разе ты правільна кажаш: лішнія ваяры, ды яшчэ ў тыле ворага, нам не зашкодзяць. А потым разбяромся... Праўда, я дужа сумняваюся, што хрысціяне стануць на наш бок...

— Шчыра кажучы, у мяне таксама няма на іх вялікага спадзеву, — узрушаны тым, што Акіба як след успрыняў ягоную задумку, хутка загаварыў

Бар Кохба. — Ды спробу зрабіць можна. Час мы, вядома, страцім, але якую мецьмем перавагу, калі заручымся іхняю падтрымкаю!

Паразумеўшыся, Акіба і Бар Кохба пачалі абмяркоўваць, якім чынам ажыццявіць задуму. Было б найлепей, каб з епіскапам ерусалімскіх хрысціян Іудам пабачыўся сам Акіба. Гэта надало б сустрэчы высокі ўзровень, рэлігійны напал. Дый хто лепей, чым Акіба, здолее пераканаць, давесці сваю думку?

Аднак жа выпраўляцца ў Ерусалім Акібу не выпадала ніяк. Для яго, досыць нямоглага, шлях быў бы задужа доўгім і няпростым, дый рызыкаваць, самому лезці ў пашчу ворага — безразважна, бо вельмі верагодна, што ніякая канспірацыя не ўратуе галоўнага святара Іудзеі ад зламыснага вока.

У рэшце рэшт, Акіба сам знайшоў сабе належную замену. Ягоны вучань Рашбі — вось хто здолее правесці перамовы як след, дый здароўя ў яго яшчэ стае, каб хоць і з напругаю, але ўсё ж адужаць шлях да Ерусаліма. І ведаюць Рашбі не гэтак добра, як Акібу, бо ён заўсёды заставаўся, так бы мовіць, у ценю галоўнага святара.

Натуральна, з вялікім атачэннем Рашбі не пашлеш, бо гэта можа выклікаць падазронасць, але і аднаго ў небяспечную дарогу не выправіш. Хіба ж мала рознай набрыдзі бадзяецца ў наваколлі Ерусаліма? Рашбі, магчыма, спатрэбіцца і абаронца, і памагаты.

Тут ужо сваё важкае слова сказаў Бар Кохба:

— Лепшага спадарожніка, чым Архелай, і не прыдумаеш.

— Хто такі? — насцярожыўся Акіба.

— Ды ты яго бачыў, рабі. Памятаеш, калі ты адклікаў мяне з войска, я прыйшоў з юнаком і папрасіў дазволу, каб ён застаўся са мною?

— Нешта згадваю...

— Выдатны юнак! Дужы, разумны, кемлівы... Ён жа прысутнічаў пры ўсіх маіх зносінах з Рашбі і выслухаў усе ягоныя словы.

— Гэта няблага...

— Не меней важна і тое, што ў Ерусаліме Архелай зможа зрабіць належную выведку, — абгрунтоўваў свой выбар Сімон. — Ты, рабі, магчыма, не звярнуў увагі на знешнасць гэтага юнака. Хлопец зусім не падобны на нас, яўрэяў... Светлавалосы, блакітныя вочы, не кручкаваты, а прамы нос... Ну акурат тыповы рымлянін! Я мяркую, што там, у Ерусаліме, Архелая будуць успрымаць як рымскага грамадзяніна, і яму якраз будзе лацвей пранікнуць у варожы стан, каб што-нішто выведаць...

Разлік Сімона Акіба ўхваліў.

Тым жа надвячоркам Рашбі і Архелай былі пакліканыя да Акібы і мелі доўгую размову з галоўным святаром і Бар Кохбам.

А ўжо назаўтра з самае раніцы яны выйшлі за сцены Бетара.

Вандроўнікі не бавілі ў дарозе час дарма. Рашбі шмат даведаўся пра сірочую долю юнака, але найболей плённымі зносіны сталіся для Архелая. Як і некалькі тыдняў таму, калі давялося разам з Бар Кохбам спасцігаць ад Рашбі асновы Торы, юнак прыслухоўваўся да кожнага слова, да кожнай думкі мудрага чалавека.

Ужо на подступах да Ерусаліма Рашбі распавёў Архелаю гісторыю-прытчу, якая маладзёна вельмі ўзрушыла.

— Некалі ў горадзе Кадэсе жыў дабрадзейны чалавек Тавііл, — расцягваючы словы, з роздыхам апавядаў святар. — І меў ён сына Товію. Паслухмяным рос хлапчук, пакорлівым, ніколі не рабіў шкоды, бо з

дзяцінства выхоўваўся ў добрапрыстойнасці. Але аднойчы мірнае жыццё насельнікаў Кадэса парушыла вялікая бяда. Нахлынула ў горад незлічонае войска ўсемагутнага цара Саламансара. І ўсчынілі захопнікі з людзей неймаверны гвалт. Хто аказваў супраціў, тых яны пазабівалі, а многіх забралі ў палон, пагналі ў Ніневію. Сярод палонных апынуўся і Товія. Цяжкаю, невыноснаю была доля нявольнікаў, аднак Товія не зачарсцвеў душою, не наракаў на лёс. Пакорліва ўспрымаў выпрабаванні, якія паслаў яму Бог: у Богу многія тады зняверыліся, выказваліся, што ён несправядлівы, неспагадлівы, калі дазваляе язычнікам здзекавацца з абранага народа, пасылае яму гэткія пакуты. І адракаліся яны ад свайго Бога, і маліліся іншым, паганскім бажкам. А Товія не зняверыўся і не слаў Богу праклёны, адно толькі маліўся Яму. Калі выпадала магчымасць, наведваўся Товія ў Ерусалім, Богам абраны горад, каб засведчыць сваю пашану і пакінуць святарам сціплую даніну. Спагадлівым, добразычлівым быў Товія і да простага люду, заўсёды падаваў міласціну жабракам і калекам. І як узнагароду за ўсю гэтую дабрачыннасць, за добрую душу ягоную Бог паслаў Товію прыхільнасць цара Саламансара. Прыкмеціў шчырага юнака цар, наблізіў да сябе і прызначыў яго на вельмі адказную пасаду. Але ішоў час, нямоглым стаў Саламансар і неўзабаве памёр. На змену яму прыйшоў Сеннахярыб — жорсткі, бязлітасны, ваяўнічы. Аднаго разу пайшоў ён вайною супраць Ерусаліма, абрабаваў яго і разбурыў, а калі вяртаўся ў Ніневію, знішчаць пачаў бедных яўрэяў на сваім шляху, помсцячы ім за вялікія страты, што панёс пры штурме Святога горада. Дый у сваім царстве загадаў ён бязлітасна забіваць нашчадкаў Аарона. Куды ні кінеш вокам — усюды валяліся непахаваныя целы. А тых, што забівалі ў горадзе, проста скідвалі за крапасныя сцены, дзе яны і гнілі ў вялізных кучах. Па начах Товія патаемна выбіраўся за горад і да самага світанку закопваў у зямлю знявечаныя целы. І хоць без належнага ўшанавання, але гэта ўсё ж было пахаванне, і ні згаладалыя звяры, ні драпежныя птушкі не маглі болей крамсаць-раздзіраць тыя целы на кавалкі. Аднаго разу зазірнуў цар Сеннахярыб за крапасную сцяну і не ўбачыў там целаў яўрэяў, забітых па ягоным загадзе. Раз’ятрыўся, разгневаўся цар і ўсклікнуў: “Куды падзеліся тыя целы? Хто адважыўся дакрануцца да іх і тым болей пахаваць? Знайсці таго чалавека!” Як ні таіўся Товія, але ж хто-ніхто скмеціў ягоныя вылазкі за горад, і падказалі тыя лісліўцы цару Сеннехярыбу, чыіх рук гэтая справа. Загадаў цар прывесці Товію, каб пакараць яго самаю страшнаю караю. Ды, на шчасце, чутка пра гнеў цара дайшла да Товіі хутчэй, чым ягоныя паслугачы, і здолеў спагадлівы чалавек непрыкметна пакінуць горад і схавацца ў мястэчку. Раз’юшаны цар забраў усё нажытае Товіяй дабро, усю ягоную маёмасць, а самога гаспадара загадаў шукаць і ўдзень, і ўначы, і ў царстве, і за ягонымі межамі. А неўзабаве напаткала цара Сеннехярыба раптоўная смерць. І быў спынены пераслед дабрадзейнага чалавека, і вярнуўся ён у горад. Аднак жа хоць і сканаў жорсткі цар, ды пакуты сыноў Ізраілевых не скончыліся, па-ранейшаму забівалі іх бязлітасна і пакідалі целы сярод чыстага поля. І зноў Товія, хоць ужо і не таемна, пачаў хадзіць па наваколлі і закопваць мёртвыя целы ў зямлю, ратуючы іх ад гвалту. Суседзі ды знаёмыя дзівіліся з Товіі, а часцей дык насміхаліся: “Навошта займаешся ты бескарыснаю і няўдзячнаю справаю? Ці ж цябе чакае за гэта якая-небудзь узнагарода?” А Товія не зважаў на людскія насмешкі, зноў і зноў кожную раніцу кіраваўся за горад... Аднаго разу ўвечары вярнуўся ён дахаты задужа стомлены: вельмі ўжо шмат целаў давялося

пахаваць яму ў той дзень. З-за гэтага сыходзіў ад Товіі надта смярдзючы пах, і не мог ён адразу ж зайсці ў свой дом. Знясілены, паваліўся Товія каля сцяны, у двары, каб трохі перадыхнуць, дый незаўважна для сябе заснуў. А калі прачнуўся і адкрыў павекі, дык жахнуўся ад неймавернасці: вочы ягоныя былі невідушчыя! Выйшла на ганак жонка Товіі, згледзела, якая бяда напаткала абручніка дый загаласіла. А потым і ўшчуваць стала: “Дзе ж твая міласціна? Дзе твае добрыя справы? Якая з іх для цябе карысць? Бог нават кару на цябе наслаў!” Аднак не пахіснуўся ў веры знявечаны Товія, не ўпадобіўся жонцы, а нават прыкрыкнуў на яе: “Бог справядлівы і дабрачынны! І калі наслаў ён на мяне такую навалу, дык жа, мусіць, я гэтага заслугоўваю! Шмат грахоў за маімі плячыма, і нямала ганебных учынкаў здзейсніў я ў сваім жыцці. За гэта і кара. А калі і не за гэта, дык за грахі продкаў маіх, здзейсненыя знарок ці ненаўмысна!” І ўпаў Товія на калені, і стаў прасіць Бога толькі аб адной літасці: “Божа, пашлі мне раптоўную смерць, каб я зноўку стаў зямлёю і займеў вечны прыстанак!”

Тут Рашбі чамусьці замоўк, і Архелай не мог уцяміць, ці то прытча на гэтым скончылася, ці то састарэлы святар зрабіў для сябе перадых. На ўсялякі выпадак Архелай асцярожна запытаўся:

— А чаму ж гэта Бог сапраўды пакараў Товію, калі ён быў такім добрапрыстойным? Выходзіць, як казала мая бабуля Алума, “з’еж хоць вала — адна хвала”. Няўжо і да грэшнікаў, і да сваіх прыхільнікаў Бог ставіцца аднолькава? У чым жа тады сэнс веры?

Рашбі яшчэ колькі хвілін памаўчаў, нібы падбіраючы для вытлумку патрэбныя словы, і, нарэшце, мовіў:

— Бог дае кожнаму па ягоных заслугах... Ты паслухай, што было далей, і сам усё зразумееш... У той жа самы дзень, калі Товія перастаў бачыць белы свет і прасіў у Бога смерці, пра такую ж долю для сябе маліла яшчэ адна істота. У горадзе Экабатане жыла Сара, дачка Рагуіла. Сем разоў выдавалі яе замуж, але яна заставалася цнатлівіцаю, бо ейны злы дэман Аешмадаева забіваў усіх, хто хацеў да яе дакрануцца, і шлюбнаю ноччу задушыў усіх семярых абраннікаў. Абедзве малітвы ў адзін і той жа час дайшлі да Бога. Гэта адзін з сямі анёлаў, якія маюць права трапляць у свяцілішча Божай славы з малітвамі святых, Рафаіл, паспрыяў Товіі і Сары. Бог са спагадаю паставіўся да іхніх малітваў і даручыў Рафаілу выправіць зло...

Рашбі змушаны быў перапыніць свой аповед, бо сцежка бралася на досыць круты ўзлобак і варта было кантраляваць дыханне. Святар караскаўся паперадзе, цяжка соп, ступаючы з камяня на камень і напружваючыся ўсім целам. Архелай трымаўся ззаду, не далей як на адлегласці выцягнутай рукі, каб у любы момант падхапіць святара, калі ён, крый божа, адступіцца ці пахіліцца назад. Паволі, крок за крокам, яны ўсё ж без лішніх прыгодаў узабраліся на той узлобак, і Рашбі, знясілены, гупнуў на гладкі выступ у адорвені, каб трохі аддыхацца. Архелай цярпліва перачакаў, пакуль спадарожнік адновіць сілы, і паспяшаўся запытацца:

— Дык чым жа ўсё скончылася? Я пра Товію...

Відаць, Рашбі не зусім акрыяў, яму яшчэ ў напругу было весці размову, таму ён завяршыў коратка, некалькімі сказамі:

— Ну што, Товія і Сара знайшлі адно аднаго, пабраліся... Пражыў Товія ў шчасці і злагадзе сто шэсцьдзесят восем гадоў і пахаваны быў з гонарам і пашанаю. Потым і жонка злегла побач. Іхні сын атрымаў набытую маё-

масць у спадчыну, памножыў яе, дый сам пражыў ажно сто дваццаць сем гадоў. І вось што самае адметнае: перад смерцю Товія вельмі ўзрадаваўся, бо атрымаў вестку, што Ніневія ўзятая і ўсе ворагі Ізраіля пакараныя...

Колькі хвілін спадарожнікі ішлі моўчкі: Рашбі конча аднаўляў сілы, а Архелай "пераварваў" у галаве пачутае. Святар загаманіў першым, спытаўся:

— І якую ж выснову зрабіў ты для сябе, мой юны сябар?

— Мне здаецца, яна навідавоку, — імпэтна азваўся Архелай. — Кожны чалавек павінен дапамагаць іншым, зносіцца толькі з прыстойнымі людзьмі, быць сумленным, устрымлівацца ад розных спакусаў...

— Гэта правільна. Вось глядзі: Товія служыў тым, хто пераследаваў ягоных адзінаверцаў, і не шукаў для сябе ніякай карысці. Ён лічыў, што шчасце — у разумнай умеркаванасці і справядлівасці, трываў беднасць без аніякіх нараканняў і ўсім казаў, што радасць у тым, каб аддаваць, а не запасіць...

— А яшчэ я зрабіў выснову, што Бог вельмі справядлівы і ў рэшце рэшт дае кожнаму тое, чаго ён заслугоўвае, — дапоўніў сябе самога Архелай.

— І гэта слушна. Бог для нас — як бацька. Ён можа пакараць любімага сына, а затым злітуецца з іх, паспрыяе... Бывае, што нават на чалавека, які жыве праведна, чамусьці выпадае столькі пакутаў і выпрабаванняў! Здавалася б, за што? Чаму? А таму, што мы не заўсёды ўсведамляем уласныя грахі, дый даводзіцца адказваць за памылкі сваіх продкаў...

Рашбі зноў на хвіліну прымоўк, а затым пачаў тлумачыць далей:

— Ты павінен засвоіць, як неабходна ставіцца да шлюбу, бо зусім малады і ў цябе ўсё наперадзе. Адносіны паміж абраннікамі павінны быць цнатлівымі, разважлівымі, пяшчотнымі. Прававерны яўрэй абавязаны пабрацца толькі з яўрэйкаю з харошага дома, і каб сваякі ў яе былі прыстойныя. Прыгажосць, вядома ж, мае пэўную вартасць, але гэта не галоўнае. Перш за ўсё трэба ўлічваць, як абранніца захоўвае нашыя законы і звычаі, як клапоціцца пра сямейны дабрабыт... Мужчына і жанчына ўвогуле прызначаныя адно для аднаго — так наканавана Богам. Толькі тыя шлюбы, якія заснаваныя на ўзаемнай прыязнасці, здаровым разліку і ў рэшце рэшт сяброўстве, бываюць моцнымі і шчаслівымі. І абавязкова трэба, каб муж меў вяршэнства над жонкаю, асабліва маральнае... А што тычыцца "пачуццёвых адносінаў", "жарснага кахання" — дык пустое гэта ўсё. Пачуцці пройдуць, жарсць астыне — і ад такога шлюбу не застанецца і следу...

Архелай хоць і слухаў уважліва, але парады наконт кахання і шлюбу яго не надта хвалявалі, бо пакуль што ён не зведаў ні таго, ні другога. Таму юнак паспрабаваў скіраваць размову ў іншае рэчышча:

— А вось напрыканцы ты, паважаны Рашбі, распавёў, што Ніневія была вызваленая і ўсе гэтаму дужа радаваліся. Мусіць жа, тут таксама ёсць нейкая мудрасць ці прароцтва?

— Гэта, мой юны дружа, якраз і ёсць самае галоўнае... Усё тое, што збылося з Товіем, збудзецца і з Ізраілем. Калі Бог пакараў Товію, Ён тым самым сцёр усе ягоныя папярэднія памылкі і грахі. Ізраіль ужо ўдосталь адмучыўся за свае грахі перад Богам. І значыць, наш Храм хутка адновіцца, і будзе ён не такім, як калісь, а яшчэ болей велічным, і застанецца назаўжды, як гэта прадказана прарокамі. Усе рассеяныя па зямлі яўрэі вернуцца на сваю Радзіму, і адбудуюць яны Ерусалім нанова. Гэта будзе горад з сапфіраў і смарагдаў. Ягоныя плошчы ўпрыгожацца мазаікамі з берылу і курбункула, а на вуліцах будзе заўсёднае свята. І ўсе іншыя

народы накіруюць свае малітвы да сапраўднага Бога, а ідалаў сваіх закапаюць у зямлю. І будуць узнагароджаныя Богам усе насельнікі, якія шчыра любілі Ерусалім і спагадалі ў ягоных пакутах...

Святар незаўважна для самога сябе ўзбіўся на ўзнёсласць. Як быццам не бязвусаму юнаку пераказваў прароцтва, а вёў пропаведзь перад шматтысячным натоўпам. Абсекчыся на слове Рашбі змусіла тое, што сцежка раптоўна вынырнула з-за чарговага ўзлобка і рэзка, амаль пад прамым вуглом, пабегла ўздоўж горнае грады, што, як акінуць вокам, цягнулася з поўдня на поўнач. Рашбі і Архелай на хвіліну знерухомелі, скіраваўшы свае позіркі ўніз. Там, як на далоні, ва ўсю шыр і велічнасць раскінуўся Ерусалім...

Горная града, уздоўж якое вандроўнікам належала абысці горад па ўсходняй мяжы, стварыла на месцы Ерусаліма нешта накшталт мыса, з трох бакоў акружанага глыбокімі далінамі. Схілы з грады былі настолькі крутымі, што трапіць у горад з усходу, захаду і поўдня амаль не выпадала. Дарогі да Ерусаліма меліся толькі з поўначы, яны ўзбіраліся на вышыню горнае грады, так што Рашбі і Архелаю, якія акурат прыйшлі з поўдня, яшчэ трэба было па сцяжынцы спусціцца ўніз, да адной з дарог, а потым па ёй зноў падымацца ўгару... Такі ландшафт спрыяў таму, што Ерусалім быў амаль непрыступным для ягоных ворагаў. Варта было толькі належна паклапаціцца пра абарончыя збудаванні на паўночных ускраінах.

Даліна, якая мела назву Тырапеён, даліна сыравараў, падзяляла горад на дзве няроўныя часткі — заходнюю, большую, і ўсходнюю. У абедзвюх над сярэднім узроўнем плато ўзвышаліся ўзгоркі. Паблізу вяршыні шырокага заходняга ўзгорка месціўся Верхні горад з руінамі колісь велічнага палаца Ірада Вялікага. А Акру, вяршыню ўсходняга ўзгорка, якую працавітыя яўрэі пашырылі ўласнымі рукамі, некалі вянчала беласнежная аграмадзіна Ерусалімскага храма. Ніжэй ляжалі кварталы найбольш старой часткі горада. Да гэтых узгоркаў з поўначы, быццам звязваючы кожны з іх горнаю градою, туліліся два невялікія ўзлобкі: заходні, які меў назву Галгофа, і ўсходні — Безета. Па іхніх схілах збягалі ўніз вуліцы Новага горада і прыгарадных прадмесцяў.

Хоць Ерусалім быў навідавоку, Рашбі і Архелаю давялося яшчэ амаль гадзіну таптаць камяністую горную сцежку, перш чым ступіць на добра находжаны і наезджаны шлях, які клінам уторкваўся ў вірлівае прадмесце Ерусаліма...

## Парастак кахання

Каб патрапіць на ўскраіну, дзе вялікім кагалам месціліся хрысціяне, Рашбі і Архелаю давялося пратупаць па вулках паўразваленага горада амаль у супрацьлеглы яго канец. Рашбі не ведаў, дзе дакладна жыве цяпер епіскап ерусалімскіх хрысціян Іуда, але ў гэтым не было вялікай бяды. Кожны сустрэчны з ахвотаю паказваў правільны шлях і не выказваў ніякай падазронасці, бо да епіскапа апошнім часам было шмат хадакоў з усяе Іудзеі, дый не толькі з яе. Ледзь не штодня да Іуды наведваліся адзінаверцы з Галілеі, Самарыі, Заіардання: новая рэлігія, не маючы перашкодаў з боку рымскай улады, ахоплівала ўсё большую тэрыторыю, акурат як восеньская павуціна.

Рашбі і Архелай дамовіліся загадзя: пакуль святар будзе весці перамовы з епіскапам (а для гэтага спатрэбіцца гадзіны дзве, не меней), юнак па-

шастае па горадзе і паспрабуе выканаць сваю задачу — што-нішто выведае пра рымскі гарнізон.

Калі вандроўнікі падышлі да патрэбнае хаціны, Рашбі зусім не ўразіла тое, што яна нічым не адметная сярод іншых, бо і ўсе іудзейскія рабіны, нават сам Акіба, мелі аскетычнае жытло. Архелай застаўся стаяць воддаль, на супрацьлеглым баку вулкі, а Рашбі ссохлым да касці пальцам лёгка пастукаў у дзверы. Іх доўга ніхто не адчыняў, і, нарэшце, з праёму высунулася сівая галава. Абодва старыя колькі хвілін моўчкі ўзіраліся адзін у аднаго, пакуль не распазналіся. На твары Іуды не здрыганулася ніводная маршчынка, ніякіх пачуццяў — ні радасных, ні змрочных — ён не выказаў, адно толькі расчыніў дзверы шырэй, як бы запрашаючы госця зайсці ў сярэдзіну. Аднак, перш чым зрабіць гэта, Рашбі павярнуўся ўсім целам да Архелая і злёгку махнуў яму рукою: маўляў, усё ідзе як след, можаш рабіць тое, пра што дамаўляліся.

На ўсялякі выпадак Архелай якія дзве хвіліны патупаў туды-сюды ўздоўж вулкі і ўжо збіраўся збочыць у глыбіню горада, як з-за вугла маланкаю вылецела і ледзь не збіла яго з ног чалавечая істота.

— А каб цябе!.. — нязлосна вылаяўся юнак і змушаны быў схапіць “маланку” ў абдымкі, каб не страціць раўнавагу і не плюхнуцца азадкам аб глебу.

— Вой! — у сваю чаргу піскнула чалавечая істота, перш чым Архелай даўмеўся, што гэта — дзяўчына. А калі даўмеўся, дык не адразу адкінуў свае рукі з ейных плячэй і гарэзліва прыціснуў дзяўчыну да сваіх грудзей, злёгку прытрымліваючы.

— Пусці, дзядзечка! — дзяўчына, спрабуючы адштурхнуцца, уперлася ў грудзі Архелая кулачкамі і цнатліва зірнула на яго знізу ўверх. У вачах дзяўчыны імгненна ўспыхнула боязь уперамешку з жахам, яна з неймавернай сілай, якую немагчыма было ўявіць у гэтым тоненькім цельцы, вырвалася з рук незнаёмца і кінулася бегчы.

Імгнення, калі сустрэліся іхнія позіркі, Архелаю хапіла, каб разгледзець, якое неймавернае прыгажосці гэтая дзяўчына. Яна, прыгажосць, асляпіла яго, нібы паўдзённае сонца заскарузлага мніха, які выбраўся са свае келлі на белы свет і неабачліва скіраваў пагляд угару. Архелай хвіліну-другую разгублена лыпаў вачыма, не апускаючы рук, якія толькі што трымалі сапраўдную жар-птушку. Затым, ачомаўшыся, рэзка крутануўся на адной назе і кінуўся ўслед за дзяўчынаю. Ён зрабіў гэта рэфлекторна, няўцямна, бо падсвядома зразумеў: калі знікне гэтая прыгажосць у якім-небудзь завулку ці двары, ён ужо яе ніколі не ўбачыць. Архелаю было не да таго, што ён скажа дзяўчыне, калі яе дагоніць, і па якому праву ён даганяе яе ўвогуле. У галаве юнака засела толькі адна думка: спыніць, затрымаць, а там — будзь што будзе.

Дзяўчына не паспела адбегчы далёка, і Архелай нагнаў яе за два-тры вялікія скачкі, схапіў за перадплечча і павярнуў тварам да сябе.

— Ты чаго ад мяне ўцякаеш? Хіба ж я такі страшны? — прыязна ўсміхаючыся, ён стараўся зазірнуць у калючыя, перапоўненыя страхам вачаняты.

— Пусці! Пусці мяне, кажу! — дзяўчына вырывалася як мага і нават паспрабавала ўкусіць Архелая за руку, якая трымала ейнае плячо. Каб утаймаваць імпэт уцякачкі, юнаку зноў давялося згарнуць яе ў абдымкі і на гэты раз ужо моцна прыціснуць да сябе.

— Ну чаго ты мяне жахаешся? Супакойся! Я ж табе нічога благога не зычу!

— Адыдзі! Адпусці! Я ўсё адно з вамі не пайду! Так і перадай свайму Акілу: я ніколі не буду ягонаю наложніцаю! Ніколі!

— Акілу? А хто такі Акіла? — усё яшчэ не выпускаючы дзяўчыну з абдымкаў, з непрыхаванай цікавасцю запытаўся Архелай.

— А то ты не ведаеш! Просценькім прыкідваешся... Думаеш, калі ў звычайнай вопратцы, дык я не распазнала ў табе легіянера? Акіла не можа заспець і схапіць мяне пры людзях, дык, во, загадаў выкрасці спадцішка... Пусці мяне! Ну я прашу, пусці!

— Клянуся богам Яхве, я не легіянер і ніколі не чуў пра нейкага Акілу! — палымяна ўсклікнуў Архелай. — Я ўвогуле ў гэтым горадзе ўпершыню.

— Так я табе і паверыла... — выслізвалася з абдымкаў дзяўчына, хоць і не так адчайна. — Яхве ўспомніў... У вас жа зусім іншыя багі, ты імі пакляніся...

— Ды не ведаю я іншых багоў. Для мяне існуе толькі адзін — наш, яўрэйскі.

— Яшчэ і яўрэем прыкідваешся... Ты свой адбітак бачыў? Які з цябе яўрэй?

— А-а, ты пра гэта! — зарагатаў Архелай і міжволі расчапіў свае рукі. — Мяне многія з рымлянамі блытаюць. Такім ужо ўрадзіўся...[1]

— Усё адно я табе не веру, — задаволеная тым, што незнаёмец яе больш не трымае, дзяўчына адступілася ад яго, але ўжо не ўцякала, бо, мусіць, разумела: юнаку няцяжка будзе злавіць яе зноў. Да таго ж, хлопец, калі ён сапраўды не хлусіць, не такі ўжо і агідны, хутчэй наадварот — прыгажун, такіх яна дагэтуль не бачыла...

— А ты павер! — з тым жа імпэтам усклікнуў Архелай, зрабіў крок да дзяўчыны і працягнуў ёй руку.

— Не падыходзь! — адхінулася дзяўчына. — А не дык зноў буду ўцякаць!

— Ну добра, добра, — ступіў на ранейшае месца Архелай. — Ты толькі не хвалюйся. Лепей скажы, як завуць такую прыгажуню.

Дзяўчына, мусіць, канча паверыла, што гэты юнак — не найміт Акілы і не мае на мэце ейнага выкрадання, скіравала позірк долу і ціха адказала:

— Вірсавія...

— Якое прыгожае імя! — з неўдаванным захапленнем усклікнуў Архелай. — Такое ж прыгожае, як сама ягоная ўладальніца...

— Яшчэ што прыдумаеш! — засаромелася Вірсавія, хоць ёй было прыемна пачуць тыя словы, па-першае, менавіта ад гэтага хлопца, які, і яна гэта адчувала, пачынае ёй падабацца, а па-другое, дагэтуль ніхто нічога падобнага ёй не казаў...

— Павер, я гэта зусім шчыра, — скмеціўшы збянтэжанасць Вірсавіі, яшчэ больш палымяна засакатаў Архелай. — Такое пекнаты, хоць абыдзі ўсю Іудзею, не знойдзеш.

— Ну годзе, годзе... — Вірсавія густа пачырванела. — Скажы лепей вось што: ты не будзеш да мяне чапляцца, калі я проста пайду?

— Пойдзеш? А навошта?... Я... — у горле Архелая застралі ўсе патрэбныя словы, якімі можна было б хоць на хвілю затрымаць каля сябе гэтае дзівоснае боскае стварэнне, і ён усведамляў, што ўтрымліваць дзяўчыну сілком ён ужо не асмеліцца.

---

[1] У адрозненне ад насельнікаў сучаснай Італіі, тагачасныя рымляне большасцю былі светлавалосыя і блакітнавокія.

— Можа, яшчэ пагутарым трохі? — з надзеяй і непрыхаваным маленнем у голасе ці то запытаўся, ці то папрасіў Архелай.

Па ўсім было бачна, што Вірсавія і сама не прэч пагаманіць з упадабаным хлопцам яшчэ, але яна чамусьці цвёрда мовіла:

— Не, калі ты дазволіш, я пайду. Мяне чакаюць...

— Хто чакае? Абраннік?! — з адчаем запытаўся-ўсклікнуў Архелай.

— Які абраннік? — непадробна і галасна рассмяялася Вірсавія. — Тата мяне чакае, тата! Я абяцала яму прыйсці не пазней як апоўдні...

З гэтымі словамі Вірсавія абмінула Архелая і падалася да хацінкі, у якую толькі што зайшоў рабі Рашбі...

Архелай аслупянеў. Выходзіць, што гэтая прыгажуня Вірсавія — дачка хрысціянскага епіскапа Іуды?! Юнак не цяміў, засмучацца гэтаму ці радавацца. З аднаго боку — ён ужо дакладна ведае, дзе шукаць упадабаную ім дзяўчыну (што шукацьме, Архелай не сумняваўся), а з другога — вынікае, што Вірсавія прыходзіцца дачкою галоўнаму хрысціяніну Іудзеі, дый сама, мусіць жа, хрысціянка. Архелай добра засвоіў, з якою пагардаю і нянавісцю ставіцца да гэтых адшчапенцаў мудры Рашбі, дый не толькі ён. Вунь калі Рашбі і пра Товію распавядаў, дык нагадваў, што абранніца павінна быць не проста яўрэйкаю, а перадусім праваапернаю. Гэтая акалічнасць абяцае вялікія перашкоды ў магчымых стасунках з Вірсавіяй...

Пакуль Архелай абцяжарваў свой клёк гэтымі развагамі, дзверы ў хаціну, куды зайшла дзяўчына, паспелі не толькі зачыніцца, але і зноўку расчыніцца: Вірсавія чамусьці затрымалася дома ненадоўга.

— Да таты чалавек прыйшоў, нейкі вельмі важны, дык ён папрасіў, каб я дзе-небудзь пагуляла, не перашкаджала іхняй размове... — нібы просячы прабачэння, патлумачыла яна Архелаю, адводзячы вочы ўбок.

Калі б хлопец быў болей уважлівым, ён бы заўважыў, што твар дзяўчыны чамусьці праменіцца радасцю і яна, падобна, задаволеная тым, што новы знаёмец не паспеў некуды сысці.

— Ну то і добра! — усклікнуў Архелай, узрадаваны з таго, што знаёмства з пекнаю дзяўчынаю не абарвалася, так бы мовіць, на паўслове. З ягонай галавы імгненна вылецелі згадкі пра Товію і прававерную абранніцу.

— А ці не з тым старым чалавекам ты сюды прыйшоў? — выказала здагадку Вірсавія, пільна зірнуўшы на Архелая.

— Сапраўды, з ім, — пагадзіўся юнак, але што прывяло іх у Ерусалім, пераказваць не стаў. — Можа, пагуляем трохі па горадзе?

Вірсавія крыху павагалася, хутчэй для блізіру, і пагадзілася:

— Можна і пагуляць...

— Вось толькі я зусім не ведаю, куды цябе павесці. Магу і заблудзіцца.

— Ну тады я цябе павяду! — рассмяялася Вірсавія.

— А давай сходзім туды, дзе некалі быў палац Ірада! — папрасіў Архелай. — Я столькі пра яго чуў...

Ён, па праўдзе кажучы, меў на мэце сваё, карыслівае, бо яшчэ ў Бетары дасведчыя людзі падказалі, што рымскі гарнізон большасцю месціцца вакол трох уцалелых вежаў, якія высяцца на паўночным баку зруйнаванага палаца. Але Вірсавія раптам ажно скаланулася, ейны тварык пабялеў.

— Толькі не туды! — з жахам усклікнула яна — Там жа рымскае котлішча, там Акіла. Крый божа патрапіць яму на вочы...

— А чаго ты так баішся рымлян? Яны ж, здаецца, вас, хрысціян, не чапаюць... Дый што за Акіла такі, якога ты гэтак цураешся і ненавідзіш?

— Потым, потым раскажу, — таропка мовіла Вірсавія і рушыла ў су-

працьлеглы ад былога палаца бок, да аквядука і Вадзяных варотаў, дзе яна ведала кожны каменьчык, кожную травінку. Архелай быў змушаны пайсці следам.

Па добра ўтаптаных сцежках і бязлюдных завулках, трымаючыся крыху воддаль адно ад аднаго, яны блукалі да тае пары, пакуль сонца не пачало брацца на схіл. І тут толькі Архелай спахапіўся: яго ж, бадай, ужо даўно чакае Рашбі! Дый Вірсавія замітусілася: тата, пэўна, непакоіцца, думае немаведама што. І яны ледзь не подбегам паспяшаліся вярнуцца ў хрысціянскае месцішча.

Пра што толькі ні перагаварылі Архелай і Вірсавія за дзве ці тры праведзеныя разам гадзіны! Як шмат яны даведаліся адно пра аднаго! І што асабліва ўразіла Вірсавію — іхнія лёсы падобныя, як дзве кроплі вады. Зрэшты, тагачасныя жыцці ўсіх яўрэяў, знявечаныя не такою ўжо і далёкаю вайною, увогуле мала чым розніліся...

На подступах да патрэбнае вулкі Архелай і Вірсавія трохі суцішылі хаду — быццам бы для таго, каб аддыхацца, а насамрэч — каб як мага адцягнуць час, калі давядзецца развітацца. У рэшце рэшт яны спыніліся ўвогуле, сталі насупраць, і Архелай узяў рукі Вірсавіі ў свае, прыклаў іх да вуснаў. Дзяўчына ўжо зусім не пручалася, аддана і даверліва пазірала ў блакітныя вочы юнака, якога яна, так ёй здавалася, ведае ад самых народзінаў і які абудзіў у ейных грудзях нешта незразумелае, невыказнае і дагэтуль нязнанае.

Архелай таксама з замілаваннем і пяшчотаю ўзіраўся ў ейны смуглявы тварык, быццам бы імкнуўся перад расстанем занатаваць у памяці кожную ягоную рысачку. На нейкае імгненне ў душы ўспыхнула неадольная жадоба прыпасці сваімі вуснамі да прыпухлых дзявочых губак, што нагадвалі разрэзаны пераспелы персік. Ён ужо пачаў павольна схіляць галаву, каб зрабіць гэта, аднак Вірсавія, зразумеўшы ягоны намер (зрэшты, ёй і самой хацелася пацалаваць юнака), насуперак уласнаму жаданню чамусьці адхіліла галаву ўбок і злёгку адштурхнула яго.

— Не трэба... Прашу цябе...

Архелай, як пакрыўджанае дзіця, удавана зморшчыў твар:

— Якая непаслухмяная дзяўчынка! Ну нічога... Хутка зноўку пабачымся...

— Ты ж казаў, што ўжо сёння разам са сваім спадарожнікам будзеце выпраўляцца з Ерусаліма.

— Так, але... Я думаю, што сама болей праз тыдзень вярнуся. І зноў жа не адзін... Нас будзе шмат...

— Каго гэта — вас? — непадробна зацікавілася Вірсавія.

Архелай зразумеў, што ляпнуў лішняе, бо нават гэтай дзяўчыне, якая стала для яго амаль роднаю, ён не мае права распавядаць ні пра блізкі наступ на Ерусалім, ні пра выведку, дзеля якой ён тут, уласна кажучы, і знаходзіцца.

— Ды не, я проста абмовіўся, — паспяшаўся выправіцца Архелай. — А можа, і не абмовіўся... Зрэшты, нічога ў мяне не распытвай. Добра? Хутка сама ўсё пабачыш...

Вірсавія і не стала распытваць. Яна звыкла, што ў чужыя, асабліва мужчынскія таямніцы носа саваць не варта. Вунь, напрыклад, тата. Колькі да яго людзей прыхозіць! Пра нешта ўпотайкі размаўляюць, аб чымсьці, бывае, шэпчуцца, а ёй да гэтага справы няма. Тое, што трэба, тата ёй распавядзе...

Маладзёны, нарэшце, зрушыліся з месца, і калі яны падышлі да хаты, Рашбі ўжо стаяў на вуліцы, нервова азіраючыся па баках — відавочна, вызырkваў Архелая. Згледзеўшы, што той ідзе з дзяўчынаю, Рашбі насупіўся, сціснуў сківіцы, але нічога не сказаў, моўчкі павярнуўся і цяжка патупаў у патрэбным яму кірунку. Гэта азначала, што размова з Іудам хутчэй за ўсё не мела плёну.

Архелай, толькі галавой кіўнуўшы Вірсавіі на развітанне, паспяшыў за святаром. Ён прадбачыў, што рабі адразу ж пачне распытваць, якія вынікі дала ягоная выведка, і загадзя вырашыў схлусіць, хоць рабіў гэта вельмі рэдка, у выключных выпадках, калі без падману нельга абысціся ніяк. Гэта быў акурат такі выпадак. Бо калі сказаць, што з-за дзяўчыны ён не зрабіў ніякіх намаганняў, каб патрапіць у лагер рымлян, дык яго прагоняць з атачэння Бар Кохбы, а то і ў вогуле папруць з войска. Архелай надумаў распавесці, што спробу ён зрабіў, але ў лагер не пусціла варта. А што тычыцца дзяўчыны... Дык ён жа акурат і папрасіў маладзіцу, каб яна стала для яго прыкрыццём: маўляў, ніякія мы не лазутчыкі, а проста маладая пара прагульваецца па руінах палаца. Аднак варта перагарадзіла шлях і ім абаім...

## Няўдалыя перамовы

Рабі Рашбі і епіскап Іуда, апынуўшыся ў пакоі сам-насам, хвіліну-другую стаялі моўчкі, адводзячы адзін ад аднаго позіркі. Ім цяжка было пачаць размову, бо, як ні круці, а яны ўсё ж ворагі, хай сабе не па-чалавечы, а па стаўленні да Бога. Зрэшты, гэта для іх, святароў, было яшчэ болей значна, бо складала сэнс жыцця.

Нарэшце Іуда жэстам запрасіў госця прысесці да стала, а сам прайшоў у глыбіню пакоя, прытуліўся спінаю да сцяны і ўжо цяпер кінуў пільны позірк на Рашбі, нібы задаючы маўклівае пытанне: “Ну, чаго ж ты да мяне завітаў? Што змусіла іудзейскага верхаводу звярнуцца да “напамаджанага”, як вы, іудзеі, называеце нас, хрысціян?”

Рашбі і праўда, прысеў, бо добра-такі здарожыўся, дый размова, як меркаваў, будзе доўгаю і няпростаю.

— Нам, яўрэям, цяпер жывецца вельмі цяжка, — нарэшце вымавіў Рашбі, робячы акцэнт на гэтае “нам, яўрэям”, каб засведчыць: хоць у хрысціян і іудзеяў няма духоўнае еднасці, але застаецца еднасць па крыві. — І ў такую складаную пару ўсім нам, хоць часова, трэба шукаць нейкае паразуменне, каб адужаць агульнага ворага...

Хто гэты агульны вораг, тлумачыць не было патрэбы, аднак Іуда нечакана заўважыў:

— Каго ты маеш на ўвазе, рабі? У нас, хрысціянаў, тут, у Ерусаліме, прынамсі, ворагаў нямашака...

Рашбі рэзка ўскінуў галаву:

— А што, рымскія акупанты для вас ужо не ворагі? Тое, што яны топчуць нашую зямлю, здзекуюцца з народа — гэта для вас усё адно?

— Не ўсё адно. Але Рым і ягоны кесар — гэта ўлада. А мы лічым, што няма ўлады не ад Бога...

Па твары Рашбі прабегла з’едлівая ўхмылка, і ён іранічна мовіў:

— Калі так разважаць, дык ваш Хрыстос спусціўся на зямлю толькі дзеля таго, каб забяспечыць уладарам іхнія кароны...

— Гэта не так. Калі ўладары не прытрымліваюцца запаведзяў, дык іхняя

ўлада незаконная, бо яны не жадаюць пакарыцца Богу, а хто не пакарыўся Богу, той служыць д'яблу.

Абодвум стала зразумела, што цяжкае тэмы, якая стрэмкаю сядзіць у целе аднаго народа, не мінаваць.

Аднак Рашбі не хацелася паглыбляцца ў тэарэтычную спрэчку, бо яна магла перарасці ў звыклую грызню, якая не дасць ніякага плёну і конча пахавае надзею на аб'яднанне, хай сабе і часовае. Ён зірнуў у вочы Іуды і прымірэнча выдыхнуў:

— Не будзем пра гэта... Ёсць больш важкая нагода для нашае размовы. Я маю на ўвазе прыход Месіі...

— А як жа! Чуў, чуў, — тут ужо ўхмылка з'явілася на твары Іуды. Сімон Бар Кохба, доўгачаканы збавіцель яўрэйскага народа!

— Мне незразумелая твая іронія, — з непрыхаванай раздражненасцю працягваў Рашбі. — Гэта сапраўды Месія, якога наш народ чакаў вякамі. Бог, нарэшце, прыслаў Яго, пачуўшы нашыя малітвы. Колькі разоў яўрэі браліся за зброю, каб адолець чужынцаў! І ўсе паўстанні захлыналіся ў крыві. "Ну і дзе ж ваш Бог?" — кпілі нашыя нядобразычліўцы. І праўда, Бог не спрыяў нам. Не спрыяў да гэтага часу. Але ў рэшце рэшт злітаваўся. І цяпер мы ўпэўнена можам сказаць: "Вось яна, Божая ласка. Бог прыслаў Месію. А значыць, на гэты раз мы пераможам!" Дык адкажы мне, Іуда: няўжо яўрэі, якой бы веры яны ні былі, страцяць гэты шанец?

— А мы яго ўжо страцілі, — не выдаючы ніякай узрушанасці, адказаў Іуда. — Сапраўдны Месія ўжо прыходзіў.

— Ты, вядома ж, маеш на ўвазе вашага Хрыста...

— А каго ж яшчэ? Толькі Ён і ёсць Месія. Аднак мы, яўрэі, замест таго, каб прыслухацца да Ягоных пропаведзяў, пайсці па ўказанай Ім дарозе, распнулі Яго...

— Ну, скажам, кончы вырак вынес не сінедрыён, а пракуратар Понцій Пілат...

— А хто на яго націскаў? Хто гэтак апантана патрабаваў Ягонае пакутнае смерці? Вашыя першасвятары, фарысеі.

— Згадкі пра добранькага пракуратара і крыважэрных яўрэяў — як віламі па вадзе. Дагэтуль ідуць пагалоскі, што Понцій Пілат быў бязлітасным і жорсткім. Вашыя Евангеллі я вывучыў вельмі ўважліва. Там жа ледзь не цераз слова бязглуздзіца, а то і мана. Вось, скажам, згадка пра суд у Ерусаліме. Ды ніякай прэторыі, у двор якой быццам бы прывялі Хрыста для допыту, у Святым горадзе не магло быць, бо рэзідэнцыя Понція Пілата месцілася ў Кесарыі, на ўзбярэжжы мора. І чаго б гэта яму напярэдадні Пэйсаху спадобілася прыехаць у Ерусалім? Ці яшчэ: каб адмежавацца ад выраку над Хрыстом, Пілат, які заўсёды пагарджаў намі, яўрэямі, раптам мые рукі. Ды гэта ж наш, чыста іудзейскі звычай! А як згадваецца пра сам суд? Быццам бы ён адбыўся ў доме першасвятара ды яшчэ ноччу. Ты ж сам выдатна ведаеш, што сінедрыёну катэгарычна забаронена выносіць выракі напярэдадні ці ў час святаў, тым болей Пэйсаху. Зрэшты, не будзем шукаць пылінку ў чужым воку... Вы лічыце, што менавіта вышэйшыя рабіны наканавалі смерць Хрысту. Лічыце — і няхай... Але ж першасвятары — гэта не ўвесь народ. Чаму ж у смерці свайго богачалавека вы, хрысціяне, папракаеце ўсіх яўрэяў агулам?

— Таму што вырак выносіўся з маўклівае згоды шараговых іудзеяў. Вось скажы мне: хіба вы не папракалі нас за адступніцтва, не падвяргалі сапраўднаму пераследу? Хіба вы не хвасталі ў сінагогах жанчын-хрысція-

нак, не забівалі іх каменнем? Усё гэта было і ёсць... І таму кожны іудзей, калі б яму выпала такая магчымасць, з асалодаю паслаў бы Хрыста на крыж...

Рашбі ні ў чым не запярэчыў. Зноў усталявалася зацятае маўчанне. Нарэшце Рашбі без асаблівай надзеі ў голасе запытаўся:

— Дык, значыць, ты не лічыш Сімона Бар Кохбу Месіяй?

— Ён проста самазванец... Хрыстос папярэджваў, што пасля Яго з'явіцца шмат ілжэ-пракокаў, якія будуць упадабляцца Месіі і спрабаваць весці рэй ад імя Бога. Але не верце ім, казаў Хрыстос...

— А можа, ваш Хрыстос акурат і быў лжэ-Месіяй? — раздражнёна перабіў епіскапа Рашбі. — Ды і ці быў ён увогуле? Сто гадоў мінула з тае пары. Хто сёння можа пацвердзіць ягонае існаванне? Хто ўвачавідкі назіраў ягонае ўваскрашэнне? Магчыма, гэта проста легенда, міф — не болей.

Нягледзячы на цяжкую абразу, Іуда захаваў спакой і нават не павысіў голасу:

— Легенда, кажаш? А чаму ж тады пра Хрыста напісаў Іосіф Флавій? Ён жа летапісец ваш, іудзейскі. А хіба ў Талмудзе не згадваецца імя Ісуса?

— Ды там многа Ісусаў згадваецца! — не здаваўся Рашбі. — Быў Ісус Ганоцры-Назарэй, які пакланяўся чарапіцы, быў Ісус бэн-Стада, варажбіт, які "вывез магію з Егіпта", быў і Ісус бэн-Пандыра — байструк, якога легкадумная гулёна прыдбала ад рымскага легіянера... Дык які з гэтых Ісусаў ваш?

— Тваё блюзнерства зусім не да месца, — не страціў раўнавагі Іуда. — Ты выдатна ведаеш, што Хрыстос — не міф, не легенда. Яшчэ жывыя вучні апосталаў, якія бачылі Госпада на свае вочы і слухалі Ягоныя пропаведзі. А тое, што вы, іудзеі, чапляецеся за дробязі, "хапаеце за язык", каб зблоціць іншаверцаў, дык гэта ўсім вядома. Такая ўжо вашая існасць... А ў сваім "балоце" гэтых дробязяў чамусьці не заўважаеце. Ну вось, напрыклад, вы лічыце, што Бог — адзін. Ці не так? А ў Быцці Бог кажа: "Створым чалавека па вобразу нашаму..." Калі Бог дыктаваў Пяцікніжжа Маісею і дайшоў да гэтых слоў, Маісей, як ты ведаеш, здзівіўся і адмовіўся запісваць. Маўляў, ты ж, Бог, адзіны ў сваёй існасці, а тут гэтае "створым". Людзі зняверацца. Што адказаў Усявышні? "Няхай хто хоча памыліцца, памыляецца". Дык вось і я, трохі перайначваючы, адкажу на тваё блюзнерства словамі Бога: не верыш у існаванне Хрыста — дык гэта твая бяда...

Як ні хацелася Рашбі пазбегнуць слоўнай перабранкі на тэму веры, аднак жа, бач, не ўдалося. І ён дакараў сябе за гэта, бо можа стацца, што іхняя сустрэча ніякага жаданага плёну не прынясе, толькі і атрымаецца, што наплююць адзін аднаму ў душу. Але ж не для гэтага ён, Рашбі, выправіўся ў Ерусалім. Паспрачацца, "пагрызціся" можна будзе і потым, калі ў Ерусаліме не застанецца рымскае набрыдзі. Тады, магчыма, увогуле не будзе патрэбы весці нейкія дыскусіі з хрысціянамі, з гэтымі запраданцамі. Да пазногця іх — і гамон...

Але ж зараз, каб дагадзіць епіскапу, трэба, мусіць, трохі адступіць, скіраваць размову ў злагаднае рэчышча.

— Ты, Іуда, не злуй на мае кепікі наконт Хрыста, — прымірэнча мовіў Рашбі. — Я ж толькі выказаў тое, пра што гамоняць некаторыя сумніўцы, фарысеі, напрыклад. А мы, прававерныя іудзеі, існаванне Хрыста пад сумнеў не ставім. Вось толькі...

— Што толькі? — Іуда, які да гэтага часу трымаўся непарушна, нечакана

ўзмыліўся. — У вас вечна гэтыя “але”, “аднак”, “толькі”... Няма ніводнае ісціны, ніводнае думкі, якую б вы ўспрынялі цалкам і без скажэння. Заўсёды знойдзеце якую-небудзь зачэпку, дробязь, каб зганьбіць, зняславіць, а затым перайначыць на свой капыл...

— Ты ж не даслухаў, Іуда, — Рашбі здолеў уклініцца ў маналог епіскапа. — Мы таксама згодныя лічыць вашага Іісуса сынам Божым. Але ён — не роўны Богу. А роўны каму? Ну, скажам, нашаму Маісею. Што ж датычыць ахвяры Хрыстовай, якую вы падаеце як збавенне ад чалавечых грахоў, дык, бадай, гэта перабольшана... — Рашбі стараўся падбіраць словы, якія б конча не раз’ятрылі Іуду, і ў той жа час не хацеў саступаць у галоўным. — Мы прызнаём ахвяру Хрыстову. Але толькі як асабісты подзвіг — не болей.

— Ну і заставайцеся пры сваёй думцы, — абыякава сказаў епіскап. — Вы, іудзеі, заўсёды аддзялялі людзей ад Бога. Нават Месія вам сёння патрэбен не для таго, каб ратаваць свае душы, а каб ён падсабіў вам вырашыць зямныя праблемы. Напрыклад, як цар Давыд. І ўвогуле: вы лічыце, што Месію Бог пашле толькі для яўрэйскага народа...

— А то як жа! Вунь нават ваш Хрыстос, калі аб’явіўся, выказаўся адпаведна: “Я пасланы толькі да блудных авечак дома Ізраілева”, — Рашбі ў чарговы раз выявіў свой досвед у хрысціянскіх догмах.

— А гэта якраз яшчэ адзін прыклад таго, што ва ўсім вы спрабуеце атрымаць карысць для сябе — і толькі. Так, Іісус найперш прыйшоў да “авечак Ізраілевых”. Але не для таго, каб стварыць для іх рай на зямлі, а для таго, каб мы, яўрэі, панеслі Слова Божае па ўсім свеце, да кожнага эліна, як спрадвек называюць язычнікаў. Не вылучаў Іісус ні народаў, ні асобных людзей. “Вось маці мая і браты мае. Бо хто выканае волю Бацькі майго, які на нябёсах, той брат мой, і сястра, і маці мне”, — гэтак ён звярнуўся да сваіх вучняў. І не трэба выварочваць словы Іісуса назнайніцу.

Рашбі вырашыў, што працягваць размову няма сэнсу: епіскап упарта стаяцьме на сваім, пераканаць яго немагчыма, а значыць, узгодненых дзеянняў не атрымаецца. Ён з цяжкасцю падняў сваё цела з-за стала і моўчкі пасунуўся да дзвярэй. Ужо на парозе, нібы адумаўшыся, на ўсялякі выпадак запытаўся:

— Дык што, Іуда, ніякай помачы ад вас не будзе?

— А якую помач вы хацелі б мець? — у сваю чаргу запытаўся епіскап.

— Мы хацелі б, каб тут, у Ерусаліме, у належны час твае людзі выступілі супраць рымлян. Узгоднена з нашымі дзеяннямі...

— А вось гэта ні ў якім разе, — цвёрда мовіў Іуда. — У імя каго змагацца? У імя вашага самазванца, якога вы, мусібыць, самі ж і прыдумалі? Не дачакаецеся...

— Ну-ну... — злавесна выціснуў скрозь зубы іудзейскі святар, зыркнуў з-пад ілба і падаўся на вуліцу.

## Клопаты Акілы

На сходцы з легатам і трыбунамі Ціней Руф сказаў ім не ўсю праўду. Ён паслаў табілярыя не толькі ў Сірыю, да Публія Марцэла. Яшчэ адзін ганец паспяшаўся ў Егіпет, да тамтэйшага прэфекта Цітыяна. Руф таксама прасіў яго прыслаць на помач легіён.

Але ўсё гэта, цяпер ужо відавочна, дарма. Ні з Сірыі, ні з Егіпта падмога

проста не паспее. Толькі што лазутчык Руфа ў Бетары прынёс непрыемную вестку: мяцежнікі падыйдуць да Ерусаліма з дня на дзень. І тады гамон... Вырвацца з горада, прабіцца да Кесарыі ўжо не ўдасца, хоць ганарысты Гней і трымаецца ваяўніча.

Тэрмінова паклікаўшы Гнея і Акілу да сябе, Руф ужо не распачынаў з імі тлумныя дыспуты, адно толькі каротка загадаў:

— Ерусалім мы пакідаем. На зборы — адзін дзень. Выконваць!

Нараканняў на кароткі час для падрыхтоўкі не прагучала. Вымуштраваныя легіянеры маглі сабрацца ўвогуле за гадзіну, а Акіла разумеў: плён ягонае працы — будыніны, помнікі — усё роўна за плячыма не панясеш...

Пагалоска пра тое, што заўтра войска пакіне Ерусалім, разляцелася амаль імгненна. Горад ажыў, заварушыўся, напоўніўся гулам і ўстрывожанымі галасамі.

Акіла склікаў сваіх семярых амфадархаў, аддаў ім належныя распараджэнні, а сам наважыўся падступіцца да дзвюх далікатных і пільных спраў, якіх ніхто, апрача яго самога, выканаць не змог бы.

Тады, калі на прыёме ў Руфа яны спрачаліся наконт магчымых дзеянняў і прапрэтар папрасіў Акілу застацца, у іх адбылася таемная размова. Руфа зацікавіла прапанова Акілы атруціць ваду ў Бетары, але ён у прысутнасці легіянераў гэтага не выказаў, бо вунь як вызверыўся Гней, калі пачуў пра "дыверсію". Застаўшыся з Акілам сам-насам, прапрэтар папрасіў забудоўшчыка распавесці пра сваю задуму дэталёва, у дробязях.

— Атруту, — запэўніў Акіла, — я магу знайсці хоць сёння. Ёсць на прыкмеце і людзі, якія без перашкод даставяць яе ў Бетар і напаскудзяць там як след...

— Хто такія? — з насцярогаю запытаўся Руф. — Непажадана, каб гэта былі рымскія грамадзяне. Калі што якое, звягі не абярэшся... Дый невядома, як паставіцца да атручэння імператар...

— Не, яны не грамадзяне Рыма, — заспакоіў Акіла. — Браты Манасія і Эфраім, самарыцяне. Яны і самі іудзеяў на дух не пераносяць, і мне асабіста вельмі ўдзячныя. Некалі заспелі іх мае людзі на крадзяжы на будоўлі... За гэта, сам ведаеш — галава з плячэй. Але я загадаў адхвастаць іх бізунамі — і годзе. Чамусьці падалося, што гэтыя дзяцюкі мне могуць спатрэбіцца... І во, бачыш, не прагадаў! У Бетары братоў, хай сабе і самарыцян, ніхто ні ў чым не западозрыць — там цяпер рознай набрыдзі ўдостатку.

На тым і пагадзіліся.

Аднак Манасія і Эфраім, хоць і былі ўжо гатовыя падацца ў Бетар, выправіцца туды не паспелі. Як і ўсіх гараджан, іх агламошыла нечаканая вестка пра заўтрашні адыход войска.

Менавіта да братоў Акіла накіраваўся найперш. Каб іхнія сустрэчы не кідаліся ў вочы старонні людзям, Акіла пасяліў Манасія і Эфраіма да рабоў і наймітаў, задзейнічаных на будоўлі. Зносіны галоўнага забудоўшчыка і памагатых выглядалі натуральна. Браты месціліся ў асобным пакойчыку, але гэта таксама не было рэдкасцю.

Акіла заспеў братоў акурат тады, калі яны пакавалі свае няхітрыя пажыткі.

— Куды гэта вы наважыліся? — адразу ж запытаўся Акіла.

— Ды... гэта самае... усе ж збіраюцца, — разгублена прамармытаў заспеты знянацку Эфраім, і ягоны ўспацелы таўсташчокі твар наліўся чырванню.

Эфраім увогуле быў увесь круглы, прыземісты, нехлямяжы, ледзьве валюхаўся на сваіх кароценькіх ножках. Манасія ж, наадварот — даўганосы, цыбаты, з перахлябістым тулавам, якое здалёк нагадвала шыбеніцу, бо хадзіў ён зазвычай увагнуўшы шыю. Староннi чалавек нізавошта не паверыў бы, што гэта родныя браты.

— “Усе збіраюцца”... — перадражніў Акіла пісклявы голас Эфраіма. — Аднак камусьці наканаваны шлях на поўнач, а вам — на поўдзень. Ці, можа, забылі, што належыць зрабіць у Бетары?

— Мы падумалі, — уставіў словы Манасія, — што такая надоба адпала сама па сабе... Калі войска сыдзе з Ерусаліма, іудзеі пакінуць Бетар і хлынуць сюды. Дык каго ўжо там труціць?

— “Мы падумалі”... — Акіла раздражнёна перадражніў і Манасію, які выпускаў з горла гукі накшталт перуновых адгалоскаў. — Думаць магу толькі я! А вам належыць слухаць ды выконваць!

Злосць, якая з раніцы назапашвалася ў душы Акілы, выплёсквалася на братоў, хоць не яны былі на тое прычынаю. Галоўнага забудоўшчыка гняла думка, што ўсе ягоныя намаганні аказаліся марнымі. Сама болей праз тыдзень мяцежнікі ўварвуцца ў горад, зруйнуюць ці зняважаць помнікі, ад таго, што далося такімі неймавернымі высілкамі, не застанецца і следу. Аднак жа Акіла прыглушыў свой гнеў, бо прыйшоў сюды не дзеля таго, каб “выпусціць пару” на гэтых бязглуздых пустадомкаў.

— Зрэшты, — ужо спакойна мовіў Акіла, — у нечым вы маеце рацыю. Бетар мяне болей не цікавіць, і ісці туды не трэба. Але ж і збірацца, “як усе”, вам таксама не выпадае. Вы застанецеся тут, у Ерусаліме.

— Як гэта? — аслупянеў Эфраім. — Мы не хочам тут заставацца! Не даспадобы нам іудзейскае асяроддзе!

— Так трэба! — грозна рыкнуў Акіла. — І не для таго я вас тут пакідаю, каб вы з яўрэямі хеўраваліся! Хаця... Мусіць, усё ж давядзецца... Дык вось: калі мяцежнікі трывала асядуць у горадзе, вам належыць зрабіць тое ж самае, што планавалася ў Бетары. Галоўны акведук — туды павінна быць скіраваная вашая ўвага... Зразумелі?

Браты, якія ўжо цешылі сябе надзеяй, што не давядзецца, рызыкуючы жыццём, труціць іудзеяў, хай сабе і ненавісных, зніякавелі, прымоўклі, і толькі праз хвіліну-другую Эфраім, трохі акрыяўшы, паспрабаваў не тое што запярэчыць, а выказаць перасцярогу:

— Іудзеі ў першы ж дзень кішкі з нас выпусцяць... Адно што самарыцяне, а другое — мы ж сталі рымскімі наймітамі...

— Не выпусцяць кішкі з твайго чэрава! — зноў узбіўся на крык Акіла. — Ты замест чэрава пакажаш ім свае спіну і азадак! Там жа, мусіць, дагэтуль пісагі ад бізуноў не сышлі. Вось і скажаце, што працавалі пад прымусам, а заўпарціліся, дык і спаласавалі рымскія крыважэры... Тыя пісагі для вас — як пазнака даверу... А тое, што вы самарыцяне, дык на лбе не напісана. Дый не гэта цяпер для іудзеяў галоўнае — ім бы паболей прыхільнікаў... Ну дык што, задачу засвоілі? — падвёў рысу Акіла, бо час яго прыспешваў. І, не дачакаўшыся адказу, дадаў: — Калі зробіце ўсё як след, я паруплюся, каб вы сталі рымскімі грамадзянамі. Спадзяюся, ведаеце, якія прывілеі мецьмеце з таго... А пакуль трымайце вось гэта, — у руцэ Акілы з’явіўся важкі мяшэчак, які ён з выяўнай пагардай бразнуў на стол. — Тут столькі ж, колькі вы атрымалі напярэдадні, за Бетар. А выканаеце справу, будзеце мець удвая болей.

У Акілы не было сумневу, што гэтага досыць, каб хціўцы не адмовіліся.

Зрэшты, адмовіцца зараз, у прысутнасці гаспадара, яны, вядома, не пасмелі б, але што ўзбрыдзе ў іхнія галовы потым, калі гаспадар будзе далёка, — тое немаведама. Абяцаннем жа будучых даброт і ўзнагарод братоў можна зацугляць надзейна: жылы парвуць, са скуры будуць вылузвацца, каб дагадзіць гаспадару і атрымаць абяцанае. Таму Акіла нават не пытаўся, згодныя браты ці не, рушыў да выхаду і ўжо з парога, злёгку павярнуўшы галаву, паўтарыў:

— Усё трэба зрабіць тады, калі жыццё ў Ерусаліме ўсталюецца. І яшчэ: ні пры якіх абставінах не пакідайце стан мяцежнікаў, трымайцеся з імі дзе б там ні было. Свае людзі ў іхнім атачэнні нам яшчэ спатрэбяцца...

Сваю новую "дыверсію" Акіла з прапрэтарам не ўзгадняў, бо атручваць ваду ў ерусалімскім акведуку патрэбы не было: калі войска, сабранае Адрыянам з усяе імперыі, вернецца сюды, яно і так змяце ўсю смярдзючую погань без асаблівых намаганняў, лічыў Акіла. Але гэта была асабістая помста іудзеям, якія заўтра зробяць марнымі ўсе ягоныя высілкі.

Цяпер Акілу належала давесці да ладу яшчэ адну справу, для яго асабіста дык, бадай, нават болей значную. Трэба нешта вырашаць з Вірсавіяй. Запала, застрала стрэмкаю ў ягоным сэрцы гэтая пекная яўрэйская дзяўчына. Варта было ўжо даўно ўжыць сілу, каб адначасна і незваротна прыбраць яе да сваіх рук, як наложніцу, трымаць побач з сабою, цешыцца ейнаю прыгажосцю і пяшчотаю. Але ён, дурань, спадзяваўся, што зможа грашыма і ўвагаю абудзіць у сэрцы Вірсавіі ўзаемнае пачуццё. Вунь нават і хрысціянінам, хай сабе і паказным, крывадушным, пагадзіўся стаць — абы зблізіцца, уцерціся ў давер, спадабацца незямной прыгажуні. Не выйшла па-харошаму, не атрымалася, не зраслося... Тут бы ўжо акурат не валаводзіцца, не распускаць смаркачы, а ляснуць, як кажуць, кулаком па стале, сілком забраць дзеўку ў састарэлага Іуды, які, па ўсім відаць, хавае яе ад ягонага вока. Акіла ж, з ранку да вечара прападаючы на будоўлі, усё адкладваў рашучыя дзеянні на потым, маючы спадзеў, што часу ў яго яшчэ зашмат. І вось сёння высветлілася, што яго няма ўвогуле...

Акіла разумеў: калі зараз ён, як і раней, зробіць наскок на сядзібу Іуды, ніякага плёну гэта не прынясе і Вірсавію ён там не заспее. Хрысціяне, так бы мовіць, трымаюць вушы тырчком, і пра з'яўленне на іхняй тэрыторыі чужынца, тым болей рымскага прыхадня, яны заўважаюць імгненна. А пра яго, Акілу, нават і казаць няма чаго: усе ведаюць, якая ў яго тут нэндза і да каго ён трымае шлях. Так што пагалоска даляціць да Іуды, перш чым Акіла пераступіць уяўную мяжу хрысціянскага паселішча. І тады Вірсавію епіскап справодзіць ці да суседзяў, ці ўвогуле на другі канец вуліцы. Таму на гэты раз Акіла наважыўся зрабіць сапраўдную аблаву.

Калі вымагала "вытворчая неабходнасць", Акіла меў права запатрабаваць у Гнея ці нават у самога прапрэтара любую колькасць легіянераў. Аднак гэтым правам ён не скарыстаўся ні разу. Каб кантраляваць наймітаў, Акілу зазвычай хапала тых трох цэнтурый ветэранаў, якія падпарадкоўваліся непасрэдна яму. Вось гэтае ўласнае войска з амаль двухсот састарэлых ваякаў Акіла і вырашыў задзейнічаць для вылазкі ў котлішча хрысціян. На будоўлі ніхто не ўвіхаўся, бо ўжо не было сэнсу, так што няма чаго ветэранам лясы тачыць, няхай патрасуць касцямі.

Ерусалімскі гарнізон месціўся ў цэнтральнай частцы горада, большасцю абапал плошчы Храма, уздоўж былых крапасных сцен. Цэнтурыі Акілы былі нібы прылепленыя да агульнага лагера, кватараваліся там, дзе калісь стаяў палац Макавеяў. Для Акілы было вельмі зручна трымаць сваё нешматлікае

войска крыху адасоблена ад легіёна, ён мог кіраваць ім як уздумаецца, не асцерагаючыся насмешлівых ці крывых паглядаў маладых і ганарыстых трыбунаў. Сёння гэтыя абставіны задуме Акілы спрыялі асабліва. Ад стойбішча цэнтурый да Ніжняга горада, дзе з паўднёвага боку ўціскаліся ў перадгор'е халупы хрысціян, — рукой падаць. Да таго ж, аблаву можна правесці амаль незаўважна для астатняга войска, ніхто і не скмеціць, што тры цэнтурыі на кароткі час "адкалоліся" ад асноўных сіл. Ні легату, ні тым болей прапрэтару Акіла не хацеў тлумачыць, для чаго яму спатрэбілася вылазка ў хрысціянскі квартал: калі не засмяюць, дык паздзекуюцца.

Паклікаўшы цэнтурыёнаў, Акіла паставіў перад імі задачу:

— У мяне ёсць падазрэнне, што хрысціяне знюхаліся з мяцежнікамі. Чаго добрага, заўтра, калі мы будзем пакідаць горад, яны паспрабуюць учыніць якое-небудзь паскудства. Паўтараю: гэта толькі падазрэнне. Адно мне вядома дакладна: у хрысціянскім асяродку ёсць дзяўчына, якая часта наведвалася ў Бетар. Відавочна, яна пастаўляла мяцежнікам звесткі пра наш гарнізон. Дзяўчыну я ведаю асабіста — гэта дачка хрысціянскага епіскапа. Я рабіў некалькі спробаў яе затрымаць, аднак ніколі не мог заспець дома... Мы не можам пакінуць лазутчыцу беспакаранай. Да таго ж, калі як след на яе націснуць, магчыма, нам удасца выкрыць змову хрысціян з іудзеямі...

Бывалыя, навучаныя жыццём і знявечаныя шматлікімі бітвамі цэнтурыёны Атта, Апітэр і Нума добра ведалі пра заляцанні Акілы да дачкі епіскапа, пра ягоную спробу прыбіцца да хрысціянскай хеўры, таму згадка пра "лазутчыцу" магла выклікаць у іх толькі ўсмешку, але цэнтурыёны напускалі на твары сур'ёзнасць, каб не разгневаць свайго камандзіра. Акіла ж, шчыра верачы, што падначаленыя не здагадваюцца, якою хціваю патрэбаю ён кіруецца насамрэч, сурова працягваў:

— Каб лазутчыца ў чарговы раз не выслізнула з маіх рук, стаўлю перад вамі задачу заблакаваць увесь хрысціянскі раён. Ты, Апітэр, ланцугом выставіш сваю цэнтурыю ад варотаў Крыніцы ўздоўж аквядука. Ты, Атта, зробіш абыходны манеўр і зоймеш пазіцыю, пачынаючы ад Вадзяных варотаў. Ты, Нума, заблакуеш тэрыторыю з боку нашага лагера...

— Камандзір, каб як след зрабіць такую блакаду, усяго легіёна не хопіць, — паспрабаваў запярэчыць Апітэр, якому выпала перакрыць найбольшы ўчастак. — Ці не прасцей паставіць пасты на ўсіх дарогах і сцежках з поўдня?

— Слухаць і не разважаць! — абсек яго Акіла. — Магчыма, тая блакада ўвогуле будзе залішняю. Пасля таго, як вы зоймеце пазіцыі, я наведаю епіскапа Іуду. Калі заспею ягоную дачку, блакада, само сабою, адразу ж здымецца. Калі ж ёй зноў удасца выслізнуць, што найбольш верагодна, вам усім належыць рухацца насустрач адзін аднаму, сціскаць кола, каб ланцуг стаў пятлёй. Пры гэтым трэба абшукаць кожную пабудову, кожны падворак!

— А каго шукаць? — ужо не хаваючы раздражнёнасці, спытаў Нума. — Ні я, ні тым болей мае салдаты тую дзеўку ніколі ў вочы не бачылі.

— Затрымлівайце і вядзіце да мяне ўсіх дзяўчат, якім на выгляд ад шаснаццаці да дваццаці гадоў.

— Ды такіх не адна сотня ў тым котлішчы набярэцца! — яшчэ болей распаліўся Нума.

— Ну, можа, усіх і не варта... Даўганосых ці крывых не чапайце. Тая дзяўчына вельмі пекная. На прыгажунь акурат і звяртайце ўвагу... Ну

ўсё, досыць лішніх пытанняў. На зборы і выхад да адведзеных пазіцый — адна гадзіна.

Моўчкі пакінуўшы Акілу, цэнтурыёны далі волю сваім пачуццям на вуліцы:

— Прыдурак! Трэба думаць, як ратавацца, а ў яго баба наўме! — сплюнуў Атта.

— І не кажы. Ці ж прыстойна нам, зраненым салдатам, на старасці гадоў з жанкамі ваяваць? — скрыгатнуў зубамі Апітэр.

— А каб ты спрах, пракляты Акіла! — нібы падвёў рысу Нума.

Аднак жа нічога не паробіш: загад ёсць загад. Яны, дысцыплінаваныя ваяры, прызвычаіліся выконваць любыя загады, нават самыя бязглуздыя. Без дысцыпліны, без строгага падпарадкавання не было б у рымскага войска столькі перамог...

Пакуль цэнтурыі займалі вызначаныя пазіцыі, Акіла паспеў усмак паснедаць, мімаходзь заліўшы ў горла вялікі кубак фалернскага віна, ад чаго ягоны настрой значна палепшыўся.

— Пара! — нарэшце загадаў ён самому сабе, накінуў на плечы баграніцу, якая не была для яго задужа частаю апранахаю, нацягнуў на галаву шалом з рыжым султанам паўзверх.

Прынамсі, Акіла ўвогуле не меў права насіць баграніцу. Тога пурпуровага колеру прызначалася толькі для імператара і прэтараў-суддзяў, ды яшчэ выбітны легат пасля пераможнае бітвы мог наведаць Капітолій ва ўрачыстым адзенні — паладаментуме, падобным на пурпуровы плашч. Нават сенатарам дазвалялася нашываць на тогах толькі шырокую пурпуровую вертыкальную палоску — клавус. Магістраты ж, напрыклад, мелі права на дзве шырокія, а коннікі — на дзве вузкія палосы. Пурпуровы колер быў у Рыме сімвалам улады, з яго дапамогай лёгка вызначаўся сацыяльны статус чалавека. Тут, у Іудзеі, баграніца была дазвольная для аднаго Цінея Руфа, аднак Акілу было на гэта напляваць. Ён лічыў сябе роўным прапрэтару, а Руф не падымаў вэрхал з-за таго, што галоўны забудоўшчык парушае правілы-законы, незаслужана прысвойвае найвышэйшы статус, бо меркаваў, што баграніцу Акіла апранае з дазволу імператара.

Каля ўваходу Акілу ўжо чакалі легіянеры: на гэты раз ён вырашыў наведаць Іуду ў атачэнні цэлага тузіна.

Шлях да патрэбнай хаціны “рымская працэсія” адолела ледзь не подбежкам — Акіла ўсё ж спадзяваўся заспець епіскапа і ягоную дачку знянацку.

Гулка гупнуўшы нагою ў дзверы, не ўзятыя на клямку, Акіла ўваліўся ў пакой. За сталом, як і заўзвычай, сядзеў Іуда — зноў жа было бачна, што яго паспелі папярэдзіць...

— Дзе Вірсавія? — з ходу, нават не павітаўшыся, рыкнуў Акіла.

Стары не варухнуўся, па-ранейшаму сядзеў моўчкі.

— Я пытаюся, дзе дачка? Ці ты, можа, аглох, ёлупень? — з гэтымі словамі Акіла схапіў епіскапа за грудзі, ажно трэснула, распаўзлася па шве шэрая, груба скроеная сарочка, і прыўзняў старога з месца і амаль ушчыльную прыгарнуў да сваёй морды, чырвонай ад віна, парэпаны, ссохлы твар епіскапа.

— Яе няма... Яна далёка... — нарэшце прашамкаў Іуда напаўзакрытым ротам, бо ягоны падбародак падціскаў магутны кулак Акілы.

— Дзе далёка? У суседзяў? Ці яшчэ далей? У-у, гадаўё! Ну нічога, мы яе і адтуль выкалупім, — Акіла зразумеў, што з епіскапа болей не выціснуць

ні слова, хоць распні яго на Галгофе, як таго Хрыста. Ён адштурхнуў Іуду ад сябе, той нязграбна плюхнуўся на лаву, не ўтрымаўся і зваліўся на падлогу. Удагонку Акіла піхнуў старога нагою ў чэрава і падаўся з хаціны.

— Ты, ты і ты, — пачаргова ткнуў ён пальцам у грудзі ветэранаў, што стаялі бліжэй. — Ідзіце да цэнтурыёнаў, скажыце, няхай распачынаюць...

Сам жа пачаў аглядваць падворак, зазірнуўшы нават у катух-бакоўку, дзе Вірсавія сапраўды знаходзіла сабе схоўшча. Але на гэты раз яе не было і там.

Тым часам здалёк спачатку сцішана-прыглушана, а потым усё гучней сталі даносіцца крыкі, лямант і нават жаночае галашэнне. Легіянеры хоць і без вялікай ахвоты, але ўсё ж змушаныя былі ўзяцца за даручаную справу. Вызыркваючы маладых і прыгожых дзевак, з мясцовым людам яны не дужа цырымоніліся, калі трэба было, зрывалі хусцінкі, нізка насунутыя на твары, пераварочвалі рызманы, зазіралі пад ложкі. Дзяўчат, якіх хоць збольшага льга было лічыць “не страшнымі”, выганялі на вулку, дзе яны прыбіваліся да натоўпу, спярша нешматлікага, а з часам шматлюднага аж занадта.

Насельнікі адразу скмецілі, што легіянеры заганяюць у натоўп толькі найпекнейшых дзяўчат, таму па хрысціянскім паселішчы пранеслася пагалоска:

— Рымляне збіраюцца пакідаць Ерусалім і самых лепшых нашых дзявок хочуць прыхапіць у рабства!

Пасля гэтае здагадкі лямант усчаўся зусім неймаверны:

— Не аддам! Лепей мяне забярыце! — крычалі і галасілі жанкі, прытульваючы да грудзей сваіх крывіначак ці хапаючы легіянераў за пярэвязі і понажы.

— За што вы нас так?.. Мы ж уладзе нічога благога не зрабілі, жылі ў злагадзе... — стрымана выказвалі сваю крыўду мужчыны.

Хто-ніхто з легіянераў спрабаваў супакоіць насельнікаў, абяцаў, што неўзабаве ўсе вернуцца дахаты, але хрысціяне ім не верылі.

Праз гадзіну суцэльнага вэрхалу да хаты Іуды сагналі не меней як сотню маладзіц.

— Няхай стануць у два шэрагі! — загадаў сваім памагатым Акіла.

Дзявок, якім ніколі не даводзілася стаяць у страі, легіянеры пачалі расштурхоўваць у належных кірунках, выцягваць натоўп у дзве простыя лініі. Многія з іх трымалі ў руках клункі, спехам прыхопленыя ў далёкую і незваротную, як меркавалі, дарогу, у бальшыні з вачэй каціліся слёзы.

Акіла зайшоў у край няроўнай стракатай шарэнгі і стаў павольна рухацца ўздоўж яе, зазіраючы ў твар кожнай дзяўчыне. Калі ж якое-небудзь задужа сарамлівае дзяўчо скіроўвала позірк долу, ён пальцам чапляў яе падбародак і рэзка тузаў уверх.

Сярод юных хрысціянак было нямала сапраўдных прыгажунь. Акіла падумаў, што некаторых з іх ён з задавальненнем прыгарнуў бы да свайго цела... Але, на жаль, не час. Дый з Вірсавіяй нікому з гэтых юных стварэнняў усё ж не параўнацца. А яе, Вірсавіі, у шарэнзе акурат і не было.

Іуда не схлусіў Акілу, што ягоная дачка “далёка”. Пасля візіту Рашбі епіскап зразумеў, што ў ерусалімскіх хрысціян наперадзе цяжкія часіны. Калі іудзеі захопяць горад, літасці ад іх не будзе. Таму адзінаверцам ён даў параду:

— Калі ў каго з вас ёсць сваякі за межамі Ерусаліма, выпраўляйцеся да іх. Вядома ж, не назаўсёды, а хоць бы на нейкі няпэўны час, пакуль

рымляне, як некалі, не вернуцца ў Святы горад. А што вернуцца, дык у гэтым у мяне сумневу нямашака...

Хто-кольвеч паслухаўся мудрага дарадчыка-настаўніка і, сабраўшы няхітрыя манаткі, пакінуў наседжанае жытло. Сваю досыць шматлікую сям'ю наважыўся вывезці ў нябліскую Віфанію сусед і бліжэйшы паплечнік епіскапа Мешулам. Там, у Віфаніі, жыў малодшы брат Мешулама, які, відавочна, у прытулку не адмовіць. Іуда папрасіў, каб сусед прыхапіў з сабою Вірсавію, бо здагадваўся, што ненавісны Акіла напярэдадні адступлення можа зрабіць яшчэ адну спробу завалодаць дзяўчынаю. І вось бач ты — як у ваду глядзеў. Прыпёрся-такі Акіла са сваёю хеўраю, ды яшчэ такога гвалту нарабіў...

А ён, Акіла, раз'ятраны з-за таго, што і на гэты раз, нягледзячы на шчыльную аблаву, давядзецца пакінуць сядзібу Іуды ні з чым, вызверыўся на дзявок:

— Ну, чаго стаіце, курыцы бязмозглыя?! Прэч адсюль, пакуль бізуноў не паспыталі!

Хто адразу кінуўся бегчы ў бок сваёй хаты, а хто няўцямна, неўразуменна, сапраўды, як тая курыца, азіраўся навокал, не кранаючыся з месца і не верачы сваім вушам. Толькі калі легіянеры пачалі таўхаць іх у плечы, вулка, нарэшце, апусцела.

— Вы таксама вядзіце сваіх людзей у лагер, — даў адмашку цэнтурыёнам Акіла, а сам зноў ступіў на парог Іудавай хаты. Стары ўжо акрыяў, стоячы на каленях, апантана маліўся на кут. Іуда чуў крыкі і лямант, разумеў, што за межамі хаты дзеецца штосьці жахлівае, але не выходзіў, бо прадчуваў: ягонае з'яўленне толькі падалье масла ў агонь, яшчэ болей раз'юшыць Акілу. А памагчы людзям ён усё адно не зможа.

Акіла моўчкі падышоў да епіскапа і, шырока размахнуўшыся, ззаду вутнуў яму кулаком у сківаіцу. Стары гулка заваліўся набок, грукнуўшыся галавою аб сцяну.

— Гэта табе пакуль што задатак, — паціраючы забалелы кулак, зацята мовіў Акіла. — Хай толькі не пабачу Вірсавію наступным разам... Атрымаеш напоўніцу. Так што беражы дзеўку... Для мяне і дзеля свайго жыцця.

Аднак гэтых слоў Іуда не чуў — страціў прытомнасць. З краёчку ягоных вуснаў сцякала тонкая ручаінка крыві...

## З рук у рукі

У ноч напярэдадні выступу ў Ерусаліме ніхто не спаў, апрача, можа, дзяцей. Зрэшты, іх у горадзе было няшмат. Сем'яў у традыцыйным сэнсе, калі не лічыць хрысціянскіх, тут амаль не было. Дый каму іх ствараць? Іудзеі, усе да аднаго, сышлі адсюль ужо даўно, а прыхадні, большасцю найміты, задзейнічаныя на будоўлі, сваё знаходжанне ў паўразваленым горадзе лічылі часовым, ледзь не кожнага з іх недзе чакалі ўласныя сям'я, жытло...

Каб задаволіць плоцкія патрэбы наймітаў і салдатаў, у Ерусаліме боўталася ўдостатку "жрыц кахання", гетэр. Яны ўвогуле былі неад'емнай, узаконенай часткай рымскіх легіёнаў — і ў паходзе, і на стаянцы. Грошай, вядома ж, гетэрам ніхто не плаціў, "працавалі" яны толькі за харч, аднак удзячныя легіянеры, асабліва пасля пераможных бітваў і рабаўнічых паходаў, шчодра адорвалі іх грашыма і каштоўнасцямі.

У горадзе, асабліва на ўскраінах, усю ноч палыхалі вогнішчы. У паветры

стаяў пах свежыны і смажаніны: той, хто меў хоць якую жыўнасць, скручваў ёй галовы, выпускаў кішкі. Авечак, коз ды курэй у няблізкі шлях з сабою не павалачэш, а харчовыя запасы ў дарозе яшчэ як спатрэбяцца.

У любы агмен, інакш кажучы, паход, рымскае войска звычайна выпраўлялася на самым досвітку. Рухацца належала не менш як сем гадзін у дзень, пры гэтым салдаты, абцяжараныя грувасткаю паклажаю, ледзьве адольвалі пятнаццаць міляў. Таму, калі яшчэ не ўзышло сонца, над лагерам легіёна разнёсся пранізлівы гук тубы — доўгай металічнай трубы. Ёй адразу ж пачалі адгуквацца шматлікія корну — амаль круглыя і таксама металічныя рогі, якія перадавалі сігналы па маніпулах. У рэшце рэшт, усе гукі зліліся ў адну суцэльную какафонію, якая абвяшчала пра агульны збор легіёна.

Легат Гней не ўхваляў рашэнне прапрэтара пакінуць Ерусалім, аднак змушаны быў падпарадкавацца. І калі ўжо выпала Гнею такая ганебная для кожнага ваяра доля, ён хацеў надаць гэтаму дзейству годнасці, нават пыхлівасці, каб не выглядала адступленне, як звычайныя ўцёкі.

Неўзабаве ўвесь легіён — маніпулы, кагорты, конніца — выстраіўся на плошчы Храма. Саюзнікам і дапаможным войскам месца тут не хапіла, і яны запоўнілі прылеглую вулку. Гней з задавальненнем адзначыў для сябе, што ўсё рабілася злагадна, без мітусні, хоць падобныя пастраенні праводзіліся толькі зрэдчас, у неспакойнай правінцыі болей увагі надавалася баявой вывучцы.

Акурат тады, калі шэрагі легіянераў застылі ў простых лініях, у суправаджэнні ліктараў на плошчы з'явіўся Ціней Руф, а амаль што следам за ім — і Акіла. Ні той, ні другі не былі апранутыя "пры парадзе", бо, у адрозненне ад Гнея, яны не дбалі пра нейкую годнасць, ім карцела без лішніх прыгод і як мага хутчэй выбрацца з гэтага ненавіснага горада.

— Ты скажаш легіёну слова на дарогу? — запытаўся Гней у прапрэтара.

Руф зморшчыў твар:

— Ды якое тут слова? І так усё зразумела. Калі хочаш, можаш сам...

Легат змераў прапрэтара пагардлівым позіркам, павярнуўшыся да войска, зрабіў тры крокі наперад і ўзняў руку. Лёгкі гул, які лунаў над шэрагамі, адразу ж прыціх.

— Салдаты! Мае слаўныя ваяры! — наколькі мог, гучна выкрыкнуў легат. — Сёння мы пакідаем Ерусалім. Але няхай вас не гняце сумленне за тое, што змушаны адступіць. Вы ў гэтым не вінаватыя, і вашая годнасць не застанецца пасаромленай. Можаце лічыць, што гэта неабходны манеўр. Прыйдзе час, і мы вернемся сюды. Ён, гэты час, наступіць вельмі хутка!

У Гнея не ляжала душа да доўгай прамовы, бо нагода для яе была зусім не радаснай. Ён толькі і дадаў яшчэ:

— У час агмену прашу захоўваць належны парадак і дысцыпліну — як і належыць рымскаму войску!

Легат даў знак музыку, які стаяў непадалёку, і прастору зноў абудзіла туба. У войску, што стаяла на плошчы, пачаўся рух.

На ўскраіне горада, там, дзе пачыналася дарога на Антыпатрыду, першымі з'явіліся спекулаторасы — лёгка ўзброены атрад разведчыкаў, якім належала рухацца далёка паперадзе асноўнай калоны, каб своечасова выявіць магчымага непрыяцеля, вывучыць мясцовасць і выбраць прыдатнае месца для наступнага лагера. Прынамсі, гэтую дарогу мяцежнікі перакрыць яшчэ не паспелі, абапал яе мястэчкі не бунтавалі, аднак перасцярога, лічыў Гней, лішняю не будзе.

Коннікі, ды яшчэ лёгкая пехота, ішлі ў авангардзе. Коннікаў, дарэчы, у легіёне было няшмат, усяго 10 турмаў па 30 чалавек кожная. Рымляне ўвогуле лічылі конніцу не надта ўдалым вайсковым злучэннем. Карысць ад яе была толькі тады, калі вораг беспарадкава ўцякаў. А супраць пяхоты, узброенай дзідамі і дроцікамі, яна змагалася не надта паспяхова.

Коннікі трымаліся самавіта, напышліва, хоць і сядзелася ім на конскіх спінах трохі мулкавата, бо ні сёдлаў, ні страмёнаў пад імі не было, — адны толькі шпоры. Затое медныя панцыры, шаломы і шчыты зіхцелі на сонцы, як залатыя. Гэткі ж бляск сыходзіў з металічных налобнікаў і нагруднікаў, замацаваных на конях. З левага боку ў кожнага ездака матляўся доўгі пляскаты меч, якім зручна было секчы галовы звысака, а ў руках коннікі трымалі таксама доўгія і вострыя дзіды — трагулы.

Лёгкія пехацінцы — прашчнікі і лучнікі — у параўнанні з коннікамі выглядалі амаль безабароннымі. Зрэшты, абараняцца ім і не выпадала. Прашча, складзены ўдвая рэмень, ды лук дазвалялі ім трымаць непрыяцеля на адлегласці. У калчане кожнага лучніка меліся два тузіны паўмятровых стрэлаў, вырабленых з чароту ці з лёгкага дрэва. На вастрыях — жалезныя наканечнікі.

Галоўныя сілы легіёна, падзеленыя на дзесяць кагортаў (у кожнай — па 600 вояроў) рухаліся ў адной калоне. Стаяла невыносная спёка, таму пад панцырамі ў легіянераў былі толькі ваўняныя кашулі-безрукаўкі. Свае шаломы, замацаваныя пярэвязямі, яны неслі на грудзях спераду. Султаны месціліся асобна. Яны ўвогуле ўтыкаліся ў шаломы толькі напярэдадні бітвы. У левай руцэ кожны салдат трымаў паўцыліндрычны чатырохкутны шчыт, скутум, выраблены з лёгкіх дошак і абцягнуты скураю вала. Усе шчыты па краях былі абабітыя меднымі палосамі, а пасярэдзіне мелася металічная выпукласць — шышак. Каб не сапсаваць ці пашкодзіць, легіянеры, як і зазвычай у паходзе, неслі свае шчыты, загарнуўшы іх у скураныя чахлы.

На правым баку ў салдатаў віселі кароткія, на тры чвэрці аршына, з прамым двувострым клінком мячы-гладыусы, засунутыя ў ножны-вагіны. Побач тырчэлі кінжалы, падобныя на гладыусы, толькі карацейшыя. Двухмятровыя кідальныя дзіды, накіраваныя вастрыямі ўверх, нагадвалі частакол. Гэткай дзідай, калі яе ўдала шпурнуць, прабіваліся і шчыт, і панцыр.

Але не толькі зброяй былі абцяжараныя легіянеры. Кожны з іх валок на сабе запас харчу, разлічаны на паўмесяца, посуд, кош, вяроўку, сякеру, рыдлёўку, а некаторыя яшчэ нават і калы для абсталявання будучага лагера. Усё гэта важыла амаль столькі ж, як і сам салдат. Не дзіва, што калона рухалася нетаропка, замаруджана.

Легат Гней, седзячы на вараным кані, ехаў паперадзе асноўнага войска, услед за авангардам. Трохі ззаду ад яго, стромка трымаючыся на конскай спіне, знаходзіўся сцяганосец. Зрэшты, замест звыклага сцяга ягоная рука сціскала простае, без аніякіх упрыгожанняў дрэўка, на якім толькі і было пазначана: “X легіён”. Зверху да дрэўка быў замацаваны сярэбраны арол — галоўная святыня і сімвал кожнага легіёна.

А вось паперадзе кагортаў і маніпулаў сцяганосцы неслі на пасярэбраных дрэўках сапраўдныя палотны чырвонага колеру. На іх былі намаляваныя ваўкі, дзікія кабаны, львы дый іншыя драпежнікі, а на дрэўках адзін пад адным начэпленыя розныя вянкі, сярэбраныя чаканныя карцы ды паўмесяцы, уручаныя за ваенныя заслугі, ці проста амулеты.

На прыбітых да дрэўка дошчачках былі пазначаны нумары кагортаў і маніпулаў.

Яны, сцягі, прызначаліся не толькі для трыумфаў, пастраенняў і ўвогуле знешняга лоску. Падчас бітваў сцяганосцы, гэтак жа, як і трубачы, знаходзіліся ззаду, побач з камандзірам, які пры дапамозе гукавых сігналаў і сцягоў манеўраваў атрадам, перакройваў баявыя лініі.

Замыкаў калону абоз. Над ім увесь час стаялі грукат, скрыгат, ляскат. На конскіх павозках і наўючаных мулах везлася ўсё, без чаго войску не абысціся ніяк: запасы зброі, ваенныя машыны, правіянт, палаткі...

Аднак жа і на абозе калона не абрывалася. Яшчэ болей шуму-гаму сыходзіла ад беспарадкавай і, як здавалася, бясконцай чарады ерусалімскіх насельнікаў, якія палічылі за лепшае падацца ў няблізкі шлях услед за войскам, бо, так лічылі яны, зносіны з мяцежнікамі-іудзеямі нічога добрага ім не зычаць. З клункамі, з торбамі, пешшу і на павозках, як глыбакаводная рака з возера, гэтая чарада шумна выцякала з Ерусаліма, і здавалася, што неўзабаве горад апусцее зусім...

Праз дзень ужо іншае войска сыходзіла з яшчэ аднаго горада — з Бетара.

Вестка пра тое, што рымляне пакінулі Ерусалім, даляцела сюды праз самы кароткі час. І цяжка было вызначыць, чаго яна прынесла болей: радасці ад таго, што вуліцы Святога горада ўжо не топчуць акупанты, ці прыкрасці з-за ўпушчанай магчымасці паквітацца з імі напоўніцу, бо іудзейскае войска ўжо адчула сваю сілу, і з адным легіёнам, пакуль да яго не прыйшло падмацаванне, магло, безумоўна, справіцца.

Гэткія ж супрацьлеглыя пачуцці апанОўвалі Акібу і Бар Кохбу. Святар быў задаволены тым, што Ерусалімам удасца авалодаць без залішняй крыві, а ваяўнічы Сімон бедаваў, што не зможа як след разлічыцца з рымлянамі за паразу, атрыманую ў родным мястэчку.

Пра тое, што заўтрашнім ранкам войска рушыць у Святы горад, насельнікам Бетара абвяшчаць не было патрэбы. Усе ўжо занудзелі ад чакання, і вестка пра зыход акупантаў з Ерусаліма стала найлепшым сігналам да збораў.

Прагарцаваўшы на сваім белым кані па галоўнай вуліцы, першым выехаў за крапасную сцяну Бар Кохба. Услед за ім пранёсся тузін аховы, якою Сімон паспеў ужо разжыцца. Сярод ахоўнікаў быў і Архелай, зрэшты, ён яе ачольваў. Архелай увогуле стаў, як кажуць, праваю рукою камандзіра, выконваў самыя адказныя ягоныя даручэнні.

Бар Кохба планаваў зрабіць гэты дзённы пераход зладжаным, арганізаваным, каб апалчэнне хоць знешне мела падабенства з рымскім войскам. Усім атрадам ён загадаў рухацца ў строгім парадку, адзін за адным: спярша — злучэнні найміты, як найбольш падрыхтаваныя і баяздольныя, за імі — тутэйшыя, іудзейскія згуртаванні, і толькі напрыканцы — як каму ўздумаецца.

Але ўжо пры пастраенні Сімон зразумеў, што нічога талковага з ягонай задумы не атрымаецца. Калі найміты, хоць трохі прывучаныя да парадку, так-сяк вытрымлівалі шэрагі, дык мясцовыя ваякі няўцямна збіраліся ў кучы, тыцкаліся адзін у аднаго, перш чым разумелі, што ад іх патрабуецца.

— А-ах, хай будзе як будзе, — у рэшце рэшт махнуў рукою Бар Кохба, так і не здолеўшы ўпарадкаваць сваё войска.

Ён толькі палічыў, што папераздзе абавязкова павінен ехаць сам з уласнаю світаю — гэта прыдасць калоне хоць трохі пампезнасці.

За горадам Бар Кохба і ягоныя ахоўнікі прытрымалі коней, каб не адрывацца далёка наперад. Калона адразу ж высыпалася за крапасную сцяну і гаманліва рушыла за сваім камандзірам, уздымаючы неймаверную кураву. З узбочынаў да яе прыбіваліся новыя атрады, якія мелі лагеры за межамі сцяны, таму калона пачала ўвогуле нагадваць стракаты натоўп. Людзі, мулы, павозкі — усё гэта змяшалася ў адну жывую масу, гуло, варушылася, а часам нават і лаялася.

Быў ужо глыбокі вечар, калі перад вачыма Бар Кохбы, які ўз'ехаў на горную граду, у нізіне раскінуўся велічны Ерусалім. Дагэтуль ён ніколі не быў у Святым горадзе, таму ад невядомага, шчымлівага пачуцця ў яго засадніла ў горле...

У гэты час апошнія атрады дый проста насельнікі, якім карцела пабачыць Ерусалім, толькі-толькі выбіраліся з Бетара...

Калі конь Бар Кохбы ступіў на ўскраінную вуліцу, ніхто не сустракаў вызваліцеляў раднымі воклічамі. У горадзе проста амаль не засталося людзей, апрача хрысціян ды рэдкіх мяшчан, якім было ўсё адно, пад якою ўладаю жыць. Толькі ўжо на плошчы Храма, куды найперш хацеў патрапіць Бар Кохба, вызваліцеляў пачалі вітаць адзінокія ерусалімцы. Сярод іх былі браты Эфраім і Манасія...

Акіба, як і астатнія святары, большасцю састарэлыя ці ўвогуле нямоглыя, вырашыў перабірацца ў Ерусалім на наступны дзень, калі схлыне людская каламуць. Павозкі былі падрыхтаваныя загадзя.

Крыху болей чым за адны суткі ціха і некрывава Ерусалім, так бы мовіць, перайшоў з рук у рукі. Пераможаныя пакінулі горад пыхліва і ўрачыста, а пераможцы ўступілі ў яго без аніякага ўшанавання...

## Слёзы Архелая

Пустэльны Ерусалім пакінуў у душы Архелая панурае ўражанне. Калі ён напярэдадні наведваўся сюды з рабі Рашбі, горад, як яму тады здалося, выглядаў досыць прыстойна і нават прывабна. Гэта, можа, таму, што сярод тых жа руінаў, напалову ўзведзеных пабудоў снавалі, мітусіліся, кішэлі людзі, вуліцы поўніліся іхнімі галасамі. Цяпер жа горад нагадваў велізарныя паўразбураныя могілкі...

Вядома ж, Архелаю найперш карцела апынуцца ў хрысціянскім квартале, каб пабачыць Вірсавію, думкі пра якую вярэдзілі яго неадступна. Аднак у першы дзень не выпадала ніякае магчымасці адлучыцца хоць на хвілінку. Даручэнні і загады сыпаліся ад Бар Кохбы, як гарох, войска трэба было размеркаваць па горадзе ці за яго межамі, дый шмат часу занялі пошукі прыдатнага памяшкання для самога Бар Кохбы. У рэшце рэшт, была абраная Фазаелева вежа, якую толькі што пакінуў рымскі прапрэтар. Ціней Руф прыхапіў з сабою ўсё, што мог, нават некаторую мэблю, не кажучы ўжо пра аздобу, а тое, што забраць было немагчыма, загадаў раструшчыць у хлам. Для прытулку вежа была здатная яшчэ і таму, што месца ў ёй удостатку. І хопіць не толькі для камандзіра з ягоным атачэннем, але і для вышэйшага святарскага люду, тым лікам і для Акібы. Ён, Акіба, даведаўшыся, якое жытло яму прапануецца, напачатку скрывіў твар, бо неўспадоб былі шыкоўныя харомы, але потым, падумаўшы, даў згоду. Палічыў, што яно, можа, і найлепш, калі Сімон будзе амаль побач, мовіць так, пад рукою: мецьмецца добрая магчымасць на яго ўплываць...

Калі клопатаў-сумятні трохі паменшала, Архелай усё ж наважыўся завітаць да Вірсавіі. Нікога з ахоўнікаў вырашыў з сабою не браць, каб ягонае з'яўленне ў ціхім паселішчы не нагадвала пагрозныя Акілавыя наскокі, пра якія паспела яму расказаць Вірсавія. Дый не хацеў юнак дачасна выстаўляць на чужыя вочы свае пачуцці.

Вуліцы Ерусаліма хоць і былі шырэйшымі, чым у Бетары, але па іх снавала столькі апалчэнцаў, што конь Архелая ледзь не грудзьмі рассякаў іхнія скопішчы, пакуль не апынуўся на мяжы хрысціянскага квартала. Як гэта ні дзіўна, але яго не захлынула людская хваля. Мяцежнікі, нягледзячы на суцэльную цеснату і таўкатню, не імкнуліся "акупаваць" гэты невялікі кавалак тэрыторыі, бо на ёй жылі людзі, і яны, змушаныя ўзяць у рукі зброю, большасцю былі сяляне і не мелі звычкі пасягаць на чужое жытло. Дый да хрысціян у простага іудзейскага люду асаблівай агіды ці нянавісці не назіралася, а святары ды камандзіры чамусьці пакуль што маўчалі, не давалі ніякай каманды на пагром...

Адчуўшы прастору, жарэбчык акрыяў, пажвавеў і самахоць перайшоў на лёгкі алюр. Архелай яго не стрымліваў, яму, па праўдзе кажучы, увогуле хацелася прагарцаваць па вуліцах наўзгалоп, каб хутчэй апынуцца каля жаданых веснічак, а заадно паказаць Вірсавіі сваю заліхвацкасць.

Устрывожаныя, нават перапалоханыя хрысціяне не высоўвалі насоў са сваіх хацінак, не ведаючы, чаго ім чакаць ад новае ўлады, якая, да таго ж, варожая. Таму сотні вачэй з насцярогай і ўпотайкі сачылі за адзінокім узброеным коннікам, які правіўся ў глыбіню іхняга паселішча. Калі коннік спыніўся каля падворка епіскапа, агульная трывога толькі ўзрасла: няйнакш, узброены чалавек хоча зрабіць іхняму галоўнаму святару нешта благое ці ўвогуле забраць яго для расправы.

Гэтая нязвыклая цішыня ды пільныя таемныя позіркі, якія Архелай адчуваў на сабе, прыгняталі яго: здавалася, невыказны страх вісіць у паветры.

Архелаю, вядома ж, хацелася, каб Вірсавія згледзела яго здалёк, выбегла насустрач, ён рэзка нацягнуў бы аброць, ад чаго жарэбчык узняўся б на дыбкі, Вірсавія, напэўна, спалохалася б, а ён спрытна саскочыў бы і схапіў тоненькае дзяўчо ў абдымкі... Але нічога падобнага не здарылася. Каля сядзібы Іуды было вусцішна гэтак жа, як і паўсюль навокал. Архелай, накінуўшы край аброці на каменны выступ, паправіў на сабе добра-такі пакамечаную за гэтыя мітуслівыя дні вопратку, далонню збольшага прыгладзіў непаслухмяныя бялявыя валасы і ступіў у двор. Сагнутым пальцам лёгка пастукаў у дзверы. Ніхто не адгукнуўся. Гэта зусім насцярожыла Архелая, надзея на тое, што зараз ён пабачыць Вірсавію, хоць яшчэ і не згасла, але затрапяталася, скурчылася ў ягонай душы.

Павольна расчыніўшы дзверы, юнак з прыхаду нікога не заўважыў, і толькі ў глыбіні пакоя, у паўцемрадзі, вочы згледзелі не надта самавіты ложак, на якім, падобна, знаходзілася жывая істота. Архелай падышоў бліжэй. На ложку ляжаў ссівелы стары чалавек, цела яго нічым не было прыкрытае. Павекі старога, хоць і прымружаныя, злёгку ўздрыгвалі, і гэта выдавала, што ён не спіць.

— Епіскап Іуда? — ці то спрабуючы звярнуць на сябе ўвагу, ці то пытаючыся, прыглушана мовіў Архелай, хоць чамусьці не сумняваўся, што гэта і ёсць бацька Вірсавіі.

Стары маўчаў. Пасля подлага ўдара Акілы, а найболей з-за таго, што моцна стукнуўся галавою аб сцяну, Іуда ўжо чацвёрты дзень быў прыка-

ваны да ложка, а калі спрабаваў устаць, нават прыўзняцца, пачынала ванітаваць, перад вачыма плылі чорныя кругі.

Пасля адыходу Акілы епіскапу не давялося чакаць помачы доўга, адразу ж у ягоную хату набілася процьма людзей, Іуду перанеслі на ложак, а саматужная і зусім састарэлая мясцовая лекарка Кармэла, прысеўшы на краёчак і абмацаўшы галаву беспрытомнага Іуды, загадала ўсім неадкладна выйсці з хаты, бо епіскапу, калі ён, дай Божа, ачуняе, найперш спатрэбіцца спакой.

Потым Кармэла цэлую ноч рыхтавала нейкія зёлкі, вядомыя толькі ёй адной, і наказала мажной суседцы епіскапа Ніры, якая падахвоцілася стаць сядзелкай, паіць імі Іуду тры разы на дзень увесь гэты час. Ніра амаль не адыходзіла ад нямоглага старога, хоць вялікай патрэбы ў тым не было, хіба што толькі для таго, каб праганяць наведнікаў, занепакоеных здароўем святара, якія напачатку ішлі сюды цугам, нягледзячы на забарону Кармэлы.

Зрэдчас Ніра пакідала Іуду аднаго, каб тое-сёе зрабіць на сваім падворку, згатаваць ежу для траіх дзяцей і мужа Шамая, хоць ён і сам упраўляўся як след. Архелай акурат і заспеў Іуду, калі Ніра на кароткі час адышла.

— Епіскап?! — ужо гучней паўтарыў Архелай.

Стары, нарэшце, прыўзняў павекі, адгукнуўшыся на незнаёмы голас і ўзіраючыся ў чалавека, ад якога не чакаў нічога добрага.

— Што з табою? Чаму ты спіш сярод белага дня? Ці, можа, захварэў?

Іуда ці не паспеў, ці не здолеў нешта адказаць, аднак Архелай спуджана здрыгануўся, бо пачуў за спінаю грубы жаночы голас:

— Адыдзі ад яго! Ці не бачыш, што старому няможацца? І ўвогуле — што табе трэба, якога ляду ты сюды прыйшоў?

Ніра, згледзеўшы каля суседняга падворка жарэбчыка, маланкай сiганула ў хату Іуды, каб засцерагчы ці нават абараніць епіскапа ад невядомага прыхадня.

Архелай рэзка павярнуўся, убачыў перад сабою магутную, аж занадта таўстую кабеціну і зніякавеў, разгубіўся, нібы падлетак, заспеты на шкодзе кімсьці дарослым.

— Я... мне... Я шукаю Вірсавію... — толькі і здолеў пралепятаць збянтэжаны Архелай.

— Вірсавію? — перапытала Ніра. — А хто ты такі, каб яе шукаць?

Юнак ніяк не мог падабраць словы, каб патлумачыць жанчыне, што змусіла яго завітаць сюды, і нечакана нават для самога сябе выпаліў:

— Я кахаю яе!

Няўцямным позіркам Ніра ўперлася ў хлопца, і колькі хвілінаў яны моўчкі пазіралі адно на аднаго.

— І калі ж гэта ты паспеў у яе закахацца? — нарэшце з іранічнай усмешкай запыталася жанчына. — Нешта я дагэтуль тут цябе ніколі не бачыла. Гідон, суседскі хлопчык, сын Мешулама, да Вірсавіі заляцаўся — гэта праўда. Але ж ён смаркач зусім, ейны равеснік. Зрэшты, і ты вунь ад яго далёка не адышоў — дзіцё дзіцём...

— Якое я табе дзіцё?! — узвіўся Архелай і, каб пацвердзіць сваю дарослацсь, з гонарам дадаў: — Я, між іншым, у самога Бар Кохбы начальнікам аховы служу!

Ад аднаго толькі імя Бар Кохбы твар Ніры імгненна перакасіўся ад жаху. І як гэта яна адразу не дапяла, што незнаёмы прыхадзень, ды яшчэ

коннік, мог быць толькі з іудзейскага войска? Дагэтуль новыя гаспадары горада не чапалі іх, хрысціян, а зараз, мусіць, пачнецца... Нездарма, ох, нездарма завітаў сюды гэты юнак, тым болей, што ён, калі не хлусіць, начальнік аховы...

Архелай скмеціў, як змянілася ў твары жанчына, і для сябе патлумачыў гэта не ейным спалохам, а павагаю да ягонага вялікаможнага статусу.

— Дык дзе Вірсавія? — ужо са сталёваю ноткаю ў голасе запытаўся Архелай.

— Я не ведаю... Дый адкуль мне ведаць? Гэта ж не мая дачка... — рашучасць і самавітасць прапалі ў Ніры зусім.

Архелай не ўяўляў, як дамагчыся ад жанчыны праўды. А яна, па ўсім бачна, пра Вірсавію досвед мае... Але ж ён не звер, каб запалохваць ці ўжываць сілу.

— Скажы, я вельмі прашу... нічога благога я Вірсавіі не зычу... Мне б толькі пабачыць яе, — змякчэлым голасам папрасіў юнак.

— Я нічога не ведаю...

У роспачы Архелай ужо хацеў пасунуцца да дзвярэй, але нечакана ззаду, за сваёю спінаю, пачуў ціхі голас старога:

— Падыдзі сюды...

Калі Архелай, крыху схіліўшыся, застыў перад епіскапам, дык пачуў радаснае для сябе:

— Я скажу табе, дзе Вірсавія...

Іуда чуў размову Архелая з Нірай і зразумеў, што за хлопец да яго завітаў. Тады, калі епіскап развітаўся з рабі Рашбі, у хату адразу ж літаральна ўляцела Вірсавія — усчырванелая, узрушаная, з вачэй так і праменілася радасць.

— Татачка, я закахалася! — з парога выгукнула яна і, падбегшы да старога, цмокнула яго ў шчаку.

— Калі ж гэта ты паспела? — разгубіўся Іуда. — Няўжо, нарэшце, Гідона ўпадабала?

— Гідон — харошы хлопец. Але ён для мяне проста сябар... Я закахалася ў іншага!

— І хто ж з нашых хлопцаў можа адчуваць сябе шчаслівым?

— А чаму ты вырашыў, што ён з "нашых"? Ён якраз зусім не наш...

Апошнія словы Вірсавіі насцярожылі Іуду.

— Як гэта?.. Што ж, расказвай...

Вірсавія ніколі не трымала за душою ніякіх таямніц ад бацькі. Дый якія могуць быць асаблівыя таямніцы ў толькі што саспелай дзяўчыны? І Вірсавія распавяла бацьку пра нечаканую сустрэчу з Архелаем, а з-за таго, што памяць у яе маладая, учэпістая, дык яна нават амаль слова ў слова пераказала ўсю размову з упадабаным хлопцам.

Слухаючы Вірсавію, назіраючы, якім шчасцем свеціцца ейны твар, Іуда разумеў, што ў сэрцы дарослай, лічы, дачкі сапраўды ўспыхнула вялікае пачуццё... Гэтаму можна было б толькі парадавацца, бо сапраўднае каханне — дар Божы, і не кожнаму ён даецца. Дый хлопец, які гэтак запаў у душу Вірсавіі, пэўна ж, неблагі. Вунь колькі выпала яму нястач ды нягодаў — не меней, чым самой Вірсавіі. А глядзі ж ты, не ашчаціўся, не азлобіўся... Адно толькі вярэдзіла думкі Іуды, і ён асцярожна выказаў гэта Вірсавіі:

— Яно ўсё добра, дачушка, але... Хлопец жа твой, Архелай, — прававерны іудзей. А ты ж ведаеш, як яны да нас ставяцца... Каб не было гэта для вас неадольнаю перашкодаю...

Вірсавія імгненна зніякавела, “пагасла” — ёй, закаханай, як кажуць, з першага позірку, і ў галаву не прыйшла гэтая непрыемная акалічнасць. Але ў наступны момант яна зноў ажывілася, зашчабятала:

— А хіба ж нашыя продкі, татачка, некалі таксама не былі прававернымі іудзеямі? Дый увогуле: хіба ж нават язычнікі, не толькі іудзеі, усё часцей не прымаюць нашую веру? Дык чым жа Архелай горшы? Мне здаецца, ён вельмі разумны, а душа ягоная чыстая, шчырая, і яна ўспрыме нашага Хрыста як адзінага Сына Божага...

Іуду не было чым запярэчыць дачцэ. У рэшце рэшт, яму, епіскапу, акурат і належыць збіраць у статак “блудных авечак”. Іуда толькі і сказаў:

– Пабачым, дачушка... Як Бог дасць...

І вось цяпер, калі абраннік Вірсавіі аб’явіўся ўвачавідкі, Іуда вырашыў, што яго акурат і паслаў Бог. Паўсядзённая турбота за лёс дачкі-прыгажуні апошнім часам не давала яму спакою. Вірсавію пакуль што ўдалося зберагчы ад нахабніка Акілы, але чаго чакаць цяпер ад іудзейскага нашэсця? Іуда хоць і саслаў дачку ў Віфанію, аднак заспакаення гэта не прынесла. Іудзеі зараз убіраюцца ў сілу па ўсёй Палесціне, і немаведама яшчэ, дзе для хрысціян болей бяспечнае месца: тут, у Ерусаліме, ці ў далёкім занядбаным мястэчку. Дык, можа, гэты хлопец, калі ён папраўдзе галоўны ахоўнік самога Бар Кохбы, акурат і здолее абараніць упадабаную ім дзяўчыну ад знявагі і гвалту?

— Я скажу табе, дзе Вірсавія, — ужо гучна, як мог, паўтарыў Іуда і пільна зірнуў у вочы Архелаю. — Дачка мне пра цябе казала... Здаецца, яна таксама закахалася. І моцна... Час цяпер няпросты. Таму я выправіў яе з Ерусаліма. Часова, да лепшае пары... Калі хочаш знайсці Вірсавію, выбірайся ў Віфанію. Там шукай Габрыеля, сына Лірана. Гэта малодшы брат майго суседа Мешулама, які днямі падаўся туды з сям’ёй. А Вірсавія — з імі...

Архелай уважліва выслухаў Іуду, затым, каб выказаць удзячнасць, лёгка пацiснуў сваёй рукой схуднелае запясце старога.

— Я абавязкова знайду Вірсавію! — горача паабяцаў ён і адразу ж выказаў спагаду: — Ты, здаецца, захварэў, епіскап? Можа, патрэбная мая помач?

— Ды не, дзякую. Даглядаць мяне ёсць каму...

— Тады я, мусіць, пайду...

Архелай, абмінуўшы дзябёлую постаць Ніры, якая, разявіўшы рот, слухала ўсё моўчкі, пачуў наўздагон умольна-пранікнёныя словы епіскапа:

— Беражы Вірсавію, сынок...

Сэнс Іудавых слоў Архелай усвядоміў ужо на вуліцы, калі адчапляў аброць, яму раптам зрабілася млосна і адначасна шчымліва-радасна, бо гэтае “сынок” у дачыненні да сябе ён раней ніколі не чуў. На вочы чамусьці нагарнуліся слёзы, Архелай адразу ж выцер іх тыльным бокам далоні і схамянуўся: “Добра, што гэтага не бачыў бацька Вірсавіі. Ён жа, пэўна, падумаў бы: які з цябе абаронца, калі слёз стрымаць не можаш?..”

## Напярэймы

Ціней Руф у апошні дзень перад выступам з Ерусаліма ўсё ж спадобіўся паслаць новых ганцоў у Сірыю і Егіпет. Яны павінны былі паведаміць Публію Марцэлу і Тыцыяну, што дзясяты легіён пакідае горад, адступае ў Кесарыю, таму знікла патрэба спяшацца на помач. Прынамсі, гэтым Руф

нічога не змяніў: і Сірыйскі, і Егіпецкі легіёны ўжо былі ў дарозе.

Ганец ад Руфа пераняў войска Публія Марцэла паблізу Хеннярофа, на ўзбярэжжы Генісарэцкага возера. Марцэл з абурэннем успрыняў вестку пра здачу Ерусаліма, але ў душы парадаваўся: ягоны легіён рухаўся вельмі марудна, бо паўстанне ахапіла ўжо не толькі Іудзею, але і Самарыю, Галілею, неўзабаве магло нават перакінуцца і на Сірыю. Мяцежнікі, жорстка расправіўшыся з гарадскімі і мястэчковымі гарнізонамі, авалодалі зброяй, і цяпер аказвалі досыць упарты супраціў Сірыйскаму легіёну. Кожнае паселішча даводзілася браць з боем, несці страты, хай сабе і невялікія. Калі так пойдзе і далей, думаў Марцэл, дык не выключана, што ягоны легіён напаткае такі ж лёс, як некалі войска Цэсція Гала. Таму легат, доўга не раздумваючы, своечасова павярнуў свае калоны назад...

А ў Егіпет апошні ганец Руфа так і не трапіў. Хоць на захадзе ад Ерусаліма паўстанне пакуль што не ўвабралася ў поўную сілу, аднак мяцежнікі ўжо кантралявалі некаторыя дарогі, і яны акурат перахапілі Руфавага табілярыя каля Адалама. Таму XXII Егіпецкі легіён, нікім не папярэджаны, рухаўся ў напрамку да Ерусаліма, прычым досыць імкліва, бо супраціву на ягоным шляху амаль не было.

Прэфект Тыцыян не гарэў жаданнем выпраўляцца ў далёкі і, хутчэй за ўсё, небяспечны агмен. Узначальваць войска ён даручыў легату Марку Юнію — спрактыкаванаму і мужнаму ваяру.

Перш чым стаць легатам, Марк Юній з дзясятак год адслужыў ваенным трыбунам — кіраваў кагортай. Апошнім часам у Егіпце, дзе XXII легіён уваходзіў у склад гарнізона, было спакойна, бітвы, як некалі, не выхоплівалі з вайсковых шэрагаў ахвяр, легіянеры амаль не мяняліся. Таму кожнага з іх легат ведаў у твар.

Напачатку, пакуль легіён не выбраўся з Егіпта, Марк Юній загадаў рухацца ў карэ: калона нагадвала чатырохкутнік з чатырма франтамі і абозам пасярэдзіне. А ўжо на іудзейскай зямлі легіён перастроіўся ў тры калоны, прычым кожная маніпула трымала папераздзе ўласны абоз. Такі маршавы рух быў звыклым для рымскага войска, калі ў любы момант можна чакаць нападу непрыяцеля. У Іудзеі акурат гэтак і было.

Пра тое, што з Сірыі і Егіпта высунуліся вайсковыя злучэнні, у Ерусаліме даведаліся праз некалькі дзён. Праўда, вестка аб тым, што Сірыйскі легіён павярнуў назад, да вушэй Бар Кохбы пакуль што не даляцела. Таму, калі ён абмяркоўваў з Акібам план дзеянняў, ім уяўлялася, што давядзецца змагацца, так бы мовіць, на два франты.

Сімона, па праўдзе кажучы, трохі абцяжарвала і нават прыгнятала тое, што ён змушаны кожнае важлівае рашэнне ўзгадняць з Акібам. “Хай бы займаўся стары сваімі святарскімі справамі, — думаў ён, — і не лез туды, у чым нічога не петрыць”. Аднак жа ўголас незадаволенасці ніколі не выказваў, як і цяпер, калі Акіба паклікаў яго да сябе, каб даведацца, што думае камандзір пра навіслую пагрозу.

— Я прапаную раздзяліць нашае войска на дзве часткі, — адразу ж заявіў Бар Кохба, бо над гэтым рашэннем думаў амаль усю ноч і яно выспела ў галаве як самае лагічнае, правільнае і канчатковае.

— І што далей? — з насцярогаю запытаўся Акіба.

— Адну частку, найболей баяздольную, мы пашлём напярэймы Егіпецкаму легіёну. Ад яго, як мне здаецца, сыходзіць галоўная небяспека. У заходнім кірунку ў нас прыхільнікаў не ўдосталь, дый гарадоў-паселішчаў на шляху рымскага войска няшмат, таму яно вось-вось з’явіцца ў нас пе-

рад носам. Сірыйскаму ж легіёну ў Галілеі, ды нават і ў Самарыі, будзе нясоладка — там ужо, можна сказаць, наша тэрыторыя. І яшчэ невядома, ці здолеюць рымляне ўвогуле прабіцца да Ерусаліма...

— Калі маеш упэўненасць, што з сірыйскага напрамку пагрозы нямашака, дык навошта тады дзяліць нашае войска на дзве часткі? Ці не лепей усім кагалам наваліцца на Егіпецкі легіён і знішчыць яго адным махам? Дый увогуле: ці варта ісці напярэймы рымлянам? Можа, хай яны наблізяцца да Ерусаліма, і тут, у прыгарадзе, дзе мы здолеем як след падрыхтавацца, зрабіць умацаванні, сустрэнем іх як след...

— У мяне няма цвёрдай упэўненасці, што сірыйскае войска не праб'ецца да Ерусаліма. А калі праб'ецца? Тут яно злучыцца з Егіпецкім легіёнам, і нам будзе значна цяжэй адужаць іхнія аб'яднаныя шэрагі. Рымлян трэба біць паасобку... Я думаю, дваццаці пяці тысяч нашых лепшых ваяроў будзе досыць, каб разграміць Егіпецкі легіён. Астатнія хай застаюцца тут — на выпадак, калі "сірыйцы" ўсё ж з'явяцца паблізу Ерусаліма...

Акіба разумеў, што на гэты раз Бар Кохба мае рацыю, хоць яму не хацелася, каб Сімон адчуў сябе паўнавартасным камандзірам і, крый божа, заганарыўся. Але ж ягоны план, мусіць, найлепшы, таму галоўны святар, зрабіўшы доўгую зацятую паўзу, даў згоду:

— Хай будзе па-твойму...

Праз гадзіну ганцы-ад'ютанты разляцеліся па Ерусаліме і ягоных ваколіцах, каб данесці да асобных вайсковых атрадаў загад: заўтра з раніцы выступ. Архелай абраў для сябе накірунак на поўнач, дзе ў асноўным знайшлі сабе прытулак мясцовыя апалчэнцы, тым лікам і атрад Янaя. За час, хай сабе і кароткі, калі яны яшчэ не з Бар Кохбам, а з Бар Козібам прыжываліся ў асяродку местачкоўцаў, хлопцу ўспадоб прыйшліся гэтыя бясхітрасныя, простыя дзецюкі, у якіх на руках пакуль што свяціліся мазалі не ад зброі, а ад сякеры ці рыдлёўкі... Архелай асабліва ўпадабаў гаваруна Нахума, можа, таму, што яны былі амаль аднагодкі, мелі агульныя інтарэсы. Хлопец пры любым зручным выпадку імкнуўся заскочыць да сваіх колішніх сяброў хоць на хвілінку, а тыя з радасцю яго сустракалі і, чаго ўжо таіцца, найчасцей распытвалі пра Бар Кохбу...

На гэты раз у Архелая было мала часу на размовы, бо наведаць належала не адзін атрад, таму ён адразу ж прыгарцаваў на сваім жарэбчыку да Яная, які нешта даводзіў цыбатаму Ювалю, і яшчэ на хаду прагарлаў:

— Янай! Заўтра ў паход! Будзем біцца, нарэшце, з рымлянамі!

А калі жарэбчык стаў, як укапаны, дадаў:

— Пойдзем напярэймы егіпецкаму войску. Прычым заўваж: выпраўляемся не ўсе, толькі лепшыя... Так што ганарыся!

— А калі выступаем? — стрымана запытаўся Янай.

— Заўтра з самае раніцы. Будзьце напагатове! Пагаманілі бы яшчэ, ды гэтым разам няма калі — трэба іншым паведаміць. Але нічога, часу ў паходзе мецьмем шмат, каб нагаварыцца. Так што бывай! — з гэтымі словамі Архелай панукнуў жарэбчыка, і той, спачатку ўздыбіўшыся, паскакаў далей.

Архелай не хаваў узрушанасці ад весткі пра заўтрашні паход, і яму здавалася, што з гэткаю ж радасцю яе ўспрымуць і астатнія. Яму, маладому і неўтаймаванаму, не думалася, што гэты паход, магчыма, прынясе калецтва ці нават смерць...

Адно толькі вярэдзіла душу Архелая: ён збіраўся адпрасіцца ў Бар Кохбы на два-тры дні, каб наведаць Віфанію, дзе знайшла прытулак Вірсавія, але, на жаль, цяпер давядзецца адкласці свой намер на няпэўны час...

## Пагром

Паступова Іуда акрыяў. Ён ужо самастойна ўставаў з ложка, часам выбіраўся з хаты, каб пабыць на сонейку. Адно толькі і дакучала — злёгку ванітавала. Ніра ўсё радзей наведвала старога, хіба толькі для таго, каб прынесці тукую-сякую ежу, хоць і ў гэтым Іуда не меў вялікае патрэбы: есці яму не хацелася.

Як толькі стала вядома, што епіскапу палепела, да ягонае хаціны пацягнуліся людзі. Хто проста цікавіўся здароўем, а хто ўжо хацеў атрымаць нейкую параду.

Аднаго разу, калі Іуда быў акурат на двары, сваімі падслепаватымі вачыма ён згледзеў у канцы вуліцы дзве вельмі знаёмыя постаці. Спярша здалося, што гэта нейкая мроя ў недалечанай галаве, але па меры таго, як постаці набліжаліся, расло перакананне, што памылкі няма.

Па вуліцы, ледзьве перастаўляючы ногі, брылі Вірсавія і суседскі хлопец Гідон, якія, на здаровы сэнс, зараз павінны быць у Віфаніі. У душы старога варухнулася нешта трывожнае, нядобрае...

Ужо каля самага падворка Вірсавія, па ўсім бачна, зняможаная далёкай дарогай, знайшла ў сабе сілы і подбегам кінулася да бацькі. Нічога не кажучы, яна ўторкнулася тварам у рабрыстыя грудзі Іуды, які лёгка абняў дачку і па тым, як уздрыгваюць дзявочыя плечы, зразумеў, што Вірсавія бязгучна плача.

Гідон спыніўся воддаль, апусціўшы вочы долу, моўчкі пераміnaўся з нагі на нагу. Вопратка на ім, як паспеў згледзець Іуда, чамусьці месцамі была парваная, абдзёртая, на нагах — ніякага абутку, пальцы на іх крывяніліся ад доўгай хады па камяністых сцежках.

Перш чым распытваць, Іуда паспрабаваў супакоіць дачку, паўтараючы адны і тыя ж словы:

— Ну годзе, годзе... Няма на свеце гора, вартага твае слязінкі...

Нарэшце Вірсавія крыху суцішылася, падняла-скіравала вільготныя вочы на бацьку і з неймавернаю тугою мовіла:

— Ёсць, тата, ёсць такое гора...

Іуда толькі цяпер заўважыў, што твар дачкі нейкі ссохлы, нават састарэлы, а ад былое заўсёднае гарэзлівасці ў вачах не засталося і следу.

— Хадземце ў хату, чаго на людзях смылець, — паспешліва сказаў Іуда і, трымаючы Вірсавію за плечы, павёў яе на падворак.

Гідон адрачона пацёгся за імі.

Амаль гадзіну Іуда моўчкі слухаў жахлівы аповед Вірсавіі і Гідона, якія наўзахлёб, перабіваючы адно аднаго, выплёсквалі на старога свой боль і адчай...

Да Віфаніі сям'я Мешулама дабралася без прыгодаў, хоць шлях быў няблізкі і нават небяспечны: адчуўшы слабіну ўлады, на дарогах шасталі шайкі рабаўнікоў, нападалі на адзінокіх вандроўнікаў, а часам і на цэлую гурму ўцекачоў-перасяленцаў.

Габрыель сустрэў старэйшага брата і ягоную сям'ю з непрыхаванай радасцю, але з вачэй зыходзіла прытоеная трывога.

— Неспакойна ў нас тут, — адразу ж папярэдзіў ён Мешулама. — Рымскі гарнізон пакінуў горад, дык іудзеі асмялелі, абнахабіліся, на нас, хрысціян, пазыркваюць коса...

У Віфаніі, у адрозненне ад Ерусаліма, хрысціяне жылі не ў адзіным

адасобленым месцішчы, іхнія сядзібы былі раскіданы па ўсім горадзе, на сумесныя набажэнствы паслядоўнікі Хрыста збіраліся амаль што таемна і кожны раз на новым месцы.

У Габрыеля ў самога было чацвёра дзяцей, а тут яшчэ плойма Мешулама... Аднак жа неяк месціліся, хоць начаваць даводзілася на падлозе і суцэльным пластом.

Зрэшты, іх, начэй, было ўсяго дзве. Габрыель спадзяваўся, што неўзабаве рымляне зноў прыйдуць у горад і ўвогуле разгоняць гэтую іудзейкую смуту, усталююць ранейшы парадак, і тады Мешулам зможа вярнуцца ў Ерусалім. Але здарылася акурат наадварот.

Нечакана даляцела пагалоска, што рымскі гарнізон пакінуў, а войска Бар Кохбы ўступіла ў Ерусалім. Іудзеі Віфаніі ўспрынялі гэта як канчатковую перамогу над акупантамі, іхняй радасці не было межаў. Разам з радасцю вонкі выплюхнулася і злосць, якая назапашвалася ў душах дзесяцігоддзямі. Вядома ж, найперш яна скіравалася на рымскіх прыгнятальнікаў, але ж іх побач ужо не было, яны сышлі, тую злосць усё адно патрабавалася на кімсьці спагнаць, інакш пачуццё перамогі не было б такім усеабдымным, паўнавартасным.

І ахвярамі сталі хрысціяне.

У Віфаніі рымляне не перашкаджалі ладзіць ім набажэнствы, а ўпотайкі хрысціяне збіраліся хутчэй з-за таго, што небяспека сыходзіла ад іудзеяў, якія лічылі хрысціян запраданцамі.

Таму не дзіўна, што, нібы сам па сабе, па горадзе надвячоркам пранёсся кліч:

— Бі хрысціян!

Гідон і Вірсавія не бачылі, як на падворак Габрыеля ўварваўся раз’ятраны натоўп, бо акурат вярталіся з прагулкі па горадзе: вольнага часу было шмат, і хацелася хоць збольшага з ім пазнаёміцца. Яшчэ здалёк яны пачулі крыкі, лямант, плач дзяцей. Падворак, дзе ім далі прытулак, быў за паваротам, таму яны не ўбачылі, але чамусьці адчулі, што нейкі вэрхал творыцца менавіта на сядзібе Габрыеля. Гідон і Вірсавія кінуліся бегчы, каб як мага хутчэй даведацца, што здарылася, але ім напярэймы аднекуль выскачыла суседка Габрыеля цётухна Ніцана, перагароджваючы шлях, раскінула ўшыркі рукі і прыглушаным голасам, каб пачулі толькі яны, выдыхнула:

— Дзеткі, не трэба туды, не хадзіце! Там страшна! Вас там заб’юць!

Гідон адштурхнуў Ніцану, каб бегчы далей, бо там былі ягоныя бацькі, браты і сёстры, якім, відавочна, пагражала нейкая небяспека. Аднак жанчына ззаду схапіла яго за апратку і ўжо ўголас узмалілася:

— Не хадзі туды, не хадзі! Там іх шмат, і ты ўжо нічым не дапаможаш! Толькі загубіш самога сябе!

Хлопец вырваўся з рук Ніцаны, але яго спыніў нечаканы вокліч Вірсавіі:

— Гідон! Пачакай! Трэба спярша прыглядзецца...

Дзявочае сэрца падказала ёй, што варта паслухацца Ніцаны, бо там робіцца нешта сапраўды жахлівае, і яны нічым дапамагчы не змогуць, а толькі здарыцца яшчэ большая бяда.

— Правільна, дзеткі, правільна! — засакатала Ніцана. — Ідзіце лепей за мной — бокам, бокам, і на мой падворак, там я вас схаваю. Перачакаеце гэтую навалу...

Ніцана, як і ейны абручнік Эльдад, былі прававернымі іудзеямі. Аднак

яны не мелі ніякай нянавісці да Габрыеля, хоць той і прыняў хрысціянскую веру. Найперш ён быў для іх суседам — добрым, спагадлівым, зычлівым, з якім не адзін дзясятак год давялося пражыць поруч, у галодныя часіны дзяліцца апошнім праснаком. І дзеці іхнія сябравалі, ніколі не “грызліся”. А калі да Габрыеля два дні таму перабралася сям’я Мешулама, дык Ніцана і Эльдад, разумеючы, як цяжка цяпер давядзецца суседу, прынеслі яму паўмеха пшаніцы і збан аліўкавага алею. Калі ж ні з таго ні з сяго на сядзібу Габрыеля з каламі, з ланцугамі накінулася цэлая гайня дзецюкоў — добрых два дзясяткі — ні Эльдад, ні Ніцана нічым ім памагчы не змаглі...

Іхнія сэрцы абліваліся крывёю, калі яны з-за агароджы назіралі, як з халупы Габрыеля выцягваюць самога гаспадара, ягоную жонку Аялу, Мешулама, а следам выкідваюць на падворак і дзяцей. Гулка вухкалі аб целы калы, мужчыны стрымана стагналі, жанчыны галасілі, але найболей разрывалі сэрцы пранізлівыя крыкі дзяцей... І кроў, шмат крыві, якая цякла амаль ручаінамі...

У Ніцаны ўжо не ставала сіл бачыць гэты гвалт. Захлынаючыся слязьмі, затыкаючы пальцамі вушы, каб не чуць жудасны лямант, яна выскачыла на вуліцу і пабегла як далей. І тут ёй акурат і патрапіліся на вочы Гідон і Вірсавія — маладыя, прыгожыя хлопец і дзяўчына, з якімі яна хоць і не паспела пазнаёміцца, але бачыла ў суседавай хаце. Уцяміўшы, якая небяспека чакае маладзёнаў, Ніцана схамянулася, прымусіла сябе супакоіцца і кінулася ім насустрач...

Ніцана правяла Гідона і Вірсавію ўздоўж агароджы, з супрацьлеглага боку ад хаты, і яны прашмыгнулі ў двор. Там ужо стаяў Эльдад, нібы чакаючы іх, а на справе ён таксама не змог назіраць за крывавай бойняй.

Хата засланяла падворак Габрыеля, таму Вірсавія і Гідон маглі толькі ўявіць, што там дзеецца. Крыкі і енкі былі настолькі жудаснымі, што Гідон не вытрымаў, развярнуўся і памкнуўся з двара, аднак Эльдад, мажны, каржакаваты дзяцюк, прадчуваючы нешта падобнае, зрабіў скачок наперад і павіс у Гідона на плячах — той ажно паваліўся на зямлю. Эльдад ашчаперыў яго аберуч і сціснуў так, што ў юнака перацяла дых.

— Супакойся, астынь! — гаркнуў Эльдад. — Пашкадуй сябе і дзяўчыну сваю. Дый маю сям’ю таксама. Яны і над намі не злітуюцца, калі згледзяць, што вы ў маім двары хованку знайшлі. Ідзі ў хату... — Эльдад аслабіў хватку, прыўзняў Гідона і падштурхнуў да дзвярэй, якія абачліва расчыніла Ніцана. Следам увайшла і Вірсавія. Яна калацілася ўсім целам.

Гвалт на падворку Габрыеля доўжыўся з паўгадзіны. Гідон яшчэ некалькі разоў парываўся кінуцца на помач радні, аднак дарогу яму заступаў шырокі, як сцяна, Эльдад.

Калі ўсё заціхла, Эльдад скамандаваў жонцы:

— Схадзі туды, зірні, што да чаго... А я на ўсялякі выпадак хлопца пакуль што тут прытрымаю...

Ніцана паслухмяна падалася з хаты, абышла яе і з асцярогаю, хоць ёй самой нічога не пагражала, ступіла ў суседскі двор. Ён быў заліты крывёю, аднак на зямлі Ніцана не ўгледзела ніводнага цела — ні мёртвага, ні жывога. “Можа, у хату пасцягвалі?” — падумала яна і ступіла ў цёмны праём, дзе некалі месціліся дзверы, якія цяпер, сарваныя, валяліся побач.

У хаце, узіраючыся ў паўзмрок, Ніцана здолела разгледзець, што ўсё тут перавернута, раструшчана, разбіта. Але целаў не было. “Мусіць, за-

бралі з сабой, каб недзе закапаць, як бадзяжных сабак, пабаяліся, што сатлеюць, дык смуроду не абярэшся... — прыйшла да высновы жанчына. — Нелюдзі!”

Аднак, калі яна вярнулася ў сваю хату, сказала зусім іншае:

— Няма там нікога.

І, перакінуўшыся позіркамі з Эльдадам, дадала:

— Мусіць, моцна збіўшы, павялі куды-небудзь у цямніцу... Жывыя яны, жывыя, мне чамусьці гэтак здаецца!

Вірсавія зразумела, што яна нешта не дагаворвае, нават хлусіць, каб толькі іх заспакоіць і суцешыць. Гідон жа памкнуўся да дзвярэй, каб пабачыць усё на свае вочы, аднак шлях яму перагарадзіла ўжо Ніцана.

— Я ж сказала: няма там нікога. Дык чаго ты туды паткнешся? Хата пустая... — жанчына не хацела, каб юнак пабачыў заліты крывёю двор, аднак Гідон адштурхнуў яе, выскачыў з хаты...

Вярнуўся ён прыгорблены, з апушчанымі плячыма, увесь у слязах.

— А ты, дачушка, туды не ідзі, — папрасіла Вірсавію Ніцана. — Не для дзявочых вачэй тое відовішча... Давайце лепш вырашаць, што далей рабіць, дзе вам прытулак шукаць. Я дык прапаную ў нас застацца. У нас вунь трое дзяцей, — яна кіўнула на кут, дзе зашыліся і ўвесь гэты час, перапалоханыя, бязгучна сядзелі хлапчаняты. — Дык і для вас месца знойдзецца. Як-небудзь пражывём... А тое, што вы хрысціяне, дык гэта на ілбах не напісана.

— Нас жа бачылі людзі, калі мы сюды прыбіліся, — сумна запярэчыла Вірсавія.

— Якія людзі? Хіба што суседзі. А суседзі ў нас харошыя, людскія, яны вас не выдадуць.

— Не, нам тут заставацца нельга ніяк, — ужо болей цвёрда выказалася Вірсавія. — І для нас небяспечна, і вам можа перапасці — самі ж казалі...

— Дык куды ж вы паткнецеся?

— У Ерусалім, да таты. Праўда, Гідон?

Хлопец толькі моўчкі кіўнуў галавою, бо ад убачанага жаху не змог вымавіць ні слова.

— А чаму ж вы думаеце, што ў Ерусаліме не тое ж самае дзеецца? — укліniўся ў размову Эльдад.

— Не можа такога быць... Там нас многа... Мы зможам маліцца...

Ніцана сабрала для іх клунак наедку, і тым жа вечарам Гідон і Вірсавія выбраліся ў дарогу...

Выслухаўшы аповед дзяцей, Іуда хвіліну-другую памаўчаў — яго самога апанавала здранцвеласць пасля пачутага. Затым ціха мовіў:

— Мусіць, гэтага варта было чакаць...

— Дык што, татачка, і нас усіх тут пераб’юць? — жахнулася Вірсавія.

— Не ведаю... Пакуль што ціха. Але вы ўжо дарослыя — павінны ўсё разумець... Падзецца нам няма куды. Будзем спадзявацца на Бога... А ты, — звярнуўся ён да Гідона, — жыві разам з намі. Хіба што начаваць будзеш у сваёй хаце, бо месца ў нас, сам бачыш, мала...

## Нечаканы манеўр

Спёка стаяла невыносная, на бязвоблачным небе сонца здавалася курыным жаўтком на патэльні.

Егіпецкі легіён рухаўся ўжо не так борздка, як спярша, хоць і зладна: Легат Марк Юній не паслабляў дысцыпліны, захоўвалася ўсё тое ж карэ.

Атраду спекулаторасаў было загадана весці больш глыбокую разведку, чым звычайна, і не столькі для пошукаў месца наступнай лагернай стаянкі, колькі для выяўлення войска мяцежнікаў. Да Ерусаліма заставалася ўсяго пяць-шэсць дзён хады, і легата не пакідала прадчуванне, што Бар Кохба паспрабуе паставіць заслону на подступах да горада. Ягонае прадчуванне спраўдзілася.

Спачатку за даляглядам узнялося густое воблака куравы, а затым з яго вынырнуў атрад спекулаторасаў — коннікі нясліся наўскач, галопам. Відавочна, што яны спяшаліся паведаміць нешта задужа важнае, бо дзень толькі распачынаўся і іншай патрэбы, як данесці вестку пра блізкага непрыяцеля, у разведчыкаў быць не магло.

Легат нацягнуў аброць, супыняючы свайго каня, услед застыла на месцы і ўся калона. Цэнтурыён Пізон, які ўзначальваў атрад разведчыкаў, спешыўся, увесь узмакрэлы, запылены, шпарка падышоў да легата.

— Там, наперадзе, мяцежнікі...

— Колькі іх? — без аніякай трывогі запытаўся Марк Юній.

— Шмат. Ці не ўсё іхняе войска. Блізка мы не падбіраліся, але і здалёк было бачна, што не меней як тысяч трыццаць — канца-краю не згледзіш.

— Яны стаяць ці рухаюцца?

— Рухаюцца, але ўсё адно што стаяць. Там жа, лічы, натоўп. Сунуцца хто як можа — на дарогу не зважаюць. Коннікаў амаль няма. Мітусяцца, адзін аднаму замінаюць...

— Як далёка яны адсюль?

— Калі іхняе хады, дык на гадзіны тры.

Марк Юній на кароткае імгненне задумаўся, затым акінуў вокам далягляд. Наўсцяж — амаль што пустэча, толькі дзе-нідзе пухірамі павыскоквалі ўзгоркі. Конча прыняўшы нейкае рашэнне, легат галёкнуў трубачу:

— Падавай сігнал на адступленне! Перадаць па калоне: паварочваемся і рухаемся ў адваротным напрамку!

Раздаўся пранізлівы гук тубы, які прымусіў легіянераў застыць у недаўменні. Але памылкі не было, бо адразу ж па шэрагах, як імклівая хваля, панесліся словы:

— Паварочвацца і рухацца назад...

— ...Рухацца назад...

— ...Назад...

Для таго, каб павярнуць калону, хапіла некалькіх хвілінаў. І вось ужо ар'ергард стаў авангардам. Адно што з абозамі давялося трохі павалэндацца — зарыпелі, застагналі, ледзь не перакульваючыся, вымалёўвалі паўкругі павозкі[1].

---

[1] Легіянеры ніколі не пярэчылі сваім камандзірам — тым і моцным было рымскае войска. За непаслушэнства, нават самае дробнае, чакала смяротная кара. Напрыклад, консул Манлій за парушэнне свайго загаду бязлітасна расправіўся з уласным сынам. Кара ў войску пужала не столькі смерцю, колькі ганьбаю. Асуджанага забівалі палкамі ягоныя ж паплечнікі. У Рыме так каралі толькі рабоў. Зрэдчас, калі ў вінаватага знаходзіліся памякчальныя абставіны, прысуд яму таксама змякчаўся: проста адсякалі галаву. Смяротная

— Марк, у чым справа? — да легата прыгарцаваў трыбун першай кагорты Катул.

— Мяцежнікі блізка, — коратка патлумачыў легат. — Увязвацца ў бітву тут — рызыкоўна. Абшар неспрыяльны. Як вокам кінуць — пустэча. А іх нашмат болей. Мы не зможам як след прыкрыць флангі. Аблепяць з усіх бакоў, як мухі, і паспрабуй іх адгані...

— Дык якая ў цябе задума?

— Сустрэнем іх там, дзе разбівалі апошні лагер. Лепшага месца і прыдумаць немагчыма...

І Марк Юній, нічога болей не сказаўшы, паскакаў у новую галаву калоны.

Праз дзве гадзіны легіён увайшоў у шырокую лагчыну, прашпацыраваў праз яе і спыніўся на заходнім схіле спадзістага ўзвышша, за якім пачыналася не надта высокая, але ўсё ж горная града. Напярэдадні менавіта тут лагер быў разбіты нездарма.

Рымскае войска да выбару месца для стаянкі, хай сабе і часовай, на адну ноч, ставілася вельмі адказна і прыдзірліва. Лагеру належала месціцца на ўзвышшы ці на схіле гары — каб далягляд быў шырокім і непрыяцель не мог заспець знянацку. Не болей чым за гадзіну вырастаў цэлы горад — з шатром для камандзіра, з асобнымі палаткамі для трыбунаў і прэфектаў дапаможнага войска, з вуліцамі і галоўнай плошчай... Асаблівая ўвага надавалася ўмацаванню лагера. Вакол яго абавязкова насыпаўся вал, перад якім, натуральна, утваралася канава, хай сабе і не надта глыбокая, але ж трэба ўлічваць, што тады зазвычай біліся пешшу і той, хто стаяў звысака, меў значную перавагу. У вал утыркаліся завостраныя калы, якія салдаты заўсёды насілі з сабою, і праз гэты частакол непрыяцелю амаль немагчыма было прарвацца.

Вал і канава на пакатым схіле ўжо меліся, заставалася толькі узвысіць, паглыбіць, ашчацініцца каламі — і вось табе гатовая крэпасць. Аднак намеру абараняцца Марк Юній не меў. Ён загадаў легіёну спыніцца акурат на сярэдзіне лагчыны і рыхтаваць зброю. А на месца былога лагера, у тыл, пасунуліся абозы.

Легат, склікаўшы ваенных трыбунаў, выклаў ім свой план на непазбежную і вельмі блізкую бітву...

Ландшафт быў адметны для гэтай мясцовасці, а для рымскага войска вельмі спрыяльны. Горы, якія распачыналіся ззаду, забяспечвалі легіёну надзейны тыл. Уздоўж лагчыны, па яе абодвух баках, таксама цягнуліся горы, прычым абрывістыя, скалістыя, іх немагчыма будзе абысці, калі мяцежнікі надумаюць ударыць з флангаў. Гэтыя горы амаль змыкаюцца наперадзе, перад уваходам у лагчыну, іх разразае толькі невялікая прагаліна, скрозь якую і пракладзена дарога. Лагчыну можна было б параўнаць з бутэлькай, а прагаліну паміж скаламі — з ейным горлычкам.

— Марк, а ці не лепей проста перакрыць уваход у лагчыну — і ўвесь клопат? — выказаўся Катул.

— Вядома ж, прасцей, — усміхнуўся легат. — Але ж гэта залежыць ад

---

кара магла напаткаць і салдатаў цэлай маніпулы — калі яна пакінула месца бітвы. У такім выпадку военачальнік прызначаў дэцымацыю. Перад строем легіёна вінаватыя, разбіўшыся па дзесяць чалавек, кідалі жэрабя, якое наканоўвала ганебную кару для аднаго з кожнай дзясяткі. Усіх астатніх пераводзілі на харч з аўса і ячменю, як коней і мулаў — ажно да тае пары, пакуль маніпула не вызначалася і не вяртала сабе гонар у баі...

таго, якую мэту перад сабою ставіш. Калі абараняцца, каб захаваць свае жыцці, то найлепшага плана не прыдумаеш. Але ж ці для гэтага мы сюды прыйшлі? Мы тут для таго, каб перамагаць...

## Бітва

У войску Бар Кохбы таксама былі свае “спекулаторасы”, магчыма, нават болей надзейныя і прафесійныя, бо выведку ім даводзілася рабіць у родных ці знаёмых мясцінах. Зрэшты, у выведцы асаблівай патрэбы не было, бо Сімон і так мог адсочваць, дзе знаходзіцца Егіпецкі легіён: іудзеі-местачкоўцы, што жылі абапал дарогі, неслі вестку аб рымлянах паперадзе калоны — ад паселішча да паселішча. Таму Бар Кохба зусім праз кароткі час даведаўся, што войска непрыяцеля раптоўна павярнула назад. Гэта было для яго нечаканкаю. Прычым непажаданаю.

Бар Кохба разлічваў сутыкнуцца з ворагам менавіта тут, на роўным і амаль пустынным абсягу, дзе колькасная перавага ягонага войска можа быць вызначальнай, а спадзеў на адкрытыя флангі акурат супадаў з думкамі Марка Юнія.

Аднак жа рымляне чамусьці адступаюць. Чаму? Мусіць, проста пабачылі, якое вялікае іудзейскае войска і вырашылі вярнуцца ў Егіпет — да такое кончае высновы прыйшоў Бар Кохба. Іншага, магчыма, гэта ўзрадавала б, але толькі не Сімона. Ён прывёў сюды такую шматлікую армію не для таго, каб напалохаць рымлян, а каб іх разбіць, знішчыць, дабіцца безумоўнай перамогі і тым самым давесці ўсяму народу, што ён сапраўды Месія.

— Архелай! — клікнуў Бар Кохба свайго галоўнага ад’ютанта-ахоўніка, які ехаў трохі ззаду. — Хай твае хлопцы праскачуць уздоўж войска і перададуць, што трэба паскорыць крок. Рымляне зусім блізка, і яны адступаюць. Мы не можам даць ім сысці. Рухацца як мага хутчэй!

І, нібы ў пацверджанне ўласных слоў, Бар Кохба злёгку прышпорыў свайго каня.

Ніякіх разведчыкаў наперад Сімон ужо не накіроўваў. Дый навошта? Вораг — вось ён, зусім блізка, застаецца толькі ззаду, з ходу накінуцца на яго, магчыма, нават знянацку.

Іудзейская раць паскорыла рух амаль удвая, найміты і асабліва апалчэнцы, даведаўшыся пра тое, што вораг забаяўся і ўцякае, гэтак узрушыліся, іх ахапіў такі паляўнічы азарт, што ўсе ўжо не проста ішлі хуткаю хадою, а пусціліся подбегам.

Пустэльная частка мясцовасці заканчвалася, на даляглядзе вымалёўвалася зубчатая горная палоска, а рымскага войска вочы так і не намацвалі. Бар Кохба вельмі пашкадаваў, што не ўдалося заспець ворага хоць бы ў перадгор’і, дзе зрабіць наскок было б лацвей. Але ён не даў войску каманду спыніцца, Сімона ўжо запаланіла неадольнае жаданне разбіць рымлян дзе б там ні было — хай сабе і ў гарах.

Толькі перад горнаю градою іудзейскаму войску давялося запаволіць рух, бо дарога ўгрызалася ў скалы, па ейных узбочынах прасоўвацца было ўжо немагчыма. Бар Кохба, а следам за ім Архелай з ахоўнікамі першымі ўляцелі ў горную пашчу, праскакалі па дарозе не болей як сотню метраў, і перад іхнімі вачыма раскінулася ўшыркі і яшчэ болей уздоўж лагчына, з усіх бакоў сціснутая гарамі-скаламі. Але не гэты маляўнічы краявід прымусіў Бар Кохбу і ягоных ахоўнікаў рэзка нацягнуць аброці — коні

ажно сталі на дыбкі: наперадзе, пасярэдзіне лагчыны, ва ўсёй сваёй строгай прыгажосці і моцы выстраілася рымскае войска...

Доўга разважаць і дзівіцца коннікам не выпадала, бо ззаду падпіраў, ціснуўся ў "бутэлечнае горлычка" натоўп, і Бар Кохба з ахоўнікамі змушаныя былі паскакаць далей, у глыбіню лагчыны, балазе рымляне (Сімон не здагадваўся, што наўмысна) пакінулі столькі вольнага месца, што яго хапіла б для дзвюх такіх армій, як іудзейская.

Бар Кохба спыніў свайго каня за паўтары сотні крокаў ад рымскага легіёна, нібы акрэсліваючы мяжу, за якую ягонаму войску пакуль што пераступаць нельга. Ён ужо зблізку, у дэталях, мог разгледзець абарончыя лініі непрыяцеля...

Марк Юній выстраіў легіён так, каб ён упоперак перагарадзіў усю лагчыну. Паміж маніпуламі, якія стаялі спераду, у першай лініі (іх яшчэ называлі гастаці), меліся прамежкі — роўна такія ж, як і шырыня маніпулы. Салдаты ў ім стаялі ў дзесяць шэрагаў, прыкладна ў метры адзін ад аднаго. Ззаду, акурат насупраць прамежкаў паміж маніпуламі першай лініі, гэткім жа чынам выстраілася другая лінія — прынсіпы. У выніку маніпулы складалі амаль суцэльную сцяну, толькі размешчаныя яны былі ў шахматным парадку. Прынамсі, мелася яшчэ і трэцяя лінія, у якую ўваходзілі так званыя трарыі. Стоячы на адным калене, абапёршыся на шчыты і выставіўшы наперад дзіды, яны ўтваралі нешта накшталт крапаснога вала, за якім пры неабходнасці маглі схавацца параненыя з першых дзвюх ліній. Калі, крый божа, за "вал" змушаныя будуць адступіць гастаці і прынсіпы, абавязак трарыяў — устаць і прыняць націск праціўніка на сябе. Нездарма ў рымлян панавала показка: "справа дайшла да трарыяў", што азначала" – становішча стала крытычным.

Гэта было даўно праверанае, тыповае для рымскага войска пастраенне перад бітвай, і легат Марк Юній нічога не выдумаў. Як і належыць, пяхоту саюзнікаў ён размясціў на флангах, а нешматлікай кавалерыі, насуперак завядзёнцы, чамусьці наканаваў месца далёка ззаду, ажно за трарыямі.

Перад легіёнам выцягнуўся рэдзенькі ланцужок лучнікаў, але іх было няшмат, і Бар Кохба нават не звярнуў увагі на гэтае "ашмёцце". Ён раз-пораз азіраўся назад, адсочваючы, як праз "горлычка" ўліваецца і паступова напаўняе ўсходнюю частку лагчыны ягонае войска. Неўзабаве ўсё яно тоўпілася за спінаю Бар Кохбы. Заднія апалчэнцы не напіралі на пярэдніх, бо, калі яны толькі ўваходзілі ў лагчыну, звысака маглі бачыць роўныя квадрацікі рымскага войска. Шчыты, зброя, амуніцыя легіянераў так адпраменьваліся пад сонцам, што, здавалася, наперадзе, пасярэдзіне лагчыны, цячэ залатая рака. Над шаломамі легіянераў задзірыста вытыркаліся featureнага колеру султаны, якія надавалі ваярам росту, і таму рымляне бачыліся іудзеям нашмат вышэйшымі, чым на самай справе, магутнымі, грознымі. Усё гэта прымушала літаральна дранцвець ад захаплення і жаху.

Напэўна, таму шматтысячны натоўп быў не надта гаманлівым, сцішаным, чуліся толькі выкрыкі ды загады камандзіраў, якія заклікалі апалчэнцаў гуртавацца вакол сябе. Варта адзначыць, што загады гэтыя выконваліся зладжана, і праз лічаныя хвіліны іудзейскае войска, упадобіўшыся рымскаму, разбілася хоць і не на роўненькія квадрацікі, але ўсё ж на асобныя атрады — што ні кажы, папярэдняя шматдзённая "муштра" не сталася дарэмнай і вось цяпер дала плён.

Бар Кохбу ўсцешыла, што войска нават без ягонага загаду, самастойна

набыло акрэсленыя абрысы. Засмучала толькі тое, што ён не мае магчымасці перастроіць атрады, як яму хацелася б: месца ў лагчыне было ўсё ж малавата, і калі распачаць "перадыслакацыю", атрымаецца сумятня, і рымляне могуць ёю скарыстацца — пойдуць у наступ. Адно толькі і загадаў Сімон — каб атрады наймітаў, як найболей баяздольныя, занялі месца ў цэнтры, дзе, відавочна, і вырашыцца лёс бітвы.

А распачынаць яе, нягледзячы на пагрозлівы выгляд рымскіх ліній, Бар Кохба вырашыў не марудзячы. Ён на вока прыкінуў: на кожнага рымскага легіянера прыпадае прыкладна чатыры ягоныя ваяры. Можа, нават і болей. Вядома ж, Сімон трымаў у галаве свой першы бой з рымлянамі ў родным мястэчку, калі іхняя перавага была большаю ледзь не ў дзесяць разоў і, тым не меней, усё скончылася паразаю. Але ж тады яны амаль не мелі зброі, дый вывучкі — аніякай. Цяпер жа ягонае войска, асабліва найміты, узброенае як след, не нашмат горш, чым рымскае, і такія-сякія навыкі апалчэнцы ў ваколіцах Бетара ўсё ж набылі.

Праўда, Бар Кохба разумеў і тое, што ў гэтай лагчыне колькасная перавага — не гарантыя перамогі. Легіён нельга абысці з флангаў, а значыць, першым шэрагам давядзецца біцца з рымлянамі тварам у твар, астатнія будуць тоўпіцца, чакаць сваёй чаргі недзе ззаду. Аднак Сімон спадзяваўся, што хоць дзе-небудзь, а найлепей, дык пасярэдзіне (тут акурат і быў разлік на наймітаў), усё ж удасца прарваць, прабіцца скрозь шчыльныя лініі легіёна, і тады ў гэтую "дзірку" хлынуць ягоныя ваяры, абступяць, аблепяць гэтыя "квадрацікі" з усіх бакоў, і не будзе для іх паратунку...

Удалечыні, за стройнымі шэрагамі легіёна, Бар Кохба згледзеў і ягонага камандзіра — распазнаў па тым, што блізу яго трымаўся сцяганосец з сярэбраным арлом. Зазвычай легаты падчас бітвы ішлі наперадзе сваіх легіёнаў, з імі побач былі і сцяганосцы, і толькі консул, які кіраваў усім войскам, месціўся ззаду. Марк Юній і цяпер з ахвотаю стаў бы ў першы шэраг легіёна, але на гэты раз яму даводзілася выконваць ролю консула, і рызыкаваць сваім камандзірам войска не магло ніяк.

Тое, што легат хаваецца за спінамі сваіх ваяроў, канчаткова пераканала Бар Кохбу: рымляне ісці ў наступ не збіраюцца, яны намерыліся толькі абараняцца, бо адчуваюць сілу іудзейскага войска. Насамрэч Марк Юній загадаў легіёну стаяць на месцы з-за таго, што гэткім чынам лягчэй захаваць маналітнасць шэрагаў, пры руху непазбежна будуць ствараца інтэрвалы паміж маніпуламі.

Бар Кохба яшчэ раз акінуў вокам сваё войска: яно хоць і стракатае, але ж якое шматлікае, пагрозлівае! Душу Сімона перапоўніла незразумелая ўзнёсласць, у ёй ужо не засталося месца для сумневу наконт зыходу бітвы. Ён скіраваў позірк у неба, злёгку прыўзняў рукі ўгару і пранікнёна мовіў:

— Божа! Молім Цябе не памагаць толькі нашым ворагам, а нам жа не патрабуецца Твая дапамога!

Гэтыя словы Сімон сказаў не надта гучна, напаўголасу, іх маглі пачуць толькі Архелай і астатнія ахоўнікі, што месціліся паблізу. І ўжо ў наступны момант Бар Кохба зычна выгукнуў:

—Браты! Наперад! За мной!

Сімон прышпорыў свайго каня. Следам за камандзірам, як лавіна, зрушылася з месца вайсковая раць. Архелай і ахоўнікі апярэдзілі Бар Кохбу і, трэба сказаць, зрабілі гэта своечасова. Да легіёна заставалася крокаў пяцьдзясят, і тут ланцужок лучнікаў, якіх Бар Кохба зусім не браў

пад увагу, раптам ажыў, заварушыўся, і ў бок людское лавіны вылецела хмара са стрэл і дроцікаў. Тры ахоўнікі наперадзе Бар Кохбы, наскрозь праткнутыя стрэламі, цельпукавата адкінуліся назад, а затым зваліліся з коней, хоць тыя працягвалі скакаць далей. Архелая чакаў той жа лёс, дроцік ляцеў яму проста ў твар, аднак у апошняе імгненне спрытны юнак паспеў ухіліцца.

Кожная страла ці дроцік знаходзілі мэту, бо іудзеі беглі блізка адзін ад аднаго, амаль шчыльнаю сцяною. Некаторыя з іх мелі шчыты, аднак скарыстацца імі не паспелі — яны разлічвалі, што шчыты спатрэбяцца толькі ў бліжнім баі. Першы шэраг іудзейскага войска — як выкасіла. Снапамі людзі пападалі на зямлю, аднак, пераступаючы іх (а хто-ніхто і не пераступаў), іншыя беглі наперад.

Лучнікі зноў нацягнулі цецівы, і другая хмара паляцела ў бок нападнікаў. Яшчэ два ахоўнікі зваліліся са сваіх коней, пярэднія іудзейскія ваяры, нібы ўторкнуўшыся ў нябачную сцяну, спачатку застылі на месцы, а затым гупнулі пад ногі сваіх таварышаў. Архелай зразумеў: наступны “залп” можа стаць смяротным і для яго. А што самае страшнае — і для Бар Кохбы. Ад’ютант завярнуў свайго каня, каб загарадзіць шлях камандзіру, бо іншага спосабу спыніць яго, выратаваць жыццё Архелай не бачыў. Зрэшты, Сімон і сам зразумеў, якая небяспека яму пагражае. Трэцім разам страла ці дроцік могуць не абмінуць – ахоўнікаў, якія яго засланялі, стала ўдвая меней, і да рымскіх ліній можна проста не даскакаць. Чаго добрага, войска застанецца без камандзіра, а калі ён загіне ва ўсіх на вачах і ў самым пачатку бітвы, дык і ўвогуле гэта палічыцца нядобрым знакам. Крый божа, пачнецца паніка...

Бар Кохба рэзка спыніў каня, але, каб ягоныя ваяры не падумалі, што камандзір проста не хоча разыкаваць сваім жыццём, ён падаў сваю замінку наўмыснай — толькі для таго, каб натхніць, заклікаць войска не спыняцца, не зважаць на першыя страты. Сімон павярнуў галаву назад і ва ўсю глотку гаркнуў:

— Наперад! Мы пераможам! Бі ворагаў!

Заклік сапраўды падзейнічаў натхняльна, ваяры нават паскорылі бег, і неўзабаве ўзброеная лавіна праглынула і Бар Кохбу, і ягоных ацалелых ахоўнікаў, так што трэці “залп” не нанёс ім ніякае шкоды.

Тым часам лучнікі, зрабіўшы сваю справу, жвава шмыгнулі ў праёмы паміж маніпуламі, якія на хвіліну расступіліся, каб схаваць за спінамі лёгка ўзброеных пехацінцаў, а затым зноўку самкнулі шэрагі. І адразу ж доўгія дзіды, якія дагэтуль легіянеры трымалі вастрыямі ўверх, скіраваліся ў бок нападнікаў, прычым нават дзіды з сярэдніх шэрагаў вытыркаліся наперадзе маніпул, і такім чынам “калючая сцяна” была шматслойнаю. Прыгожыя “квадрацікі” імгненна сталі нагадваць натапыраных ваяўнічых вожыкаў.

Іудзейскія ваяры, якія беглі спераду і падштурхоўваліся тымі, хто ззаду, проста нанізваліся на гэтыя “калючкі” і каналі. Іхнія паслядоўнікі абачліва спрабавалі дацягнуцца сваімі мячамі да дрэўкаў, на якія былі насаджаны металічныя наканечнікі, каб перасекчы іх, аднак патугі былі марнымі, і паступова перад легіёнам пачаў вырастаць вал з акрываўленых, параненых і мёртвых цел. Калі ж каму-небудзь з іудзеяў усё-ткі ўдавалася перасекчы дрэўца дзіды, “абяззброены” легіянер рабіў крок назад, а на яго месца заступаў ваяр з другога шэрагу. Здавалася, гэтую калючую сцяну іудзеям не пераадолець нізавошта. Жудасныя перадсмяротныя крыкі параненых толькі дадавалі нападнікам адчаю...

Аднак жа менавіта яны, параненыя і забітыя, так бы мовіць, саслужылі для іудзейскіх ваяроў добрую службу — нават пасля смерці. Чалавечы вал рабіўся ўсё большым, нападнікі ўжо не зважалі на тое, што ім даводзіцца змагацца, стоячы на целах сваіх паплечнікаў, звысака ім было лацвей дацягвацца да дрэўкаў, і паступова калючы частакол стаў радзець. Спачатку легіянеры толькі некаторых, а затым і ўсіх маніпул змушаныя былі адкінуць свае дзіды і схапіцца за мячы-гладыусы.

Бітва набыла новыя абрысы, новы сэнс, іудзеі ўжо атрымалі магчымасць сутыкнуцца са сваімі ворагамі сам-насам, тварам у твар. Зрэшты, і гэтая акалічнасць не прынесла ім вялікага поспеху.

Баявую вывучку легіянераў, якую яны дзесяцігоддзямі штодзённа адточвалі не толькі на вучэннях, але і ў шматлікіх бітвах, ніяк не параўнаць са школьнарскімі навыкамі апалчэнцаў. Па-заліхвацку размахваючы гладыусамі налева і направа, зграбна падстаўляючы пад мячы і дзіды свае трывалыя шчыты і, што самае галоўнае, не замінаючы адзін аднаму, легіянеры літаральна гацілі нападнікаў перад сабою.

Іудзейскія ваяры, якія мелі шчыты, валодалі імі не надта ўмела. Да таго ж, шчыты былі не вельмі трывалымі, і ад моцных удараў разляталіся на трэскі.

Ваяўнічыя і балесныя крыкі, бразгат мячоў, трэск паламаных дзідаў і раструшчаных шчытоў — усё гэта злівалася ў адзіны бесперапынны, магутны рокат-гул, які ўзносіўся над лагчынаю і, напэўна, чуўся далёка-далёка — як пагрозлівая задалягладная грымота перад навальніцаю.

Легат Марк Юній, назіраючы за бітваю з невялікага ўзлобка, быў задаволены тым, як яна разгортваецца. Аддаваць нейкія дадатковыя загады ці скарыстоўваць рэзервовую першую кагорту Катула, якая стаяла напагатове за трарыямі і рвалася ў бой, пакуль што не было патрэбы.

Бар Кохба з ахоўнікамі, гэтак жа, як і рымскі легат, міжволі апынуўся ззаду свайго войска. Па-першае, коннікі толькі заміналі нападнікам, а па-другое, іудзеі, асцерагаючыся за жыццё свайго камандзіра, наўмысна адцяснялі яго назад, глыбей у натоўп — аж да тае пары, пакуль світа Бар Кохбы не адціснулася ў самы тыл.

Сімону таксама добра бачылася, што дзеецца пасярэдзіне лагчыны. І дзейства гэтае яго не радавала. Бар Кохба разумеў: калі бітва будзе гэтак працягвацца і далей, калі не ўдасца прарвацца скрозь абарончыя лініі легіёна, рымляне спакваля ператрушчаць усё ягонае войска. Трэба было прыняць нейкае вызначальнае рашэнне.

Бар Кохба скмеціў, што на правым флангзе, на краёчку лагчыны, ягоныя ваяры трохі ўкліналіся ў рымскія шэрагі, якія нават злёгку падаліся назад. Сімон не мог ведаць, што там б'юцца не рымскія легіянеры, а маніпулы саюзнікаў. Аднак жа чуццё яму падказала: у гэтым месцы ў рымлян ёсць слабіна, якою можна скарыстацца.

Каб імперыя не траціла моц, каб трымаць у пакоры правінцыі, рымляне змусіліся мець вялікую армію. І хоць воінская павіннасць для грамадзян была ўсеагульнаю (той, хто ад яе ўхіляўся, прадаваўся ў рабства), уласных легіянераў усё адно не хапала. Даводзілася заключаць дамовы з іншымі дзяржавамі, і тыя прысылалі сваіх ваяроў. Самастойна яны ніколі не ваявалі, размяркоўваліся па легіёнах, хоць і трымаліся адасоблена: мелі ўласныя маніпулы, кагорты, сцягі. Камандзіры ў іх таксама былі свае, аднак іх кантралявалі рымскія военачальнікі, якіх прызначаў консул. Нешматлікая рымская конніца дык і ўвогуле спрэс складалася з саюзнікаў.

Мелася яшчэ і дапаможнае войска. Яго набіралі з ліку насельнікаў пакораных правінцый. Зазвычай гэта была лёгкая пяхота (акурат крыцкія і нумідзійскія лучнікі скасілі першых іудзейскіх нападнікаў).

Саюзнікі былі спрактыкаванымі, мужнымі ваярамі. Аднак жа карэнным легіянерам, грамадзянам Рыма, гатовым свядома праліць кроў за імперыю, усё ж не раўня...

Менавіта там, на правым фланзе, дзе саюзнікі пачалі адступаць, Сімону бачыўся шанец змяніць неспрыяльны ход бітвы. Трэба толькі даціснуць, дабавіць імпэту. Якраз дарэчы быў бы гераічны натхняльнік, якога б бачылі ўсе і які паказаў бы прыклад іншым. А хто, як не ён, Месія, можа зрабіць гэта найлепей? Ніхто. І Бар Кохба рашуча накіраваў свайго каня ў натоўп, разразаючы яго і набліжаючыся да першых шэрагаў правага фланга. Апалчэнцы большасцю хуценька расступаліся, даючы дарогу свайму камандзіру.

Архелай, як прывязаны, трымаўся не далей чым з два-тры метры ад Бар Кохбы, гатовы ў любую хвіліну, калі спатрэбіцца, кінуцца яму на помач. Гэта толькі напачатку, у прадчуванні смяротнае спохваткі, юнака трохі калаціла, гулка тахкала сэрца, бо ўступаць у бойку са зброяй у руках яму выпала ўпершыню. А пасля, калі пачалася бязлітасная сеча, хваляванне схлынула, на змену яму прыйшоў ваяўнічы азарт. І цяпер, праціскаючыся наперад услед за камандзірам, Архелай прагнуў як мага хутчэй абкрывавіць свой меч.

Акурат на гэтым фланзе, перад схілам не надта крутое гары, змагаўся атрад Янаая. Усіх ваяроў, якія выпраўляліся напярэймы Егіпецкаму легіёну, Бар Кохба загадаў забяспечыць належнай зброяй — хай сабе часова забраць у тых, хто застаўся ў Ерусаліме. Так што янаеўцы адчувалі сябе паўнавартаснымі ваярамі: у кагосьці быў гладыус, камусьці дасталася дзіда. Атрад папоўніўся і колькасна — амаль удвая.

Янаеўцам, можна сказаць, пашэнціла, бо некаторы час ім давялося таптацца ззаду, і толькі калі першыя шэрагі палеглі ў жорсткай схватцы, яны ўступілі ў бой. Саюзнікі ўжо зняможыліся і пахіснуліся, пачалі адсоўвацца назад, таму для янаеўцаў доля не здавалася безнадзейнай. Бой паступова распадаўся на асобныя паядынкі, у якіх, вядома ж, найчасцей бралі верх ваяры з султанамі. Сам Янай паспеў ужо распаласаваць аднаго каржакаватага легіянера, які дагэтуль, спрытна падстаўляючы свой шчыт пад удары апалчэнцаў, паспяваў тыкаць гладыусам перад сабою і распорваць іхнія чэравы. Янай біў зверху ўніз, меціў у галаву, аднак меч слізгануў па шаломе легіянера і каля самае шыі ўпіўся ў аголенае месца на ягоным плячы. І хоць удар атрымаўся слізготкім, паслабленым, яго ўсё ж хапіла, каб перабіць ключыцу, якая ажно храбуснула, і Янай у наступнае імгненне пырнуў праціўніку ў пуза.

Яшчэ большы поспех меў асілак Гефен. Удары ягонага мяча былі настолькі магутнымі, што пад імі, як арэхі, раскалоліся два варожыя шчыты, а галовы іхніх уладальнікаў паляцелі з плеч, як ссечаныя качаны капусты. Ад аднаго толькі выгляду Гефена легіянеры, якім выпала змагацца насупраць, ніякавелі, ціснуліся назад, абараняючыся і не спрабуючы зрабіць напад.

На рахунку Нахума пакуль што не было перамог, яму патрапіўся не надта спрактыкаваны легіянер прыкладна такога ж целаскладу, як і сам Нахум, і яны ўжо некалькі хвілінаў ляскаліся мячамі, раз-пораз выбіваючы іскры.

Цяжэй чым каму сталася цыбатаму, перахлябістаму Ювалю. Калі размяркоўвалі зброю, яму дасталася дзіда. Здалёк яна хоць і выглядала пагрозна, аднак у бліжнім баі была, лічы, бескарыснай: ні замахнуцца, ні павярнуцца, адно толькі і застаецца — выставіўшы яе, сунуцца ўперад. Але ж далёка не прасунешся... Не дзіва, што неўзабаве нейкі легіянер выбіў дзіду з Ювалевых рук, і хлопец застаўся зусім безабаронным. Той жа легіянер зрабіў выпад гладыусам, каб распароць яму жывот, аднак Юваль паспеў выкінуць наперад рукі і схапіцца за завостраны з абодвух бакоў меч. Гэта толькі адтэрмінавала ягоную пагібель. Меч, слізгаючы ў сціснутых руках Юваля, амаль пераразаў іх пасярэдзіне далоняў, а з другога замаху легіянер уваткнуў зброю ў хударлявае цела...

Менавіта ў гэты момант Янай пачуў ззаду зычны заклік:

— Наперад!

Янай на імгненне азірнуўся і ўбачыў велічную постаць конніка, у якім адразу ж распазнаў Бар Кохбу. Гэта быў не той недасяжны пасланец Бога, якога сустракалі, шанавалі на галоўнай плошчы Бетара, не Месія, гэта быў Сімон — той, які колькі часу лічыўся лепшым ваяром ягонага атрада, непахісным, непераможным. Камандзіра пачулі, згледзелі і астатнія іудзеі, якія змагаліся ў першым шэрагу, і, узрушаныя, натхнёныя, ужо без аніякай асцярогі, нібы ўвабраўшы ў сябе новыя сілы, абрушыліся на рымлян.

Бар Кохба, апынуўшыся, нарэшце, у гушчыні бязлітаснай сечы, першымі ж ударамі свайго доўгага пляскатага мяча паваліў на зямлю траіх легіянераў. Цяпер Сімону не пагражалі ні стрэлы, ні дзіды, яму было зручна звысака размахваць мячом, а легіянеры адчайна спрабавалі і не маглі дацягнуцца гладыусамі да ягонага тулава.

Архелаю таксама ўдалося паваліць аднаго легіянера, хоць той нейкі час і спрабаваў захінуцца шчытом, выстаўляючы яго знізу ўверх. Узрушаны першаю перамогаю, малады ваяр ужо намеціў для сябе другую ахвяру, і тут ягоны позірк слізгануў у бок Бар Кохбы, які па-заліхвацку размахваў мячом налева і направа. Аднак, захоплены боем, Сімон глыбока ўклініўся ў рымскія шэрагі, і міжволі варожыя ваяры знаходзіліся ўжо не толькі спераду і з бакоў, але нават і ззаду. Акурат адзін з гэтых задніх, амаль ушчыльную падступіўшыся да Бар Кохбы, ужо намерваўся пырнуць конніку ў спіну. Сімон гэтага не бачыў. Затое скмеціў Архелай.

— Камандзір, беражыся! — крыкнуў ён, а сам усім целам ірвануўся ўбок-наперад, ледзь не зваліўшыся з каня, і паспеў-такі дацягнуцца мячом да шыі легіянера, ад якога зыходзіла пагроза.

Бар Кохба азірнуўся на перасцярожны вокліч свайго памочніка, але, уцяміўшы, што вельмі блізкая небяспека яго мінавала, толькі кінуў на Архелая ўдзячны позірк.

Іудзеі насядалі і насядалі. Фланг легіёна хоць і агрызаўся як мага, але змушаны быў паступова адсоўвацца назад, бліжэй да трарыяў...

Пагроза прарыву ворага на фланзе змусіла Марка Юнія кінуць у гэтую калатнечу свой рэзерв — кагорту Катула. Больш як паўтысячы легіянераў, мінуючы трарыяў, з ходу ўступілі ў бой. Аднак рымлянам ужо немагчыма было захоўваць маналітныя “квадрацікі”, маніпулы страцілі пэўныя абрысы, яны, як і ў іудзеяў, таксама сталі адным вялікім натоўпам, што пазбавіла іх галоўнай перавагі — зладжанасці і ўзгодненасці.

Прынамсі, напачатку рэзервовай кагорце ўсё ж удалося ўнесці пярэпалах у іудзейскую гурму. Хто-ніхто з апалчэнцаў “паказаў спіну” непрыяцелю, дый астатнія, хоць і “агрызаліся”, спрабавалі адступіць. Аднак ім гэта не

ўдавалася, бо ззаду падпіралі, рваліся ў бой натхнёныя прысутнасцю Месіі іншыя ваяры. І паступова часовая разгубленасць іудзеяў перарасла ў яшчэ большую рашучасць. Мяцежнікаў гінула нашмат болей, чым легіянераў, аднак замест тых, хто загінуў, у бой уступалі свежыя сілы.

У рымлян жа, акрамя конніцы, рэзерваў болей не было. Рэшткі саюзнікаў і кагорта Катула зноў падаліся назад, і вось ужо трарыі змусіліся пусціць у ход свае гладыусы...

У душу Марка Юнія ўпершыню закралася трывога за зыход усяе бітвы. Яшчэ колькі хвілінаў, і мяцежнікі самнуць фланг, вырвуцца на прастору, накінуцца на легіён ззаду і збоку, пачнуць калашмаціць безабаронныя абозы. Рашэнне саспела імгненна. Легат прышпорыў каня, сарваўся з месца і ўгалоп паскакаў на левы ад сябе фланг, дзе наспявала жорсткая параза. Ён ужо выкінуў з галавы думкі пра тое, што яму, камандзіру, належыць кіраваць усім войскам, што дзеля агульнай перамогі не варта рызыкаваць сваім жыццём. У душы легата прачнуўся ваяўнічы азарт, ён усвядоміў, што, як і зазвычай, павінен быць там, наперадзе свайго легіёна.

Коннік-сцяганосец першай кагорты знаходзіўся трохі ззаду ад Катула, які размахваў сваім мячом на пярэднім краі. Марк Юній наблізіўся да сцяганосца, выхапіў з ягонай рукі дрэўка і, не спыняючыся, урэзаўся ў самую гушчыню бітвы. Легіянеры, вядома ж, заўважылі свайго камандзіра, гэта надало ім імпэту, аднак сілы ўсё ж былі на сыходзе.

І тут здарылася нечаканае. Марк Юній раптам з усяго размаху шпурнуў сцяг кагорты ў скопішча мяцежнікаў, у самую яго глыбіню.

— Сцяг кагорты ў небяспецы! — прагарлаў легат і сам, разразаючы конскімі грудзьмі людскую масу са сваіх і чужых, рынуўся на выратаванне галоўнай для кожнага легіянера святыні.

Пагудка пра тое, што сцяг кагорты трапіў у варожыя рукі, пранеслася па маніпулах імгненна. І ўжо не мела значэння, па якой прычыне ён там апынуўся, бальшыня нават і не згледзела, што легат шпурнуў яго наўмысна. У рэшце рэшт, як бы там ні было, а сцяг трэба ратаваць, і справа нават не ў непазбежнай дэцымацыі — смерць легіянераў не палохала, — а ў ганебнай пляме, якая ляжа на кагорту на ўсе часы.

Катул, цалкам захоплены паядынкам з іудзейскім асілкам (а гэта быў Гефен), таксама не бачыў, якім чынам сцяг апынуўся ў варожым стане, да ягоных вушэй даляцелі толькі словы легата, а затым краёчкам вока Катул скмеціў, што барвовае палотнішча сапраўды хвалямі легла ў глыбіні іудзейскага натоўпу. Ад жудаснае явы трыбуна ахапіў жах, але адначасна закіпела кроў, раз'ятранасць запаланіла розум, і ён з лютасцю пачаў гаціць перад сабою шлях да таго месца, дзе на галовы мяцежнікаў упаў сцяг. Нават Гефен адчуў для сябе небяспеку, адступіўся ўбок, падстаўляючы свой меч пад сакрушальныя ўдары Катула.

Пагроза магчымай страты сцяга ўзрушыла і астатніх легіянераў. У іх нібы ўліліся свежыя сілы, кожны стаў змагацца з падвоенай жарсцю. І іудзеі пахіснуліся...

Дарэмна Бар Кохба заклікаў не адступаць, не шкадуючы ні свайго каня, ні сябе, лез у самае пекла бітвы, каб паказаць прыклад. Хоць і спакваля, але крок за крокам ягоныя ваяры адыходзілі назад, а разам з імі, захоплены людскою плынню, змушаны быў адсоўвацца і Сімон.

Рымляне ўжо прабіліся да свайго сцяга, авалодалі ім, аднак, дайшоўшы да шаленства, не паслаблялі, а наадварот, узмацнялі націск. Поспех першай кагорты надаў рашучасці ўсяму легіёну. Рымляне бачылі,

што фланг выгінаецца ў бок уваходу ў лагчыну, і таксама з большым імпэтам пачалі насядаць на сваіх праціўнікаў. Вольная тэрыторыя ззаду іудзейскага войска памяншалася, сціскалася, і неўзабаве яе не стала зусім. Апалчэнцы, якія знаходзіліся ззаду і на якіх, адступаючы, напіралі пярэднія, пачалі ўжо пакідаць лагчыну, запаўняць "горлычка" і, у рэшце рэшт, натыкаючыся адзін на аднаго, хлынулі на перадгорную пустэчу-раўніну.

Ад поўнага разгрому іудзеяў выратавала толькі тое, што першыя шэрагі ўсё ж не паддаліся паніцы, хоць і адступалі, але працягвалі адмахвацца мячамі, тым самым даючы магчымасць свайму ар'ергарду пакінуць лагчыну. Прынамсі, там, у ар'ергардзе, ахвяраў было нават больш, чым сярод тых, хто працягваў абараняцца: уцекачы штурхаліся, заміналі адзін аднаму, лезлі цераз галовы, а тых, хто ўпаў, проста затоптвалі...

Бар Кохбу, які зразумеў, што ўжо нічога не зможа перайначыць, падхапіла агульная плынь і таксама панесла да "горлычка".

Амаль напалову парадзелы атрад Яная, адступаючы, усё ж працягваў змагацца, прычым хутчэй ад безвыходнасці, чым ад задужай ваяўнічасці: калі павернешся спінаю да рымлян, адразу ж атрымаеш удар мячом паміж плячэй. Аднак жа для Яная было відавочна, што нікому з ягонага атрада, тым лікам і самому, ацалець не ўдасца: да выхаду з лагчыны далёка, і ўсе, хто пакуль што стрымлівае варожы націск, асуджаныя на непазбежную пагібель. А паміраць, гэтак жа, як і страціць сваіх землякоў, сярод якіх шмат радні, Янаю не хацелася.

У рэшце рэшт, наспеў момант, калі атраду і адступаць не было куды. Рымляне прыціснулі янаеўцаў да гары, і, каб наблізіцца да "горлычка", трэба было рухацца-адступаць уздоўж яе, аднак натоўп ззаду ўжо амаль спрэсаваўся...

Выйсце мелася толькі адно.

— Рабіце, як я! — гучна крыкнуў Янай, ускочыў на выступ невялікай скалы і пачаў караскацца наверх.

Ягоныя ваяры спярша разгубіліся, а потым і самі зразумелі, што гэта, мусібыць, сапраўды адзіны і апошні шанец уратавацца. Услед за сваім камандзірам янаеўцы пачалі ўскокваць на камяні-прыступкі гары, балазе ў гэтым месцы яна была не завельмі крутою, і ўзбірацца ўсё вышэй і вышэй. Ім, звыклым да горных сцежак, гэта давалася лёгка, хоць замінала зброя, якую ніхто кідаць не збіраўся.

Згледзеўшы манеўр янаеўскага атрада, караскацца на блізкія горы пачалі і іншыя іудзейскія ваяры, становішча якіх было безнадзейным. Неўзабаве ўсе горы-ўзвышшы абапал ўвахода ў цясніну нагадвалі мурашнікі — яны былі аблепленыя чалавечымі целамі, якія, чапляючыся рукамі і нагамі за выступы, упарта лезлі наверх. Не ўсе мелі належны навык, раз-пораз хтосьці зрываўся і, чапляючы сабою яшчэ двух-траіх чалавек, з адчайным крыкам ляцеў уніз...

Рымлянам з іхнімі груваснкімі даспехамі неспадручна было пераследаваць іудзеяў на гарах, дый патрэбы ў гэтым яны не адчувалі. Як з-пад зямлі каля падножжаў гор выраслі лучнікі, якія дагэтуль трымаліся ззаду легіёна, і наўздагон уцекачам паляцелі знаёмыя "хмары" вострых стрэл. "Скалалазы" пачалі ападаць на зямлю, як жнівеньскія яблыкі ў навальніцу.

Янаеўцы паспелі ўзабрацца досыць высока, і стрэлы іх ужо не дасягалі. Яшчэ з паўгадзіны яны на вачах у рымлян караскаліся да вяршыні, пакуль іхнія постаці не зніклі па другі бок гары...

Тым часам апошнія іудзеі ўжо ўціснуліся ў “горлычка”, але і там яны не маглі знайсці ратунку: легіянеры беглі за імі след у след і паласавалі мячамі іхнія спіны. Дарога ўслалася целамі...

Вырваўшыся на раўніну, іудзейскае войска не спынілася, апалчэнцы беглі далей і далей — колькі ставала сілы, хоць і тут, у перадгор’і, можна было заняць абарончыя пазіцыі, закупорыць “горлычка”, і рымляне, не маючы прасторы для манеўра, большага поспеху не дабіліся б. Цяпер жа Марк Юній аддаў загад конніцы, і яна паляцела-панеслася наўздагон, сеючы дадатковую паніку сярод уцекачоў і адсякаючы ім галовы...

Перамога рымлян была поўнаю і неаспрэчнаю. Легат Марк Юній стаяў на ўзлобку і аглядваў лагчыну. Тая яе палова, дзе толькі што месцілася іудзейскае войска, была засцеленая целамі, тым лікам і легіянерскімі. Некаторыя яшчэ варушыліся, варочаліся, а над лагчынаю стаяў жудасны, бесперапынны стогн...

— Што будзем рабіць з параненымі мяцежнікамі? — запытаўся ў легата Катул, сам увесь акрываўлены.

— А што нам застаецца? Дабіваць...

У гэтым выяўлялася не столькі жорсткасць, колькі міласэрнасць: толькі смерць магла ўвадначассе спыніць іхнія мучэнні.

Перш чым прадоўжыць рух да Ерусаліма, Марк Юній вырашыў на два дні спыніцца ў гэтай лагчыне. Лепшага месца для лагера наперадзе не знайсці, а легіёну трэба адпачыць пасля цяжкае бітвы, хоць збольшага падлячыць параненых, з ушанаваннем пахаваць забітых...

## Царства зямное і нябеснае

Пасля таго, як асноўная частка войска на чале з Бар Кохбам пакінула Ерусалім, каб паставіць заслону Егіпецкаму легіёну, адказнасць за ўсё, што дзеецца ў горадзе, міжволі пераклалася на плечы Акібы. Да яго ішлі і апалчэнцы, каб узгадніць, дзе размясціць свой часовы лагер, і мясцовыя насельнікі, якіх незнарок ці наўмысна пакрыўдзілі ўзброеныя людзі. Прыняць і выслухаць усіх Акіба, вядома, не мог. А тут яшчэ і Рашбі неяк раніцай падступіўся з важлівым, як ён лічыў, пытаннем:

— Настаўнік, што будзем рабіць з хрысціянамі? Яны ж як бяльмо на воку... Дый ладны кавалак горада займаюць. А нашым людзям не стае месца...

Адчувалася, што пасля няўдалай размовы з Іудам Рашбі затаіў глыбокую крыўду і на епіскапа, і на хрысціян увогуле. Прынамсі, душу самога Акібы даўно ўжо вярэдзілі развагі пра хрысціян. Вынішчыць усіх да аднаго? Злітавацца? Яшчэ раз паспрабаваць перацягнуць іх на свой бок?

На хвіліну задумаўшыся, Акіба, нарэшце, суха вымавіў:

— Я хачу пагаварыць з гэтым Іудам. Прывядзіце яго сюды. Толькі без гвалту!

— Як скажаш, настаўнік...

Калі ў хаціну ўваліліся чатыры ўзброеныя чалавекі, сэрца Вірсавіі затрапятала, як верабейка, дзяўчына ледзь не самлела ад страху, а ў думках прамільгнула: “Ну, вось, пачалося...” Пасля вяртання з Віфаніі, пасля жахаў, там пабачаных, яна нібы пасталела на дзесяць год, ейны тварык больш ніколі не выпраменьваў усмешак. Дзяўчына амаль бесперапынна малілася, не выходзіла з хаты без патрэбы, не асмельвалася завітаць нават

да аквядука, каб прынесці вады, — гэты абавязак цалкам лёг на Гідона. Вірсавія жыла ў трывожным чаканні нечага страшнага, і ў тыя непазбежныя хвіліны ёй хацелася быць побач з татам, які, вядома ж, абараніць не зможа, але падтрымае хоць словам.

Іуда таксама ўспрыняў узброеных людзей адрачона-напружана. У епіскапа не было сумневу, што іудзеі адпомсцяць і ўсім ягоным аднаверцам — за здраду богу Яхве, і яму асабіста — за нядаўнюю жорсткую размову з Рашбі. Яго нават дзівіла, што мінула ўжо некалькі дзён, як паўстанцы ўступілі ў горад, а іх, хрысціян, ніхто пакуль што не зачапіў...

— Ты епіскап Іуда? — гучна, хоць і без пагрозы ў голасе, запытаўся клышаногі дзяцюк з цесаком за поясам.

— Так, я... — стрымана адказаў стары.

— Пойдзеш з намі.

— Куды?

— Куды я скажу! — павысіў голас дзяцюк, які, відавочна, верхаводзіў у гэтай хеўры.

Пярэчыць не было сэнсу: не пойдзеш самахоць — пацягнуць сілком. Іуда гэта добра разумеў, таму не ўпарціўся, пакорліва апусціўшы галаву, патупаў з глыбіні хаты. Насустрач яму кінулася Вірсавія, спераду аберуч абхапіла плечы і, слёзна пазіраючы ў вочы, загаласіла-закрычала:

— Татачка, не ідзі! Не ідзі з імі, татачка! Яны цябе заб'юць!

— Не перажывай, дачушка, не трэба... Дай Бог, усё абыдзецца...

— Не абыдзецца! І я болей ніколі цябе не пабачу! — яшчэ мацней загаласіла Вірсавія, а затым нечакана павярнулася тварам да прышлых, раскінула ўшыркі рукі, засланіўшы імі бацьку, і рашуча выгукнула:

— Не аддам! Альбо забірайце і мяне!

— Не дуры, дзеўка! — гыркнуў клышаногі дзяцюк. — Наконт цябе я загаду не маю. Так што адыдзі, — і ён дужаю рукою адхіліў Вірсавію ўбок.

Пакуль працэсія, а дакладней сказаць — канвой (дзяцюк спераду, а тры ягоныя паплечнікі ззаду Іуды) рухалася па вулцы, Вірсавія, галосячы, валаклася следам. Сцішаны плач чуўся і з-за агароджы ўсіх падворкаў. Людзі павыскоквалі з хат, аднак на вулку, каб адбіць свайго епіскапа, выбірацца не асмельваліся і толькі з жахам і спагадаю пазіралі ўслед. Кожны ўсведамляў: гэта толькі пачатак, усіх іх чакае бязлітасны лёс...

Калі ўжо канвой наблізіўся да мяжы хрысціянскага паселішча, да Вірсавіі, валюхаючыся, як качка, падбегла паўнацелая, адрузлая жанчына і схапіла яе за руку.

— Не ідзі за імі, дзетка, не варта...

І Вірсавія, конча страціўшы волю, яе паслухалася...

Пінхас (а менавіта галоўнаму ахоўніку Акібы было даручана прывесці хрысціянскага епіскапа ў вежу Фазаеля) далажыў пра выкананае заданне найперш рабі Рашбі, які, уласна кажучы, ахоўніка і азадачваў.

— Добра, — сказаў Рашбі. — Вядзі яго сюды, а сам пакуль што можаш быць вольным. Калі спатрэбішся — паклічу.

Пінхас знік за дзвярыма і праз хвіліну падштурхнуў у пакой Іуду. Гэта было акурат тое памяшканне, дзе зусім нядаўна прапрэтар Ціней Руф прымусіў чакаць легата Гнея і ягоных трыбунаў, перш чым выйсці ім насустрач.

— Каго я бачу? — з відавочным здзекам усклікнуў Рашбі. — Сам епіскап да нас завітаў! Рады, рады сустрэцца зноў!

Іуда зацята маўчаў.

Зларадная ўхмылка імгненна зляцела з твару рабіна, ён перакасіўся ад лютай нянавісці.

— Як бачыш, мы занялі Ерусалім і без вашай помачы! Што ты на гэта скажаш? І як нам цяпер з вамі, здраднікамі, абыходзіцца?

— Можа, ты думаеш, што я кінуся табе ў ногі і буду прасіць літасці? — нарэшце загаманіў Іуда без аніякай боязі, бо ўжо разлічваў на самае горшае. — Не дачакаешся! А што да вашага нашэсця ў Ерусалім, дык не надта радуйся. Рымляне яшчэ пра сябе нагадаюць...

— Як ты сказаў? Нашэсця? — Рашбі быў гатовы схапіць епіскапа за глотку. — Ды мы ў свой дом вярнуліся! Спрадвечны, родны дом! Тут ляжаць у зямлі косткі нашых продкаў, тут нашыя святыні!

Іуда не захацеў працягваць перабранку, бо не бачыў у ёй ніякай карысці. Відавочна, што сюды яго прывялі зусім не для таго, каб лішні раз "пагрызціся" ці давесці сваю праўду. Рашбі таксама сышоў з крыку, адно што скрозь зубы выціснуў:

— Была б мая воля, я б усіх вас, здраднікаў, у першы ж дзень пад корань пусціў...

— А чыя ж воля вырашае? — не стрымаўся, іранічна запытаўся Іуда.

— Вось гэтага чалавека ты зараз і пабачыш...

Нічога болей не сказаўшы, Рашбі расчыніў дзверы ў суседняе памяшканне.

Яно было, як здалося Іуду, да непатрэбства прасторным, можа, таму, што тут амаль не было ніякай мэблі, толькі стол, умураваны ў сцяну, ды некалькі крэслаў, — усё, што пакінуў пасля сябе Ціней Руф. У дальнім куце памяшкання, прытуліўшыся да сцяны і абапіраючыся адною рукою на спінку крэсла, стаяў прыгорблены стары чалавек, які ў гэтай ненатуральнай прасторы здаваўся казачна маленькім, нават мізэрным, таму Іуда не адразу яго і заўважыў. Не трэ было мець вялікага розуму, каб здагадацца, што гэта і ёсць той самы легендарны Акіба.

Увогуле памяшканне аблюбаваў для сябе Бар Кохба, але пакуль ён адсутнічаў, Акіба вырашыў сустрэцца з хрысціянскім епіскапам менавіта тут, каб паказаць яму, якую велічную пабудову ўзвялі іхнія агульныя продкі і што пакінулі пасля сябе рымскія заваёўнікі.

Акіба адарваў сваё цела ад сцяны, шаркаючы па мармуровай падлозе наблізіўся да Іуды і Рашбі, якія ўсё яшчэ стаялі з прыходу, спыніўся за два крокі ад епіскапа і, не павітаўшыся, якую хвіліну пільна пазіраў яму ў вочы.

— Дык вось ты які... — нарэшце мовіў галоўны рабін, і немагчыма было зразумець, які сэнс маюць гэтыя словы — пагардлівы ці паважлівы. — Ну то прысядзьма, мы з табою людзі ўжо немаладыя...

Акіба і Іуда хоць і чулі адзін пра аднаго, аднак дагэтуль ім ніколі не выпадала сустрэцца. Адно што духоўныя ворагі, а другое — пасля папярэдняга іудзейскага паўстання Акіба ніколі не наведваў Ерусалім, бо гэта было проста небяспечна.

— Ты, мусіць, думаеш, якога ляду цябе сюды прывялі, — нетаропка, разважліва пачаў размову галоўны рабін, калі яны ўселіся насупраць адзін аднаго — крэслы зараней і наўмысна былі пастаўлены такім чынам. — Ды проста захацеў я, так мовіць, з першых вуснаў пачуць што-кольвеч пра хрысціянства, якім мёдам памазана вашая вера, калі ў яе столькі прыхільнікаў...

— Мне здаецца, такі мудры чалавек, як ты, Акіба, пра нашую веру мае не меншы досвед, чым я, — адказаў Іуда. — І наўрад мне ўдасца твае веды папоўніць.

— Ты памыляешся. Для вас, адшчапенцаў, было б вялікім гонарам, калі б я тлуміў сваю старэчую галаву вашаю лухтою...

Акіба, вядома ж, крывадушнічаў. Ён проста хацеў прынізіць хрысціянскага епіскапа, пазначыўшы, што ягоная вера не такая ўжо самавітая, каб яе вывучаць.

— А ты ж, мусіць, падумаў, што сюды цябе прывялі, каб паздзекавацца ды забіць каменнем, — з насмешкаю працягваў Акіба. — Няйнакш, меркаваў, што мы вырашылі адпомсціць за тое непаслушэнства, якое ты выказаў пры размове з маім найлепшым вучнем, — Акіба кіўнуў галавою ў бок Рашбі, які пранізліва свідраваў вачыма Іуду, але ў гутарку не ўступаў. — Так ці не?

— Я і зараз гэтак думаю.

— Ну, адпомсціць мы заўсёды паспеем — як табе, так і твайму хрысціянскаму кагалу. Час у нас ёсць... Але найперад хочацца паслухаць, што ж змусіла некаторых яўрэяў здрадзіць нашаму адзінаму Богу, зганьбіць мудрую Тору. Вы ігнаруеце абразанне, для вас субота — звычайны дзень, а посныя дні з панядзелка і чацвярга вы перанеслі на сераду і пятніцу... І на Храм вы, хоць і яўрэі, не выплочваеце дзесяціну. Да таго ж, не лічыце сваім абавязкам хоць раз у жыцці наведаць Ерусалім, каб прынесці ахвяру Яхве...

— Мы не зганьбілі Тору! — перабіў рабіна Іуда. — Мы яе прызнаём, паважаем і нават называем Старым Запаветам.

— Вось-вось, старым. А сабе чамусьці прыдумалі новы. Сказана ж у Торы, што ў ёй нічога немагчыма змяніць, бо слова тое атрымана ад Бога. Каментаваць? Калі ласка! А перайначваць — ні ў якім разе!

— Яўрэі — сапраўды абраны Богам народ, і Ён даў нам Тору, каб мы ўсвядомілі гэтую абранасць, але не ганарыліся ёю, не выказвалі сваю пагарду да іншых народаў і плямёнаў, а неслі ім святое Слова. Прайшоў час, і Бог даў нам новае Слова, якое даручыў данесці да людзей Сыну свайму Ісусу Хрысту. Заўваж, Акіба: Ён таксама з'явіўся ў нашым яўрэйскім асяродку. Гэтым самым Бог пазначыў, што Ён не адвярнуўся ад нашага народа, Ён па-ранейшаму ўскладвае на яго вызначальную місію — данесці да ўсіх людзей на зямлі Ягонае Слова, ужо новае Слова, бо час не стаіць на месцы, і Бог наканоўвае сваё Адкрыццё не толькі для яўрэяў, але і для астатніх народаў. Тору і вучэнне Хрыста я параўнаў бы з Месяцам і Сонцам. Ніхто не будзе спрачацца, што ад Месяца зыходзіць святло, але Месяц толькі адпраменьвае яго ад Сонца. Дык навошта нам гэтае адпраменьванне, гэтае бляклае святло, калі ёсць магчымасць атрымліваць яго ад Сонца? Таму для нас, хрысціян, галоўная пуцяводная зорка — вучэнне Ісуса Хрыста, якое дадзенае людзям, каб уцешыць тых, хто пакутуе, закрануць духоўныя струны, паставіць набожнасць чалавека ў суадносінах з Бацькам нябесным. У рэшце рэшт, Бог цераз Маісея перадаў яўрэям Закон толькі для таго, каб падрыхтаваць нас да прышэсця Хрыста. І як толькі гэта адбылося, Закон выканаў сваю ролю, ягонае вырашальнае значэнне страцілася. Таму і абразанне, і субота — гэта ўжо не сімвалы сувязі-повязі яўрэяў з Богам, бо з'явіліся новыя сімвалы, і цяпер запаведзі трэба выконваць не таму, што яны наканаваныя Законам, а таму, што гэтага жадае дух Хрыста. Інакш кажучы, меркаю любога маральнага ўчынка чалавека варта лічыць не знешнюю норму ці правіла, а ўнутраны голас сумлення...

Іуда зрабіў кароткі перадых, скаўтнуў сліну ў перасохлым роце і дадаў:

— Што ж тычыцца “дзесяціны” на Храм, дык мы сапраўды не збіраемся яе аддаваць, бо аднаўленне Храма супярэчыць усяму таму, пра што я хвіліну назад сказаў. Дый ахвяраванне пасля прышэсця Хрыста страціла свой сэнс, бо, пакінуўшы аблічча Бога, Хрыстос стаў просталюдзінам і ахвяраваў сабою, каб уласнаю смерцю заслужыць выратаванне ўсім людзям. Так што ахвяра ўжо прынесеная, і яе досыць.

— Дык, па-вашаму, Хрыстос — Месія толькі таму, што яго распнулі на Галгофе? — з іроніяй удакладніў Акіба.

— Вы, прававерныя іудзеі, чакаеце Месію, які ўсталюе “царства міру” тут, на зямлі, і прынясе даброты і зямныя радасці. Мы ж лічым, што менавіта плоцкае ў чалавеку прынесла ў гэты свет грэх. Дзякуючы ахвяры Хрыстовай людзі павінны зразумець, што яны таксама могуць дасягнуць Богападобнага існавання, але толькі пасля таго, як пазбавяцца ад плоці і з’яднаюцца з нябеснай матэрыяй, з якой і складаецца дух. Прычым давесці да людзей гэтае адкрыццё мог толькі той, хто не мае грахоў — менавіта Іісус.

— Пра які дух ты гаворыш? — раздражнёна мовіў Акіба. — У Кнізе Іова і ў Псалтыры сказана, што ўсе людзі накіроўваюцца ў пекла. Той, хто памрэ, ужо ніколі не будзе мець зносін з Усявышнім. Бог — толькі для жывых.

— У такім разе прыгадайма Кнігу прарока Данііла. Што там напісана? “Многія з тых, хто спіць у праху зямлі, абудзяцца, адны для жыцця вечнага, другія на вечную ганьбу і пасаромленне”. Як бачыш, і паважаны прарок лічыў, што са смерцю чалавека не ўсё для яго сканчаецца. Аказваецца, для некаторых яшчэ ёсць шанец “паўстаць з праху”. “Разумныя будуць ззяць, як свяцілы на зямлі... навекі, назаўжды”. Нездарма Данііл гэтак выказаўся! А то ж вам, прававерным іудзеям, было б крыўдна: чакаў-чакаў чалавек прыходу Месіі — і не дачакаўся, закапалі яго ў зямлю, так і не зведаў, бедны, усяго таго шчасця, якое прынясе з сабою Месія. А таму, хто народзіцца пазней, мусіць жа, пашанцуе — дачакаецца ён прышэсця і спазнае “царства міру”. Ці ж гэта справядліва? Вядома ж, не! Дык няхай жа, паводле Данііла, найбольш дабрадзейныя вернікі ўваскрэснуць у старых целах і атрымаюць кавалак свайго шчасця...

— І што ж табе не падабаецца ў гэтым прароцтве? Мы даем кожнаму чалавеку надзею на тое, што ягонае жыццё можа аднавіцца — трэба толькі пільна прытрымлівацца Закона. А што абяцаеце людзям вы?

— Уваскрашэнне плоці — нейкае непаразуменне, і яго ніколі не будзе. Плоць для чалавека – рэч часовая, яна ўвогуле не належыць да існасці чалавека, як не мае дачынення і да існасці іншых тварэнняў Бога. “Тыя, што жывуць паводле плоці, Богу дагадзіць не могуць”, — вось мудрая думка нашага прапаведніка Паўла. У рэшце рэшт, Хрыстос і прыходзіў, каб выратаваць нас ад грахоў, а не пазбавіць ад зямных нястач і бед. Ён і сказаў жа сваім вучням: “Маё царства не ад свету гэтага...” Толькі антыхрыст паспрабуе стварыць “царства божае” на зямлі...

— Вось як? Прынамсі, мы ж вашага Хрыста не прызнаём, марым пра зямныя радасці, дык, выходзіць, і ёсць тыя самыя прыхільнікі антыхрыста... Што праўда, то праўда: мы ўхваляем усіх, хто блоціць вашага Хрыста, супярэчыць ягонаму вучэнню. Шкада толькі, што рымляне ставяцца да яго паблажліва... Аднак жа вернемся да “плоці”: вы, хрысціяне, не адмаўляеце ж Страшны Суд...

— Не адмаўляем. Вось толькі Гасподзь будзе судзіць не целы, а душы. Ты пытаешся, што мы абяцаем людзям пасля смерці? Не, не плоцкае існаванне. Яго не будзе. Сапраўдная існасць кожнага чалавека — ягоная душа, і яна неўміручая, бо з'яўляецца часцінкаю самога Бога.

— "Царства зямнога", як ты кажаш, не будзе... А як жа тады патрапіць у наканаванае вамі — "нябеснае"? Як атрымаць туды "пропуск"?

— Я табе зноўку працытую нашага апостала Паўла: "Калі мы злучаныя з Ім падабенствам смерці Ягонай, дык павінны быць злучанымі і падабенствам уваскрашэння... Калі ж мы памерлі з Хрыстом, дык верым, што і жыць будзем з Ім..." Кожны вернік — абраннік Божай ласкі. І кожны вернік, як прадвызначана Госпадам, мае шанец для выратавання. А той, хто не пранікся вераю, пазбаўлены магчымасці далучыцца да вечнасці. Адвяргаючы Хрыста, вы, прававерныя іудзеі, адвяргаеце магчымасць пазбавіцца ад граху і пазбегнуць тлену. Усе, хто лічыць сябе паслядоўнікам Хрыста, павінны непахісна ісці Ягоным шляхам, выконваць волю Бога...

— Дык мы ж акурат і выконваем волю Бога — шануем Закон.

— "Справамі Закона не апраўдаецца перад Ім ніякая плоць, бо Законам спазнаецца грэх", — гэта зноў жа Павел. Жыццё па Закону, па запаведзях пацвярджае толькі тое, што чалавек саманадзейна спадзяецца выратавацца ўласнымі сіламі, цешыць сябе думкамі, што ён абраны. Але толькі Бог гэта вырашае... Няма іншага шляху да выратавання, акрамя веры ў Хрыста, бо ўсе мы саграшылі і пазбавіліся славы Божай і ўсе атрымліваем "апраўданне задарма, па дабрадаці Ягонай, збавеннем у Хрысце Іісусе цераз веру". Так што ні ты, Акіба, ні твой найлепшы вучань царства нябеснага не пабачыце, хоць вы і прытрымліваецеся Закона больш як хто...

— Ну, дзякуй табе, "узрадаваў"... — ледзь не зарагатаў Акіба, а ўслед за ім усміхнуўся і Рашбі. — Выходзіць, для таго, каб выратавацца, дастаткова аднае веры ў вашага Хрыста? Маральнасцю можна грэбаваць?

— Я такое не казаў. Аднак маральнасць дзейсная толькі тады, калі абапіраецца на веру, калі чалавек усведамляе, што ён залежыць ад Божай дабрадаці, разумее, што ён не можа выратавацца ўласнымі высілкамі. Мала карысці з таго, што вы, прававерныя іудзеі, прытрымліваецеся Закона, выконваеце запаведзі. Не забіваць, не красці, не чужаложнічаць — усё гэта толькі знешнія праявы маральнасці. А ў душы часам такая гніль, што аж жудасна... Выратаванне можна знайсці толькі ўнутры сябе, у сваёй душы, бо менавіта там, а не "на небе" знаходзіцца Хрыстос. І калі для вас, іудзеяў, на першым месцы Закон і запаведзі, дык для нас, хрысціян, — любоў, бо гэта і ёсць Бог.

— Наконт нас, іудзеяў, вашая пазіцыя зразумелая: у "нябеснае царства" нам не патрапіць ніяк... А што будзе з іншымі людзьмі і народамі, якія не ўспрынялі вашую веру? Куды патрапяць усе астатнія эліны, тыя ж язычнікі-рымляне? Адразу ў пекла?

— Для таго мы і прапаведуем вучэнне Хрыстова, каб данесці яго да кожнага чалавека. Гэта вы, іудзеі, замкнуліся ў сваім асяродку, быццам бы Бог існуе толькі для вас.

— А ці не супярэчыш ты самому сабе? Вунь жа той самы Павел, а дакладней сказаць — Саўл, пра якога ты згадваў, у свой час праліў нямала хрысціянскай крыві... Дый не менш знакаміты ваш апостал Пётар грэбаваў снедаць з элінамі, хоць яны і прынялі вашую веру...

— Гэта было толькі напачатку. Усе мы грэшныя. Важна ўсвядоміць свой

грэх і пакаяцца. Нездарма Іісус паабяцаў злодзею і рабаўніку, якога распіналі побач з Ім, што ён першым увойдзе ў Царства Нябеснае... Пройдзе час, і вучэнне Хрыста запануе паўсюль, бо для нас, хрысціян, усе народы роўныя. Ізраіль таксама ўспрыме Хрыста як сапраўднага Збаўцу, хіба, можа, пазней за ўсіх, бо вы, паклоннікі Яхве, будзеце гэтаму працівіцца як мага...

— Не дачакаецеся! Гэтага не будзе ніколі! Чуеш? Ніколі! — з вачэй Акібы пырснула нянавісць, ён, абапёршыся на падлакоцці крэсла, надзвычай жвава для свайго ўзросту падняўся, тым самым даючы пазнаку, што размаўляць з епіскапам болей не жадае.

Іуда таксама быў змушаны ўстаць.

Увогуле Акіба разлічваў, што іхняя размова зацягнецца на гадзіны дзве — не меней. Ён не спадзяваўся пачуць ад хрысціянскага епіскапа нешта новае пра сутнасць ягонае рэлігіі, бо ўжо даўно дасканала вывучыў дагматыку хрысціянства: ідэі ворага, ды яшчэ такога небяспечнага, варта ведаць не горш, чым свае. Пры гэтым Акіба не меў на мэце пераканаць ці абвергнуць епіскапа, хоць у яго было што сказаць, каб развеяць у пыл усю гэтую "хрысціянскую бязглуздзіцу". Загадаўшы прывесці Іуду, Акіба толькі і хацеў — пабачыць-паслухаць ледзь не галоўнага носьбіта гэтых ідэй, каб зразумець, што за людзі стаяць на чале хрысціянскага руху, які з кожным годам набірае моц. Недзе ў глыбіні душы ён таіў надзею, што хрысціянскія верхаводы — не больш як фанатыкі, не дужа абцяжараныя мудрасцю і манументальнымі ведамі. Вунь жа і іхнія так званыя апосталы, якія аціраліся вакол Хрыста, былі звычайнымі рыбакамі... Аднак, чым болей доўжылася размова з Іудам, тым выразней Акіба ўсведамляў, што хрысціянскі епіскап, бадай, роўня яму самому. І гэта раз'ятрыла галоўнага рабіна, ён нават пашкадаваў, што наладзіў гэтую сустрэчу.

— Хай яго завядуць туды, адкуль забралі, — стрымана сказаў Акіба, звяртаючыся да Рашбі і не зважаючы на Іуду, быццам яго ўвогуле тут не было. — Дабірацьмецца адзін, дык яшчэ хто-небудзь прыб'е...

Рашбі высунуў галаву за дзверы, гукнуў Пінхаса. Іуда моўчкі павярнуўся і паклыпаў да выхаду. Ён нават не развітаўся, не сказаў "да сустрэчы", бо разумеў, што сустрэцца з Акібам яму ўжо ніколі не выпадзе...

— Ну, што я табе казаў, настаўнік, — мовіў Рашбі, застаўшыся з Акібам сам-насам. — Ці ж не погань? Не варта з імі, хрысціянамі, валаводзіцца. Толькі загадай — не будзе ім месца ў Ерусаліме, усіх да аднаго ўслед за іхнім Хрыстом накіруем...

Акіба адказаў не адразу.

— Услед за іхнім Хрыстом, кажаш? Ды мы ім толькі паслугу зробім. Сам жа чуў: жыццё для іх — нішто, яны ў "нябеснае царства" хочуць патрапіць. А калі смерць атрымаецца пакутнаю, за веру, дык туды, як яны лічаць, дарога напрамкі... Не, давай пачакаем, нам спяшацца няма куды. Можа, прыдумаецца што-небудзь іншае...

## Рэванш

Хоць перамога над мяцежнікамі была безумоўнаю, але ж і XXII легіён панёс немалыя страты: толькі забітымі — 426 чалавек. А параненых — цяжка і не вельмі — удвая болей. Асабліва парадзелі шэрагі саюзнікаў ды маніпула Катула, на долю якіх выпала самая лютая сеча.

Забітых пахавалі тут жа, у лагчыне, параненых накіравалі ў абоз. Цяпер ён быў адзін, агульны, бо так лацвей яго ахоўваць падчас руху, дый пры

магчымай наступнай сутычцы з непрыяцелем шматлікія дробныя абозы будуць замінаць маніпулам.

Прынамсі, Марк Юній меркаваў, што Бар Кохба не асмеліцца на яшчэ адну бітву і астатні шлях да Ерусаліма легіён адужае без перашкод. Вельмі ўжо шмат вояроў страцілі іудзеі, каб у Бар Кохбы яшчэ раз з'явілася ахвота падужацца са спрактыкаваным, прафесійным войскам. У лагчыне і за яе межамі валялася больш за шэсць тысяч трупаў — ледзь не чвэрць іудзейскага войска. Праўда, большасцю мяцежнікі сканалі пасля бітвы, калі іх, параненых і затаптаных сваімі ж паплечнікамі, дабівалі легіянеры...

Напярэдадні, перш чым выступіць з лагчыны, Марк Юній загадаў спекулаторасам праскакаць як мага далей, каб лішні раз упэўніцца, што мяцежнікі сапраўды далі кончага драпака. І праўда: на адлегласці, якую легіён і за дзень не зможа адолець, разведчыкам не трапілася ніводнае душы.

Спёка не спадала. Легіянерам неўспадоб было пакідаць наседжанае месца, выбірацца на бясконцую пустэчу, дзе ад узнятага імі ж самімі пылу, падобнага на куродым, дыхалася неймаверна цяжка. Але ж у лагчыне нельга было заставацца хоць бы з-за таго, што незакапаныя трупы іудзеяў пачалі гнісці, у паветры стаяў густы смурод, крый божа, нахлыне якая зараза...

Легіён рухаўся марудней, чым звычайна: параненых давялося пакласці на павозкі, а рэчы, знятыя з іх, легіянеры змушаныя былі валачыць на сабе, хоць і дагэтуль яны нагадвалі наўючаных мулаў...

Да канца дня, калі сонца напалову схавалася за акаёмам, рымляне конча знясілелі. Аднак належнага месца, дзе можна было б разбіць лагер, вочы не знаходзілі. Паўсюль роўнядзь, пустэча і, што самае непрыемнае, нідзе навокал ніводнае ручаіны ці калодзежа. Спекулаторасы далажылі, што наперадзе пейзаж трохі інакшы: дзе-нідзе трапляюцца досыць ладныя ўзвышшы, дый зямля месцамі аздобленая зяленівам. Аднак датуль — добрая гадзіна хады.

Легат палічыў, што лепей трохі перацярпець, адужаўшы пэўны кавалак шляху, чым цэлую ноч пакутаваць у гэтым пекле-пустэчы.

Сіл у легіёна хапіла, каб пераадолець толькі першае ўзвышша. Далей, падобна, можна было знайсці больш спрыяльнае месца для лагера, але і людзі, і жывёла літаральна валіліся з ног.

Марк Юній змушаны быў спыніць легіён і даў каманду ладкаваць лагер на ўсходнім схіле, абапал дарогі. Адсюль, з вышыні, бачылася далёка наперад, і мяцежнікі, калі ім уздумаецца, знянацку легіён не заспеюць. Прынамсі, небяспекі легат не адчуваў: іудзеі, няйнакш, ужо дабеглі да самага Ерусаліма ці, можа, нават і далей.

Атрымаўшы загад на прывал, рымляне забегалі-замітусіліся, але ў тым не было ніякага хаосу, кожны цэнтурыён дакладна ведаў, дзе належыць размясціць сваю маніпулу[1], кожны легіянер меў досвед, куды ўвагнаць свой кол ці ўваткнуць рыдлёўку, бо месцы для падраздзяленняў адразу ж былі пазначаныя дзідамі і каляровымі сцяжкамі.

Праз гадзіну лагер набыў звыклыя абрысы. Не надта ўражваў хіба толькі земляны вал вакол яго: сыпучы пясок распаўзаўся, рассоўваўся ва ўсе бакі.

Палатка Марка Юнія ўзвысілася пасярэдзіне лагера, непадалёку ад абоза. Перш чым напаўзла цемра, легат абышоў каравулы — яны былі

[1] Асобнага камандзіра ў маніпуле не было. Яе ўзначальваў адзін з двух цэнтурыёнаў.

расстаўлены як унутры лагера, так і звонку. Іх належала памяняць чатыры разы за ноч. Узмоцнены атрад лёгкай пяхоты нёс варту з боку Ерусаліма. Легат хоць і не чакаў ніякага нападу, але гэтага вымагаў парадак, які складваўся вякамі. Ззаду легіёна дазоры выставіліся амаль сімвалічныя, бо, палічыў Марк, у іх няма ніякай патрэбы, а людзям не зашкодзіць адпачыць лішнюю гадзіну...

І ў страшным сне Бар Кохба не мог уявіць той катастрофы, якая напаткала ягонае войска. Прычым найбольш уразіла Сімона не сама бітва (у ёй іудзеі паказалі сябе якраз няблага), а трагічныя наступствы, калі войска кінулася панічна бегчы, упадобіўшыся звар'яцелай чарадзе авечак. І колькі ні спрабаваў Бар Кохба спыніць ашалелы натоўп, колькі ні заклікаў сваіх ваяроў зноўку павярнуцца тварамі да ворагаў, нічога не атрымалася. Сімона і самога, мусіць жа, затапталі б, раструшчылі б, калі б ён не сядзеў на кані, які ў спрэсаванай гурме вынес яго цераз "горлычка" ў перадгор'е. Тут Бар Кохба зрабіў яшчэ адну спробу затрымаць уцекачоў, бо менавіта на выхадзе з лагчыны яшчэ меўся шанец паставіць заслону рымлянам, пазбавіўшы іх манеўра. Але дзе там... Уцекачы, не зважаючы на двух коннікаў (Архелай увесь час трымаўся побач з камандзірам), не згадваючы, што дарогу ім заступае сам Месія, якога яны колькі дзён таму лічылі амаль роўным Богу, абміналі іх і беглі далей. Некаторыя нават кідалі зброю.

У рэшце рэшт, і Бар Кохбу, і Архелаю самім давялося ратавацца, бо з "горлычка" пачала выплёсквацца ў перадгор'е рымская конніца...

Дзякаваць богу, рымляне нядоўга пераследавалі ўцекачоў — яны ўжо і так удосталь "напіліся варожай крыві". Аднак іудзеі беглі і беглі — хто ўздоўж дарогі, хто ў розныя бакі ад яе, — пакуль ставала сіл, і, толькі конча зняможыўшыся, нібы ссечаныя алівы, гулка падалі на ссохлую зямлю...

Прайшло яшчэ амаль паўдня, пакуль пашкамутанае іудзейскае войска, рассеянае па ўсёй пустэчы, пачало сцягвацца ў адно месца — туды, дзе спыніўся сам Бар Кохба. Людзі падыходзілі ці невялікімі натоўпамі, ці па аднаму, і, што найболей засмучала і абурала Сімона, хто-ніхто ўжо не меў зброі. У іншы час Бар Кохба загадаў бы сурова пакараць тых, хто, ратуючы сваё жыццё, кінуў меч ці дзіду, магчыма, кара была б нават смяротнаю, аднак жа цяпер, калі войска і так панесла вялікія страты, "дэцымацыя па-іудзейску" выглядала б недарэчна.

Адно толькі і сказаў камандзір пасля таго, як людзі ў рэшце рэшт скучкаваліся па атрадах і хоць збольшага войска набыло акрэсленыя абрысы:

— Ганьба нам усім за тое, што панічна пакінулі поле бітвы! А яшчэ большая ганьба тым, хто страціў ці наўмысна выкінуў сваю зброю! Толькі крывёю можна змыць гэтую ганьбу! І я дам вам шанец зрабіць гэта! Бітва з рымлянамі яшчэ не скончаная! Вы яшчэ мецьмеце магчымасць абараніць свой гонар! Але змагацца вам ужо давядзецца голымі рукамі, пакуль не ўдасца адабраць зброю ў ворага!

Словы камандзіра ўзбадзёрылі абяззброеных ваяк, якія адчувалі сябе пабітымі сабакамі і ўжо рыхтаваліся да самага горшага. Адусюль панесліся крыкі:

— Мы здабудзем зброю ў баі!

— Змыем ганьбу крывёю!

Са значна парадзелага атрада Яная гэткіх крыкаў акурат і не чулася: ніхто не выкінуў свой меч, хоць ён і замінаў борздка караскацца ўверх.

Янаеўцы ўвогуле, спусціўшыся з вяршыні на супрацьлеглым баку гары, зладжана, без мітусні рухаліся ўздоўж дарогі, пакуль наперадзе не згледзелі асноўныя сілы.

Абвесціўшы войску, што "бітва яшчэ не скончылася", Бар Кохба не толькі хацеў падбадзёрыць сваіх знявераных апалчэнцаў, хоць і ў самога на душы было пагана. Ён ужо вельмі пашкадаваў, што недааценіў рымлян, быў гэткім самаўпэўненым і нават дапусціў святатацтва, заклікаючы Бога толькі не падсабляць ворагу і не просячы ў Яго помачы. Сімон спадзяваўся, што гэтыя ягоныя словы ніхто не пачуў, нават блізкае атачэнне, інакш усе палічылі б, што менавіта з-за іх атрымалася такая жорсткая параза. Цяпер ужо Бар Кохба ў душы апантана прасіў Бога, каб Ён паспрыяў іудзеям у наступнай бітве і падарыў ім перамогу.

А перамога была патрэбная Бар Кохбу да зарэзу, бо пад пагрозаю знаходзілася і ягонае месіянства, і зыход паўстання ўвогуле. І то праўда: чаго вартае іудзейскае войска, калі яно не змагло адужаць усяго адзін рымскі легіён...

Можна было б паслаць ганца ў Ерусалім, загадаць, каб і астатнія апалчэнцы, што засталіся там, рушылі на падмогу, папоўнілі парадзелыя шэрагі, аднак гэта сталася б канчым прызнаннем паразы, і Акіба, без сумневу, вельмі пашкадаваў бы, што даверыў Сімону ўзначаліць паўстанне. Да таго ж, яшчэ немаведама, якое становішча ў самім Ерусаліме, магчыма, ягоныя абаронцы ўжо ўступілі ў схватку з Сірыйскім легіёнам, і ім самім патрабуецца дапамога.

Не, разлічваць на падмацаванне Бар Кохбу не выпадала ніяк. Належала адолець Егіпецкі легіён тымі рэшткамі ваяроў, якія ацалелі пасля бітвы ў лагчыне. Прынамсі, а чаму рэшткі? Іудзейскае войска па колькасці ўсё яшчэ значна пераўзыходзіла легіён — амаль утрая. Для перамогі гэтага ўдостатку. Не варта толькі кідацца ў лабавую сутычку, рызыкуючы паўтарыць памылку, трэба прыдумаць нешта іншае...

Бар Кохба аддаў загад, каб войска выстраілася на дарозе ў адну калону.

— Менавіта ў калону! — паўтарыў Сімон камандзірам атрадаў, якіх папярэдне сабраў вакол сябе. — Ні ў якім разе нельга збочваць з дарогі! Ніводнаму чалавеку! Жорстка гэта кантралюйце!

Бар Кохба не патлумачыў, для чаго патрэбнае такое абмежаванне, а самі камандзіры не здагадваліся. Насамрэч жа Сімон трымаў у галаве дзве мэты. Па-першае, зладжаны, арганізаваны рух дапаможа ваярам усвядоміць маналітнасць усяго войска, адчуць ягоную сілу. Па-другое, пры хаатычным, бязладным руху ў натоўпе, прычым не толькі па дарозе, але і па ўзбочынах, застануцца выяўныя сляды, па якіх рымляне змогуць адсочваць шлях іудзейскага войска. Гэтага Бар Кохбу акурат і не хацелася. Ён увогуле палічыў бы за лепшае, каб ягоная армія часова правалілася скрозь зямлю і рымляне ніяк не маглі б даўмецць, куды яна падзелася.

Прынамсі, усе ваяры, асабліва камандзіры, вельмі здзівіліся, калі па загадзе Бар Кохбы калона зрушылася не ў накірунку Егіпецкага легіёна, а ў бок Ерусаліма. Напаўголасу іудзеі выказвалі расчараванне:

— Выходзіць, усё-такі змушаны адступаць...

— Мусіць, не верыць наш камандзір у перамогу...

— Самі вінаватыя. Такога драпака далі...

Недзе праз дзве гадзіны руху Бар Кохба, які ехаў наперадзе, раптам завярнуў свайго каня на ўзбочыну і даў знак, каб калона рухалася ўслед за ім.

— Архелай! — паклікаў Сімон свайго памочніка. — Праскачы ўздоўж калоны, дай абвестку, каб усе захоўвалі строй. Ісці толькі ў калоне — след у след! Нікому не збочваць!

Затым падазваў да сябе Яная, атрад якога знаходзіўся ў галаве калоны (Бар Кохба асабіста і з нейкім пэўным намерам вызначыў для янаеўцаў гэтае месца), і коратка патлумачыў свайму былому камандзіру, для чаго атраду трэба адысці трохі ўбок і што належыць зрабіць, калі ў рэшце рэшт з дарогі збочыць хвост калоны.

— Зразумеў, — стрымана адказаў Янай. — Выканаем.

Калона на чале з Бар Кохбам пасунулася ў глыбіню пустэчы, упоперак дарогі, амаль пад прамым вуглом да яе. Узнялася яшчэ большая хмара куравы, і з кожнаю хвілінаю яна разрасталася, засланяючы неба. Ніхто, як і было загадана, не саступаў убок. Зрэшты, па пратаптанай сцежцы проста ішлося лацвей, чым па некранутаму, сыпучаму пяску.

Калі апошнія ваяры сышлі з дарогі, за справу ўзяліся янаеўцы. Адступаючыся назад, яны ці рукамі, ці зброяй, ці ашмёткамі вопраткі загортвалі на добра-такі ўтаптаную сцежку пясок, раўнялі яго, надавалі паверхні выгляд, які нічым не адрозніваўся ад навакольнага. Старонні чалавек нізавошта не здагадаўся б, што ў гэтым месцы толькі што пратупала не адна тысяча людзей, мулаў і коней. Янаеўцы ўвіхаліся аж да тае пары, пакуль дарога не стала бачыцца ім вузенькаю, ледзь прыкметнаю палоскаю, і толькі затым паспяшаліся наўздагон войску.

Па пустэчы калона прасунулася на немалую адлегласць, але Бар Кохба чамусьці не загадваў спыніцца. Усе меркавалі, што камандзір добра ведае гэтую мясцовасць і мае на ўвазе загадзя вызначанае месца, дзе войска можа знайсці прытулак ці хованку. А што камандзір чамусьці вырашыў менавіта схавацца ад рымскіх разведчыкаў, ніхто ўжо не сумняваўся. Вось толькі для чаго яму гэта спатрэбілася? Забаяўся? На тое не падобна. Сам жа абяцаў яшчэ адну бітву...

Насамрэч у гэтых мясцінах Бар Кохбу дагэтуль бываць не даводзілася, ён увогуле ніколі не пакідаў межаў свайго мястэчка і ягоных абсягаў. А збочыў ён наўздагад, інтуітыўна, бо ўсюды пейзаж бачыўся аднолькавым і аднастайным.

Галоўнае, меркаваў Сімон, адысціся ад дарогі як далей, каб рымляне, якія будуць па ёй рухацца, не змаглі выявіць ягонае войска — не толькі ўбачыць, але і пачуць, бо такая процьма народу непазбежна выдавацьме мноства галасоў і гукаў, якая б перасцярога ні захоўвалася.

Нарэшце Сімон палічыў, што войска ўжо адышлося дастаткова. Абшар не надта вабіў — навокал пясок ды скамянелыя ўзлобкі, — але іудзеі да такога асяроддзя звыклыя.

— Тут і атабарымся, — сказаў Архелаю Сімон.

— Надоўга?

— Мяркую, што да заўтрашняга вечара. Перадай гэта па калоне, няхай людзі рыхтуюць стаянку ды адпачываюць. Ніякіх вогнішчаў не паліць, залішне не галёкаць. І вось што яшчэ: скажы разведчыкам, каб сачылі за дарогай. Як толькі па ёй пройдзе рымскі легіён, хай адразу ж паведамяць мне.

Вестку пра тое, што легіён пратупаў у Ерусалім, разведчыкі прынеслі не праз суткі, як разлічваў Бар Кохба, а амаль праз трое. Сімон ужо, было, і хваляваўца пачаў: ці не перадумалі рымляне ісці на Святы горад, можа, здаволіліся перамогаю ў лагчыне? Дзякаваць богу, не перадумалі.

— Здымаемся са стаянкі! — аддаў загад Бар Кохба.

Войска ўспрыняло загад з палёгкаю: усім ужо абрыдла марнаваць час сярод пустэчы, не ведаючы, ці доўга яшчэ давядзецца нечага чакаць.

На дарогу калона (Бар Кохба наказаў захоўваць яе і надалей) выбралася тым жа шляхам і таксама накіравалася ў бок Ерусаліма.

І легіён, і іудзейскае войска рухаліся ў адным напрамку, хоць і на прыстойнай адлегласці. Аднак Марк Юній, у адрозненне ад Бар Кохбы, гэтага ведаць не мог: сваіх спекулаторасаў рымляне пасылалі толькі наперад.

Калі пачало ўжо брацца на цемру, іудзейскія разведчыкі данеслі, што далёка за даляглядам рымляне разбілі лагер, спыніліся на начлег. Іх, конных разведчыкаў, было ўсяго двое, бо так загадаў Бар Кохба. Ён прадбачыў, што большая колькасць коннікаў, калі яны, крый божа, напоруцца на рымскі ар'ергард, можа насцярожыць Марка Юнія. І так яно ледзьве не сталася сапраўды.

Пакуль разведчыкі скакалі па пустэчы, іхнія позіркі сягалі далёка. А потым акаём засланілі ўзвышшы. Што за імі — немаведама. Аднак жа на тое яны і разведчыкі, каб вывучыць мясцовасць. Коннікі паскакалі далей. Яны непазбежна знячэўку ўварваліся б у самую гушчыню рымскага лагера, раскінутага на супрацьлеглым схіле ўзвышша, калі б хтосьці з іх своечасова не звярнуў увагу на сполахі, якія шугалі ў пацямнелае неба наперадзе. Безумоўна, гэта не водбліскі далёкай навальніцы, якія бываюць тут гады ў рады, дый перуновага водгулля не чутно. Сполахі, відавочна, зыходзілі ад вогнішчаў ды паходняў. А значыць, па той бок узвышша — рымскі лагер. Каб канча ўпэўніцца ў гэтым, разведчыкі, зрабіўшы вялікі крук і трымаючыся воддаль, абскакалі ўзвышша збоку. Схіл кішэў людзьмі. Яшчэ разведчыкі скмецілі, што спераду легіёна выстаўлены досыць шматлікія дазоры, а вось ззаду, на грэбні ўзвышша, тупаюць толькі адзінокія назіральнікі.

Гэтыя звесткі прыйшліся Бар Кохбу даспадобы. Ён нават не чакаў, што ўсё будзе складвацца так спрыяльна. Мусіць, Бог усё-ткі прабачыў яму нахабства...

Нейкі час калона яшчэ рухалася наперад, а затым спынілася.

— Архелай, камандзіраў атрадаў — сюды! — рашуча загадаў Сімон.

Пакуль усе верхаводы подбежкам дабіраліся да галавы калоны, прайшло не менш як паўгадзіны. Ставячы перад імі задачу, Бар Кохба доўга не рассусольваў:

— Наперадзе, адсюль пакуль што не бачна, рымляне разбілі свой лагер. Больш зручнага выпадку, каб пaквітацца з імі, у нас не будзе. Слухайце мой загад. Першая палова калоны збочвае з дарогі налева, другая — направа. Разгрупавацца ў абодва бакі на адлегласць да двухсот крокаў ад дарогі. Скінуць з сябе ўсё лішняе, асабліва тое, што грыміць, звініць ці звякае. Пакінуць пры сабе толькі зброю. Абоз з гэтага месца не кратаецца. Коней таксама пакідаем тут: ім пысы не заткнеш, а для нас галоўнае — як мага захоўваць цішыню. Па гэтай прычыне — ніякіх зносінаў між сабою. Нават шэптам. Рух наперад пачынаць толькі па камандзе, калі зусім сцямнее. Ступаць без лішняга шуму. Можа, нават увогуле скінуць абутак — зямля ўжо астыла. Ці блізка рымскі лагер, вы самі скмеціце: па той бок першага ўзвышша будуць бачныя сполахі ад вогнішчаў. Штурм пачынаць толькі тады, калі рымляне нас выявяць. Таму як мага бліжэй трэба падступіцца да лагера незаўважна... Задачу зразумелі? Выконвайце! Цяпер усё ў вашых руках... — скончыў было Сімон, а затым усё-ткі дадаў: — ...І Бога.

Загад Бар Кохбы пачаў выконвацца на дзіва дакладна і ўзгоднена. Іудзеі, якія зусім нядаўна зведалі горыч паразы, цяпер цвёрда ўсвядомілі: без дысцыпліны, без дакладнага выканання загадаў сваіх камандзіраў перамогі ім не ўбачыць як сваіх вушэй.

Здавалася, сама прырода спрыяла іудзеям. Дагэтуль некалькі тыдняў запар стаяла неймаверная гарачыня, ад яе не было ратунку ні ўдзень, ні ўначы, а ў гэты вечар, нібы па заказе, з боку Міжземнага мора павеяла вільготным халадком, і разам з цемраю неба пачала завалокваць лёгкая смуга, скрозь якую марна спрабавала прабіцца месячнае святло. Апоўначы зрабілася гэтак цёмна — хоць вока выкалі.

— Пара, — сказаў Бар Кохба і ступіў наперад. Следам за ім зрушыліся з месца тыя, хто стаяў бліжэй, і ў рэшце рэшт хваля дайшла да флангаў.

Паўтары мілі шырокая чалавечая сцяна моўчкі сунулася ўздоўж дарогі. Прынамсі, абсалютнай, вядома ж, цішыня не была: шаргацеў пад нагамі пясок, раз-пораз чуўся прыглушаны кашаль, зрэдчас усё-ткі звякала зброя. Аднак жа старонні чалавек нізавошта не паверыў бы, што гэтак сцішана можа рухацца дваццацітысячная раць. Зрабілася яшчэ цішэй, калі напярэдадзе неба пасвятлела...

Хоць перад рэдкімі рымскімі дазорнымі, якія тупалі туды-сюды на грэбні ўзвышша, прасціралася бясконцая роўнядзь, яны не маглі ў цемры згледзець шэрую масу людзей, якая няўмольна насоўвалася з пустэчы. Ззаду ў вартавых гарэлі кастры і паходні, ад чаго навакольная цемра здавалася гусцейшай, чым насамрэч. Пачуць набліжэнне раці таксама было амаль немагчыма: рымскі лагер хоць і адпачываў, але ўсё адно поўніўся разнастайнымі гукамі, конскім іржаннем, і нават калі б іудзейскае войска выдавала сябе залішнім шумам-гамам, дазорным няпроста было б вызначыць, адкуль ён даносіцца — ззаду ці спераду.

Не дзіва, што найбольш пільны з вартавых спачатку адчуў, а потым і скмеціў чалавечую сцяну толькі тады, калі да грэбня ёй заставалася не болей як паўтары сотні крокаў. Вартавы замітусіўся, нешта загалёкаў, і праз імгненне на вяршыні пачуўся пранізлівы сігнал ражка, які азначаў трывогу. Амаль адразу ж яму адгукнуліся дзясяткі іншых корну ў лагеры, затым і галоўная туба легіёна падала свой голас.

Калі для рымлян гук ражка абвесціў трывогу, дык для іудзеяў ён паслужыў сігналам для штурму. Войска адначасна выбухнула такім грамавым воклічам, што, здавалася, з неба ўпала аграмадная жалезная бочка і з грукатам пакацілася па ўзвышшы — вось толькі не ўніз, а ўгару. Пераваліўшыся цераз грэбень, шматтысячная ўзброеная раць, нібы цунамі, хлынула на лагер і праз некалькі хвілінаў затапіла яго...

Змарнелыя, стомленыя за дзень легіянеры, намёты якіх месціліся блізу вяршыні, нават не паспелі з іх выскачыць. Іудзеі, набягаючы, вырывалі з зямлі калы, якія служылі для намётаў падпорамі, і грубае палатно ападала на тых, хто знаходзіўся ў сярэдзіне. Запалоненыя гэткім чынам, легіянеры, знізу перабіраючы рукамі палатно, тыцкаючыся ў яго галовамі, спрабавалі выбрацца з пасткі, але рабілі для сябе яшчэ болей шкоды: у тыя месцы, дзе што-небудзь варушылася ці вытыркалася, іудзеі зверху паролі мячамі, і палатно адразу брыняла крывёю.

Легіянерам, якія адпачывалі ў цэнтры лагера і ля падножжа, пашэнціла болей. Яны павыскоквалі з намётаў, на хаду прыхапіўшы гладыусы і шчыты, а накінуць на сябе панцыры ці кальчугі не ставала часу. Згуртавацца хоць бы ў цэнтурыях магчымасці не было, таму лакальныя

сутычкі ўсчаліся каля кожнага намёта. Там, дзе рымлянам удавалася стаць кругам, супраціў быў ярасным, а дзе-нідзе і паспяховым. Аднак у такой сумятні, у такім хаосе баявая вывучка легіянераў не мела вялікага значэння. Іудзеі абляплялі іх з усіх бакоў, і немаведама было, ад каго трэба бараніцца найперш...

Калі нападнікі пачалі граміць абоз, вэрхал узняўся ўвогуле неймаверны. Да чалавечых крыкаў і стогнаў далучылася іржанне, мычанне, выццё жывёлы, звяр'яцелыя коні насіліся па лагеры, збіваючы з ног і нападнікаў, і абаронцаў.

Такое калатнечы, такога крывавага месіва яшчэ не ведаў ніводзін рымскі легіён...

Архелай стараўся трымацца паблізу Бар Кохбы, каб пры неабходнасці адхіліць ад яго небяспеку, аднак, захоплены сутычкаю з такім жа, як сам, легіянерам-маладзёнам, на нейкі час затрымаўся, пакуль нехта ззаду не праткнуў рымляніна дзідай. Архелай пачаў ліхаманкава азірацца, каб згледзець камандзіра, але той ужо растварыўся ў чалавечай кішме. У нейкае імгненне ад'ютанту падалося, што злева, крокаў за сорак, мільганула знаёмая постаць, дый схватка там была асабліва жорсткаю. Хлопец памкнуўся ў той бок.

Каля намёта, які выглядаў значна большым, чым астатнія, ішла бязлітасная сеча. З паўсотні легіянераў, згуртаваўшыся і стаўшы паўмесяцам (тыл ім прыкрываў намёт), зносілі галовы і распорвалі жываты ўсім, хто спрабаваў да іх наблізіцца. Асабліва ўдала арудаваў мячом высокі і ўжо немалады ваяр, па ўсім відаць, галоўны ў гэтым рымскім гурце, бо паплечнікі прыціскаліся да яго, засланялі з бакоў, а адзін з легіянераў нават падставіў сваё цела пад дзіду, каб ураtаваць камандзіра.

Бар Кохба сапраўды быў у ліку тых, хто насядаў на гэтае рымскае згуртаванне. Ён спрытна размахваў сваім мячом і нават на вачах у Архелая здолеў паваліць дваіх легіянераў.

Перад рымскім шэрагам ужо ўтварыўся цэлы штабель забітых і параненых нападнікаў, але сілы былі няроўныя, з кожнаю хвілінаю шэраг радзеў, сціскаўся, пакуль у ім не засталіся тры чалавекі, тым лікам і іхні камандзір. Было відавочна, што, нягледзячы на безвыходнае становішча, гэтая троіца здавацца не збіраецца, яна, бадай, палічыць за лепшае загінуць.

Легіянераў ужо адцяснілі ад намёта, стоячы спінамі адзін да аднаго, яны, хоць і знясілелі, аднак адчайна працягвалі адбівацца-агрызацца. Нарэшце дзіда праткнула аднаго з легіянераў, затым другога... Такая ж доля чакала і трэцяга, таго, каго рымляне гэтак аберагалі, нехта ўжо замахнуўся мячом, каб ссекчы яму галаву, але нападніка апярэдзіў Архелай. Ён пружыніста адштурхнуўся ад зямлі і ззаду наляцеў на рымляніна, збіўшы яго з ног і паваліўшыся сам. Архелай не ведаў, чаму ён гэта зрабіў. Мусіць, таму, што ў душы імгнення варухнулася шкадоба да такога мужнага ваяра, хай сабе і ворага. Не хацелася, каб ён загінуў. Легіянер, лежачы тварам да зямлі, паспрабаваў павярнуцца, але на яго наляцелі-накінуліся яшчэ тры чалавекі, закруцілі рукі за спіну...

Бойня ў лагеры працягвалася яшчэ болей за гадзіну. Гэта была менавіта бойня, бо заспеты знянацку легіён не мог аказаць належнага супраціву...

## Жахлівая вестка

Яшчэ цёмначы пераможцы пачалі вылоўліваць спуджаных коней, якія разбегліся па ўсёй пустэчы, збіраць на месцы пабоішча трафейную зброю, сцягваць-зносіць у адно месца трупы сваіх таварышаў. Параненых легіянераў дабівалі, тых, хто ацалеў, сагналі ў сярэдзіну былога лагера, да самага вялікага намёта, у якой зусім нядаўна меў прытулак легат Марк Юній.

Калі трохі развіднела, яшчэ выразней акрэслілася веліч атрыманай перамогі. Па ўсім схіле ўзвышша былі раскіданы мёртвыя рымляне — ужо не толькі без зброі, але і без даспехаў. А гэта, лічы, больш за сем тысяч трупаў. У палон — жывымі і здаровымі — удалося ўзяць усяго 323 чалавекі, большасцю з ліку саюзнікаў ці дапаможнага войска, рымляне ж біліся да астачы сіл, нават параненыя.

Іудзеяў палегла не меней, аднак пасля ганебнай паразы ў лагчыне сённяшні рэванш выглядаў проста трыумфальным.

Бар Кохба не хаваў сваёй радасці. Акурат з пустэчы падцягнуўся ўласны абоз, і да камандзіра падвялі ягонага каня. Сімон борздка на яго ўскочыў і панёсся на грэбень, каб з вышыні ахапіць вачыма ўсю велічную панараму. Услед за ім паскакаў Архелай.

Постаці двух коннікаў на вяршыні, на фоне пасвятлелага неба, бачыліся здалёк, здаваліся казачна-велічнымі, і Бар Кохба на сваім белым кані сапраўды выглядаў, як пасланец Нябёсаў...

Тут жа, на вяршыні, Архелай вырашыў падступіцца да Сімона са сваёю пільнаю нэндзаю, бо больш зручнага выпадку, калі Бар Кохба ў гэткім прыўзнёслым настроі, можа і не надарыцца.

— Камандзір, у мяне ёсць просьба... — нясмела пачаў юнак, але Сімон, захоплены аглядам прыемнага відовішча, спярша на ягоныя словы ўвагі не звярнуў.

— Паслухай мяне, камандзір! — ужо гучна сказаў Архелай. — Я хачу што-кольвеч у цябе папрасіць...

— Га? — нарэшце вярнуўся ў рэчаіснасць Бар Кохба. — І ў чым жа твая просьба? Зрэшты, прасі што хочаш! Сёння я магу выканаць любое тваё жаданне!

— Ды не такое яно неймавернае. Сёння войска, мусіць, рушыць у Ерусалім. Я ж прашу, каб ты дазволіў мне на тры дні адлучыцца...

— Адлучыцца? І куды ж?

— У Віфанію. Адсюль не так і далёка. Пакуль войска дабярэцца да Ерусаліма, я акурат паспею зрабіць невялікі крук. Усё ж на кані...

— Паспееш, не паспееш — мяне гэта мала хвалюе. Лепей скажы, якая ў цябе патрэба ў Віфаніі.

— Там зараз знаходзіцца адна дзяўчына...

— І што? Дзевак у ваколіцах шмат!

Архелай хацеў сказаць “я кахаю яе”, але замест гэтага, густа пачырванеўшы, сарамліва мовіў:

— Яна... Яна мне падабаецца...

Бар Кохба літаральна аслупянеў.

— Як гэта? Калі ж ты паспеў? Здэцца ж, увесь час быў на маіх вачах! І нешта я не прыпомню, каб ты да каго-небудзь заляцаўся.

Архелай прадбачыў, што яму давядзецца тлумачыць Бар Кохбу, адкуль у ягоным жыцці з’явілася нейкае дзяўчо, і загадзя падрыхтаваў прыдумку. Не мог жа ён, насамрэч, паведаць, што пазнаёміўся з дзяўчынаю падчас

вылазкі ў Ерусалім і што яна — хрысціянка. Няма сумневу, як успрыняў бы гэта Сімон...

— Яшчэ летась, калі бадзяўся па свеце, пазнаёміўся... Перад тым, як падацца ў Бетар, паабяцаў ёй вярнуцца... Дык вось і наспеў зручны выпадак...

Па тым, як Архелай ніякавата адводзіць убок свой пагляд, з якімі патугамі ён выціскае з сябе словы, Бар Кохба зразумеў, што хлопец нешта не дагаворвае. Але ў Сімона быў гэткі святочны настрой, што ён палічыў за лішняе дэталёва распытваць свайго памочніка, лезці яму ў душу. Адно толькі зарагатаў:

— Не ўмееш ты хлусіць, хлопец! Але хай будзе гэтак. Калі-небудзь раскажаш праўду... А сёння любое тваё жаданне — для мяне закон! Заслужыў! Гэта ж трэба — самога рымскага легата ў палон захапіў!

— Як? Пра што ты кажаш?

— Ды той ваяр, якога ты заваліў, акурат і аказаўся легатам! Гэта добра, што яму галаву не знеслі. Можна сказаць, самы галоўны наш трафей! Уяўляю, як раз'юшыцца імператар, калі пра гэта даведаецца...

Тое, пра што сказаў Бар Кохба, збіла з панталыку Архелая і зусім не ўзрадавала. Выходзіць, пашкадаваўшы ваяра, зратаваўшы ад пагібелі, ён асудзіў рымскага военачальніка на прыжыццёвую пакуту і вечную ганьбу...

— Аднаго цябе ў Віфанію не адпушчу, — дзелавіта сказаў Сімон. — Небяспечна. У наваколлі рознай набрыдзі зараз процьма, а на ілбе ў цябе не напісана, што ты мая правая рука. Крый божа, дзе-небудзь перахопяць...

— Я пра гэта таксама думаў, — пагадзіўся Архелай.

— І каго ж намерыўся ўзяць сабе ў помач?

— Нахума і Гефена з янаеўскага атрада.

— А-а, прыпамінаю. Вось толькі ці досыць іх? Дый Нахума асілкам не назавеш...

— Затое Гефен чаго варты!

— І то праўда. Коней зараз у нас удостатку, так што можаце выбраць сабе найлепшых.

Тры коннікі дзе лёгкім алюрам, а дзе ўгалоп, калі дазваляла дарога, скакалі па пустыннай роўнядзі другія суткі запар. У невялікіх мястэчках, якія зрэдку траплялiся на іхнім шляху, яны на кароткі час спыняліся толькі для таго, каб напаіць-накарміць коней ды самім падсілкавацца ў заняпалай мястэчковай карчме.

Нахум і Гефен ахвотна пагадзіліся падацца з Архелаем у ягонае няблізкае падарожжа, і на тое было шмат прычын. Самая галоўная з іх — ім дадуць коней! І ёсць спадзеў, што нават пасля вандроўкі не забяруць. Зброю можна было выбраць любую, хоць Бар Кохба загадаў ставіцца да трафеяў ашчадна, бо яны спатрэбяцца для тых, хто застаўся ў Ерусаліме. Гефен узяў сабе доўгі меч — зброю коннікаў. Ён хоць і меў значную вагу, але ў руках асілка Гефена выглядаў пушынкай. Нахуму даспадобы прыйшоўся гладыус з рукаяткаю, пакрытаю басмой — мусіць, належаў нейкаму цэнтурыёну, а ў дадатак прыхапіў зіхоткі кінжал. Яму яшчэ карцела разжыцца кальчугай і шаломам, нават начапіць султан, але хлопец абачліва падумаў, што ўсё гэта будзе замінаць у няблізкай дарозе, а з-за султана над галавою хто-ніхто з насельнікаў можа прыняць яго за рымляніна, што нічога добрага не зычыць.

Нахума і Гефена цешыла яшчэ і тое, што згоду на суправаджэнне Архелая даў сам Бар Кохба, дый Янай зусім не пярэчыў.

Архелай, вядома ж, не ўтойваў ад спадарожнікаў, для чаго яму гэтак

пільна спатрэбілася наведаць Віфанію. Маўклівы Гефен нічога лішняга не распытваў: трэба дык трэба. Затое няўрымслівы Нахум, аднагодак Архелая, сакатаў усю дарогу, лез у душу:

— А якая яна, тая дзеўка? Ці прыгожая?

— Прыедзем — сам пабачыш, — адмахваўся Архелай.

— Раскажы, скуль яна ўзялася? Дзе ты яе нагледзеў? Можа, і для мяне там вабная дзяўчына знойдзецца?

— Знойдзецца, знойдзецца...

Ужо на подступах да Віфаніі Архелай не стрываў, выклаў сябрам усю праўду: і пра тое, як пазнаёміўся, і пра тое, што Вірсавія — хрысціянка. У рэшце рэшт, падумаў хлопец, яны і самі здагадаюцца, калі трапяць у хрысціянскае атачэнне, дзе зараз знаходзіцца ягоная дзяўчына. Прынамсі, Архелай лічыў, што ні Нахум, ні Гефен, як і ўвогуле простыя іудзеі, выяўнай нянавісці да хрысціян не маюць, ва ўсякім разе іхніх размоў ці спрэчак на гэтую тэму Архелаю чуць не даводзілася. Тым не меней, ачумелы ад пачутага Нахум нават спыніў каня і разявіў рот.

— Ты не хлусіш?

— А навошта мне хлусіць? Вы — мае сябры...

– Дык нам жа, прававерным іудзеям, з іншаверцамі знацца забаронена.

— Ведаю... Але сэрцу не загадаеш...

Колькі хвілін Нахум памаўчаў, мусіць, пра нешта разважаў.

— А Бар Кохбу ты таксама ўсё расказаў?

— Не зусім...

— Ну то і добра. І не расказвай. Не думаю, што твой выбар будзе яму ўспадоб...

Астатні шлях да горада коннікі адолелі моўчкі.

Архелай разлічваў, што Віфанія — звычайнае мястэчка, хай сабе і вялікае, усе тут ведаюць адзін аднаго, і любы сустрэчны падкажа, дзе жыве Габрыель. Аднак насамрэч яны ўехалі ў досыць самавіты горад, нават большы, чым Бетар. У душу Архелая закраўся сумнеў: а ці ўдасца знайсці Вірсавію ў гэтай людской кішмені? І праўда, ад усіх сустрэчных насельнікаў яны чулі адно і тое ж:

— Габрыель, сын Лірана? Не, такога не ведаю.

На Архелая нахлынуў адчай. Не гойсаць жа па ўсіх вулках і не зазіраць у кожны двор — гэтак і за тыдзень не ўправішся. Выйсце, як здалося, знайшоў Нахум.

— Дзе тут у вас хрысціянскае паселішча? — наўпрост запытаўся ён у ссівелага дзядка, які, дзюбаючы перад сабою кульбакай, тупаў насустрач.

— Хрысціянскае паселішча? — перапытаў дзядок з насцярогаю. — Няма ў нас такога. І зроду не было.

Ён ужо наважыўся чыкільгаць далей, але Нахум канём перагарадзіў яму дарогу.

— Пачакай, стары! У вас што, хрысціян увогуле няма?

— А я адкуль ведаю? — чамусьці незадаволена буркнуў дзядок. — Можа, дзе і ёсць, але яны, хрысціяне, абвестак на сваіх варотах не вешаюць.

— Тады падкажы, дзе ў вас рынак, — не сунімаўся Нахум, нешта, мусіць, замысліўшы.

— Па гэтай вулцы і скачыце далей, самі ўбачыце, — без асаблівай ахвоты, адводзячы пагляд, працадзіў скрозь зубы дзядок. Было відавочна: зносіцца з коннікамі яму не даспадобы, адно толькі і змушвала нешта адказваць — іхняя зброя...

Коннікі пагарцавалі па вулцы, і Нахум на скаку патлумачыў сябрам, чаму ім варта завітаць на рынак:

— Там жа з усяго горада люд збіраецца. Магчыма, хтосьці з гэтым Габрыелем побач жыве...

Людзей на рынку было няшмат, бо стаяла паўдзённая спёка. Усе яны адразу звярнулі ўвагу на ўзброеных коннікаў, якія завярнулі на плошчу. Каб не траціць час на доўгія роспыты, Нахум на ўсю глотку галёкнуў:

— Гэй, мястачкоўцы! Можа, хто з вас ведае, дзе жыве Габрыель, сын Лірана?

Людзі пачалі аб нечым перашэптвацца між сабою, але пэўнага адказу Нахум не пачуў. Таму гучна ўдакладніў:

— Ён хрысціянін!

Лепей бы Нахум гэтага не казаў: усе сталі адварочвацца, а хто-ніхто кінуў на іх касы ці пагрозлівы позірк з-пад ілба.

— Цьфу ты! — сплюнуў ад злосці Нахум. — І чаго ім гэтыя хрысціяне ў косці ўеліся? Не разумею... Паехалі, хлопцы, адсюль, ніхто нам нічога не скажа, калі нават і ведае...

Яны развярнулі коней і, кіруючыся на вулку, спінамі адчувалі, як свідруюць, працінаюць іх наскрозь дзясяткі калючых позіркаў...

— Дык што рабіць далей? — ці то ў самога сябе, ці то ў сяброў няўцямна запытаўся Архелай.

— А ліха яго ведае... — Нахума таксама ахапіла роспач.

— Зірніце туды, — нечакана ўставіў слова зазвычай маўклівы, як камень, Гефен і кіўнуў у бок завулка перад уваходам на рынак. Там, прытуліўшыся да агароджы, стаяла, калі меркаваць па паставе, досыць маладжавая жанчына, з ног да галавы захутаная ў чорную накідку. Твар таксама быў прыкрыты, на ім бачыліся толькі вялікія і выразныя, як у цяляці, вочы. Жанчына знакамі паказвала коннікам, каб яны наблізіліся да яе, што тыя і зрабілі.

З боку рынка іх ужо ніхто бачыць не мог, але жанчына, мусіць, усё-ткі асцерагалася, што іхнія зносіны скмеціць чужое вока, таму таропка, на хаду мовіла:

— Габрыеля я не ведаю, але паспрабуйце параспытваць, пашукаць ягоную сядзібу на заходняй ускраіне. Там якраз большасцю і жылі хрысціяне...

І яна пакрочыла далей, аднак Архелай паспеў запытацца наўздагон:

— Жылі? Чаму жылі?

Жанчына, не спыняючыся, толькі і адказала тужліва:

— Самі пабачыце...

У душы Архелая варухнулася трывога.

Па заходняй ускраіне Віфаніі коннікі сноўдаліся яшчэ цэлую гадзіну, але ніякага плёну не дабіліся. Насельнікі няўцямна паціскалі плячыма, а пачуўшы слова "хрысціянін", дык і ўвогуле адварочваліся і спынялі размову. Адчувалася, што па нейкай прычыне яны нешта ўтойваюць, не дагаворваюць. У рэшце рэшт, Нахуму надакучыла гэтая "гульня ў хованкі", і калі ад дзецюка з хітраватымі вачыма ён у чарговы раз пачуў "не ведаю", хлопец не стрымаўся:

— Усё ты ведаеш, сволач! А ну паказвай, дзе жыве Габрыель, інакш галаву знясу з плячэй!

І ён красамоўна ўзяўся за рукаятку свайго гладыуса, нават напалову выцягнуў яго з похваў. Дзіўна, але дзяцюк раптам упаў на калені і ўзмаліўся:

— Не забівай! У мяне трое дзетак! А сядзібу Габрыеля я пакажу. Яна тут, непадалёку...

— Во свалата! Чаму ж ты адразу не згадзіўся паказаць?

— Баяўся я...

— Каго баяўся?

— Ой, нават не ведаю, каго найбольш: ці нашых, ці вас...

— Добра, вядзі.

Дзяцюк подбежкам рушыў па вулцы, штохвілінна азіраючыся на коннікаў і бесперапынна паўтараючы:

— Вы толькі на мне злосць не спаганяйце... Я тут ні пры чым...

Нарэшце дзяцюк, спыніўшыся, паказаў пальцам наперад:

— Вунь яна, Габрыелева хата. Бачыце пустыя вокны?

З гэтымі словамі ён сарваўся з месца, сігануў цераз бліжэйшую агароджу і завіхляў па дварах, пакуль не знік з вачэй.

Выгляд хаціны, на якую паказаў дзяцюк, прымусіў коннікаў жахнуцца. Гэта была нават не хаціна, а толькі сцены, абпаленыя знізу. Аніякага даху, замест вокнаў — чорныя пашчы праёмаў.

Коннікі спешыліся.

— Ты што-небудзь разумееш? — спытаўся Архелай у Нахума.

— Здаецца, разумею... Тут быў пагром.

— Які пагром? — не хацеў верыць сваім вачам Архелай. — З якое нагоды?

— А з тае самае... Хіба не скмеціў, як усе цураліся, пачуўшы слова “хрысціяне”?

У галаве Архелая памуцілася, на ватных нагах ён ступіў у двор, цераз аконны праём зазірнуў у сярэдзіну хаты. Там было пуста, на падлозе валялася нейкае ашмёцце ды паламаныя дошкі.

— А людзі дзе? Дзе людзі? — нямаведама ў каго роспачна запытаўся Архелай.

— Трэба пацікавіцца ў суседзяў, — слушна сказаў Гефен і ўжо накіраваўся да бліжэйшых веснічак, каб ажыццявіць сваю задуму, аднак яго прымусіла спыніцца нечаканае відовішча. Вынырнуўшы з-за павароту, да сядзібы імкліва пачаў набліжацца натоўп — чалавек, можа, на трыццаць. І ўсе — мужыкі. А што самае галоўнае — кожны трымаў у руках ці кол, ці якую-небудзь жалязяку. Двое, як вобмельгам скмеціў Гефен, дык і ўвогуле неслі перад сабою мячы. Нічога прыемнага ад натоўпу чакаць не даводзілася — мужыкі нешта гучна выкрыквалі, раз'юшана зыркалі.

— Хлопцы, па конях! — крыкнуў Гефен.

Архелай і Нахум, пачуўшы гэтыя ўстрывожаныя словы, выскачылі з двара, убачылі натоўп і ўслед за Гефенам вокамгненна апынуліся на спінах сваіх коней.

— Даём драпака? — запытальна зірнуў на Архелая Нахум.

— Пачакай! Спярша даведаемся, чаму мы ім гэтак неўспадоб. Дый, можа, падкажуць, што сталася з Габрыелем і ягонай сям'ёй. Падобна, акурат гэтыя ж вылюдкі тут і нашкодзілі...

Пагалоска пра тое, што нейкія тры коннікі цікавяцца Габрыелем дый увогуле хрысціянамі, разнеслася па ўскраіне вельмі хутка. Тыя, хто чыніў здзек з “запраданцаў”, “напамаджаных”, зноў збіліся ў хеўру. Ім было відавочна: гэта — хрысціянскія паплечнікі, адзінаверцы. І ім наканавана такая ж доля...

Натоўп наблізіўся да коннікаў амаль ушчыльную і, мусіць, з ходу “праглынуў” бы іх, калі б не бліснулі ў паветры гладыусы, якія выхапілі з

похваў Архелай і Нахум, а доўгі пляскаты меч Гефена, якім асілак махнуў перад сабою, прымусіў натоўп адхлынуць крыху назад.

— Хто вы такія? — падаў голас высокі, мажны, з адвіслым чэравам дзяцюк, які стаяў наперадзе натоўпу і, мусіць, быў у ім за верхаводу.

— Людзі, — непарушна адказаў Архелай. — А вось вы дык, здаецца, нелюдзі. Вунь што натварылі, — ён кіўнуў у бок разбуранай хаціны Габрыеля. — Дарэчы, а што вы зрабілі з тымі, хто тут жыў?

— Гы-гы-гы! — галасна зарагатаў верхавода. — Кішкі ім павыпускалі! Усім да аднаго! Ніхто не ўцёк! О, а іх тут была цэлая плойма! Нават нейкія прыблуды з Ерусаліма ацiраліся. Дык і іхнія чарапы ператрушчылі — і дзецям, і дзеўкам. Цяпер іхнія косці сабакі па пустэчы цягаюць! Гы-гы-гы!

– Што? – Архелай не мог паверыць ягоным словам. – Што ты сказаў?

— Тое, што чуў! Мы тут усю хрысціянскую набрыдзь вынішчылі! Па ўсім бачна, і вы з іхняе кодлы. Абступайма іх, мужыкі, з усіх бакоў, каб не ўцяклі! — загадаў ён сваім паплечнікам. Тыя і без ягонай каманды ўжо абкружылі коннікаў.

— Што вы робіце?! — пагрозна крыкнуў Нахум і паказаў на Архелая. — Перад вамі — галоўны ахоўнік самога Бар Кохбы! Чулі пра такога?

— А як жа, чулі, чулі! Толькі чаго гэты “ахоўнік” тут аціраецца?

— Хто вам паверыць, аблуды?

— Ды яны ж, мусіць, і не хрысціяне, а рымскія лазутчыкі! Зірніце, які белабрысы гэты “ахоўнік”!

— Хапайце іх, браты!

Апошні заклік паслужыў камандай для Гефена. “Гэ-эх!” — гулка выдыхнуў ён з грудзей і паласнуў мячом перад сабою — па зямлі пакаціліся адразу дзве галавы. “Гэ-э-эх!” — яшчэ раз хакнуў асілак, і нечае тулава распалавінілася з галавы да пояса.

Архелай і Нахум таксама пусцілі ў ход свае гладыусы, паласуючы ці пратыкаючы нічым не абароненыя целы. Коннікі, пэўна, неўзабаве “размяцелілі” б гэты мітуслівы натоўп, але Нахум, кінуўшы вокам уздоўж вулкі, убачыў, што з абодвух яе бакоў на помач нападнікам бягуць дзясяткі раз’ятраных дзецюкоў, і з кожнаю хвілінаю іх становіцца ўсё болей.

— Хлопцы, трэба прарывацца адсюль! — крыкнуў Нахум.

— Самы час! — адгукнуўся Гефен. — Трымайцеся за мной!

І ён, узняўшы каня на дыбкі, накіраваў яго ў гушчыню натоўпу. Ад жаху нападнікі, адкідваючы сваю няхітрую зброю, шугалі наўзбоч, ратуючыся ад капытоў і мяча. Удавалася гэта не кожнаму, бо ўслед за Гефенам гацілі перад сабою дарогу Архелай і Нахум.

За ўсёй гэтай бойняй з-за сваёй агароджы крадком назіралі суседзі Габрыеля — Эльдад і Ніцана. Сэрца падказвала жанчыне, што гэтыя коннікі завіталі сюды з пэўнаю мэтаю: мусіць, той, самы прыгожы, хацеў пабачыць Вірсавію. І чаго ён дамогся? Пачуў, што ўсе загінулі. А гэта ж насамрэч не так. Вірсавія жывая. Ніцане вельмі хацелася выбегчы на вулку і сказаць пра гэта хлопцу, але яе, пэўна, разарвалі б на часткі...

Адскакаўшы на захад ад Віфаніі паўтары мілі (а дарога акурат вяла на Ерусалім), коннікі спыніліся. Пагоні не было. Архелай спешыўся, адышоў на ўзбочыну і моўчкі лёг на зямлю, прыкрыўшы твар далонямі.

Нахум памкнуўся да сябра, хацеў сказаць нешта суцяшальнае, але яго ўзяў за плячо Гефен:

— Не лезь...

*(Працяг будзе)*

Андрэй Хадановіч



...куды б ты ні ехаў,
заўсёды едзеш на захад...

# Амерыканскі футбол

### *ПРА РОЗНІЦУ Ў ЧАСЕ, АБО ЖАЎРУКІ НЕ ТОЕ, ЧЫМ ЯНЫ ЗДАЮЦЦА*

У шэсць гадоў перавёў бабулю на іншы бок,
у сем – бацькоўскі гадзіннік на летні час,
а ў восем табе сказалі, што сонца – бог,
які пераводзіць стрэлкі. Прычым на нас.

Вось ты ляціш на захад, абганяючы гук,
содні не спіш у дарозе, ледзьве жывы,
а назаўтра прачнешся, як апошні жаўрук,
хоць засынаў пазней ад любой савы.

Хто ў жаўруку чубатым зранку пазнае саву?
І навіны савіныя піша рука жаўрука.
А пра Каперніка з Кеплерам лепш не дуры галаву,
проста час робіць “сонейка” й падае з турніка.

Нехта блыху падкоўвае правай рукой, другі
вучыцца падымацца з той, што трэба, нагі.

І жаўрукамі зрываем голас на сонцы,
і паміраем совамі ад бяссонніцы.

Толькі тады разумеюць мудрыя совы:
кожны, нават часовы, падзел – часовы.
А покуль совы здаюцца не тым, чым яны здаюцца, –
і жаўрукі не здаюцца!

### *ТАВАРЫСТВА МЁРТВЫХ ПРАЗАІКАЎ*

Я прыехаў у Амерыку,
каб вывучыць мову й напісаць кнігу,
але не разлічыў сілаў.

Першы ж мой спіч па-ангельску
выйшаў такі сур'ёзны,
што ўсе пісьменнікі доўга рагаталі,
а адзін нават назваў мяне mister Gogol.

Я спачатку спалохаўся,
памацаў нос і ўсё такое,
але нос і ўсё такое былі на месцы,
і я супакоіўся.

А дарэмна.

З таго моманту да мяне штоночы
прыходзяць нябожчыкі
і дораць сюжэты раманаў.

Кажуць, каб я занатоўваў, бо зранку ўсё забуду.
Я не забываю занатоўваць, але зранку
ўсе нататкі аказваюцца па-ангельску –
і я нічога не разумею.

Так і пішу вершы.

### *БЕЗ СТРАХОЎКІ*

Сёння мне сказалі,
што мая медыцынская страхоўка –
не надта добрая,
і я мушу быць вельмі асцярожны.

Я паабяцаў берагчы зубы,
не плаваць у мясцовай рэчцы,
акіяне й піве,

усялякім чынам пазбягаць траўкі
(у нехарошым сэнсе слова),
не пераходзіць дарогу на чырвонае святло
і ўвогуле акуратна абыходзіцца
з каляровымі выразамі.

Цяпер баюся зрабіць лішні рух,
без страхоўкі не надта павыступаеш.

Сяджу на траўцы (у харошым сэнсе),
а яна тут расце так хараша,
што вось-вось прарасце скрозь мяне,
але я нават не абзываю яе зялёнай.

Сачу за сабой,
глыбока дыхаю,
любуюся небам
светла-сіняга колеру.

## *КАБ ЛЮБІЦЬ БЕЛАРУСЬ*

*Тацяне Вырвіч*

Мы вярталіся ў Чыкага па хайвэі.
Прыгажуня за стырном палохала пасажыраў,
любуючыся заходам сонца
у люстэрку задняга агляду:

“Паглядзі, як здорава!”
Я азірнуўся й завіс,
а калі сонца зайшло за білборд,
павярнуў галаву назад і сказаў:

“А ў Беларусі заходы
яшчэ прыгажэйшыя!
Куды б ты ні ехаў,
яны заўсёды паперадзе”.

“Гэта таму, што ты, –
сказала пасажырка, –
куды б ты ні ехаў,
заўсёды едзеш на захад”.

## *LABOR DAY*

Горад фактычна спыніўся. Офісы не працуюць.
Банкі не працуюць. Абменнікі не працуюць.

Кнігарні не працуюць. Музычныя крамы не працуюць.
Аптэкі не працуюць. Пра больніцы нават баюся думаць.

Зялёнае святло на святлафорах амаль не працуе.
Глушылкі на матацыклах праз адну не працуюць.
Паліцыя толькі робіць выгляд, што працуе,
бо інакш нас ужо тройчы спынілі б.

Дарожныя службы не працуюць. Пажарнікі не працуюць.
Нават паўдзённае сонца нехта забыў адключыць,
і мазгі на спякоце абсалютна не працуюць
(мае асабліва, досыць зірнуць на гэты верш).

Ратавальнікі на возеры Мічыган не працуюць,
бо й патэнцыйныя тапельцы не працуюць.
Пра сеціва ў нашай кавярні
на верхатуры чыкагскага хмарачоса
лепей і не казаць.

Нічога не працуе. Амерыка святкуе Дзень Працы.

І толькі павучок за нашым акном на ўзроўні 96 паверха,
гайдаючыся на вятры, усё пляце сваё сеціва.

## *МАКДОНАЛЬДС*

А яшчэ раскажу вам, што мне расказаў адзін пажылы літаратар:
"Слухай, Андрэйка, старога профі, покуль яшчэ аматар.

Потым іншым таксама раскажаш на вашых дурацкіх варштатах.
Усё было так: я сядзеў на стыпендыі ў Злучаных Штатах.

Я ў макдональдс на ровары ехаў. Яна перабегла мне
веладарожку,
сказаўшы, што на траве нашмат цікавей, чым у ложку.

Яна была чорнай,
спартыўнай,
халоднай,
як дыетычная кола з лёдам.
А я, бы малочны віктэйль, быў белым і тлустым уродам.

Яна страляла вачыма цыгары й падпальвала іх вачыма.
Што ёй ува мне спадабалася, уявіць немагчыма.

Яна мне сказала, што замужам, пачаставала вішняй,
спыталася: "Трэцім будзеш?" Я адказаў: "Трэці лішні".

Яна шпурляла вішнёвымі костачкамі ў ваду,
трапляючы ў раварыстаў,
што адбіваліся (ў рэчцы)
ад іх на хаду.

Раварысты круцілі педалі і пальцам ля скроні,
а яна сядзела ў мяне на каленях, быццам на троне.

Я параўнаў яе з рымскай гетэрай, з японскай гейшай,
а яна мне сказала: "Хто шмат балбоча, прапусціць
найцікавейшае!"

А яшчэ – што кветка па тое, каб сарваць, бо потым завяне.
А яшчэ – што пайшла на славістыку, бо яе кахаюць славяне.

Аднаго сустрэла ў Берліне, другога – на выспе, у Вісбі.
Трэцім будзеш?.. Зоркі над намі гулялі да раніцы ў фрызбі.

Я казаў ёй, што сэнсу нямашака, а яна мне казала, што ёсцека –
і глытала мяне, як вішню, не пакідаючы хвосціка.

Я скакаў з ільдзінкі на льдзінку ў яе дыетычнай коле,
хапаючыся за саломінку, што не ратуе ніколі".

## БІЛЬЯРД А ПАЛОВЕ НА ДЗЯСЯТУЮ

Што мне падабаецца ў правілах
амерыканскага більярда?

Тое, як Луіс у момант удару
здзіўлена адкрывае рот,
быццам не верачы, што канец свету
усё яшчэ не настаў,
хоць шар ужо закаціўся ў лузу,
тройчы адскочыўшы ад борта;

тое, як Аліса ў момант удару
адкідвае валасы, нахіляе галаву
і заплюшчвае вока, як прафесійны снайпер,
і гучыць стрэл –
і падае мёртвая ціша,
а потым усе ажываюць,
яшчэ як ажываюць;

тое, як Аліна ўпершыню ў жыцці
бярэ кій – і ўсе мужчыны паблізу
збіраюцца паблізу,

раяць, дапамагаюць, прагнуць
хоць злёгку дакрануцца
і проста рухаюцца вакол,
як планеты вакол сонца,
а яна ўся аж свеціцца.

І музыка сфераў
гучыць з музычнага аўтамата,
і танцы віруюць навокал стала,
і гульцам усё цяжэй
трымаць у руках кій, бо танцоркі
танчаць з ім, як з шастом,
скокаюць з ім, як з шастом,
палова на дзясятую, палёт нармальны...

Стол хістаецца, як паранены,
а хто не верыць, можа сам укласці
чатыры манеткі, як пальцы, у ягоныя раны,
і пераканацца, што ўсё гэта
можа адбывацца кожны вечар
проста таму, што так павінна быць
кожны вечар а палове на дзясятую –
нават не думайце парушаць
правілаў амерыканскага більярду!

І, галоўнае, не спрабуйце
паўтарыць усё гэта ў хатніх умовах!

### *THE POETRY CENTER*

Вечарына паэзіі ў Цэнтры Паэзіі
выйшла цёплая і ўтульная.
Аўдыторыя была запоўненая слухачамі,
а паліцы – паэтычнымі кніжкамі.

Усе пяцёра паэтаў былі вельмі таленавітыя
і шырока вядомыя ў сваіх краінах.
Усё было вельмі карэктна.
Лэдзі чытала першай,
а чацвёра джэнтльменаў – другімі.

Лэдзі сказала, што яе вершы
не перакладзеныя на ангельскую,
і прачытала кавалак з рамана.

Першы джэнтльмен сказаў, што ягоныя вершы
таксама не перакладзеныя на ангельскую,
і прачытаў апавяданне.

Другі джэнтльмен сказаў, што ягоныя вершы
перакладзеныя, але
ён усё адно пачытае прозу,
бо так яго лепей зразумеюць.

Трэці джэнтльмен прызнаўся,
што ўвогуле не піша паэзіі
і будзе адзіным тут празаікам,
чым вельмі ўсіх насмяшыў.

Толькі чацверты джэнтльмен
прачытаў адзін верш,
у арыгінале і па-ангельску,
але кітайскі акцэнт быў такі,
што мала хто адрозніў першае і другое.

Мадэратар вельмі цешыўся
і выразіў надзею, што паэзія
і надалей будзе жыць і развівацца
ў іхніх краінах, на іхніх мовах.

Я таксама парадаваўся, і было ад чаго:
за ўсю вечарыну паэзіі ў Цэнтры Паэзіі
ніхто не пачуў ніводнага кепскага верша.

## СВЯТЫ ФРАНЦЫСК КАЛІФАРНІЙСКІ

Ходзіць па Чайнатаўне ў цёплай талстоўцы,
вязанай шапачцы і пальчатках без пальцаў.

Часам падорыць графітчыку новы балончык з фарбай.
Часам падкіне пяць баксаў вулічнаму актору.

Ведае мову звяроў і замежных турыстаў.
Разумее сабак і сабакаводаў,
просіць другіх заўжды прыбіраць пасля першых.

Водзіць на пляж і знаёміць самотных лесбіек.
Запрашае бяздомных на вечарыны,
дзе пасля вершаў звычайна частуюць піцай.

Калі пачынаецца дождж,
раздае мінакам шыкоўныя парасоны,
асцярожна збірае з асфальту смаўжоў
і дажджавых чарвякоў,
якіх кідае рыбам,
а рыбаў – птушкам.

Звычайна дзвюх рыбак хапае, каб накарміць
усіх партовых бакланаў.

Зранку працуе вагонаважатым
на канатнай чыгунцы
і бясплатна пускае ўсіх гарадскіх катоў,
што на падножках віснуць і задаволена
паціраюць вусы дваццаціпяці-
цэнтавымі манеткамі.

Удзень варожыць у знакамітай кнігарні,
адкрываючы найбліжэйшы да наведніка томік
на выпадковай старонцы:
“Усё, што вам трэба, – гэта каханне!” –
кажа худому падлетку ў трэснутых акулярах.
І ягонаму сябру, які трымае яго за руку:
“А калі нельга кахаць з аднолькавай сілай,
будзь тым, хто кахае больш!”

Увечары шпацыруе ля Ціхага акіяну,
размаўляючы з рыбакамі й гаспадарамі яхтаў.
Мерзне і, каб сагрэцца, падымаецца ўгору,
цяжка дыхае, выпускаючы з рота густыя
клубы цёплае пары, – і Залаты
Мост патанае ў тумане.

## *КАРАОКЕ*

*Калісь глядзеў на сонца я...*
Максім Багдановіч

Калі доўга глядзець на сонца,
абавязкова аслепнеш.
І нават верш, які потым напішаш,
будзе слабым суцяшэннем.

А вось калі глядзець,
як яно ўзыходзіць або заходзіць,
вочы могуць вытрымаць.
Больш за тое, калі потым чытаць,
літары будуць пераліваецца
ўсімі колерамі тваёй унутранай
псіхадэлічнай вясёлкі.

Скажам, уязджаеш ты з Ілінойса ў Аёву,
адным вокам чытаеш кіндл,
а другім сочыш, як на папярэдняй
старонцы нябеснага букрыдэра
павалі знікае сонца.

І тут у кіроўцы звініць мабільнік,
ужываны, яшчэ як ужываны,
з тых дзён, калі ён быў крутым перцам,
з гарачай галавой, халодным сэрцам.

Калі хадзіў на амерыканскі футбол –
у тыя часы, калі футбол у Амерыцы
мог быць толькі амерыканскім.

Калі ездзіў з дзяўчатамі на радэа
заўзець за сваіх любімых каўбоеў,
а дзяўчаты казалі,
што іх любімы каўбой – гэта ён.

Калі, прыпаўзаючы на стадыён
на канцэрт “Бон Джові”,
які яшчэ не спяваў за Абаму,
падымаў угару, нібы запальнічку,
сваю мабілу, і яна свяціла так,
што ад яе напраўду можна было прыкурваць.

І ён прыкурваў, бо курцоў тады
яшчэ не загналі ў гета,
адзіную на квадратную мілю кавярню,
дзе апошнія з магіканаў слухаюць “Бон Джові”,
схіліўшыся над шахматнымі дошкамі
й пускаючы дым суперніку ў вочы,
покуль той размаўляе па тэлефоне,
трымаючы сваю трубу, нібы скрыпку, –
плячом, як у рамане пра шахматыста-вар’ята.

Акурат так, як трымае цяпер твой кіроўца,
бо з трубы загучаў той самы “Бон Джові”,
але нешта ў ёй заела, і рынгтон усё грае,
а ты ўсё чытаеш свой кіндл,
той самы раман пра вар’ята,
і літары – пасля сонца –
плывуць уваччу, пераліваючыся ўсімі колерамі
тваёй псіхадэлічнай вясёлкі,
нібы радкі ў караоке.

І “Бон Джові” грае Набокава.
Ты пяеш, а кіроўца з боку
выглядае трохі напружана,
ды спявае з табой пра Лужына.

## *АМЕРЫКАНСКІ ФУТБОЛ*

*Дзіму Д., бейсбалісту,*
*Вальжыне М., амерыканцы,*
*Марыне Ш., жонцы*

“Калі ты ўжо ў сваёй Амерыцы
напішаш верш пра бейсбол?” –
пытаюцца ў мяне сябры.

Вядома ж, можна і пра бейсбол,
але тады ніяк без дурацкіх жартаў
пра памеры бейсбольнай біты,
а мая амерыканская перакладчыца –
дама культурная,
якую яшчэ на ўніверсітэцкіх
занятках па вершаскладанні навучылі,
што памер не мае значэння,
бо галоўнае – рытм.

Лепш напішу пра амерыканскі футбол,
бо не дзеля бейсбола ж
я пару тыдняў таму ледзь не памёр,
падавіўшыся ежай і ледзь не задыхнуўшыся,
калі ўся студэнцкая кавярня ў мяне за спінай,
гледзячы ў тэлевізар на сваіх улюбёнцаў,
хорам зараўла: “ТАЧДАЎН!”

Так, пра амерыканскі футбол –
з вялікай літары А,
хоць я не ў зуб нагой у яго правілах,
бо выхоўваўся на звычайным футболе –
з вялікай літары Ф.

(Тут мая амерыканская перакладчыца,
відаць, напіша: “сокер – з вялікай літары С”.)

Так, сапраўды, пра амерыканскі футбол,
бо тыдзень таму правёў усю нядзелю
у таварыстве дзвюх тэхаскіх параў,
дарэчы, універсітэцкіх выкладчыкаў,
што разам глядзелі яго да позняе ночы,
на трох лэптопах, прычым кожны з іх
паказваў свой матч.

(Як вы, мабыць, здагадаліся,
адна пара глядзела розныя матчы,
а другая – адзін на дваіх.)

Я ціхенька шапнуў мужу,
таму, у якога быў адзін на дваіх,
што іх варыянт мне падабаецца больш.
“Гэта таму, што жонка нічога не цяміць у гульні”, –
пажартаваў муж. А жонка дадала:
“Гэта што, заўтра ён будзе са мной
глядзець перадачу пра коцікаў!
Дарэчы, Андрэй, ты б мог
глядзець разам з жонкай пра коцікаў?”

“Так, хоць пра козлікаў.
Я люблю пра прыроду, дачка прывучыла.
А вось чытаць фэнтэзі разам з жонкай
так і не навучыўся”.

“Ну і козлік!” – падвёў выснову
ейны муж, універсітэцкі выкладчык.
Я радасна пагадзіўся.

(Тут мая амерыканская перакладчыца,
мабыць, на хвілінку задумаецца, а потым
напіша штось пра “слонікаў” і “вослікаў”.
Я радасна пагаджуся.)

Так, бо я сапраўды дурань,
бо гэта так здорава – чытаць з жонкай
фэнтэзі пра коцікаў, ці нават пра козлікаў,
а яшчэ лепей – адкласці кніжку ўбок
і заняцца чымсці іншым,
не, зусім не тым, пра што вы падумалі, –
не праглядам амерыканскага футболу,
бо адкуль яго ўзяць у маёй Беларусі, –
з вялікай літары Б?

Зусім іншым,
хоць дзеля ўводу ў зман суседзяў
за тонкай сценкай шматкватэрнага дома,
можна ўмыкнуць на ўсю гучнасць звычайны футбол,
а потым даць волю рукам і, вядома ж, нагам,
прайсці праз усё поле і пад гучныя крыкі стадыёна
паставіць эфектную кропку ў атацы!

І, калі пашанцуе і ты ні разу не схібіш,
твая жонка з іроніяй вымавіць: “ГОЛ!”,
а твая перакладчыца
з яшчэ большай іроніяй перакладзе:
“ТАЧДАЎН!”

## ДЗЯЦІНСТВА Ў ПОЎНУЮ ВЕЛІЧЫНЮ

Гадоў у восем-у дзевяць
я вельмі зайздросціў свайму сябруку,
што меў фантастычныя цацкі,
прывезеныя з замежжа:

лакаматывы з вагонамі,
аўтобусы жоўтага колеру,
чырвоныя грузавікі,
легкавушкі, пажарныя
машынкі, салатавыя таксоўкі;

пластмасавыя індзейцы,
якіх было можна абменьваць на каўбойцаў
(хто скажа “каўбояў” – калгаснік);

пластмасавыя каўбойцы,
якіх можна было, як закладнікаў,
абменьваць на індзейцаў...

Зайздросціў так, што бацькі
на апошнія грошы
панакуплялі мне рознага шчасця –
і я супакоіўся.

Але ненадоўга.
Мінула трыццаць гадоў –
і вось я ў Амерыцы, дзе ўвесь час
маю дзіўнае дэжа вю.

Знаёмы колер таксовак,
дызайн пажарных машынак,
грузавікоў і аўтобусаў,
толькі ўсё
чамусьці вялікае і чамусьці
сапраўднае.

А я думаў, такога ў рэальнасці не бывае,
бо іх проста нехта панавыдумляў,
як прыдумалі Тома Соера,
дзядзю Тома,
Тома і Джэры.

Таму я ўвесь час нервуюся –
што адбылося?
Ці я зрабіўся маленькім,
пакаштаваўшы варожае колы
з надпісам “выпі мяне”?

Ці, можа, дзіцячыя цацкі
раптам павырасталі,
пераеўшы хат-догаў
з надпісам “з’еш мяне”?

Або ўсё значна прасцей:
Амерыка вельмі вялікая,
і ўсё ў ёй таксама вялікае,
нават маё дзяцінства –
у поўную велічыню.

Усе мае цацачныя індзейцы
выраслі так, што валодаюць
шыкоўнымі казіно.

Салатавыя таксоўкі
ганяюць у аэрапорт і назад,
адно паспявай ім плаціць.

Што ўжо казаць аб чырвоных
пажарных машынках, якія
абудзяць сірэнай, як толькі
запаліш у ложку.

Мой жоўты школьны аўтобус
сігналіць на скрыжаванні,
адвозячы дзетак далёка-далёка,
у трыдзясятае царства канікул.

Каўбойцы
гасцінна мяне запрашаюць
на ферму ці ранча,
якое зрабілі ці хутка зробяць музеем.

А іх вялікія дзеці,
на пару хвілін адарваўшыся ад айпэдаў,
слухаюць пра беларускага гулівера,
які ў дзяцінстве гуляў з іх бацькамі, –

калі тыя былі маленькімі.

*Аёва-Сіці – Чыкага – Сан-Францыска,*
*жнівень-лістапад 2012*



Уладзімір Дамашэвіч



...чалавек не дрэва, якое дзе пасадзяць,
там яно і расце... мо хутчэй птушка,
якую цягне далячынь, вышыня,
новыя даляглядыі...

# Старэйшы брат

***Апавяданне***

Калі ў цябе ёсць з каго браць прыклад, дык здаецца, што жыць робіцца лягчэй – ты як бы ідзеш па гатовым следзе, які па цаліку пракладае для цябе той, што ідзе спераду. Здаецца нават, нібы ён затуляе цябе ад ветру ці ад калючай мяцеліцы, якая б'е проста ў твар, у грудзі, ажно збівае з ног. А тут ты ідзеш, затулены высокай постаццю з шырокімі плячыма, якая ўсе ўдары стыхіі прымае на сябе – і табе вунь як зацішней.

Так мне здавалася ўвесь час, асабліва ў маленстве, потым і ў юначыя гады, калі перада мною крочыў па жыцці мой старэйшы брат Антось Грынь. А ён крочыў спорна, дагнаць яго была цяжка, і не толькі таму, што ногі ў яго былі доўгія, а мо таму, што галава ў яго была разумная і любыя жыццёвыя задачы ён развязваў – на радасць сваім бацькам – і як мне здавалася, лёгка і проста, бы гуляючы, доўга не думаючы і не трудзячы галавы. Мо таму мне так

здавалася, бо ён ніколі не скардзіўся на нейкія цяжкасці, перашкоды, тым больш – на жыццё. Ён ніколі не быў сумны, змрочны ці прыгнечаны, а тым больш – крыклівы, сярдзіты, хутчэй – смяшлівы, любіў падкалоць лёгкім жартам, але каб не пакрыўдзіць слабейшага за сябе, бо ён быў рослы і дужы ад прыроды – удаўся ў бацьку. Я думаў, што даганю яго па дарозе між дваццаццю і трыццаццю гадамі, ды памыліўся. Яго дагнаць было нельга, і каб не тая бяда, якая з ім здарылася на паўдарозе яго шляху, дык ён быў бы вунь як далёка...

А дагнаць яго было немагчыма, бо ён не стаяў на месцы і не траціў часу нават на кароткія перадышкі – ён крочыў шырокім крокам падарожніка, які ведае, куды ён ідзе і чаго яму трэба. Тут я браў з яго прыклад, хоць ісці па той дарозе, якую ён сабе выбраў, не мог: ён быў матэматык ад прыроды, любіў дакладныя навукі, у той час як я захапляўся літаратурай, запоем чытаў кнігі і пайшоў у настаўнікі, стаў выкладаць родную мову і літаратуру, аддаючы любімай працы ўвесь свой час – і быў шчаслівы.

А ён скончыў фізмат універсітэта, вучыўся выдатна, яго пакінулі ў аспірантуры, праз тры гады ён абараніў кандыдацкую дысертацыю – і прамым ходам пайшоў у навуку. Спачатку ён меў справу з металам, а пасля пераключыўся на модную тады атамную фізіку. Аднак праз колькі гадоў расчараваўся, кінуў яе і зноў вярнуўся да металу – пайшоў у парашковую металургію, якая набывала папулярнасць у навуцы, абараніў ужо доктарскую дысертацыю, стаў спецыялістам высокага класа.

Аднак жа чалавек не дрэва, якое дзе пасадзяць, там яно і расце, стаіць на адным месцы, а калі ў лесе – тым болей. А чалавек мо хутчэй птушка, якую цягне далячынь, вышыня, новыя далягляды. Нешта падобнае адбывалася і з маім старэйшым братам Антосем. Ён увесь час набіраў вышыню, уключаўся ў грамадскую дзейнасць, а пасля пайшоў і ў палітыку, яго захапіла нацыянальная ідэя – і ён стаў аддаваць ёй усе свае сілы. Ён ужо нават каяўся, што не пайшоў па гэтай дарозе адразу, а патраціў гэтулькі часу і сілаў, пакуль знайшоў тое, што яго захапіла цалкам.

Я, гледзячы збоку на яго дзейнасць на палітычным полі, захапляўся ім, як захапляліся ім і яго сябры-аднадумцы. Але мне збоку было лепш відаць, што ў яго дзейнасці ёсць нечаканасці, якія вядуць да небяспекі, ад якой не застрахаваны кожны палітык.

Добра памятаю тую гутарку, калі выказаў яму ўсе свае сумненні. Ён паляпаў мяне па плячы сваёю цяжкаю далоняй і сказаў з усмешкай: “Браце мой Адась, я не адзін, нас нямала аднадумцаў, за намі пойдзе народ, калі дойдзе да вялікіх зрухаў. Мы ўжо саспелі для вялікай палітыкі, ад тэорыі мы пераходзім да практыкі. Памятаеш, што гаворыць у Пушкіна на гэты конт гетман Мазепа? “Давно склоняли мы главы под покровительством Варшавы, под самовластием Москвы. Но независимой державой Украйне быть уже пора, и знамя вольности кровавой я подымаю на Петра.” Вось і мы цяпер, спадзяюся, без крыві, адваюем сабе волю і незалежнасць ад той жа самаўладнай Масквы, пра якую казаў гетман Мазепа. Дыктат Масквы ўжо не трывалы, і трэба ад яго пазбаўляцца. Тая ж Украіна, Беларусь, Грузія, Прыбалтыка, іншыя рэспублікі, дараслі да таго, каб жыць самастойна, без чужое апекі...”

Я тады не згадзіўся з ім, хоць яго ідэю падтрымаў. Я сказаў прыблізна так: я гарой буду за вас, за цябе, старэйшага майго і такога разумнага брата, але я не ўпэўнены, што так будзе, як вы плануеце. Што не так проста і

лёгка зламаць тую машыну, якая стагоддзямі працавала ў адным кірунку, што яна не дае задняга ходу – вось у гэтым уся бяда. І я баюся, каб яна, гэтая машына, не наехала на нас сваімі цяжкімі жалезнымі гусеніцамі.

Антось неяк сумна засмяяўся і сказаў:

“Твой страх я разумею, браце Адаме, мне і самому часам робіцца страшна, як падумаю, з кім мы бярэмся ў рожкі, які гэта сусед – вялікі рускі мядзведзь. Але ж да суседа трэба прывыкаць, ад яго нідзе не дзенешся.”

На што я адказаў, што такога суседа – мядзведзя, дражніць небяспечна, няхай ён лепей паспіць.

Антось зноў засмяяўся і сказаў жартам: “Чым больш спіць, тым больш прагаладаецца. І тое, што бліжэй, – а мы суседзі, – тое яму і трапіць на сняданак.”

Я адказаў, што згодзен з такім меркаваннем, а мараль такая: трэба, каб мы былі горкія, нясмачныя, неядомыя.

“Як гэта зразумець?” – спытаўся Антось.

Я адказаў Антосю, што мы павінны быць, як вожыкі, – калючыя.

“Правільна, – згадзіўся Антось. – Мы павінны быць незалежніцкімі. І для раўнавагі ў нас павінны быць моцныя саюзнікі.”

На гэтым мы спынілі спрэчку, хоць адчувалі, што засталіся нейкія недагаворкі. Толькі потым я падумаў пра тыя вожыкавыя калючкі – што гэта наша нацыянальная адметнасць, якая павінна нас ратаваць. А мо лепш мець не вожыкавы калючкі, а зубрыныя рогі? Відаць, што так было б больш надзейна. Ва ўсякім разе, вожыкавыя калючкі ці зубрыныя рогі – гэта наша галоўная адметнасць – наша родная мова, без якой мы прападзем. І гэта ведаюць усе нашыя суседзі, апроч нас саміх, каму і пагражае знікненне.

Між тым, час ішоў, ён прыкметна мяняўся ў лепшы бок, а потым неяк нібы спыніўся і нават падаўся назад. Стала цяжка дыхаць, цяжка гаварыць на роднай мове. Шмат хто расчараваўся ў перабудове, яна не прынесла таго, чаго многія чакалі, а перш за ўсё – не вярнула народу яго родную мову, не пусціла яе ў гарады, у школу, у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Дзяржаўны чыноўніцкі апарат не стаў беларускім, як таго патрабавала Канстытуцыя, а па-ранейшаму гаварыў па-руску.

А мой старэйшы брат Антось, нягледзячы на засуху на роднай глебе, рос як на дражджах, ён набіраў сілу, узрастаў яго палітычны рэйтынг, ён відавочна выходзіў у лідэры. Якраз гэта не ўсім падабалася, асабліва тым, хто быў наверсе, хто стаяў бліжэй да стырна. Я ўжо стаў баяцца за брата, не спаў па начах, а як спаў, то без канца сніліся страшныя сны – і ўсё круцілася вакол Антося. Чорныя хмары збіраліся над галавою майго брата – я адчуваў гэта сваім нутром, сваёю скурай.

Калі я яму гаварыў пра гэта, ён смяяўся: у страха вочы вялікія. І дадаваў: ваўкоў баяцца – у лес не хадзіць.

А яму ў адказ я нагадаў адну прымаўку, якую часам гаварыла наша мама: каровы сцеражыся спераду, каня – ззаду, а дурня – з усіх бакоў.

Брат Антось стаў сур’ёзны, задумаўся на хвіліну і сказаў напаследак: “Ты падказаў мне рашэнне адной складанай задачкі. Дзякуй, браце!”

Я не стаў яго распытваць пра “задачку”, ведаў, што ён не скажа, тым больш, калі яна яшчэ не рэшана. Мы развіталіся, нават не падазраючы, што бачымся апошні раз.

Як гэта не вязалася адно з другім: Антось – і раптоўная гібель! Асілак,

дуб, вернігара – і такое неверагоднае здарэнне, такая недарэчная развязка! Нібы гром з яснага неба ўдарыў мяне ў самае сэрца. Яно, здаецца, спынілася зусім, у мяне пацямнела ў вачах, я апусціўся на зэдлік, ля якога стаяў, тэлефонная трубка бразнулася аб падлогу, калі я пачуў гэтую страшную вестку ад Антосевай жонкі. Яна, праўда, дала мне маленькую нітачку надзеі, сказаўшы, што Антось у коме...

Аказалася, што мой страх за яго жыццё быў не дарэмны, маё сэрца чула бяду, яе страла была скіравана на яго, майго старэйшага і любімага брата. Хоць я ўжо даўно не дзіця, не юнак, але мне і цяпер была патрэбна братава падтрымка, парада, яго цвярозая ацэнка той ці іншай падзеі, таго ці іншага факта. Мне цяпер здаецца, што ён сам не менш за мяне адчуваў тую небяспеку, якая, бы той Дамоклаў меч, вісела над ім, як наверсе адчулі і ўбачылі, што ў іх з'явіўся моцны і небяспечны канкурэнт. Аднак Антось не паказваў свайго страху, не паказваў лёгкага хвалявання, хоць ён добра разумеў, хто стаіць у яго на дарозе, і што патолі ў гэтай схватцы яму не будзе.

Ён чакаў удару, толькі не ведаў, калі і адкуль ён будзе. І не падазраваў нават, што гэта якраз тое, чаго трэба было баяцца.

...Добра чужымі рукамі жар заграбаць. Верныя слугі зробяць усё, што ім загадаюць. Асабліва тыя, што нечым сябе заплямілі, у нечым правініліся, якіх схапілі за руку, поўную чужога дабра. Тады пытанне ставіцца рубам: не хочаш ісці на нары – зрабі невялікую паслугу. Усяго толькі. Зусім нязначную, маленькую-маленькую...

Каму гэта ахвота грэць мулкія нары, калі можна там нешта зрабіць – і атрымаць вольную волю? Хіба можна ўстаяць ад такое спакусы? Лаві момант, бо другога такога моманту можа не быць!

...Выбар аказаўся правільны. Асоба жаночага роду пэўны час кіравала фінансамі, хадзіла каля вялікіх грошай. Яна і падумала, як бы гэта ад вялікай фінансавай рэчкі адвесці невялічкі ручаёк і скіраваць яго ў свой агарод, каб можна было паліваць свае грады? Зрабіла, ручаёк пацёк, ды нядоўга расла яе капуста. Ручаёк перакрылі, а ёй рыхтаваліся нары. Як пісаў адзін паэт: хацеў на Канары, а трапіў на нары. Праўда, яна яшчэ была пад хатнім арыштам, і ўжо нават доўга. І вось надарыўся момант – не праваронь!

Лежачы на прасторнай канапе, з пераноснага тэлефона яна набірае знаёмы нумар, па якім даўно не званіла. Чуе гудкі і потым голас: "Я вас слухаю!"

– Алё-алё! Гэта Антось? Вітаю цябе! Не пазнаў? Я – Ніка. Цяпер пазнаў? Вось бачыш... Даўно не чуў майго голасу, я цябе разумею... Ты таксама мяне зразумей... Я ж пад пільным вокам народнага слугі... Але вось дазволіў табе пазваніць... Я так хацела цябе бачыць... Як гэта зрабіць? Вельмі проста! Ты ж ведаеш, дзе я жыву. Прыходзь... Цябе прапусцяць – без усякага пропуску, вось пабачыш... Антоська, чакаю! Праз якую гадзіну – абяцаеш? Буду рада цябе бачыць!

Для Антося гэта была вялікая навіна. Ніка, якая ўжо з паўгода пад хатнім арыштам, раптам успомніла пра яго! Захацела яго бачыць. Вельмі дзіўна! Але, падумаўшы, Антось згадзіўся: паглядзець, пачуць нейкае новае слова. Мо хоча што выпытаць? Мо папрасіць дапамогі? Антось, мой старэйшы разумны брат, не падазраваў, у якую пастку ідзе сваім ходам, па сваёй ахвоце, у якую воўчую яму ўпадзе...

Яны там пілі каньяк армянскай маркі з нейкіх дзіўных келіхаў, цяжкіх, як свінцовых, з тоўстым дном і завужаным верхам. Ніка наліла сабе трошкі, а яму амаль да краёў, гаварыла: “Ты ж мужчына, ды яшчэ такі вялізны, прабач, як мядзведзь, што табе значыць уся гэтая пляшка? А мне і некалькі кропель даволі. Бачыш, якая я стала? Хоць ідзі ў балет, мяне будзе лёгка лавіць у падтрымцы... Ой, даўно не была на балеце, цэлую вечнасць! А я так люблю балет... Але прабач, раскажы, як ты?.. Ты ўсё расцеш, хоць ты і так высокі. Пра цябе так шмат гавораць... Ты недзе ў першай тройцы... Як ты лічыш? Мо нават у двойцы. Мо гэта небяспечна? Ты не адчуваеш? Глядзі, бо га-Спадар не любіць канкурэнцыі... Адкуль я ведаю? Ад яго самога, ад каго ж яшчэ? У яго на гэта нюх ганчака... Так што раю не наступаць яму на пяты, дыхаць у патыліцу, ён гэтага не пераварвае, як і кожны выскачка... Тым болей, што ты за роднае слова стаіш. Гэта не крымінал, але ўлічы тое, што ён русафіл, расейскае яму даражэй за сваё... Мо гэта ад выхавання, мо яшчэ ад чаго – не ведаю... Крамлёўскія амбіцыі... А што ты думаеш? Аб’яднаемся, і ён – раз, адзене шапку Манамаха. Пастава, рост: чым не той жа Іван Грозны, а па-нашаму Жахлівы? Як ты лічыш? Не верыш? Мо і дарэмна. Ён на гэты конт мае сваю думку, я не раз чула такія размовы ў яго акружэнні. Ці мо гэта хвароба росту? Але дакуль можна расці? І так вырас пад неба, а..

Яна не дакончыла гэтай прымаўкі, асеклася – відаць, разумела, што іх гутарка недзе запісваецца, мо нават вось за гэтым круглым столікам, недзе пад стальніцаю, і тут жа перадаецца на пост праслушкі.

Антосю карцела ведаць, чаго ж яна яго паклікала – і ўсё нешта цягне, ходзіць кругамі: ці хоча нешта выведаць, ці нешта важнае папрасіць. Урэшце, здаецца, рашылася:

– Антоська, я табе веру, як сабе, ты мяне не выдасі... Я хацела цябе папрасіць, каб ты пагаварыў з га-Спадаром. Закінь за мяне слоўца... Ты ведаеш, пра што я гавару... Каб мне далі дзень-два волі, мне трэба з’ездзіць у адно месца. Так трэба, што да зарэзу, інакш мне канцы. Богам цябе прашу, ты чалавек з галавою, ты ўплывовы, ты пераканаеш яго, хоць ён і ўпарты, як... як той востраў у Балтыйскім моры, Эзэль называецца... Ты разумееш, што я хачу сказаць... Ты яго папрасі, пераканай, што інакш яна, гэта значыць, Ніка – не вынесе, рукі на сябе наложыць, так ёй трэба гэтыя два дні... Ну, Антоська, абяцай мне, што ты пагаворыш з ім, гэтым... Ты пераканаеш яго, абавязкова пераканаеш... Ён цябе паслухае, вось пабачыш...

Антось абяцаў пагаварыць. Яны з палёгкай развіталіся.

Праз якую гадзіну пасля таго, як Антось пакінуў гасцінную кватэру Нікі, з ім здарылася бяда. Здаровы, дужы фізічна чалавек ні з сяго ні з таго раптам адчуў страшэнны ціск у галаве – нібыта ў яго нешта ўзарвалася ці раскалоліся мазгі. Зямля пад ім гайданулася, уздыбілася – і ён цяжка ўпаў на тратуар, па якім нядаўна ішоў. І што было далей, ён ужо не помніў – усё прапала, а ён апынуўся, як у чорнай непрагляднай каламуці, у якой не было ні пачатку, ні канца. І яго самога ўжо не было на гэтым свеце, а ўсё тое, што рабілася далей, ужо яго не кранала, яго не датычыла.

Людзі на вуліцы выклікалі “хуткую”, Антося забралі ў бальніцу. Але там, як на бяду, не было патрэбнай апаратуры, пры дапамозе якой можна было б устанавіць прычыну хваробы і ратаваць чалавека. Не знайшлося нават кваліфікаваных медыкаў, каб паставіць правільны дыягназ. Яго

фактычна не лячылі, а чакалі некага ці нечага, а час ішоў, з ім адыходзіла і Антосева жыццё. У палату да яго не пусцілі нават жонку Надзею, няйначай, баяліся, што яна ўзніме крык і запатрабуе ратаваць яе мужа, а не чакаць і спадзявацца на цуд.

Цуду не сталася, красавіцкай светлаю раніцай Антось пакінуў гэты свет, так і не прыйшоўшы да памяці. І што ж паказала ўскрыццё? Аказалася, што ў яго моцнае кровазліццё ў мазгі, як пры моцным удары па галаве, хоць відавочных слядоў траўмы не было знойдзена. Выходзіць, што "ўдар" быў выкліканы, хутчэй за ўсё, нейкім прэпаратам, які трапіў у арганізм з выпітым у гасцях каньяком.

А ў той дзень, як было Антосева пахаванне, Ніка чамусьці недзе знікла, і, што зусім незразумела, яе сталі шукаць у кватэры, дзе жыў Антось, робячы такім чынам Антося саўдзельнікам у прапажы Нікі, а саму Ніку – сяброўкай Антосевай сям'і. У той час, як Ніка магла б стаць першай, каго можна западозрыць у Антосевай гібелі. Чаму ўсё так перакручана ў гэтай гісторыі, пытанне застаецца закрытым. Як засталіся закрытымі вынікі анатамічнага даследавання...

Дык ад якой хваробы так нечакана памёр мой старэйшы брат Антось? Я ведаю... Я ведаў свайго брата, і шчыра скажу, што гэта быў дужы, фізічна моцны чалавек, які ніколі не скардзіўся на сваё здароўе, які ўсё сваё свядомае жыццё займаўся спортам, і памерці так, без дай прычыны, ён не мог, у гэтым я ўпэўнены.

Камусьці ён замінаў, кагосьці ён зацямняў – сваім аўтарытэтам, сваёю адукацыяй, сваім поспехам у шырокай грамадскасці. Як сказаў адзін навуковец, які добра ведаў Антося, што менавіта ён, Антось, быў надзеяй Беларусі на новы лад жыцця.

Не магу, не жадаю змірыцца са стратай свайго старэйшага брата Антося, які шмат зрабіў, яшчэ больш мог бы зрабіць – для мяне, для ўсіх, хто яго ведаў, хто ў яго верыў. Яго мудрая галава таіла ў сабе магутныя творчыя сілы, так патрэбныя нашай краіне і яе народу.

Я даўно не плакаў. А сёння я плачу горкімі слязьмі па сваім браце, які, не дайшоўшы да мэты, раптоўна загінуў, спатыкнуўшыся аб камень, кінуты яму пад ногі чужою рукою.

---

"Дзеяслоўцы" шчыра віншуюць свайго сталага аўтара
Уладзіміра Максімавіча Дамашэвіча
з васьмідзесяціпяцігоддзем
і зычаць яму моцнага здароўя, аптымізму,
душэўнае трываласці і новых твораў!

Серж Мінскевіч



...Там і тут
каметы
Апладняюць планеты...

# Адвечны рэчытатыў

* * *

*Świeży więzień dziś wstąpił do nowicyjatu...*
Адам Міцкевіч.

Калі ачуняеш у сейфе
Нібыта на скроні націснулі *save*
Адчуй сябе зліткам дыяментам акцыяй
каштоўнай каштоўнасцю
ахоўнай ахоўнасцю
вартасцю пад вартаю...

І не зважай што там дзесь
недалёка харазство, хай Раство,
Бо і Санта Клаўс разам з табою
хварэе
на клаўстрафобію...

## *МАРСКІ ТРЫПЦІХ*

### I. Дэльфінам

Акуратна акуратна з дэльфінамі
Яны бліскаюць сінімі спінамі
Яны нас падаўляюць культурна
Інтэлектуальна і бурна
Не плавайце з імі разам
У іх занадта экстазу
У іх усмешка Джаконды
І моц анаконды

І гэта закон, аснова асноў
Не дражніць тых
У каго больш мазгоў

### II. Акулам

Акуратна акуратна з акуламі
Гэтымі пажаднымі тулавамі
Яны падаўляюць фізічна
Нервова і неэтычна
Рэфлекторна і імпульсіўна
Інстынктыўна і канвульсіўна

Іх бязгубая ўсмешка і зубы
Могуць прывесці да згубы.

І гэта закон, аснова асноў,
Не дражніць тых
У каго меней мазгоў

### III. Астатнім

Трэба быць акуратнымі
з кітамі сінімі і гарбатымі
з касаткамі і чарапахамі
з кракадзіламі-алігатарамі
каракаціцамі і ска́тамі
га́дамі хвастатымі
п’яўкамі, марскімі
                    канькамі, вожыкамі,
цюленямі, коцікамі,
                    моржыкамі
З кальмарамі і васьміногамі
З ракападобнымі
                    і членістаногімі
З малюскамі і медузамі

нікога такога не юзайце
каб вас такія не юзалі

І ўсё будзе добра,
прыстойна
Я за вас буду спакойны

## *КРЫК*

*Я адчуў моцны крык, што пранікае праз усю прыроду...*
Эдвард Мунк.
*И ветер криками изрыт...*
Барыс Пастарнак.

Паветра працятае
Свідравінамі нашага крыку
Напяты струмень дробна дрыжыць
Сківіцы закамянелі
Аранжавы пыл
І рудыя хвалі
І бэзавыя цені
Палаюць у прасторы
На кроплі паднёбнага язурка
Мы трымаем дыяментавы бур
І разбураем кераміку вольных вушэй
Крышым парцаляну аблокаў
Каб толькі знішчыць дарэшты
Парэшткі
чужога
рэха

## *З нізкі “РЭП-ПЕТЫЦЫЯ”*

## *АДВЕЧНЫ РЭЧЫТАТЫЎ*

Нібыта павукі разбягаюцца дарогі
Нібыта чарвякі распаўзаюцца крыніцы
Нібыта крапівою хвіліны джаляць ногі
Нібыта нам з табою ніколі не спыніцца

Нібыта мы заўсёды са стромае гары...
Нібыта нам нягодай і ветразі і крылы
Нібыта не чакаюць нас лепшыя сябры
Нібыта напінаем свае дарэмна жылы

Нібыта адкацілася з пляча цяжкою клумкай
Нібыта скон старое жыцця перакананне
Нібыта ў нас не спела ніколі гэта думка:
Нямарная нямарнасць – любоў-мілосць-каханне...

* * *

Давай Давай
Грызі жыццёвы рэбус
Ўставай Ўставай
Бо блізка ўжо тралейбус
Хапай Хапай
Кавал свайго паветра,
Ўскрывай Ўскрывай
Завараны калектар

Штурхай Штурхай
Мясі нагамі глебу
Нічога Не цурай-
Ся табе яшчэ шмат трэба...

## *З нізкі "МЕТА-ФАРЫ"*

* * *

Вечар здабывае з неба нафту
Ён яе запаліць заўтра
І абагрэе апошняга п'яніцу,
Новая Раніца...

* * *

Усё гарманічна
сіметрычна
метафізічна
метафарычна
І ў нас
і ў прасторы касмічнай
Там і тут
каметы
Апладняюць планеты

## *З нізкі "УСХОД ДНЕЕ"*

### *ГАЗЕЛЬ ДА СОНЦА*

Ты палаеш над намі, як кінжальная ружа, о Сонца!
Як нявеста каханая вернаму мужу, о Сонца!
На далонях тваіх і ласка, і ўкрытая рэўнасць, –
Гэтым нішчыш няўвагу, цямрэчу і сцюжу, о Сонца!

І як лекі і зброю даеш нам сваё хараство –
Адпадае ўвесь бруд, калі вочы я мружу, о Сонца!

## *РУБАІ ДА ЗЯМЛІ*

Жывем тут, цяпер... што было?.. а што будзе пасля?
Расліны ўставалі, а на іх запаўзала і тля,
Яе мурашы пасвяць, дояць, і што з той раслінай?
Стварэнне стварэнню – стварэнне, сцвярджае Зямля.

** * **

*Туюг Амару Хаяму*

О колькі на свеце жыцця: чалавек, дуб, мікроб, грыб, амар...
А подыхаў колькі? Паглядаў? А песень, а дум, а мар?
Ты нас эліксірам здуменняў і папаўнення не-ведаў
Паіў з піялы дзвюх далоняў у выглядзе сэрца, Амар.

## *ШАЛ І СУМ БУР*

*скразны санет з аплікацыяй, двайной газеллю*
*і чатырма залюстраванымі туюгамі*

Пісаў паэт – адзін з вядомых Юр:
"Дом на юры, вятры цалуюць юр...",
І гэта не якая-небудзь з мур,
Ён славіў краскі, хараство і юр,
І словы варта вывесці на мур,
Дзе коткі лашчацца на сонцы: "Мур".

Трубіць праз гэта на ўсю пушчу тур,
Ідуць баі ладдзей, а можа тур,
І на Амудар'ю ці на Амур
З'язджаюць людзі ў экстрэмальны тур,
Каго падстрэліў стрэламі амур –
Каханне тут віной – мілосць, амур.

І ў галаве, і ў сэрцы, і ў вачах – сумбур,
І адчуваеш сюр – шал і сум бур!

## *З НІЗКІ "ЛІМЕРЫКІ-ТУЮГІ"*

** * **

На Ангарскай я сеў у "Газель",
Уявіў, як гарцуе газель,

Прапусціў цэлы круг – напісаўся туюг,
А хацеў напісаць я газель.

* * *

У нацбанку банкір сумаваў,
Пазяхаў, але ўсё ж сумаваў.
Ён раптоўна падскочыў і на ўласныя вочы
Бачыць, выйшла ў яго сума “ваў!”.

* * *

– Гэй спявайце – до рэ мі фа соль! –
З нас зганялі наш час, пот і соль.
Дый не будзе работы без усякай ахвоты,
А ў ахвоце і ёсць сама соль.

* * *

Мне на мове ангельскай, на пары,
Практыкантка ўляпіла дзве пары,
Каб узняцца на неба, здаць іспыты не трэба,
Мы цяпер з практыканткай у пары.

* * *

Самалёт узлятаў, як Ікар...
Вадзіў хлопец валізкі і кар, –
Вось так можа быць мроя вельмі жорсткай і злою...
І крумкач як на злосць: “Кар і кар!”

* * *

*Прысвячаецца ўсім паэтам...*

Збіўся з тропу я, кружыць прастор, –
Што спакмень майго верша – прас? Тор?
Альбо слон і пагоркі, піраміды і зоркі?
Можа, скласці туюг мне пра сто “Р...”



Уладзімір Сцяпан



...чуеш, Бог,
а цябе няма!..

# Падрабязнасці

*Навелы*

## Снарад

Вакно белае, чыстае, зімнае і светлае. На шырокім падваконні белы вазон з аліясам. Паліцы з кнігамі, за шклом фотаздымкі, дробная пластыка: пташкі, звяркі, рыбкі і компас. Тэлевізар працуе гучна. Так гучна, што і суседзі чуюць галасы актораў, спевы, рэкламу, сабачы брэх, навіны, прагноз надвор'я. Стары пры гэтым тэлегармідары спіць. Сядзіць у сваім вялікім скураным фатэлі і спіць. Рукі пад пледам, выпрастаныя ногі ў кароткіх валенках абапіраюцца на пяты, круглымі насамі глядзяць у столь. Побач, на часопісным століку, шклянка з вадой, лекі ў яркіх рознакаліберных бутэлечках і пачках, тэлевізійны пульт і разгорнуты нататнік з роўнымі радкамі. Літары неразборлівыя, дробныя, як шрот. Кавенька адным канцом у вялікую кветку на выцертым кіліме паказвае, а другі пад пледам схаваны.

У шэрых валёнках дзевяностагадовы генерал ходзіць па кватэры трэці год. Можа, гэта толькі здаецца яму, а можа, так і ёсць, што ў доўгіх ваўняных шкарпэтках і абрэзаных валёнках ногі менш мерзнуць, і не так моцна баляць, не падгінаюцца і лепш слухаюцца гаспадара. Скідаць такі абутак зручна і хадзіць зручна, бо не чапляюцца валёнкі за кілімы і парогі.

Як заўсёды, стары не пачуў, як у замку павярнуўся ключ, як грукнулі цяжкія дзверы. Ён прахапіўся з іншай прычыны – халадок скразняку прабег па твары, дадаў зморшчынак на шчоках і пад вачамі. Правая рука вылезла з-пад пледа, намацала кавеньку, сціснула. Кавенька ўдарыла ў падлогу. Не ў кілім, а ў паркет. Потым яшчэ раз і яшчэ. З доўгага калідора пачуўся гучны голас Насты: “Гэта я, Канстанцін Мікалаевіч, не трэба паркет псаваць! Людзей палохаць”. Потым жанчына павіталася, сказала, што на вуліцы сцюдзёна, ветрана і гуляць яны сёння не пойдуць, бо можна захварэць. Лепш будзе, калі яна яго памые, але спачатку прыгатуе паесці і збярэ сняданак. У руках Наста трымала торбу з прадуктамі і бутэльку з мінеральнай вадой. Стары глядзеў на сваю сядзелку, якой было пяцьдзясят пяць, яна здавалася яму бессаромна маладой, і радасна міргаў голымі, як у яшчаркі, павекамі. Ён паспеў пагаліцца, прычасаць рэдкія бясколерныя валасы, але на запалых скронях яны тырчэлі і трохі прыгожа кучаравіліся.

Побач з тэлефонам ляжаў тэлевізійны пульт. Генерал узяў яго, нацэліў у экран і колькі разоў цвёрдым, але слабым пальцам ціскануў чырвоную кнопку. Экран згас.

Раз на месяц ён хваляваўся. Самым цяжкім для старога генерала было мыцца. Раней ён любіў ваду, мог доўга плаваць. Аднойчы, на Чорным моры, заплыў так далёка, што перастаў бачыць бераг. Ён бы і яшчэ далей мог плыць, але памежнікі не далі. Падумалі, што ён вырашыў збегчы па моры ў Турцыю. На палубе кацера вайскоўцы на яго сварыліся, а ён адмоўчваўся. Сядзеў, цяжка дыхаў і маўчаў. Ён і сабе не мог растлумачыць чаму заплыў так далёка, аж за два кіламетры ад берага. На прыстані лейтэнант і два сяржанты спалохаліся, калі даведаліся, што гэты немалады мужчына, бок і плячо ў шнарах, а на запясці гадзіннік – генерал. Пачалі выбачацца і чырванець... Цяпер, калі б увайшоў у глыбокую ваду, няхай сабе і возера, то вада б не стала яго трымаць. Ён гэта ведаў...

Пасля сняданка сядзелка пераапранулася ў кароткі халат без рукавоў, пачала наліваць ванну.

Яму было няёмка і сорамна, калі Наста дапамагала яму падняць нагу, каб пералез праз борцік ванны, а потым і сеў у духмяную ваду. Сорамна, калі цёрла рудой мачалкай яго нямоглае і белае цела, ліла на патыліцу, шыю і спіну цёплую ваду. Яму няёмка, а яна смяецца. Каб гадоў трыццаць назад такое, а лепш сорак, то і ён бы смяяўся, а цяпер бездапаможна злаваўся на сваю немач. Яна дала яму патрымаць кавалак мыла. Ён хацеў сціснуць, а яно выслізнула з мокрых пальцаў, булькнула ў ваду. Як ні стараўся, а дацягнуцца не мог, сагнуцца не атрымлівалася... Ён знясілена паклаў рукі на борціку і апусціў галаву. Наста нахілілася, яе гладкая рука ў дробных кропках радзімак, прайшла праз пену, дакранулася да яго калена, мякка адсунула нагу, намацала мыла, слізганула па нерухомаму сцягну і з’явілася над ваннай. З яе рукі сыпаліся кроплі.

– Прабач, Наста, слізкае яно, як рыбіна, не ўтрымаў, не падумай чаго...

– Калі і падумаю, то што з таго. Свет хіба перакуліцца? Давайце галаву мыць. Вада не халодная, можа падцяпліць? Не, дык не, як скажыце. Сёння суп, рыба мяккая, зусім без костак, салата і кампот з вішнямі... Загаварылася тут, а там тэлефон разрываецца. Гэта вашы, відаць, – сказала Наста.

Выцерла рукі і заспяшалася ў вялікі пакой, дзе побач з карычневым старым фатэлем трашчаў на нізкім століку вялікі кнопачны тэлефон.

Ён не чуў ні з кім, ні пра што яна гаварыла. Сядзеў у цёплай вадзе з заплюшчанымі вачамі, і яму было лёгка. Думаў пра жаночыя рукі, грудзі, а найбольш пра жывот... Калі Наста з'явілася, калі ўзяла мачалку, то сказала будзённа, як пра суп, рыбу і кампот з вішнямі, што тэлефанаў нейкі Петах, а можа Ветах, яна не паспела перапытаць... Гэты чалавек, нават не пацікавіўся, як генерал сябе пачувае, а толькі і сказаў, што ўчора памёр палкоўнік Бараневіч, пахаванне адбудзецца заўтра, на Вайсковых могілках...

Стары сядзеў нерухома, як у сумёце, і яму раптам зрабілася халодна ў цёплай вадзе. Так зябка, што ногі пачало круціць.

– Што, харошы быў чалавек гэты Бараневіч? Давайце тую руку, цяпер бок, а ногі потым. Колькі яму гадоў, як вам? Вой, не заўважыла – вада зусім злецілася, трэба падцепліць... І пазногці трэба паабразаць.

Яна яшчэ нешта гаварыла, але ён не прыслухоўваўся...

– Заўтра пойдзем з табой на пахаванне, – важка сказаў стары, і пакуль не апрануўся ў чыстае і сухое, то больш не прамовіў і слова, на пытанні не адказваў, як не чуў. Вада заўсёды забірала шмат сілаў.

Папалуднавалі. Генерал еў неахвотна, адно, каб Насту не крыўдзіць. Кампот не дапіў. Падняўся, падзякаваў і пайшоў у вялікі пакой. Сеў у свой фатэль і папрасіў, а хутчэй загадаў, каб Наста прынесла з канапы ў кабінеце чамадан. Калі чамадан са скуранымі вугалкамі ляжаў побач з фатэлем на нізкім століку, то стары ўздзеў акуляры і адкрыў яго. Знайшоў чорную вялікую капэрту, выцягнуў пачак папер. Наста памыла посуд, потым пачала выціраць пыл. Стары паглядзеў на яе і папрасіў падысці. Ён паказаў ёй фотаздымак колеру тытуню, з пакамечанымі ражкамі. З картачкі пасміхаўся афіцэр з пляскатым, як блін, тварам і дробнымі зоркамі на пагонах.

– Гэта той самы Бараневіч, я правільна зразумела?

– Той, але тут ён малады.

– Непрыгожы... – прамовіла, аддала здымак і пайшла да пліты.

Потым стары генерал падняўся з фатэля. Наста чула яго дыханне з прысвістам, чула, як грукае кавенька. Чула, як адчыніліся дзверы спачывальні, двойчы пстрыкнуў выключальнік.

Гаспадар паклікаў жанчыну ў спачывальню. Нязвыкла пад высокай столлю гарэла жырандоля на шэсць лямпачак і таршэр побач з акуратна прыбраным ложкам. Стары стаяў перад глыбокай, але не надта высокай шафай, дзверкі наросхрыст. З шафы пахла нафталінам, адэкалонам і ваксай. Ён дакрануўся левай рукой да каракулевага футра, якое нагадвала вялізны кокан, бо яго абгортвала марля. Побач віселі, а здавалася, што стаяць плячо да пляча шэрыя шынялі з бліскучымі пагонамі. Наста выцягнула футра, перакінула праз руку. Яна не ведала што рабіць далей.

– Пакладзі на ложак, разгарні і памерай. Ты павінна добра выглядаць. Там, на паліцы, у кардонцы такі ж берэт, шэры і цёплы. – Генерал паказаў кавенькай на адну з кардонак на верхняй паліцы, сярод фуражак з бліскучымі брылькамі, побач з сівой папахай.

– А чаму ваша дачка сабе не забрала?

– Я не дазволіў. Што стаіш, надзявай. І берэт мерай.

Стары ішоў у залу, да свайго фатэля і гучна, як усе, хто недачувае, гаварыў: “Паедзем на таксі. Мне трэба яго пабачыць. Машына нас пачакае, а потым вернемся”.

Ён не чуў, як Наста выйшла са спачывальні, як увайшла ў пакой.

– Мне няёмка, Канстанцін Мікалаевіч, як у паліклініцы з гардэроба чужое ўзяла... Навошта ўсё гэта? Не, я ў гэтым футры з кватэры не выйду. Будуць потым казаць, што я вымантачыла адзежу вашай жонкі і хаджу. У мяне ёсць сваё сіняе паліто з капюшонам і цёплы белы берэт, зусім новы.

– Пальчаткі ў цябе ёсць? Чорныя? Выдатна...

– Можна я футра на балкон павешу, каб выпетрыўся гэты пах нафталінавы?

Стары глядзеў на сваю сядзелку, якая павярнулася, паправіла крысо, зашпіліла адзіны бліскучы гузік і зірнула ў шкло кніжнай шафы. Генерала не цікавіла, што скажа Наста. Калі ён вырашыў, то спрачацца з ім бессэнсоўна. Ён бачыў, як яны пад’едуць, як выйдуць з машыны і пойдуць да натоўпу пад чорнымі дрэвамі. Ён ведаў месца, ведаў, што Бараневіча пахаваюць побач з жонкай. Снег. Зямля. Вянкі. Але ён прыйдзе без кветак. Прыйдзе, каб плюнуць на магілу...

Пацягнула скразняком. Гэта Наста вынесла на балкон і павесіла шэрае каракулевае футра...

Генерал адчуў, як па ўсім целе, ад патыліцы да пальцаў на нагах прабег халадок, а потым у жываце зрабілася пуста. Ён паспрабаваў падняцца, каб дайсці да прыбіральні. Падняўся і пайшоў. Запаліў святло ў прыбіральні і застыў, не ставала сілы скрануцца і адняць ад сцяны руку. Падумаў, што трэба паклікаць жанчыну, але голас прапаў, рот адкрыўся-закрыўся, як у рыбіны... Хіснула на сцяну. Упаў, ударыўся галавой аб вушак...

Наста пачула, як дзверы прыбіральні ляснулі жалезнай ручкай у кафлю сцяны. Звонка, як малатком у шкло. Зрабіла ад пліты тры хуткіх крокі. Убачыла валёнкі, насы ўгару, кавеньку, якая ляжыць на падлозе...

Дзеці і дзеці дзяцей вырашылі, што час прыйшоў, і ў вялікай генеральскай кватэры з’явіўся чорнабароды святар з чорным партфелікам. Святар яшчэ на лесвічнай пляцоўцы сутыкнуўся з медыкамі, якія з кватэры выходзілі. Медыкі, з разуменнем справы, павіталіся першымі, святар адказаў. Яго чакалі. Ён выцер ногі. Круглатварая жанчына прыняла паліто і павесіла ў шафу. Яна правяла яго па доўгім і цёмным калідоры, паказала дзе памыць рукі і якім ручніком выцерці. Святар паставіў на падлогу партфельчык, а калі выйшаў з ваннага пакоя, то Наста правяла яго і адчыніла дзверы ў спачывальню. Святар агледзеўся, акуратна і з павагай адсунуў танометр, паставіў на стол партфельчык, расшпіліў, дастаў “Псалтыр”, шырокую барвовую стужку, расшытую золатам, срэбны келіх на тонкай ножцы, перахрысціў свой рыштунак, і толькі цяпер уважліва паглядзеў на старога, які ляжаў на ложку.

І святар, і дзеці, якія хадзілі па кватэры, – нехта гатаваў сабе распушчальную каву, браў з серванта распісныя філіжанкі – ведалі, што стары да вечара не дацягне, бо так і медыкі казалі, але і без дактароў можна было беспамылкова прагноз рабіць. Галава забінтаваная. Твар шэры, рэдкія валасы да скроняў прыцісналіся, нос востры, рот уваліўся, рукі жоўтыя,

ні крывінкі, і не слухаюцца. Ляжаць на коўдры, як на снезе. Нікога дзед не пазнае, на пытанні не адказвае, вось-вось апошні раз уздыхне.

Голас у святара гучны і шчыльны, як лямец валёнка, і такі ж шэры. Ён паспеў толькі прамовіць: "Раб божы Канстанцін..." Хацеў далей сваю справу рабіць, але заўважыў, што рукі перавярнуліся дагары далонямі і сціснутыя пальцы, як плаўнікі рыбіны, рух зрабілі. "Бліжэй! Бліжэй!" – папрасіў стары.

Ён глядзеў на святара такім позіркам, што той разгубіўся. Позірк насцярожыў і не спадабаўся, бо адсутнічалі ў ім, як пакора, так і згасанне. А што было ў вачах, святар не разабраўся, бо часу бракавала, да і сваіх праблем хапала, каб думаць пра кожнага хворага. Але чорнабароды святар наблізіўся, нахіліўся крыху, галаву павярнуў, вухам да хворага.

– А ты ведаеш, чаму снарад з гарматы семдзесят шостага калібра ляціць далей, чым снарад трыццаць сёмага? – ціха, але разборліва спытаў стары. – Я табе скажу. Хуткасць у іх аднолькавая, чатырыста пяцьдзясят метраў за секунду. Але цяжкі снарад праляціць пяць тысяч сямсот метраў, а лёгкі чатыры тысячы сто метраў... А надалей заляціць снарад з гарматы калібрам сто пяцьдзясят два міліметры. Ён самы цяжкі. Усе лёгкія снарады пападалі...

Святар не зразумеў, навошта яму ведаць пра нейкі снарад. Падумаў, што пачалося прадсмяротнае трызненне, што розум пакідае старога вайскоўца. Але кожнае слова прамаўлялася ўпэўнена, а позірк зрабіўся здзеклівым...

– Раб божы Канстанцін... – пачаў святар.

– Не трэба!

Праз пяць хвілін святар выйшаў. Генерал не захацеў яго слухаць, ад споведзі адмовіўся. Такое з чорнабародым святаром адбылося ўпершыню, і ён выглядаў разгубленым і пакрыўджаным. Паклікалі, сказалі, каб спяшаўся, бо хворы амаль не размаўляе і сваіх пазнаваць перастаў.

Дачка і сын генерала папрасілі ў святара прабачэння за бацьку, заплацілі за дарэмныя клопаты. Круглатварая жанчына падала паліто, чорны партфельчык патрымала, правяла да ліфта.

У кватэры гучна і незадаволена гаманілі дзеці старога і дзеці дзяцей. Два ўнукі, гадоў па сорак, палілі пры балконе і смяяліся. "Добра, што палкай не пабіў, мог жа..." "Каб сілы былі, то пабіў бы, во дае дзед, каб не на машыне, выпіў бы за яго здароўе. Чуў, што твайго шэфа турнулі?"...

Наста сядзела на крэсле побач з хворым і пасміхалася. Яна ведала, чаму цяжкі снарад з гарматы калібрам сто пяцьдзясят два міліметры, вагой сорак адзін кілаграм, пры хуткасці чатырыста пяцьдзясят метраў за секунду заляціць далей, чым снарады меншага калібру і меншай вагі...

– Добра, што памыла, дзякуй, – ціха сказаў генерал і паляпаў рукой па коўдры. – Шкада, пазногці не паспела абрэзаць.

– Адпачывайце, Канстанцін Мікалаевіч...

За прычыненымі белымі дзвярыма тупалі дзеці старога і дзеці дзяцей. Яны размаўлялі гучна, сварыліся, спрачаліся, але ў спачывальню не заходзілі. Наста паднялася і выйшла. Праз паўгадзіны ў вялікай кватэры зрабілася ціха, паўцёмна, у кухні шумела вада і Наста асцярожна мыла далікатны посуд з нямецкага сервіза. Потым выцерла філіжанкі і расставіла ў серванце. Ціха зазірнула ў спачывальню. Пачула дыханне. Роўнае, аднастайнае, ціхае. Яна прысела на край ложка. Яна не ведала, радавацца

ёй ці растройвацца, што Канстанцін Мікалаевіч не памёр, што ёй зноў давядзецца даглядаць яго, прыбіраць, гатаваць, слухаць, мераць ціск, сачыць, каб не забываўся піць лекі, угаворваць павячэраць, выводзіць у парк, мыць, як дзіця...

Праз тры месяцы, у траўні, Наста замывала халоднай вадой свежую бэзавую плямку на рукаве сукенкі сваёй унучкі. Цёрла белым кавалкам мыла след ад кроплі вішнёвага кампоту. Гладкі кавалак выслізнуў з пальцаў, каўзануўся-крутануўся па рукамыйніку і вылецеў на падлогу... Наста раптам разгубілася, пачырванела. Гарачая хваля абліла ўсё яе цела. Жанчына спалохана села на край ванны, моцна-моцна заціснула каленямі мокрыя рукі і падумала: “Добра, што дачка мяне не бачыць...”

*Люты 2013.*

## Падрабязнасці

Голас дачкі гучаў упэўнена. Яна параіла не хвалявацца, бо ведае, што ўсё ў мамы будзе добра, бо яна яшчэ маладая, прывабная жанчына... Нават пацікавілася колерам памады... Вера зірнула на гадзіннік, потым у мяккі паўзмрок сакавіцкага вечара.

...Вера дакладна, з тысячамі падрабязнасцяў, памятала той сонечны кастрычніцкі дзень, тую мінулагоднюю суботу, празрыстую, як вымытае шкло. Чырвоная рыска тэрмометра за вакном кухні паказвала восем градусаў. Вера вырашыла, што менавіта сёння варта разабрацца з кветкамі ў агародчыку, бо далей адкладаць нельга: з панядзелка абяцалі начныя прымаразкі.

Яна старанна абрэзала сухія галінкі, абкапала кожны куст, падграбла. На гэтую працу сышло крыху больш за гадзіну. Стары цэлафан, які яна зняла вясной з гэтых, толькі меншых кустоў, выкінула, бо ён амаль увесь падраўся.

Ні ў гаражы, пустым і маўклівым, прапахлым жалезам і гумай, ні ў майстэрні, што месцілася ў сутарэнні, цэлафана не знайшлося. Потым яна згадала. Паднялася па драўлянай лесвіцы на гарышча. Жоўтыя прыступкі хрубасцелі, парыпвалі. На іх зусім не сцёрся лак, бо на гарышча ніхто не хадзіў. Лесвіца выдавала абсалютна новай, а парэнчына крышку шурпатай, не адпаліраванай далонямі. Гарышча – адзінае месца ў яе ўпарадкаваным доме, дзе рамонт пачаўся чатыры гады таму, але так і не скончыўся.

Павярнула ключ, адчыніла светлыя сасновыя дзверы, зрабіла крок і спынілася. Пахла дрэвам. Пстрыкнула выключальнікам, потым яшчэ двойчы, але лямпачка не загарэлася. Вочы прызвычаіліся, і Вера агледзелася. Яна даўно, можа з год, сюды не заходзіла. Цэлафан ляжаў у доўгай скрыні пад жалезным аднаспальным ложкам. І цяпер яна знайшла важкі пакунак, схоплены скотчам у дыктавай скрыні. Хутка, бо спяшалася, узяла яго пад паху, таропка выйшла і зачыніла дзверы. Падумала, што трэба будзе лямпачку замяніць.

Потым, на вуліцы, увесь час, пакуль упраўлялася з кветкамі, абгортвала, захутвала, укрывала, абвязвала шпагатам, яе тачыла незнаёмае і трывожнае пачуццё. Не давала супакоіцца і засяродзіцца на прыемнай працы з кветкамі. Яна думала, думала, шукала прычыну раптоўнага хвалявання, але не

знаходзіла. Упарадкавала кветкі. Памыла чаравікі, потым рукі, агледзелася. Ёй падалося, што нехта за ёй цікуе, адсочвае кожны рух і нават кожную думку. Выцерла ногі, пакінула гумовыя боты ў калідорчыку, паклала на іх пальчаткі, якія бязвольна звесілі сінія абалонкі пальцаў.

Адкуль прыйшло хваляванне і трывога, жанчына не ведала. На кухні, на паліцы, у белай вазачцы з сінімі рыскамі, у схованцы, узяла цыгарэту. Вера два гады амаль не курыла. Можа, толькі ў кампаніі, у гасцях, ці калі прыходзілі сяброўкі, дазваляла сабе разняволіцца і падыхаць тытунёвым дымам. Але тут не той выпадак. Тут – нервы. Закурыла. Калі расціснула недапалак і адчыніла вакно, то ў пакоі паглядзелася ў люстэрка. Твар такі белы, што вусны, толькі крышку падфарбаваныя, падаліся чорнымі... Вера ўзяла валідол. Яна заўсёды так рабіла. Села да стала, паклала побач мабільнік, каб калі што, на ўсялякі выпадак... Сядзела, пакусвала вусны, смактала шурпатую, халодную пігулку і насцярожана, засяроджана прыслухоўвалася да свайго арганізма. Сэрца працавала роўна, галава не круцілася, паветра быццам бы ставала...

А потым яна зразумела, здагадалася, што тое, але яна не ведала дакладна, гэта, рэч, гук, пах, знаходзіцца там, наверсе.

Яна паднялася і пайшла на гарышча, у вялікі недароблены пакой – слова "мансарда" ёй не падабалася. Механічна пстрыкнула выключальнікам. Святло не гарэла. Згадала пра лямпачку, згадала, што забылася яе ўзяць. Паступова вочы прызвычаіліся. Усё, што тут месцілася, стаяла, ляжала і вісела, знаходзілася ў ціхім суладдзі, нават у гармоніі. Тры скруткі рубероіда, дошкі, рэйкі, скрыні, алюмініевы бак, два вялізныя бутлі, адзін голы, а другі, як апрануты, аплецены карычневай лазой, пакарабачаныя вёдры, стары рукамыйнік, пакункі паркетных дошчачак, вaконныя рамы пад сцяной, вузкі жалезны ложак з панцырнай сеткай. Пластыкавыя ружовыя начоўкі, поўныя старых газетаў і часопісаў. Усё прыцярушваў мяккі пыл.

З невялікага вакенца – на вуліцы яркае сонца – падалі промні. Яркія, хоць чатыры шкліны і здаваліся каламутнымі. Промні падалі на падлогу. На светлыя вузкія габляваныя дошкі, побач з ложкам. У прастакутніку гэтага нерухомага залатога святла стаялі старыя чаравікі. Вялікія, сорак пятага памеру. Жанчына глядзела на гэтыя разбітыя чаравікі, і яе сэрца калацілася. Яна не магла даўмецца адкуль, як яны тут з'явіліся? Напэўна ж, ведала, што раней іх тут не было, не магло быць? Адкуль? Яна разгарнула і паклала на ложак газету. Села. Яна не адводзіла позірк, не магла адвесці ад гэтых залатых у сонечным святле, цяжкіх будаўнічых чаравікаў. Яны здаваліся несапраўднымі. Выглядалі, як адлітыя з каштоўнага метала... Стаяць і маўчаць... Чаравікі нябожчыка мужа... Сухія каляныя матузкі, на адным з іх вузельчык. Заклёпкі зіхцяць, абцасы збітыя, насы падрапаныя. Чаравікі спрэс у плямах фарбы: белай, цёмна-зялёнай, рудой і жоўтай. Яна вывучала плямкі фарбы, драпіны, як навуковец – літары невядомай мовы. Старалася скласці ў знаёмыя словы, але хіба такое можа быць? На кантах прысохла тынкоўка, на правым чаравіку глыбокая драпіна. Так, менавіта на правым – драпіна...

Празрысты і бязважкі пыл курэў у залатых промнях па-над ссохлымі карэлымі чаравікамі...

Вера сядзела на мулкай сетцы і баялася паварушыцца. Перад ёй разгортвалася дзея, сэнс быў незразумелы, невытлумачальны, але яна не магла адвесці позірк ад незвычайных і такіх знаёмых чаравікаў. Колькі

ўсё гэта доўжылася? Магло праляцець некалькі імгненняў, а магла сысці і цэлая гадзіна.

...Гэта яна ва ўсім вінаватая. Гэта яна сказала мужу, што ёй не падабаецца бэзавы вузел жылаў, гузак, памерам з грэцкі арэх, пад яго каленам на правай назе. Сказала і сказала. Муж знізаў плячыма і адказаў, што ён не пераймаецца, бо нага не баліць, але пухір памацаў. Праз месяц, раніцай, калі ён выйшаў з ваннага пакоя паголены, вільготныя валасы прычасаныя, ні адна кудзерка не тырчыць. Яна паглядзела на яго ногі і зноў нагадала, зноў сказала, што не падабаецца гузак, што ён псуе выгляд. Тым разам муж раззлаваўся. Запэўніў, што такая ж песня была і ў яго бацькі, але пражыў стары восемдзесят чатыры гады, і каб не страўнік, каб не аперацыя, зробленая ў раённая бальніцы, то... Паабяцаў схадзіць у паліклініку да хірурга. Абяцанне выканаў. Прынёс два цюбікі з крэмам і сказаў, што будзе мазаць ногі. Калі ён забываўся, то яна нагадвала. Крэм на конскім каштане трохі дапамог, і варыкозны вузел змяніў колер, пасвятлеў, зменшыўся, страціў акрэсленую пукатасць.

Муж памёр на аперацыйным стале. Дактары запэўнівалі, што аперацыя самая звычайная, і Вера не хвалявалася. Адарваўся тромб. Не было нейкага прыбора, і ўратаваць Мікалая не змаглі.

Ад таго дня прайшло тры гады, пяць месяцаў і сямнадцаць дзён. Ён не дажыў да свайго пяцідзесяціпяцігоддзя сорак восем дзён. Потым яна ўсё гэта падлічыла.

Праз год пасля пахавання дачка выйшла замуж. Вера аддала дзецям машыну. Дагледжаны мікрааўтобус. Муж на ім ездзіў на працу, а па выхадных і пасля працы на заробкі. Замоваў хапала, ці не ўсе пачалі рамантаваць кватэры і дамы, будавацца, перабудоўвацца. Мяняліся вокны, дзверы, падлогі, дахі... А яе Мікалай быў добрым майстрам. Адказным і не злоўжываў гарэлкай. З ім ахвотна мелі справу. Мікалай на здароўе не скардзіўся, ну толькі зуб мог забалець, ці спіна ад цяжкай і аднастайнай працы... З будоўлі, дзе працаваў майстрам, сыходзіць не збіраўся. Ён паспяваў паўсюль. Свой дом перабудаваў, адрамантаваў. Адзінае, што не паспеў, з гарышча зрабіць мансарду і выкапаць у двары ставок, дзе плавалі б рыбкі і бруіў фантанчык, а яны сядзелі б на верандзе і глядзелі. Ён піў бы з вялікага кубка духмяны чай, а Вера каву з маленькай філіжанкі...

Праз тры дні Вера асцярожна спытала ў дачкі, ці не яна хадзіла, каб нешта ўзяць на гарышча. Дачка, а потым і зяць запэўнілі, што на гарышчы не былі. Вера тлумачыць сваё пытанне не стала. Ключ ад гарышча схавала ў белую вазачку з сінімі рыскамі.

Тады як там апынуліся чаравікі? Вера добра памятала, што выкінула мужаў камбінезон, рукавіцы, камізэльку са шматлікімі кішэнямі і ўвесь стары абутак. Будаўнічыя чаравікі паклала ў чорную торбу, занесла і кінула ў кантэйнер са смеццем. Памятала, як аддала добрую вопратку мужчынам з яго брыгады, а якая горшая, тую бамжам. Яна нічога, што магло нагадваць мужа, не пакінула ў шафах. Гальштукі, і тыя аддала...

У яе жыцці з'явіўся мужчына. Зусім не падобны да Мікалая. З'явіўся ў той час, калі яна прыбрала ўвесь вялікі посуд, на пліце стаялі толькі маленькія кайструлькі і маленькая патэльня, а на стале кубак і філіжанка. Яе Мікалай любіў паесці ён быў дужы. Ёй падабалася яго карміць, падабалася яму гатаваць.

І калі яна згадвала Мікалая, то аж сціскалася ўся ў салодкі і пругкі камяк гарачай плоці.

Мужчына павінен быў хутка прыйсці. Ён працаваў інжынерам на заводзе. Быў невысокі, гаваркі, вясёлы і далікатны. Граў на гітары. Меў кватэру. З жонкай не жыў чатыры гады і два месяцы. Вера падлічыла. Яна двойчы начавала ў яго кватэры, на пятым паверсе. Чыстай, добра адрамантаванай. У яго быў вялікі акварыум, у якім тры чырвоныя рыбкі і адна чорная. Цяпер яна рыхтавалася да сустрэчы. Нервавалася і злавала. Хадзіла з пакоя ў пакой, цокала абцасамі, цяжка дыхала, быццам паветра не ставала...

Спачатку разрываўся хатні тэлефон. Доўга і настойліва, нават, як падалося, з абурэннем. Потым праз хвіліну голас падаў мабільнік. Яна паглядзела на нумар, хоць і ведала ўсе сем лічбаў. Націснула і прыклала да вуха. Слухала разгублены і незадаволены мужчынскі голас, а потым сказала: “Не трэба да мяне прыходзіць... Не трэба, і ўсё... Ні сёння, ні заўтра, ніколі. Прабач”.

Па-святочнаму апранутая, гадоў на дзесяць памаладзелая, ішла на тонкімі абцасах, прытрымлівала шаўковую спадніцу, падымалася па светлых прыступках на гарышча. Запаліла святло, села на ложак, на разасланую газету. Рэзка правяла рукой па роце, размазала вішнёвую, пад колер валасоў, памаду... Хапанула паветра, паглядзела на на тое месца на падлозе, дзе яшчэ ўчора стаялі шэрыя, пакарабачаныя мужавы чаравікі, з калянымі, як з дроту, матузкамі, на адным вузел... Заплюшчыла вочы і скіравала позірк у суцэльную цемру, у нетры, куды баялася зазіраць, у блытаніну жаночых думак, жаданняў і спадзяванняў. Сказала і нікольки не здзівілася ні свайму голасу, ні самой прамоўленай думцы: “Чуеш, Бог, а цябе няма!”

*Люты-сакавік 2013 года.*

## Шчасце

Гадзіну таму Міця Бязручка яшчэ нёс шкло.

Студзеньскія, бела-сінія гарадскія краявіды пры кожным кроку выслізвалі з плоскасці шкла. Людзі, хрумсткі снег, паркан, сіняе неба, дрэвы, сцены і самі будынкі змяняліся штохвілінна. Выглядалі, быццам убачаныя ў імклівым палёце, – празрыстыя, плыткія, дваістыя, ясныя і колкія. Калі мужчына прыпыняўся, то і краявід у вялікім шкле застываў, здаваўся намаляваным нямецкім мастаком Ліанэлем Файненгерам. Тым самым, які непахісны Кёльнскі сабор з зорамі маляваў...

Але нёс шкло Міця Бязручка даўно, гадзіну таму.

Цяпер жа ён сядзеў на белым табурэце ў доўгім пакоі кухні на сёмым паверсе інтэрната і глядзеў на сваё адлюстраванне ў вялікім шкле, якое паставіў да сцяны, насупраць. Акрамя яго, падлогі, засланай шэрым лінолеумам, чатырох электрапліт, рукамыйніка і белых сталоў, у шкле адлюстроўвалася столь, дзве лямпачкі і палова вялікага неахайнага шэрага вакна. Шэрым, як воблака дыму, яно было таму, што яго зацягваў каламутны цэлафан, прыціснуты, а потым наспех прыбіты да рамы рэйкамі. Цэлафан замяняў выбітае шкло. Пад беланогай табурэткай месцілася чорная сумка з рыштункам.

А дзве гадзіны таму Міцю было пагана і жыць не хацелася. Ён прач-

нуўся. Галава моцна балела, рукі-ногі слухаліся кепска. Ён доўга піў ваду, а потым абыякава глядзеў на пакамечаны пачак, у якім засталося толькі дзве цыгарэты.

Але ёсць на белым свеце добрыя людзі, якія не дадуць памерці. Саракатрохгадовы мужчына стаяў пасярод пакоя, слухаў, як пад горлам тахкае сэрца. Нечакана затрашчаў тэлефон, слухаўка, калі ён браў непаслухмянай рукой, паляцела на падлогу. Не пабілася... Яму тэлефанавала Маргарыта і прасіла дапамагчы, прапаноўвала падзарабіць. Адмаўляцца не выпадала. Міця сказаў засмяглым ротам: "Сто пяцьдзясят тысяч, бо я сёння заняты!" Маргарыта не спрачалася, пагадзілася: справа тэрміновая і ёй няма куды падзецца. Міця вырашыў пагаліцца, паглядзеў на свой шэры твар, пакратаў трохдзённую, дзе-нідзе сівую шчэць, пырснуў на вочы вады, патрымаў мокрыя далоні на шчоках, але галіцца перадумаў.

Калі стаяў у дзвярах з сумкай на плячы, то патэлефанавала былая жонка. Незадаволена і здзекліва нагадала, што ў малодшай дачкі сёння дзень нараджэння. Ён упэўнена сказаў, што ведае і паабяцаў прыйсці з падарункам. Сказаў і сам здзівіўся, бо толькі цяпер зразумеў, які дзень. Мінулыя панядзелак, аўторак і серада выслізнулі з жыцця, як і не было іх...

Міця адпачыў, аддыхаўся, бо на сёмы паверх давялося ісці, а не ехаць ліфтам. Падняўся і сцягнуў вязаную шапку, паклаў на тое месца, дзе сядзеў, а сумку паставіў побач. Разаслаў на прысунутых сталах суконную коўдру, разгладзіў далонню, падклаў пад адну з ножак кардон, упэўніўся, што сталы не хістаюцца, і акуратна паклаў на коўдру шкло. Яно яшчэ не паспела нагрэцца і прыемна ледзяніла потныя далоні. Дастаў з бакавой кішэні сумкі шкларэз, падушачкай указальнага пальца пакратаў ролік. Выкалаціў з пачка апошнюю цыгарэту. Ён меў звычку курыць на самым пачатку працы, але перадумаў і прыладзіў цыгарэту за вуха.

Чвэрць гадзіны адкрываў ваконную раму, бо яе даўно, можа, нават з лета, не адкрывалі. Зрабіў гэтую справу і адчуў, што стаміўся. Але і гэтым разам курыць апошнюю цыгарэту не стаў. Адно ў пальцах пакруціў ды панюхаў. Тры разы, каб не памыліцца, перамераў рулеткай раму і шкло.

Ад вялікай шкліны трэба адрэзаць з аднога боку чатыры сантыметры, а з другога – тры з паловай. Вырашыў пачаць з карацейшага краю і шырэйшага. Яшчэ раз памераў шкло, чыркануў абгрызкам сіняга васковага алоўка і спраўдзіў памеры наноў. Скінуў бушлат, а потым падумаў і паставіў яго ў кут. Шапку паклаў на каўнер, каб пад рукамі не блыталася. Паслініў вялікі палец і правёў па шкле ад краю да краю. Лінейку замяняла доўгая роўная рэйка. Шкло і метал сустрэліся, паразумеліся. Спачатку захрабусцела шкло, а потым пранізліва запішчаў ролік. На шкліне засталася лінія, белая і роўная, як напятая, але крышку раскудлачаная нітка.

Міця ціхенька ссунуў шкло, так, каб яго край вісеў, і пачаў знізу падстукваць шкларэзам. Нарэшце гук змяніўся, па шкле пабегла расколіна – цёмная нітка пад белай. Вузкі, большы за метр кавалак шкла адцяўся, адарваўся, а потым пераламіўся ў руках. Міця не здзівіўся, хаця і войкнуў ад нечаканасці.

У яго быў добры музычны слых, і ён пачаў спяваць.

Ён любіў спяваць. Ціха, сам сабе. Калі нехта быў побач, то не спяваў. Але цяпер ён сам-насам, за зачыненымі дзвярыма, а таму заспяваў. Мелодыя гучала складаная, адкуль да яго прыйшла, ён і сам не ведаў. Калі б яму

сказалі, што гэта музыка Даніцэці (Spirto gentil), то ён бы і не здзівіўся. Няхай сабе і Даніцэці. Песня гучала сумная, светлая, а месцамі тужлівая. Міця спяваў без слоў – гукамі...

Ён развярнуў, каб было зручней рэзаць, шкло. Выцягнуў з рулеткі металічную стужку, паставіў на шкло тры рыскі, рулетка ўцягнула стужку з ледзь бачнымі лічбамі. Цяпер ён не спяваў. Прыціснуў да шкла рэйку і з хуткай асцярожнасцю і ўпэўненасцю прарэзаў шкло. Акуратна падбіў і адарваў вузкі край. Адламіў пласкагубцамі востры кавалачак на самым канцы і зноў нягучна заспяваў.

Тара-рыя-яяяяяяяя... Тара-арарыя-рыя-рыя....

Надзеў бушлат, нацягнуў шапку. Узяў з сумкі вялікую стамеску з шырокім лязом, малаток, абцугі і падыйшоў да вакна, зацягнутага тоўстым цэлафанам. Пачаў адзіраць рэйкі. Халодны цэлафан з шоргатам абсунуўся на падлогу. Міця адпіхнуў яго ўбок, да рукамыйніка, у які з крана з будзённай аднастайнасцю падалі важкія кроплі.

За вакном, як у сціплай раме, зіхацеў бела-сіні сонечны краявід. У краявід уразаліся з трох бакоў вострыя аскепкі шкла. Краявід быў такі яркі, што вочы замружыліся і заслязіліся. Прыватныя дамы з белымі дахамі, цагляныя пяціпавярховікі, дарога, машыны, людзі. Шмат белага і сіняга. Міця паглядзеў на радасны, вясёлы і халодны краявід, але нават і не ўсміхнуўся.

Хутка і асцярожна павыцягваў кавалкі шкла. Баяўся, каб які не вынеслізнуў з пальцаў і не паляцеў на вуліцу, на тратуар. Адкрыў раму. Цяпер гэта зрабіць было не складана. У доўгім пакоі кухні імгненна зрабілася халодна, як на вуліцы. Міця зашпіліў бушлат. Ён пачаў спяшацца. Працаваў хутка, але акуратна.

Ён не баяўся вышыні. Зусім. Мог хадзіць па даху, мог скідаць снег, ссоўваць дыктавай рыдлёўкай да краю, а потым спіхваць. Мог збіваць ледзяшы, якія бахрамой вісяць побач з вадасцёкамі. Яму нават падабалася стаяць побач з небам і глядзець на горад. На маленькіх людзей, машыны, дрэвы. Падабалася, што побач толькі птушкі і снежны пыл.

Калі глядзеў на горад, зноў ціхенька заспяваў. Але гэтым разам ён выводзіў партыю Нормы (Casta diva), урачыстую і лірычную. Спыніўся на высокай ноце. Паставіў табурэтку пад акно, адчыніў раму і пачаў старанна і абачліва адрываць штапік. Дзе-нідзе штапік прыклеіўся, прысох, і праца патрабавала вялікай увагі. Міця ўмеў працаваць. Гэта няпраўда, што прозвішча заўсёды адпавядае чалавеку. Рукі ў Міці ёсць, рукі добрыя, працавітыя.

Калі штапік ляжаў на вузкім падваконні, Міця саскочыў з табурэткі і нажом падчысціў кожную рэйку, абдзёр белую фарбу. Каб была наждачка, то ён не паленаваўся б і прайшоўся ёй на рэйках, але наждачкі ў сумцы не знайшлося, а таму давялося пашоркаць лязом нажа. Павыдзіраў з рамы пагнутыя ржавыя цвічкі і высыпаў іх у пластыкавую сметніцу.

Падрыхтаваўся да галоўнага дзеяння. Але курыць і цяпер не стаў. Акуратна падняў са стала шкло. Адлюстраванне пакоя кульнулася, столь упала на падлогу, а падлога ўзляцела. Паднёс шкло да рамы, прыклаў ніжні край, паставіў і павольна падняў. Шкліна стала на падрыхтаванае месца. Прытрымаў далонню цёплае шкло, узяў з падваконня тры цвічкі. Два заціснуў зубамі, а трэці прыклаў да рамы. Не было каму дапамагчы. Вялікую шыбку заўсёды лепш устаўляць, калі нехта трымае шкло...

Забіў стамескай адзін цвічок, потым другі. Шкло трымалася. Трэцім прыхапіў шкло зверху. Уздыхнуў з палёгкай. Засталося самае простае і прыемнае.

Прыладзіў штапік з таго боку, дзе не было цвічка і пачаў прыбіваць. Спяваць не выпадала, бо ў роце цвічкі...

Зачыніў вакно. Прыціснуў раму. Павярнуў жалезную ручку, дастаў яе і закрыў верхні замок. Краявід за шклом знерухомеў, выглядаў, як намаляваны на палатне. Толькі цяпер Міця заўважыў на ўказальным пальцы вялікую кроплю крыві. Ён злізнуў яе, кропля з'явілася зноў. Ён здагадаўся, што зачапіў палец дзюбкай стамескі, калі забіваў перадапошні цвічок.

Маргарыта агледзела вакно, дакранулася да запатнелага шкла. Уніз глядзець саракагадовая жанчына не хацела. Міця ўзяў са стала грошы, акуратна перагнуў тры паперкі, схаваў у кішэню кашулі, зашпіліў гузік. Указальны палец там, дзе драпіна, абгортвала сіняя ізаляцыйная стужка. Такая сіняя, як цені на снезе.

Маргарыта зноў абазвала малахольным паўдуркам таго мужчыну, які тры дні таму прыйшоў у інтэрнат і выкінуўся з сёмага паверха. Міця размову пра самагубцу не падтрымаў. Бландынка з рэдкімі валасамі пайшла. Міця чуў, як цокаюць абцасы ў доўгім інтэрнацкім калідоры. Потым зрабілася ціха. Ён сабраў рыштунак, склаў аскепкі шкла ў пластыкавую сметніцу. Прыставіў да сцяны табурэтку, сеў і закурыў. Яму было добра. Ён адчуваў да незнаёмага мужчыны-самазабойцы ўдзячнасць.

P.S. Дзіцячыя чырвоныя рукавічкі каштуюць сорак тысяч, чырвоны шалік – шэсцьдзесят, тры бела-сінія пачкі цыгарэт "Прэм'ер" – чатырнаццаць тысяч сямсот рублёў. Пенсію інвалід Дзімітрый Мікалаевіч Бязручка атрымае праз тры дні.

*Студзень-люты 2013.*

Аксана Спрынчан



...напоўненасць

і напеўнасць...

# Сама(і)люстрацыя

### *ПРАЗАРОКІ*

Туман,
буслянка на касцёле,
і голуб лётае над ёю –
зіма...
У дзень народзінаў Хрыста
я граю на аргане часу
і без квітка гляджу з Буйніцкім
спектакль “Аграгарадок”,
як незавершаны радок,
які не варты завяршэння,
закрэслены,
закрыжаваны,
які адразу ўжо не з намі...
А з намі –
вершам Празарокі,
і верай – вёска Празарокі,
і празарчане, як праракі,
у ту(мане) быцця...

* * *

Да шыбы
прыціскаю вусны,
вусціш...
Над шыбеніцай
ціш, завея,
вейкі
дрыжаць,
г
а
й
д
а
е
ц
ц
а
в а,
я к
р ў
о

роўна
палова восьмай,
сяку пятлю,
вісіць пачатак С-лова,
аснова
майго жыцця.

### САМА(І)ЛЮСТРАЦЫЯ

Зірнуць у люстра
люстрацыі
і стане лягчэй
самой
паловы несіметрычныя
метрычнае
не верша-
а вераскладанне
верас
кVitнее
жыццё
ё
і яго адлюстраванне
е
..

* * *

Дзесьці там, дзе не трэба мне
Ані чаркі, ні шкваркі,
Будзе лётаць мая душа
Вольнай чайкай.

Дзесьці тут, дзе не трэба мне
Нават дня несвабоды,
Я параненым птахам лячу,
Ды не вылекую народа.

Ён збірае кроплі крыві
І маўкліва трымае ў роце.
Ці то перліны выйдуць з іх,
Ці крыкліўцы ля эшафота.

Ці на нітку наніжуць сябе,
Ці ў натоўпе затопчуць слабога.
Ані Плошчы, ні прошчы ў душы...
Беларусь – як дарога да Бога.

## *ВЕРШЫ НЕ ЎГОЛАС*

*
Абразы...
Не памыліўся?

*
Т а м с а м а...
Разам ці асобна?
Тут – сама.

***
Хлеб не пяку
на кляновым лісці,
каву запарваю
пад кляновым.
Пахне хлебам.

* * *

Маладзік неба
казыча, і падаюць
зоркі ад смеху.

* * *

Вусень скруціўся
ў шыкоўны
пярсцёнак.

Уладар мятлікаў.

* * *

Лісце лаўлю
ў паветры –
вершы.
А тое,
што зямлі
кранулася –
проза...

* * *

Выпальваць пялёсткі
памерлае кветкі
на дошцы,
на пяльцах яе
вышываць
і з пальцаў з апёкамі,
з пальцаў праколатых
пылок, нібы пыл,
распыляць.
І ў пыльнай дарозе,
пакуль не агоранай,
не яму,
а градку
капаць.

* * *

Я фарбую вокны і дзверы
ў фіялетавы колер.
Добра, калі ў леце
ёсць трошкі зімы,
а ў зіме – шмат лета.
Калі нехта пройдзе
за тваім акном,
няхай гэта будзе дождж ці снег,
бо яны заўжды
пераходзяць дарогу
з поўным вядром.

І яны ж спакушаюць
бегаць па лужынах
і ляпіць мужыкоў-снегавікоў...
Верагодна, з дажджом і снегам
сыходзіць маленства,
каб вяртацца зноў.
І вось я фарбую вокны і дзверы
ў фіялетавы колер,
але ўжо не фарбай ПФ-115
для ўнутраных і вонкавых работ,
а крэйдачкамі...
Але не паспяваюць суседзі
пачаць свой шэпт
пра чарговы заскок,
скок-скок –
гэта дождж
забірае з сабой
у краіну,
дзе яшчэ не пачаўся
бой
з сабой,
у краіну,
дзе ў табе яшчэ няма
нічога ад робата
і не патрэбныя фарбы
для ўнутраных работ...

* * *

У той час,
калі дачушка
называла анёлка – аня,
калі месяц=мім хаваўся
ў поўні=пом,
помніцца,
ты, як яйка=яя ў казцы,
разбіў каханне,
а прыдумаў,
што мышка шэрая
махнула хвастом.
Мышка з гора
ўтапілася
ў вядры з вадою,
а дачушка
пачала казаць “дум-дум”,
і я думала-думала,
а ў гэты час

у анёлка=ані
мяняўся колер вачэй
з шэрага
на брунатны...

* * *

Да яшчаркі
так пяшчотна дакранулася,
што хвост мне
не пакінула.

Думала да (пра) цябе...

* * *

Калючкі твае
вышываюць на твары
КАХАЮ
крыжыкам,
гладдзю
да бязладдзя...

* * *

ХМЫ...
якое прыгожае слова
хмызы,
калі ў іх
нясуць на руках
ЗЫ
(P.S.
дадумвайце самі)

*        *
    *
  *   *

зоркі над Мухаўцом
нібыта мухі срэбныя
пакусваюць
з лёгкай эротыкай
плынь нашых думак
дзесьці за спінамі
Касіяпея
як знак тваёй перамогі

як знак маёй перамогі
зорная д’ябал В
раптоўна спакусвае цела
мухай цэцэ

* * *

ад перамены літар
змяняецца сэнс
ад перамены целаў
змяняецца сэкс
у пэўным сэнсе
у пэўным сэксе
пры пэўных умовах
і пэўных мовах
пры напоўненасці
і напеўнасці
нараджаецца новая змена
каб змяняць літары, целы
знаходзячы
напоўненасць і напеўнасць
пэўную пэўнасць

Кастусь Травень



...выратаваў яго, напэўна,

той тутэйшы культурны код...

# Дзень, калі загінуў Апалон

***Апавяданне***

*...і душой я з таго ценю нізашто цяпер да зор*
*Не ўзлячу, о nevermore!*
«Крумкач», Эдгар По.[1]

**I**

Зранку пісьменнік і сцэнарыст Фёдар Уладзіміравіч размаўляў па далькажыку[2] з заказчыкам. Ён быў сівы, хударлявы і рухавы, стрыманы і насцярожаны.

– Не хапае апошніх штрыхоў, – тлумачыў сцэнарыст свае цяжкасці заказчыку Станіславу Шулешку. – Хачу адмовіцца ад будзённых рэчаў.

– Вось-вось, я ад цябе і чакаю натуральнага, праўдзівага, блізкага большасці людзей, рэалістычнага і нават трагічнага катарсіса, ачышчэння... Драмы ці нават

[1] Пераклад Алега Мінкіна.
[2] Сотавы тэлефон (н准аватвор Леаніда Дранько-Майсюка).

трагедыі. Я адразу грошы пералічваю. Дашлі мне сінопсіс[1] сцэнара па электроннай пошце, а я на твой рахунак скіну аванс.

– Не трэба на рахунак, падаткі ўсё з'ядуць. Толькі налам, – незадаволена зазначыў пісьменнік і, пераклаўшы далькажык да другога свайго вуха, дадаў. – Асноўная канва сцэнара напісана, але не выспела галоўная ідэя. Усе падзеі можна павярнуць і так, і гэтак. Таму, Стась, не магу нават і сінопсіс выслаць.

– Можна і налам. Але, Тодар, не мудры. І паспяшайся, калі не ты, то будзе вядомы ўсім Курачкін, які тут таўчэцца са сваімі шматлікімі прапановамі. Сам ведаеш, ён настырны і пладавіты, можа і падмазаць, і падзяліцца. Уключы трэцюю хуткасць і пераламі сітуацыю. Чакаю на сінопсіс. Бывай.

Фёдар Уладзіміравіч незадаволена паклаў сотавы тэлефон на стол. Курачкін быў сапраўднай пагрозай, здольны, павярхоўны і цалкам задавальняў цяперашніх расейскіх і тутэйшых заказчыкаў сваімі графаманскімі ідэямі, сюжэтамі і дыялогамі, часцяком злізанымі з амерыканскіх фільмаў.

Ён хацеў яшчэ нешта перапытаць у Шулешкі, і праз колькі хвілінаў павярнуўшыся, убачыў, што далькажык знік.

Апрануты ў спартовыя сінія штаны з лампасамі і шэры швэдар, ён доўга хадзіў па пакоі, успамінаў і думаў, механічна гледзячы па тэлевізары запіс гульні між футбольнымі камандамі Лігі чэмпіёнаў.

Пісьменнік валодаў здольнасцю рэчаіснасць ператвараць у віртуальную мрою-летуценне. «Драмы ці нават трагедыі...» – у думках ён паўтарыў словы Шулешкі. Каб іх так лёгка было маляваць, гэтыя «драмы і трагедыі». Чужыя ў жыцці «драмы і трагедыі» выглядалі чужымі і на паперы, і ў кіно. А каб дасягнуць катарсіса, трэба было браць свае, уласныя драмы, схаваныя і замураваныя ў глыбіні душы, і ператвараць іх у віртуальную рэчаіснасць. Вяртацца да сваіх псіхапатычных трызненняў, спальваць апошнія нервы.

Хацелася выпіць кавы, уздручыць нервы, узняць тонус, але скончыліся цукар і малако, і яму давялося гатаваць каву без цукру. Павярнуўшыся з кіпенем ад пліты, ён раптам убачыў, што далькажык ляжыць на рагу стала.

Ён зразумеў, што зараз на ягоных вачах адбыўся пераход у паралельны сусвет. І там, у тым свеце, усё гэтаксама, як і ў нашым, акрамя некаторых падрабязнасцяў. І, магчыма, у раўналежным свеце-ІІ, ён, Тодар, не зрабіў той жудаснай памылкі, якую ён утварыў у свеце-І.

Ноччу яму снілася Юля – маладой, стрункай, чароўнай. Яна выйшла з хаты і падыйшла да яго каля студні. Глядзела прыязна прыгожымі сінімі вачыма з доўгімі вейкамі. І потым нечакана сказала:

– Сёння да мяне прыедзе мой жаніх.

Навошта гэта яна яму сказала ў сне і нібы адразу адхіліла мажлівасць ягоных заляцанняў?

Даўным-даўно ён зразумеў, што Юля была Боскім падарункам, найлепшай магчымасцю для яго ў тыя маладыя гады. Напэўна, і для яе таксама ён быў някепскім абраннікам. Сімпатычны, жывы, наіўны, улюблівы, рамантык, надзвычай добры, як потым паказала жыццё, вельмі любіў сваіх дзяцей.

Апошнія месяцы яму чамусьці сніліся ягоныя сябры, знаёмыя і сваякі з тых, хто ўжо адышоў у свет ценяў. І ён адчуваў, што ягоная падсвядомасць сігналізуе яму, што ў ягоным арганізме пачаліся тыя самыя хуткацечныя змены, якія прывядуць яго да памерлых блізкіх, сяброў і знаёмых. Смерці

[1] Кароткі змест кінасцэнара.

ён не баяўся. Страціўшы ілюзіі за апошнія 20 год, ён цярпліва дажываў свой век. Лепшае і значнае ўжо адбылося, і цяпер заставалася толькі чакаць. Ён шмат думаў аб смерці, нібыта інстынкты рыхтавалі яго да гэтай важнай падзеі.

Смерць – перамога і валадарства хаосу. Калі ўжо не ўсведамляеш прыгажосць і сістэмнасць Сусвету, і ўсё: і дабро, і зло, прыгажосць і мярзота, распадаецца на першасныя часцінкі, дзе ўсё гэта ўжо не існуе. Толькі бязладдзе першасных часцінак і тое, што застанецца пасля цябе, будзе іншым...

Цяпер ён адчуваў, што смерць – гэта вызваленне! Яна вызваліць яго ад хваробаў, ад грахоў, ад дробных і вялікіх недарэчнасцяў, што ён нарабіў у сваім жыцці, ад грызотаў сумлення. Ад тых цяжкасцяў, што паўстаюць у жыцці перад новымі пакаленнямі. Але трэба было ачысціць сваю душу ад усяго гэтага.

Пражыўшы жыццё, ён нарэшце пачаў верыць сваім пачуццям і думкам. У свой час, будучы маладым, ён верыў іншым: настаўнікам, потым выкладчыкам, чужым палітолагам і таленавітым пісьменнікам, публіцыстам і тэлеаглядальнікам, выбітным кінарэжысёрам і навукоўцам, СМІ, сябрам, але цяпер ён ужо ведаў, што трэба было верыць толькі сваім першасным адчуванням.

Перад ім усё больш адкрываліся таямніцы жыцця. Тодар узіраўся ў мінулае, падзеі, людзей, сяброў, знаёмых і шмат бачыў... Бачыў свае памылкі, хібы і недальнабачнасць уладаў; няўменне дасягаць шчасця, бачыў будучае; чужыя думкі, і нават прыхаваныя і замураваныя ў глыбіні чалавечых душ, схаваныя ад людзей і саміх сябе цяжкія перажыванні.

І за ўсё ў жыцці трэба было плаціць, і як бы Тодар не выкручваўся, як бы не ўзносіўся, не хаваў уласныя дзеянні, свае памылкі, слабасці і аблуды, але рана ці позна ён устане на тую апошнюю сцежку, што павядзе яго да Вышэйшага Суда. Іншы раз гэты Суд робіць сам чалавек над сабой, каб прыйсці да Бога ачуленым і ачышчаным.

Магчыма, гэты людскі Суд больш бязлітасны і жорсткі за Боскі. Бог любіць сваю паству і таму дазваляе чалавеку карыстацца свабодай выбару...

Але ў свет ценяў ён павінен прыйсці з верай у Бога і без амбітных перакананняў, нават пакорлівым і паслухмяным, схіліўшы галаву, як не спраўдзіўшы тое, што яму было даручана, з надзеяй і верай, што Ён праявіць літасць да яго і захавае за ім будучыню, не накіруе яго ў нішто.

**II**

Ноччу нечакана выпаў снег, і раніцой рэчаіснасць паўстала перад вачыма менчукоў белым чысцюткім наваколлем, з бела-чорнымі дрэвамі, засыпанымі ходнікамі і вуліцамі. Жыхары сталіцы, прывыклыя да камфорту, нерваваліся, спяшаючыся на працу, транспарт трапляў у ДТЗ, тралейбусы і трамваі стваралі заторы, легкавікі буксавалі, электарат як заўсёды вінаваціў ва ўсім тутэйшую ўладу.

Фёдар Уладзіміравіч стаяў каля вакна, пазіраў на бярозы, абсыпаныя снегам, на прыгажосць прыроды як на сведчанне існавання Ісціны. Такі самы вясковы зімні дзень паўставаў перад ягонымі вачыма, і ён, узважыўшы свае сённяшнія магчымасці, дазволіў гэтаму даўно знікламу дню спраўдзіцца ў ягонай свядомасці.

Тады таксама быў белы зімовы дзень, з моцнымі маразамі. Зранку Ён

і Яна паснедалі яечняй з некалькімі лустачкамі доктарскай кілбасы, што прыслалі яе бацькі. Ён узіраўся і ўяўляў Яе як вышэйшы ўзор прыгажосці. Прыгажосць была ў яе гнуткай і стрункай постаці, у хвалюючых абрысах, у густоўнасці паводзін, розуме, дабрыні, гаворцы, смеху, позірку, выхаванасці, і чым больш ён меў зносіны з ёй, тым больш трапляў у нейкі тупік, бо не ведаў, як карыстацца гэтай прыгажосцю. Самой ходой падзей іхнія стасункі прыводзілі яго да думкі, што трэба пераходзіць да блізкіх інтымных дачыненняў, да фізіялагічных адносін, аб якіх яны, кожны паасобку, марылі і якіх ён панічна баяўся. Грамадства, у якім яны жылі тады, яшчэ не выпрацавала культурных і выхаваных абазначэнняў і паводзінаў, прыгожых правілаў і прыёмаў для інтымных зносінаў між мужчынам і жанчынай. Слоўныя абазначэнні фізічнай блізкасці ў тыя часы адпавядалі часам прыгонага права ці нават першабытнага грамадства, калі жанчына гэтаксама, як і мужчына – былі жывёламі. І Тодар уваходзіў у псіхалагічны ступар, нават жах, калі пераносіў гэтыя паняткі ў дачыненні да Юлі. Яна не магла быць «цёлкай» ніякім чынам, нават у ягоных думках...

...Потым яны выпілі гарбаты і пайшлі ў краму купіць свежага хлеба, печыва, заадно паглядзець, якое будзе кіно ў вясковым ДК.

Снег рыпеў пад нагамі, на пратаптанай сцежцы між хатамі, за якімі далей панавала заснежаная прастора лесу. Яны схадзілі ў вясковую краму, купілі печыва і хлеба. Паглядзелі абвестку пра кіно. Увечары павінны былі паказваць дэтэктыў «Я – следчы», у галоўнай ролі грузінскі акцёр і спявак Вахтанг Кікабідзэ.

Вяртаючыся назад, яны сустрэлі Алега Краўцова, які бедаваў над сваім сабачкам Апалонам, што трапіў зранку пад колы грузавіка і цяпер мёртвы ляжаў на ўзбочыне, закамянелы ад марозу. Ягоная сястра, Люба, дала імя сабачку ў гонар астранаўтаў, што на касмічным караблі «Апалон» дасягнулі Месяца і першыя з людзей ступілі на паверхню спадарожніка Зямлі.

Юля таксама далучылася да спачуванняў Алегу, і яны ўдвух так шчыра і ўзнёсла гаравалі, што ўрэшце Тодару гэта надакучыла. Шчанюк не чалавек, і наладжваць тут цэлы памінальны мітынг не след, таму ён выказаўся рашуча і шчыра.

– Апалон загінуў, і тут нічога не зробіш і не паправіш. Таму яго, каб не раструшчылі колы машынаў і трактароў, трэба скінуць у роў.

Тодар падчапіў нагой адзервянелае жоўтае нежывое тулава Апалона і спрытна скінуў яго ўніз, адчуўшы, як нехта ўнутры яго здзівіўся ягоным дзеяннем і словам, у якіх прагучала чэрствасць і раўнадушша да смерці і жалобы. *«Шчаслівыя людзі абыякавыя да чужых пакутаў! А як тады спазнаць Ісціну?»* Гэтая думка прамільгнула ў галаве Тодара, і нехта ў гэты момант нібы пераключыў у ім тумблер са стану *«Шчасце»* на стан *«Пошук Ісціны»*.

Ён яшчэ нічога не зразумеў і не адчуў, акрамя гэтай жудаснай ідэі *«пошукаў Ісціны»*, але яго ўжо ачапілі нябачныя нячысцікі ў прадчуванні свайго свята, калі яны пацягнуць гэтага недарэку, які быў у адным кроку ад Боскага Эдэма, у чорную бездань Роспачы...

**III**

– Індык безгаловы! Ідыёт! – звыкла прамовіў Фёдар Уладзіміравіч, абражаючы самога сябе і пазіраючы на белыя снягі ў вакне. Ён ведаў, што калі б ён напоўніцу карыстаўся савецка-расейскім культурным кодам

жыцця, то даўно ўжо загінуў бы, спіўся, засіліўся ці кінуўся пад цягнік. Руская гарэлка таксама была адным з нячысцікаў і звяла процьму людзей у чорную прорву небыцця.

Выратаваў яго, напэўна, той тутэйшы культурны код, які ён несвядома набыў з дзяцінства, дзе валадарыла любоў да сям'і, вясковага асяроддзя, дзядоў і бабуль, жанчын, шчырая павага да людзей працы... Але колькі людства захлынулася ў акіянскіх хвалях бязвер'я, чужога прывітага ладу быцця, дзе п'яны гераізм – вышэйшая ісціна жыцця.

Напэўна анёл, што назіраў за ім, пераключыў тумблер са стану «Шчасце», таму што ён, Тодар, не прайшоў тэст на спагаду і таму не заслужыў гэтага шчасця. Але халера яго бяры з тым тумблерам – ён падвёў Юлю. Фактычна здрадзіў Ёй, іхняму Каханню, таму так узрадаваліся нячысцікі. Ён пражыў сам і дазволіў пражыць Ёй звычайнае жыццё замест жыцця ў Эдэме.

Ён глядзеў на вуліцу, дзе ішоў снег, вецер закручваў снежную замець у белую завіруху, – і ўспамінаў той час, калі Ісціна была такой блізкай і такой магчымай. Ягоны твар стаў пяшчотным і крыху журботным, нібы ён вярнуўся ў сваю шчаслівую і трагічную маладосць. Непаўторныя дзівосныя дні паўставалі перад ім. Шчаслівыя, бо ён быў тады маладым, успрымаў жыццё з той моцай, якая ўласціва маладым, і трагічнымі, бо ён прамінуў свой непаўторны момант, калі мог стаць сокалам.

«Сокалам мог стаць у 25 год! А стаў толькі ў 60. І якая мне ад гэтага карысць, радасць і шчасце? Ніякай! Толькі пераканаўся, што меў патэнцыял, не быў байбаком, а пражыў жыццё вахлаком... Прызнай, дружа, Тодар, што ты па жыцці целяпень?!»

Каханне – прастора свядомасці, тэрыторыя святла да самых зорак. І кожны новы ўспамін – падсвядомы пошук перазагрузкі – і несвядомая надзея вярнуць прастору-Эдэм, каб сокал-свіргуль мог бы лётаць. Але прастора назаўжды закрытая, і нават калі яна прыадкрываецца, то ўсё роўна яна занятая! І таму застаецца цемра, валадарства псіхапатычных трызненняў, дзе заўсёды Ноч, Роспач, Страх, Звышкаштоўныя Ідэі і ўрэшце чорная зрэнка Парабелума...

І сокал ці свіргуль вылятае з чорнай прорвы назад у створаны спачатку Новы Свет, але потым яго некалькі месяцаў будуць мучыць начныя трызненні і немарасць. Гэта плата за ягоную Здраду.

На памяці Тодара ў другой палове мінулага стагоддзя было некалькі катастрафічных падзеяў. Самае першае здарэнне адбылося, калі ён страціў Яе...

Тодар глядзеў перад сабой змрочна, цвёрда, нават злосна, у ягоным позірку не было ніякай літасці, нават спагады, і ў гэтай адкрытай, шчырай, поўнай роспачы сіняй прорве, што валадарна трымала, прыцягвала, засмоктвала ў сваю бясконцасць – панавалі самота і адчай... У бясконцым сусвеце прасторы і часу – Час знік! Валадарыла Светацемра! Вырашалася галоўнае пытанне быцця між Дабром і Злом, і апошняй бясконца малой велічынёй была чалавечая існасць. На чый бок стане гэты чалавек, той бок і пераможа.

І няма, за што зачапіцца, устаць на ногі, абаперціся, нехта побач нечакана зарыкаў, і вось ужо велізарны і драпежны тыгр-людажэр дыхаў сваім смярдзючым дыханнем і амаль усутыч глядзеў у вочы, і ў гэтым блізкім позірку не было ні літасці, ні спагады, толькі жаданне нішчыць. І хтосьці злосны і драпежны зароў так, што ўся прастора вакол захісталася, жу-

дасны дракон зараз схопіць сваёй пашчай і раздзярэ на часткі... Але нехта яшчэ больш злавесны і ўладны падаў свой голас, і вось ён уздымаецца ў асяроддзі, жахлівы, валадарны, і прастора не проста хістаецца, яна разбураецца, і ўсё ў ёй змяняецца, зло робіцца ісцінай, дабро – бяссэнсіцай, і дастаткова згадзіцца, толькі кіўнуць у знак згоды, і ўсё згіне – расыплецца Прастора, знікне Час, знікне Каханая з сінімі вачыма, густоўная і дзівосная, знікнуць палі і сенажаці, трава і блакітнае неба, бібліятэкі і стадыёны, дзеці і бабулі, бары і рэкі, гарады і вёскі, людзі і жывёлы, усёператворыцца ў нішто, знікне зямная куля – гэты чароўны Эдэм, Боскі Рай, падарунак Пана Бога чалавецтву...

...І знікне назаўсёды той дзіўны вечар, калі Ён і Яна ішлі старадаўнім паркам і восеньская лістота бясконца сыпалася з велічных ліпаў і клёнаў і ўсцілала дзівосным жоўта-барвяным кілімам сцежку, яна смяялася сваім чароўным дзявочым смехам:

– Што ты кажаш? Жанчыну нельга ўдарыць нават кветкай!

**IV**

Увечары Фёдар Уладзіміравіч сабраў і паклаў некалькі бутэрбродаў з мясам і кілбасой, іншых харчоў і бутэльку каньяку (на ўсялякі выпадак) у хатуль, апрануў сваё лепшае чорнае паліто і папярэдзіў сваякоў:

– Я ад’еду на пару-тройку дзён, можа, на тыдзень.

– Навошта і куды? – запыталася дачка Сабіна.

– Туды, дзе некалі я быў... маладым.

Ён ехаў ноч – спачатку цягніком “Мінск – Кіеў”, потым зранку дызелем “Калінкавічы – Светлагорск” і нарэшце маршруткай са станцыі да вёскі. Выйшаў на прыпынку «Клёнава» і азірнуўся вакол.

Заснежаная вуліца, як і тады, была бязлюднай. Калісьці гэта было невялікае мястэчка. Яно захавала сваю аўру, мабыць, яшчэ з пасляваенных часоў, мо нават з даваеннага часу. У ім захаваўся парк, напэўна, закладзены яшчэ ў тыя часы, калі шляхта танчыла свае полькі, кракавякі і вальсы. Хадзіла па гэтых сцежках, паабапал якіх – густыя кусты бэзу...

Вясковае жыццё мела нейкі, цяпер ужо нявызначаны сэнс, набліжала да ісціны і, значыцца, да Бога. Восеньскі дробны дождж, імжа, сутонне вечара, адзінота, поўня ў начным небе, ціхае надвор’е, гэтаксама як і цяперашняя цішыня зімовага дня, калі чалавек заўсёды сам з сабой і сваімі справамі, і ёсць магчымасць думаць, назіраць, асэнсоўваць, урэшце нешта зразумець, усвядоміць, пачуць і ўбачыць...

Праехаў трактар з валакушай для расчысткі вуліцы ад снега. Але трактар быў іншым, чым тады. Тады ён ведаў трактарыста Міколу Зязюліна, разам з мужыкамі яны мыліся ў лазні Віктара Буглака, аднойчы нават выпівалі па чарцы. Цяпер трактар быў чужым, ён прыехаў з мехдвара, у ім сядзеў незнаёмы, нетутэйшы абыякавы чалавек. Ён нават размаўляў па-чужому:

– Где здесь у вас можно водички испить? – і трымаўся амбітна, і яго абсалютна не цікавіла, што да іх прыехаў тутэйшы пісьменнік.

Фёдар Уладзіміравіч пастаяў, пакруціў галавой, азіраючы заснежанае наваколле, і павольна рушыў да двухпавярховага будынка школы.

Малады дырэктар школы Іван Іванавіч Коваль трымаўся насцярожана, круціў у руках пасведчанне Саюза беларускіх пісьменнікаў, дапытваўся, па якой патрэбе зазірнуў у іхнюю глухамань сталічны жыхар.

– Можа, вам патрэбны настаўнікі біялогіі і геаграфіі?

– Вы ведаеце, але ў нас беларускамоўная школа.

– Я крыху ведаю мову.

– Чаму вы прыехалі да нас?

– Некалі, 40 гадоў таму, я працаваў у гэтай школе.

– 40 гадоў? Амаль паўстагоддзя назад. У нас ужо няма нікога, хто тады працаваў.

– Ведаю. Я зараз пішу раман. Хацеў бы аднавіць успаміны, пахадзіць па школе. Зайсці ў клас, калі вы гэта дазволіце...

Былі якраз зімовыя канікулы, у абед школа была пустой. Яны пайшлі па доўгім калідоры да настаўніцкай, зайшлі ў крайні клас, дзе быў кабінет біялогіі.

– Можа, гарбаты?

– Калі можна, кіпеню. Вып’ем кавы, у мяне з сабой усё ёсць.

– Зойдзем тады да мяне ў кабінет.

– Я крыху пасяджу, паўспамінаю. Вазьміце мой хатуль і распараджайцеся ім. Я хутка прыйду. Там усё ёсць, каб адзначыць сустрэчу з мінулым. – Стрымана, глухім голасам прамовіў Тодар.

Дырэктар зірнуў на Фёдара Уладзіміравіча і ўбачыў ягоны адсутны твар са слязой у вачах – той жыў у іншым, даўнім часе. Уражаны, дырэктар забраў хатуль і пайшоў у свой кабінет. «Хто яго ведае, што ў тым хатулі, можа, бомба?»

...Некалі, зусім нядаўна, усяго толькі сорак гадоў назад, на педнарадзе, ён ціхенька, хаваючыся ад дырэктара, гуляў з Ёй у шахматы.

– Гардэ, шаноўная Юля, вам.

– А табе, шаноўны Федзя, шах!..

І сонца тады свяціла якраз з крайняга вакна ў твар дырэктара Тараса Пятровіча, і таму той не бачыў, як яны гулялі ў шахматы, каб неяк пераседзець нецікавую педнараду. І з таго сонечнага дня застаўся толькі гэты ўспамін і больш нічога. Які ён быў тады малады, наіўны і шчаслівы! Шчасце – асаблівасць шчырых і маладых...

Гардэ і шах?! Так, так! Жыццё, па вялікім рахунку, паставіла ім дваім Мат! Сакрушальны бязлітасны Мат!

...І абое яны згубіліся ў жыцці, як страла, пушчаная ў цемру ночы...

**V**

Фёдар Уладзіміравіч зайшоў у кабінет дырэктара, зняў чорнае паліто. Ён прысеў за стол і падпісаў Клёнаўскай сярэдняй школе дзве свае апошнія кніжкі. Дырэктар уладкаваўся на другім баку пісьмовага стала і ўключыў электрачайнік. Ён быў стрыманым, з натуральным пачуццём адказнасці, якую набывае чалавек, што працяглы час кіруе нейкім калектывам.

– Адна кніжка пра каханне, а другая пра палітыку. Каньяк вам, Іван Іванавіч, дзеля таго, каб успомнілі як-небудзь пра нашае пасляваеннае пакаленне.

– Я не ўжываю спіртныя напоі, Фёдар Уладзіміравіч.

– Чым жа вы тады займаецеся ў вольны ад працы час?

– Пішу, Фёдар Уладзіміравіч, дысертацыю па выхаванні дзяцей у час глабалізацыі і страты арыенціраў.

– Вы малайчына. Але тэма небяспечная. Пэўныя колы могуць не прапусціць, – лагодна зазначыў пісьменнік і дадаў з журбой, – а мы ў свой час былі адэкватнымі. Займаліся паляваннем і спажываннем спіртных

напояў, святкавалі мноства дзяржаўных святаў: дзень вялікай перамогі, дзень рыбака, будаўніка, танкістаў, артылерыстаў і непрыкметна прапілі вялікую дзяржаву...

Фёдар Уладзіміравіч даставаў са свайго хатуля распушчальную каву, цукар, цукеркі, печыва, вяршкі ў тэтрапакеце.

– Цікава, каго вы прымаеце за «пэўныя колы»? – пытанне дырэктара было акрэсленае і трапнае, і пісьменнік гэта ацаніў.

– Гэта тыя, хто дамінуе, імкнуцца валадарыць на ўсёй тутэйшай разумовай і культурнай прасторы, задаюць танальнасць, напрамак і тэмп руху, стварае ідыялагемы, стэрэатыпы, рэфлексы і звычкі...

Яны разумелі адзін аднаго і гаварылі на мове тутэйшых, тых, хто ўмеў ісці за плугам, абсмаліць і асвежаваць кабанчыка, выпаліць лазню, стагаваць сена...

Цяпер яны як след разгледзелі адзін аднаго. Дырэктар быў малады мужчына гадоў сарака, з русымі валасамі, сінявокі, у цёмна-сінім касцюме з фіялетавым гальштукам. Цяпер ён, зірнуўшы на гадзінік, пазіраў з цікавасцю правінцыйнага мысляра на пісьменніка. На стале з боку знаходзіўся ноўтбук. На кніжнай паліцы Тодар заўважыў кніжкі Песталоцы, Жан-Жака Русо, Эрыха Фрома, некалькі кніжак Сяргея Кара-Мурзы, «Тайны беларускай гісторыі» Дзеружынскага.

– Зазіраеце ў сеціва? – пісьменнік, сівы, уважлівы і задумлівы, нібы жыў адначасова ў сучаснасці і мінулым.

– Зазіраю. Трэба ж ведаць, што робіцца ў свеце. А дысертацыю сапраўды могуць зарэзаць. Мой навуковы кіраўнік Раман Васільевіч так і кажа: «Дысертацыя каштоўная, але без падтрымкі абараніць будзе немагчыма. «Пэўныя колы» – самі «шчупакі», «павукі» і «артадоксы» – не пусцяць у навуковы акіян «дэльфіна», – дырэктар разліваў па філіжанках кіпень.

– Дарэчы, я чуў, што ў Мінску створаны закрыты элітарны клуб ліцвінаў-інтэлектуалаў «Рондаль», які нібыта падтрымлівае здольных тутэйшых?

Пісьменнік насцярожыўся.

– Адкуль такія звесткі, калі клуб закрыты?

– Сваяк сказаў. Жыве ў Мінску, мае доступ да сакрэтаў. Казаў, што гэты клуб кшталту масонскай ложы. Прымаюць толькі ліцвінаў-беларусаў, што карыстаюцца беларускай мовай і маюць вясковае паходжанне. Дарэчы, не ўжываюць спіртныя напоі...

Фёдар Уладзіміравіч схаваў сваю незадаволенасць ад пачутага. Ён быў адным з заснавальнікаў гэтага элітарнага клуба «Рондаль», прыдумаў яго назву і праводзіў яго паседжанні. Клуб быў закрыты і нідзе не даваў ні рэкламы, ні звестак аб сваім існаванні. Першыя сустрэчы праводзіліся ў штаб-кватэры БНФ, і было зразумела, што пэўныя службы мелі ўсе звесткі пра клуб. Апошняя дыскусія была знарок праведзена на сядзібе БНФ – размова закончылася раз’юшанай спрэчкай і клуб нібыта разбегся. Ужо з год, як паседжанні праводзіліся на прыватных кватэрах, вельмі абмежаваным колам прыхільнікаў, і інфармацыя павінна была згаснуць...

...Яны нетаропка смакавалі духмяную каву і абменьваліся думкамі...

– Скажыце, Фёдар Уладзіміравіч, чаму жыццё нашых людзей не вельмі шчаслівае, нават у сям’і? Я правёў збор звестак па нашай вёсцы за апошнія 50 гадоў, і аналіз паказаў, што большасць не спраўдзілася. Раз-

воды, самагубствы, п'янства, смерць у маладым ці сярэдняга веку ўзросце, неўладкаваныя дзеці...

– Адсутнічае, Іван Іванавіч, агульная ідэя ў грамадстве. Страчана еднасць, пачуццё локця, няма агульнай мэты. Шчыруе чужая і варожая для нас ідэалогія спажывання, сэкс, распуста, узбагачэнне, вынішчэнне тутэйшага асяроддзя...

Пісьменнік прамаўляў стрымана, хаваў сваю глыбокую маркоту і тым самым захоўваў пазітыў размовы.

– Каб выйсці на арбіту спраўджанага асабістага шчасця паміж мужчынам і жанчынай, неабходна прайсці тры этапы. Адна прыступка – узгадаваць духоўны, культурны, прафесійны ўзровень асобы, другая – духоўнае пазнанне адно аднаго і трэцяе – фізіялагічнае пранікненне адно ў аднаго, як сказана ў Бібліі, *«прылепецися адно да аднаго і станеце адным цэлым»*.

– Зараз гэта актуальна, як ніколі. Прылепліваюцца адно да аднаго, адлепліваюцца, і зноў прылепліваюцца. Бывае, што і настаўніца прылепіцца да вучня... Яму ў 11 класе ўжо сямнаццаць, а яна прыйшла з вучылішча ці нават з універсітэта і мае дваццаць ці дваццаць адзін год. Вось і «прылепліваюцца», – дырэктар змаркочана пазіраў на пісьменніка. – Як з гэтым было ў ваш час?

– Гэтаксама. Але ў наш час акрамя маралі была яшчэ і ўлада, і калі даросльі спакушаў непаўнагадовую, то мог трапіць за краты.

– Вось вы пісьменнік. Што для сапраўднага сямейнага шчасця трэба?

– Здароўе. *«Нішто не пагражае будучаму шлюбу больш, чым слабое здароўе»,* – так сцвярджаў на пачатку XX стагоддзя ўрач-сэксолаг Тэадор ван дэ Вельдэ.

– А ў вашым выпадку што перашкодзіла стаць шчаслівым?

– Катастрофа ў маладыя гады... – пісьменнік задумаўся, ён пачаў аб нечым здагадвацца, ловячы сутнасць яснага і канчатковага пачуцця аб поўнай бессэнсоўнасці свайго жыцця. – Помню, гэткі самы марозны снежны дзень, калі я скінуў Апалона ўніз... тады нешта нібы пераключылася ўва мне.

– Апалон у грэцкай міфалогіі – бог Сонца. Таксама бог розуму, гармоніі, парадку, сацыяльных зносінаў. Вы вельмі неабачліва зрабілі, калі яго некуды скінулі.

– Так, Іван Іванавіч, я тады прамовіў нешта накшталт: «Апалон загінуў, і каб яго не раструшчылі калёсы машынаў і трактароў, трэба скінуць у роў». І скінуў нагой сабачку ўніз, замест таго, каб пайсці па санкі, завезці ў лес і пахаваць. Хацеў гэта прапанаваць сябрам, але быў мароз і я паленаваўся.

– Вам, Фёдар Уладзіміравіч, дастаткова было прамовіць «Сабачка загінуў...» не кранаючы слова «Апалон». Багі, няхай сабе і старадаўнія, не любяць зняважлівых адносін да сябе.

Узрушаны пісьменнік сціснуў сківаць, ён моўчкі глядзеў у вакно. Вось ён, пачатак, магнетычны імпульс будучай катастрофы. Калі багі хочуць некага пакараць, яны забіраюць у яго розум... Апалон – бог Сонца, тады пераключыў у ім тумблер на «пошук ісціны».

– Абразіў старажытнага бога і таму прайграў, Іван Іванавіч. Мабыць, наблізіўся да багоў, і там маё дзікунства, нявыхаванасць, інфантыльнасць і шмат іншага перашкодзіла ўвайсці ў стан абраннікаў.

Дырэктар ізноў уключыў электрачайнік і, дачакаўшыся, калі закіпіць вада, пачаў разліваць кіпень у філіжанкі з кавай і цукрам. Яны дадалі крыш-

ку вяршкоў, потым размешвалі лыжачкамі і маўчалі. Пісьменнік змяніўся, пацямнеў тварам, мінулая драма працягвала жыць у ім, круціла яго, то ўздымала ўверх, то прымушала паўзці па цяжкай дарозе ўспамінаў.

Нарэшце, пісьменнік прымусіў сябе вярнуцца ў рэчаіснасць і памяняў накірунак размовы.

– Кожны народ – каваль свайго шчасця ці няшчасця... Фактычна, п'янства і адсутнасць грамадскіх мэтаў і арыентыраў прывяла да разбурэння вялікай краіны. Сам покуль збудаваў сябе – жыццё ўжо прамільгнула. Прыйшлося доўга самастойна шукаць жыццёвыя ісціны. У народа няма эліты, якая б данесла маладзёнам галоўнае, каб тыя не страчвалі тэмп жыцця.

Ён зрабіў некалькі глыткоў кавы, памаўчаў і стрымана, каб прыхаваць сваю змрочнасць, дадаў. – Да таго ж, старэйшае пакаленне не здолела прыпыніць алкагалізацыю моладзі... Прыкладна з 1967-70 гадоў была запушчана дзяржаўная праграма спойвання насельніцтва, у выніку к 1980 году вырасла маладое пакаленне алканаўтаў.

– Але ж вось вы спраўдзіліся, Фёдар Уладзіміравіч, здолелі ўзлезці высока?

– Гэта вышыня «статыста», які бачыць і разумее плынь падзей, але адсунуты ад удзелу, і таму не ўплывае на іх. Каб узбіцца на арбіту, неабходна прысутнасць эліты. Каб эліта ўздзейнічала на творчых і таленавітых, падтрымлівала, кіравала, пераконвала, выхоўвала, любіла, змагалася за цябе...

– Эліта? Хто гэта?

– Эліта – соль зямлі, яна, як сімфанічны аркестр, вядзе, уплывае, гучыць, накіроўвае... Яна, як дасканалая жанчына, і ўсё ў Ёй рацыянальна, прагматычна і ўзнёсла.

– А вы?

– Я? Ахвяра! Мы – няспраўджанае пакаленне, выхаванае на шкодных і стратных меркаваннях і дэвізах: «Лепш быць бедным і здаровым, чым багатым і хворым», замест таго, каб казаць і думаць: «Лепш быць здаровым і багатым, чым хворым і бедным». Ці такая лухтаватая хрэнацень: «Перамагчы ці памерці», замест «Перамога дзеля жыцця, а жыццё дзеля перамогі». Навошта перамога, калі няма жыцця? Мы не навучыліся нават у тэорыі перамагаць у малым, як жа мы навучымся перамагаць на практыцы ў вялікім. Такім чынам, мы – духоўныя ахвяры Другой сусветнай вайны.

Дапіўшы каву, яшчэ з паўгадзіны яны гаманілі пра сучаснасць.

Ужо на развітанне, калі дырэктар праводзіў яго да выхаду са школы, ён спагадліва зазначыў:

– Вы, Фёдар Уладзіміравіч, перабольшваеце негатыў наконт самога сябе.

Фёдар Уладзіміравіч няўпэўнена паціснуў плячыма. Зараз ён ужо разумеў, што толькі Яна магла б патлумачыць яму, хто ён, а калі Яе не было, то як ён мог даведацца, што ён абраннік?

Сваім маладым інстынктам, досведам педагога, прафесіянальным розумам мысляра, яшчэ не зашмальцаваным штодзённасцю, дырэктар-навуковец адчуў глыбіню свядомасці гэтага чалавека, што ў самоце ўглядаўся ў будучыню, ішоў па хісткім небяспечным мастку свайго ўяўлення над цяснінай, а вакол валадарыла вераб'іная ноч, і трэба выжыць, звязаць мінулае з сучаснасцю, намацаць шлях для тутэйшых у гэтай будучыні...

– Калі захочаце, Іван Іванавіч, можаце скінуць мне па электронай пошце

аўтарэферат сваёй дысертацыі, я пачытаю і, магчыма, знайду патрэбных тутэйшых, што дапамогуць вам...

– Дзякуй. Сёння і скіну па вашым электроным адрасе.

Яны моцна паціснулі на развітанне адзін аднаму рукі. Малады дырэктар школы глядзеў на пісьменніка здзіўленым позіркам, ён быў уражаны і адначасова задаволены, што іх нібыта закінуты вясковы кут быў самым важкім і галоўным месцам на планеце для шаноўнага чалавека, што жыў у сталіцы і чагосьці дасягнуў у жыцці.

Фёдар Уладзіміравіч павольна і бязмэтна ішоў па вясковай вуліцы да прыпынку аўтобуса, каля той самай засыпанай снягамі хаткі, дзе некалі жыла Юля, праз снежна-белы старадаўні парк да дома культуры, дзе калісьці яны глядзелі фільм «Я – следчы».

Прастора была тая самая, але жылі тут зусім іншыя людзі і галоўнае, што Яе ўжо нідзе не было... І таму ягонае жыццё звычайнага шараговага чалавека не мела для яго цяпер аніякай каштоўнасці... Ён шчыра хацеў бы зараз проста знікнуць з быцця. І гэтае знікненне ён успрыняў бы з вялікай палёгкай. Але жывым у магілу сам не палезеш, і таму трэба было цярпець гэтае абрыдлае, доўгае і бессэнсоўнае жыццё.

**VI**

Праз тыдзень Фёдар Уладзіміравіч пайшоў зацвярджаць і здаваць свой закончаны сцэнар на кінастудыю «Беларусьфільм». У рэжысёрскай за сталамі сядзела прадзюсар Ала Голікава, хударлявая феміністка, энергічная, з характэрным маскоўскім дамінуючым стылем паводзінаў. Рэжысёр-пастаноўшчык фільма Мая Мігулеўская – спакойная і маўклівая, стварала ўражанне ўдумлівай асобы, і яму яна, на фоне прадзюсара, спадабалася. Дырэктар фільма Стась Шулешка пры гальштуку ў прыстойным светлым касцюме сціпла сядзеў збоку.

Ала Голікава, зірнуўшы на пісьменніка, валадарна запытала дырэктара фільма.

– Это сценарист? Хорошо. Станислав и вы, Фёдор, я вам сразу скажу, что фильм выходит на широкую зрительскую российскую аудиторию. Поэтому никому не интересна ни ваша мова, ни ваш экстерьер. Весь, как и интерьер, так и экстерьер, должен быть российским. Вы поняли меня?

Фёдар Уладзіміравіч уважліва з цікавасцю ўзіраўся ў прадзюсара Алу як жывы сучасны тыпаж маскоўскай супольнасці, што ўсё яшчэ імкнулася весці рэй на постсавецкай прасторы. «Цікава, ці ёсць у яе сям'я, дзеці? Мабыць, ёсць. А малады каханак? Гэта так модна ў іх зараз, мець маладога бойфрэнда? Хутчэй за ўсё, дама хоча зарабляць грошы, усё астатняе ў яе на другім плане. Укласці пяцьсот тысяч крэдытных грошай, а атрымаць два мільёны. Гэта зараз іхні галоўны брэнд, зарабляць. Косяць пад амерыканцаў».

– Вы записываете, Фёдор, это хорошо, но пока послушайте.

Між тым Тодар, пазіраючы на маскавітак, хутка запісваў свае ўражанні ў сшытак. «Апранута ў цёмна-сіні пінжак, каляровая кофта, даволі прыстойныя цёмна-сінія штонікі, скураныя боцікі. Рудыя валасы, цёмныя вочы невядомага колеру. Гадоў пяцьдзясят на выгляд. Ціснe на суразмоўцу і ўвесь час дамінуе, ніякага творчага пошуку». Ён востра зірнуў на Алу і дадаў у запіс «Жадання не выклікае, наадварот, адштурхоўвае».

– Я тебя предупреждала, Станислав, что никакой тургеневщины и никакой чеховщины не должно быть. Всё это устарело уже в двадцатом

столетии. А сейчас время бежит к середине двадцать первого. Новые поколения всего этого не приемлют. Это возрастной инфантилизм, отставание в развитии.

– Альберт Эйнштэйн, дарэчы, як і Франклін Рузвельт, абодва прызнаваліся, што з моцным спазненнем рабіліся дарослымі, – лагодна і нават спагадліва зазначыў Фёдар Уладзіміравіч.

Маскавітка зірнула на яго вострым позіркам сучаснай бізнэс-лэдзі і стрымана патлумачыла.

– Талант не пропьёш, если это сильный талант. А средним людям, личностям безусловно способным, но не имеющим больших талантов, необходимо быстро и вовремя становиться взрослыми. Поэтому эти, по-вашему «каханні», – в спам. Нужны фильмы с качественым сексом. Очень хорошо было бы, если бы секс был с изюминкой, например, молодого симпатичного учителя с пожилой, но воспитаной и привлекательной учительницей.

– Сэкс маладога настаўніка з дырэктарам школы? – добразычліва, але з прыхаваным здзекам закінуў пытанне пісьменнік. Яны не зразумелі, што Фёдар Уладзіміравіч правакуе, вывучае і потым запісвае іх адказы, меркаванні, трапныя і тыповыя рэфлексы.

– Вот, вот. Это как раз в точку, будет востребовано и в Европе.

– Канечне, можна і сэкс, але ён цікавы толькі для тых, хто непасрэдна займаецца гэтым экшэнам. У тых, хто назірае, ён нават выклікае агіду. Мы ж не можам рабіць стаўку на падлеткаў і прышчаватых гімназістаў.

– Вот и займитесь этим, вы – писатель. Это ваша забота. Не надо забывать старика Фрейда: «Борьба между Эросом и Смертью – сущность и содержание жизни вообще...»

Фёдар Уладзіміравіч спахмурнеў, ён, пішучы сцэнар, прапусціў жыццё свайго героя праз сябе, шмат зразумеў і дасягнуў таго валадарнага, боскага стану душы, які нельга перамяніць. Таму ён, пазіраючы на Станіслава Шулешку, зазначыў прысутным:

– А дзе галоўная мэта мастацтва: сеяць разумнае, добрае, вечнае? Сцэнар нібыта быў заказаны пра каханне, пра «драмы і трагедыі», пра дасягненне катарсіса гледачамі, а на самай справе патрэбны жывёльны і хамскі сэкс! Будзем гнаць лабуду шкодную для грамадства?

– Свободен! Давайте, Станислав, второй сценарий. Этого, как его, Курочкина.

Твар Фёдара Уладзіміравіча памяняўся, набыў зусім іншы, чужы незнаёмы выгляд. Ён разняволена і артыстычна прамурлыкаў: *«Если очень вам неймётся, обнимайтесь с кем придётся. Водными займитесь проце... дуррра... ми!»*

Ён забраў са стала свой асобнік сцэнара і пайшоў да дзвярэй, непахісны і стрыманы. Стаць шасцёркай, чужым падпявалам, халуём шэрасці ён не збіраўся. Ягонае аблічча сведчыла, што ён ужо знаходзіўся ў новай рэчаіснасці, там, дзе існуе і пануе зусім іншая, боская існасць... Не будзе кінасцэнара, будзе раман. Кіно – гэта з’ява часовая, застаюцца толькі моцныя класічныя рэчы, але гэтыя распілоўшчыкі крэдытаў і грантаў ніколі не здымуць *катарсіс*, бо не ведаюць, што гэта такое. А літаратура вечная, і ён напіша раман, і потым адшукае і пашле Ёй гэты трагічны твор пра Іх каханне...

*21 снежня 2012 г., Менск.*

Анатоль Івашчанка



...Гуглі не гуглі –
не знойдзеш дарогі
да пункта з назовам Куплін...

# Закон не-жалезнасці

***ЭПОХА П.***

сямейны быт трашчыць па швах
і справы у агуле швах
ды поўны рэзрух у мазгах
электарату

у перашкодах дух расце
калі на хлебе і вадзе
вібрарэжым у жываце
парад парадаў

шахматнай дошкай па вушах
улада абвяшчае шах
звычайны шлях – да праху прах
а мы і рады

у кожным слове тайны знак
краіна патанае ў снах
эпоха пох эпоха нах
эпоха плагіяту

### *ЯНЫ*

Пакуль мы пісалі дапаможнікі
па выжыванні ва ўмовах дыктатуры
і абаранялі дысертацыі
па барацьбе з крывавым рэжымам,
марылі нарадзіць прэзідэнта
(альбо – наадварот),
яны
    проста
        жылі.

Калі мы, выпусціўшы пару,
нашосіўшыся ў ліфтах, наляпіўшыся налепак
і нажабіўшыся на сценах сацсетак,
вярталіся да сталоў,
яны налівалі нам штрафную й пыталіся:
ну як яно было ТАМ?
І хтосьці распавядаў са смехам,
як хаваўся па кавярнях,
хтосьці, чухаючы адбітыя ныркі,
суха апісваў, як уцякаў,
пераскочыўшы праз кардоны...
Але ўсе разумелі,
што распавядаць няма пра што.
Яны і так усё бачылі.
Гэтак жа,
як у анлайне бачыў вар'ят
за пультам кіравання сусветам,
вышукваючы хлопчыка з выбухоўкай,
замаскаванай пад тэрмас...

Калі мы спявалі ля вогнішча русальныя песні,
яны адчынялі ўсе дзверы сваіх тачылаў
і давалі гуку напоўніцу.
А калі мы зрывалі глоткі іх перакрыкваць
і ў іх сядаў акумулятар,
мы распаўзаліся па намётах.
Тым часам яны даставалі з багажніка запасны...

Не, яны не перамаглі,
і мы не прайгралі.

Нельга перамагчы,
не ведаючы пра тое, што ідзе вайна.
Яны
жылі...
І множыліся,
і забівалі дзетак у сваіх улоннях
рознымі хітрымі спосабамі
(у адпаведнасці з тыднем цяжарнасці).

Калі мы, змірыўшыся,
пачалі жыць
і, аднойчы прачнуўшыся,
зразумелі нарэшце, што мы цяпер –
як бы таксама яны, –
было ўжо позна.

## *МІЖ ДВУХ*

так багата ўсяго не выказана
існаванне між явай і вымыслам
у вязніцы радкоў
і пратухлых цытатаў
пазіраю наўкол
паўпрытухлым паглядам

існаванне у пастцы
між полюсаў двух –
пад няўмольным прыцэлам
калі цяжка – кажу сабе
я – не дух
як зусім невыносна, шапчу:
я – не цела

## *НАВОШТА?*

мае дарагія
сябры па няшчасці
браты па жж
і сёстры па асьцы
завіслыя ў чаце
над прорваю ў жыце
у гэтым бяздарным
бязрадасным часе
у гэтым дасюль не закончаным джазе
у творчым экстазе
лытдыбравым сказе
вы сёстры і брацці скажыце:

нашто вы марнуеце гэтыя жыцці?
на што вы марнуеце гэтыя жыцці?!
завіслыя ў часе
скажыце...

нашто тыя сваркі і звадкі і цёркі
нашто тыя вартыя смеху разборкі
калі мы ляцім да нязнанае зоркі
абмазаўшы воскам здранцвелыя пёркі
навошта, га, ёлкі-іголкі?..

## *ДАРОГА*

*Время – поездом вдаль, время – стрелами в Лету,*
*по несжатым полям, по отравленным рекам.*
*По дорогам кривым, по лесам, по болотам,*
*оставляя кресты, как следы, за собой!*

К. Кінчаў.

дарога вядзе ў горад
паўз чароды гародаў
паўз краявід гаротны
у горад вядзе дарога

вядзе паўз яры і пагоркі
паўз травяныя сувоі
пад маўклівым канвоем
першае зыркае зоркі

паўз успаміны ды одум
паўз гаркавы куродым
паўз трызненні ды сны
у горад сканалай вясны

## *ПАРУШЫНКА*

*(закон не-жалезнасці)*

над праспектам незалежнасці
маленечкая парушынка
парушала закон непазбежнасці
(уключна з законам узаемазалежнасці
хуткасці падзення цела
й ступені яго жалезнасці),
кружляючы над коракамі машыннымі
па-над шэрагамі бліскучымі шчыльнымі
дзе за шыбінамі –
самотныя і шчаслівыя
па-над шчырымі і няшчырымі

над мужчынамі й немужчынамі
па-над ходнікамі мітуслівымі
над гэтай усёй валтузнёй мурашынаю –
маленечкае пёрка птушынае

кружляла
аддаляючыся
па-
  ма-
    лу

## *ПЛОШЧА*

*Б. П.*

Сонца ў вочы,
“Крама” на сцэне,
усё нармалёва нібыта,
але тыя ночы
біцця й нябыту,
хто іх ацэніць?

Енкі са сцэны:
“Хлопцы, святкуйма,
хутка рэжыму вілы!” –
рэхам у зрэнках
пеўня ў цывільным:
“х... вам!”

Завеяй горад
горла палошча,
у скронях сталёвае скерца...
Скуль пачынаецца Плошча?
З сэрца.

Берцаў злавесны пошчак,
і нават у моцнага
пераймае дых.
Воля пачнецца з Плошчы
вымавіць хтосьці ўслых.

Жывейшы за многіх жывых
наш нябожчык,
ды сонца ўзыйдзе праз смугу.
Адзіным дыханнем
выгуквае плошча:
Разам!.. Жыве!!. На муку!!!

## *АДРЫНУТЫ (-Я)*

*Паўлу Севярынцу*

Адрынутыя –
ты,
я,
мы.
На вуснах патрэсканых
прысмак зімы.
На вуснах скрываўленых
прысак вайны.
У лоб дубальтоўку наставіла восень.
Бы высыпкі воспы
на целе радзімы, –
“хіміі”, зоны, астрогі.
Гуглі не гуглі –
не знойдзеш дарогі
да пункта з назовам Куплін.
Халодныя вочы,
няўтульныя зімы.
Пачварныя плямы
на целе радзімы.
Няўтульныя вочы,
халодныя зімы.

Плямы – мы.
Нас тысячы.
Ты сячы,
а мо й мільёны.
Ззяюць знічы
сярод гэтай начы.
Цэлы народ замкнёны.

Колькі такіх,
каго без віны,
ўшчэнт, падыспад,
у тыя віры?..
Ці маецца дно
у глыбіні?

“Хімік” –
гэта ж ад “схімніка”?

З узбочыны скрушна
тарашчыцца крушня.
Вось сімвал сцюдзёнага выраю.
Заўважана слушна.
*God, where are You?*

Яны адграбуць, Паша, помні
па поўнай.
Хоць тое й не наш,
хрысціянскі, метад.
Але ж адграбуць, Паша,
ведай.

## ***РАНІШНІЯ ЛЮДЗІ***

*я падазраю: на маё жыццё выпала ноч*
Барыс Пятровіч.

...верш паўз мяне прарастае
знізу ад кончыкаў пальцаў
цягнецца плаўна па сцёгнах
спіне руках і грудзях
перамяшаны з крывёю
й сочывам папараць-кветкі
каб чарапінне раструшчыць
парасткам новага слова

...верш прарастае уночы
зранку ж устану на золку
каб напаткаць невядомых
дзіўных нязнаных людзей
тых што кладуцца не позна
прамармытаўшы малітву
ці пра сябе праказаўшы
(можна як што й пра сябе)
ці без ніякіх малітваў
пад галівудскае мыла
ці – нетаропкае порна
ці проста тупа кладуцца
ў ложкі з партнёрам ці без
хтосьці глытаючы таблы
хтосьці без таблаў і траблаў
хутка сабе засынаюць
ведаючы што прачнуцца
поўныя сіл і здароўя...
ведаючы што прачнуцца

не, можа быць яны ў курсе
што ёсць падставы для суму
што дзесьці несправядлівасць
чыніць крывавы рэжым
ў Афрыцы дзеці канаюць
ў лесе маньякі цікуюць
плюшавыя дэсантнікі

скачуць на галаву
толькі ці ж гэта зашкодзіць
можа законнаму сненню
пасля працоўнага батлу
тых каму хлеба стае

я пазіраю без злосці
без аніякай пагарды
ў вашыя свежыя твары
ў чыстыя вашы бялкі
я адкажу на ўсмешку
шлангам прыкінуся ў дошку
хай мяне лічаць таксама
ранішнім жаўранкам хай

толькі чырвоныя вочы
толькі марудныя рухі
толькі падрыгванне пальцаў
скажуць: ты, хлопча, – пугач!
толькі раструшчаны чэрап
з чэзленькім парасткам слова
не заўважаным звонку
выгадаваным радком

## *ТРЭЙЛЕР*

жыццё
падобнае да прагляду кінафільма
*(глыбакадумная паўза)*
у кагосьці
гэта мяккі фатэль, папкорн, далбісараўнд, 3D
і поўная зала.
хтосьці,
седзячы ў офісе ў вялізных “лопухах”,
забіўшы на дэдлайны, каштарысы ды справаздачы,
трымаючы правы ўказальны на “паўз”
(на выпадак форс-мажора ці шэф-мінора),
утыкае ў казённы манітор.
хтосьці,
заліўшы з торэнту свежачка, –
не таму што шкада грошай на ліцэнзію,
а таму што няма як чакаць,
бо трэйлер спампаваны ўжо 2 месяцы таму,
і... ну бля... –
глядзіць пірацкую копію з каламутнай карцінкай,
са смехам і мацернымі каментамі за кадрам...
хтосьці любіць поўны дубляж,

хтосьці глядзіць з субтытрамі,
а хтосьці – у арыгінале.
і гэта –
толькі фармалёвыя чыннікі.
пра змест і жанры мы нічога не сказалі.
жыццё
падобнае да прагляду фільма.
а вы думалі – наадварот

## *КІМ БЫЦЬ*

Хто скажа, што лепей цяперашнім светам,
быць гамафобам або графаманам.
Лепей, вядома ж, не тым і не гэтым.
Лепей быць профі ў сусвеце прафанаў.

Хто скажа, што лепей цяперашнім часам,
дыктарам быць або мёртвым паэтам.
Кім быць – дыктатарам ці п...расам.
Лепей, вядома ж, не тым і не гэтым.
І можаш пісаць хоць сцілом, хоць сцізорыкам,
сцілус нязграбна рыфмуючы з чэлесам.
Неба плюецца халоднымі зоркамі.
Муза санліва нашэптвае:
йдзі ты, чэл, лесам.

## *У ПАДВЕШАНЫМ СТАНЕ*

у чаканні калі пад нагамі
бела-жоўтае кепства растане
калі з сэрца адхлыне слата
калі выцячэ з носу вада
існую у падвешаным стане
паміж сном і параненым раннем
між малітваю і спавяданнем
паміж вераю і спадзяваннем
між старою і новай зямлёй
між нябёсамі
і сям’ёй

Уладзіслаў Бубен



...нічога без дырэктара самі зрабіць не можаце...

# Куратнік

***Апавяданне***

*Усе мы бройлеры:*
*Стаім, набіраем вагу,*
*Страціўшы маці курыцу.*

На вуліцы завываў халодны восеньскі вецер. У кабінеце дырэктара куратніка было цёпла і па-казённаму няўтульна. Пах чыіхсьці задужа начышчаных чаравікаў змешваўся з данесеным з вуліцы дымком ад таннай цыгарэты і нібы замацоўваўся трывалым пахам мужчынскага поту, прыпраўленага часныком ды цыбуляй.

Дырэктар фермы, немалады, але, як кажуць, прадстаўнічы мужчына таго тыпу, што небяспечны для дам сярэдніх гадоў і незамужніх дзяўчат за трыццаць, сядзеў за сваім працоўным сталом і задумліва глядзеў у вакно. З радыёпрыёмніка ліўся досыць прыемны голас дыктара, які, часам збіваючыся, але дастаткова бойка чытаў апошнія навіны з палёў. Скончыўшы, голас з ненатуральнай механічнай радасцю аб’явіў:

– А цяпер паслухаем канцэрт па заяўках работнікаў мяса-малочнай прамысловасці. Таццяна Іванаўна Глюкановіч з аграгарадка Новы Канец просіць перадаць для сваіх цялушак якую-небудзь песню. Шаноўная Таццяна Іванаўна, песні ў нас скончыліся, таму прачытаем для вас і вашай скаціны спецыяльную сельскагаспадарчую паэзію з рамантычным падтэкстам.

Густы бас з радыёпрыёмніка стаў вяшчаць, па-акторску акцэнтуючы ўвагу на сэнсавых нюансах паэтычнага твора:

Свіныя капыты
Грукаюць у душу.
Шукаю, шукаю шашу
Да лепшага жыцця...

“Вось ён, рэжым эканоміі, на справе, – падумаў дырэктар. – Паэзія... Песень у іх для працаўнікоў не хапае. На ўсім цяпер эканоміць давядзецца”.

– Гэй, Міхайлавіч! – грымнуў непрыемны, хрыплаваты голас Ганны Пятроўны, брыгадзіра змены. – Хадзіце хутчэй! Зноў куры чагосьці хочуць, разышліся так, нібы куніца ці тхор да іх залезлі. Раскрычаліся так, што мы аглухлі зусім.

– Іду! Хто ж вам, бязрукім, акрамя мяне дапаможа. Нічога без дырэктара самі зрабіць не можаце, – раздражнёна працэдзіў Міхайлавіч.

Прайшоўшы праз даволі загаджаны двор і абмінуўшы лужыны і невялікія ямкі, запоўненыя курыным памётам, дырэктар з сумам згадаў пра ўкрадзеную плітку, якая так добра ўпісалася ў дызайн двара яго ўласнага дома.

“Можа, дарма ўсё вывез? Трэба было хаця б дарожку ад майго офіса да куратніка выкласці. Хаця навошта? Што мне, цяжка праз пару купін пераскочыць? Затое дома цяпер утульна”.

Зайшоўшы ў куратнік, дырэктар быў непрыемна ўражаны агульным беспарадкам: падлога між клеткамі бялела ад памёту і вырванага пер’я, паветра было напоўнена курыным крыкам і гоманам.

– Што гэта за гармідар? – строга звярнуўся Міхайлавіч да некалькіх спалоханых работніц, што стаялі, апусціўшы галовы.

– Гадзіны тры ўжо бунтуюць. Ніяк супакоіць іх не можам, – заікаючыся ад страху прамармытала адна з жанчын. – Крыху корму ім зменшылі, вокны некалькі разоў не адчынілі, дык яны адразу бунт паднялі.

– Вой, разбэсцілі вы іх без мяне. Добра, зараз разбяруся.

– Шаноўныя, любімыя куры, бройлеры і пеўні! Я прыйшоў да вас, кінуўшы ўсе свае важныя справы. Я не пашкадаваў свайго часу, каб выслухаць вас, мае мясныя сябры. Паслухаўшы мяне, вы супакоіцеся і зоймецеся сваімі звычайнымі справамі – працягнеце несці яйкі альбо накопліваць тлушч, – Міхайлавіч пяшчотна паглядзеў на аддзел бройлераў, да якога з некаторых часоў меў слабасць.

– Во дае! – шэптам звярнулася Ганна Пятроўна да супрацоўніц. – Як гіпнатызуе! Нібы Кашпіроўскі які. Апошні раз тры нясушкі пасля яго прамовы прытомнасць страцілі. Малайчына, Міхайлавіч!

– У чым праблема? Што здарылася? – па-бацькоўску звярнуўся Міхайлавіч да курынай супольнасці.

– Нам корм не дасыпаюць, зусім няма чаго есці, – пераадолеўшы сорам, піскнула адна з нясушак.

– Не хвалюйцеся, усё выправім! Будзе вам корм! Хто за корм адказны? – строга спытаў Міхайлавіч.

– Вось, яна, – тыцнула пальцам на адну з работніц Ганна Пятроўна.

– Загадваю строга пакараць. Два дні не пахмяляць з раніцы.

“Што гэта за нясушка такая нахабная, – спытаў Міхайлавіч у брыгадзіра шэптам. – Сёння да мяне Валодзька са свінафермы заедзе, дык ты, Пятроўна, нам супчыку звары, або, можа, грыль. Ну, ты ў курсе. Тлушчу добра яна нагуляла, закуска павінна добрая атрымацца.

– Што яшчэ, мае дарагія? – пацікавіўся дырэктар

– Хочам у двары без нагляду гуляць, – нізка пракудахтаў адзін з бройлераў.

– Я б хацеў, каб яно так было, але дазволіць вам гэтага не магу, таму што берагчы вас трэба. Будзеце адны гуляць, дык ліса на вас нападзе, ці тхор пацягне. Не ўгаворвайце мяне. Не магу прыняць такое безадказнае рашэнне. Дарагія куры! Вы ведаеце, што цяпер многае залежыць ад бройлераў. З пэўнага моманту мы перасталі забіваць іх на мяса. Некалькі гадоў запар у нас іх выкупляюць заходнія вегетарыянцы. За кошт гэтага часткова існуе наш куратнік. Таму сядзіце, мае любыя, і атрымлівайце задавальненне. А корму ім падкіньце, няхай парадуюцца, – кінуў дырэктар, выходзячы з памяшкання.

Цяжка звонячы жалезам, загрукаталі механізмы, і зерне невялікімі порцыямі пасыпалася ў клеткі. Куры супакоіліся. Бройлеры, што сядзелі наводшыбе, насцярожана паніклі.

Міхайлавіч вярнуўся ў кабінет заклапочаны.

“А калі гэтыя з захаду за бройлераў мала дадуць? Прыйдзецца яшчэ некалькі падсадзіць. Трэба сказаць заўтра Кузьмічу, каб у аддзел бройлераў яшчэ некалькі новых клетак паставіў”.

А радыёкропка працягвала вяшчаць:

– А цяпер паслухаем лірычныя радкі, прысвечаныя працаўнікам жывёлагадоўлі:

Ты мой маленькі кавалачак мяса.
Я схаваю цябе ў лядоўню
І буду захоўваць да Новага года.
Ніхто цябе не з’есць!

Ніл Гілевіч



...не так, як дазволена Богам,

слухала яго скрыпку...

# Прывітанне ад Агрыпіны!

***Камедыя ў дзвюх дзеях***

Дзейныя асобы:

К а р а ч у н, Юстын Якімавіч – музыка, гадоў 70.
Г р ы п і н а – жонка Карачуна, гадоў 70.
Р у с е н я, Алена Савелеўна – урач, гадоў 45.
С т о ц к а я, Наталя Антонаўна, сяброўка Русені, гадоў 45.

На календары – канец XX стагоддзя.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Пакой у кватэры Карачуна. Па ўсім бачна, што гэта рабочы кабінет не проста інтэлігента, а музыкі: амаль на сярэдзіне пакоя – раяль, на сцяне – побач – дзве скрыпкі. Гаспадар сядзіць на тахце, у дабрэннай хатняй піжаме, у скураных пантофлях. У канцы тахты – акуратненькі маленькі столік, на якім – шклянка і пузыркі з лекамі.

Адчыняюцца дзверы. Паказалася Грыпіна, але сама не заходзіць, а моўчкі прапускае ў пакой жанчыну ў белым халаце з

тыповым медыцынскім куфэрачкам. Гэта – урач Русеня. У прыадчыненых дзвярах застаецца стаяць Грыпіна, у яе пахмурны і насцярожаны выраз твару. На выгляд яна – хутчэй домработніца, чым жонка знанага музыкі.

Р у с е н я. Добры дзень, шаноўны Юстын Якімавіч. Я – ваш новы ўчастковы ўрач Русеня, Алена Савелеўна. Ад гэтага часу буду сачыць за станам вашага здароўя.

К а р а ч у н *(няспешна падняўшыся):* Дзень добры і вам. Вельмі рады пазнаёміцца. Праходзьце, калі ласка, сядайце! *(Паказвае на крэсла каля століка).*

Р у с е н я. Сядайце і вы. Шчыра кажучы, мне перад вамі сядзець няёмка, хочацца стаяць навыцяжку. *(Ставіць на столік куфэрачак і сядае).*

Сядае – на тахту, дзе і сядзеў – і Карачун. Убачыў, што ў дзвярах стаіць і глядзіць на доктарку Грыпіна. Яе прысутнасць адчула і Русеня і кінула на Грыпіну позірк.

К а р а ч у н. Ты што-небудзь хацела, Грыпачка?

Грыпіна, нічога не адказаўшы і нават не пахітаўшы галавой, знікла, але дзверы наглуха не зачыніла, – засталася шчыліна.

Р у с е н я. Прабачце, Юстын Якімавіч, але перш чым да справы, мне не церпіцца выказаць радасць, што я нарэшце бачу вас вось так блізка, побач. Колькі разоў бачыла ў філармоніі на сцэне, на экране тэлевізара, колькі чытала пра вас у газетах, а каб асабіста пазнаёміцца – ніяк не выпадала такога шчасця. Прабачце, што, можа, занадта высокі тон узяла, але, спадзяюся, што вы мяне ў гэту незвычайную хвіліну разумееце. Напэўна, вам ужо многія жанчыны казалі такое, і напэўна – лепш, больш красамоўна...

К а р а ч у н *(спрабуючы ўсміхнуцца).* Дзякую, але вы... трохі перабольшваеце.

Р у с е н я *(прымае іншую, службова-афіцыйную асанку).* Хай будзе па-вашаму... Збіраючыся ісці да вас, я, натуральна, уважліва пазнаёмілася з усім тым, што запісана ў вашай Гісторыі хваробы, і знаеце, на вялікую радасць, нічога такога не знайшла, каб асабліва занепакоіцца станам вашага здароўя.

К а р а ч у н. Дзякую, пачуць такое ад урача – заўсёды прыемна.

Р у с е н я. Дык на што скардзімся, шаноўны Юстын Якімавіч? Што здарылася? Знаеце, мы, урачы, і я ў тым ліку, бываем моцна ўстрывожаныя, калі ў знакамітага творцы – пісьменніка, ці кампазітара, ці скульптара – нелады са здароўем. Як пісаў класік: талент – гэта набытак народа і яго трэба берагчы, каб ён доўга і плённа працаваў на радасць народу. Не ўсе, на жаль, мае калегі гэта разумеюць. Дык што непакоіць, Юстын Якімавіч?

К а р а ч у н. Ды вось нейкае недамаганне найшло: трэці дзень тэмпература, дзярэцца ў грудзях, кашаль раз за разам падступае... Нешта прастуднае, мабыць...

Р у с е н я. Ясна. Давайце і паслухаем, што там дзярэцца, адчаго кашаль. *(Вымае з куфэрачка стэтаскоп).* Падыміцеся, калі ласка, і скіньце піжамку. *(Доўга і ўважліва выслухоўвае – і са спіны, і з грудзей, і з бакоў).* Спяшаюся супакоіць: запалення няма. Прынамсі, на гэты момант. Мабыць, нешта ў бронхах завязваецца... Паспрабуйце кашлянуць, калі ласка.

Карачун дохла-нямогла кашлянуў.

Ой, які ў вас прыемны кашаль! Які сімпатычны кашаль!

К а р а ч у н. Ну які ж ён прыемны... Звычайны старэчы кашаль...

Р у с е н я *(горача, з запалам)*. Ну што вы! Што вы! Выбачайце, але на гэтых рэчах я знаюся лепш, я ж доктар! У вас – здаровы савецкі кашаль! Каб гэта раней – дык бы нават сказалі: не проста савецкі, а чыста бальшавіцкі кашаль!

Тым часам прыадчыніліся дзверы і ў праёме паявілася Грыпіна. Стаіць, слухае гаворку і напружана-падазроным паглядам сочыць за Русеняй.

К а р а ч у н *(убачыўшы жонку)*. Ты – што, Грыпачка?

Пры гэтых словах кінула пагляд на Грыпіну і Русеня. Гаспадыня ніяк не зрэагавала на пытанне мужа і моўчкі адступіла назад, прычыніўшы, зноў няшчыльна, дзверыну.

Р у с е н я *(падае Карачуну градуснік)*. Засуньце пад пашку, калі ласачка, праверым і тэмпературу. Хачу вярнуцца да перарванай гаворкі. Ведаеце, які звычайна кашаль у хворых старых? Зусім нямоглы, і, канечне ж, непрыемны. *(Кашляе, каб паказаць, "які" – і яе кашаль дакладна такі ж, як у Карачуна)*. А ў вас – зусім іншы. Такі, я сказала б, светлы, мяккі і ні трохі не старэчы. Вы ніякі не стары чалавек! І не нагаворвайце на сябе такое!

К а р а ч у н *(дохла-нямогла пракашляўшы)*. Стары, вядома... Чаму ж не стары? Гады сваё бяруць...

Р у с е н я. Ну вось гэта вы ўжо дарэмна. Зусім дарэмна! Выкіньце нават з галавы такое думанне. Ніякай старасці! Гледзячы на вас – пра якую старасць можа быць гаворка?

К а р а ч у н *(дохла-нямогла кашлянуўшы)*. Дык а што ж тут таіцца? Узрост ёсць узрост. З гадамі арганізм слабее, а тады і драхлее. І нічога не зробіш. Сілы адыходзяць, вычэрпваюцца...

Р у с е н я. Прабачце, Юстын Якімавіч, пацісніце мне, калі ласка, руку – на ўсю сілу пацісніце. *(Укладае сваю далонь у даланю Карачуна. Той паціскае)*. Ого! Я ледзьве не крыкнула ад болю. Не, не кажыце мне, што ў вас аслабеў арганізм. Нішто сабе слабасць!

К а р а ч у н. Дык я ж і не кажу, што зусім аслабеў. Яшчэ ж трохі варушуся. У вялікіх вечарынах удзельнічаю, асабліва ва ўрачыстых, што на дзяржаўным узроўні...

Р у с е н я. Вось і выдатна! І варушыцеся! А мы будзем спрыяць вашаму, так бы мовіць, варушэнню... Ну давайце ж глянем, што на градусніку...

Карачун вымае з-пад пахі і падае Русені градуснік. У гэты момант у дзвярах паяўляецца Грыпіна. Як і раней, глядзіць пільным насцярожана-падазроным паглядам на ўрачыху.

К а р а ч у н. Табе што-небудзь трэба, Грыпачка? Кажы!

Грыпіна моўчкі знікла за дзвярынай. Але ўрачыха паспела заўважыць яе пагляд.

Р у с е н я *(зірнуўшы на градуснік)*. Шаноўны Юстын Якімавіч, тэмпература нармальная. Зусім нармальная. А ад кашлю наша медсястра прывязе вам лекі, прыкладна праз гадзіну.

К а р а ч у н. Дык... можа, выпішыце рэцэпт, і мы возьмем у аптэцы?..

Р у с е н я. Не, не! Не турбуйцеся. Зрабіце мне гэта задавальненне – паклапаціцца пра вас. А заўтра я загляну зноў, паслухаць, паглядзець, як вы чуецеся. *(Падымаецца, дае зразумець, што візіт закончаны)*. Прабачце мне, Юстын Якімавіч, маю цікаўнасць, не палічыце празмернай, але чаму вы сваю мілую гаспадыню называеце Грыпачка? Ці я не дачула, і вы гаварылі “Хрыпачка”?

К а р а ч у н *(засмяяўшыся)*. Грыпачка, Грыпачка! Памяншальнае ад імя Агрыпіна. Агрыпіна Якубаўна. Па-расейску – Аграфена Якаўлеўна.

Р у с е н я. А-а-а, дык гэта ад “Аграфена”! А я праз увесь час думала: чаму “Хрыпачка”? Вось дзіўна! Здавалася б – такія блізкія мовы, а нават імёны гучаць па-рознаму: Аграфена – і – Агрыпіна. Ад Агрыпіны – Грыпачка. А як ад Аграфены?

К а р а ч у н. Ну, раз корань слова – “граф”, значыць, “Графінька”. Бачыце, што значыць мова культурнай нацыі. Графінька! А на нашай мужыцкай мове – Грыпачка. Корань слова – “грып”. Вядомая заразная хвароба. Так і ў другіх выпадках, з другімі імёнамі. І не толькі з імёнамі. Як жа не цягнуцца нам да культуры вялікай нацыі?

Р у с е н я *(памаўчаўшы)*. Нібыта так... Але... чаму ў вашых словах мне пачулася нешта... ну як бы горкая іронія? Буду думаць, Юстын Якімавіч. Буду думаць... Лекі вам неўзабаве прынясуць. Папраўляйцеся! Да пабачэння! Да заўтра!

К а р а ч у н. Дзякую! Шчыра дзякую! Да пабачэння.

Русеня выходзіць.

З а с л о н а

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Адбываецца на кватэры ў Русені.

У невялікім, цесна абстаўленым мэбляй пакоі, гаспадыня кватэры Алена Савелеўна. Яна сядзіць у задуменні, падпершы галаву рукою, каля засланага каляровым абрусом стала, на якім у вузкай фігурнай вазачцы – дубчык ружы з ярка-пунсовай кветкай. У дзверы пазванілі. Русеня выходзіць і вяртаецца з сваёй даўняй сяброўкай Стоцкай.

С т о ц к а я. Ну, давай чмокнемся яшчэ раз *(сяброўкі “буськаюцца”)*. Вельмі рада цябе бачыць, Леначка. Слухай: спаткала твайго сынулю каля дома. Відаць палуднаваць прыходзіў?

Р у с е н я. Палуднаваць. Сёе-тое кусануў – і пабег.

С т о ц к а я. Такі расфрэнчаны – заглядзецца! Кажу: на рандэву, канечне! Смяецца: угадалі, цётка Наталя, угадалі! Кажу: пачакай хвілінку, можа ж, не спознішся; пытанне важнае маю. Ты даўно, пытаю, сябруеш з ёю? “Даўно, – кажа, – ужо гады тры”. Дык а куды ты цягнеш? Чаму ты не жэнішся? Ну і пачула. Тое, што і чакала пачуць. “А куды я, кажа, прывяду жонку? Дзе мы з ёй будзем? На кухні? Ці маму – на кухню? Вось перавядуся на завочны факультэт, уладкуюся на працу, займею права на крэдыт і пабудую кватэру. Ва ўсякім разе, не хвалюйцеся, кажа, цётка Наталя, на вяселле я вас паклічу, абавязкова.

Р у с е н я. Дарэмна ты яго зачапіла, Наталечка. Ён і так вельмі пе-

ражывае. І ў мяне душа камянее. Вось ён пабег, перакусіўшы, а я села за стол і задумалася: што ж рабіць? Так можна і жыццё панявечыць маладому чалавеку. Рэч у тым, што ў майго сына ўсё гэта вельмі сур'ёзна. Гэта – не той выпадак, што пагуляў з адною, тады з другой, а тады і з трэцяй... Тут, як я бачу, тое, што называецца лёсам. Лёс, Наталечка, лёс!

С т о ц к а я *(паляпаўшы далонню па стале)*. Дык вось я для таго і зачапіла, каб яшчэ раз узвінціць сябе, раззлавацца на цябе і выдаць табе на поўнай. Чаго ты марудзіш? Чаму ты не актыўнічаеш? У цябе ж як ва ўрача шырачэзны круг знаёмых мужчын, перш за ўсё – сярод тваіх пацыентаў. Але і не толькі.

Р у с е н я. Ну ты ж ведаеш мой крытэрый. За абы-каго я не ўчаплюся. Абы-каго я ўжо мела. Нажылася. Нацешылася. Дзякаваць Богу, што пазбавілася.

С т о ц к а я. А хіба я кажу – за абы-каго? Але няўжо ніхто людскі, варты тваёй увагі, не трапляецца? А што той стары музыка, які з новага года стаў тваім пацыентам? Ты казала, што вельмі цікавы і сімпатычны старчык і што табе прыемна заходзіць да яго на кватэру. Дык ты не глядзі, што старчык. Усякія бываюць старчыкі. Вунь славуты амерыканскі артыст Чарлі Чаплін таксама ўжо быў старчык, а пабраўся на сёмым дзясятку з маладой і нашпурляў цэлую кучу "кіндэраў".

Р у с е н я. Наталечка, прабач, але ж у гэтага сапраўды сімпатычнага, вельмі абаяльнага старчыка ёсць старчыха, гэткая ж пажылая, як і ён, жонка.

С т о ц к а я. Ты мне казала, што нібыта яна цяжка хворая. Дык, можа, яе не сёння-заўтра прыбярэ Бог? Ты віны ці граху перад Богам мець не будзеш. Ты ёй смерці не жадаеш. Але ж трэба ўсё рабіць так, каб ты стала для яго сваім, блізкім чалавекам. Каб ён адчуў, як ты, урач, зацікаўлена ў яго здароўі, убачыў, якой ты залатой душы жанчына. І тады ў цябе будзе перспектыва. Дзяржава табе новую, большую кватэру не дасць – тыя часы мінуліся, калі давала. Гавары з ім цёпла, ласкава, паказвай яму сваю інтэлігентнасць.

Р у с е н я. Наталя! Усё гэта рабіць пры жонцы... У яе прысутнасці... У мяне, відаць, – не тая натура. Я гавару з ім і ветліва, і сардэчна, бо з ім іначай і нельга, гэта вельмі далікатны, інтэлігентны чалавек. Але – каб у межах шчырасці без прытворства – бо адчуваю, што раблюся агіднай сама сабе...

С т о ц к а я. Дык і добра! Вось і працягвай сведчыць гэту сваю шчырую пашану і цеплыню. А калі дзе трошкі і перадасі – свядома, знарок, – дык які тут ужо страшны грэх?

Р у с е н я. Не абяцаю, Наталечка. На жаль, але так. Тут... ёсць адна акалічнасць, пра якую я табе яшчэ не сказала. *(Замаўчала)*.

С т о ц к а я. Якая... акалічнасць?

Р у с е н я. Мяне забірае страх.

С т о ц к а я. Чаго? Які страх?

Р у с е н я. Робіцца страшна, калі яна глядзіць на мяне. Яна глядзіць і нічога не кажа. Ні слова. А ў вачах нешта такое... Мне пачынае здавацца, што яна ўсё ведае...

С т о ц к а я. Што ведае?

Р у с е н я. Што я прыходжу не толькі лячыць... Што мяне прыводзіць і нешта другое... Яна ж бачыць, як хораша, акрылена я пачуваюся, калі

гутару з ім. Гэта было асабліва бачна ў час майго апошняга візіту, тры дні таму... Я ўжо сабралася адыходзіць, і нешта мне падшахнула спытаць. “Юстын Акімавіч, а вы дома часта бярэце ў рукі скрыпку?” Кажа: “Не часта, на жаль, але бяру”. І я тады зусім страціла пачуццё сціпласці. Кажу: “А сёння вы маглі б узяць? У адзнаку таго, што аздаравелі, што вас пакінуў кашаль?” З усмешкай, канечне. Была б шчаслівая сказаць: “У мой гонар”. Але калі возьме, дык я і так буду ведаць, для каго. І ён зняў са сцяны скрыпку і ўзяў смычок. Наталечка, ай каб ты пачула, як ён зайграў! Ды якую мелодыю! Боская музыка імгненна запоўніла пакой! Я глядзела на яго вачыма закаханай дзяўчынкі. І не адчула, што ў прыадчыненых дзвярах стаіць яго жонка і, як і кожны раз раней, глядзіць на мяне сваімі бязлітаснымі вачыма. На гэты раз – асабліва бязлітаснымі. Але нарэшце я зірнула на яе і ўсё ўбачыла. І мелодыя абарвалася, скрыпка замоўкла. Свята ў маёй душы цягнулася зусім нядоўга. Я спешна падзякавала маэстра за цудоўны падарунак і пабегла.

С т о ц к а я. Пабегла! Ну пабегла! Дык і што? Хіба ты яшчэ не прывыкла да злых касавурых вачэй яго старчыхі? Не зважай – і працягвай весці сваю лінію. Тут патрэбен, як тыя немцы кажуць, штурм унд дранг. Запомні гэта, даражэнькая: штурм унд дранг! – і толькі. Ну, але мне ўжо час дадому, мама хваляваецца будзе, хоць і ведае, дзе я. Бывай, Леначка! Спадзяюся, што пры наступнай сустрэчы ты будзеш у іншым настроі, у больш аптымістычным.

Цалуюцца. Стоцкая выходзіць. Праз дзве-тры секунды чуецца званок. Русеня ідзе адчыняць і вяртаецца з Стоцкай, у якой устрывожана-спалоханы выраз твару.

Р у с е н я *(занепакоена)*. Што здарылася?

С т о ц к а я *(ашляхлым голасам, амаль таямніча)*. Каля тваіх дзвярэй, у куточку – нейкі дзіўны букет.

Р у с е н я. Букет?

С т о ц к а я. Ну. Абгорнуты цэлафанам вялікі букет.

Р у с е н я. Дык чаго ты спалохалася?

С т о ц к а я. І ты спалохаешся. Ён чорны. З чорных кветак.

Р у с е н я. А хіба кветкі бываюць чорнага колеру?

С т о ц к а я. Ну, мусіць жа, бываюць. Я то ніколі чорных не бачыла.

Р у с е н я. Можа, хто памыліўся дзвярыма? Я ні ад каго не чакаю букета.

С т о ц к а я. Калі я прыйшла да цябе – яго не было. Яго паставілі, пакуль я была тут.

Р у с е н я. Прынясі, калі ласка. Думаю, што гэта ўсё-такі нехта памыліўся адрасам.

Стоцкая выходзіць і вяртаецца з букетам.

С т о ц к а я. Тут і маленькі канверцік укладзены...

Р у с е н я *(апалым голасам)*. Паглядзі... Можа, не мне.

С т о ц к а я *(вымае канверцік і няспешна прачытвае)*. Дом тры, кватэра сем, Русені А.С. *(падымае вочы на сяброўку)*. Табе. Ніякай памылкі.

Р у с е н я *(зусім апалым голасам)*. Ускрывай... Калі нават там смерць мая...

С т о ц к а я *(вымае з канверціка лісток і чытае)*. Прывітанне ад Грыпіны! (Пакруціла лісток у руцэ). Больш нічога.

Р у с е н я. Так, здаецца, гэта мая смерць...

С т о ц к а я *(злосна)*. Што ты дурное ляпаеш! Па-першае, што гэта значыць “ад Грыпіны”? Гэта што: прозвішча? Ці мянушка?

Р у с е н я. Гэта – імя. Імя яго жонкі. Гэта – ад яе...

С т о ц к а я. Яго жонку завуць Грыпіна? У такога знакамітага музыкі ў жонках Грыпіна? Гэта ж нейкая вясковая баба! Што, ён не мог знайсці Елізавету ці, скажам, Караліну?

Р у с е н я. Каб ты пачула, як гэта ласкава, як хораша гучыць у яго вуснах. “Ну што ты, Грыпачка?.. Табе нешта трэба, Грыпачка?.. Ты хацела нешта сказаць, Грыпачка?..” Грыпачка і Грыпачка!..

С т о ц к а я. А як па дакументах? У пашпарце? Няўжо – Грыпіна?

Р у с е н я. Не. Па дакументах яна – Аграфена. Як і ў Расіі. *(Памаўчаўшы)*. Наталя, нашто яна гэта зрабіла? Гэта – вельмі жорстка. Букет чорных кветак? За што? Я нічога дрэннага ёй не зрабіла. За што мне гэты страшны праклён, гэты знак смерці?

С т о ц к а я *(зноў злосна)*. Не кажы дурное! Чуеш? Выкінь тут жа з галавы!.. А за што?.. Не тымі вачыма глядзела на яе мужа. Не тым голасам гаварыла з ім. Не так, як дазволена Богам, слухала яго скрыпку. Відаць, яна тая Грыпіна, ад якой утаіць усё гэта немагчыма. Вось і папярэдзіла: спыніся, жанчынка, спыніся, пакуль не позна!..

Р у с е н я. Відаць, так... Але... надта ж жорстка! *(Гледзячы кудысь далёка)*. Чаму так жорстка?

З а с л о н а

*1999*



Наталля Шыпіла



...ляці ў вышыню
сакавіцкаю песняй...

# Самотнае прадвесне

* * *

Дап'ю яшчэ адзін глыточак кавы,
Спяшаючы да ночы абуральнай,
Дзе будзеш – у здрадлівым сне, бы ў яве,
Ты кпіць з мяне над "сконам тэатральным".

Мой жаль ускалыхнуў бы і паэта –
Між палыння, з надзеяю адданай...
А на дзясніцы засталася мета –
Зліцця тваёй крыві з маёй барвянай.

Прыйшоў мой час. Хачу паспавядацца
У сугалоссі колераў знямогі...
Мне надакучыла чакаць і спадзявацца,
Што зноў патрапіш на маю дарогу.

* * *

Больш няма тут аб чым казаць,
Калі нашыя далоні не трымаюць кубак.
Адчуваю спробу тваю казытаць
Нейкім словам. Аповедам... Смутак

Праглынае мяне і рэшты не дасць,
З той адданасці, шчырай пакуты,
Каб змагла жабраку я у сэрца пакласць
Хоць надзею, што стане атрутай.

*15. 10. 2011.*

* * *

Ты той самы, пакуль з маркотай
Спасцігаеш жыцця сухоты,
Цыгарэты, і крык, і оды,
Паражэнняў маіх віно?

За якія табе правіны?
Можа, хочаш рачную ціну
Разграбаць рукамі, ну, відна,
Каб убачыць чыстае дно?

Ад Рэмарка да Муракамі
Точаць хвалі ізноў стараннем
І напругаю – кожны камень,
Неадольна чуючы: я

Незгаворлівая – ад гора,
Але ў гэтым наравістым моры
У тваім стамленні – паўторы
Я з табой. І ужо – твая.

*2012, 18 красавіка.*

***САМОТНАЕ ПРАДВЕСНЕ***

Калі хочаш – цяпер ад мяне адвярніся
І ляці ў вышыню сакавіцкаю песняй.
Я не буду трымаць і прасіць: “Азірніся!” –
Ты – як згуба мая – у самотным прадвесні.

Што ж, ляці – у журбоце, за доляй другою,
І кружыся – у зорках і марах нябёсных.
Застануся я тут, са саваёю тугою –
Мне падтрымка зямля і маўклівыя сосны.

* * *

Хай попел падае на зямлю,
Пасля мяне застанецца нешта.
Мне будзе смачна – я дапалю,
Траўцы пакіну рэшту.
Маладзенькая, хрусткая – хай буйнее!
Хутка вясна. Сонца й ніякай завеі...
Квітней, узбуйняйся, як мае мары!
Хутка мой сон і зорныя чары...

* * *

Ужо мы не тыя!
Як пляшкі пустыя,
З якіх ўсё дапіта!..
Я стану наймітам –
Анучынай з мылам
Ўсё вымыю, мілы!
І будуць бляшанкі
Чакаць асалоды!
І зноўку каханкі,
Поўныя згоды,
Вып'юць з іх каву,
А можа, глінтвейна...
Надоўга, цікава,
Тваё захапленне??



Уладзімір Шыпіла



...мы ўзброены
толькі словам...

# Тэрмінал твайго пачуцця

## *MILITAT SPIRITU...* *

Душа не ірвецца ў вырай,
Трапляе пад лісця струмені.
Над ёй мітусяцца цені,
Зацягваюць смецця дзіры.

Цень згінулых – цяжкія страты.
Ўзбагацілі тоўшчаю глебы
Тых розумаў чорных патрэбы,
Што стогнуць з зямлі Курапатаў.

Смутак нязначных адзінак –
Варты не кожны забіты,
З бронзы шмат “дошак” адліта,
Іншы ўнутры ўспамінак.

---

* Змагаецца духам *(лац.)*. З кнігі А. Дзюма “45”.

Гадзіннік б'е аднагучна...
Мы ўзброены толькі словам,
Гнеў цісне свінцова,
Але выракае штучнасць.

Блукаем з восеньскім дарам,
Узяўшы за рукі Феміду,
Між "ідалаў" трэндаў агідных,
Праз немезідавы чары.

## *КАНТРАДАНС*

*Прысвячаецца незабыўнаму вечару 5-га красавіка 2012 года*

Словы адкінуты... Толькі маўкліва,
Ўнікліва погляд сустрэчны крануў.
Першыя ноты... Павольна, цярпліва
І незабыўна так час праміну.

Зноў набліжаліся бляскам надзеі,
Хоць і не лонданскай залы святлом –
З танцам было пачуццё непадзельна,
Што красавік заглядаўся у шкло.

Вобразам шчасця ў бясконцым натхненні
Вечар табою быў створаны той.
І кантраданс перакрэсліў сумненні,
І цягніка ачамерны настрой.

## *НАД СЭРЦАМ КРАІНЫ*

Зноў праз глыбокія снягі,
Далей ад берагоў тугі
Мой доўгі з цемналесся шлях
Праявіць смутак у вачах.

Цяжэй, чым глыбы на раллі,
Ўсе думкі, што не адляглі,
Нібы парогі ў руслах рэк,
Вады затрымліваюць бег.

Няўлоўны адыход зімы,
Вясновыя маўчаць званы.
Ўсё ж стан змяняецца душы,
Бо сакавік заваражыў.

І змрочна-шэры небасхіл,
Мне час для роздуму прывіў.

Каб з багны меч стагоддзяў узяць,
З мінулым сувязь каб з'яднаць.

Стаю з абуджанай вясной,
Зноў пагляджу у вочы ёй.
І шлях мой да крыніц душы
Амыюць шчырасцю дажджы.

### ПАВОЛЬНА

Лёгкія строі, рукі цеплыня,
Бліскаўка лётам разгортвае баль.
Тонкія лініі, гала святла,
І таямніц распускаецца шаль.

Толькі чуллівым сваім хараством
Ты пранікнёна ўзбудзіш запал.
Танец злучае пачуцці мастом,
Для адчужэння стварае фінал.

Погляд таемны і танца агонь...
Мілай усмешкай адгорнуты зман.
Шчыра твая дакранецца далонь,
Так маладосць акрыляе твой стан.

### ПЕРШАКВЕТКА

Толькі праб'ецца гуллівы цурок,
Сцежку вясновую зноў адамкне.
Кропля на твар упадзе незнарок,
Страты з палёгкай забудзеш свае.

І са снягоў узбярэжных такіх,
Бы дзяўчанятка, збягае вясна.
Толькі павольны і радасны ўздых –
Ў хованкі будзе гуляць дапазна.

Згортвае сны яе ранішні спеў,
Шчасце чаргова гадзіннік праб'е.
З'явіцца – і ў таямнічасці дрэў
Першаю кветкай сустрэне цябе.

### ТЭРМІНАЛ ТВАЙГО ПАЧУЦЦЯ – СПАСЫЛКА НА СЭРЦА („АНТЫКАНТАКТНЫ" ВЕРШ)

Прыцягвае сеткі сусветнай магчымасць
Цікавых бясконцых "спатканняў".

Дзе баль-маскарад віртуальны, не шчырасць
Ліецца па сцежках пасланняў.

Вось так і зручней, і вядомасці болей,
Вачамі кранацца не трэба.
Сябе далучыў да мільярднага поля
Да ўсёй карыстальніцкай глебы.

Па лініях весці мажліва пасланні
І зведаць шматграннасць “сяброўства”.
У сеціве слэнгавых апавяданняў
Навін назбіралася мноства.

І так нечакана задумлівасць звонку
Ізноў спалашыць пачуццёва.
І светаўспрымання твайго абалонка
Заве успамін дэталёва.

І ўсё ж, не на ўсё надаецца спасылка,
Не ўсё падуладна шаблонам.
І рвецца знутры пламяністым урыўкам
Імкненне парываў шалёных.

І той тэрмінал самы верны, надзейны,
І шчыры, гарачы, праводны.
Ён з целам, душою тваёй непадзельны,
І з розумам часта нязгодны.

Ты можаш спасылкаю адухаўлення
Акрэсліць яго імпульсіўна,
Бо скарбы яго абуджаюць натхненне
У хмарныя нават часіны.



Юозас Грушас



...ёй засталося толькі назіраць,
бо злавацца яна яшчэ не ўмела...

# Голыя выглядаюць непрыгожа

***Напісаная ў сярэдзіне 60-х, навела “Голыя выглядаюць непрыгожа”, дзеянне якой адбываецца ў савецкім цырку, вызначалася на той застойны час даволі рызыкоўным зместам. Гераіня навелы – свіння, што разважае аб людзях, іх паводзінах – і не з найлепшага боку. Аўтар стварае мадэль адносін у савецкім грамадстве, з дапамогай кантрастаў падкрэслівае нізкія чалавечыя інстынкты і сацыяльнае выраджэнне, малюе гратэскную карціну жыцця, падобнага на цыркавую арэну. Парадаксальныя, абсурдныя навелы Юозаса Грушаса, у якіх ён паказвае чалавечую асобу з усімі яе хібамі і слабасцямі, сталіся пратэстам супраць абыякавасці і эгаізму людзей, бяздушнасці і бюракратычнасці сістэмы ў Літве тых часоў.***

*Пераклад з літоўскай – Сюзанны ПАЎКШТЭЛА.*

**I**

Яе паходжанне было невядомае. Хто яе бацька, хто маці – нідзе не было запісана. Зусім малой выпадкова

яна патрапіла ў той дзіўны свет – неспакойны, поўны страху свет, дзе ўсё робіцца не так, як трэба. Яна ўзгадала дом, дзе ўсё было на сваім месцы; сумавала па пяшчоце, пратэставала – спачатку ўголас, пасля ціха. На яе пратэст ніхто не звяртаў увагі. І ёй засталося толькі назіраць, бо злавацца яна яшчэ не ўмела.

Тут дакладна нічога нельга было зразумець адразу. Тут ты павінен быў прайсці доўгі шлях і толькі ў яго канцы знайсці цьмяны адказ. Перш за ўсё ты павінен быць змардаваны, запалоханы, пазней збіты, нарэшце накормлены і толькі тады зразумець, што ўсё менавіта так і мае быць.

Акрамя таго, тут паветра было поўнае звярыных пахаў. Хоць яе круглы носік не быў вельмі чуллівы да водараў, але ўсё ж такі адрозніваў прыемны пах вады і ветру ад брыдкага смуроду крыві, які даносіўся ад загончыкаў звярынца.

Тут яна адразу сутыкнулася з гвалтам, які людзям, як ёй здавалася, дае дзіўнае задавальненне; сутыкнулася з хітрасцю, якую заўсёды трэба інакш разумець, і з працай, якая не мела ніякага сэнсу. Яна чула ад сваёй маці, што сапраўднае дзеянне – гэта ежа ці пошукі ежы, а цяпер яе вучылі рабіць такія рэчы, пра якія ніхто з іх роду за тысячу год і не падумаў. Гэта было ідыятычна – тое, што яе прымушалі рабіць. Яна павінная была пераступаць нагамі па нечым накшталт кола і ў той жа час стаяць на месцы. Калі яна неўпрыкмет патрапляла зрабіць смелы крок і не варухнуцца наперад, не спатыкнуцца і захаваць раўнавагу – атрымлівала вялікі і смачны пачастунак. І тады з'яўляўся сэнс жыцця – але толькі на той час, пакуль яна ела.

Дні беглі, поўныя пакутаў, – доўгія, бясконцыя дні, і яна, падлічваючы іх, навучылася лічыць да трох. Гэта быў дзівосны скачок, але, па сутнасці, мала патрэбны. Потым яна пакрысе пачала думаць. А думаць лепш за ўсё тады, калі пераступаеш нагамі, робіш бессэнсоўны аднолькавы рух. Пасля доўгай працы пытаеш сябе: што гэта – тое, што ты робіш? Атрымліваеш адказ: гэта аднолькавы рух. І гэта засядае ў галаве. Аднолькавы рух Рытм! Так, рытм! Гэта не занадта заганнае слова. Чалавек ўсё казаў: рытм, рытм! І біў маленькім дрэвам у вялікае дрэва. То быў амаль пачатак жыцця, калі зразумець, што гэта такое. Яе хвалілі, па-сяброўску ляпалі па плячы, і яе ахоплівала прыемнае пачуццё, можа быць, нават гонар.

Нарэшце надыйшоў дзень, калі яна мела паказацца ў вялікім свеце. Вакол нешта, падобнае да чалавека, які складаецца з мноства людзей, шыпела і пляскала ў ладкі. Рэзалі вушы тыя агідныя гукі, якія мала былі падобныя да віску і рохкання і да якіх яна ўсё ніяк не магла як след прызвычаіцца. Яна рабіла тое самае, што рабіла кожны дзень – сур'ёзна, цярпліва, без пратэсту і без асаблівага жадання, толькі з няясным разуменнем: рытм, рытм! Але гэтым разам было нешта новае: дрыжэлі паветра і чалавек, складзены з мноства людзей, дрыжэла яна сама – доўга, вельмі доўга, датуль, пакуль не перастала дрыжаць. Чаму гэта ўсё было – няясна. Магчыма, таму, што так павінна было быць.

Потым нехта кінуў ёй кветку. Гэта быў той жартаўнік, які паўсюль совае свой нос. Кветак яна не любіла. Жартаўнікоў таксама.

З таго памятнага дня для яе былі скарочаныя гадзіны бясконцых практыкаванняў. Яна ўмела, што ўмела. А чаго не ўмела, таго і не было ў сусвеце. Паколькі яна магла палічыць да трох, то з чалавекам, чыйго голасу яна прывыкла слухацца, сустракалася на дзень толькі тры разы. З-за

такіх рэдкіх сустрэчаў павялічылася іх сяброўства, паменшыліся спрэчкі і замест аднабаковых загадаў узнікла ўзаемная павага.

Яшчэ быў даглядчык жывёлы, чыя праца была на здзіўленне значная. Ён заўсёды прыходзіў, як прыносіў есці. Яшчэ ні разу не было так, каб ён прынёс ёй есці і не прыйшоў. Гэта быў разумны чалавек. Усе іншыя швэндаліся без працы ці гулялі па дроце; што азначала адно і тое ж. Але яны былі ласкавыя. Яны пачалі яе зваць Сястрыцай Свіннёй. Спачатку яна не разумела, што азначаюць тыя словы. Яны былі падобныя да тысячы іншых, якія людзі вымаўлялі з-за таго, што ім не было чаго рабіць. Але калі тыя словы былі вымаўленыя тры разы, а гэта больш, чым адзін, яна зразумела, што гэта – яе словы. Яна адчувала асалоду, калі чула, як з павагай кажуць "Сястрыца Свіння!" і сардэчна адказвала: "Рох-рох!".

Людзі ўсё ж такі цікавыя стварэнні. Хоць яны трымаюцца на зямлі не вельмі цвёрда, толькі на дзвюх нагах, але яны вельмі жвавыя; носяцца паўсюль, як мухі. І вылазяць з усіх магчымых загародачак. І шмат што робяць, схаваўшыся. Яны маюць так званыя рукі, якімі могуць хапаць. Яны абшчыпалі адзін аднаго, таму павінны насіць адзенне. Голыя выглядаюць непрыгожа. Іх цяжка адразу пазнаць, яны вельмі падобныя. Мужчыну ад жанчыны яна заўсёды адрознівае, але жанчыну ад мужчыны – ніколі.

Пакуль чалавека не ведаеш, здаецца, што цудоўна можна абысціся без яго, але, спазнаўшы, бачыш, што без чалавека цырк зрабіўся б вельмі няўтульным, нават страшным. Хоць, магчыма, не трэба было б працаваць, але і жыць было б немагчыма, асабліва калі па суседству заўсёды рыкаюць ды выюць чатырохногія.

Чалавек з кожным разам робіцца лепш; яна сама заўважыла. Чалавека нават палюбіць можна. З нудоты яна часам думае: калі б у яе былі дзеці, яны былі б падобныя да людзей. Толькі, вядома, не хадзілі б на дзвюх нагах і без патрэбы не дудзелі б у трубы.

Звяроў яна ненавідзіць, імі абураецца да глыбіні сэрца. Яны імкнуцца на кожнага нагнаць страху, заўсёды равуць грубым і загадным голасам, бліскаюць вачыма і зубамі, у прыпадку злосці нават грызуць косткі мерцвякоў. Здаецца, увесь цырк яны б знішчылі, а потым пачалі б грызню паміж сабой. Шчасце, што цырк немагчыма знішчыць.

Так ці гэтак, жыццё ёй удалося: яна ела, піла, жыла ў сваім загончыку, мела ўсё, што можа даць падманлівы свет. А той свет не быў такі вялікі, каб заблукаць у ім і не ведаць, што хочаш, не быў такім ужо падманлівым... А ўсё ж такі падманлівы!

Лёс прымусіў яе сустрэцца з ворагам, які, мабыць, не выкарыстоўваў ніякай іншай зброі, акрамя невымоўнай сваёй агіднасці. У глыбокіх зморшчынах на яго твары выгіналіся і шыпелі змеі, а іклы былі такія велізарныя – кожны з іх дакладна не меншы за свіную нагу. І чым мацней ён усміхаўся, тым больш рабіўся агідны. Паглядзеўшы на яго, вы абавязкова павінны былі заплюшчыць вочы, а пасля яшчэ раз заплюшчыць, каб больш не глянуць.

Аміга – быў сапраўдны бульдог. Ён наблізіўся да яе, паказваючы вялізныя іклы, і ёй не заставалася нічога іншага, як толькі памерці са страху. Чалавек стаяў побач і не дазваляў ёй памерці. Нават збегчы не дазваляў. Нават падацца назад. Нічога не дазваляў.

Чалавек, якога яна паважала і любіла і чыйго голаса заўсёды слухалася, – на доўгі час пазбыўся розуму. Вядома, гэта было б яшчэ не так

страшна. Страшней за ўсё тое, што ён, які на доўгі час пазбыўся розуму, стаў вар'ятам. Кожны дзень цярпліва, як дрэва, настойліва, як жалеза, ён прымушаў Аміга скакаць цераз яе дрыжачую ад страху спіну. Прымушаў тры разы і зноў тры, і зноў... незлічоныя бясконцыя тры. А пасля строга загадаў цалаваць яе прыгожую, круглую мыску, якая складалася амаль толькі з носа. Яна не вельмі памятае гісторыю свайго роду, але такіх страшных рэчаў, хутчэй за ўсё, яшчэ не было.

Цырк – гэта такі люты свет, дзе няма ніякіх законаў, дзе пануе бесцырымоннае сваවольства. Грамадства падзеленае на двухногіх і чатырохногіх, а прафесійныя саюзы абараняюць толькі інтарэсы двухногіх.

Становішча не вельмі добрае, думала яна. (Заўсёды яна старалася думаць). А чаму не вельмі? На тое пытанне адказаць не магла. Ці магло б быць іначай? Не магло б. Бо што ёсць так, не можа быць інакш. Чаму не можа? Таму, што інакш ужо было, а што ўжо было, не можа быць другі раз. Ясна! Логіка! Упарта паварушыўшы мазгамі, яна заўсёды атрымлівала выснову, якая прымушала прымірыцца з тым ці іншым лёсам. Хоць цяпер яе розум ужо параўнальна высока ўзняўся, ён усё ж такі меў дзіўную асаблівасць: мог рухацца толькі ў адзін бок.

Добра гэта было ці дрэнна? Канешне, добра. Дзякуючы такому свайму розуму яна прыйшла да шчаслівага канца. А шчаслівы канец, як ведаем, заўсёды з ліхвой акупала нешчаслівы пачатак. Яна сама здзівілася, калі аднойчы нікольні не задрыжала, калі Аміга скакаў цераз яе спіну. Больш за тое – калі ён уткнуў сваю кплівую пысу ў яе халодны носік, адчула дзіўнае пачуццё, якое можна назваць незразумелым задавальненнем. Яна сама не чакала. Бо гэтага не можа быць. Калі вярнулася дадому, ёй у галаву прыйшла думка: можа, сёння іншая свіння там цалавалася з бульдогам. Але другой такой у цырку не было. Лагічна падумаўшы, зрабіла выснову, што сапраўды яна. Як гвалт змяняе характар!

Добра, што яна была сапраўдная прадстаўніца свайго роду – і зменены яе характар застаўся амаль такім жа. Аднак прымірэнне з Амігам прынесла добрыя плады. Яе сэрца супакоілася, дух стаў напоўненым і багатым, быццам засек з бульбай. А галоўнае, яна зноў пачала верыць чалавеку, высока ацэньваць добрыя і дрэнныя яго справы, думаць, што чалавек рухае жыццё наперад. І яе ўласнае жыццё заўважна кожны год ішло па тым самым коле. Жыла яна прыстойна і акуратна, нічога за ўсё жыццё не страціўшы, нічога не згубіўшы, нават галавы. Кожны дзень рабіла тую працу, якая ўчора была зроблена, рабіла сур'ёзна, не задаючы бессэнсоўных пытанняў. Усё запісвалася ў кнігі, а тыя кнігі некуды клаліся. Гэта было рэальна і лагічна.

Так яна пражыла доўгую чараду дзён, растлусцела, падслепла і дачакалася славы. Але адным вечарам, калі гарлала музыка і гледачы падазрона пасміхаліся, здарылася нешта страшнае. Яна паслізнулася на трэцяй прыступцы і дагары нагамі ўпала на зямлю. Гэта быў жахлівы момант. Сівая заслужаная артыстка ганебна ляжала на полі бою, задраўшы кароткія ногі ў неба, усім нагадваючы, чым сканчваецца сусветная слава. Страшны смех скаланаў скляпенні, каціўся, як камень, па драўляных прыступках, падаў на яе, як пракляцце. У напоўненым крыкам цырку ў гэтую трагічную хвіліну ўсё памерла, і нішто не ажыло наноў.

Баязліва ўцягнуўшы галаву, апусціўшы вочы, яна сышла з арэны – апляваная, закіданая апельсінавымі скарынкамі, коракамі ад шампанскага,

пустымі бутэлькамі. Гэта была плата за прыемныя цыркавыя штукі, якімі яна ўсё жыццё забаўляла людзей. Гэта была справядлівасць свету.

**II**

Камісія агледзела, абследавала і прадставіла выснову: у цырку яна працаваць больш не можа. Але што далей з ёй рабіць – камісія не ўказала. Прадаць? Па рублю за кілаграм жывой вагі! Выдатна дрэсіраваная артыстка цырку! Усімі любімая "Сястрыца Свіння", якая ўвайшла ў калектыў і займае ў ім пачэснае месца! Гэта было б бесчалавечна! Па-варварску! Па-вар'яцку! З-за такой прапановы знакамітая наезніца Джазі ад абурэння разадрала сабе адзенне на грудзях. Гэта было эфектна. Агаляючы сваё сэрца, яна ўсім паказала, што ёсць яшчэ ў свеце чалавечнасць.

Але што рабіць з той, якая павінна была сысці з арэны? Прызначыць пенсію? Але ці калі-небудзь у нас прызначаліся пенсіі такім, як яна? На тое пытанне ніхто сапраўды не мог адказаць.

А можа, пакінуць дажываць свой век у цырку? Да канца жыцця! Але ж тут мастацкая ўстанова, не прытулак. Акрамя таго, гастролі! Вазіць тое, што непатрэбна, з горада ў горад – мякка кажучы, было б неразумна.

Але што ж рабіць? З такім невырашальным пытаннем калектыў цырка яшчэ не сутыкаўся. А рабіць нешта трэба. Вырашаць трэба. Чырванашчокі і тоўсты бухгалтар цырка, пра якога ішла слава, што ён выпіваў, прапанаваў самае радыкальнае выйсце: закалоць і з'есці. Пасля кароткай цішыні, падчас якой у розумах усіх прысутных адбывалася нешта падобнае на рэвалюцыю, усталі дзве артысткі і запатрабавалі паўтарыць страшныя словы. Калі словы былі паўтораныя, яны страцілі прытомнасць. І так, без прытомнасці, яны і сядзелі, дэманстратыўна захоўваючы маўчанне, аж пакуль не пачалося абмеркаванне другога пытання на парадку дня: банкета. Другое пытанне абмяркоўвалі таму, што не маглі вырашыць першае. Трэба было за што-небудзь зачапіцца – найбольш для ўсіх прымальнае. Калі будзе вырашана ладзіць банкет, будзе вырашана і свінню калоць. Гэта простая логіка жыцця. А простая логіка дасягаецца тады, калі знікаюць усе нелагічнасці, з дапамогай якіх людзі спрабуюць кіраваць жыццём.

Не будзем вельмі вінаваціць цыркавых артыстаў, калі яны вырашылі адным прыгожым выходным днём наладзіць вялікі банкет з выпіўкай, танцамі і выступамі. З якой нагоды – ніхто не наважваўся фармуляваць, бо дзяржаўнага свята ці ўрачыстай падзеі, як такіх, не было, толькі была магчымасць усё скончыць весела. Спрачаліся і гаварылі, як аблегчыць цяжкае жыццё дзеячоў арэны. Нават чуллівыя артысткі, якія страцілі прытомнасць, цяпер зноў яе здабылі і пачалі вельмі гарачыцца.

Калі належным чынам сплесці сетку задавальненняў, чалавек заблытаецца ў ёй і сам не адчуе, як пазбыўся, быць можа, самых узнёслых прынцыпаў, за якія раней склаў бы галаву. Паўтаруся, не будзем вінаваціць людзей, а давайце вінаваціць бога ці ўлады, калі ўжо абавязкова хочам каго-небудзь вінаваціць. Свет не новы, і ўжо не першы раз смех змешваецца са слязьмі. Другі цыркавы жартаўнік, які больш ці менш разумеў рэальнасць, сказаў вельмі суцяшальныя словы:

– Самае ўрачыстае свята могуць азмрочыць нябачныя ручаінкі слёз, самае сумнае шэсце можа ажывіць ціхі смех. І няхай!.. Я заўсёды насвістваю вясёлую песеньку пра добра пашытае паліто, якое можна апрануць і падкладкай уніз, і падкладкай наверх.

Пасля такіх добрых словаў усе зрабілі выснову: нічога няма пастаяннага ў свеце ў гэтыя часы рэлятывізму.

Надыйшоў час, і старая працаўніца цырка ў апошні раз паглядзела на людзей. Адчула, што невыказна прывязалася да іх. Лёс наканаваў ёй пераваць сувязі з усім сваім родам, зблізіўся з мудрасцю людзей, зарабляць сабе на хлеб гэтак жа, як і яны. Яна цяпер паглядзела на ўсіх, адчуваючы, што нешта павінна здарыцца. Яна слухала, супярэчыла, прабачалася. А злачынства, вялікае злачынства, было ўчыненае даўно, – яшчэ да каменнага веку.

Той, які выканаў самую няўдзячную працу, не быў забойшчыкам і не быў катам, але быў звычайным чалавекам, якога жыццё прымусіла быць і тым, і тым. Ён сам хваляваўся, хаваў інструменты, гаварыў розную лухту, бо ён быў чалавек з добрым сэрцам.

Нарэшце пачаўся банкет. Цудоўны банкет, які адпавядаў цыркавому жыццю, дзе простыя рэчы ператвараюцца ў няпростыя. Сталы, пакрытыя кветкамі і не менш духмянымі мяснымі стравамі, былі падобныя да градак ў аранжарэі. І такія былі доўгія тыя сталы, што чарадзею цыркавому матацыклісту, каб аб'ехаць кожны, спатрэбілася б самае меншае тры гадзіны. Нанятыя павархі ды іншыя жанчыны, якіх насілася цэлая процьма, грузілі ў місы горы ежы, звінелі ў званочкі, лаяліся, крычалі і рагаталі. Адтуль праз адкрытыя дзверы чырвонае полымя страляла ў людзей, як з драўлянай гарматы, якую службоўцы празвалі “Дырэктарам”, білі ў нос смяротныя прыправы, незлічоныя водары смажанага на агні і на патэльні. Рознакаляровыя бутэлькі стаялі тут роўным, цесным строем, быццам старажытныя воіны перад боем, і гэтаксама, страціўшы жыццё, падалі на зямлю і ляжалі адна каля другой.

Ненаедны, вечны і люты голад сёння хацеў атрымаць сваю адплату.

Звяры, пачуўшы незвычайныя пахі, пачалі рыкаць, іржаць і выць. Іх галасы зліліся з галасамі гулякаў – і было няясна, хто пяе, а хто галосіць. Але ў тых хаатычных, першабытных крыках драпежнікаў можна было пачуць натхняльныя словы:

“Яшчэ! Яшчэ! Яшчэ!”

Гульба ішла аж да нябёсаў. Чуллівыя артысткі, якія заўсёды выказвалі самыя далікатныя пачуцці калектыва і ўчора абмылі слязамі жорсткае рашэнне, сёння, узлезшы на сталы, пелі вясёлыя песні, танцавалі эфектныя танцы, бліскаючы сваімі прыгожымі нагамі. Усе імкнуліся што-небудзь паказаць, пакуль быў час. Эквілібрыст паставіў адна на адну сем бутэлек і спрабаваў на іх стаць. Бутэлькі, вядома, ужо былі пустыя і не захоўвалі раўнавагі. Эквілібрыст таксама не захоўваў раўнавагі і дазваляў пажартаваць з яго прафесіі. Тады паднялася абураная арганізатар мерапрыемстваў, якая, па праўдзе кажучы, у цыркавых справах зусім не кеміла, але мела аратарскія здольнасці і цвёрда трымалася на гэтай пачэснай пасадзе. Яна сказала важкую прынцыповую прамову, падчас якой усе ў два разы больш елі і ў два разы больш пілі. Яна абвясціла маральныя ісціны якраз у той час, калі яны былі больш за ўсё патрэбныя. І гэта была яе заслуга. Што ісціны не выконваліся – тое сутнасці не мяняла. Гармонія сусвету засноўваецца на тым, што ўсё робіцца на сваім месцы ў свой час.

Папрасіў слова старэйшы клоўн цырку, якога ўсе звалі Сакратам. Вядома, слова яму ніхто не даў, але ён не звярнуў на тое ніякай увагі. “Я гавару на стагоддзі”, – сказаў ён і пачаў гаварыць “стагоддзям”, бо вакол ніхто яго не слухаў. Трэба дадаць, што ён сапраўды меў наіўную схільнасць да філасофіі,

якая засталася ў яго з дзяцінства. Ён сам казаў, што, калі накладвае клоўнскі грым, то абмацвае рукамі мудрасць – што было б сапраўды немагчыма для чалавека без клоўнскай маскі. Гэтак жа як немагчыма зрабіцца сапраўдным блазнам, калі не шукаць першапрычыны рэчаў.

– Мы ўзвысілі яе, – казаў клоўн, – палюбілі, закалолі і з'елі. І нам зрабілася надзвычайна весела. Але мы забыліся пра галоўнае: абвінаваціць тую, якую колем. Я скажу абвінавачвальнае слова. Так, сябры, яна была вінаватая! Усе яе правінаасці можна скласці ў адну вялізную, невыпраўляльную: яна была свіння! Не ў біблейскім сэнсе, бо злыя духі ў яе не ўсяліліся. Яна была свіння, навучаная нашымі часамі, якая добра разумела, што свет не ўстойлівы, людзі разгубленыя, што не трэба жадаць таго, чаго няма і чаго не можа быць. А што ёсць, усё трэба скласці ў пэўны кош, а той кош – сабе забраць.

Так, сябры, яна была хітрая. Заўсёды змазвала свае колы мяккай маззю подласці і ўпэўнена кацілася наперад.

Як вы ўжо ведаеце, яна нават навучылася лічыць – памнажаць, складаць і адымаць, але яе сэрца заставалася такім малым, што нават яна сама ў ім не мела дзе павярнуцца.

Яе вочы былі надзвычай празорлівыя, бачылі кожную шчылінку. Знайшоўшы прыадчыненыя дзверы, яна ўлезла ў аддзел кадраў і адабрала сто рублёў у жанчыны, якая прыйшла прасіць працы. За гэта яна ледзь не вылецела з цырка. Але яе лічылі незаменнай спецыялісткай, і праз два тыдні была павышаная яе катэгорыя.

Крыху пазней, аднойчы, калі варта задрамала, яна ўлезла ў дырэктарскі кабінет і зжорла маладую, вельмі таленавітую артыстку. Зжорла, і ўсё. А аднаго разу ні з таго ні з сяго забрыла на трыбуну і пачала ўсіх вучыць логіцы. Подласці яна рабіла несвядома і свядома – гэтак жа, як перасоўвала ногі, калі хадзіла.

– Больш думкі! Менш подласці!

– Каго выкрываеш? Ці не сябе?

– Сапраўдны мемуар!

Да клоўна даляцела некалькі злосных рэплік, пасланых з самых паважаных крэслаў.

– Сябры, без лаянкі, – працягваў клоўн. – Усё зразумела. Толькі незразумела, чаму мы ёй так патуралі. Мо страх, мо павага прымушалі нас усміхацца і ківаць? Не. Гэта нейкая асцярожнасць. Што яна можа ведаць – думаў кожны з нас. Намеснік дырэктара, абавязкі якога зусім нявызначаныя, а сябры таксама, доўга раіўся з жонкай – ці не будзе нязручна гасцям, калі ён запросіць яе да сябе на дзень нараджэння. Цыркавыя артысты, калі яна раптам паказвалася, паважліва сціхалі ці мянялі размову. Новы дырэктар, які сустрэў яе ўвечары, палічыў яе рэвізорам і пачаў тлумачыць, што толькі трэці дзень тут працуе. Што ж, здараецца памыліцца.

– Казаць пра сябе – гэта фармалізм!

– Бе-зы-дэй-насць!

– Пра сябе я яшчэ не гаварыў. Калі хочаце, магу. Мае адносіны з ёй усталяваліся вось як, – працягваў блазан. – У часы культа два чалавекі, якія аглядалі цыркавых чатырохногіх, спыніліся каля яе "гардэробнай". "Вось каму можна давяраць", – прамовіў старэйшы. Яна сціпла схіліла галаву, пасля выпрасталася, паглядзела на мяне, на іх і адным вокам падміргнула.

Тады гэта было ўсё. Наступствы – ясныя. Але мне ўдалося даказаць, што мой дзядуля быў сапраўдны галаварэз і спрытны наезнік. Да самага канца свайго жыцця! І быў такі бедны, што нічога не меў, толькі старое сядло. І тое да трыццаці год не выкарыстоўваў. Так, сябры, з таго разу, сустрэўшы яе, я нізка схіляў галаву і ціха паўтараў: “Свіння, свіння, свіння!”

Клоўн змоўк. Ніхто сур’ёзна не рэагаваў, бо, як ведаем, ніхто ўважліва не слухаў.

– Свіння вінаватая! – раптам на ўскрайку цырка пачуўся злосны вісклівы голас.

– Старэйшая свіння! – адрэзала малодшая свіння.

Гэта быў урывак з выпадковага дыялогу. Ён не меў ніякага сэнсу і нічога не патлумачыў.

– Сябры! Яшчэ слова! – зноў загаварыў клоўн. – Я паведаміў тое, што ёсць у рэчаіснасці, але не сказаў праўды. Віна распачалася тысячу гадоў таму, калі мы ўсталі на дзве нагі і пабачылі цуд: над тварам зямлі ўзыходзіла сонца!.. У нас пакарацелі рогі, і мы здрадзілі жывёле. Цяпер жывёла нам помсціць. Помста жывёлы павінна скончыцца смерцю мсціўцы! Уздыміце галовы!

Яны ўзнялі цяжкія галовы і пачалі крычаць:

– Мемуар!

– Бумеранг!

– Ганарар!

– Сябры! Яшчэ раз прашу без лаянкі. Я сказаў праўду! Усё.

*1965*



Іва Андрыч



...што не баліць – гэта не жыццё,
што не мінае – гэта не шчасце...

# Знакі ўздоўж дарогі

## *Выбранае з афарыстычных запісаў*

*

Ашукацца ў нейкай вялікай надзеі не сорамна. Сам факт існавання такой надзеі мае гэткую вартасць, што расчараванне ў ёй, якім бы цяжкім яно ні было, – не надта высокая плата.

*

Найгорш не тое, што ўсё праходзіць, а тое, што мы не можам і не ўмеем прымірыцца з гэтым простым і непазбежным фактам.

*

Старыя і маладыя звычайна маюць свой погляд на ўсё і выказваюць яго пры любой нагодзе. Гэтыя меркаванні звычайна маюць крайнасці – у адзін ці ў другі бок. У маладых яны вельмі забягаюць наперад, а ў старых

*Пераклад з сербскай – Ганны НАВУМАВАЙ.*

адстаюць. І адно, і другое з'яўляецца прычынаю многіх памылак і часта становіцца невыносным і смешным. Ды калі ў маладых і старых сваіх думак няма, – гэта яшчэ горш, гэта пустыня і смерць.

*

Што не баліць – гэта не жыццё, што не мінае – гэта не шчасце.

*

Старэю – наколькі мушу. Амалоджваюся – наколькі магу.

*

– Людзей не трэба баяцца.
– А я баюся не людзей, а таго нялюдскага, што ў іх.

*

Я з тых людзей, якія вельмі позна становяцца разумнымі. Прычым ніколі – канчаткова. А што самае дрэннае – гэта і не заўважаецца на першы погляд.

*

– Вы згарыце хутка і бессэнсоўна. Пасля вас застанецца толькі попел.
– Няхай! Прынамсі, будзе бачна, што мы былі агнём. А пасля вас застанецца толькі слізкі след, як пасля слімака.

*

Я адышоў. Пасля мяне засталося ўсё сказанае людзьмі, як тыя космы туману, што знікаюць. А ўсё, што яны зрабілі, я панёс на далоні адной рукі.

*

Не, абыякавасці я ніколі не хацеў, ніколі яе не адчуваў, нават у часы хваробы ці прыгнечанасці. Гэтая найгоршая форма смерці, імя якой абыякавасць, была заўсёды далёкай мне.

*

Чаму ты дзівішся, што людзі не ідуць да цябе, што большасць з іх цябе пазбягае? Згадай толькі, што думаеш ты пра іх, а што пра сябе самога. І ўсё зразумееш.

*

Мне здаецца, што здолею сустрэць смерць гэтак жа, як прымаў жыццё, – спакойна і стрымана, быццам падарунак цікавы, але непатрэбны. Мне здаецца!..

*

Мне было, пэўна, гадоў васямнаццаць, а можа, і менш, калі стаміўшыся ад барацьбы са сваім целам, прага жыцця, прага ўсяго прымусілі мяне запісаць у нататнік:

“Вы гаворыце і няспынна паўтараеце: “Усё зямное праходзіць і знікае.

Пацвярджэнне гэтаму – усе зямныя даброты і ўцехі". "Добра, добра, – кажу я. – Веру вам на слова, але дазвольце і мне самому ў гэтым пераканацца, спазнаўшы хоць якую ад тых асалод і даброт. Тады я буду яшчэ мацней і даўжэй верыць у іх імгненнасць".

*

Потым прыйдзе смерць. Вялікае расстанне, але найменш балючае з усіх ранейшых, якія мы зведалі. Бо пасля смерці шкадаванне толькі ў аднаго, а дагэтуль мы заўсёды, пры кожным расстанні, шкадавалі ўдваіх.

*

У жыцці было многа рэчаў, якіх мы баяліся. А так нельга. Варта было жыць.

*

Калі б людзі ведалі, наколькі ён сабою пагарджаў, ненавідзеў і мучыў сам сябе, то лягчэй бы даравалі яму ўсе крыўды, няпраўды і ўдары, якія ім наносіў.

*

Мы самі па сабе такія і жывем заўсёды ў такіх умовах, што для любога з нас амаль у кожны момант усё можа быць пастаўлена пад пытанне.

*

Калі я не магу ўбачыць, то не буду і глядзець!

*

Так, уратавацца! Лепш сказаць, ратавацца, але не бегчы ад болю, які нас мучыць, а счапіцца з ім у барацьбе, намагаючыся пранікнуць у яго, да сярэдзіннай нерухомай кропкі, дзе сыходзяцца і гаснуць усе незлічоныя лініі яго вечна рухомых сіл, і тут знайсці супакой і ўратаванне.

*

Размаўляем з жывымі, пераступаем праз памерлых, пра будучых не думаем. Хлусім заўсёды, паўсюль і ва ўсім сабе і астатнім на сваім кароткім шляху паміж двума цёмнымі краямі небыцця.

*

Смерць, як гром. Ведаеш, што яна існуе, чытаў пра яе, часта нават разважаў – няпэўна, без канца і без высноў. Часам згадаеш яе ў размове ці напішаш пра яе, заўсёды мудра і разважна – быццам бы ўсё пра яе ведаеш. А калі здарыцца, што яна ўдарыць у непасрэднай блізкасці ад цябе і нечакана трапіць у таго, каго ты любіш і з чыім існаваннем звязваў найлепшыя спадзяванні, – толькі тады бачыш: ты не ведаеш і ніколі па-сапраўднаму не ведаў, што такое смерць. Ты гаварыў і пісаў з галавы, павярхоўна і пуста.

Здавалася, табе вядома, што такое смерць, бо ты здолеў напісаць некалькі паэтычных слоў пра турэцкія могілкі, а цяпер бачыш, што гэта не мае сапраўднага дачынення ні да жыцця, ні да смерці.

*

Ці любіў хтосьці свет так, як я? Уначы, калі ўсе спяць і калі ў рэшце рэшт пара класціся, я не супакойваюся і да таго, як заснуць, пакутую ад думкі, што цяпер нехта самотны, познячыся, ідзе па вуліцы і што я мог бы яго сустрэць і бачыць, з ім гаварыць. Мне заўсёды мала паветра, ніколі не бывае дастаткова вады, раслін, чалавечых твараў. Я сілы марную, маладосць страціў, а спакою не спазнаў, і ўсё гэта праз любоў і прагу да свету. Уначы, калі стомлены ад усяго прыходжу дадому, хачу, каб змерзлай, нямой зямлёю засыпалі мае палаючыя вочы і горкія вусны, каб вызвалілі мяне ад жаданняў, ад неспакою, ад смутку ажыццяўлення. Ды нарэшце засынаю цяжка, сплю мала і чуйна, а прачынаюся рана. Здаецца, я ніколі не сплю.

Пад вечар, калі бачу на нейкім доме сонцам асветленае акно, шкадую, што я не там. Сэрца зашчыміць, калі падумаю, што ёсць недзе гара, з якой бы я мог яшчэ колькі імгненняў бачыць сонца, а для мяне, тут, яно ўжо даўно зайшло.

*

Пра ўсё тое, чаго я ніколі не мог ні адчуць у сне, ні ўбачыць наяве, нема і змрочна гаварыла мне бяссонніца.

Нават ад мяне, які ўдзень не ведае спакою і ўначы не спіць, не схавана цалкам чалавечае шчасце. Я яго не маю і не бачу, але прадчуваю выразна і ведаю дакладна, што яно існуе. Я не здолеў дасягнуць радасці і ёю авалодаць, але я ўсё жыццё ў пагоні. І праз гэта я нешта большае, чым ёсць: нешта лепшае, прыгажэйшае і каштоўнейшае за напружаную кучу мышцаў у неспакойнай скуры, якая не можа спаць. З-за гэтага, здаецца мне, я пражыву даўжэй і прыстойней, чым гэтае цела, якое з кожным подыхам, поглядам і рухам знікае, у той жа час становячыся ўсё горшым, слабейшым і агіднейшым.

Я буду ўсюды, дзе будзе песня – буду жыць у кожнай мелодыі, на дарогах, на працы і ў кватэрах людзей.

Ён расказваў гэту гісторыю, седзячы за святочным сталом, з прыемнай усмешкай, і бачна было, як жыва ўспомнілася тое выпрабаванне, і тое, што не змаўчаў, і як файна скончылася.

Насамрэч, канечне, не скончылася, і незалежнасць яшчэ маладая, і вырадкаў хапае ўсякіх, з пагонамі і без. Ды толькі Сяргею было заўсёды чым ганарыцца, а ім не, і ніколі не будзе.

Ён быў шчаслівы на сяброў – і ў мастацкай вучэльні, і ў інстытуце, і ў Майстроўні, і Беларусі, і ў Польшчы, і ў Нямеччыне, і ў Чэхіі. Ён быў блізкім сябрам майго блізкага сябра, таксама мастака, які апекаваўся ім у яго апошнія месяцы так, як дай Бог усім – і было таксама шчасцем для сяброў ведаць Ціму, Цёму, Сярогу, Сержука.

Які Сяргей сам быў шчаслівы, найлепш, верагодна, ведаюць дачка і сын, жонка Рыта, усе трое, як і ён, мастакі. Але яго карціны – творы чалавека, які напэўна ведаў, што такое шчасце.

Калі яго жывапіс можна параўнаць з арганнай музыкай, дык графіка была джазам, але не толькі, бо яшчэ і танцам, і вінам, і каханнем, і я неяк сказаў яму, што Цімохаў мне падабаецца больш за Мадыльяні і больш за Пікасо, і ён засмяяўся, а я казаў сур’ёзна, і чым больш я гляджу цяпер на эратычныя лініі, якія пачынаюцца там, дзе спыніўся Батычэлі, на золата і бронзу, якія, у адрозненне ад Клімта, ён расціраў на аркушы далонню, на тонкія абрысы часу, спыненага ў вечнасці, тым менш разумею гэты цуд, ад якога немагчыма адвесці вочы, хіба толькі для таго, каб змахнуць слязу.

### Роберт Конквест, чалавек травы
***Гісторык, нар. 1917***

Мякка кажучы, не самая лепшая ідэя – пытацца аўтара самага знакамітага ў свеце даследавання савецкага таталітарызму, якое вывучаюць ва ўсіх прыстойных універсітэтах, паэта, якога перакладаў сам Рыгор Барадулін, чалавека, уганараванага за словы, якія ён напісаў на паперы, найвышэйшымі дзяржаўнымі ўзнагародамі ЗША, Вялікабрытаніі, Польшчы, Эстоніі, Украіны – я мог бы, вядома, працягваць характарыстыкі, нават згадаць тут пра пяць жонак Конквеста, – але ўжо са сказанага ясна, што задаваць такому суразмоўцу пры першай сустрэчы першае пытанне пра правілы хаджэння па газонах – не самая лепшая ідэя.

Я задаваў і іншыя пытанні – што было б, калі б Ленін пражыў яшчэ дзесяць год, ці не памыліўся яго любімы Оруэл з прыродай таталітарызму, чаму, на яго думку, Беларусь завязла ў багне савецкага мінулага – але напачатку спытаўся пра траву.

Гэта быў першы мой тыдзень у Гувераўскім інстытуце, куды я прыляцеў як першы стыпендыянт ад Радыё Свабода. Канец жніўня, навучальны год пачынаецца толькі праз месяц, Стэнфардскі ўніверсітэцкі гарадок пусты. Гарадок гэта так называецца, насамрэч хутчэй раён, які раскінуўся на сотнях гектараў, які прарэзваюць асфальтавыя дарогі, веласіпедныя дарожкі, акуратныя алеі, тратуары, выкладзеныя бетоннай пліткай, а паабапал зелянее, нягледзячы на каліфарнійскае сонца, сакавітая трава, якую паліваюць таемныя вадаправоды.

Па такой траве хочацца хадзіць не толькі таму, што напрасткі бліжэй, але таму, што на ёй хочацца валяцца, рабіць пікнікі, гуляць у мяч ці фрысбі – але кампус пусты, хто яго ведае, як тут прынята, у Амерыцы нават піва п’юць з пакетаў, каб не арыштавалі.

На кніжнай паліцы ў заваленым паперамі, часопісамі, гранкамі офісе Конквеста недзе стаяць кнігі Алеся Адамовіча, пераклады Васіля Быкава – імёны гэтых двух

беларусаў гаспадар добра ведае, гэтаксама як імёны Чарвякова, Галадзеда, Шарангевіча, Панамарэнкі, Цанавы, і мы пра іх яшчэ з ім пагаворым, але пазней.

Галоўная праблема, якая цікавіла Конквеста на пачатку 21-га стагоддзя, была скажоная рэальнасць: якім чынам нараджаецца адчужэнне і інтэлектуальная агіда да рэальных фактаў жыцця, якая выяўляецца як негатыўныя ўтопіі (капіталізм дрэнны, глабалізм дрэнны, дэмакратыя дрэнная), і спалучаецца з нецярпімасцю і перакананасцю ва ўласнай праваце. Ён не ідэалізаваў Захад – наадварот, падкрэсліваў, што дзве самыя разбуральныя ідэалогіі 20-га стагоддзя былі параджэннем заходняй культуры. Але рэалістычны погляд дазваляе бачыць насамрэч вартае і ведаць яму цану сярод акіяну прыкрасцяў, несправядлівасцяў і іншай недасканаласці свабоды.

Конквест уступіў у брытанскую кампартыю дваццацігадовым, у 1937-м, выйшаў у 1948-м, жахнуўшыся ад пабачанага ў Балгарыі і іншых сацыялістычных рэжымах. Ён стаў вывучаць гісторыю і вельмі хутка пераканаўся, што адкрытыя сталінскія працэсы, выкрыццём якіх ганарыўся Хрушчоў – кропля ў моры злачынстваў калектывізацыі, галадамору і генацыду. Ад пачатку 1960-х Конквест ужо ўпэўнена пісаў пра распад СССР як пра нешта непазбежнае і немінучае: рэжым радыкальна супярэчыць законам рэальнасці, і яго канец – толькі пытанне часу. Калі пасля 1991-га ўзбуяла ўбогая хімера – маўляў, ніхто не прадказваў такога канца, усё магло быць інакш, ён апублікаваў падборку са сваіх кніг за два з паловай дзесяцігоддзі, якія са спакойнай перакананасцю даводзілі чаму, калі і як гэта адбудзецца. Бо гісторыя – навука. Інакш, як казаў адзін герой Дастаеўскага, які ж я капітан, калі Бога няма.

Конквест не часта запрашаў наведнікаў у свой кабінет, аддаючы перавагу засяроджанай працы ў цішы. Ад яго офіса да адведзенай мне даследчыцкай келлі ў Гувераўскай вежы было метраў дзвесце, але я не бачыў нават будынка: акно не мылі з мінулага дажджу, гады прыкладна тры, як удакладніла супрацоўніца з суседняга кабінета. На другі дзень я знайшоў анучу, набраў вады, залез на падваконнік і стаў мыць шыбы.

Аказалася, што гэта было самым правільным крокам, які адкрыў мне дзверы ў замкнёны свет нобелеўскіх лаўрэатаў, прэзідэнцкіх дарадцаў, былых і будучых дзяржаўных сакратароў і, самае галоўнае, іх сакратарак. Верагодна, лічылася, што чалавек, які сам мые свае вокны, варты даверу.

Мая суседка па калідоры аказалася шматгадовай памочніцай Конквеста, яе імя стаіць у прысвячэннях у ягоных кнігах, ён згадвае Эмі Дэсаі ва ўступах і заключэннях, г. зн. самых інтымных месцах кнігі, якія аўтар піша для самога сябе.

Яна і завяла мяне да Конквеста. На яго радзіме, у Вялікабрытаніі, ён быў вядомы перш за ўсё як дарадца Маргарэт Тэтчэр у справах СССР, яна пра яго цёпла піша ў сваім мемуарах, і я спытаўся – што ж такога мог гісторык парадзіць прэм'ер-міністру ў 1979-м, годзе пачатку афганскай вайны, што не маглі штатныя палітычныя кансультанты, аналітыкі, міністры і дыпламаты.

– Гэта проста. Ва ўсіх справах з савецкім кіраўніцтвам трэба памятаць, што яны выглядаюць, як мы, апранаюцца, як мы, гавораць як мы, – але яны не такія, як мы. Словы гучаць аднолькава, але ў іх яны азначаюць зусім не тое, што думаем мы.

Тэтчэр неяк адразу ўспрыняла і зразумела, што ён сказаў – і разам з Рэйганам жалезнай рукой узяла за горла і трымала крамлёўскую братву, якая спрабавала па звычцы размахваць кулачкамі.

Раз на тыдзень той амерыканскай восенню я рабіў перадачу для радыё, якая называлася "Лісты з Каліфорніі", і музычнай тэмай была, канечне, непазбежная балада Eagles пра гатэль, у які можна пасяліцца, але з якога немагчыма выпісац-

ца. Страшнаватая метафара таго, што часам адбываецца пры сутыкненні ілюзіі з рэальнасцю. Адзін з "Лістоў" быў прысвечаны Конквесту, а паколькі ён падарыў мне сваю кнігу паэзіі, дык я зрабіў падрадкоўнік верша, у назве якога было слова "рэалізм", праўда, "сацыялістычны", і паслаў Рыгору Барадуліну, які пераклаў:

Бясплоднае й паліраванае
Паветра бразгоча ў затаі
Над палітычным горадам;
Барабаны, статуі,
Арганізацыя адсутнасці
Любое любові.

"Арганізацыя адсутнасці любові" – геніяльнае, па-мойму, вызначанне сацыялізму і мноства іншых "ізмаў".

Вось, бадай, і ўсё. Пошта зрэдзьчас прыносіць мне падпісаную ім кнігу, я перадаю прывітанні праз сваю сяброўку Эмі, паштоўкі ад якой працягваюць рэгулярна прыходзіць у Прагу, і калі мне ў розных месцах пры розных абставінах час ад часу робяць заўвагі, каб я не хадзіў па траве, я адказваю фразай рэаліста Конквеста:

– Я не думаю, што Бог стварыў мяне дзеля таго, каб я хадзіў па бетонных плітах.

## **Эдвард Тэлер, чалавек бомбы**
***Фізік, 1908-2003***

Эдвард Тэлер, бацька амерыканскай вадароднай бомбы, дарадца прэзідэнтаў ЗША і фігура нон-грата сярод левых фізікаў і сусветнай прагрэсіўнай грамадскасці, у адказ на маю просьбу аб сустрэчы выцер губы сурвэткай (мы сядзелі побач на ўрачыстым абедзе ў Гувераўскім інстытуце), павярнуўся ўсім корпусам, утаропіў у мяне свой мегатонны погляд і спытаўся, як я стаўлюся да распаду СССР.

Я ўхваліў. Тады будзем размаўляць, сказаў ястраб халоднай вайны, і калі мы з сынам прыйшлі да яго ў офіс (я спытаўся, ці магу прывесці сына, які тады вучыўся ў школе ў Пала Альта, і Тэлера, здаецца, гэта ўзрадавала больш, чым гутарка з яшчэ адным журналістам), на стале ляжала падрыхтаванае яго фота, якое ён падпісаў для сына на памяць (не было тады яшчэ мабільных тэлефонаў з камерамі, цяжка паверыць – але не было).

Гутарылі пра бомбу і зброю новага пакалення (я пытаўся, чаму нельга пачакаць і пераскочыць праз пакаленне, гэта ж колькі грошай зэканоміцца, а ён адказваў у тым сэнсе, што дзе б мы тут усе прысутныя былі, каб пераскочылі праз пакаленне нашыя бацькі, што выклікала недарэчную весялосць у майго сына); гаварылі пра Андрэя Сахарава, яшчэ аднаго бацьку вадароднай бомбы (бомба адна, а бацькі два, і гэта яшчэ больш развесяліла майго сына), і Тэлер крыху раўніва зазначыў, што падчас сустрэчы з акадэмікам не пагадзіўся з нейкімі ягонымі поглядамі, здаецца, на Чарнобыльскі рэактар; Тэлер ведаў Энштэйна і Фермі, Бора і Гейзенберга і разам з Апенгеймерам удзельнічаў у Манхэтэнскім праекце, і калі стваральнікі першай атамнай бомбы спалохаліся, што ланцуговая рэакцыя як пачнецца, дык ніколі не скончыцца і паглыне ўсю планету, менавіта ён зрабіў разлікі, якія даказалі адваротнае (у гэтым месцы сын ажывіўся і спытаўся, а што, калі б памыліўся, і Тэлера відавочна зачапіў не канец света, а тое, што нехта лічыць, што ён мог памыліцца, і сітуацыю ўратаваў мой любімы фізічны эфект назіральніка, які, як вядома, азначае, што нават электроны змяняюць свае арбіты, калі на іх глядзець, не кажучы ўжо, калі наступіць ім на нагу, і не важна, што да некага ў школу прыходзіў сам Стыў Джобс); якраз у разгары была прэзідэнцкая

кампаніія 2000 года, і Тэлер расказваў, як быў дарадцам у Рональда Рэйгана, і калі той перадаваў пасаду свайму віцэ, Бушу-старэйшаму, дык сабраў дарадцаў на вячэру і сказаў – дзякуй, наш час скончаецца, у новага прэзідэнта будзе свая каманда, і пасля гэтага Тэлер ужо ніколі не быў у Белым доме, хоць і запрашалі, бо трэба саступаць дарогу (кожны раз, калі я бачу на фотаздымках у сацыяльных сетках сына з новай незнаёмай асобай жаночага полу, я чамусьці ўзгадваю тую каліфарнійскую гутарку, хоць і папярэднія сяброўкі не знікаюць, магчыма, гэта нейкі новы фізічны эфект, калі нешта ўжо ёсць, дык не знікае).

Незадоўга перад нашай сустрэчай у Тэлера памерла жонка, ён раніцай пабачыў, што не дыхае, а ўвечары быў нейкі выступ, які ён не адмяніў, вось такі пазбаўлены сантыментаў звышчалавек, і пра гэта цяпер заўсёды згадваюць, калі пішуць пра Тэлера, і ніхто не ведае, што калі напрыканцы сустрэчы ён прапанаваў задаць якое-небудзь пытанне майму сыну, і той не вельмі, на маю думку, удала скарыстаў магчымасць і задаў прадказальнае пытанне, якое, напэўна, задавалі мільён разоў, пра найбольшае дасягненне, Тэлер звыкла адказаў, што вось зрабіў вадародную бомбу для сваёй краіны і так унёс свой уклад у папярэджанне 3-й сусветнай вайны, няблага, а? І сын сказаў, што тады выходзіць, што ён больш ганарыцца не тым, што зрабіў, а тым, што не адбылося, і Тэлер наступіў мне на нагу і пагадзіўся.

**Мілтан Фрыдман, чалавек гігіены**
***Эканаміст, 1912-2006***

З Нобелеўскім лаўрэатам і самым уплывовым эканамістам 20-га стагоддзя Мілтанам Фрыдманам я, верагодна, сустракаўся двойчы.

Прынамсі, каля Дома калгасніка, двухпавярховай гасцініцы адмыслова для працаўнікоў палёў і фермаў на вуліцы Камсамольскай, 3, у Берасці, я бываў шмат разоў, калі ўцякаў з урокаў і кіраваўся ў суседні кінатэатр на дзённы сеанс. Там я ўпершыню мог пабачыцца з аўтарам асноватворных працаў эканамічнай тэорыі мінулага стагоддзя “Капіталізм і свабода”, “Свабода выбару”, дзякуючы якім Маргарэт Тэтчэр, напрыклад, радыкальна вылечыла захопленую прафсаюзамі гаспадарку злучанага каралеўства, Эстонія з беднай савецкай правінцыі ператварылася ў “Балтыйскага тыгра”, а Чыкагская школа эканомікі дагэтуль выклікае зубоўны скрыгат у прыхільнікаў калгасаў на ўсіх кантынентах.

У 1966 годзе Фрыдман з жонкай Розай выбраліся ў аўтобуснае падарожжа з Польшчы ў СССР. На Варшаўскім мосце (чаму так называецца гэтая пабудова праз Буг, якая знаходзіцца за дзве сотні кіламетраў ад польскай сталіцы і фактычна ў гарадской рысе Берасця – паняцця не маю. Прапаную пераназваць, напрыклад, у мост Фрыдмана) аўтобус заглох.

Памежнікі захоўвалі ўзброены нейтралітэт, навокал была нічыйная паласа, бліжэйшая прыватная аўтамайстэрня знаходзілася ў Даніі, і пасажыры пачалі пхаць свой каўчэг праз геаграфічную дзірку, дзе не працаваў рухавік унутранага згарання і законы эканомікі, затое дзейнічаў другі закон Ньютона, паводле якога, каб прыдаць нейкаму целу паскарэнне, трэба прыкласці да яго сілу, і тады яно будзе наўпрост прапарцыйна ёй і наадварот – масе аўтобуса з усімі валізкамі, сумкамі і схаванай кантрабандай.

На савецкім баку запрацавалі законы інтурыста, аўтобус падчапілі да трактара і разам з гасцямі дапёрлі да адзінага месца, адкуль можна было спешна выкінуць на вуліцу розных камандзіровачных гаспадароў сваёй краіны і свайго лёсу, як тады іменаваліся будаўнікі камунізму.

Усё гэта я ўведаў ад самога Фрыдмана толькі праз трацінy стагоддзя, пад

час гутаркі ў яго офісе ў Стэнфардскім універсітэце, дзе спрабаваў задаваць яму пытанні, адказы на якія, як мне падавалася, будуць важныя для слухачоў і чытачоў у Беларусі. Што для каго важна, як вядома, насамрэч амаль невядома, і таму раю самім пачытаць Фрыдмана, і то толькі таму, што гэта менш саманадзейна, чым друкаваць тут нашу гутарку пра эканоміку, свабоду ды іншыя пацеры чыстага розуму.

Але пра адну рэч усё ж не магу не сказаць, бо з ёй, не выключана, звязаныя лёсы мільёнаў – ды што там, мільярдаў! – людзей ва ўсім свеце. І падазраю, што ведаю яе толькі я.

У Доме калгасніка адбылося наступнае: калі Фрыдманы зайшлі ў свой нумар, у ім не аказалася туалета. Ложак быў, тумбачка стаяла, лямпачка гарэла – але запрацавалі законы прыроды і трэба было ў прыбіральню. Роза Фрыдман рамантычна ўспамінала, што муж адшукаў яе, як паляўнічыя-героі раманаў Фенімора Купера, – па паху. Далей усё адбывалася, як у рамане Оруэла ці фільме Хічкока: зайшоў і аслупянеў. Усе чатыры кабінкі былі без дзвярэй. Усе былі занятыя. У кожнай чыталі газету.

Фрыдман ведаў пра камуністычную прапаганду, пра абавязковыя палітінфармацыі, пра прамыванне мазгоў. Але каб так паўсюдна, да такой ступені, з такой анатамічнай глыбінёй!.. Аднак у стан поўнага шоку, як ён прызнаўся праз дзесяцігоддзі, яго ўвяло не гэта.

Тут трэба нагадаць, што найважнейшым дасягненнем свайго жыцця Фрыдман, які быў дарадцам Ніксана і Рэйгана, называў не адкрыты ім закон манетызацыі ці тэорыю спажывання, стагфляцыю і іншыя нобелеўскія прыбамбасы, а адмену абавязковага прызыву ў амерыканскае войска.

Дык вось: у берасцейскай прыбіральні госці Дома калгасніка спраўлялі вялікую патрэбу седзячы на ўнітазе арлом.

– Мяне як ударыла, – расказваў Фрыдман. – Ядзерная звышдзяржава паставіла ўнітазы, а карыстацца імі не ўмеюць. Разумееце, што гэта значыла?..

Што гэта значыць сёння, паводле Вікіпедыі, выглядае так: у Беларусі на кожную тысячу чалавек прыпадае амаль 50 ваеннаабавязаных, а ў ЗША ў сем разоў меней, а зарплату за пагоны атрымліваюць адпаведна 7,6 і 4,6.

Афіцыйна лічыцца, што ЗША перайшлі на добраахвотнае войска, бо Фрыдман давёў, што абавязковы прызыў парушае свабоду выбару маладых людзей і такім чынам шкодны для ўсяго грамадства ва ўсіх сферах, уключна з вайсковай. Амерыканскае войска лічыцца самым моцным у свеце.

Цяпер вы ведаеце, чаму насамрэч. Фрыдман не зразумеў відавочнага: беларусы выбіралі позу арла, бо яна нашмат больш гігіенічная, чым сядаць на голы стульчак голым самі ведаеце чым.

Свабода выбару, як часам бывае, не адрознівалася ад яе адсутнасці.

А вось наадварот бываюць толькі супадзенні.

### Вацлаў Гавэл, чалавек свабоды
### *Дысідэнт, 1936-2011*

Падчас нашай першай сустрэчы, калі Гавэл быў яшчэ прэзідэнтам, па-ангельску ён гаварыў прыкладна, як я па-чэшску, а па-чэшску я гаварыў, як два мае калегі па-нямецку: паехалі ў Берлін, засядзеліся ў бары і калі да цягніка засталося 20 хвілінаў, кінуліся на вуліцу па таксі. Вадзіцель аказаўся іранец, па-ангельску не разумеў, яны крычалі, што спазняюцца, паказвалі на гадзіннік, нарэшце, знайшлі карту, ткнулі пальцам на Bahnhof, паляцелі, і тут той, што сядзеў ззаду, раптам з-за стрэсу ўзгадаў тры словы са школьнай праграмы, крануў таксіста за плячо і

на чыстай нямецкай спытаўся: “Wie viele minuten noch zu fahren?” Таксіст збялеў, даў па тармазах, стаў здымаць гадзіннік і даставаць выручку, бо вырашыў, што нарваўся на нямецкую шпану, а жыццё даражэй.

Адным словам, з Гавэлам па-чэшску я амаль не гаварыў. Першае інтэрв’ю я вёў па-ангельску і перакладаў яго памочнік, а потым, калі ён ужо стаў “грамадзянін Гавэл” (менавіта так пачынаўся ліст Гаўла на радыё, датаваны снежнем 2011: «Як грамадзянін, які даўно сочыць за палітычнай сітуацыяй у Беларусі...» Падобна пачыналася нобелеўская лекцыя Бродскага: “Як прыватная асоба...”), інтэрв’ю рабіў па-беларуску з дапамогай сваіх калег, якія вывучылі чэшскую так, што іх прымалі за славачак (беларуская бліжэй да славацкай).

Часам ён сам запрашаў на гутарку, часцей я званіў са сваімі просьбамі – і ніколі не было адчування дыстанцыі, недасяжнасці, нечага надзвычайнага. Я нават аднойчы спытаўся, чаму ён так апякуецца Беларуссю, можа, ёсць нейкая дзяўчына, і на стужцы ў мяне дагэтуль застаўся пачатак яго смеху, спачатку ціхага, асцярожнага, а потым усё больш адкрытага смеху шматгадовага курца, які лёгка пераходзіць у кашаль.

Неяк сядзелі мы з калегамі ў пражскай кавярні «Красны страты» і адзначалі дзень народзінаў Васіля Быкава, ужо другі раз без імянінніка, які спачываў пад фінскім валуном на мінскіх могілках. Нехта сказаў, што ў суседняй залі – канферэнцыя і там Вацлаў Гавэл. Вырашылі запрасіць – Гавэл ведаў Быкава, дапамагаў з пераездам, іх афіцыйная сустрэча ў Пражскім Градзе адбывалася ў верасні 2001-га, праз некалькі гадзінаў пасля тэрарыстычнага нападу на Нью-Ёрк, калі ўвага прэзідэнтаў усіх краінаў-сяброў НАТА, і не толькі іх, была занятая зусім не літаратурай. Перадалі запросіны праз ахоўніка. Гавэл прыйшоў, усміхаўся, сам казаў мала, больш слухаў нашу чэхаславацкую мову, потым развітаўся, пакінуўшы адчуванне двайнога свята.

У 2008 годзе ў Вашынгтоне я патрапіў на сустрэчу са знакамітымі дысідэнтамі з розных краінаў, якую ў бібліятэцы Кангрэсу ладзіў Нацыянальны фонд у патрымку дэмакратыі. Гавэлу давалі нейкую ўзнагароду, і там я ўпершыню пачуў, як ён прамаўляў па-ангельску. Гэта было, як з таксістам у Берліне, але яшчэ больш мяне ўразіла, што ён казаў пра сябе і іншых хартыстаў – дзіўнаватыя былі людзі, насілі даўгія валасы, слухалі андэграўнд, некаторыя мелі своеасаблівае ўяўленне пра гігіену і на прыём у заходнія амбасады маглі прыйсці адразу пасля змены ў качагарцы і выступалі так, што не адрозніць было, хто дысідэнт, хто шызафрэнік, тым больш, што часам гэта спалучалася. Міжнародныя дысідэнты смяяліся, бо пазнавалі ў гэтым апісанні сябе і сваіх сяброў. Гавэл ні з чога ў жыцці не рабіў трагедыі, можа таму, што трагедыі ў жыцці хапае і без нашых намаганняў.

Апошні раз я гаварыў з ім напярэдадні Новага 2011 года: мы рыхтавалі перадачу “Галасы салідарнасці”, і я папрасіў яго прачытаць паўтара дзясяткі імёнаў людзей, арыштаваных у Мінску пасля прэзідэнцкіх выбараў. Я падумаў, што Гаўлам будзе правільна скончыць спіс, які налічваў больш за сямсот чалавек, і дыктаваў яму прозвішчы на “я”: Язэрскі Сяргей, Якабчук Антон, Януковіч Алена...

Ён старанна паўтараў, часам некалькі разоў, пакуль не дасягалі больш-менш прыстойнага гучання. Потым стаў распытваць пра Плошчу, дзе яго пасланне прачытала Наталля Каляда са Свабоднага тэатра, пра сваіх знаёмых – ці на волі, і прасіў перадаваць ім прывітанне. Я пасля перадаваў і адчуваў сябе, як Санта Клаус, які раздае падарункі, даражэйшыя за свае скарбы.

Яго здароўе пагаршалася, усё часцей яго імя ў навінах сустракалася ў адным радку з назвамі шпіталёў, і калі я пазваніў перад Новым 2012 годам, каб папрасіць напісаць Каляднае прывітанне васьмі беларускім палітзняволеным, яго сакратар не быў нават упэўнены, ці зможа перадаць просьбу.

Аднак потым пэразваніў і сказаў, што прывітанне будзе, толькі вось аўтар

хварэе і не здолее сам прачытаць для эфіру. У чацвер, 15 снежня, электронная пошта прынесла зварот Гаўла, які пачынаўся словамі “Milý příteli...” У нядзелю, 18-га, мы скасавалі ўсю падрыхтаваную раней праграму, і ў жывым эфіры я чытаў гэты ліст. Гавэл не дажыў на новага года трынаццаць дзён. Потым яго памочнік, Мартын Вілдак, сказаў мне, што той зварот да беларускіх палітвязняў быў апошнім тэкстам, які Гавэл напісаў у сваім жыцці. Ён скончаўся словамі “Přeji Vám vše dobré a svobodu Vaší zemi” – “Жадаю Вам усяго добрага і свабоды Вашай краіне”.

Пажаданне, якое дагэтуль не страціла сваёй, як кажуць, актуальнасці.

Гавэл, напэўна б, усміхнуўся з гэтай маёй няўклюднай заўвагі і дадаў бы што-небудзь па-чэшску, кшталту “Držím palce”, і я падумаў бы, што чамусьці трэба патрымаць суразмоўцу за пальцы, а той бы спачатку здзівіўся, але не як іранскі таксіст, а трошкі, і патлумачыў бы, што палец па-чэшску – толькі вялікі (астатнія мілагучна называюцца “prst”), і вялікія пальцы складаюць і трымаюць у кулаку, што гэты выраз прыйшоў ад цэзараў і гладыятарскіх баёў, але азначае не апошні выбар – смерць ці жыццё, а надзею: будзем спадзявацца, будзем трымаць пальцы, пакуль надзея не спраўдзіцца. Гавэл ведаў напэўна, бо яго надзеі для яго краіны спраўдзіліся.

Звычайная справа. Проста трэба правільна трымаць пальцы.

## Васіль Быкаў, чалавек стагоддзя
### *Беларус, 1924-2003*

Чалавек слова, чалавек камня, чалавек крыжа, чалавек праўды, чалавек маўчання, чалавек цярпення, чалавек зямлі, чалавек вайны, чалавек мёртвых, чалавек жывых, чалавек цяпла, чалавек прыцемку, чалавек туману, чалавек світання, чалавек годнасці, чалавек сціпласці, чалавек разумення, чалавек сяброўства, чалавек веры, чалавек стрыманасці, чалавек песімізму, чалавек горычы, чалавек паўзы, чалавек цвёрдасці, чалавек слабасці, чалавек супраціву, чалавек удачы, чалавек вернасці, чалавек глыбіні, чалавек адчаю, чалавек узыходжання, чалавек моцы, чалавек выбару, чалавек дарогі, чалавек дому, чалавек радзімы, чалавек свету, чалавек дэмакратыі, чалавек незалежнасці, чалавек сумлення, чалавек рэалізму, чалавек згушчанасці, чалавек прадчування, чалавек прарыву, чалавек трагізму, чалавек ад’езду, чалавек вяртання, чалавек вышыні, чалавек страты, чалавек болю, чалавек засцярогі, чалавек непазбежнасці, чалавек сцюжы, чалавек сцяны, чалавек вызвалення, чалавек волі, чалавек сумневу, чалавек кораня, чалавек пакуты, чалавек скрыжавання, чалавек стрыжня, чалавек нематы, чалавек адзіноты, чалавек упартасці, чалавек прыкрасці, чалавек знаку, чалавек неабходнасці, чалавек трыюмфу, чалавек бяды, чалавек стойкасці, чалавек выкуплення, чалавек пераасэнсавання, чалавек цішыні, чалавек музыкі, чалавек меры, чалавек развітання, чалавек паразы, чалавек адраджэння, чалавек перамогі.

*Мы пазнаёміліся ў 1989-м, калі В.Б. напісаў прадмову да маёй першай кніжкі і потым уключыў яе ў апошні прыжыццёвы збор твораў: Мн. 1996, Т. 6. С. 455. Гл. таксама: “Дзеяслоў”, № 15.*

запісы

Уладзімір Някляеў



...няма ніводнага паэта,
які б ці сам сябе,
ці нехта яго не выдумаў...

# Знакі прыпынку

* * *

Яўген Еўтушэнка, з якім даўно не бачыліся, распытвае, хто мы такія, што мы такое, якія мы — беларусы... «Ну, няхай добрыя, шчырыя, а што яшчэ?..» Кажа, што яму гэта цікава, бо сам — хай напалову ці на колькі там — беларус. І распавядае, як Мікалай Матукоўскі ў 1963 годзе напісаў у ЦК КПСС ліст пра антысемітызм... Пра тое, што ёсць людзі, якія ў такой інтэрнацыянальнай краіне, як СССР, свядома гэты самы антысемітызм правакуюць. Не толькі ў побыце, але і ў мастацтве, што страшней...

Падставай для ліста стала выкананне Трынаццатай сімфоніі Шастаковіча ў Мінску. Маўляў, слухаючы сімфонію, габрэі коса пазіралі на славян, а славяне на габрэяў. І Матукоўскі піша ў лісце: антысемітызму ў нас няма, аднак яго правакуюць такія людзі, як Шастаковіч і Еўтушэнка. Маючы на ўвазе еўтушэнкаў «Бабін яр».

У канцы 70-х (здаецца, у 1978-м) Еўтушэнка прыязджае ў Мінск. Матукоўскі сустракае яго з кветкамі, вязе адразу не ў гатэль, а да сябе снедаць. Назаўтра яны ляцяць на верталёце (разам з Макаёнкам) у Хомічы — шукаць магілу еўтушэнкавай

*Працяг. Пачатак у №№ 59-60.*

бабулі. Знаходзяць. «І Коля, — кажа Еўтушэнка, — стаіць каля магілы, глядзіць на мяне і плача. І я не разумею, што адбываецца... Дагэтуль не ўцямлю, калі ён шчырым быў? Калі ліст у ЦК, а па сутнасці данос на мяне пісаў, ці калі над магілай маёй бабулі плакаў?..»

Я някепска, хоць блізка мы і не сябравалі, ставіўся да Матукоўскага, таму кажу, што, магчыма, ён быў шчырым у абодвух выпадках. Ну вось такія мы, беларусы, — шчырыя...

Еўтушэнка прымружваецца на мяне і дадае: «І добрыя...»

* * *

У «Мастацтве кіно» — дзённікі Я. Левіна, кінаведа. Чытаю запіс пра Я. Еўтушэнку: «Усё ў яго нікчэмнае, нават манія велічы. Убоства з шанцамі дажыць да бюсту на станцыі Зіма». Два сказы — а колькі зайздрасці.

* * *

Ганна Ахматава называла Еўтушэнку і Вазнясенскага не інакш як эстраднікамі. «Гумілёў, — казазала яна, — канечне ж, не сабраў бы такой аўдыторыі. Толькі я не разумею, пры чым тут паэзія?»

Пра Ахмадуліну казала: «Я на кабылку гэтую ставіла, а яна не прыйшла».

Зайздросціла Ганна Андрэеўна. Белай зайздрасцю ці якой там яшчэ, але зайздросціла. Без гэтага між паэтамі нічога астатняга не бывае.

* * *

Валянцін Акудовіч (пры мне) даводзіць Леаніду Дранько-Майсюку, што не можа напісаць пра Някляева нічога добрага, бо надта яго любіць. Па той жа прычыне нічога добрага не можа ён напісаць і пра Дранько-Майсюка.

З гэтага вынікае, што тых, пра каго Акудовіч напісаў, ён любіць не надта. А навыдумляў жа з іх паэтаў: каго з тазікам, каго без...

Зрэшты, няма ніводнага паэта, які б ці сам сябе, ці нехта яго не выдумаў.

* * *

Да канца 1980-х гадоў верш Ахматавай «А вы, мои друзья...» (In memoriam) ва ўсіх выданнях з’яўляўся з праўкай Канстанціна Сіманава, члена рэдкалегіі часопіса «Знамя», дзе ўпершыню (яшчэ да пастановы ЦК ВКП(б) «Аб часопісах “Звезда” і “Ленинград”») быў надрукаваны. Ахматаўскае *для Бога мёртвых нет* Сіманаў выпраўляе: *для славы мёртвых нет*. Папраўлена, зразумела, каб без Бога было, каб надрукаваць, але якім трэба быць *сапраўды савецкім* паэтам, каб *так* паправіць, ды яшчэ з перакананнем, што так нават лепш:

Да что там имена! Захлопываю святцы
И на колени все. Багровый хлынул свет.
Рядами стройными выходят ленинградцы
Живые с мертвыми. Для *славы* мертвых нет.

Канстанцін Сіманаў па даручэнні Сталіна ездзіў па замежжы і ўгаворваў знакамітых эмігрантаў (Івана Буніна ды іншых) вяртацца ў Савецкі Саюз, дзе іх чакае *слава*. Насамpraўдзе чакаў ГУЛАГ. Валянціна Сярова, у той час жонка Сіманава, казала эмігрантам: «Не верце вы яму».

Актрысу Сярову літаратар Сіманаў кінуў, ажаніўшыся з удавой паэта, які напісаў знакамітае:

Бой был коротким. А потом
Мы пили водку ледяную,

И выковыривал ножом
Из-под ногтей я кровь чужую.

Актрыса Сярова памерла ад «ледзяной гарэлкі», спілася ў адзіноце...

Час адсунуў літаратара Сіманава на другі план... Актрыса Сярова, не кажучы ўжо пра паэта Ахматаву, на плане першым.

* * *

Падараваўшы жыццё, жанчыны дораць нам каханне. Каб мы зведалі, дзеля чаго і навошта існуем, адкрылі самае патаемнае ў жыцці, зразумелі яго найвялікшы сэнс.

Падараваўшы жыццё і каханне, жанчыны дораць нам дзяцей. І мы становімся бессмяротнымі, да нас прыходзіць пачуццё бясконцасці лёсу, векавечнасці ягонага кругазвароту.

* * *

Бліскучы рускі актор Міхаіл Жараў пад старасць сыграў абы-што ў абы-якім фільме «Вясковы дэтэктыў». А некалі грандыёзна граў Меншыкава... І, баючыся гэтай ролі, казаў А. Талстому: «Не цягну я на любімца Пятра, нешта ўва мне ёсць камсамольскае». Талстой адказваў: «Можа, і ёсць, але пакуль не выяўляецца».

З часам выявілася. І не ў аднаго Жарава...

* * *

Першы год вайны, немцы пад Масквой.

Вые сірэна: паветраны налёт, бамбіць будуць.

У Самуіла Маршака эканомка Разалія, немка. Яна цягне Маршака ў бамбасховішча, той упіраецца:

— Разалія Іванаўна, ну што вы мяне цягнеце, гэта ж вашы прыляцелі...

* * *

Верш «Жили в квартире сорок четыре сорок четыре веселых чижа...» Хармс і Маршак напісалі разам. У вершы відавочна больш Хармса (найперш інтанацыя ягоная, што і ёсць верш).

Пасля таго, як Хармса арыштавалі і забілі, сталі знішчаць ягоныя кнігі. А Маршак у сваіх кнігах друкаваў верш пра вясёлых чыжыкаў як свой. І Хармса да канца жыцця нідзе і ніколі не згадваў.

* * *

Страх, апроч страху, яшчэ і апраўданне. Баяцца зручна. Год семдзесят пабаішся, зірнеш — і жыццё прайшло.

* * *

Страфа з першага выдання «Сымона Музыкі»:

Нікла жыцце ў лесе шумным,
Агаляўся твар зямлі,
І ляцелі з крыкам сумным
Над балотам жураўлі,

— у наступных выданнях зменена:

Нікла жыцце ў шумным лесе,
Агаляўся твар зямлі,
І ляцелі ў паднябессі
З звонкім крыкам жураўлі.

Калі верыць Максіму Лужаніну, страфа перароблененая самім Коласам. Магчыма. Дый кім жа, зрэшты, яшчэ?.. Але відавочна, што не па ягоным жаданні. Ва ўсякім разе, не па ўнутраным. Сумны крык павінен быў стаць звонкім. І не над балотам, а ў паднябессі. І Колас праз гэты прымус (цэнзурны ці самацэнзурны) пагаршае страфу настолькі, наколькі можна яе пагоршыць. Аж да заікастага збегу зычных (*з звонкім*), параўнальным хіба што з Танкавым: «*купіў у ўнівермагу*».

Але ж магло быць і так, што Лужанін, як прыстаўлены да Коласа «рэдактар», сам выправіў страфу, а ва ўспамінах, каб апраўдацца, звярнуў усё на Коласа. Ды яшчэ чапляючыся да яго: «А нашто вы, дзядзька Якуб, горш зрабілі?..»

Праз гэта ні Колас не лепшы, ні Лужанін не горшы. Які час — такія людзі.

Ці наадварот.

* * *

«І я дурань, і ты дурань», — сказаў ён, напалову сказаўшы праўду.

* * *

Рыгор Барадулін тэлефануе і прагаворвае ў некага вычытанае:

«Якім бы велічным ні ўяўляўся трон — усё адно на ім сядзіць задніца».

* * *

Жывое і абортнае.

* * *

Мужык, які пры вакзале на баяне грае, яшчэ і забаўку прыдумаў: у яго па два яблыкі і па дзве грушы. Яблык сапраўдны і штучны, грушы таксама — і ён прапануе ўгадаць, якія сапраўдныя. Колькі я стаяў — ніхто не ўгадаў, усе хапалі штучныя. Яны больш на сапраўдныя падобныя, чым самі сапраўдныя.

Так з многім у жыцці — не адно з садавінай ды гароднінай.

* * *

Несправядлівасць здольная імітаваць справядлівасць ва ўсіх яе праявах і заставацца пры гэтым самой сабой; а калі наадварот: калі ўявіць справядлівасць як імітатара несправядлівасці — якая можа быць мэта такой імітацыі?..

* * *

Каханне — пачуццё, якое не мае штучных аналагаў. Яго нельга зрабіць, стварыць — яно самаствараецца. Як яблык на дрэве, як груша...

У гэтым яно найбліжэй да творчасці. Але не творчасць, якая скарыстоўвае ўсё і ўсіх, штучнае і натуральнае — і каханне.

* * *

Рабіце ўсё, каб жанчыны ўсміхаліся... Бо ўсміхнулася Джаконда — і з'явіўся Леанарда да Вінчы.

* * *

Надта шмат, каб адмаўляць. Надта мала, каб паверыць.

* * *

Ад аўтарскай самарэкламы ў сённяшніх выданнях ніякавееш — наўпрост людзі самі сябе ў геніі запісваюць. Але не сёння яно пачалося...

Быў такі рускі літаратар Антон Сарокін, які яшчэ ў 30-я самарэкламаваўся не горш за літаратараў цяперашніх. Ён называў сябе «Вялікім сібірскім пісьменнікам»,

друкаваў свае грошы, паштовыя маркі. Зрабіў візітоўку: *кандыдат Нобелеўскай прэміі*. На гэтым лавіліся: «Антон Сямёнавіч, вы ж не атрымлівалі Нобелеўскай прэміі!» — «А я і не кажу, што атрымліваў, я *кандыдат* Нобелеўскай прэміі».

Акадэмік Капіца яшчэ напачатку саракавых казаў: «У нас усе трымаюцца за хвост факта. Але ў газеце факт павінен быць асаблівы. Напрыклад, калі вас укусіў сабака, гэта не газетны факт. А вось калі вы ўкусілі сабаку — гэта ўжо цікава. Калі сабака ўкусіў прэм'ера — гэта цікава, а калі прэм'ер укусіў сабаку — гэта ўжо сенсацыя».

* * *

Калі я жыў на Курасоўшчыне, адным з маіх суседзяў быў спісаны ў запас лётчык. Ён казаў: «Я не спісаны, я пішу». І калі ў яго ні спытаеш: «Што пішаш?» – адказваў: «Раман». Пляшку яму праставіш – ён распавядаў, які... Кожны раз выходзіў новы.

* * *

Для таго, каб быць літаратарам, дастаткова не піць.

* * *

Здаецца, што ўжо ўсё парушылася, а ўсё яшчэ нешта рушыцца, рушыцца, рушыцца... І не спыніць. А чалавеку трэба мець штосьці непарушнае — на чым стаяць.

Ангельскі вучоны Філіп Гасэ быў правадзейным сябрам Каралеўскага навуковага таварыства, спецыялістам па марской біялогіі. Усё ў ягоным жыцці было хораша і надзейна зладжана, апроч часу, у якім разбураўся міф аб стварэнні свету. Страх перад гэтым разбурэннем змусіў яго, *вучонага-біёлага*, за два гады да публікацыі дарвінскага «Паходжання відаў...» надрукаваць свой трактат «Пуп Зямлі, або Спроба развязаць геалагічны вузел», у якім супярэчанні паміж біблейскай легендай і тэорыяй эвалюцыі зліквідоўваліся даволі хітра. «У той жа дзень, — даводзіў Гасэ, — калі Гасподзь сварыў Адама, ён стварыў і ўсе выкапні, усе вымерлыя формы жыцця».

Смешна, але шчымліва.

Гасэ не ератык, а я ведаў папа, які, калі выпіваў і мучаўся тою ж праблемаю, што і ангельскі біёлаг, дазваляў сабе ерась: першапачатковы свет стварыў Сатана, свавольны і амбітны анёл Гасподні. Стварыў ён свет на свой сатанінскі капыл: з яшчарамі, дыназаўрамі і ўсёй астатняй дагістарычнай брыдой. Бога ў той час не да Зямлі было, Ён нечым (поп слаба тлумачыў, чым) надта важным займаўся, а пасля бачыць: Зямля ўся ў сатанінскіх вычварынах! Сатану Гасподзь адразу ў пекла ўпёк — і ўсё на Зямлі перарабіў. Брыду ўсю знішчыў, на вычварын ледавік насунуў... Шкілеты іх замерзлыя і знаходзяць палеантолагі, не дзіва.

* * *

Галава для думкі – небяспечнае месца прытулку. Таму сапраўдная думка (не дурніца) знаходзіцца ад галавы на некаторай адлегласці. Прыгледзецца: ага, там спакойна, ідыётаў п'яных няма — тады можа галаву й наведаць. А так думка ў нябёсах прабывае, над і пад зоркамі, а не ў касцяной даўбешцы — у кары ці пад карой. Гэта Дарвін, ад якога думкі (ды ну, маўляў, яго да д'ябла!) так і засталіся на адлегласці, сваёй карой прыдумаў (мех косткаў назбіраўшы), нібы мы ад малпаў...

Між іншым, з людзьмі разабраўшыся, ён адразу ж чарвякамі заняўся. Усялякімі даследваннямі ўсялякіх чарвякоў. І чамусьці найбольш яго цікавіла ўздзеянне на іх, на гэтых розных чарвякоў, розных вібрацый. А паколькі з неба да спадара

Дарвіна — вібрацый ніякіх, дык ён, каб чарвякі вібрыравалі, змушаў сына граць ім на тубе, а дачку — на раялі. Музыка ў свеце, бясспрэчна, ад нябесных вібрацый, але ўяўляеце карціну? Раяль — і чарвякі скачуць... Во ўжо Бог паджартаваў.

Бог, дарэчы, вясёлы. І не трэба яго ўяўляць гэткім прыдзірлівым бухгалтарам у нябеснай канторы, якому толькі й клопату, што нашы грахі на арыфмометры падлічваць. А самому пажыць ды павесяліцца? Не Карэйка ж ён, каб, маючы столькі ўсяго, чакаць, пакуль Астап з'явіцца. У Бога паўсюль Рыа дэ Жанэйра...

* * *

У якіх суадносінах (колькасных) жывёльны і раслінны свет на зямлі?..

Мы (разам са сланамі і гіпапатамамі, мухамі і мошкамі, варонамі і чарвякамі) складаем толькі 0,8 адсоткаў ад масы ўсяго жывога. Астатняе (амаль усё, бо 0,8 адсоткаў можна лічыць за пагрэшнасць) — расліны.

Лічбы іншым разам здзіўляюць больш за метафары.

* * *

Расліна, здабываючы энергію, сілкуецца сокамі, жывёліна — раслінай, чалавек — жывёлінай, і ў гэтым ланцужку чалавек — не абавязкова апошняе звяно. Для чаго існуюць і заечая капуста, і заяц?.. Ні для чаго, калі іх не з'есці... Тое самае і чалавек, пра якога Кастанэда прыдумаў, што ён проста харч.

Чалавек для таго, каб ягонай энергіяй сілкаваўся паралельны свет, населены флаерсамі, летунамі. Кастанэда кажа, што яны валодаюць нашай свядомасцю, *ажыццяўляюць* нас і кормяцца нашай энергіяй — дэфіцытам і дэлікатэсам ва ўсім космасе.

Каб флаерсы цябе не жэрлі, трэба стаць *нясмачным*. Кастанэда не кажа, як, але выходзіць, што дастаткова *быць самім сабой* — і цябе не зжаруць.

Кожны, хто не баіцца, дазваляе сабе быць самім сабой — нясмачны...

Флаерсаў, мусіць, зжырае нехта яшчэ, а тых яшчэ нехта... і ўсё, што ёсць, было і будзе — адзін няспынны сусветны жор.

Як даказаць, што гэта не трызненне?.. Ніяк. Бо, дапусцім, ты бачыў сон, у якім цябе пажыраў флаерс... Як ты дакажаш некаму, што бачыў такі сон?.. Ніяк. Але сон такі ты бачыў.

* * *

«Жыццё — гульня ў гульню», — сказаў, здаецца, Шатабрыян. *Кошкін* па-нашаму. У Крэве (дзе кот — кот, а кошка — котка) сказалі б *Коткін.*

Так, калі б не было смерці. Ці якраз таму?..

Бачыш ката і мыш. Гуляюць. Жыццё ідзе.

* * *

Усё, што існуе, існуе толькі для таго, каб існаваць. Гэтым вычэрпваецца ўвесь сэнс быцця. Таму існаваць правільна — значыць, існаваць з задавальненнем, чым і кіруецца большасць людзей. Большасць — *правільныя* людзі.

* * *

Недзе Кастанэда — геніяльны філосаф, недзе — геніяльны кампілятар. Але паўсюль тэксты ягоныя — асалода.

Кастанэда — літаратар. Як і Ніцшэ.

* * *

Шмат хто думае, што пасля таго, як памрэ і ўваскрэсне, тады і зажыве па-сапраўднаму, і будзе самім сабой...

* * *

Ісціна — там і тады, дзе і калі ёсць адказнасць. Гісторыя чалавецтва — гісторыя дактрын, безадказных падробак пад ісціну.

* * *

Усе і кожны, хто мог давесці нешта, даводзілі, што пекла — гэта яны. З іх жахлівымі жарсцямі. Не кажучы найістотнага: іх жахлівыя жарсці, іх пекла — насамрэч рай.

Жан-Поль Сартр першы сказаў найістотнае: «Пекла — гэта іншыя».

* * *

Салжаніцын піша ў «Расіі ў абвале»:

«Расія зламаная не толькі духоўна, яна падарваная і цялесна... Каб XXI стагоддзе не стала апошнім для рускіх — мы павінны знайсці ў сабе сілы і ўменне супрацьстаяць распаду ўжо зараз...» І тут жа задаецца пытаннем: «Але ці дазволіць нам гэта наш нацыянальны характар?..»

Далей выходзіць, што не дазволіць. Ранейшы (характар старавераў) дазволіў бы, а сённяшні — не... Эвалюцыя нацыянальнага характару настолькі Салжаніцына страшыць, што ён пачынае сцвярджаць, быццам «рускі характар» трох апошніх стагоддзяў, пачынаючы з часоў смуты і расколу, гэта зусім і не рускі характар, а ягонае скажэнне — зноў жа праз смуту і раскол. Нібы смута і раскол неяк аббеглі нацыянальны характар па баках і аказаліся ў яго наперадзе.

* * *

Амерыканцы пасля Афганістану збіраюцца бамбіць Ірак... Тэрарызм тэрарызмам, але: «Цар усяго — варожасць», — сцвярджаў Геракліт.

А ў вядомым афарызме Клаўзевіца пра вайну як працяг палітыкі Мішэль Фуко даўно ўжо зрабіў інверсію: «Палітыка — працяг вайны іншымі сродкамі».

* * *

Пачалася і скончылася вайна ў Іраку... Наладжаная амерыканцамі, як сусветнае тэлешоу. Больш сучасна: як кампутарная гульня. Толькі з сапраўднымі танкамі, ракетамі, самалётамі — і з жывымі людзьмі. Сядзі ўтульненька і гуляй. Гэтага заб'ю, гэтага не...

Чалавецтва набывае іншую, новую якасць... Якую пакуль не асэнсаваць.

Расчараванне ад арабаў... Як у «Белым сонцы пустыні» чырвонаармеец Сухаў казаў: «Я на цябе разлічваў, Саід».

А ў іх не адзін самалёт не ўзляцеў. Нібы нафты — заліся, а газы няма...

А як жа «свяшчэнная вайна» з няверными?.. Ці яна — толькі жанчын з дзецьмі дзе заўгодна падрываць? А калі армія, дык сядзець і траву курыць?..

Нейкі студэнт з Аману, іракскі, сказаў у інтэрв'ю амерыканцам: «Як спалі, так няхай бы спалі — дарма вы іх пабудзілі».

Помнік Хусэйнаў скідалі, а ён зачапіўся — і вісіць... Галавой уніз ківаецца... Не ўсё так проста.

Але цяпер усе за амерыканцаў. Пераможцы. Як сказалі — так зрабілі. «Звергілі тырана. Знішчылі рэжым. Свабода, дэмакратыя...» Якая на ўсходзе можа быць дэмакратыя? Дзе вы яе ў Афганістане злавілі?..

А ў газеце «Guardian» за 27 сакавіка, мне Ева (*дачка*) паказала, яна яе глядзіць, на першай паласе ўнізе пад фотаздымкам, на якім іракцы прыкрываюць анучай знявечаны твар забітага амерыканскай бомбай суайчынніка, рэкламны дэвіз («складан») аўстралійскай нейкай фірмы:

«Свет змяняецца — зменімся з ім».

* * *

Прэзідэнт ЗША Джон Фітцджэральд Кенэдзі: “Той, хто робіць немагчымай мірную рэвалюцыю, робіць непазбежнай рэвалюцыю гвалтоўную”.

Светапогляд — вось прычына, па якой яго забілі.

* * *

Ідылістычныя чаканні, што ўзніклі ў нашых уяўленнях на подступах і пераходах да новага тысячагоддзя, у якім чалавецтва павінна было б стаць больш гуманным і мудрэйшым, не апраўдаліся. Выявілася, што чалавецтва ўсё яшчэ не наелася чалавечыны.

* * *

Прыгавораны радыкальнымі ісламістамі да смерці Салман Руждзі, стаміўшыся жыць у сховах, стаў шукаць кантакты з братамі па веры, каб неяк з імі паразумецца. Ну, не хацеў ён абразіць Прарока, думкі такой не меў. Хацеў сказаць толькі, што там, дзе іслам, няма свабоднага грамадства — хіба гэта смяротны грэх?.. І, слухаючы яго па тэлефоне, адзін з правадыроў ісламскага свету, да якога Руждзі звярнуўся за дапамогай, адказаў: «Пакуль мы з табой размаўлялі, мне жонка на нагах пазногці пастрыгла, а ты кажаш, што Каран — не святая кніга».

І паклаў трубку.

* * *

«Чалавек ёсць тое, чым ён рызыкуе», — выснова, да якой прыйшоў Жак Дэрыда. Тым самым ён прапанаваў найбольш аб’ектыўную шкалу і самаацэнкі, і ацэнкі знешняй.

Чжуан-цзы павучаў:

«Майстар гульні са стаўкай на чарапіцу пачне хвалявацца пры гульні на срэбра і звар’яцее пры гульні на золата. Мастацтва адно і тое ж, але варта з’явіцца спакусе, як увага адразу перакідваецца на знешняе. Пры ўвазе да знешняга прытупляецца ўвага да ўнутранага».

Унутранае тут — гульня, і майстар не стане мяняць гульню (змяняць сябе?) пры любой стаўцы.

Тое, што ёсць *майстар* у Чжуан-цзы, вышэй за тое, што ёсць *чалавек* у Дэрыды. Майстар не ацэньвае сябе — і яго ацаніць немагчыма: ён не толькі не думае, чым рызыкуе, а нават не мяркуе, што рызыкуе. Ён у стане *увэй*, нядзеяння.

Гэты іерогліф *увэй*, які абазначае нейкую вяршыню даоскай філасофіі, неспасцігальны, мусібыць, для еўрапейскага мыслення.

* * *

«У кітайскай мове няма паняцьця *справядлівасьць*, — згадвае рэдактар «Нашай Нівы» Андрэй Дынько і далей удакладняе: — Але ж мы не кітайцы».

Адзін з маіх дзядзькоў, Лявон Іванавіч, часцяком чамусьці казаў: «Калі пораху няма ў кітайцаў, дык няма ні ў кога».

* * *

Зусім нечаканы для мяне ўспамін Рэваза Інанішвілі пра Віктара Барысавіча Шклоўскага...

В. Б. выступае на мітынгу пратэсту (дзе кляймілі Амерыку падчас Карыбскага крызісу) і кажа:

«У рэшце рэшт хай будзе, што будзе, толькі да якой пары нам цацкацца з

нахабнымі капіталістамі, ударым па іх як след — і прыкончым раз і назаўсёды! Я стары, але гатовы хоць сёння апрануць шынель!..»

І далей рэмарка Р. Інанішвілі:

«У зале знаходзіліся двое маладых мужчын (адзін з рукой на перавязі), абодва ўсталі і дэманстратыўна пакінулі залу».

Такое адчуванне, нібы скрозь вайна... Стары Шклоўскі ледзьве ўжо не ў шынялі, малады мужчына з рукой на перавязі... А дзея адбываецца самым звычайным мірным летам у пісьменніцкім Доме творчасці ў Ялце!..

Нечага ў дзеі Віктара Барысавіча Рэваз Інанішвілі не зразумеў... Не заўважыў.

* * *

Кожная з лепшых кніг тым найлепшая, што ёсць у ёй з таго, чаго немагчыма прачытаць, што застанецца таямніцай.

* * *

Калі Лао-цзы кажа: «Найвялікшае мастацтва падобнае на няўменне», — гэта не азначае, што ён папярэднічае прымітывізму. Але ці азначае гэта, што найвялікшае мастацтва набліжанае да дао, са слоў ягоных таксама не зразумець.

* * *

Стары анекдот:

«Што ты можаш рабіць?» — пытаюцца ў мужыка, які прыйшоў наймацца на работу.

«Магу капаць».

«А яшчэ што?»

«Магу не капаць».

У кітайскім варыянце мужык гэты выглядаў бы зусім не такім дурным і лянотным.

Даос Цзы Ся (у кнізе Ян Чжу) распавядае вэйскаму цару пра свайго настаўніка:

«Нішто не можа спыніць яго. Ён здольны пранікаць скрозь жалеза і камень, ступаць па вадзе і полымі — бо ва ўсім падобны ўсім іншым рэчам».

«Чаму ж не робіць так настаўнік?» — спытаў цар.

«Ён здольны ўсё гэта зрабіць, — адказаў Цзы Ся, — але здольны і не рабіць гэтага».

Можна параўнаць з нашай прымаўкай: «Дай Божа ўсё ўмець, ды не ўсё рабіць».

Даос мае дзіўны статус «назіральніка за быццём і небыццём».

* * *

Займець жаданае (па дао) — гэта займець радасць, да якой няма чаго дадаць.

* * *

Прабыў тыдзень у Македоніі, на кангрэсе International PEN у Охрыдзе... Ці не кожны другі македонец казаў мне: «Нас з Расіяй дзвесце мільёнаў». Тое самае я чуў і ад сербаў, толькі тыя ўжо бралі круцей, налічвалі трыста мільёнаў... З гэтага можна было б зрабіць выснову пра ролю Расіі ў славянскім свеце, каб за год, пражыты ў Польшчы, я пачуў нешта такое хоць ад аднаго паляка.

* * *

Клерк з японскай амбасады раптам кажа мне, што ведае, як па-беларуску *thanks*. «Д-зя-куй», — кажа клерк.

Я згадваю беларуса, які на Далёкім Усходзе хадзіў каля Японіі капітанам сейнера. Было гэта ў канцы 80-х, калі пачынаўся крымінальны рыбны бізнес. Да сейнера савецкага швартаваўся ў моры-акіяне сейнер японскі — і рыба перавальвалася з борта на борт. Яно і зараз так робіцца, але ўжо за сапраўдныя грошы, а тады — абы за што: амаль задарма. «Ну, усё?..» — пытаўся чарговы японец, разлічыўшыся абы чым. «Не, не ўсё! — кожнага разу кожнаму японцу адказваў беларус. — Скажы яшчэ *дзякуй*».

— Вы рыбным промыслам ніколі не займаліся? — пытаюся я ў клерка з японскай амбасады. Той усміхаецца хітранька:

— Бацька займаўся.

Мусібыць, калі беларусаў карміць дармавой рыбай, дык і яны загавораць па-беларуску.

* * *

«Толькі ахвяруючы ўсім, можна заваяваць усё!» — прыдумалі футурысты, калі прыйшла рэвалюцыя.

* * *

Сербы мараць пра Вялікую Сербію, албанцы — пра Вялікую Албанію, македонцы — пра Вялікую Македонію: аж да Плоўдзіва. Балгарам, якія двойчы ў мінулым стагоддзі займалі Македонію як сваю этнічную тэрыторыю, гэта, канечне, прыемна.

* * *

П'ю каву з балгарынам Георгіем Канстанцінавым, падымаюся з-за стала, адразу падыходзіць македонскі паэт: «Як ты можаш з ім каву піць, калі балгары ў апошнюю вайну прыйшлі ў Македонію з фашыстамі!..»

А Георгій па бацьку — македонец.

* * *

Ужо іншы македонскі літаратар, празаік, даводзіць мне, што і Аляксандр Македонскі — іх нацыянальны ваяр, і Кірыл з Мефодзіем — македонцы, якія прыдумалі кірыліцу: македонскую азбуку.

Спажываем масціку, выпілі ўжо грам па дзвесце, таму адказваю, што яно не зусім так. Македонскага, кажу, можаце забіраць сабе, ён нам без патрэбы... А што да першай славянскай азбукі, дык створаная яна была Кірылам і Мефодзіем не ў Македоніі і нават не ў Балгарыі, а ў Канстанцінопалі па загадзе тамчаснага цара *дзеля аб'яднання дзікуной*. І называлася не кірыліцай, а глаголіцай, на якой ніводны сённяшні македонец ні бэ, ні мэ. А кірыліцу стварылі ўжо вучні Кірылы і Мефодзія, пяцёра з якіх купіў на рынку рабоў венецыянскі купец і, не ведаючы, што далей з імі, такімі разумнымі, рабіць — адпусціў на волю. Яны і рушылі на Балканы...

— Куды канкрэтна? — пытаецца захмялелы празаік, і я адказваю, што спачатку ў Балгарыю, да цара Барыса...

— Тады пі адзін! — падсумоўвае мой лікбез македонец і адсоўвае ад сябе кілішак.

* * *

На выхадзе з гэтэлю «Метраполь» размаўляю з рухавым хлопцам. Ён пра што

заўгодна — весела і бойка, а пра палітыку — мнецца, ніяк. Пытаюся: «Ты, можа, не македонец?» — і чую ў адказ:

— Я таксіст.

* * *

Энергія маладога нацыяналізму — вар, кіпень. Пена — цераз край, прагне ўсё заліць, але вады ў сагане столькі, колькі ў сагане вады.

* * *

«Любі Бога і рабі, што хочаш», — сказаў Святы Аўгустын.

«Хочаш — рабі проста вайну, а хочаш — сусветную. Адно не забывайся любіць Бога. А калі гэтая любоў аж прэ горлам, дык ты з воклічам “Алах акбар!” можаш нават скіраваць аэробусы з людзьмі ў хмарачосы Нью-Ёрка», — развівае гэтую тэзу Валянцін Акудовіч.

Во як можна зразумець святога.

* * *

Ты ўбачыў, што *нехта* ад цябе далёка, і вырашыў да яго наблізіцца. Але гэта магчыма толькі тады, у той момант, калі *нехта* таксама зажадаў набліжэння. Інакш, якімі б ні былі твае высілкі, адлегласць між вамі не зменшыцца: наколькі ты будзеш скарачаць яе — настолькі ж нехта будзе падаўжаць.

* * *

Вясной 1942 года крэўскі бацюшка і адначасна настаўнік беларускай мовы Міхась Леванчук падаўся ў Менск, каб выпрасіць у Генеральным Камісарыяце дазвол на адкрыццё ў Крэве беларускай школкі. Святара-настаўніка прыняў сам Генеральны Камісар Вільгельм Кубэ і школку адчыніць дазволіў.

Летам 1942 года ў газеце «Minsker Zeitung» быў надрукаваны верш «Weissruthenien» («Беларусі») з гэткай апошняй страфой:

Мы з Рэйху, звязаныя ніткай адной
З сівой даўнінай, што не стлела,
Саткаць дапаможам вам белы сувой,
Каб гэта краіна пад зоркай сваёй
І хлеб свой, і радасць займела.

Нехта мог падумаць, што гэта ўсяго толькі звершаваная прапаганда, а хтосьці мог сказаць, што і не...

Пад вершам стаяла імя нейкага Карла Курца, але ўсе здагадваліся, што напісаў яго Вільгельм Кубэ, які лічыў беларусаў арыйскім народам. Таму цікавіўся старажытнай беларускай культурай, нават п’есу стварыў пра гістарычныя дачыненні германцаў з беларусамі, спектакль па якой збіраліся паставіць да дня народзін Генеральнага Камісара, ды не паспелі: уноч на 22 верасня 1943 года Кубэ знішчылі. Зрабілі гэта савецкія спецслужбы (пры ўдзеле асавечаных тутэйшых) з дазволу, які выявіўся ў нясупрацьдзеянні, спецслужбаў нямецкіх. Пасля забойства і СС, і СД без асаблівага спрыту займаліся пераследам падазроных.

Уноч на 15 сакавіка 1944 года быў знішчаны крэўскі святар і настаўнік Міхась Леванчук. Зрабілі гэта жаўнеры Арміі Краёвай (пры ўдзеле апалячаных тутэйшых) з дазволу, які выявіўся ў несупрацьдзеянні, гарнізону літоўскай паліцыі. Гарнізон стаяў у Крэве для аховы *ордынгу* і здаўся краёўцам без бою.

Зусім розныя людзі: дзе той гаўляйтэр — і дзе той настаўнік... А лёс адзін.

Небяспечная рэч — схільнасць да беларускага.

*P.S.* Калі ў 1996 годзе хавалі Героя Савецкага Саюза А.Р. Мазанік, якая была

непасрэднай выканаўцай забойства гаўляйтэра, труна з яе целам стаяла ў Доме афіцэраў на тым самым месцы, на якім у 1943 годзе стаяла труна з целам Генеральнага Камісара Беларусі Вільгельма Кубэ.

* * *

Сцяпан Гаўрусёў, паэт, якога неяк несправядліва хутка забываюць, напісаў, што ён «вырас пад гарматнымі ствaламі». Гэтая, па-праўдзе сказаць, сярэдняй рукі метафара стала адной з адзнакаў «пакалення, апаленага вайной». Рэальнае ў дзіцячай памяці гэтага пакалення пераплялося з міфічным, знітавалася з савецкім, з ідэалогіяй савецкага, што й доўжыла ў вайне пасля вайны іх творчыя і чалавечыя біяграфіі.

Некаторыя з іх сядзелі ў сваёй вайне пасля вайны, як у акопе, дзе іх творчыя біяграфіі і абрываліся. І да іх чалавечых біяграфій не было ўжо нікому ніякай справы.

* * *

Пракоп Някляеў, мой бацька, які прайшоў вайну ад пачатку да канца, распавядаў пра яе рэдка. А калі распавядаў, дык даволі дзіўна.

Напрыклад, як яго паслалі ў тыл па снарады. Пагрузілі яны з сябруком тыя снарады ў палутарку, а сябрук кажа: «Я ведаю, дзе тут піва можна папіць. Заўтра наступленне, давай вып’ем перад смерцю».

На перадавой — смерць, а ў тыле, хоць і вайна, жыццё. Пры штабе — піўная. Зайшлі яны, а ў піўной налівае піва бацькаў зямляк. Бацька кажа: «Каму немцаў забіваць — каму піва наліваць». Зямляк у адказ: «А вы, хлопцы, прывядзіце мне сюды пару немцаў, я іх тут заб’ю». Бацька яму ў лоб куфлем, піва не дапіўшы, і сябрук бацькаў таксама не стрываў...

З тым паехалі. Назаўтра бой, сябрук бацькаў загінуў. А бацьку асабіст паклікаў. Буфетчык нажаліўся, а буфетчык — фігура. Асабліва для асабістаў, якія разам са штабнымі на вайне піва і пілі.

Асабіст кажа: «Я пакуль да цябе па-свойску. Твой зямляк умову паставіў: ты перад ім за сябе і за сябрука свайго прабачаешся — і ён не піша рапарт. Калі не прабачаешся, дык штрафрота. Ты даў у лоб старэйшаму па званні».

Бацька адказаў, што не ведае, ці згадзіўся б прасіць прабачэння ягоны загінулы сябрук. І пайшоў у штрафроту, дзе прабыў усяго тры дні: на чацвёрты яго паранілі.

Хтосьці сказаў бацьку, што закон: «У штрафроце (як і ў штрафбаце) не да смерці (як у немцаў), а да першай крыві ці ўзнагароды» — адстаяў перад генералісімусам Сталіным маршал Жукаў. І маршал стаў для бацькі кумірам. Мемуары Жукава ў апошнія гады жыцця былі настольнай бацькавай кнігай.

Гэтыя мемуары канчаюцца на сканчэнні вайны (штурм Берліна і Патсдамская канферэнцыя). У іх нічога пра тое, як потым амбітны Жукаў надумаў дзяліць са Сталіным перамогу — і што за гэта займеў.

22 сакавіка 1946 года Жукаў быў прызначаны намеснікам міністра абароны, а ўжо 1 чэрвеня таго ж года з гэтай пасады звольнены. У загадзе аб звальненні міністр абароны Сталін напісаў: «Маршал Жуков, утеряв всякую скромность, и будучи увлечен чувством личной амбиции, считал, что его заслуги недостаточно оценены, приписывая при этом себе, в разговорах с подчиненными, разработку и проведение всех основных операций Великой Отечественной войны, включая и те операции, к которым он не имел никакого отношения».

21 лютага 1947 года Жукаў быў выведзены са складу ЦК. 27 лютага ён напісаў ліст Сталіну:

«Товарищ Сталин, я еще раз со всей чистосердечностью докладываю Вам о своих ошибках.

1. Во-первых, моя вина прежде всего заключается в том, что я во время войны переоценивал свою роль в операциях и потерял чувство большевистской скромности. Во-вторых, моя вина заключается в том, что при докладах Вам и Ставке Верховного Главнокомандования своих соображений, я иногда проявлял нетактичность и в грубой форме отстаивал свое мнение.

В-третьих, я виноват в том, что в разговорах с Василевским, Новиковым и Вороновым делился с ними о том, какие мне делались замечания Вами по моим докладам Все эти разговоры никогда не носили характера обид, точно так же, как я высказывались Василевский, Новиков и Воронов. Я сейчас со всей ответственностью понял, что такая обывательская болтовня безусловно является грубой ошибкой и ее я больше не допущу.

В-четвертых, я виноват в том, что проявлял мягкотелость и докладывал Вам просьбы о командирах, которые несли заслуженное наказание. Я ошибочно считал, что во время войны для пользы дела лучше их быстрее простить и восстановить в прежних правах. Я сейчас осознал, что мое мнение было ошибочным.

2. Одновременно, товарищ Сталин, я чистосердечно заверяю Вас в том, что заявление Новикова о моем враждебном настроении к правительству является клеветой. Вы, товарищ Сталин, знаете, что я, не щадя своей жизни, без колебаний лез в самую опасную обстановку и всегда старался как можно лучше выполнить Ваше указание.

Товарищ Сталин, я также заверяю Вас в том, что я никогда не приписывал себе операцию в Крыму. Если где-либо и шла речь, то это относилось к операции под станицей Крымской, которую я проводил по Вашему поручению.

3. Все допущенные ошибки я глубоко осознал, товарищ Сталин, и даю Вам твердое слово большевика, что ошибки у меня больше не повторятся. На заседании Высшего военного совета я дал Вам слово в кратчайший срок устранить допущенные мною ошибки и я свое слово выполняю. Работаю в округе много и с большим желанием. Прошу Вас, товарищ Сталин, оказать мне полное доверие, я Ваше доверие оправдаю. Г. ЖУКОВ».

Добра, што пра сталінскую апалу, пад якую падпаў Жукаў, у кнізе ягоных мемуараў ні слова, і яфрэйтар Пракоп Някляеў, які паміж прыніжэннем і штрафротай выбраў штрафроту, гэты ліст любімага маршала не прачытаў.

* * *

Пра тое, што пры наступленні на Берлін гінулі пераважна маладыя салдацікі, узятыя ў войска ў 1944 і 1945 гадах, я ўпершыню пачуў ад Кіма Хадзеева — ці не адзінага беларускага дысідэнта.

З прыступкаў ганку Тэатра юнага гледача чыталіся ў гады так званай «хрушчоўскай адлігі» вершы — і выступіў сярод паэтаў Кім Хадзееў. Тое, што ён сказаў, я запомніў амаль даслоўна.

«Трыццаць тысяч салдацікаў паклаў маршал Жукаў па загадзе генералісімуса Сталіна толькі пры штурме Зеелаўскіх вышыняў пад Берлінам. Штурм нічога не вырашаў, вайна была ўжо выйграная. Дык дзеля чаго палегла трыццаць тысяч? Толькі дзеля таго, каб не амерыканскія, а савецкія войскі першымі ўвайшлі ў Берлін! Толькі дзеля задавальнення сталінскай фанабэрыі! А хто палёг на тых вышынях? Мінскія хлопчыкі, мабілізаваныя і кінутыя на фронт пад самы канец вайны!..»

Я напісаў тады верш, які сёння цалкам не помню.

«Як вам днём жывецца, маршал? Спіцца ўночы?
Вам не сняцца твары нашы? Нашы вочы?
Вам не мрояцца хімеры: нашы цені,
Што фанерай над Берлінам праляцелі?..»

На Чырвонай плошчы заклікі ды маршы,
І на маршальскай кабыле скача маршал!
Медзі музыка літая поўніць плошчу!..
«Маршал, — мама запытае, — дзе мой хлопчык?..»
«Слава паўшым!..» — стане плошча на калені.
І парадным строем пройдуць нашы цені.
Трыццаць тысячаў разоў, таварыш маршал,
Вы манілі зноў і зноў матулям нашым!..

Можна сказаць, гэта была мая першая спроба напісаць нешта на *грамадзянскую тэму*, праз якую пазней (стараннямі літаратурных крытыкаў) я стаў *грамадзянскі паэт*.

* * *

Грамадзяне і дзяржава...

Мінск, 1975 год. Па горадзе пайшлі маршрутныя таксоўкі, еду на Курасоўшчыну. Таксіст, з усіх сабраўшы грошы, квіткоў не дае нікому. Па дарозе спыняюць кантралёры, таксіст хапаецца за стужку з квіткамі, але адарваць не паспявае. Пасажыры (усе як адзін!) пачынаюць крычаць, што ён раздаваў квіткі... «Дык дзе вы іх падзелі?» — з'едліва пытаецца адзін з кантралёраў, і мужык побач са мной адказвае: «З'елі!..»

Мінск, 2005 год, еду ў маршрутнай таксоўцы ў Лошыцу, таксіст збірае грошы, не выдаючы квіткоў. Спыняюць кантралёры, пасажыры (усе як адзін!) пачынаюць крычаць, што ён раздаваў квіткі. Кантралёры з'едліва пытаюцца: «Дзе ж вы іх падзелі?» — і мужык побач са мной адказвае: «У сраку засунулі!..»

Праз трыццаць гадоў у таксоўцы ехалі зусім іншыя людзі па сталіцы зусім іншай дзяржавы, але толькі *знешне* іншыя людзі па сталіцы *знешне* іншай дзяржавы. Унутрана яны, якімі былі, такімі і засталіся. Прынамсі, такімі ж засталіся яны ў перакананні: «Мы разам з таксістам (няхай нават злодзеем) — гэта адно, сваё, а дзяржава (разам з яе кантралёрамі) — гэта іншае, чужое (калі не варожае)».

У 1975 годзе квіток каштаваў 15 капеек, у 2005 — 1300 рублёў. У 1975 годзе таксіст адрываў (павінен быў адрываць) квіткі ад стужкі, у 2005 — прабіваў (павінен быў прабіваць) праз касавы апарат. Больш аніякіх змен за 30 гадоў не адбылося. Ну, калі не зважаць на лексічныя...

* * *

Што там ні кажы пра чалавецтва, а ўсё ж у большасці людзей прамая кішка знаходзіцца ніжэй за галаву.

* * *

Жыццё ў разумных межах ён скончыў самазабойствам.

* * *

Яшчэ ў 1970-х напісалася:

І калі гром нябёсы скалане,
Глыбінь зямных адчую прыцяжэнне,
Не свечку вы пастаўце — келіх мне,
Каб мог падняць і ў цёмнай старане
Яго за вас: Таіса, Рая, Жэня...

Верш называўся «Паэтэсы». Таіса, Рая, Жэня — Таісія Бондар, Раіса Баравікова, Яўгенія Янішчыц... Дзве з іх прыцяжэнне зямных глыбінь адчулі раней за мяне.

Не ўгадаеш... Ні з келіхам, ні са свечкай...

З твару адной паэткі, разумеючы, што яна — адна з найлепшых, я, у апошні момант знайшоўшы вакара, здымаў пасмяротную маску і каменна плакаў на яе пахаванні. З другой паэткай, таксама разумеючы, што яна — адна з найлепшых, я не размаўляў амаль *дзесяцігоддзе жыцця* і нават не пайшоў у шпіталь, каб развітацца з ёй. А яна, як і Еўдакія Лось, згаданая ў тым жа вершы, захварэла на тую ж хваробу...

«Дай божа мужна жыць, памерці так, як мужна памірала Еўдакія». Нібыта наклікаў... Праз столькі гадоў...

З год таму мяне ўсур'ёз дапытвалі, ці не адмоўлюся ад вершу «Паэтэсы»? Хтосьці там адмовіўся ад падараваных Таісай кніг, нехта — ад прысвечаных ёй карцін...

Што ж нас гэтак развяло, раз'яднала?.. Дальбог, немаведама што. І, можа, найстрашнейшае тое, што з гэтым немаведама чым мы ўжо будзённа звыкліся. Усё нармалёва, як кажа Раіса Баравікова, якая, дзякуй Богу, жывая.

«Жывы схіляешся і, як сябе, шкадуеш...» — яно так паміж быццём і нябытам. Тым не менш, і пасля таго, як сыдзеш у нябыт, з табой нічога не сыходзіць. Доўжыцца, але што і дзеля чаго?..

Увечары таго дня, калі не стала Таісіі Бондар, па беларускім нацыянальным тэлебачанні адзін за адным паказваліся два фільмы. Няма патрэбы казаць, што паказваліся без аніводнага беларускага слова, за якое стаім мы нібыта ўсе разам — хоць у «Літаратуры і мастацтве» ці «Маладосці», хоць у «Нашай ніве» ці «Дзеяслове». Адзін фільм — пра рай на зямлі пры Сталіне, другі — пра рай на зямлі пры Лукашэнку.

Не ўсё нармалёва, Рая...

* * *

Невялічкае апавяданне пра сустрэчу двух даўніх знаёмых, якія даўно не бачыліся. «Як моцна мы ва ўсім змяніліся!» — абдымаюцца і шумна здзіўляюцца яны адзін з аднаго, а кожны думае: «Ды ні ў чым ты не змяніўся, якім мярзотнікам быў, такім і застаўся».

* * *

Беларускія Канары —
Нары, нары, нары, нары...

* * *

Сярод усіх святочных не хапае мне Дня Ціхага акіяну.

* * *

Тэлефануе журналістка з «Камсамолкі»:

— Вы ж насілі некалі школьную форму, якую зноў збіраюцца ўводзіць, дык што вы можаце пра яе сказаць?

Адказваю, што школьную форму ніколі не насіў.

— Тады выбачайце, — кладзе журналістка трубку.

Правільна. Калі ты не насіў школьную форму, дык што ты можаш пра яе сказаць?

* * *

Усё было б інакш, калі б чалавек не прыдумаў, што паселены ён на зямлі ў ролі прадстаўніка неба.

* * *

Некалі песня савецкая была — мажорная, рамантычная, з прыпевам: «А нам не страшны ні вал дзявяты, ні холад вечнай мерзлаты! А мы рабяты, а мы рабяты шасцідзесятай шыраты!..» Не абы-якія, значыць, рабяты, калі аказаліся на 60-й шыраце.

60-я паўночная шырата — гэта ўжо не поўнач як умоўны накірунак свету, а Поўнач як тэрыторыя, кавалак зямлі. Сапраўдная Поўнач.

Але не для ўсіх. Для фінаў — гэта самы-самы поўдзень. Такія вось, гэтыя фіны, рабяты. Светлавалосыя людзі Поўначы.

Як яны аказаліся за 60-й шыратой?..

Пасля падзення ў 1552 годзе Казані экспансія Маскоўскай Русі скіравалася спачатку на ўсходніх угра-фінаў (мардву, марыйцаў, удмуртаў), а пасля і на паўночных... Потым была экспансія Расійскай імперыі, потым экспансія Савецкага Саюза — так фіны і аказаліся там, дзе ёсць.

Хоць былі не там. Жылі, напрыклад, на месцы, якое Пётр I абвясціў пустым і загадаў збудаваць на ім Санкт-Пецярбург. Рака, на берагах якой Санкт-Пецербург збудаваны, называецца фінскім словам нева, што значыць балота.

Фіны — паўночныя людзі нават для эстонцаў, хоць Талін можна разгледзець пры добрым надвор'і са скалістых пагоркаў Хельсінкі.

У эстонскіх паданнях Фінляндыя называецца Паўночналандыяй. Па адным з паданняў з гэтай самай Паўночналандыі прыплыў аднойчы калдун Туслар, каб выкрасці Лінду, маці Калевіпоэга (герой эстонскай міфалогіі, аналаг Кулерва, героя фінскага эпаса «Калевала»). Бог Уку пашкадаваў бедную Лінду і вырваў яе з рук страшнага калдуна, але дзіўным спосабам: ператварыў яе ў валун. Больш лагічна было б ператварыць у валун Туслара, толькі сюжэт тады развіваўся б інакш... Герой Калевіпоэг, шукаючы маці, не падаўся б услед за Тусларам у Паўночналандыю, не сустрэў бы там на пустэльным востраве адзінокую прыгажуню, з чаго, як можна меркаваць, і пачалося, а дакладней, размножылася ў Паўночналандыі жыццё. Хоць зноў жа цяжка зразумець, як, бо фінская прыгажуня з радасці ад такой блізкай сустрэчы з эстонскім героем раптам кінулася ў мора са скалы. Але, што было, тое было...

Цяпер чытаем не старажытны эпас, а тэкст сучаснага эстонскага аўтара. Даволі вядомага, дарэчы:

«Па дадзеных статыстычнага цэнтра Фінляндыі, у 1991-1996 гадах заключалася, у сярэднім, па 158 шлюбаў у год паміж эстонцамі і фінамі, дзе жаніх быў фінам, і толькі 13 шлюбаў, дзе жаніх быў эстонцам... Калі фіны замацуюцца ў Эстоніі, а яны сюды ўжо ідуць, дык яны тут знойдуць сабе і жаніхоў, і нявест. Сперма фінаў, дзякуючы стэрыльнай чысціні, з'яўляецца ў свеце высокакаштоўным таварам. І калі аппладніць ёю лона эстонцаў, дык можна будзе разлічваць на жыццездольных нашчадкаў, у якіх з'ядноюцца sin-nikkyys (гонар) фінаў і хуткі розум эстонцаў».

Гэта без аніякага гумару — бачыце, як усё перакруцілася?.. У старажытнасці нібыта эстонцы размнажалі фінаў, а цяпер эстонцы самі хочуць, каб фіны размнажалі іх...

З чаго раптам?.. З-за стэрыльна чыстай фінскай спермы?.. І чаму я наогул пра Эстонію?..

А таму я пра Эстонію, што, па-першае, люблю яе і не забываю. І таму, па-другое, што была для нас яна ў савецкія часы захадам. Ну, амаль што захадам. Ва ўсякім разе болей захадам, чым, скажам, Польшча. Але вось у чым прызнаюцца самі эстонцы.

«Фінляндыя, што ні кажы, з'яўляецца для Эстоніі гістарычнай кропкай адліку і параўнанняў...»

«Доўгія гады Фінляндыя была для Эстоніі той самай замочнай шчылінай, праз якую эстонцы, затаіўшы дыханне, падглядвалі за Еўропай...»

«Калі ў 1980-х гадах Фінляндыя разбагацела і магла дазволіць сабе больш незалежныя паводзіны ў адносінах да свайго пільнага вартавога — Савецкага Саюза, Эстонія пачала адрымліваць ад Фінляндыі дагэтуль небывалую дапамогу. Фіны дзяліліся з эстонцамі грашыма, адзежай, ежай, бытавой тэхнікай... Эстонцы маглі за ўсё гэта толькі бясконца дзякаваць і расказваць пра свой цяжкі лёс...»

І гэтак далей... Мяркую, трохі ведаючы, што такое Эстонія, нам цяпер лягчэй уявіць, што такое Фінляндыя. І наўрад ці яна стала такой выключна з-за стэрыльна чыстай фінскай спермы.

* * *

У 1721 годзе ў горадзе Уусікаупункі (гэта зусім не так цяжка вымавіць, як здаецца) быў падпісаны мір паміж Расіяй і Швецыяй. Фінляндыя ў тым падпісанні ніякім бокам не ўдзельнічала, яе без яе дзялілі, і яна амаль цалкам засталася ва ўладаннях Швецыі. Расіі дастаўся заснаваны шведамі Выбарг і частка Карэліі.

У 1809 годзе Расія забрала усю Фінляндыю сабе. Да 1917 года Фінляндыя была часткай Расіі на правах Вялікага княства, у якім упраўлялі расійскія генерал-губернатары. І ў адносінах да шведаў, і ў адносінах да рускіх фіны былі на дзіва лаяльнымі, нават стараннымі падданымі.

У пасляваенные гады ўзнік міжнародны тэрмін *фінляндызацыя* — трохі іранічны, але фіны мала зважаюць на іронію ў адносінах да іх. Фінляндызавацца — гэта значыць жыць па суседству з вялікай дзяржавай і не падпарадкавацца ёй, але падтрымліваць самыя цесныя эканамічныя і палітычныя сувязі. Гэта талент, які рацыянальныя фіны выяўлялі бліскуча.

У адрозненне ад нас.

* * *

Восень 2004 году... Пад канец фінскага жыцця праехаў на пачатку верасня ўсю Фінляндыю з поўдня на поўнач — праз Тампэрэ, Ювэскюль, Оўлу, Раваніемі, Муонія, Кілпісьярві — да Тромсё ў Нарвегіі. Самае нечаканае ў дарозе — зялёная даліна ў гарах уздоўж нарвежскіх фіёрдаў Ледавітага акіяну. Пасля пустой тундры Лапландыі перакочваеш за Кілпісьярві перавал — і раптам такое... Палі, гароды, выганы — толькі што вінаград не расце. Вось табе і поўнач... Хоць і павявае ўжо сіберам — і паўночная ноч на падыходзе.

Нарвегія — адзіная краіна ў сённяшнім свеце, якая не мае замежнага доўгу. Калі б толькі наяўныя грошы, якія там ёсць, падзяліць на ўсіх нарвежцаў з дзецьмі ўключна, дык на кожнага б выйшла па сем мільёнаў еўра.

Краіна не проста выглядае багата — яна багата жыве. Куфаль піва ў Тромсё каштуе амаль столькі ж, колькі ў Хельсінкі паўлітэрак гарэлкі. У барах не надта пасядзіш... Таму сеў я на беразе Ледавітага акіяну і — ад няма чаго выпіць — стаў капаць на берагавой лініі ямку. Далані на тры ў шырыню і даўжыню. Выкапаў і пайшоў, а ямку заліла вада.

Нібыта нічога не сталася... Калі не лічыць таго, што павялічыў я паверхню Паўночнага Ледавітага акіяну. Далані на тры ў даўжыню і ў шырыню...

* * *

ЖЫЦЦЁ

*Раман у 2-х частках*

Толькі ўстаў, а дзень пад вечар.

*(Канец першай і другой часткі).*

* * *

Канфуцыя спыталі:

— Ці можна дазнацца, што было раней за неба і зямлю?

— Можна, — адказаў Канфуцый. — Раней было тое ж, што і цяпер.

* * *

«Свет ёсць тое, што адбываецца, — сцвярджае Людзвіг Вітгенштэйн. — Нешта можа адбывацца альбо не адбывацца, а ўсе астатняе станецца тым жа самым».

* * *

Я не думаю пра вечнасць, яна сама падумае пра мяне.

* * *

Калі ніхто не ведае, якая розніца паміж струннай групай і вівісекцыяй, дык струнная група пра гэта таксама не ведае.

* * *

Інтэлект у чалавеку для чаго заўгодна, толькі не для разумення мастацтва. Мастацтва ўвогуле не трэба разумець. Яно не для таго.

* * *

Нічога не сказаўшы, даў зразумець.

* * *

Юрый Кузняцоў прыехаў у Мінск, каб спаткацца з Г. Б. Пры сустрэчы я спытаў: «Ты праўда толькі дзеля гэтага?..» Ён адказаў: «Нават мімалётная закаханасць закідвала мяне на Сахалін».

Ну, можа быць. Хоць што да мяне, дык як толькі адкрывалася, што тая, якая мне глянулася, штосьці там рыфмуе ці спрабуе рыфмаваць, я мімалётна знікаў.

Праз дзень ці два сядзім у бары гатэлю «Юбілейны». Кузняцоў ужо не ў тым настроі, каб «закідвацца на Сахалін», гаворым пра адцягненае. Да нас — яўна з намерам, каб я пазнаёміў яго з Кузняцовым — падыходзіць А.А., якога ведаў я з часоў літаб'яднання пры газеце «Знамя юности». Вітаецца і гэтак па-свойску, паблажліва пытаецца ў мяне: «Ну как поживает матчына мова?» — на што Юрый Палікарпавіч касмічна-запаволена, як толькі ён гэта ўмеў рабіць, уздымае вочы, глядзіць і пракідвае: «Пайшоў на ...!»

Калі рускамоўна-мінскі паэт А.А., для якога рускі паэт Юрый Кузняцоў як быў, так і застаўся недасяжнай зоркай, пайшоў туды, куды яго паслалі, я спытаў Кузняцова, скуль ён яго ведае? Аказалася, ні скуль. Першы раз бачыць. «Але ў профіль, — кажа, — відаць, што мудак і графаман».

У геніяльных паэтаў геніяльная інтуіцыя.

«Гэта глыбінна і прынцыпова важна, што ў беларусаў язык ёсць язык, а мова ёсць мова, не змешана зямное і боскае», — сказаў мне аднойчы імперскі рускі паэт Юрый Палікарпавіч Кузняцоў.

* * *

Нацыянальнае пачуццё хіба лепшае ад іншых? Каханне, сяброўства, бацькоўскіх пачуццяў?.. Канечне ж, не — і ў нармальным грамадстве яго нібыта не існуе. Але гэтак жа нібыта не існуе паветра.

*(Працяг будзе)*



Сяргей Астравец



...харвацка-чарнагорская
мяжа не мае смаку,
толькі прысмак...

# Вайна ў Дуброўніку

## *З чарнагорскага дзённіка*

***Я й сам не чакаў, што ўражанні ад апошняй паездкі на Адрыятыку пачнуць афармляцца ў сціслыя радкі, калі трапіў у Чарнагорыю зноў толькі праз пяць гадоў. Чарнагорыя заставалася ў душы, шырэй — краіны былой Югаславіі. Дома ў Гродне глядзеў тэлебачанне: Падгорыца, Заграб, Сараева, Бялград, слухаў балканскую музыку. Напісаў некалькі эсэ ў сваім блогу "Праз гарадзенскія акуляры", пачаў празаічны тэкст.***

***У "Чарнагорскім дзённіку" больш за тры з паловай тысячы радкоў. Гэта ўражанні празаіка вершаваным радком. У дзённіку мова пра характар чарнагорцаў, пра паэтаў і пісьменнікаў, пра тое, "як не стала Югаславіі". Чытачам "Дзеяслова" прапануецца частка, якая датычыць харвацкага горада Дуброўнік, які спрабавала адваяваць для Чарнагоры югаслаўская армія.***

## Горад-цвержа

Дуброўнік — з тых дакладна
гарадоў, аб якіх я марыў.
Аўтобус ехаў хутка
па вобаду гары, дзесь у доле
на беразе марскім
згарнуўся слімаком
гіганцкім каменны
горад-цвержа.

Вам абвяшчаюць:
у каталіцкім горадзе
сягоння вельмі свята
значнае — узыходжання
у неба Багародзіцы
Дзевы Марыі.
На невялікай плошчы –
стары горад цесны, –
перад катэдрай гаворыць
з моўніцы мясцовы
біскуп. Духавенства
побач. А справа ад дзвярэй
сядзяць паважна
дуброўніцкія капітаны:
шаўроны, пазументы,
кукарды-крабы,
мноства якараў,
усё ў пазалачоным
выглядзе —
заўжды марскою
цвержай горад быў.

Гучыць на плошчы
каталіцкі голас
па-славянску, ды
нечакана не па-польску,
да чаго прывык.
Гучанне мае прысмак,
які акрэсліць цяжка.
А сутнасць яго ў тым,
што тут касцёл
славян паўднёвых,
насупраць цераз
мора, нязначнае
па шырыні, Італія,
Венецыя, рукой
падаць — і Ватыкан.

На плошчы гараджане
удзельнічаюць у святочным
набажэнстве, турысты
з рук не выпускаюць
фотаапаратаў, а іншыя
цікаўна назіраюць, седзячы
за столікам кавярні.

Дуброўнік: барабанны бой
чуцён здалёк у каменным
лабірынце вуліц, здымай
хутчэй! То варта крочыць
з алебардамі ў руках!

Дуброўнік: спыніліся
на пляцы-рынку
вандроўныя музыкі,
якія абуджаюць
у вушах забытую
мелодыю Сярэднявечча,
Дуброўніцкай
рэспублікі свабоднай,
якой штандар
у чыстым белым колеры
чатырыста гадоў
лунаў тут на калоне,
якую аздабляе ў нішы
ў руцэ з мячом герой
змагання з сарацынамі
Раланд, вядомы слаўны
рыцар, уласна персанаж
літаратуры. Хаця
гавораць пад сакрэтам
часам гараджане: ніякі
не Раланд ён, а проста —
невядомы  рыцар.

Нягледзячы на ўсё,
Дуброўнік у Еўропе
яшчэ не канчаткова,
хаця імкнецца вельмі:
мясцовая валюта — куны –
абавязковая для плацяжу.
Але калі няма, плаціце
смела еўра, вам пералічаць
кошт з дакладнасцю
да цэнта.

## Антэ Гатавіна, генерал

1.
Не даязджаючы
Дуброўніка, ты бачыш
пры дарозе постэры —

у форме, пры ўсіх рэгаліях,
у фуражцы генеральскай
Антэ Гатавіна. І крыж
каменны. Але ж, здаецца,
генерал засуджаны
ў Гаазе, рэагуеш
на ўбачанае
са здзіўленнем.
Сядзіць у турме,
а тут герой героем...
Асуджаны амаль
на чвэрць стагоддзя
за генацыд, за ўчыненыя
супраць чалавечнасці
“этнічныя зачысткі”.
Пяць мільёнаў
за яго арышт
абяцалі ЗША.
Затрыманы ён
на Канарскіх выспах
быў паліцыяй Гішпаніі:
два пашпарты-падробкі
у кішэні.

Для большасці харватаў
ён па-ранейшаму герой,
якому дзякуюць
за незалежнасць,
але якога ненавідзяць
сербы за жорсткасць
супраць іх
у абвешчанай
у Харватыі калісьці
незалежнай
Сербскай Краіне.

Імя і прозвішча
гучаць нязвыкла
досыць: вядома —
Антэ звалі ўсташа
галоўнага Павеліча,
які ў вайну фактычна
кіраваў пад немцамі
Харватыяй. А “гатавіна” —
значыцца “гатоўка”,
грошы, якія можна
ў рукі ўзяць, наяўныя.

Такое маці імя
дала сыну, народжанаму
праз дзесяць год
пасля вайны, каб
потым уратаваць
яму жыццё, закрыўшы
целам ад ваеннай міны.
Сама загінула.

2.
У шаснаццаць год
уцёк з краіны.
Французскі легіён,
удзел у збройных
дзеях. У адстаўку
выйшаў, маючы
нашыўкі старшага
капрала.
Але калі паклікала
радзіма пад свае
штандары, Антэ
Гатавіна зноў
у вайсковай форме,
палкоўнік неўзабаве.

3.
Калі харвацкі генерал
адбудзе цэлы тэрмін
і дажыве, то восемдзесят
год будзе ён мець.
Напэўна, быць Харватыі
наканавана чарговай
зоркай на штандары
Еўразвяза раней,
чым Гатавіна
скончыць тэрмін.
Але запомніць ён
на ўсё жыццё, што
дзевяць з дзесяці
харватаў аднойчы
абвясцілі, што
ім важней, каб
ён на волі быў,
чым для Харватыі
магчымасць
у Еўразвяз увайсці.

## Вайна ў Дуброўніку

Расстрэльваць помнікі
архітэктуры — якая асалода!
Ці я ўтрырую, сябры?
А як назваць, што месяцамі
“народныя армейцы”
Югаславіі, што памірала,

у прыцэлах карабельных
і сухапутнай артылерыі
вышуквалі, намацвалі
вачыма муры сусветнай
спадчыны ЮНЭСКА,
каб у жэрала гарматы
заладаваць снарад,
замок зачынены
націснуць! Стрэл,
траекторыя палёту,
выбух! Гармату
вызваляюць ад гарачай
дымкай “шклянкі”-гільзы,
давай снарад чарговы,
мой другар, пакажам
незалежнасць ім,
харватам!

Па вуліцы ступаю
асцярожна галоўнай
у старым Дуброўніку,
Страдун яна завецца:
выслізганы брук
каменны, натоўпы
турыстычныя і бляск
вітрынаў. “Вайна
ў Дуброўніку”, трапляеш
на яе на кожным кроку,
апавядае кніга пра
аблогу югаслаўскай
арміяй, што здарылася
ў 91-м годзе.
На вуліцы Страдун
паўсюдна друз,
абстрэл закончаны.

Ах, тыя журналісты!
Чытаем мы цяпер:
завысілі пашкоджаных
будынкаў лічбу! А
пацярпела нейкіх
пяцьдзясят і шэсць
працэнтаў! — якія
журналісты несумленныя!
У горадзе сярэднявечным
пабудоў каменных
агулам восем соцень
плюс дваццаць чатыры,
пашкоджана з іх ліку
пяцьсот шэсцьдзесят тры,
прызнана афіцыйна.
Прычым тут журналісты?

Але ж яны заўсёды
вінаваты! Азмрочыць
радасць югаслаўскіх
кананіраў пісакам тым
хацелася, і асабліва
фотарэпарцёрам!
Падлічаныя страты
ў Дуброўніку заважылі
амаль на дзесяць
мільярдаў, канечне,
не дынараў, а долараў
амерыканскіх.

Ды гэта — камяні.
Гарматамі забіта
ў горадзе старым
звычайных жыхароў,
падлічана дакладна, —
дзевяноста два.
Сярод забітых
быў адзін паэт,
вядомы на той час
у Югаславіі,
Мілішыч Мілан
яго звалі. Ахвярай
першай стаў
сярод насельніцтва
цывільнага.

Але Дубраўка
з турбюро, якая
гаварыла пра нелюбоў
харватаў да суседзяў
чарнагорцаў, толькі
адзін нам паказала
бок медаля, народны.
Другі бок — афіцыйны,
пратакольны. Прызнана
міжнародным трыбуналам,
што месца мела
“спроба сербскіх сілаў
адцяць Дуброўнік
ад Харватыі і далучыць
яго да Чарнагорыі”.
Ні больш, ні менш.

Падліў у агонь алею
ў дзевяноста першым
чарнагорскі кіраўнік:
што час настаў
з мяжою канчаткова
разабрацца, што

дзеліць іх з харватамі,
“памылкі справіць”,
дапушчаныя некалі
“картографамі” Ціта.

Напэўна, чарнагорскіх
“ястрабаў” натхняла
тое, што ў міжваенны
час Дуброўнік быў
далучаны да вобласці,
якой складалі большасць
чарнагорцаў землі.

Мне нагадала гэта вельмі
колішні вяж у Вільню
Дзямянцея. Ці памятаеце?
Калі Літва рашуча
разрэжа пупавіну,
адмовіцца няўдзячна
ад абдымкаў агульнае
радзімы, нашай маці,
БССР запатрабуе
горад Вільнюс
вярнуць законнаму
гаспадару, як вядома, —
беларусу-мужыку.

Харватам не забыць,
што югаслаўскі флот
і армія Дуброўнік
ваявалі з чарнагорскіх
базаў, у іх шэрагах
былі і чарнагорцы-
рэзервісты з абароны
тэрытарыяльнай,
па сутнасці ўласных
збройных сілаў
рэспублікі. Напэўна ж
нездарма, калі было
абвешчана аб незалежнай
Чарнагорыі, яна
згадзілася на кампенсацыю
харватам. Заўважу: праз
пятнаццаць год,
калі дакладным быць.

Магчыма, рэзервісты
не хацелі ваяваць, але,
маўляў, куды падзецца
ім было?
Дапусцім, так,
аднак абвергнуць
немагчыма: стаялі
пад ружжом,
удзельнічалі.

Чаму так здарылася
ў дзевяноста першым?
Чаму жадалі суверэнітэту
ўсе, апроч Бялграда
і Падгорыцы? Ці не
таму, што на апошніх
выбарах выключна там
перамаглі посткамуністы?

Чаму аддадзены загад
быў югаслаўскай арміі
“цягліцы” выкарыстаць,
калі харваты – Месіч
і Марковіч – кіравалі
Югаславіяй у той час
і арміі такіх загадаў
не давалі?

Харвацка-чарнагорская
мяжа не мае смаку,
толькі прысмак. Паміж
кантрольна-прапускнымі
пунктамі ніякага
кантакту візуальнага.
Вы едзеце прыблізна
пару кіламетраў
уздоўж гары па
вузенькай дарозе. Яна
бязлюдна, на шляху
так званых пяць
“фры-шопаў”
у занядбаным стане:
ні бутэлек, ні людзей,
ніякага жыцця.
І як тут выпіць
за славянскае
братэрства?

## Забіла Югаславія паэта

На кухню ён зайшоў
запарыць кавы.
Узрываецца снарад!
Смерць напаткала
з туркаю ў руках.
Было жыццё. Няма.
Быў голас, і няма,

няма паэта Мілана
Мілішыча, які пісаў
адзінаю серба-харвацкай
мовай, якой хацелі
два асноўныя народы
аб'яднаць, каб
мацавалі назву
Югаславія. Няма
такой больш мовы,
а ёсць асобныя —
харвацкая і сербская.
Развод відочна
непазбежны быў,
але вайна крывёй
яго запэцкала.

У Дуброўніку на бруку
вулічны тэатр
пад небам Адрыятыкі
чарнільным.
І пляц нагадвае
рысамі сваімі
святога Марка плошчу
ў Венецыі цудоўнай:
з плоймай галубоў
звычайна і столікамі
вулічных кавярняў.

Гараць паходні,
сціжма гледачоў:
вочы, бровы, вушы,
ператварылася ўся,
як кажуць, ва ўвагу,
спектакль: “Для лэдзі
Макбет Месяца святло”
пяра Мілішыча.
Адметнасць
у тым, што аўтар
некалі жыццё аддаў
за родны горад,
за Дуброўнік,
за яго свабоду.
Калі на рэйдзе
караблі СФРЮ
беспакарана
пачалі цаляць
у старых муроў
мішэні.

Не прадчуваў
благіх навін паэт,
пяро якога карыстала
з чарніліцы
дуброўніцкіх вякоў.
Адклаў асадку ўбок
і выйшаў, скончылася
кава — таксама як
у беларусаў, называецца
яна дакладна у харватаў.
Не меў ён зброі,
не ўзіраўся ў гарматы
караблёў на моры,
сціскаючы ў далонях
стрэльбу, не меў
пра порах думак.
Загінуў ён таму,
што меў Дуброўнік
быць свабодным,
а ён, Мілішыч,
быў песняром яго.

Што адчуваў, што
мог перажываць паэт,
калі ў надзейнай
цытадэлі, якою быў
Дуброўнік, паветра
разарвалі выбухі?
Па вас страляюць,
што адчуваеце вы?
Калі спускаецеся
пасядзець за столікам
кавярні, купіць газету,
у кнігарню зазірнуць
і не забыцца аб
гарачых круасанах?
Але карціна перакрэслена:
страляюць, выбухі,
вайна! Дуброўнік у цісках
аблогі, а жыхары —
закладнікі, як у турэцкія
часы ліхія.
На вуліцу выходзіць
небяспечна, лепей
устрымацца.

Вядома:
нават стрэлы
выпадковыя часцей
трапляюць у званіцы,
вежы і людзей, што
вылучаюцца з натоўпу,
хто вышэй на галаву
за іншых, навакольных.

Любіў ён мора,
яго дары, любіў віно
і ветразі марскія,
у абсерваторыі
любіў глядзець
на зоркі. Паэт
душой і целам.
Такіх улада не любіла.
Адмовіўся служыць
у югаслаўскай арміі,
хаця заўсёды
югаславам называў
сябе сапраўдным.
Надрукаваў апавяданне
пра вызваленне
горада Дуброўніка
ад немцаў, пра жорсткасць,
пра расстрэлы.
За што прыцягнуты
быў да суду:
ён распаўсюджвае
пра народную ўладу
паклёпніцкія звесткі!
Што гэта твор
літаратуры — пад увагу
ўзята не было.
Быў пакараны
тэрмінам турмы
з адкладам выканання,
пазбыўся пашпарта
і працы.

Паэт, уласна,
гэта думкі нерв,
напружаная
праца сіта галавы,
радок ашчадны,
перарывісты,
але мэтаімкнёны.

Успышка, выбух!
Пагасла думка,
раскіданыя літары
апошняга радка,
які ніколі не ўдасца
працягнуць.
Паэта больш няма,
а вершы засталіся
на паперы жыць,
хоць новых больш
не будзе.

У кожнага паэта
свой адмежак
у часе жыць,
як усе астатнія,
ды існаваць
у вершах — потым.
Не толькі здымкамі
пад вокладкай
сямейнага альбома.

Ды што такое вершы?
Шыфроўкі часам,
даступныя нямногім,
бязадрасныя тэлеграмы
іншым разам,
здараецца — маланкі,
кінутыя ў масы,
яскравыя для ўсіх.
Але нядоўгія,
як зрэзаныя кветкі.

Чаму забіла ты
свайго паэта,
Югаславія?
Чаму яго так
моцна не любіла?
За тое, што паэт?

Няма адказу,
Югаславіі няма.
Няма з каго
спытаць.

*2012*

Эмануіл Іофе



…“Таварышы, даруйце, калі чым вінаваты перад вамі. Гісторыя скажа праўду. Платон”…

# Двайная трагедыя Платона Галавача

## *Да 110-годдзя з дня нараджэння пісьменніка*

Калі я спытаўся ў студэнтаў чацвёртага курса беларускага аддзялення факультэта беларускай і рускай філалогіі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М. Танка “Хто такі Платон Галавач?”, то пачуў у адказ: “Таленавіты беларускі пісьменнік”; “Цікавы беларускі празаік”; “Арыгінальны беларускі навеліст”; “Вядомы беларускі публіцыст і журналіст”; “Рэдактар беларускіх выданняў 20-30-х гадоў ХХ стагоддзя”; “Беларускі крытык і літаратуразнаўца”; “Кіраўнік камсамола Савецкай Беларусі”; “Грамадскі дзеяч БССР”; “Беларускі пісьменнік, які доўгі час выкрываў “ворагаў народа”, а потым сам стаў “ворагам народа”...

Я не чакаў, што студэнты так добра знаёмыя з біяграфіяй гэтага чалавека. Зразумела, што для мяне гэта было трохі дзіўна, але, шчыра кажучы, усе адказы студэнтаў хоць і былі аднабаковымі, але па сутнасці правільнымі.

Без усялякага перабольшання, Платон Галавач – гэта своеасаблівая з’ява не толькі ў галіне беларускай літаратуры, а наогул у беларускай культуры. За сваё кароткае жыццё, якое

працягвалася ўсяго 34 гады, ён паспеў шмат, вельмі шмат. Мала хто з беларускіх пісьменнікаў таго часу, акрамя напісання арыгінальных твораў, паспеў пабыць галоўным рэдактарам цэнтральнай маладзёжнай газеты БССР "Чырвоная змена", такіх прэстыжных часопісаў, як "Маладняк" і "Полымя рэвалюцыі", кіраўніком пісьменніцкай арганізацыі Беларусі, не гаворачы ўжо аб пасадзе першага сакратара ЦК ЛКСМБ.

На час арышту Платона Галавача засталіся незакончанымі і да сённяшняга дня – праз больш чым тры чвэрці стагоддзя пасля смерці пісьменніка – не апублікаванымі шэраг яго змястоўных, цікавых твораў.

Аб жыцці і дзейнасці Платона Галавача напісаны артыкулы ў газетах і часопісах. Другі том "Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя" (Мінск, 1999) прысвяціў Платону Галавачу асобны нарыс, а Р.В. Булацкі і Э.А. Карніловіч – асобную кнігу "Платон Галавач – публіцыст" (Мінск, 1973). Мала таго – часопіс "Полымя" роўна 50 год назад – у красавіку 1963 года – апублікаваў яго лісты.

Але яшчэ і сёння ў яго біяграфіі нямала "белых плямаў", не гаворачы ўжо аб шматлікіх памылках і недакладнасцях у энцыклапедыях і розных даведніках, газетных і часопісных артыкулах. Аўтар гэтых радкоў сканцэнтраваў сваю ўвагу на некаторых невядомых старонках жыцця і дзейнасці Платона Раманавіча Галавача. У гэтым дапамаглі фонды архіваў і музеяў Рэспублікі Беларусь, у першую чаргу – фонды Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, сустрэчы з паплечнікамі пісьменніка, аналіз перыядычнага друку нашай рэспублікі 1920-1930-х гадоў.

На жаль, ні адзін літаратуразнаўца Беларусі не адзначыў, што моцнае ўздзеянне на фарміраванне рэвалюцыйнага светапогляду Платона Галавача аказаў камуніст-падпольшчык, старэйшы брат Андрэй Раманавіч Галавач, які быў для яго ўзорам мужнасці і несумненным аўтарытэтам.

Газета "Чырвоная змена" выходзіла за подпісам Платона Галавача з № 52 (11 мая 1928 года) па № 266(23 лістапада 1929 года). Будучы рэдактарам, П. Галавач клапаціўся, каб "Чырвоная змена" была баявой, высокаідэйнай, масавай газетай. Асабліва значную ролю адыграла гэтая газета па збіранні маладых літаратурных талентаў. Вакол яе групаваліся пачынаючыя паэты і пісьменнікі: Пятрусь Броўка, Аркадзь Куляшоў, Міхась Чарот, Мікола Хведаровіч, Янка Скрыган, Алесь Звонак, Юлій Таўбін, Валерый Маракоў, Васіль Каваль. Іх творы часта друкаваліся на літаратурных старонках, якія выходзілі амаль кожны тыдзень.

Мікола Хведаровіч у часе гутаркі з аўтарам гэтых радкоў успамінаў: "Як пачынаючы паэт аднойчы я быў запрошаны ў рэдакцыю "Чырвонай змены" на нараду маладых. Хутка я зразумеў, што супрацоўнікі рэдакцыі мяне ведаюць і, напэўна, некаторыя з іх прачыталі напісаныя мной вершы. Рэдактарам "Чырвонай змены" быў Платон Галавач. У час абмеркавання пытання аб арганізацыі пры газеце маладзёжнай групы пісьменнікаў меркавалася выдаваць зборнікі іх твораў. На гэтай нарадзе Платон Галавач адзначыў: "Выхаванне маладзёжнага літаратурнага актыву – адна з першачарговых задач нашай рэдакцыі".

У беларускіх літаратуразнаўцаў няма адзінай думкі аб тым, калі пачалася творчая біяграфія Платона Галавача. Большасць даследчыкаў справядліва адзначае, што спрабаваць свае сілы ў літаратуры ён пачаў 17-гадовым юнаком, у 1920 годзе. Цікава, што з нататкамі і замалёўкамі на камсамольскія тэмы Галавач выступаў у бабруйскай газеце "Камуніст" (а не "Юны камуніст", як сцвярджаецца ў шэрагу выданняў – *Э.І.*), рэдактарам якой у той час была Вера Харужая. На вялікі жаль, гэтыя публікацыі да сённяшняга часу не выяўлены. Больш актыўна Платон Раманавіч друкуецца з 1923 года, калі яго нататкі на камсамольскую тэматыку на рускай мове з'явіліся ў газетах «Юный пахарь» і «Красная смена».

У час вучобы ў Цэнтральнай саўпартшколе ў Мінску ўдасканальваецца публіцыстычны талент Платона Галавача. У тыя гады ён актыўна выступае на старон-

ках рэспубліканскага студэнцкага часопіса “Чырвоны сцяг”, у насценнай газеце, партшкольскім альманаху “Партшкольскі мірок”. Найбольшую цікавасць уяўляюць артыкулы Платона Раманавіча, змешчаныя ў часопісе “Чырвоны сцяг”.

У прыватнасці, я маю на ўвазе “Партшколец” – першую замалёўку, у якой ён паказвае вобраз свайго сучасніка – юнака Васіля.

Першае беларускае апавяданне Платона Галавача “Загубленае жыццё” было апублікавана ў газеце “Савецкая Беларусь” у 1925 годзе. Беларускі даследчык Д. Бародзіч сцвярджае, што 4 верасня 1925 года ён пачаў друкаваць апавяданне “Загубленае жыццё”. На самай справе публікацыя гэтага апавядання на старонках “Савецкай Беларусі” пачалася 4 лістапада 1925 года і закончылася 14 лістапада 1925 года. Платону Галавачу ў той час было 22 гады.

Менавіта з гэтага часу малады аўтар сістэматычна выступае ў рэспубліканскіх газетах і часопісах, і больш за ўсё ў часопісе “Маладняк”.

Праз чатыры гады – у 1927-м – выйшла першая кніга: зборнік апавяданняў “Дробязі жыцця”. Тэматыка твораў Платона Раманавіча была звязана з грамадзянскай вайной, з класавымі размежаваннямі і барацьбой на вёсцы, з імкненнем моладзі да новага жыцця.

Погляды Платона Раманавіча на літаратуру нельга аналізаваць у адрыве ад задач культурнай рэвалюцыі, ад планаў сацыялістычнага будаўніцтва. Яго літаратурна-крытычная дзейнасць прасякнута вялікімі клопатамі аб выхаванні маладых кадраў, прыйшоўшых у літаратуру ад сахі і варштата, аб іх ідэйнай загартоўцы. Нельга не пагадзіцца з думкай рускага пісьменніка Уладзіміра Лідзіна, што Платон Галавач быў надзеяй беларускай літаратуры і яе строгім сумленнем [1].

Значнае месца ў літаратурным жыцці БССР 1920-1930-х гадоў займаў штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс “Маладняк”, які выдаваўся ў 1923-1932 гадах на беларускай мове. Адным з яго рэдактараў быў Платон Галавач.

У часопісе “Маладняк”(1928, № 11) ён змясціў артыкул “Пяць нашых год” – вельмі важны твор не толькі для высвятлення палітычнай пазіцыі маладога пісьменніка-публіцыста, але і для характарыстыкі яго поглядаў на рэвалюцыйную літаратуру. Аўтар сцвярджае, што, узросшы і ўзмацніўшыся за пяць год, “Маладняк” правёў вялізную работу па згуртаванні беларускіх рэвалюцыйных пісьменнікаў, іх ідэйнаму і мастацкаму выхаванню. Праз дзейнасць літаратурных арганізацый, цесна звязаных з работай партыі і камсамола, ён адыграў значную ролю ў справе культурнага будаўніцтва Беларусі.

Зблiжаючыся ў цэлым з маладнякоўскай прозай, Галавач адмаўляўся ад прасталінейнага вырашэння сацыяльных праблемаў. Яго творы вызначаліся гуманістычным пафасам, вастрынёй канфліктаў, псіхалагізмам. Асабліва ярка гэта выявілася ў аповесцях “Вінаваты”, “Спалох на загонах”, “Носьбіты ненавісці” і “Яны не пройдуць”. Асвойваючы новы для сябе жанр, Платон Галавач у 1934 годзе стварыў арыгінальны раман “Праз гады”, у цэнтры якога знаходзіўся лёс беззямельных сялян на шырокім фоне гістарычных падзей. У 1930-я гады Платон Раманавіч быў адным з самых папулярных і чытаных беларускіх пісьменнікаў.

Па перакладах яго прозы на іншыя мовы Галавач займаў адно з першых месцаў у беларускай літаратуры таго часу. Творы пісьменніка актыўна перакладаліся на рускую, польскую, украінскую, чэшскую і яўрэйскую мовы.

У той жа час нельга не згадзіцца з аўтарытэтным беларускім вучоным-філосафам У.М. Конанам, што з сярэдзіны 1928 года “Маладняк” (пераважна ў крытыка-публіцыстычнай частцы) перайшоў на спрошчаную пазіцыю Расійскай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў. У артыкулах А. Гародні, П. Галавача, Р. Мурашкі, І. Барашкі, У. Бухаркіна, С. Васілёнка беспадстаўна абвінавачваліся беларускія пісьменнікі і літаратуразнаўцы, асабліва тыя, хто прымыкалі да “Уз-

вышша" і "Полымя". Адначасова ў часопісе з'яўляліся і аб'ектыўныя артыкулы Я. Барычэўскага, П. Бузука, М. Гарэцкага, М. Піятуховіча і інш., вершы і паэмы П. Броўкі, А. Куляшова, В. Маракова, апавяданні, аповесці і раманы З. Астапенкі, П. Галавача, Ц. Гартнага, Б. Мікуліча, Э. Самуйлёнка, нарысы Я. Скрыгана.

8-15 мая 1929 года ў Мінску адбыўся IX Усебеларускі з'езд Саветаў. Разам з пісьменнікамі Янкам Купалам, Якубам Коласам, Міхасём Чаротам, Цішкам Гартным членам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта (ЦВК) БССР быў выбраны Платон Галавач.

26 студзеня 1930 года ў газеце "Савецкая Беларусь" быў змешчаны фельетон Платона Галавача "Чаго вам крыўдна, грамадзяне?" (замест рэцэнзіі на геаграфічны нарыс В. Шырко аб Беларусі). 18 ліпеня 1930 года выйшла яго аповесць "Вінаваты". 17 студзеня 1931 года была апублікавана заява беларускіх пісьменнікаў супраць ганьбавання Максіма Горкага ў заходнім друку – "Рукі прэч ад Горкага!". Заяву падпісалі М. Лынькоў, П. Галавач, К. Крапіва, А. Александровіч, К. Чорны, А. Звонак і іншыя пісьменнікі.

У 1931 годзе П. Галавач быў абраны адказным сакратаром праўлення Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў. Яго дзейнасць у гэтай арганізацыі – адна з "белых плямаў" у біяграфіі Платона Раманавіча.

Што мы ведаем аб БелАППе?

Беларуская асацыяцыя пралетарскіх пісьменнікаў існавала з лістапада 1928 да траўня 1932 года. Яна была створана ў выніку рэарганізацыі літаратурнага аб'яднання "Маладняк", усебеларускі з'езд якога (25-28 лістапада 1928 года) абвясціў сябе першым з'ездам БелАПП. Гэтай арганізацыяй кіравала праўленне і яго сакратарыят, а друкаваным органам стаў часопіс "Маладняк" з 12-га нумара за 1928 год.

Членамі Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў былі Андрэй Александровіч, Змітрок Астапенка, Анатоль Астрэйка, Сымон Баранавых, Пятрусь Броўка, Платон Галавач, Юрка Гаўрук, Алесь Звонак, Аркадзь Куляшоў, Міхась Лынькоў, Барыс Мікуліч, Рыгор Мурашка, Алесь Салагуб, Янка Скрыган, Валянцін Таўлай, Паўлюк Трус, Міхась Чарот, Станіслаў Шушкевіч, Хвядос Шынклер і іншыя. Асацыяцыя мела рускую, літоўскую, польскую і яўрэйскую секцыі.

Спачатку існавалі Бабруйская, Віцебская, Гомельская, Магілёўская, Мінская, Полацкая і іншыя філіі, якія выдавалі свае зборнікі, альманахі, асобныя творы.

Але 22 верасня 1930 года філіі былі ліквідаваны. Затое ствараліся літаратурныя гурткі і студыі пры буйных прадпрыемствах і калгасах. Мінская філія была пераўтворана ў Мінскую асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў (МінААП), а Віцебская – у Віцебскую асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў.

У дзейнасці Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў трэба вылучыць два этапы: 1) 1928-1930 гадоў і 2) 1931-1932 гадоў.

Да пачатку 1930-х гадоў асацыяцыя праводзіла значную работу па стварэнні пралетарскай літаратуры. садзейнічала аб'яднанню літаратурных сіл, наладжванню сувязяў з літаратурамі народаў СССР. У той жа час на дзейнасці БелАПП адмоўна адбівалася тое, што яе кіраўніцтва дапускала адміністраванне ў дачыненні да членаў арганізацыі. На жаль, белапаўская крытыка механічна пераносіла метадалогію філасофіі на мастацкую творчасць і прапагандавала своеасаблівы дыялектыка-матэрыялістычны метад у літаратуры.

З пачатку 1930-х гадоў (а гэта ў асноўным прыпадае на час кіраўніцтва ёю Платонам Галавачом – *Э.І.*) Беларуская асацыяцыя пралетарскіх пісьменнікаў стала праваднікам ідэй Расійскай асацыяцыі пралетарскіх піьменнікаў (РАПП) з яе памылковымі тэорыямі і метадамі кіравання, дапускала праявы групаўшчыны, пагардлівых адносінаў да іншых арганізацый, прэтэндавала на кіруючую ролю ў беларускай літаратуры. Яна спыніла сваю дзейнасць у адпаведнасці з пастано-

вай ЦК Кампартыі Беларусі “Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый БССР” ад 27 мая 1932 года.

Будучы адказным сакратаром БелАППа, Платон Галавач выступіў з шэрагам артыкулаў, у якіх выказваў ідэйныя пазіцыі Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў і яе першачарговыя задачы. Так, у артыкуле “У барацьбе за бальшавіцкую ідэйнасць” ён патрабуе ўзмацніць ролю марксісцкай крытыкі ў ідэалагічным змаганні, абгрунтоўвае выключную неабходнасць “авалодання ленінскай спадчынай у пытаннях літаратуры і мастацтва” [2].

Літаральна праз дзесяць дзён у артыкуле “На аплату рахунка, прад’яўленага эпохай” Галавач выказвае думкі аб абавязку савецкага пісьменніка: “Пралетарскі пісьменнік павінен быць актыўным удзельнікам сацыялістычнага будаўніцтва ў першую чаргу сваёй мастацкай творчасцю. Удзел будзе тым большым, чым большая будзе сацыяльная значымасць творчасці, яе актуальнасць” [3].

Платон Раманавіч гаворыць аб неабходнасці мастацкага паказу правафланговых першай пяцігодкі, выканання лозунгу “Тварам да тэхнікі”, аб сувязі пісьменнікаў з навукова-тэхнічнымі ўстановамі, усямернай дапамозе “справе абароны нашай краіны” [4].

На яго думку, пісьменнік павінен дапамагаць працоўным авалодваць сацыялістычным светапоглядам і актыўна змагацца супраць ідэалагічных ворагаў.

У трэцім артыкуле “БелАПП” Платон Галавач, адзначаючы поспехі Беларусі за два гады першай пяцігодкі, гераічную працу рабочых і сялян, называе Беларускую асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў адным з вядучых атрадаў усёй савецкай літаратуры. Падкрэсліваючы, што большасць пісьменнікаў-папутнікаў імкнецца наблізіцца да пралетарскай літаратуры, да авалодання пралетарскім светапоглядам, ён піша: “Наша задача – усяляк дапамагаць гэтаму набліжэнню таварыскай размовай, паслядоўнай даверлівай крытыкай памылак папутнікаў і самай бязлітаснай барацьбой супраць буржуазнай ідэалогіі” [5].

23 красавіка 1932 года ЦК ВКП(б) прыняў пастанову “Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый”. У адпаведнасці з гэтай пастановай ствараліся Саюзы пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, архітэктараў.

27 мая 1932 года адпаведную пастанову прынялі і ў БССР. Актывісты БелАПа адразу паспрабавалі захапіць кіраўніцтва ў новай літаратурнай арганізацыі, усяляк акцэнтуючы ўвагу на заслугах было аб’яднання і яго ролі ў падрыхтоўцы перабудовы. Так, напярэдадні прыняцця пастановы Цэнтральнага Камітэта кампартыі Беларусі “Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый БССР, пісьменнікі М. Лынькоў, П. Галавач і Х. Дунец у артыкуле “На новым этапе”, надрукаваным 26 мая 1932 года ў газеце “Звязда”, адзначалі, што ў Савецкай Беларусі была адзіная пралетарская арганізацыя – БелААП, якая за кароткі час выявіла і выхавала значныя пралетарскія кадры, паспяхова правяла барацьбу за лінію партыі ў літаратуры супраць усялякіх вылазак, уплываў і “тэорыяк” на літаратурным фронце. Асабліва значны ўдзел БелААПа паказваўся ў барацьбе з беларускім нацыянал-дэмакратызмам.

1 чэрвеня 1932 года на сходзе літаратурных арганізацый БССР быў абраны аргкамітэт Саюза савецкіх пісьменнікаў Беларусі ў складзе М. Клімковіча (старшыня), М. Лынькова (адказны сакратар), А. Александровіча, П. Галавача. Я. Нёманскага, І. Гурскага, К. Чорнага, І. Харыка, К. Крапівы.

У ліпені 1932 года замест часопіса “Полымя” пачаў выходзіць часопіс “Полымя рэвалюцыі” – орган Саюза савецкіх пісьменнікаў Беларусі. Мы ўжо адзначалі, што адказным рэдактарам гэтага часопіса быў прызначаны Платон Галавач.

Прэтэнзіі былых белапаўцаў зноў заняць месца лідэраў выклікалі незадавальненне і ўзрушэнне ў пісьменніцкім асяроддзі. Пасля перабудовы “літаратурны фронт”, па тэрміналогіі тых часоў, працягваў заставацца ў цэнтры палітыка-

ідэалагічнай барацьбы, якая набыла вострыя формы восенню 1932 і ў пачатку 1933 года.

У афіцыйнай запісцы М. Лынькова ў ЦК КП(б)Б пад назвай “Некалькі беглых уваг на беларускім літаратурным фронце” ад 10 лістапада 1932 года былі такія радкі:

“...Пару слов о позициях отдельных коммунистов, о качествах отдельных работников и их недостатках.

Основная группа, фактически руководящая белорусскими писателями, состояла и состоит из Бенды, Александровича, Лынькова и Головача...

Плохая сторона у Головача – не бороться, а в отдельных случаях потакать и возглавлять нездоровые настроения в беспартийной писательской среде. Беспринципность, неразборчивость в подборе и создании своего окружения. Творческая группа Головача – по существу носительница правых настроений в литературе, политическая близорукость, мешающая видеть подлинное политическое лицо основного ядра группы. Болезненное реагирование на отдельные недостатки в проведении национального культурного строительства. Склонность к преувеличениям, к неправильным обвинениям.

Всё это лишний раз говорит о необходимости укрепления руководства...” [6].

Афіцыйнай рэакцыяй на гэтую барацьбу стала пастанова ЦК Кампартыі Беларусі “Аб фактах прасочвання класава варожых, нацыянал-дэмакратычных уплываў у мастацкай літаратуры БССР”, апублікаваная ў друку ў сакавіку 1933 года.

У гэтай пастанове адзначалася:

“Тав. Галавачу, прапусціўшаму ў рэдагаваным ім зборніку (т.VI) вершаў Купалы рад адкрыта нацыяналістычных класава варожых твораў Купалы перыяду, калі Купала ў сваёй творчасці выразна адбіваў нацыянал-дэмакратычныя ідэі, у асаблівасці без рэдакцыйных заўваг і палітычнай іх ацэнкі, – абвясціць суровую вымову з папярэджаннем.

У сувязі з наяўнасцю шэрагу фактаў, якія паказваюць аб тым, што т. Галавач не толькі не выправіў сваіх ранейшых памылак, а нават у даны момант дапускае рад памылак палітычнага парадку, – пытанне аб т. Галавачу вырашыць дадаткова асобна” [7].

Пастанова выклікала шэраг лістоў у ЦК КП(б)Б ад тых, хто атрымаў партыйныя спагнанні. Ліст Платона Галавача сведчыў аб тым, што і ў 1933 годзе пісьменнік трымаўся лініі прафілактычна-выхаваўчай работы сярод інтэлігенцыі, пра якую ён гаварыў на XII з’ездзе кампартыі Беларусі: не адштурхоўваць, а прыцягваць да партыі літаратараў і, у першую чаргу, народнага паэта Беларусі Янку Купалу

Крайне недастаткова даследавана праблема “Платон Галачач як рэцэнзент і літаратурны крытык”.

У пісьме да свайго стрыечнага брата-інжынера А.А. Бародзіча 19 лістапада 1925 года Галавач паведамляў: “Рэцэнзіі буду пісаць, бо пішу па заданню аддзела друку ЦК КП(б)Б. Напісаў адказ М. Зарэцкаму. Відаць, пойдзе ў “Звяздзе”. Цяпер абраў ахвярай адзін беларускі раман” [8].

Гаворка ідзе пра прыгодніцкі раман “Ваўчаняты”, напісаны А. Александровічам, А. Вольным і А. Дударам. Яны задумалі паказаць усенародную барацьбу з контррэвалюцыяй, з бандамі Булак-Булаховіча. Прачытаўшы гэты раман, Сцяпан Галавач адзначыў: выходзіць, што адна камсамольская ячэйка ваюе з бандамі на ўсіх ста дваццаці старонках. Балаховіч нічога не можа зрабіць з храбрымі “ваўчанятамі” і просіць дапамогі ў фашыстаў Гародні. Ведаючы пра небяспеку, камсамольцы не паведамляюць Чырвонай Арміі, гаворачы: “Мы не лыкам шытыя. Справімся самі”.

Платон Раманавіч слушна заўважае: “Вясковы камсамол прымаў актыўны ўдзел у барацьбе, але ж не трэба зводзіць усю барацьбу з балахоўцамі да барацьбы жменькі камсамольцаў” [9].

Справа ў тым, што Платон Галавач сам быў удзельнікам змагання з атрадам Караткевіча і добра ведаў, якіх сілаў і ахвяраў каштавала гэтая барацьба. Таму ён быў не згодзен з тым, што вораг малюецца труслівым, слабым, што барацьба вядзецца нібы жартам, а перамога даецца вельмі лёгка. Рэцэнзент падрабязна аналізуе недарэчлівыя, фельетонныя месцы твора, які, на яго думку, не ўдаўся аўтарам. Па-першае, таму, што гэта фантазія зусім адарвана ад рэальнасці. Па-другое, "няма цэльнасці. Няма таго, што на працягу ўсяго рамана павінна цягнуць, цікавіць чытача, няма інтрыгі" [10].

Галавач лічыць, перад чытачамі не раман, а рамантычна пададзеныя асобныя малюнкі, звязаныя паміж сабой толькі тым, што ва ўсіх гэтых малюнках мы сустракаем галоўнага героя – Алеся.

Такім чынам, адна з першых рэцэнзій 23-гадовага Платона Галавача паказвае, што ў збліжэнні літаратуры з рэчаіснасцю, у праўдзівым адлюстраванні жыцця, у сувязі галоўнага героя з народам ён бачыў сэнс новай сацыялістычнай літаратуры.

У 1929 годзе ў артыкуле "Супраць буржуазнай рэакцыі ў мастацкай літаратуры" Платон Галавач і Алесь Звонак аналізуюць артыкул А. Адамовіча, у якім ён пісаў, што Паўлюк Трус стаяў бліжэй да "Узвышша", а значыць, далей ад пралетарскай літаратуры, ад БелАППа. Акрамя таго, А. Адамовіч змяншаў значэнне паэмы "Дзясяты падмурак". У сваім артыкуле П. Галавач і А. Звонак даказвалі, што ўсё гэта бессаромная хлусня і фальсіфікацыя над магілай аднаго з лепшых паэтаў Беларусі, што "Адамовіч выкарыстаў смерць Труса для палітычнай фальшыўкі, мякка кажучы, палітычнага машэнніцтва, яўна накіраванага супраць пралетарскай літаратуры, супраць партыйнага кіраўніцтва ёю" [11].

У артыкуле "У барацьбе за пралетарскую літаратуру Беларусі" Платон Галавач упершыню падкрэслівае ролю публіцыстычных сродкаў у барацьбе за новую літаратуру і радуецца з'яўленню таленавітых нарысаў Васіля Сташэўскага аб новабудоўлях першай пяцігодкі [12].

У рэзалюцыі камуністычнай фракцыі пісьменніцкіх аб'яднанняў Беларусі падкрэслівалася, што часам сапраўдная перабудова літаратуры падмянялася дэкларацыямі, што кіраўніцтва ў адносінах да некаторых пісьменнікаў-папутнікаў падмянялася адміністрацыйным выкрыкам і наклейваннем рознага роду ярлыкоў [13].

Між іншым, на падставе толькі адной рэчы М. Зарэцкага "Падарожжа на новую зямлю" яго залічылі ў лагер кулацкай рэакцыі. Такі метад ацэнкі творчасці пісьменніка Платон Галавач лічыў няправільным і шкодным. Вось як ён тлумачыў сваю пазіцыю: "Самае няшчаднае змаганне, калі маем справу з класавым ворагам. Калі ж гаворка ідзе аб праявах варожых уплываў на творчасць савецкага пісьменніка, аб памылках, няхай вельмі буйных, крытыка павінна паказаць памылку, выкрыць класавую сутнасць і дапамагчы выправіць яе. Іншымі словамі, тут крытыка павінна весці барацьбу не супраць пісьменніка, а за яго набліжэнне да пазіцый пралетарыяту" [14].

Раскрываючы высакародныя задачы літаратурнай крытыкі, Платон Галавач акцэнтуе ўвагу на вялікай адказнасці крытыкаў і рэцэнзентаў. Ён адзначае: "Крытык павінен умець адчуваць, якая ідэя ляжыць у аснове мастацтва, павінен ведаць сам працэс мастацкай творчасці" [15].

Аднак некаторыя крытыкі, заўважаў Платон Раманавіч, выступаючы з артыкуламі аб творах пісьменніка, хаваюцца за памылкі, і хоць твор карысны, абвяшчаюць яго варожым. А пісьменніка – класавым ворагам. Так здарылася з нарысамі Янкі Скрыгана, якія ён пісаў з "Гомсельмаша".

Больш чым праз 30 гадоў Янка Скрыган успомніць: "Я напісаў серыю нарысаў і надрукаваў іх у "Маладняку". Неўзабаве паявіўся артыкул пра гэтыя нарысы

пад назвай “Паклёп на завод”. Назва страшная і папрок цяжкі. Але Галавач адразу ўбачыў тут нядобрасумленнасць і без ніякіх ваганняў стаў на абарону. Ён увайшоў у камісію па вывучэнню справы і не адступіўся да таго часу, пакуль дамогся, каб давесці, што ў рэцэнзента былі нячыстыя рукі” [16].

Прынцыпова важным з’яўляецца сведчанне Янкі Скрыгана аб тым, што Платон Галавач не ведаў ніякіх іншых меркаванняў, апроч сумлення.

Мала каму вядома, што менавіта Платон Галавач падказаў Янку Купалу тэму паэмы “Над ракой Арэсай”. Творчасці народнага песняра ён прысвяціў артыкулы “Пра паэму “Над ракой Арэсай” Янкі Купалы і “Змагацца і будаваць разам”.

У першым з гэтых артыкулаў Платон Раманавіч падкрэсліваў, што значэнне твора, акрамя яго мастацкіх і ідэйных вартасцей, яшчэ ў тым, што ў ім стаіць шэраг пытанняў творчага парадку. Паэма пераконвае, якое “вялікае значэнне для творчай працы пісьменніка мае непасрэдны ўдзел у гаспадарчым і палітычным жыцці нашай краіны” [17].

На думку Платона Галавача, твор Я. Купалы “Над ракой Арэсай” не натуралістычны здымак, не вершаваны нарыс пра камуну, а сапраўдная паэма. Якую вызначаюць высокая сутнасць мастацкіх абагульненняў, глыбокая ідэйная насычанасць і класавая накіраванасць. Ён канстатуе: “А тое, што твор напісаны на канкрэтным матэрыяле, робіць яго яшчэ больш каштоўным” [18].

Хоць няма ўжо Савецкай Беларусі і ўсяго Савецкага Саюза, хоць прайшло больш чым тры чвэрці стагоддзя пасля трагічнай смерці Платона Галавача, пры ўмове замены слоў “Краіна Саветаў” на “Рэспубліка Беларусь”, яшчэ і сёння вельмі актуальна гучаць яго словы: “Каб стварыць вялікае і выдатнае, трэба ўмець адчуваць пульс свае краіны, трэба глыбока ведаць новае жыццё і людзей, якія яго ствараюць, ведаюць так, каб за малым, на першы погляд нязначным, будзённым, бачыць сапраўдны твар вялікай Краіны Саветаў і яе людзей” [19].

З выпадку выхаду сотага нумара газеты “Літаратура і мастацтва” Платон Галавач, Кузьма Чорны, Віталь Вольскі, Пятро Глебка, Барыс Мікуліч выказалі свае меркаванні аб гэтай газеце і яе месцы ў літаратурным жыцці рэспублікі.

На думку Платона Раманавіча, у большасці артыкулаў на літаратурныя тэмы адсутнічае аргументацыя агульных палажэнняў, якімі яны перапоўнены. Ён адзначае: “Тым, што некаторыя крытыкі не хочуць, або баяцца ў сваіх артыкулах парушыць традыцыю “сярэдняга ўзроўню”, яны штучна стрымліваюць рост літаратуры і патураюць пачуццё недастатковай адказнасці, якое жыве ў многіх пісьменнікаў, а часам і звычайнай безадказнасцю ў адносінах да працы над кнігаю” [20].

Менавіта таму ён справядліва лічыць, што рэдакцыя павінна значна павысіць сваю ролю ў выхаванні нашых крытыкаў, у барацьбе за далейшы рост беларускай літаратуры.

У нас ёсць усе падставы для высновы, што Платон Галавач праявіў сябе здольным, прынцыповым і аўтарытэтным літаратурным крытыкам. Сярод яго творчай спадчыны маецца шэраг рэцэнзій і цікавых заўваг аб творчасці Кузьмы Чорнага, Міхася Лынькова, Петруся Броўкі, Янкі Скрыгана, Паўлюка Труса і іншых празаікаў і паэтаў.

Платон Раманавіч стаў адным з першых рэцэнзентаў рамана Кузьмы Чорнага “Трэцяе пакаленне”. У яго рэцэнзіі пад назвай “Кніга вялікай мастацкай сілы і праўды” ёсць такія радкі: “Трэцяе пакаленне” – гэта вялікай сілы сродак ад заразных хвароб мінулага. І наша задача зрабіць так, каб гэтая кніга дайшла да самых шырокіх мас, дзе яна будзе рабіць справу камуністычнага выхавання” [21].

Нельга не згадзіцца з наступнымі словамі беларускіх даследчыкаў Р.В. Булацкага і Э.А. Карніловіча: “Платона Галавача, чалавека тонкага густу, шырокага творчага дыяпазону і высокай культуры, сучаснікі называлі камертонам, да якога прыслухоўваліся ўсе: і празаікі, і паэты, і драматургі. Ён добра ведаў усе жанры

мастацкай літаратуры і пакінуў шэраг артыкулаў аб развіцці беларускай навелы, верша, драмы" [22].

У 1931 годзе на базе педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта быў утвораны Вышэйшы дзяржаўны педагагічны інстытут.

У размове з аўтарам гэтых радкоў беларускі пісьменнік Станіслаў Шушкевіч нагадаў цікавы малавядомы факт, пра які не піша ні адзін біёграф П. Галавача: "Мне неаднаразова даводзілася сустракацца з Платонам Галавачом. Як кіраўнік літаратурных арганізацый Беларусі ён увесь час клапаціўся аб павышэнні адукацыі і мастацкага майстэрства маладых пісьменнікаў БССР. Менавіта яму належала ініцыятыва арганізацыі пры Вышэйшым педагагічным інстытуце крытыка-творчай секцыі на адным з курсаў педагагічнага факультэта. У той час з усёй Беларусі па ініцыятыве Платона Раманавіча падбіралася творчая моладзь, якая прайшла ўніверсітэцкі курс ведаў па вывучэнню мовазнаўства, тэорыі літаратуры, па азнаямленню з лепшымі творамі сусветнай літаратуры і асабліва з літаратурай славянскіх народаў... Юрка Лявонны, Зяма Півавараў, Валерый Маракоў, Эдзі Агняцвет, Язэп Зазека, Пётр Хашулёў, рабочы паэт Сяргей Мурзо, польская пісьменніца Алена Раманоўская, я і шэраг іншых таленавітых юнакоў і дзяўчат былі першымі студэнтамі крытыка-творчай секцыі. Нягледзячы на вялікую занятасць, Платон Галавач кожнаму з нас даваў творчую характарыстыку і рэкамендацыю. Мала таго – ён прымаў актыўны ўдзел у складанні праграмы літаратурнага навучання, садзейнічаў падбору прафесараў і дацэнтаў для выкладання розных курсаў".

22 студзеня 1932 года выйшаў першы нумар літаратурна-мастацкага часопіса "Беларусь калгасная" – орган БелАПКП. Членамі рэдакцыі новага часопіса сталі Н. Міхайлаў, С. Баранавых, І. Барашка, П. Галавач.

6 сакавіка 1932 года ў газеце "Літаратура і мастацтва" быў надрукаваны артыкул Платона Галавача "Слова ў творчай дыскусіі".

Аб папулярнасці твораў Платона Раманавіча сярод чытачоў нашай рэспублікі сведчыла дыскусія, прысвечаная яго творчасці, якая праходзіла 14-15 сакавіка 1932 года ў Доме пісьменніка.

23 сакавіка 1932 года ў газеце "Звязда" быў змешчаны артыкул Андрэя Александровіча "Аўладаць поглядам пралетарыята", дзе ў негатыўным плане разглядаліся аповесць Л. Калюгі "Нядоля Заблоцкіх", кніга П. Лапіна "Ці гераічны цяпер час", зборнік апавяданняў Ю. Тупяневіча, творы Ю. Лявоннага, Я. Мазуркевіча, зрывы ў аповесцях П. Галавача "Спалох на загонах", аспрэчваецца артыкул П. Галавача "Слова ў творчай дыскусіі", апублікаваны ў другім нумары "ЛіМа".

19 снежня 1932 года былі падведзены вынікі літаратурнага конкурсу да 15-й гадавіны Кастрычніка. Першая прэмія была прысуджана М. Чароту, другая – А. Александровічу, П. Галавачу, І. Харыку, трэцяя – М. Зарэцкаму, чацвёртая – П. Броўку, П. Глебку, а першая прэмія ў галіне драматургіі – К. Чорнаму.

26 чэрвеня 1933 года пад рубрыкай "Мастацкай зброяй дапаможам партыі ачысціць яе шэрагі" газета "Літаратура і мастацтва" змясціла артыкулы Платона Галавача, Якуба Коласа, Іллі Гурскага, Міколы Хведаровіча.

24 жніўня 1933 года ў газеце "Звязда" быў апублікаваны рэпартаж аб сустрэчы савецкіх пісьменнікаў на адкрытай трасе Беламора-Балтыйскага канала. На ёй прысутнічалі беларускія пісьменнікі Я. Купала, П. Галавач, А. Александровіч, А. Кучар і іншыя.

У верасні 1933 года ў газеце "ЛіМ" былі змешчаны матэрыялы, звязаныя з чысткай Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі: артыкулы П. Галавача "Чыстка – стымул для стварэння вялікай літаратуры", Ц. Гартнага "Актыўна ўдзельнічаць у чыстцы".

16 жніўня 1934 года газета "Праўда" паведамляла, што 15 жніўня 1934 года

ў Маскву для ўдзелу ў I Усесаюзным з'ездзе савецкіх пісьменнікаў прыбыла дэлегацыя пісьменнікаў БССР. У яе складзе разам з Я. Купалам, Я. Коласам, М. Клімковічам, К. Крапівой, К. Чорным, М. Чаротам, М. Лыньковым і іншымі быў і П. Галавач.

28 жніўня 1934 года газета "Праўда" надрукавала на першай старонцы Зварот "Писатели Белорусской ССР, делегаты Первого всесоюзного съезда, – товарищу Сталину", які падпісалі: А. Александровіч, П. Броўка, Я. Бранштэйн, З. Бядуля, П. Галавач, Х. Дунец, І. Гурскі, Ц. Гартны, М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, А. Крапачоў, К. Крапіва, М. Кульбак, М. Лынькоў, К. Чорны, М. Чарот, І. Харык.

19 верасня 1934 года адбыўся сход партыйнага, прафсаюзнага і камсамольскага актыву горада Мінска. Са справаздачай аб рабоце Першага Усесаюзнага з'езда савецкіх пісьменнікаў выступілі Я. Колас, М. Лынькоў, П. Галавач, А. Александровіч.

15 лютага 1935 года ў Мінскім Доме пісьменніка прайшоў вечар "сучаснай беларускай навелы". Даклад зрабіў Платон Галавач. Са сваімі творамі выступілі К. Чорны, М. Лынькоў, Я. Скрыган, С. Знаёмы і іншыя пісьменнікі.

25 ліпеня 1936 года начальнік Галоўліта БССР З.А. Давідовіч пад грыфам "Секретно" накіраваў у ЦК ВКП(б) і Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі дакладную запіску пад назвай "Аб кнігах з трацкісцкімі скажэннямі, падрыхтаваных Дзяржаўным выдавецтвам БССР". Яна пачыналася такімі словамі: "За последние два года по Белгосиздату задержан до и после выхода ряд произведений троцкистов с контрреволюционными троцкистскими извращениями...

Приложение: упомянутое на " " листах и " " книг (так у тэксце. Колькасць лістоў у дакуменце не пастаўлена – *Э.І.*)" [23].

Пасля тэкста прыводзіцца два спісы забароненых кніг. У другім спісе названы 14 выданняў, у якія былі ўнесены папраўкі папярэдняй цэнзурай, у тым ліку:

"9. Бенде Л. "Літаратурная хрэстаматыя па беларускай літаратуры", 1935 г. Из отрывков повести Головача "Спалох на загонах" удалены контрреволюционные кулацкие высказывания на собраниях крестьян, т.е. удалены те места, которые, по существу, представляют трибуну для классового врага. Эти вычерки сделаны также в последнем издании самой повети Головача.

10. Я.Купала. "3 том собрания сочинений". Ред. Головач, 1936 г. Не допущен к печати по причине наличия ряда нацдемовских произведений и печатается сейчас в переделанном виде" [24].

У жніўні 1936 года выйшаў у свет раман П. Галавача "Праз гады".

24 жніўня 1936 года газета "Рабочий"на рускай мове апублікавала ліст беларускіх пісьменнікаў І.В. Сталіну пад назвай "До конца раскрыть и уничтожить все змеиные гнёзда троцкистско-зиновьевской фашистской банды". У традыцыях і стылі таго часу яно пачыналася словамі: "Родной, любимый Иосиф Виссарионович!" і заканчвалася наступнымі радкамі:

"От имени Союза советских писателей БССР: Я. Купала, Я. Колас, А. Александрович, М. Лыньков, П. Бровка, П. Головач, И. Гурский, Я. Бронштейн, М. Чарот, П. Глебка, И. Харик, К. Крапива, Эд. Самуйлёнок, К. Чорный, М. Кульбак, А. Кучар, Б. Микулич, З. Бядуля"

У маі 1937 года ў часопісе "Полымя рэвалюцыі" была апублікавана аповесць Платона Галавача "Яны не пройдуць".

18 чэрвеня 1937 года ў Мінску прайшоў вечар памяці М. Горкага, прысвечаны гадавіне з дня смерці пісьменніка. Разам з К. Чорным. К. Крапівой, П. Броўкам, І. Харыкам у ім прыняў удзел і П. Галавач. Менавіта ў чэрвені 1937, у шостым нумары часопіса "Полымя рэвалюцыі", былі надрукаваны творы М. Горкага ў перакладзе П. Галавача, М. Лынькова, К. Чорнага і М. Паслядовіча.

Двайная трагедыя Платона Галавача заключалася ў тым, што ён доўгі час,

пачынаючы са знаходжання на пасадзе першага сакратара ЦК ЛКСМБ, выкрываў так званых “ворагаў народа”, а потым сам стаў “ворагам народа”.

У сваіх апавяданнях ён пісаў пра грамадзянскую вайну і класавую барацьбу на вёсцы, выкрываў “ворагаў народа”, рэлігійныя забабоны, старое жыццё. У памфлеце “Восьмая”, напісаным у 1925 годзе, Платон Раманавіч радок за радком бярэ вытрымкі з артыкула белаэмігранта Філіпава і па цытатах пераканаўча дае сатырычна знішчальны каментар, малюе агідны вобраз “заступніка” народа. Гэты белаэмігрант “спачувае”, што цэлых восем год Расія “стогне ў кашмарах бальшэвізма”. Галавач дае ўпэўнены адказ: “Не турбуйцеся, панове! Рабочыя і сяляне паспяхова будуюць новае жыццё, пагаворваюць аб тым, што хутка дарэвалюцыйная норма ззаду застанецца”.

У адказ на радкі: “Восем доўгіх, бясконцых, як вечнасць, пакутлівых год” Платон Раманавіч адзначае, што не збыліся прадказанні Філіпава аб пагібелі Савецкай улады. Ён падкрэслівае: “А ваша, мосек, гаўканне будзе лішнім напамінаннем аб тым, што ёсць у рабочых і сялян ворагі, што жыва яшчэ небяспека” [25].

Аповесць “Вінаваты” (1929) – першы параўнальна вялікі твор Галавача-празаіка. Герой гэтай аповесці Алесь Шавец, які ніколі не ведаў пра палітычна шкодную дзейнасць сваіх бацькоў, на аснове ананімнага даносу выключаецца з партыі, аб’яўляецца чалавекам, варожым грамадству, кар’ерыстам. Платон Раманавіч упершыню ў беларускай літаратуры ўзняў голас за тое, каб дзеці не неслі адказнасці за ўчынкі сваіх бацькоў і па-мастацку абгрунтовае гэтае пытанне.

Назва аповесці сумна-іранічная. Алесь Шавец увесь час гаворыць пра класавую пільнасць, ён жа і стаў яе ахвярай, як забягаючы ўперад, у рэшце рэшт і сам П.Р. Галавач.

“У змаганні за кадры, – пісаў Платон Раманавіч у прадмове да першага выдання сваёй першай аповесці “Вінаваты”, – патрэбна вялікая класавая пільнасць і класавая чуласць, каб захаваць таго, хто наш, і адкінуць таго, хто класава варожы нам. Мэта мае аповесці – хоць крыху памагчы партыі ў гэтай справе” [26].

У тыя гады гэтая аповесць з’явілася свайго роду мастацкім папярэджаннем грамадству пра небяспеку, якую нясуць яму звышпільныя людзі.

У аповесці “Спалох на загонах” (1930) драматызм дзеяння дасягае свайго апагею, бо супрацьстаянне класаў перарастае ў канфлікт. “Цяпер уся краіна-фронт... Сёння я ўяўляю свет суцэльным фронтам” [27], – піша ў лісце свайму сябру Панас – галоўны герой гэтага твора, які не толькі дзейнічае, але і разважае над сэнсам падзей.

Панас спрабуе мысліць не толькі сацыяльна-класавымі катэгорыямі. Але выходзіць і да агульначалавечых праблем: “Агульначалавечае шчасце, бачу я, ідзе пад палотнішчам, афарбаваным у кроў. Гэта сімвал таго, што агульначалавечае шчасце можна толькі заваяваць у жорсткім змаганні” [28]. Думкі Панаса больш падобныя на гатовыя палітычныя лозунгі, але за імі блізка стаіць жыццё героя. Яго трагічнае мінулае, цяжкі лёс. Нельга не згадзіцца з думкай літаратуразнаўцы М. Тычыны, што пісьменнік пераадольвае рэшткі нарысавасці і лірычнай расслабленасці ў апісанні падзей і паказвае шпаркае нарастанне напружання, завяршаючы аповесць трагічным фіналам, калі Панас гіне ў час “бабскага бунту”.

У самога Платона Галавача ў гэтым творы вельмі складаная пісьменніцкая пазіцыя. Справа ў тым, што аўтар аповесці “Спалох на загонах” займаў у рэспубліцы адказныя партыйныя і дзяржаўныя пасады і павінен быў прапагандаваць у сваім творы лінію партыі на калектывізацыю. Але, будучы сумленным грамадзянінам і мастаком, не мог ва ўсім пагадзіцца з многімі метадамі яе правядзення.

У чэрвені 1931 года ў Маскве, у Камуністычнай Акадэміі, адбыўся дыспут на тэму “Нацыянал-дэмакратызм і барацьба за папутніка”, у якім удзельнічалі прадстаўнікі беларускай, туркменскай, азербайджанскай, татарскай і іншых нацыянальных літаратур. У сваім выступе Платон Галавач адзначыў: “Трэба змагацца

за папутніка, які шчыра абдумаўся. Але трэба і далейшая бязлітасная барацьба супраць класавых ворагаў, якія прыстасоўваюцца" [29].

На ўрачыстым вечары, прысвечаным 50-годдзю народнага паэта Беларусі Янкі Купалы, Платон Галавач у сваім выступленні падкрэсліў: "Вялікай любові да працоўных мас і вялікай нянавісці да ворагаў наша творчая моладзь будзе вучыцца ў Купалы. Аднаго з выдатнейшых паэтаў савецкай эпохі" [30].

Пасля аднаго з лепшых беларускіх раманаў 1930-х гадоў "Праз гады" (1934) у часопісе "Полымя рэвалюцыі" друкуюцца аповесці П. Галавача "Носьбіты нянавісці" (1936) і "Яны не пройдуць" (1937).

У аповесці "Яны не пройдуць" П. Галавач бярэ за аснову сюжэту вядомую схему: былы франтавік, больш свядомы ў параўнанні з аднавяскоўцамі, уздымае іх дома на барацьбу з ворагамі.

Эпіграфам да свайго твора Платон Раманавіч узяў палымяны заклік генеральнага сакратара ЦК Кампартыі Іспаніі Даларэс Ібаруры: "...Вораг паспрабуе яшчэ паўтарыць свае крывавыя подзвігі. Але няхай! Мы раздавім яго і адпомсцім за ўсе нашыя ахвяры...

...Лепш памерці стоячы, чым жыць на каленях!"

Самы значны публіцыстычны твор Платона Галавача нарыс "Ад Мядзведжай гары да Белага мора (з запісных кніжак)". Гэты твор на першы погляд цалкам вытрыманы ў духу афіцыйнай ідэалогіі таго перыяду і ў духу літаратуры сацыялістычнага рэалізму: пісьменнік паказвае рэчаіснасць у рэвалюцыйным развіцці, новых герояў, што процістаяць абставінам, уздым сацыялістычнага будаўніцтва.

Заслугоўвае ўвагі думка даследчыка В.Ю. Бароўкі:

"Аднак памылкова расцэньваць гэты твор як цалкам апалагетычны, бо Галавач не столькі дзеліцца сваімі ўражаннямі, колькі пераказвае думкі кіраўнікоў Беламорбуда, каналаармейцаў, блізкіх да кіраўніцтва, уключае частку артыкула з газеты "Правда" з успамінамі былога злачынцы, абмяжоўвае размову пра будаўніцтва канала агульнымі фразамі. Бясспрэчна, ва ўмовах падазронасці ў грамадстве, ва ўмовах палітычных рэпрэсій пісьменнік вымушаны быў узважваць кожнае слова, але за агульнымі фразамі пра бліскучую кіруючую ролю АДПУ і пра нябывалы энтузіязм каналаармейцаў пра хуткае перавыхаванне былых злачынцаў уключаюцца апісанні суровых прыродна-кліматычных умоў, напамін пра тое, як крымінальнікі адбіралі хлебныя пайкі ў "кулакоў". Зараз добра вядома, што так званыя кулакі – гэта гаспадарлівыя сяляне, што траплялі пад падазрэнне мясцовых улад, ці сяляне, што не хацелі ўступаць у калгасы [31].

У артыкуле "Вышэй класавую пільнасць" П. Галавач акцэнтаваў увагу на наступных патрабаваннях да рэдактараў літаратурных твораў: даць твору палітычную ацэнку, па неабходнасці зрабіць адпаведныя заўвагі ў прадмове, дапамагчы аўтару сфарміравацца ідэйна, праяўляць палітычную пільнасць.

На самай справе палітычную пільнасць праявілі органы НКУС БССР у адносінах да самога пісьменніка.

У кастрычніку 1936 года быў арыштаваны таленавіты беларускі пісьменнік Міхась Зарэцкі. Аб прычынах арышту можна прачытаць у матэрыялах да справаздачы ЦК КП(б) Беларусі XVI з'езду КП(б)Б, якія былі апублікаваны пад грыфам "сакрэтна". У раздзеле "Літаратура" паведамлялася: "Рад камуністаў – членаў Саюза пісьменнікаў у выніку страты бальшавіцкай пільнасці стаў на шлях прамога патурання варожым элементам. Так, напрыклад, твор нацдэма Зарэцкага "Вязьмо", з паклёпам на калгаснае будаўніцтва, перавыдадзены ў 1935 г. пад рэдакцыяй камуніста Галавача, які таксама рэдагаваў старое выданне. Ні т. Галавач, ні т. Бранштэйн, які выступаў з крытыкай Зарэцкага, не выкрылі яго контррэвалюцыйнага твару, а, наадварот, аб'явілі "Вязьмо" "пачаткам ідэйнай перабудовы Зарэцкага" [32].

У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь захоўваецца цікавы дакумент. Гэта дакладная запіска Народнага камісара ўнутраных спраў БССР маёра дзяржаўнай бяспекі Наседкіна сакратару ЦК КП(б)Б тав. Панамарэнку "Об имеющихся компрометирующих материалов (так у тэксце – *Э.І.*) на членов Союза советских писателей БССР" пад грыфам "Совершенно секретно... Только лично" ад 23 кастрычніка 1938 года. У ёй маюцца такія радкі:

"...4. АТРАХОВИЧ КОНДРАТ КОНДРАТЬЕВИЧ, литературный псевдоним КРАПИВА... Изобличается показаниями 12 разоблачённых (курсивом) в 1937-1938 гг. участников нацфашистского подполья АСТАПЕНКО, ГОЛОВАЧОМ, ЗАЛЕССКИМ, ВОЛЬНЫМ и др. как активный участник нацфашистской организации в Белоруссии.

9. КУЛЕШОВ АРКАДИЙ АЛЕКСАНДРОВИЧ... Был тесно связан с разоблачёнными нацдемами: ГОЛОВАЧОМ, ХОДЫКО, СКРИГАНОМ, ТОВБИНЫМ, ОСТАПЕНКО и др.» [33]

У гэтым жа архіве захоўваецца дакладная запіска намесніка народнага камісара ўнутраных спраў Беларускай ССР Рашэтнікава сакратару ЦК КП(б)Б Беларусі таварышу Панамарэнку пад грыфам "Совершенно секретно" ад 8 верасня 1939 года. У ёй адзначаецца:

«Возвращая при этом список участников показа художественной самодеятельности БССР на Всесоюзной сельскохозяйственной выставке. сообщаю о наличии компрометирующих материалов на следующих лиц:

"1. АТРАХОВИЧ (Крапива) Кондрат Кондратьевич...., писатель. Атрахович (Крапива) является участником существовавшей контрреволюционной националистической организации и проходит по показаниям Астапенко Д. Е., Косенкова-Зарецкого М. Е., Ходыко В. М., Ажгирей (Вольный) А. И., Головача П. Р., в количестве 12 человек, часть из которых осуждена к ВМН" [34].

Платон Галавач быў арыштаваны 11 жніўня 1937 года "як трацкіст". Хто даў санкцыю на яго арышт? Хутчэй за ўсё, народны камісар унутраных спраў БССР Барыс Берман. Але патрэбна была згода першага сакратара ЦК Кампартыі Беларусі, таму што Платон Галавач быў не толькі адным з кіраўнікоў Саюза пісьменнікаў Беларусі, але і значным грамадскім дзеячам. У той час выконваючым абавязкі першага сакратара ЦК КП(б)Б быў Якаў Якаўлеў. Ён аднаасобна кіраваў ЦК Кампартыі Беларусі да 11 жніўня 1937 года. А ў дзень арышту П. Галавача – менавіта 11 жніўня 1937 года выконваючым абавязкі першага сакратара ЦК КП(б)Б быў выбраны Аляксей Волкаў. Хто з іх даў згоду на арышт Платона Галавача?.. Хутчэй за ўсё, Якаў Якаўлеў, таму што наўрад ці гэта зрабіў Аляксей Волкаў у першы дзень свайго прыезду ў Беларусь.

28 кастрычніка 1937 года Платон Галавач быў прыгавораны Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР да вышэйшай меры пакарання. Прыгавор прыведзены ў выкананне назаўтра – 29 кастрычніка.

Па адной з версій, Платон Галавач расстраляны ва ўрочышчы Курапаты пад Мінскам.

Паводле ўспамінаў відавочцаў, такіх самых пакутнікаў, якія нейкім цудам засталіся жывымі, у турэмных сутарэннях, за трубой, была знойдзена запіска на абрыўку паперы ад махорачнага пачка: "Таварышы, даруйце, калі чым вінаваты перад вамі. Гісторыя скажа праўду. Платон" [35].

Платон Раманавіч быў рэабілітаваны ВК ВС СССР 25 ліпеня 1956 года і, паводле хадайніцтва жонкі, узноўлены ў правах члена Саюза пісьменнікаў, а 23 лютага 1957 года яго аднавілі ў КПСС (пасмяротна). У 1989 годзе П. Галавач быў афіцыйна адноўлены ў гісторыі ЛКСМБ як яго першы сакратар ЦК.

Заканчваючы дакументальны нарыс аб невядомых і малавядомых старонках жыцця і дзейнасці гэтага чалавека, нельга не згадзіцца з успамінам аб ім вядомага рускага

празаіка Уладзіміра Лідзіна, які пазнаёміўся з Платонам Раманавічам у 1930-я гады: “Мне неяк адразу прыйшоўся да душы гэты малады беларускі пісьменнік, моцны, з сялянскім тварам, з ільнянымі валасамі, з сур’ёзным поглядам чалавека, які ўжо нямала передумаў... Прага стварыць новую беларускую літаратуру, палымяная вера ў лёс свайго народа, любоў да яго, спачуванне да загубленых пакаленняў беларускіх таленавітых людзей – усё гэта было ўласціва Платону Галавачу. Ён быў у той час толькі на парозе жыцця, але неяк глыбока ўвабраў у сябе ўсё тое, што дзесяцігоддзямі хвалявала яго народ. Гаварыць з Галавачом на гэтыя тэмы было заўсёды цікава: ён многа, не па ўзросту, ведаў і імкнуўся гэтыя веды перадаць мовою сваіх кніг – кніг, заўсёды ўсхваляваных. Заўсёды напісаных з чыстым сумленнем.

Калі ўспамінаеш пра пісьменніка, літаратурная дзейнасць якога была кароткай, магчымасці якога нават у дзясятай частцы не раскрыліся і які ўвесь быў у будучыні ў самым канкрэтным сэнсе гэтага слова, – заўсёды думаеш: як многа мог бы ён зрабіць і як многа страціла літаратура ад таго, што пісьменнік гэты не папрацаваў у ёй на поўную сілу”.

Л і т а р а т у р а:

1. Лидин Вл. Платон Галавач // Галавач П. «Сквозь годы». – Минск, 1965. С. 6.
2. “Чырвоная змена”, 25 мая 1931 г.
3. “Чырвоная змена”, 5 чэрвеня 1931 г.
4. Тамсама.
5. “Чырвоная Беларусь”. 1931. № 11-12. С. 3.
6. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей – НА РБ). Ф.4-п. Воп. 21. Спр. 366. Л. 22-26. Копія.
7. Звязда. 1933. 3 сакавіка.
8. “Полымя”, 1963. № 4. С. 170.
9. “Звязда”, 3 студзеня 1925 г.
10. Тамсама.
11. “Маладняк”, 1929. № 11-12. С. 182.
12. “Прожектор”, 1931. № 2. С.16.
13. “Літаратура і мастацтва”, 28 лютага 1932 г.
14. “Літаратура і мастацтва”, 18 студзеня 1933 г.
15. Тамсама.
16. Скрыган Я. Ранішнія росы. Мінск, 1965. С. 17.
17. Галавач П. Збор твораў у 3 т. Т.1. Мінск, 1958. С. 355.
18. Тамсама. С. 357.
19. Тамсама. С. 362.
20. “Літаратура і мастацтва”, 31 ліпеня 1934 г.
21. Галавач П. Збор твораў. Т.1. С. 371.
22. Булацкі Р.В., Карніловіч Э.А. Платон Галавач – публіцыст. Мінск, 1973. С. 100-101.
23. НАРБ. Ф.4-п. Воп. 16. Спр.111. Л.21-250.
24. НА РБ. Ф.4-п. Воп.16. Спр.111. Л.30-32.
25. “Звязда”. 6 лістапада 1925 г.
26. Галавач П. Вінаваты – Мінск, 1930. С. 3-4.
27. Галавач П. Збор твораў. Мінск, 1958. Т.2. С. 108.
28. Там жа. С. 109
29. “Литературная газета”, 10 июня 1931 г.
30. “Літаратура і мастацтва”, 6 студзеня 1936 г.
31. Гісторыя беларускай літаратуры ХХ стагоддзя. Т.2. С. 598-599.
32. Матэрыялы да справаздачы ЦК КП(б) Беларусі XVI з’езду КП(б)Б. Менск. Чэрвень 1937 г. С.101-102.
33. НА РБ. Ф.4. Воп.21. Спр. 1376. Л. 102-116.
34. НА РБ. Ф.4. Воп.21. Спр. 1690. Л. 328.
35. “Маладосць”, 1988, №1. С. 153.

памяць

Рыгор Сітніца



…А ўсё, што да часу няведама нам,
Табе ўжо вядома…

# Па розныя бакі Вечнасці

***Наўздагон Сержуку ЦІМОХАВУ***

* * *

Яшчэ ты паблізу, і пыл пустаты
Пакуль не прысыпаў зямныя сляды твае;
Яшчэ за табой дагараюць масты:
Яшчэ табе пошта прыносіць лісты,
Якія цяпер толькі сум перачытвае;

Бо зменены адрас, і толькі журбе
Куты абжываць у вакантнай прасторы...
Сярожа, паслухай, ну як там табе
За межамі нашай садомагаморы?

Ну як табе там, перайшоўшы за край,
Блукаецца ў вышніх тваіх раздарожжах?
Паслухай, хоць неяк, ды знак нам падай,
Што там табе хораша, чуеш, Сярожа?

А мы, як заўсёды, у ступе ваду
Таўчэм і змаганне вядзем з ветракамі,
І боль спасцігаем, – даруй, – на хаду...
Ды не абтрасеш, нібы смецце, бяду,
І гнёт не адкінеш з душы, нібы камень.

І цісне журба, кіпцюрамі шкрабе.
І зноў я прашу: «Ты прымі яго, Божа».
І можа, хоць гэткая лепта табе
Па сцежках нябесных ступаць дапаможа.

А нам па балючых рахунках жальбе
Плаціць: пасумуем, паплачам, памучымся,
Ды ўсё ж, не крыўдуй, але жыць без цябе
Паціху-патроху мы неяк навучымся.

Так вучыцца пальцамі бачыць сляпец,
Так голас у жэстах нямы здабывае,
Так я не прымаю татальны канец,
Бо ведаю, што пустаты не бывае.

Не можа жывое зрабіцца нічым,
Душа пустатою зрабіцца не можа;
І, каб жа хоць неяк табе памагчы,
Шапчу наўздагон: «Пашкадуй яго, Божа».

І веру, што годна прынятая там,
Душа на Дзяды прылятацьме дадому...
А ўсё, што да часу няведама нам,
Табе ўжо вядома.

*9.10 – 17.10.2012.*

Гэты верш папрасіўся да жыцця ў скрушны дзень развітання з Сяргеем Цімохавым, а канчаткова займеў сваё аблічча праз дзевяць дзён, калі душа Сяргеева пакідала тутэйшыя абшары, каб рушыць далей па дарозе да Божага валадарства.

Цяпер, калі ад таго развітання прамінула больш за пяць месяцаў і скруха трохі прыцішылася, аніяк не пакідае адчуванне нейкай дзікай абсурднасці, што ўсё сталася так, як сталася, і трэба, перасільваючы сябе, звыкацца з тужлівай неабходнасцю гаварыць пра Сержука ў прамінулым часе.

Яно й сапраўды – дзікі абсурд, бо гаварыць у прамінулым пра таго, хто меў велізарны зарад на стогадовае жыццё, азначае зноўку вярэдзіць ледзь-ледзь прыціхлы боль.

Аднак жа казаць трэба, бо столькі было не сказана своечасова, што застаецца цяпер прамаўляць наўздагон, наіўна спадзеючыся, што ён пачуе.

А калі так, дык і зварот мусіць быць наўпроставым.

Дарагі мой сябра. Сталася так, што, ачоліўшы разам з Уладзімірам Савічам Беларускі саюз мастакоў, апошнія амаль пяць гадоў мы пражылі ў адзінай прасторы, якая звяла нас настолькі, наколькі сыходзяцца людзі, каб пачувацца сябрамі. І цяпер я дужа шкадую, што гэтага не адбылося раней, бо ўсё ж, здаецца, спрыяла гэтаму: і вёскі, у якіх мы нарадзіліся, ляжаць на адлегласці нейкіх сарака кіламетраў, і ў адзінай alma mater вучыліся амаль адначасна, і бачыліся штодня, і Беларушчынай прычасціліся разам і назаўсёды...

Трохі пазней, калі па заканчэнні інстытута мы жылі на пэўнай адлегласці, ты спакваля пачаў набліжацца: тваё з'яўленне амаль на кожнай менскай выставе не толькі засведчыла тваю прысутнасць у нацыянальным мастацкім кантэксце, але й прымушала захапляцца. Захапленне гэтае з кожным разам узрастала, ажно пакуль не сфармавалася ва ўстойлівае перакананне, што ў беларускай арт-прасторы заняў сваё трывалае месца мастак, чыя творчасць не толькі адметная найвышэйшым майстэрствам і вытанчаным густам, але й глыбіннай нацыянальнай філасофіяй ды скіраванасцю на няспынны пошук новай пластычнай мовы.

І ўжо немагчыма было ўявіць нашу мастацкую грамаду без тваёй прысутнасці,



*Сяржук ЦІМОХАЎ. Верасень 2010.*

якая нават сціплую выставу магла ператварыць у адметную з’яву наяўнасцю на ёй тваіх твораў. І мы ўжо чакалі новых адкрыццяў ды новых уражанняў. І чаканне гэтае зрабілася ўстойлівай звычкаю, бо ты ані не расчароўваў нас. І заставалася толькі радавацца, светла зайздросціць ды цешыцца з таго, што ты ў нас ёсць.

Твой уплыў на мастацкае наваколле шматкроць падвысіўся, калі ты займеў сталае жыхарства ў Менску. Гэта акурат супала з магутнай хваляю нацыянальнага адраджэння, якая не толькі ўзняла нас на прынцыпова іншы кшталт свядомасці, але й наталяла магутнай энергіяй нацыянальнага космасу. Родная мова, праўдзівая беларуская гісторыя, традыцыі продкаў, этнаграфія, фальклор, рэлігія – усё гэта апанавала нашыя душы і завалодала творчасцю.

І быў плён. Мастацкая суполка “Пагоня”, якая аб’яднала мастакоў нацыянальна-патрыятычнага светапогляду, на той час зрабілася дамінантай нефармальнага мастацкага руху. І ты быў у эпіцэнтры. Твая магутная творчая энергетыка, спалучаная з зайздроснай вясёлай лёгкасцю ды шляхетнасцю, вабіла многіх.

Раз-пораз пачалі трапляцца на вочы твае пераймальнікі, што выразна сведчыла пра высокі аўтарытэт ды яркую творчую адметнасць мастака, бо эпігоны пераймаюць толькі сапраўды вартае. Але пераняць яны могуць хіба знешняе ды павярхоўнае. Глыбіні ім недасяжныя.

Ты ж быў заглыблены ва ўсе стыхіі нашага свету. Адсюль твая апантаная цікаўнасць да пракаветных, дахрысціянскіх вераванняў нашых продкаў.

Творчы вынік гэтай заглыбленасці быў сапраўдным адкрыццём: новая тэма спарадзіла новую форму, чыёй віртуознай адметнасці нельга было не заўважыць.

І заўважылі, ды яшчэ й як: і Варшава, і Масква, і Лондан, і Львоў, і Рым, і Вільня, і Белград, і ... Геаграфія тваіх персанальных выстаў шырылася й шырылася. Гран-пры, якое атрымаў ты на 7-й міжнароднай біенале ілюстрацыі ў Белградзе, ды сталае супрацоўніцтва з аўтарытэтнымі галерэямі Польшчы, Расіі, Германіі,

Вялікабрытаніі засведчылі, што распешчаная і перанасычаная міжнародная арт-супольнасць цябе не толькі заўважыла, але й запаважала.

І тут анічога дзіўнага: твая пластычная мова была такой адметнай, яркай і сучаснай, што не звярнуць на яе ўвагу было проста немагчыма.

Асаблівага ўзнёслага захаплення заслугоўвала твая графіка. Тэма ню патрабуе ад мастака не толькі высокага майстэрства, але й вытанчанага густу ды надзвычайнай далікатнасці, якая, засцерагаючы ад вульгарнасці, дазваляе давесці сузіранне жаночай прыгажосці да найвышэйшага эстэтычнага кшталту. І гэта ў цябе атрымалася, як магло атрымацца ў вялікага таленту, пацалаванага Звышнім. Тваё графічныя паненкі гучаць як найвышэйшыя ўзоры паэзіі і адухоўленасці, роўныя класічным здабыткам.



*С. ЦІМОХАЎ. "Дыялог з птушкамі", 2005.*

Ты быў паспяховы і, трэба думаць, шчаслівы: і як мужчына, і як асоба, і як мастак, і як бацька... За цябе можна было толькі радавацца, табой варта было ганарыцца, табе, напэўна, можна было па-добраму зайздросціць...

Але зайдрасць бывае рознай, у тым ліку і атрутнай. Відаць, была й такая. А ты і не думаў ад яе бараніцца, ды й не задумваўся, Хто нас ад такога бароніць.

Цяпер, калі ты далёка, я зноў скрушна пашкадую і ў чарговы раз паўтару казанае-пераказанае: як мала гаворым мы бліжнім сваім добрых слоў, асабліва калі яны цалкам заслужаныя! Як няўклюдна і зніякавела выглядае нясказанае своечасова, але апраўдальна прамоўленае наўздагон!

Аднак Бог засцярог мяне ад атэізму, і, размаўляючы з табой цяпер, веру, што прамаўляю не ў пустату.

За гады, пражытыя разам, мы даволі шмат па-сяброўску дыскутавалі з табой на тэмы духоўныя.

Ды іначай і быць не магло. Твая творчасць, у якой бы сучаснай форме ні выяўлялася, заўсёды несла ў сабе высокую духоўную насычанасць, угрунтаваную на беларускіх этна-касмаганічных традыцыях. Цябе займалі праблемы разумення глабальных узаемасувязяў Зямлі і Сусвету, чалавека і наваколля, матэрыі і духа; магчымасці адшукаць адказы на праблемы і пытанні сучаснасці ў пракаветным духоўным досведзе нашых продкаў, у сакральных таямніцах старажытных культаў.

Шчыра й глыбока захоплены тваёй творчасцю, дый сам у пэўнай ступені не цураючыся гэткіх вабных цікавостак, я аднак у нейкі момант адчуў смутную душэўную насцярогу адносна твайго захаплення паганствам, балазе сам ужо даволі выразна скіраваны ў бок Хрысціянскага светапогляду.

Бяспрэчна, мастак мае права цікавіцца й захапляцца ўсім, што трапляе ў сферу ягоных прафесійных інтарэсаў. Больш за тое: глыбокае вывучэнне і мастацкае адлюстраванне айчыннай гісторыі і размаітых духоўных практык нашай нацыі не можа выклікаць ніякіх пярэчанняў ці насцярогі, пагатоў, калі гэтае захапленне спараджае выдатны мастацкі плён.

Аднак жа з нашых размоваў вынікала, што тваё захапленне паганствам куды большае, чым прафесійная зацікаўленасць. Твая заглыбленасць у дахрысціянскія культы як у праўдзівую народную рэлігію нашых продкаў, здалося, сфармавалася ў перакананне, што гэта і ёсць нацыянальнай духоўнай альтэрнатываю хрысціянству, асабліва калі яно часам падаецца ў імперскай аблямоўцы, што ў такім разе куды больш палітыка, чымся духоўны арыенцір.

Аднак жа наіўна і небяспечна атаесамляць Хрыста з шавіністычнымі трызненнямі нейкага, не самага разумнага клірыка.

Я, як мог, гэтаму пярэчыў, ніяк не аспрэчваючы права на мастацкую прафесійную захопленасць тым, трэба прызнаць, вельмі цікавым і надзвычай вобразным матэрыялам. Аднак жа я ніяк не мог пагадзіцца з перакананнем, што паганства ёсць слушны духоўны выбар, пагатоў, маючы ўжо асабісты вельмі пакутлівы, ды ад гэтага яшчэ больш пераканаўчы досвед і выбар.

На вялікі жаль, мы не дагаварылі, і цяпер мне вельмі скрушна прыгадваць, што тое-сёе з прамоўленага тады неўзабаве пачало жахліва збывацца.

Бяда заўсёды нечаканая, пагатоў, калі яна аніяк, ні на мізэрнае каліва нестасоўная з тым, каго выбрала. І тым яна жахлівей, бо замахнулася на таго, хто быў увасабленнем найлепшых чалавечых якасцяў, хто ўсёй сваёй сутнасцю быў адпаведны Божай задуме і, здавалася, запраграмаваны на доўгае і шчаслівае апраўданне свайго таленту як нябеснага падарунка.

Цяпер, калі рэха той бяды патроху аціхае, людзям, якія цябе любілі тут, застаецца любіць цябе ў Вечнасці і спадзявацца, што ў Божым валадарстве табе добра, бо напрыканцы зямнога шляху ты ўсё ж паспеў зрабіць некалькі вельмі істотных і прынцыповых крокаў насустрач Звышняму.

Да таго ж, усё пражытае табой і зробленае, не толькі пакінутае нам як працяг твайго існавання ў тутэйшым вымярэнні, але і як спадзяванне, што сваім жыццёвым і творчым чынам ты апраўдаешся перад Богам не толькі за свой велізарны, падораны Ім талент, але й за вольныя ці міжвольныя правіны, ад якіх не застрахаваны ніхто з жывых.

Цяпер, калі мы па розныя бакі Вечнасці, раз-пораз гледзячы на фотаздымкі, на якіх мы тут і разам, я яшчэ й яшчэ раз усведамляю


*С. ЦІМОХАЎ. “Ню”, 2005.*


С. ЦІМОХАЎ. “Ню”, 2006.

надзвычайную крохкасць ды невымерную каштоўнасць чалавечага існавання й неспасціжнасць Божай задумы, якая раз-пораз паводле нашых мерак можа падацца нават несправядлівасцю.

Але ці ж можам мы з нашымі амаль дзіцячымі ўяўленнямі зразумець і ацэньваць справядлівасць Звышняга?

А таму, прыгадваючы цябе, гледзячы на твае дзівосныя творы, застаецца падзякаваць Богу за тое, што Ён гэтак шчодра надзяліў цябе; што Ён дае мастакам шчаслівы прывілей, адыходзячы заставацца і працягваць Ягоную справу, памнажаючы святло.

І ты застаешся. І прысутнасць твая будзе толькі ўзрастаць, бо зробленае табой ёсць сапраўдным скарбам нацыі, якой яшчэ трэба ўсвядоміць духоўную цану гэтага скарбу. А нам належыць паруціцца, каб гэта сталася як найхутчэй.

А яшчэ застаецца абавязак памінаць цябе, маліцца за цябе, дапамагаючы душы тваёй ды і сваёй таксама; замацоўваючы тваю прысутнасць не толькі ў нашай памяці, але і ў канкрэтных справах.

А яшчэ застаецца ціхая ўдзячнасць, што нам дадзена было пажыць разам: любіць сваё роднае, слугаваць нашым нацыянальным святыням, разумець прыгожае, памнажаць хараство, цешыцца з сапраўдных каштоўнасцяў, мацаваць цела і дух Беларушчыны, быць прыкладам для іншых і, не шкадуючы, раздаваць сябе добрым людзям, як гэта рабіў ты.

Дзякуй табе, Сяржук.

***P. S.***

Часу віхуры
　　спакваля ахаладжваюць кроў,
Галаву калісьці русявую
　　замятаюць завеі срэбныя...
Бог забірае
　　найлепшых маіх сяброў:
Богу таксама
　　сябры патрэбныя.

*2013 г.*

Іван Штэйнер



...адна з асноўных рыс Сіўко-пісьменніка – пошукі новых формаў і іх прывязка да нацыянальнай традыцыі...

# Добры дзень, Франц Іванавіч!

***Штрыхі да творчага партрэту Франца СІЎКО***

У анатацыі да адной з кніг таленавітага віцебскага празаіка Франца Сіўко сцвярджаецца, што аўтар у творах апошніх гадоў даследуе асаблівасці нацыянальнага менталітэту на пераломным этапе станаўлення незалежнай беларускай дзяржавы, адлюстроўвае вострыя сацыяльныя і маральна-этычныя праблемы сучаснасці. Цалкам пагаджаючыся з падобнымі высновамі, хочацца паасобныя з іх адзначыць больш рэльефна, узмацніць і пашырыць, каб больш адэкватна спазнаць сутнасць паняцця *сучаснасць* і звязаных з ім праблемаў пераемнасці і традыцыйнасці. Бо самі кнігі адметнага празаіка, на наш погляд, даюць для гэтага сур'ёзныя падставы.

Паасобныя творы Ф. Сіўко апошніх гадоў, і асабліва аповесць "Удог", што была надрукавана ў часопісе "Полымя", а затым надзвычай аператыўна як для опуса *правінцыйнага* літаратара перакладзена для "Нёмана", прымушаюць адразу згадаць класічную традыцыю, звязаную, у першую чаргу, са слаўным Янам Баршчэўскім. І не толькі таму, што Ф. Сіўко – зямляк

вялікага рамантыка, што таксама даволі сімптаматычна. Але найперш схільнасцю да асэнсавання надзвычай складаных, анталагічных праблем бытавання беларусаў на гэтай зямлі, што, на жаль, актуальна для нас як у сярэдзіне XIX, так і на пачатку XXI стагоддзя.

Галоўная з іх – часовасць нацыі ў свеце, якая не ўспрымаецца гаспадаром гэтай быццам бы для яе Богам дадзенай зямлі. Прычым як самімі беларусамі, так і больш-менш нахабнымі і не вельмі суседзямі. Першым гэтую амбівалентнасць існавання заўважыў якраз Ян Баршчэўскі, які ўжо ў тыя часы не ўспрымаў новых парадкаў, што разбураюць традыцыйныя асновы, адвяргаў свет, дзе ўсё прадаецца і купляецца, а таму адлюстроўваў рэальнае ў алегарычна-міфалагічным аспекце.

Праўда, даволі часта разбураныя могілкі, апаганеныя святыні, разрабаваныя курганы, дзе пахаваны героі мінуўшчыны, над якімі рыдае Плачка, у "Шляхціцы Завальні" Яна Баршчэўскага ўспрымаліся як месца бою Бога з сатаною. Стрымліваючым пачаткам для чалавека павінен быў быць страх Божы, г. зн. такое "благоговение к беспредельной святости Божей и такое опасение оскорбить господа нарушением Его святой веры, что невольно развивает в христианине особенную бдительность, смиренине. Христианин, исполненный страха Божия... почитает гнев Отца небесного величайшим для себя несчастьем, а потому старается, что бы не прогневать Его" (Библейская энциклопедия, 678). Інакш заўсёды напаткае кара нябесная.

У якасці пакарання для мясцовых жыхароў Ян Баршчэўскі выбірае нейкіх загадкавых прыхадняў, "асташоў з шырокімі бародамі, круглымі тварамі і вялікімі скуранымі фартухамі". Паганыя людзі, звязаныя з чарнакніжнікам, "пасылаюць пад лёд злога і той заганяе рыбу ў нерат, дык яны спустошылі ў нас азёры, навучылі нашу моладзь бязбожным учынкам, чарам, бессаромным песням." Менавіта яны і ўяўляюць галоўную небяспеку: "Даўней і пра тых асташоў нікому і не снілася, а цяпер хутка забяруць у нас зямлю і ваду, так што і нам трэба ўжо ўцякаці куды далей".

Рэальна-фантастычную прыпавесць у духу свайго вялікага папярэдніка (зразумела, з адпаведнымі часавымі зменамі) аб гібельнасці і незваротнасці дадзенага працэсу і паведаў Франц Сіўко ў аповесці-прытчы "Удог". Як і ў класічных узорах жанра (успомнім смакоўніцу, вінаград, пшаніцу ў прытчах Хрыста, дрэва, падгрызваемае чорнай і белай мышамі ў прытчы пра адзінарога), загалоўным стане ў ім сімвалічнае напаўлегендарнае дрэва *удог*. Дарэмна эрудыты ад батанікі гартаюць слоўнікі і энцыклапедыі – падобнай расліны ў прыродзе не існуе, гэта проста мастацкая знаходка аўтара, які стварыў складаную метафару чужынца (незразумелага, падазронага, магутнага, каварнага, хітрага etc.), прывіўка якога на чужародную глебу спалучаецца з выключнымі трагічнымі і крывавымі падзеямі. Бо нельга перасадзіць на чужую зямлю дрэва ў ягонай поўнай сіле – змарнее і счэзне. Іншая справа – маленькае семя, сіла якога непамерная. У прыпавесці нумар два Хрыстос апавядае пра добрае семя і плевелы. Якраз нячысцік, выкарыстаўшы сон чалавечы, і засявае апошнія сярод першых. Вораг чалавечы апякуецца гэтым невядома да якога роду належным дрэвам, клапоціцца пра яго, абараняе ў хвіліны небяспекі. Невыпадкова працэс ягонага апекавання ў творы нечым схаваным, унутраным нагадвае працэс выседжвання цмока з яйка, знесенага чорным пеўнем.

Ды і сам ён суправаджаецца, як і ў "Шляхціцы Завальні", анамальнымі з'явамі. Сапраўды, узнікненне нячыстай сілы ў навелістыцы Яна Баршчэўскага заўсёды звязана з навальніцай, маланкай, землятрусам. Тое ж характэрна і для мастацкай атмасферы твораў нашага сучасніка. Так, у прыватнасці, Ф. Сіўко апісвае гром сярод яснага неба: "На небе не было ні хмурынкі, а гром не сціхаў увесь надвячорак. Сіплаваты, як кашаль сухотніка, ён нечакана ўсчынаўся дзесьці ўдалечыні,

пракаціўшыся па наваколлі, павольна патанаў у знямелых ад пярэпалаху гаях і дубровах. Кожны раз зямля страхавіта ўздрыгвала пад ягонымі ўдарамі, а аблепленыя птушкамі дрэвы глуха рыпелі патрывожаным голлем. Раптам невядома адкуль узлятаў вецер, разбэрсваючы леташні сухастой на балацінах, з гучным самотным свістам кружыў над імшарамі. Спалохаўшыся яго, птушкі сягалі па-над дрэвамі, павісеўшы ў паветры хвіліну-другую, як толькі ён аціхаў, роем клаліся назад, на голыя з зімы камлі. Зрэдку грымоцце суправаджала бліскавіца. Тады гром неяк глушэў, рабіўся кароткі і рэзкі, бы пошчак пугі". У такі момант і высаджвае Пелагея расток невядомага дрэва-чужаніцы, якое павінна завалодаць гэтай зямлёй. Гэта значыць, перад намі дзве роўнавялікія падзеі, значнасць якіх пачварна велізарная – з'яўленне цмока і высадка саджанца. Невыпадковы і той факт, што як з узнікненнем першага ў доме Карпы пачынаюцца з'явы палтэргейста, так і са з'яўленнем Пелагеі ўзнікаюць спарадычныя і масавыя (прычым мэтанакіраваныя) псіхозы (рэальныя і не вельмі). У творы Ф. Сіўко гэта, у першую чаргу, апісанне чатырнаццаці моцных дзецюкоў-паўстанцаў, якія адурманена знішчаюць усю расліннасць навокал. Зразумела, што засталася толькі адзіная расліна – нядаўна пасаджаны ўдог.

Страшэннае дрэва – блізкі родзіч пушкінскаму анчару, якога "природа жаждущих степей породила в день гнева», напаіўшы лісты і кару страшэннай атрутай. Усё жывое баіцца анчара, і толькі горны віхор налятае на ягоную крону "и мчится вдаль, уже тлетворный». Чалавек страшнейшы за звера ў сваім памкненні да знішчэння, таму ён і песціць уласны анчар-удог: "Яна варухнулася, правяла далонню па вуснах. Крыві на гэты раз не было, але галава балела моцна. «Сон, значыць», – мільгнула думка і тут жа знікла, адціснутая ў нетры памяці новым, цяпер ужо рэальным, уражаннем.

За вакном, шлопаючы лісцем, чырванела ў промнях цьмянага, прытомленага за лета вандроўкамі сонца безназоўнае дрэўца з невялікімі, з вішніну, ягадзіцамі ўсцяж галін – акурат тое, што саснілася ў сне.

Яна падхапілася, не зважаючы на млявасць у нагах, падбегла да вакна.

«У-до-ог!» – гэтак, здаецца, назваў яго вар'ят з акрываўленымі рукамі. Дзядзька Андрэй кажа, быццам вывелі яго, прышчапіўшы флянец ад пасаджанага нейкім царом у ваколіцах аднаго мястэчка блізу Дубраўкі і прывезенага графам пасля вайны. Быццам з крыві забітых людзей узышоў парастак і палівалі яго вадою з ракі, у якіх тых забітых утапілі. І быццам такое атрутнае яно, гэтае дрэва, што як паясі варыва з ягоных ягад, здурнееш і будзеш рабіць абы-што".

Дзеянне сваёй прыпавесці ў часопісным варыянце Ф. Сіўко пачынае з 1831 года, г. зн. за дзесяць гадоў да з'яўлення першых тамоў "Шляхціца". Па сутнасці, мы можам прасачыць паралельны духоўны ўплыў філасофскай ідэі Яна Баршчэўскага і фізічнай дыверсіі, учыненай Пелагеяй. Таму заканамерна, што першая частка прыпавесці Ф. Сіўко ўспрымаецца своеасаблівым пралогам, а галоўнае дзеянне разгортваецца ўжо не ў сярэдзіне XIX ст., як ў "Шляхціцы Завальні", а ў другой палове стагоддзя XX-га, аднак у той жа самай мясцовасці, у прыкладна падобных умовах, у той самай сям'і. Для прыпавесці з яе выразнай умоўнасцю гэта надзвычай заканамерна. Тым болей, што разам са злым духам Нікітронам, які з'яўляецца з язычка агню, – "Полымя свечкі ўсё вышэй і вышэй падымаецца ўгору, і тут з яго ўзнікае высокая лёгкая і гнуткая чалавечая постаць, саскоквае на падлогу, і вось ужо стаў перад ім чалавек у пунсовай вопратцы", – нячыстая сіла пералятае ў нашыя дні і авалодвае адным з герояў. Злы дух пранікае не толькі ў свядомасць, але і ў душу героя твора Ромкі, якую той раскрыў сусвету неўсвядомленым забойствам бацькі.

Гэтае ззянне, *сияние*, застаецца з хлопчыкам назаўсёды. Падобнай творчай знаходкі ў беларускай мастацкай традыцыі яшчэ не было. Аўтар смела, нават падчас

рызыкоўна ўводзіць у тэкст твора (заўсёды вылучаючы нават графічна) матыў хваробы, калі нібы фурыі да ахвяры, у свядомасць хлопца пранікае вобраз бацькі ў самых фантастычных праявах ягонай гібелі. (Па сутнасці, можна нават скласці невялічкі асобны калейдаскоп трызненняў героя). І як сакральная хвароба таго ж Цэзара, прадвызначае ягоную долю і ў рэшце рэшт спапяляе (фізічна і метафарычна) няшчаснага. Зразумела, згаданае *сияние* адразу выклікае пэўныя асацыяцыі са славутым раманам *караля жахаў* Стывена Кінга. Аднак тут мы маем справу хутчэй з супадзеннем эвалюцыі, развіцця вобразнасці ў двух выключна непадобных пісьменнікаў. Бо ў амерыканскага літаратара забойчае ззянне накіравана вонкі ад асобы, на іншых; у беларускага, у поўнай адпаведнасці з менталітэтам, на сябе, на самазнішчэнне і самаразбурэнне. Гераіня Кінга можа помсціць свету, Ромка – толькі сабе, бо непераадольны жах прымушае юнака баяцца нават сонца.

Ды і рэальная нечысць у Ф. Сіўко не менш жахлівая, чым нібы фантастычная ў Яна Баршчэўскага. Якраз яна, амаль віртуальна, прыбірае ксяндза, што з'яўляецца ўвасабленнем добрага пачатку, люта ненавідзіць усё мясцовае – *з іх недарэчнымі імёнамі і звычкамі. Гэтае нельга, тое – нявольна,* знішчае ўсё наваколле. І не менш паспяхова вядзе *тутэйшых* на знішчэнне ўжо адноўленага палаца – сімвала гістарычнай памяці. Ф. Сіўко ў прыпавесці – песіміст у вызначэнні гістарычнай перспектывы беларусаў, у творы ён падчас нават фаталіст. Ці не таму невыпадковы і фінал твора, у якім вёску Дубраўка перайменавалі ў Падкрайну. Ды яшчэ падкузьмілі: "Скажы дзякуй, цётка, што свісцёлкай не назвалі. Усе вы тут свістуны, сваё прасвісталі".

Ф. Сіўко яшчэ не даходзіць да апісання пачварнага, страшэннага д'ябла, які ў творы Яна Баршчэўскага крыкам крычыць, пералічваючы віцебскія азёры, і пасля кожнай назвы гарланіць: "Маё!". Аднак прадчуванне блізкай катастрофы пануе ў атмасферы твора, разліта паўсюдна. Д'ябал выступае ў самых разматых абліччах, падчас нават супярэчлівых, што, аднак, зусім яму не перашкаджае ўздзейнічаць на людзей, спакушаць іх.

Як бы баючыся, што ягоная галоўная думка застанецца незразумелай, ці нават не давяраючы ў нечым чытачу, які зможа толькі ўбачыць знешні антураж падзей, а не іх вялікі філасофскі пачатак, у кніжным варыянце пісьменнік даў працяг прыпавесці "Удог", назваўшы яго "Голас", дзе захацеў паказаць магчымы працяг гэтага незвычайнага здарэння, а потым зусім кардынальна змяніў структуру і змест твора ("Ягня ахвярнае: Прыпавесці, аповесць. – Віцебск, 2003), значна пашырыўшы хранатоп твора. Што ж, падобная справа традыцыйная для беларускай прозы, дзе амаль кожны аўтар пасля з'яўлення таленавітага рамана спрабуе адразу працягнуць яго, ператварыўшы задуму ў эпапею (прыкладаў гэтаму – легіён, прычым празаікі даволі часта забываліся на народнае: кожная наступная жонка ў два разы горшая за папярэднюю). Уяўная глыбакадумная іронія зусім не тычыцца творчага эксперыменту Ф. Сіўко, які выключную ўвагу ўдзяляе (не ў прыклад нашай звыклай традыцыі) паэтыцы сваіх твораў. Гэта і дзяленне звыклага мастацкага тэксту на пралогі і фіналы, паказ адной і той жа падзеі з пункту гледжання ўсіх яе ўдзельнікаў і сведкаў, каментары зусім, здавалася б, пабочных асобаў, з'яўленне фантастычных вобразаў, што цалкам апраўдвае ўмяшанне іх, нягледзячы на пратэст аўтара, у ход развіцця падзей і далейшы лёс ягоных герояў. Хаця аповесць Ф. Сіўко мы называем з поўным правам прыпавесцю, аўтар свядома пазбаўляецца ад прамых маралізатарскіх высноваў і прымітыўных павучанняў. Як і ў класічнай прытчы, ён дае магчымасць чытачу зрабіць уласную выснову ў поўнай адпаведнасці з уласным жыццёвым і мастацкім досведам.

Так, цяпер з адной прыпавесці, па сутнасці, вырастаюць тры. Першая з іх, "Угліс", пачынаецца з 1570 года ўступнай навелай "Падпал", у якой паказана, як апрычнікі знішчаюць мястэчка разам з жыхарамі. Страшэнныя сцэны катавання

мірных людзей, іх гібель у палонках, енк маленькіх дзяцей назаўсёды застаюцца ў памяці зямлі, што сціснулася ад жаху, а сама яна напоўнілася не толькі крывёю ахвяраў, але і сокам абшкуматаных згаладнелымі вуснамі нетутэйшых ягад. Тым самым аўтар значна пашырае храналагічную прастору дзеяння, што дазваляе яму ўбачыць значна глыбей і далей вытокі і сутнасць праблемаў, якія з'явіліся і развіваліся да таго, як людзі пачалі іх усведамляць.

Па сутнасці, Ф. Сіўко захоўвае асноўныя прыёмы паэтыкі класічнай прытчы: ён не імкнецца да стварэння разгорнутага, псіхалагічна выверанага і пераканаўчага вобразу, які ў яго сістэме каардынатаў павінен найперш выступаць як характар, як носьбіт пэўнай ідэі, сутыкненне якіх і павінна надаць дынаміку твору. Аўтар пазбягае падрабязных апісанняў з'яваў прыроды, ландшафту, што зусім не перашкаджае стварэнню панарамнага бачання поступу гісторыі.

Перад намі міні-раман, у якім паказаны цэлыя пакаленні людзей, якія ў той ці іншай ступені паўплываюць на змену падзей і нават прынцыпаў існавання мясцовага люду. Згодна з законамі класічнай прытчы, дамінуюць не самі носьбіты пэўных жаданняў і памкненняў, а іхнія духоўныя сутнасці – любоў, патрыятызм, нянавісць, ганарыстасць, пакорлівасць. Невыпадкова некаторыя паняцці ў творы пачынаюць уласнае жыццё – школа, помста, бурленне, падарожжа, апантанасць. Мяняюцца эпохі, мяняюцца часы, мяняюцца гаспадары жыцця (прыпавесць "Міжчассе" (1939-1952)), не мяняецца толькі сутнасць быцця. Не дзейнічае тут лацінскае выслоўе *Tempora mutantur et nos mutamur in illis* (*Часы змяняюцца, і мы змяняемся ў іх*), не мяняюцца людзі, бо нешта не дазваляе ім гэта зрабіць.

Лапідарная абмалёўка героя і падзеяў зусім не шкодзіць увасабленню адзінай задумы, наадварот, значна ўзмацняе вобразна-выяўленчую палітру твора, бо аўтар нават кароткімі апісаннямі, трапнымі характарыстыкамі стварае ўласную рэальнасць. Падобнае спалучэнне элементаў класічнай прытчы з мазаічным адлюстраваннем рэчаіснасці і дапамагае ўсталяванню беларускай разнавіднасці класічнага і аўтарскага жанру – *прыпавесці*, якая валодае выключнымі магчымасцямі.

Усё гэта ўласціва і па-мастацку завершанай *прыпавесці* "Дзень Бубна", што друкавалася ў "Дзеяслове", а потым увайшла ў аднайменную асобную кнігу (2007) з эпіграфам: "Любові, гарчэйшай за мёд". Любові, падкрэслівае аўтар, а не каханню, бо першае паняцце намнога аб'ёмнейшае і змястоўнейшае, чым апошняе, бо ўключае і яго ў свае абшары. Як заўсёды, і ў гэтым творы Ф. Сіўко выступае эксперыментатарам, наватарам. І не толькі таму, што гераіняй прыпавесці становіцца Стужка, вугрыха, якая здзяйсняе наканаваны ёй спрадвечны вырак – даць новае жыццё і памерці самой у такіх далёкіх і такіх родных хвалях Саргасава мора. У нацыянальнай мастацкай традыцыі ўжо з'яўляліся творы, героямі якіх станавіліся зубр, мядзведзь, воўк, нават каза Цыля, што дазваляла пісьменніку па-свойму раскрыць гэты свет, убачыць яго з новага пункту гледжання. Віктар Казько ў адной са сваіх пранікнёных аповесцей "Цвіце на Палессі груша" паказаў двубой чалавека і вялікай рыбіны. Ф. Сіўко адметны ў сваім выбары. Вугор – гэта нешта прамежкавае паміж уласна рыбінай і жывёлай, бо ён зусім, дарэшты не належыць ні таму, ні гэтаму свету, ні вадзе, ні зямлі. Згадаем цудоўныя апісанні, калі Стужка, нібы маленькая лахнеская пачварка ці кобра, уздымаецца над водамі возера, рэчкі, акіяна, каб зарыентавацца, вызначыць далейшы вектар шляху, ацаніць сітуацыю ці проста падражніць мясцовы люд, пакпіць з *цюхаў*, як яна яго называе. Ці не адсюль легенды, што вугры паелі гарох, пазбівалі пасевы, нарабілі іншай шкоды, бо яны могуць падарожнічаць у росных травах?

Для нашага сучасніка на першы план выходзіць не экзотыка, хаця трэба адзначыць, што старонкі, дзе апісваюцца далёкае мора, экзатычныя рыбы, крабы, гэтыя грыфы і гіены падводнага свету, незвычайныя гарады, міма якіх праплывае гераіня, чытаюцца з вялікай цікавасцю, бо пісьменнік стварае амаль жывыя рэ-

альныя сітуацыі. Найперш прыцягвае погляд старонняй істоты, якая, аказваецца, валодае і розумам, і пачуццямі, падобнымі на сутнасць нашага, нібы чалавечага, існавання. І падобнае супастаўленне жыцця і памкненняў вугра і чалавека дапамагае стварыць адметныя сітуацыі, што дазваляе пачаць гаворку пра сутнасць экзістэнцыі. На жаль, як і ў большасці выпадкаў у класічнай літаратуры (згадаем хоць Свіфта), чалавек не вытрымлівае супастаўлення з прадстаўнікамі жывёльнага свету, саступае ім па многіх параметрах.

Трэба адзначыць, што ў прыпавесцях Ф. Сіўко, нібы ў музычных п'есах, заўсёды вылучаецца лейтматыў, які служыць камертонам развіцця дзеяння і будовы сітуацый. У згаданай прыпавесці гэта гукі бубна, якія маюць шырокую амплітуду – ад далёкага рэха да бравурнага марша, што заглушае, нібы ўдог, усё на свеце. Недарэчнасць падобнай з'явы, якой надаюць сімволіку свята, якраз і падкрэслівае яе ўспрыняцце вугром, гэтай істотай, якая, здаецца, і не павінна чуць падобныя гукі, бо ў яе зусім адметныя органы слыху. Аднак пастаянныя ўдары па скурах жывёлы, з якіх зроблены гэтыя інструменты, ствараюць адпаведную атмасферу пагрозы і немінучай бяды, нібы тамтамы паднявольнай Афрыкі. Невыпадкова аўтар настойліва падкрэслівае пачуццё страху, якое нібы разліта ў паветры, вадзе, на зямлі і якім кіруюцца мясцовыя людзі ў пастаянным жыцці. Менавіта страхамі і абумоўлена, з пункту гледжання Стужкі, нянавісць жыхароў прыазер'я да выдраў, баброў, андатраў, якіх яны знішчаюць бязлітасна: "І што найбольш уражвае падчас іх, дык гэта зацятасць, з якою, насуперак здароваму сэнсу, нішчыцца тымі ж цюхамі ўсё жывое. Быццам яны апошнюю хвілю жывуць пры гэтых рэках і азёрах і суровыя законы выжывання ніколі не запатрабуюць ад іх у прышласці расплаты за неашчаднае, бяздумнае ўчарашняе". Некаторыя з іх спрабуюць задумацца над гэтым, спыніцца на краі бездані: "Толькі вось што будзем рабіць, як скончыцца ўся гэтая маліна? Быдла пазбыліся, зямлю ўрабляць развучыліся – чым не пустадомкі", але ўсё заглушае бубен, які заклікае і прыводзіць у рух, наперад. Найменшыя зрухі душы забіваюць мажорныя рытмы свята, дзе ліецца бравурная чужая музыка, гучыць прыдворная паэзія чарговага фаварыта ад мастацтва, ладзяцца спаборніцтвы кшталту "хто кіне далей рыбіну".

Людзі забыліся свой шлях з вялікага мора шумнага жыцця ў маленькую рэчку-азярцо душы і назад. Вугор гэта помніць, бо, у адрозненне ад цюхаў, ён пераадолеў свой страх. Страх адзін, ён усемагутны, ад яго перахоплівае дыханне цюхаў. Стужка не чапляецца за імгненнае жыццё, яна, істота, адчувае, што павінна выканаць нешта значна большае. Вось чаму яна перарывае сувязь з возерам, дзе жыла з маленства, і сплывае ў акіян. Яна ніколі сюды не вернецца, але вернуцца яе нашчадкі і нашчадкі іншых вугроў, каб ажывіць сабою небагатыя, пранізаныя страхам ды адвечнай перасцярогай берагі.

Людзі, цюхі, як называе іх Стужка, згубілі гэты арыенцір, ён заглушаны ў іх душы гарэлкай, любошчамі, прымітыўнымі інстынктамі. Згадаем, што, нібы гуінгмы ў Свіфта, рыбы дамінуюць над чалавекамі і іхняй любоўю, якая зводзіцца да звычайнага задавальнення (усе героі так непрыгожа кахаюцца), вось чаму іх шлях толькі ў дом распусты, бо нідзе яны не знойдуць шчасця. І толькі мацярынства ўзвышае Кіці, гераіню твора, толькі ў гэтым яна ўздымаецца да ўзроўню Стужкі, толькі такім чынам можна перамагчы адвечны страх.

Эксперыментатарам пісьменнік застаецца ў аповесці "Мяціна дачка", да якой ён выбраў у якасці эпіграфа словы з Евангелля ад Мацвея: "Будзе ж слова ваша: "але, але", "не, не", а што апроч таго, тое д'яблава", дзе адзіная скразная падзея – пошукі маладой дзяўчынай слядоў сваёй маці. Аўтар сцвярджае, што няма адзінага для ўсіх успрымання рэчаіснасці, гэтага свету, людзей і іх учынкаў у ім, усе знаходзяцца ў пастаянным пошуку (усведамляючы тое ці не) самога сябе (падчас у прамым значэнні слова), сваіх продкаў, сябе ў людзях, бо нават

абыякавая прырода не заўсёды з'яўляецца такой на самай справе. Таму невядома, хто ж такі кіруе сусветам – доля ці проста яго вялікасць выпадак.

Ці з'явілася б на свет сама гераіня аповесці, калі б яе маці зусім выпадкова не сустрэў у адпаведным месцы п'яны вясковец. Ды і сам гэты факт можна ўспрымаць і ўспрымаецца ён у мастацкай тканіне твора выключна амбівалентна: як спакуслівая загадка для мясцовых пляткарак, як парушальнік балотнай цішыні ідыятызму вясковага бытавання, як трагедыя для жонкі падвыпіўшага гулякі. Ды і сам сексуальны акт Манькі і п'янага ўчотчыка ўспрымаецца вачыма і свядомасцю Гвіды як "любошчы: пасёння тое рыпенне ды Маньчыны стогны ўвушшу стаяць", а самой жанчыне здаецца агіднай брыдой: "На ложак паваліў ды арудуе, а ты тут потам халодным ад сораму ды страху аблівайся. Цьфу! Больш дваццаці гадоў мінула з таго дня, а дагэтуль помніцца".

Падобная падсветка (як на сцэне, калі менавіта плынню святла яскрава вылучаюцца тыя ці іншыя персанажы) пры ўсёй сваёй, здавалася б, немудрагелістасці, стварае дасканалую карціну быцця невялікага мястэчка і прыгараднай вёсачкі, дзе кожны заняты сваімі будзеннымі справамі: абрыдлай службай, купляй тавараў для будучага продажу ў Польшчы, прымітыўным – часцей за ўсё нахапкам у машыне ці аўтобусе – сексам, які пачынае ўспрымацца не як фізіялагічная патрэба, а своеасаблівая аддушына ад штодзённай мітрэнгі. Праўда, не трэба толькі ўскладваць на яго вялікія надзеі і сакралізаваць, як той няшчасны Івон. Лепш жыць так, як Данута, што лёгка забывае шафёра Сашку з ягоным бензінам і помніць пра жаданне выпадковага боўдзілы пагушкацца з ёю, тым болей што ён (боўдзіла) – выкладчык сельгасінстытута. Таму наўрад ці яго жаданне так і застанецца толькі жаданнем, бо Дануце ж трэба думаць пра будучыню.

Для Ф. Сіўко характэрная схільнасць да ўзнаўлення небудзённых падзей і сітуацый. Згадваючы яшчэ раз "Удог" з яго падчас рамантычнай выключнасцю, адзначым, што сюжэты практычна ўсіх ягоных твораў навелістычныя, бо вылучаюцца амаль заўсёды нечаканай канцоўкай. Па сутнасці, як у навеле пісьменнік апавядае аб найбольш выразным, пераломным моманце ў жыцці герояў, пасля якога яны ўжо не застануцца ранейшымі. Як і тыя, на вачах якіх ці пры непасрэдным удзеле якіх адбылося гэта ўсё. Гэта і неверагодная амаль што і па законах мастацкасці помста ў навеле "Выпадак на згоне зімы", і гісторыя няўдалага апазіцыянера ("Ля схову"), і дзіўная прыгода ў сям'і ("Намалюй вагон-другі"). Тым самым Ф. Сіўко сцвярджае, што маруднае бытапісальніцтва ў нашаніўскай традыцыі не для яго. У той жа час схільнасць да навелістычнасці нельга растлумачыць толькі жаданнем здзівіць чытача, звярнуць ягоную ўвагу. Франц Сіўко здольны па-майстэрску стварыць сюжэт, пра што мы пагаворым падрабязней крыху ніжэй. Разам з тым ён неблагі псіхолаг, які вельмі добра разумее душу маленькага хлопчыка Ежыка (не вожыка), што заблудзіўся ў жыце, такім густым і высокім, і страціў бабулін дом; дзяўчыны, што натужліва чакае хлопца, з якім, як добра тое ведае, не будзе лічыць зоры; старых жанчын, што дажываюць дні ў неперспектыўных вёсках (кожная з іх мае непаўторнае аблічча і характар), п'яніцы, цяжкахворага і г.д.

Ф. Сіўко – неардынарны, сапраўдны майстар дэтэктыўнага жанру. Да гэтага часу здзіўляюся, чаму гэта з поля зроку крытыкаў выпала ягоная кніжка "Апошняе падарожжа ў краіну Ліваў" (Мн., 1977), бадай што адзіны зборнік дэтэктыўных аповесцей (іх было пяць) у нашай літаратуры апошніх дзесяцігоддзяў. Тым болей, што якраз тады і нарадзіўся наш Мегрэ, наш Пуаро. Зусім не рафінiраваны эстэт ці джэльтмен, як ягоныя славутыя папярэднікі, без смокінга ці класічнага гарнітура, як і без адметнай люлькі ў руках. Тым болей быў бухгалтар (бадай што самая, як мы звыкліся, не рамантычная прафесія). Ды яшчэ і мае, у адрозненне ад згаданых класічных персанажаў, даволі звяглівую жонку, што, як вядома, ні

філосафу (згадаем Ксантыпу Сакрата), ні тым болей прыватнаму дэтэктыву ніколі не спрыяе. Аднак якраз такія *дробязі* і дапамагаюць зрабіць персанажа жывым, прымушаюць чытача паверыць у рэальнасць былога майстра лічбаў Юстынавіча, які на старасці гадоў крыху здурнеў. Бо які ж нармальны чалавек так хуценька забудзе свет казённых папераў, якім аддаў амаль сорак гадоў жыцця, і зоймецца навукай з дзіўнай мудрагелістай назваю – дыялекталогія. Ці не таму ён забывае і пра парсюка ў хляве, і пра разламаную загарадку... І хай людзі гавораць, што глупствам займаецца чалавек. А ён, можа, успомніў сваё юнацтва, калі вершы пісаў, калі хацелася быць чыстым у жыццёвай каламуці.

Вобраз бухгалтара Юстынавіча, які самахоць перакваліфікаваўся ў дэтэктыва-аматара, бясспрэчная ўдача пісьменніка. Ягоны герой з усімі выразнымі чалавечымі слабасцямі і недахопамі надзвычай выйграе ў параўнанні з вобразамі класічных герояў падобнага жанру. Як і ўсе дзейныя асобы з падобнай кагорты, ён дасканала валодае метадам дэдукцыі, выключнай інтуіцыяй. Аднак мы ніколі не страчалі дэтэктыва-філолага, – такая з'ява, як гэта ні парадаксальна, амаль не ўласціва еўрапейскай традыцыі. Хіба што згадаем два апавяданні К. Чапэка, дзе якраз філалагічны аналіз і асацыятыўнасць поруч з дасканалым веданнем псалмаў дапамаглі разблытаць злачынства, або нашага незабыўнага У. Караткевіча з ягоным "Чорным замкам Альшанскім". У папярэдняй кнізе Ф. Сіўко, з трыумфам правёўшы свайго героя сцежкамі роднага краю, былой краіны Ліваў, чарнаморскімі берагамі, набыў неабходны досвед і вельмі добра спасцігнуў значэнне і перспектыўнасць дэтэктыўных элементаў у мастацкай прозе.

Так, апошнія надзвычай выразна праяўляюцца ў прыпавесці "Удог". Прычым настолькі выразна, што падчас яны нават выконваюць структураўтваральную і вобразазнаўчую функцыю, што ў сваю чаргу ўплывае на развіццё сюжэту. Гэта і таямнічае знікненне, і раптоўнае з'яўленне герояў, і нечаканыя смерці, і пачварныя забойствы, і не менш яскравыя разборкі. Мы адрозніваем выразна дэтэктыўныя элементы і турэмныя замалёўкі, што вельмі добра паказана ў апошніх радках "Голасу" і аповесці "Трое". У кнізе пра незвычайнага пінкертона найбольш выразна дэтэктыўны пачатак прасочваецца ў навелах "Боты сіньёра Паскуаліні" і "Чалавек з армянскім прозвішчам", дзе аўтар заявіў сябе таленавітым канструктарам інтрыгі, здольным стварыць займальны сюжэт, які трымае чытача ў напружанні да самай развязкі. Разам з тым мы добра бачым, што перад намі твор беларускі, з беларускім светапоглядам, нягледзячы на знешнія атрыбуты. Боты паважанага італьянца, дробнага гандляра і бацькі двух сыноў, як і парыжскія могілкі з магілай славутай Эдзіт Піяф, – проста антураж да бліскуча праведзенага следства. У "Пеклах" старая папярэджвае, што нячысцік падсуклеціць чалавека думаць дрэннае, а тут і смерць, і ўсклікае: "О не пападзі ў тыя пеклы слоў". Так што здараецца і такое: мала таго, што чалавек не забіў фізічна, ён мог марыць пра смерць бліжняга, і тая прыйшла. Ці не таму так ашчадна працуе са словам і Франц Сіўко, у выяўленчай палітры якога сустрэнем і паланізмы, і рэгіяналізмы, слоўцы, што надаюць неабходны рэгіянальны каларыт (нават у некаторых выпадках ён дадае да тэксту слоўнічкі).

Не заўсёды крытыка падтрымлівала празаіка ў ягоных перспектыўных пошуках, сачыла за ягонымі поспехамі: не часта згадваецца ягонае імя пры асвятленні сучаснага літаратурнага працэсу, на што аўтар мае даўно заслужанае права. Аднак гэта не вельмі хвалюе аўтара, які мэтанакіравана ідзе па вызначаным шляху, на якім яго чакаў поспех.

Калі патрэбна было б ацаніць творчыя набыткі Франца Іванавіча-пісьменніка толькі б адным словам, то гэтае слова было б рост.

Бо нават не верыцца, што У. Дамашэвіч, благаслаўляючы ў свет першую кнігу аўтара "З чым прыйдзеш..." (1991) пісаў: "Манера яго пісьма ... традыцыйная, нібы ён працягвае нясконачаную некім песню, але голас у яго свой, адметны, не

падобны на іншыя. Тэматыка ў яго пераважна сялянская – гэта тое, што ён бачыў і перажыў дома, жывучы ў вёсцы". Аднак доўга ў апалагетах вясковай прозы Франц Сіўко не лічыўся. Другая ягоная кніга была зусім не вясковай, бо ўяўляла сабой пяць дэтэктыўных твораў, аб'яднаных постаццю адметнага як для сусветнай традыцыі жанру галоўнага героя з ягонай незвычайнай для класічных узораў спецыяльнасцю. Кнігі ж "Удог", "Ягня ахвярнае" засведчылі, што нацыянальная проза новага тысячагоддзя значна ўзбагацілася ўнёскам аўтара, які свядома абірае жанры філасофскай літаратуры – прыпавесць, эсэ, аналітычная развага, у якіх уздымае надзвычай складаныя праблемы нацыянальнай экзістэнцыі.

Кніга "Асіметрыя", якая выйшла ў 2005 годзе (выдавецтва "Беларускі кнігазбор"), вылучаецца сваёй прадуманасцю, агульнай мастакоўскай канцэпцыяй, што выразна сведчыць аб тым, што маем справу якраз з кнігай, а не зборнікам апавяданняў. І яе змест, і структура, і цудоўнае афармленне працуюць на тую ж канцэпцыю.

Адна з асноўных рыс Сіўко-пісьменніка – пошукі новых формаў і іх прывязка да нацыянальнай традыцыі. Так, першы раздзел складаецца з аповедаў ад першай асобы. Загалоўны з іх, "Бацечка Зэн", мае падзагаловак *аповед інсургента*. Перад намі – выразна новае слова ў паказе паўстання. І не толькі таму, што пра лістападаўскае паўстанне 1831 года амаль ніхто не пісаў, у адрозненне ад іншых, што ў розныя эпохі пракаціліся па Беларусі. Нейкае яно чужое, не наскае. А можа таму, што не асветлена ахвярнай і велічнай постаццю (згадаем Касцюшку, Каліноўскага). Ф. Сіўко ў нечым працягвае традыцыі А.Мальдзіса, С.Яновіча, А.Наварыча ў паказе паўстанняў XIX стагоддзя не праз апісанне бітваў, батальных сцэнаў, а праз сутыкненне характараў і лёсаў людскіх. Для інсургента, як і для самога аўтара, вызначальным становіцца камернае бачанне ўзрушальных падзеяў. І таму не так ужо істотна, чыё ж усё-такі паўстанне. Сапраўды, хутчэй за ўсё панскае. Але ў жорнах часу гіне і просты люд. Усе падзеі паказаны вачыма падлетка. Закаханага, а таму, як ні дзіўна, назіральнага, бо яму патрэбна выжыць у нечалавечых варунках, пазбегнуць праследу захопнікаў, пазбавіцца пошасці, каб застацца жывым не толькі самому, але і выратаваць каханую. Ф. Сіўко паказаў сябе таленавітым майстрам дэталі, дзякуючы чаму так і ўяўляеш заснежаны сусвет, які абмяжоўваецца дзвюма хатамі з падворкамі; сабаку ў санях, труны, саматробныя флюгеры, што паказваюць шлях смяротнага ветру, страх бацькоў (не столькі за саміх сябе, колькі за дзяцей).

Надзвычай глыбока і пранікнёна прадчуваецца гібель усяго сусвету, ім набрыняла нават паветра, якім дыхаюць героі. Гэтай наканаванасцю і непазбежнасцю смерці, як і некаторымі ўдалымі апісаннямі нябожчыкаў, апавяданне развівае еўрапейскую традыцыю ўвасаблення чумы як вешчуна шатана, гібелі. Маска чырвонай смерці выглядае з-пад беларускага жытла, і яна не менш бязлітасная, чым яе сярэднявечныя прататыпы. Вельмі добра паказана рэўнасць бацькі да пана, што адабраў (духоўна) сына і аддаў назад паміраць, калі сталася страшна. Але ўсе чалавечыя намаганні і парыванні гінуць у смерці жыцця, бо над усім светам ідзе барацьба паміж белым снегам і чорнаю чумой.

Таму, на наш погляд, не трэба было аўтару дапісваць happy end, аддаваць даніну яшчэ адной беларускай традыцыі. Магчыма Ф. Сіўко хацеў паказаць, што нішто ў гэтым свеце для беларусаў не мяняецца і яны гатовы, як заўсёды, ваяваць між сабою і праз тры дзесяцігоддзі, і праз дзесяць. Але без такога фіналу твор набыў бы пазачасовы характар, ён не быў бы прывязаны да канкрэтнай эпохі, а як прыпавесць гаварыў бы аб вечных складніках жыцця чалавечага.

Жанчына займае выключнае месца ў творчасці Франца Сіўко. Прычым, нягледзечы на ўсю разнастайнасць вобразаў, яна выконвае дзве асноўныя ролі: святой (гэта выключна Маці) і распусніцы. Самы першы твор пісьменніка "Чорнае, белае – транзітам" быў прысвечаны светлай памяці маці, якая, як для Л. Талстога, М.Багдановіча, сталася незямной, і з фізічным адыходам якой зніклі

пяшчота і любоў на зямлі. Затым Ф. Сіўко становіцца ў нечым падобным на Сомэрсэта Моэма, у творчасці якога няма ніводнага станоўчага жаночага вобраза (згадайце хоць "Тэатр", фільм па гэтым творы з поспехам ішоў па тэлебачанні). Гэта асабліва заўважна ў *аповедзе фарысея* "Тры мае Магдалены", дзе гераіні паказаны разбэшчанымі, раз'юшанымі самкамі, якія дзеля задавальнення сваіх сэксуальных пажаданняў ідуць на самыя экзальтаваныя ўчынкі, не саступаючы гераіням навэлаў італьянскага адраджэння.

Але, разам з тым, як светлая Ма́ра, як трапяткое ўяўленне пра нябесныя пачуцці з'яўляецца "Мары з бульвара Даву", герой якой, Гіпатонік, пасля расчаравання ў абарыгенках і іх здрадах, сустракае ў Парыжы сапраўднае каханне, праводзіць у фантазіях-рэаліях некалькі дзён і назаўсёды страчвае яе, вяртаючыся у звыкла-абсурдны лад жыцця. Каханне не можа быць вечным, яно раптоўна прыходзіць, як бляск маланкі, што толькі на імгненне асвятляе наваколле, каб ізноў схаваць усё ў адвечнай цемры.

А можа, гэтага і не было? І рамантычная сустрэча – проста трызненне хворага чалавека. Невыпадкова ў падзагалоўку пазначаны і падказка-дыягназ, які і характарызуецца кружэннем галавы і рознымі мроямі. Падзагалоўкі *аповедаў* сапраўды не толькі падказваюць, дзе шукаць сэнс твора, але і служаць дзеля абуджэння цікавасці, стварэння атмасферы займальнасці. Як *аповед віжаватага* "Куфар Айца Тамаша", які цалкам вытрыманы ў стылі класічных "Рукапісаў, знойдзеных пад ложкам". Твор цікавы ўжо сваёй незвычайнасцю, куфар, загадкавы і таямнічы, узрушыў жыццё звыклага пад'езда і надоўга змяніў лёс усіх, хто ў той ці іншай ступені сутыкнуўся з ім.

У назве кнігі на вокладцы, у слове *асіметрыя* літара Т стылізавана пад крыж, гэткі ж сімвал утвараюць двойчы на кожнай старонцы тэксту загаловак і імя і прозвішча аўтара. Нам здаецца, што гэта не проста ўпрыгожанне і мастацкая аздоба (таленавітая знаходка), але і ключ да разумення пісьменніцкай задумы. Шмат пра што гаворыць і вокладка, дзе стылізавана камера ў турме (пры афармленні выкарыстаны жывапіс Váli Dezső), што сведчыць пра несвабоду чалавека ва ўсе часы і эпохі.

Яшчэ больш страшэнны смурод патыхае ад герояў цыклу "Аповеды", бо там існуюць *людзі*, якія робяць гешэфты на мыцці нябожчыкаў, з родзічаў якіх здзіраюць рублі ("Мыйшчык Лёха"), адмаўляюцца ад сваіх блізкіх, якія трапляюць у псіхушку ці канчаюць жыццё самагубствам ("Асіметрыя"), душаць (у прамым сэнсе слова) больш прыгожых і разумных за сябе, што неяк уладкаваліся ў гэтым страшэнным перакуленым свеце ("Вецер, вецер...").

Дык хто ж такі чалавек – каваль уласнага шчасця ці ахвяра абставін і лёсу? Калі чытаем аповесць "Ягня ахвярнае", то галоўны афарызм можа выклікаць толькі зласлівую ўсмешку. У першай частцы апавядаецца аб трагічным выпадку ў долі маладзенькага Эдзіка, які ў адзін момант страціў і каханне, і бацьку. Калі ж трагедыю юнака ў той ці іншай ступені можна растлумачыць вынікамі вайны, агульным азвярэннем людзей (але чаму праклянцце трапляе на ягоную сям'ю?), то самазабойства ўжо дарослага мастака, цяжка хворага Эдуарда Іванавіча, які імкнуўся хоць як-небудзь адагрэць яшчэ больш няшчасную чужую дзяўчынку, нічым, акрамя тэзіса аб агульным збыдлячэнні, не апраўдаеш. І толькі птушачка спагадае яму ў апошнім шляху:

"Спалоханая сінічка, быццам жадаючы падставіць яму крыло, выпырхнула з надваконня ніжэйшага паверха. "Было!" – ціўкнула адчайна і, ператварыўшыся ў жорава, знікла ў засені агромністага, падобнага з абрысаў да ягняці воблака".

Аднак менш за ўсё Франц Сіўко становіцца ў позу прапаведніка. У нечым ён нават спачувае сваім героям, спрабуе знайсці ў іх душах (даўно не ўжываных) нешта падобнае на чалавечае (як той Лёха, што ставіць ля цела нябожчыцы сціплыя кветачкі). Ф. Сіўко ніколі не будзе выстаўляць канчатковыя ацэнкі, ён

проста апавядае пра здарэнне, што яго ўразіла (вось адкуль аповеды), а таму дае мажлівасць ацаніць усё чытачу. Спрыяе адмаўленню ад канчатковага прысуду і такі сродак, не вельмі запатрабаваны ў нас, як іронія. Як сапраўдны філосаф, ён заклікае быць болей спагадлівымі да людзей, бо кідаць камяні можа толькі той, хто сам грахоў не мае. Пачуццё іроніі, як і добрае разуменне ўласнай недасканаласці (асноўная прыкмета філосафа), стрымлівае і самога аўтара ад канчатковага расчаравання ў людзях, інакш было б вельмі цяжка, а то і немагчыма жыць. Ці не таму даволі часта ў ягоных творах, як і ў жыцці, суседнічаюць трагічнае і смешнае. Менавіта таму яскравай пародыяй успрымаецца жартаўлівая навела “Злачынства Канчыты Вайс”, дзе беларускія рэаліі, накладзеныя на побыт уяўнага Дзікага Захаду, узмоцненага славутым каталізатарам сучаснасці – мыльнай операй, ствараюць атмасферу беларускага хэллоўіна з гарбузамі замест галоваў.

Аб выразным філасофскім светапоглядзе Франца Сіўко сведчыць і тое, што яму падчас зацесна ў звыклых абмежаваных рамках канкрэтнага жанру, дзе, каб сцвердзіць пэўную думку ці ідэю, герой павінен нешта ўчыніць, а аўтар гэта больш-менш скурпулёзна ўзнавіць. Ці не гэтым тлумачыцца і ягоная схільнасць да так званых свабодных формаў – эсэ, запісаў, развагаў. Вядома, што кожны з пісьменнікаў пакідае свае ўражанні пра наведванне славутых мясцінаў. Такая прырода чалавечая. І чым гэтыя згадкі лепшыя за наскальныя: “Тут быў Вася!” Эсэ Ф. Сіўко імпануюць у першую чаргу не выразнымі дэталямі, не майстэрскім апісаннем адпаведных цудаў свету (хаця гэта ўсё прысутнічае). Прывабліваюць яны выразна схаваным аўтарскім “Я”. І гэта не беларуская сціпласць ці клятая памяркоўнасць, а наадварот, разуменне сябе часцінкай сусветнай гісторыі, чалавецтва. Мы нарэшце пазбавіліся карослівай звычкі лічыць усё чужое лепшым ці паганым, мы ўспрымаем сусветную цывілізацыю ў значнай ступені і як сваю ўласную, бо становімся людзьмі. І таму “Горад-прывід з каменю і попелу” і вечны горад (“Дзень у Рыме”) становіцца тваім, як і святы Францішак з Асізі (*сімвал духу*).

Фрагменты з дзённікавых запісаў “Наўздагон” дадаюць новыя штрыхі да творчага аблічча цікавага празаіка. Сказаць, што яны чытаюцца на адным дыханні, вельмі мала. Па-першае, такую форму любіць чытач, якому ў наш час аб’ёмныя раманы ўжо не пад сілу. Па-другое, згадаем, з якім інтарэсам чытаюцца згадкі Янкі Брыля, К. Камейшы, Л. Галубовіча. У Франца Сіўко ёсць свая ніша ля згаданых класікаў беларускай карацелькі. Аўтарскія запісы вылучаюцца сваёй выключнай далікатнасцю (Франц Іванавіч баіцца нават у думках пакрыўдзіць чалавека, ён, на наш погляд, і мурашу дарогу саступіць), глыбінёй назіральнасці:

“Матчыны вочы неўзабаве па скананні – невымерны калодзеж. Дваццаць гадоў мінула з тае часіны, як у іх зазірнуў, а ўсё не знайду слоў, каб апісаць. І ніколі ўжо, мабыць, не знайду”.

Ф. Сіўко ўжо даўно зразумеў, што літаратура не ўратуе сусвет. І ў гэтым ён не адзінокі. Згадаем Льва Талстога, які сто гадоў таму казаў, што калі б зараз з’явіўся Хрыстос і выдаў бы Евангеллі, то нічога не змянілася б: некалькі экзальтаваных кабет узялі б аўтографы, а ўсё засталося б як і было. Няма той сілы, што можа абудзіць грамадства. Тым болей, што і пісьменнікі ў сваёй большасці – зусім не інжынеры душ чалавечых. Вось чаму наш сучаснік згадвае: “Творчы занятак нярэдка форма легалізацыі. Кепскага характару, псіхічнай хваробы, маладых амбіцый, старога вар’яцтва”. Жорстка?! Так. Але і ў значнай ступені справядліва.

Нягледзячы на тое, што даволі часта ў адносінах паміж людзьмі кіруюць зусім не Боскія запаветы (глядзі адметнае эсэ аўтара “Сволач паводле Брэма”), Ф. Сіўко стварае віртуальна-рэальныя астраўкі быцця, у якіх ён можа стацца самім сабою са сваімі ідэаламі, якім ужо ніколі не здрадзіць (кніга “Выспы”, 2011). Хаця і там не знаходзіць супакою. У акіяне быцця людзі заўсёды імкнуліся знайсці выратавальную дошку. Паводле *отцов церкви*, перш за ўсё каталіцкіх, гэтая

дошка станавілася метафарай Збавіцеля. Ф. Сіўко, чалавек, блізкі да касцёла, падкрэслівае, што вера, г.зн. стасункі чалавека з Богам, як і лад жыцця, ці выбар асобаў для кантактавання ці тых ці іншых маральных прярытэтаў, цесна звязана з паняццем свабоды, унутранай і публічнай:

«У заходніх раёнах старэйшыя людзі, вернікі ад маленства, кажуць не «верыцьу Бога», а «верыць Богу». І больш ёмка другое, і больш шырока, бо сэнсава ўключае ў сябе першае як дадзенасць. І больш дакладна – у сэнсе выяўлення стаўлення асобы да выканання Божых запаветаў. Верыць у Яго існаванне – асабістая справа чалавека. Верыць Яму – значыць, жыць, як намаўляў, кіравацца Яго прыкладам згодна не толькі са сваімі, а і з сябе падобнага інтарэсамі. Учынкам верыць Яго і слову і прасякнуцца імі незалежна ад таго, ці прасякнуўся яшчэ хто-небудзь побач з табою. І кіравацца імі: голаў попелам пасыпаць, укленчыўшы, перапрасіць за грэх супраць сумлення – нязручныя часам, мулкія рэчы. І «не грашы супраць Бога» – таксама ў нас з перафразам: «не грашы Богу».

Ва ўсялякім разе, падобная ўстаноўка не дазваляе, нібы ўжо згаданай сволачы, быць вераломным і, заблудзіўшыся ў трох хвоях, звальваць віну на іншых. Як тая выдра, піша Франц Іванавіч, што зжэрла ў рацэ ўсю рыбу, а цяпер усім гаворыць, што гэта зрабіў бабёр.

З выспамі шчасця, радасці нас разлучае многае, і найперш смерць: “Калі праўда, што жыццё – найвышэйшая вартасць, то найвялікшая антывартасць тады, канечне ж, – смерць”. Выспа гэтая ўспрымаецца надзвычай значнай, бо на яе фоне ўся каштоўнасць жыцця ўяўляецца недарэчным вычварэнствам прыроды без каліва мэтазгоднасці і сэнсу, падставай для рознага ладу цынікаў і ўяўных філосафаў весці сваю дэмагагічную працу. Менавіта таму, сцвярджае аўтар, паколькі існуе паняцце культуры жыцця, то павінна існаваць адпаведна і культура смерці, і сувязь паміж імі намнога мацнейшая, чым можа здацца на першы погляд. І калі нараджэнне – таямніца, то якой жа вялікай таямніцай становіцца смерць, якая так хутка зачыняе дзверы, што ніхто нават і не можа ўявіць, што там адбываецца: выспа ж – на тое і выспа, каб існаваць асобна нават ва ўяўленні.

У свой час віцебскі настаўнік Ф. Сіўко ўзняў дыскусію аб становішчы роднай мовы, чым ускалыхнуў ці не ўсю краіну. У эсэ “Выспа мовы” ён паказаў сябе не толькі грамадзянінам, але і найперш дасканалым філолагам, які тонка адчувае найдалікатнейшыя пласты мовы, мясцовай і літаратурнай, адначасова сцвердзіў, што беларусы не так ужо і цураюцца роднага слова, як гэта прынята лічыць.

Ф. Сіўко, настаўнік па адукацыі, добра ўсведамляе, што ўсё пачынаецца з дзяцінства. Менавіта таму ён напісаў і для самых маленькіх кнігу “Бялячык” (2003), у якую ўвайшлі апавяданні і казкі. Даволі займальна, арыгінальна ён распавёў дзеткам дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту казкі пра алфавіт і ягонае значэнне, пра важнасць правільнасці вымаўлення, пра вожыкавыя лекі, пчолку і гультаяватага Алесіка. У нечым працягваючы традыцыі Л. Талстога і Якуба Коласа па стварэнні чытанак для дзетак, ён распавёў, адкуль бярэцца дождж і гром з маланкамі, чаму звяры так любяць волю. Творы напісаныя з веданнем дзіцячай псіхалогіі і любоўю да дзяцей, таму чытаюцца і слухаюцца з цікавасцю і карысцю.

Свет творчасці Франца Сіўко чысты і светлы, да яго дакранаешся з радасцю, бо інтуітыўна адчуваеш, што пабагацееш душою. І разам з тым – гэта свет чалавека, які шмат спазнаў у гэтым жыцці, а таму ўспрымае яго па-філасофску, прымушаючы тое ж зрабіць і чытача. Няма сумнення, што ў асобе творцы з Віцебска мы маем таленавітага празаіка, які ўпэўнена эвалюцыянуе, узбагачаючы родную літаратуру.

Свой аўтапартрэт славуты мастак назваў проста: “Дзень добры, пане Ван Гог”. Франц Сіўко не мае ўласнага аўтапартрэта, уласнай аўтабіяграфіі, але ён мае поўнае права на тое, каб кожны, хто цікавіцца родным словам, мог ціха сказаць: “Добры дзень, Франц Іванавіч”.

Сяргей Кавалёў



...патрэбны новыя інтэрпрэтацыі феномену "Тутэйшых"...

# Прэпараванне міфа:

## *Таварыства "Тутэйшыя" ў люстэрку крытыкі*

У мінулым годзе споўнілася дваццаць пяць гадоў з дня ўзнікнення Таварыства маладых літаратараў "Тутэйшыя" (1987-1989), якое адыграла важную ролю ў станаўленні новай беларускай літаратуры і дало назву цэламу пісьменніцкаму пакаленню. Прадстаўнікі гэтага пакалення вызначаюць сёння твар беларускай літаратуры, а іх наступнікі публікуюць у часопісах свае першыя творы, таксама як у 80-я гг. мінулага стагоддзя прадстаўнікі "філалагічнага пакалення" задавалі тон у беларускім прыгожым пісьменстве, а "тутэйшыя" толькі-толькі прабіваліся на сцэну.

Круглая дата з дня заснавання "Тутэйшых" была зручнай нагодай, каб асэнсаваць гісторыю суполкі, ацаніць яе здзяйсненні і нерэалізаваныя магчымасці, вызначыць ролю ў тагачасным літаратурным працэсе і ўплыў на далейшае развіццё літаратуры, прасачыць лёсы сяброў Таварыства і эвалюцыю іх творчасці. Можна было спадзявацца на з'яўленне ў друку цэлага шэрагу матэрыялаў, напісаных як сябрамі Таварыства,

так і літаратуразнаўцамі маладзейшага пакалення. На жаль, ніводнай спецыяльнай публікацыі так і не з'явілася. Гісторыя "Таварыства" апынулася ў цені лёсу ягонага кіраўніка, зняволенага праваабаронцы Алеся Бяляцкага. Магчыма, Сяргей Дубавец, які апублікаваў выдатную кнігу пра "Майстроўню" [1], падрыхтуе некалі падобнае выданне і пра "Тутэйшых". Магчыма, гэта зробіць нехта іншы з тутэйшаўцаў, або зусім малады, не вядомы нам даследчык, які сёння толькі-толькі пайшоў у школу.

Задача нашага артыкула – разгледзець матэрыялы і артыкулы пра дзейнасць "Тутэйшых", якія з'явіліся на працягу 1990-2012 гг. і паспрабаваць выправіць асобныя памылкі і недакладнасці, выкарыстоўваючы ўласныя нататкі з часоў "Тутэйшых". Безумоўна, асабістая прыналежнасць аўтара да "Тутэйшых" дае пэўныя інфармацыйныя перавагі, але адначасова стварае праблему суб'ектыўнасці высноў і ацэнак. У кожнага з "тутэйшаўцаў" было сваё разуменне мэтаў і задачаў суполкі, у адпаведнасці з гэтым разуменнем мы выказваліся і паводзілі сябе на сходах, у адпаведнасці з гэтым разуменнем і ступенню інфармаванасці ўяўляем цяпер гісторыю "Тутэйшых": суб'ектыўна і фрагментарна. Але чым болей такіх фрагментаў мазаікі аднойдзецца, тым лягчэй будзе скласці агульную карціну і рэканструяваць сапраўдную гісторыю дзейнасці Таварыства. Іншага шляху няма, бо ўсе артыкулы і даследаванні пра "Тутэйшых" абапіраюцца альбо на вусныя выказванні і ўспаміны тутэйшаўцаў, альбо на ўласныя ўспаміны і назіранні саміх даследчыкаў.

У нашу задачу не ўваходзіў разгляд тых публікацый пра дзейнасць "Тутэйшых", якія з'явіліся яшчэ ў часы існавання суполкі альбо "па гарачых слядах" [2]. Адзначым толькі, што сярод тагачасных матэрыялаў асаблівую каштоўнасць уяўляюць адказы сяброў Таварыства на анкеты часопісаў "Маладосць" [3], "Нёман" [4] і "Бярозка" [5].

Першыя публікацыі, у якіх дзейнасць "Тутэйшых" разглядаецца як завершаная культурная з'ява, як частка найноўшай гісторыі беларускай літаратуры пабачылі свет у 1997-2000 гг., праз дзесяць гадоў пасля ўзнікнення і распаду Таварыства.

У першым нумары за 1997 г. беластоцкага альманаха "Kartki" з'яўляецца артыкул Яна Максімюка "Імёны змярцвелай мовы. Эсэ пра сярэднемаладую беларускую літаратуру (некаторыя імёны)" [6] і друкуецца легендарны "Маніхвэст Тутэйшых" у перакладзе Мікалая Ваўранюка на польскую мову [7]. Артыкул беларускага інтэлектуала з Беласточчыны, перакладчыка джойсаўскага "Уліса" адрасаваны польскаму чытачу, які пра беларускую літаратуру, культуру, гісторыю нічога або амаль нічога не ведае, таму вобраз "сярэднемаладой" беларускай літаратуры, творчасць "Тутэйшых" паказаны аўтарам на досыць шырокім грамадска-палітычным фоне, з вытлумачэннем трагізму моўнай сітуацыі на Беларусі ў 80-х гг. XX ст.: "Тутэйшыя – гэта пакаленне, якое, паводле Мікіты Хрушчова, ужо даўно павінна жыць пры камунізме і забыць беларускую мову "на аман". Іх з'яўленне было беларускай рэакцыяй на гнятлівую атмасферу брэжнеўскага маразму, якую спрабавала разагнаць гарбачоўская перастройка" [8].

Ян Максімюк слушна звязвае ўзнікненне "Тутэйшых" з гарбачоўскай перабудовай: у застойныя брэжнеўскія часы падобная суполка проста не магла з'явіцца (дакладней, яна магла б існаваць непрацяглы час як патаемны гурток з 3-5 чалавек, але не як шырокавядомае ў рэспубліцы і за яе межамі Таварыства 50-60 маладых літаратараў з нацыянальна-адраджэнскай, антыімперыялістычнай і антыкамуністычнай праграмай).

Аўтар артыкула не толькі вызначае прычыны ўзнікнення і мэты дзейнасці "Тутэйшых", а пасля і адноўленай у Вільні "Нашай Нівы", але дэманструе таксама веданне канкрэтных фактаў: напрыклад, распавядаючы пра выдадзены ў 1989 г. альманах "Тутэйшыя", адзначае, што само Таварыства ў гэты час ужо распалася.

Відавочна, што крыніцай інфармацыі Яну Максімюку служылі аповеды саміх тутэйшаўцаў; невыпадкова напачатку артыкула ён прызнаецца, што большасць з тых, пра каго ён хоча напісаць, з'яўляюцца яго прыяцелямі і знаёмымі. А піша ён пра Анатоля Сыса, Ігара Бабкова, Адама Глобуса, Сяргея Дубаўца, Славаміра Адамовіча, Алеся Аркуша, Сяргея Шупу, Алега Мінкіна, Тацяну Сапач, Юрыя Гуменюка, Ігара Сідарука, Леру Сом, Людку Сільнову – не толькі пра тутэйшаўцаў, але і пра сяброў "Таварыства вольных літаратараў", свядома не праводзячы мяжы паміж дзвюма суполкамі, створанымі прадстаўнікамі аднаго пісьменніцкага пакалення: "Паводле майго ўласнага перакanання, менавіта пакаленне Таварыства Маладых Літаратараў "Тутэйшыя" (сёння – людзі паміж 30 і 40 годам жыцця) будзе фарміраваць вобраз беларускай літаратуры і задаваць у ёй тон на працягу як мінімум наступнай дэкады" [9].

Вышэйзгаданы артыкул Я. Максімюка стаў асновай пасляслоўя да ўкладзенага ім жа зборніка "За небакраем Еўропы. Анталогія новай беларускай паэзіі. 1987-1997" [10] – бадай, лепшай перакладной анталогіі сучаснай беларускай паэзіі, прадстаўленай вершамі Славаміра Адамовіча, Міхала Анемпадыстава, Алеся Аркуша, Ігара Бабкова, Галіны Дубянецкай, Адама Глобуса, Юрыя Гумянюка, Алега Мінкіна, Тацяны Сапач, Ігара Сідарука, Людкі Сільновай. Сімптаматычна, што Я. Максімюк зноў свядома залічвае ўсіх пералічаных паэтаў – і "тутэйшаўцаў" і "ТВЛаўцаў" – у адну кагорту: "Думаю, што і астатніх <...> аўтараў "За небакраем Еўропы" можна смела залічыць да з'явы пад назвай "Тутэйшыя", для якой агульным стаў інтэлектуальны пратэст супраць фальшу і канфармізму савецкай літаратуры" [11]. У артыкуле "Паэты сярод руін надыходзячага каралеўства" гісторыя "Тутэйшых" прадстаўлена больш падрабязна, чым у артыкуле "Імёны змярцвелай мовы": падаецца год узнікнення Таварыства (1987), тлумачыцца назва "Тутэйшыя" (ад назвы аднайменнай п'есы Янкі Купалы), неаднаразова цытуецца напісаны С. Дубаўцом "Маніхвэст Тутэйшых" (дарэчы, не прыняты большасцю сяброў Таварыства і нідзе акрамя "Картак" не апублікаваны), які ў польскай культурнай прасторы гучаў бы хрэстаматыйна-банальна, але ў кантэксце беларускай савецкай літаратуры ўспрымаўся як блюзнерства [12].

У невялікіх, але змястоўных артыкулах Яна Максімюка фактаграфічная дакладнасць спалучалася з аналітычнасцю, польскі чытач мог даведацца з іх пра існаванне ў суседняй беларускай літаратуры такой цікавай з'явы, як Таварыства маладых літаратараў "Тутэйшыя", пазнаёміцца з кароткімі творчымі біяграфіямі прадстаўнікоў пакалення "Тутэйшых", а з дапамогаю анталогіі "За небакраем Еўропы" – непасрэдна з іх паэтычнай творчасцю.

Цікава, што першыя публікацыі пра "Тутэйшых" як пра дзейсную суполку з'явіліся ў Расіі (артыкулы Анатоля Казловіча ў "Литературной газете", канец 80-х гг.), а першыя артыкулы пра "Тутэйшых" як пра з'яву найноўшай гісторыі беларускай літаратуры – таксама за межамі Беларусі, у Польшчы (артыкулы Яна Максімюка, канец 90-х гг.).

Але і ў самой Беларусі напрыканцы XX ст., калі мінула дзесяць гадоў з часу існавання Таварыства, былі зроблены першыя спробы асэнсаваць феномен "Тутэйшых", узнавіць старонкі іх дзейнасці, вызначыць уплыў на літаратурнае і грамадска-палітычнае жыццё. Людміла Рублеўская ў традыцыйнай лімаўскай рубрыцы "За гарбатай" правяла размову з "тутэйшаўцамі" Алесем Бяляцкім, Адамам Глобусам, Міхасём Скоблам, Людкай Сільновай і экспертамі-філосафамі Уладзімірам Конанам і Валянцінам Акудовічам [13]. Сам В. Акудовіч у лекцыях для Беларускага калегіума пра *Новую літаратурную сітуацыю ў Беларусі* не абмінуў увагай і дзейнасць "Тутэйшых" [14]. І, нарэшце, Алесь Аркуш паспрабаваў праз прызму вопыту "Тутэйшых" паглядзець на ўваходжанне ў літаратуру новага пакалення [15] і першым з тутэйшаўцаў напісаў успаміны пра Таварыства [16].

Валянцін Акудовіч – адзін з самых цікавых і аўтарытэтных мысляроў сучаснай Беларусі, хросны бацька “Бум-Бам-Літа” – не належаў да суполкі “Тутэйшыя” (хаця, памятаю, неяк удалося запрасіць яго на адно з паседжанняў, а 30 кастрычніка 1988 г. Акудовіч разам з тысячамі іншых менчукоў удзельнічаў у стыхійным мітынгу падчас свята Дзядоў, арганізаванага з ініцыятывы “Тутэйшых”). Узнаўляючы кароткую гісторыю суполкі, В. Акудовіч абапіраецца на лімаўскі матэрыял “Ад “Тутэйшых” да тутэйшых...” (1998), цытуе анатацыю да альманаха “Тутэйшыя” (1989), але арганізацыйная дзейнасць і творчасць асобных прадстаўнікоў Таварыства не з’яўляюцца прадметам даследавання ў “Новай літаратурнай сітуацыі”. На феномен “Тутэйшых” В. Акудовіч глядзіць канцэптуальна, як на “...адзін з галоўных міфаў чарговага беларускага Адраджэння, уздым якога прыпаў на канец 80-х – пачатак 90-х гг.” [17].

Міфалагізуючы “Тутэйшых”, філосаф тым самым узвышае іх ролю ў гісторыі нацыянальнай культуры, і адначасова “заніжае”, крытычна ацэньвае дзейнасць Таварыства ў літаратурнай, а не грамадскай сферы, падвяргае сумненню яго эстэтычныя набыткі. В. Акудовіч, як і многія іншыя пісьменнікі-нетутэйшаўцы, лічыць, што галоўнай заслугай “Тутэйшых” было наданне імя і нацыянальна-адраджэнскага аблічча цэламу пісьменніцкаму пакаленню: “Хаця аб’яднанне структурна было аморфным, не акрэсленым у задачах і мэтах, але пры гэтым надзвычай актуальным у факце сваёй наяўнасці. Таму яно вельмі хутка займела шырокі розгалас і набыло вялікую папулярнасць. Бадай, з усяго гэтага зрабілася ўстойлівая формула – пакаленне “Тутэйшых”. І гэтая формула падаецца досыць дакладнай, бо роля літаратурнага аб’яднання “Тутэйшыя” была не столькі ў тым, што яна задзіночыла пэўную колькасць маладых літаратараў, колькі ў тым, што выявіла памкненні і жаданні цэлага літаратурнага пакалення. І нават шырэй – прагу тагачаснага грамадства да радыкальных пераменаў, да свабоды, незалежнасці, дэмакратыі” [18].

Разважаючы пра прычыны заняпаду суполкі пасля гучных акцыяў 1988 г., В. Акудовіч адзначае (і – выпадае прызнаць – адзначае цалкам слушна): “У гэты момант якраз і высветлілася, што па-за грамадска-палітычнай дзейнасцю, па-за модусным ідэалам незалежнай еўрапейскай Беларусі “Тутэйшых” нішто болей не яднае: ні прагматыка, ні этыка, ні тым болей, эстэтыка. Якраз апошняя найбольш выразна сведчыла пра ўсю ўмоўнасць гэтага згуртавання як літаратурнага, бо ў сваіх эстэтычных поглядах большасць “тутэйшых” нічым не адрознівалася ад сваіх літаратурных папярэднікаў, а тыя з сяброў гэтай суполкі, што ўжо набрынялі эстэтычным патэнцыялам новага, уяўлялі гэтае новае кожны паасобку і зусім па-рознаму” [19].

У даследаванні В. Акудовіча “Новая літаратурная сітуацыя” суполцы “Тутэйшыя” прысвечана ўсяго некалькі старонак, гэтаксама як Таварыству Вольных Літаратараў і “Бум-Бам-Літу”, але гістарычная роля “Тутэйшых” акрэслена вельмі дакладна, адсутнасць фактаграфіі ўратавала аўтара ад непазбежных фактаграфічных памылак, а асветніцка-адукацыйнае прызначэнне тэксту – лекцыі для навучэнцаў Беларускага калегіума – засцерагло аўтара ад празмернай тэрміналагічнай і стылёвай ускладненасці.

Педагагічна-асветніцкі характар мелі таксама публікацыі Алеся Бельскага, прысвечаныя сучаснай беларускай літаратуры. Але, у адрозненне ад В. Акудовіча, ён прэзентаваў не альтэрнатыўную адукацыйную ўстанову, а дзяржаўную – БДУ, кнігі яго былі выдадзены дастаткова вялікім накладам пад грыфам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь і адрасаваныя школьнікам, студэнтам, настаўнікам, выкладчыкам. Трэба адзначыць важную дэталь: па ўзросту прафесар А.І. Бельскі сам належаў да пакалення “Тутэйшых”, публікаваў апавяданні пад псеўданімам Алесь Ветах, таму ў вучэбным дапаможніку “Сучасная беларуская літаратура.

Станаўленне і развіццё творчых індывідуальнасцяў (80-90-я гг.)" (1997) ён пісаў, фактычна, пра сваіх равеснікаў, у тым ліку і пра тутэйшаўцаў: А. Мінкіна, А. Глобуса, А. Сыса, Э. Акуліна, В. Куртаніч, М. Скоблу, А. Наварыча, Б. Пятровіча, А. Федарэнку і інш.

"Тутэйшыя" як суполка згадваюцца А. Бельскім у кантэксце яго непрымірымай дыскусіі з Сяргеем Дубаўцом, праграму і дзейнасць таварыства аўтар кнігі цалкам атаясамлівае з кантраверсійнымі поглядамі крытыка: "Да сённяшніх дзён той-сёй выносіць знішчальны прысуд паэтам і беларускай паэзіі, лічыць яе непаўнавартаснай, па-мастацку бездапаможнай і трывіяльнай. Асабліва дасталося аўтарам, творчае станаўленне якіх прыпала на канец 70-х – першую палову 80-х гг. Ад каго? Ад амаль сваіх равеснікаў і маладзейшых літаратараў, якія ў 1987 г. аб'ядналіся ў таварыства "Тутэйшыя". У якіх грахах толькі не абвінавачвалі маладых паэтаў і паэзію 80-х гг. Тое, што было да твораў "Тутэйшых", – як даводзіць крытык С. Дубавец у артыкуле "Хто там?" (1989), – кан'юнктура, канфармізм, эпігонства, графаманства..." [20]. Само ўтварэнне "Тутэйшых", у інтэрпрэтацыі А. Бельскага, выглядае як выклік папярэдняму пакаленню пісьменнікаў, як матэрыялізацыя ідэі С. Дубаўца пра "новую змену: "А на парозе, на падыходзе, – абвяшчае крытык, – шматаблічная і адукаваная змена", – нечаканая і нязвыклая для Саюза пісьменнікаў. С. Дубавец, мусіць, меў на ўвазе Таварыства маладых літаратараў "Тутэйшыя", якое, прынамсі сказаць, не згрупавалася на адзіным, трывалым эстэтычным грунце, таму неўзабаве расслаілася і знікла з авансцэны літаратурнага працэсу..." [21].

Дэкларацыі "Тутэйшых", агучаныя С. Дубаўцом, аўтар дапаможніка ацэньвае негатыўна, як і В. Акудовіч, ён звяртае ўвагу на адсутнасць у "тутэйшых" агульнай эстэтычнай платформы, але адзначае, што станоўчыя моманты ў дзейнасці "Тутэйшых" яму імпануюць [22]. Напэўна, гэтымі станоўчымі момантамі з'яўляюцца для А. Бельскага мастацкія творы "тутэйшых": вершы Анатоля Сыса і Алега Мінкіна, апавяданні Алеся Наварыча і Андрэя Федарэнкі і інш. Можна не згаджацца з поглядамі А. Бельскага, мець пэўныя прэтэнзіі да яго "настаўніцкага" стылю, але трэба адзначыць бясспрэчны факт: упершыню ў беларускім літаратуразнаўстве творчасць тутэйшаўцаў была прадстаўлена так усебакова (паэзія, проза, драматургія) менавіта ў кнізе "Сучасная беларуская літаратура".

Цікава, што ў пазнейшай публікацыі А. Бельскага – дапаможніку "Сучасная літаратура Беларусі" (2000), – дзейнасць "Тутэйшых" ацэньваецца менш крытычна, затое творчасць тутэйшаўцаў амаль не разглядаецца (магчыма, з прычыны невялікага аб'ёму кнігі). Названая публікацыя стала асновай раздзела "Паэзія" ў акадэмічнай "Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя" (2003), менавіта з раздзела, напісанага А. Бельскім, чытач можа даведацца пра літаратурныя суполкі 80-90-х гг. мінулага стагоддзя: "Тутэйшыя", Таварыства вольных літаратараў, "Бум-Бам-Літ". У акадэмічным выданні дзейнасць "Тутэйшых" прадстаўлена наступным чынам: "У другой палове 80-х гадоў на авансцэну выйшла амбітная і шумная суполка "Тутэйшыя" (аб'ядналіся ў 1987 г.). Гэта былі дзеці перабудовы, якія абвяшчалі гучныя маніфесты, шмат чаго дэкларавалі, браліся, як і "Маладнякоўцы" ў 20-я гады, "у рожкі са старымі", імкнуліся заняць паўнапраўнае месца ў літаратурным жыцці. Не абыходзілася без рознага негатыву, але бачылася і станоўчае: імкненне пазбавіцца кан'юнктуры, канфармізму і пісаць па-іншаму. Між тым, як прызнаўся пазней крытык і адзін з "тутэйшых" С. Дубавец, у дзейнасці таварыства было больш палітыкі, чым літаратурных памкненняў. Аднак у бурлівыя гады перабудовы "Тутэйшыя" будзілі грамадскую думку, збіралі шмат сваіх прыхільнікаў і слухачоў у Доме літаратара ў Мінску" [23]. Далей А. Бельскі коратка піша пра зборнік "Тутэйшыя" і паэтычную творчасць сяброў таварыства: А. Мінкіна, А. Сыса, А. Глобуса, Э. Акуліна, М. Скоблы.

У раздзелах "Драматургія" (С. Лаўшук) і "Крытыка і літаратуразнаўства"

(М. Мушынскі) акадэмічнага выдання пра "Тутэйшых" як арганізацыю не згадваецца, а ў раздзеле "Проза" (С. Андраюк) адзначаецца пазітыўны ўплыў Таварыства на станаўленне маладых пісьменнікаў: "Было б несправядліва адмаўляць ці недацэньваць ролю "Тутэйшых", "Таварыства вольных літаратараў" у грамадзянскім і духоўным сталенні, у эстэтычным самасцвярджэнні многіх сёння ўжо шырока вядомых літаратараў, у тым ліку празаікаў. Калі паглядзець на аўтараў зборніка "Тутэйшыя" (1989), то тут можна ўбачыць тых, хто ў канцы стагоддзя ўжо досыць пэўна сцвердзіў сябе ў прозе, – С. Астраўцоў, І. Бабкоў, П. Васючэнка, А. Глобус, С. Дубавец, М. Клімковіч, В. Куртаніч, А. Мінкін, В. Мудроў, А. Наварыч, Б. Пятровіч, Л. Рублеўская, У. Сіўчыкаў, У. Сцяпан. Дарэчы, не толькі ў прозе, але і ў паэзіі, драматургіі, эсэістыцы" [24].

На пераломе XX і XXI стагоддзяў колькасць публікацый пра таварыства "Тутэйшыя" прыкметна ўзрастае. Больш падрабязна трэба спыніцца на матэрыяле Алеся Аркуша "Вяртаньне ў "Тутэйшыя", дзе ўспаміны пра асабісты ўдзел у паседжаннях "Тутэйшых" спалучаюцца з яго рэфлексіямі і каментарыямі як каардынатара Таварыства вольных літаратараў [25].

Узніклае ў 1993 г., Таварыства вольных літаратараў сталася натуральным спадкаемцам Таварыства маладых літаратараў "Тутэйшыя", і дарэмна сябры "ТВЛ" адмаўляюць гэта, як і дарэмна некаторыя тутэйшаўцы называюць ТВЛ звычайным эпігонствам [26]. Дзейнасць ТВЛ не мела такога грамадскага рэзанансу, як дзейнасць "Тутэйшых" (іншыя часы, іншыя людзі), але ў літаратурна-выдавецкай сферы Таварыства вольных літаратараў здолела рэалізаваць многія нявздзейсненыя мары сваіх папярэднікаў (стварэнне ўласнага выдавецтва "Полацкая ляда", выпуск альманаха "Калосьсе" і шэрагу паэтычных зборнікаў, заснаванне літаратурнай узнагароды "Гліняны Вялес", правядзенне міжнародных канферэнцыяў ды інш.).

Гісторыка-літаратурная каштоўнасць артыкула "Вяртанне ў "Тутэйшыя" заключаецца найперш у выкарыстанні аўтарам сваіх дзённікавых запісаў і лістоў 1986-1988 гг. для ўзнаўлення гісторыі Таварыства. Хаця Алесь Аркуш і не ўваходзіў у склад кіраўніцтва "Тутэйшых", пра што папярэджвае на пачатку артыкула, але менавіта ён, а не хто-небудзь іншы, старанна занатаваў у дзённіку "рэпартажы" з першых паседжанняў Таварыства, менавіта паводле ягоных нататак рэканструюецца храналогія паседжанняў "Тутэйшых" у навуковай літаратуры [27]. Тэарэтычна ў старшыні Таварыства Алеся Бяляцкага павінны быць на руках падрабязныя пратаколы паседжанняў, але невядома ці яны захаваліся насамрэч. Ва ўсякім разе, распавядаючы ў 1998 г. Л. Рублеўскай пра першыя крокі суполкі, А. Бяляцкі не вылучаўся дакладнасцю: "Нас было сем чалавек: Анатоль Сыс, Славамір Адамовіч, я і яшчэ чатыры асобы, якіх зараз не згадаю" [28].

На жаль, і ў запісах Алеся Аркуша можна знайсці пэўныя недакладнасці, бо ён прысутнічаў не на ўсіх паседжаннях, і, відаць, блытаў запланаванае і абвешчанае з рэальна ўвасобленым (праграма паседжанняў часта відазмянялася непасрэдна перад пачаткам сустрэчы). Напрыклад, Алесь Аркуш [29] (а ўслед за ім і Аксана Бязлепкіна [30]) паведамляе, што на паседжанні 25 красавіка 1987 г. адбыўся разгляд творчасці сяброў універсітэцкага літаб'яднання "Узлёт" і абранне кіраўніцтва Таварыства. Насамрэч, гэта былі два асобныя паседжанні, ды і Сяргея Дубаўца не абіралі ў Раду завочна [31]: ён прысутнічаў на сходзе (здаецца, упершыню).

У разважаннях і заўвагах Алеся Аркуша пра дзейнасць "Тутэйшых" заўважаецца катэгарычнасць і мадэрнізацыя гістарычнай рэчаіснасці, з вышыні часу кіраўнік ТВЛ папракае кіраўнікоў ТМЛ у несамастойнасці, канфармізме і забюракратызаванасці: "Я асабіста лічу, што "Тутэйшыя" існавалі датуль, пакуль у дзейнасьці літсуполкі прысутнічала рызыка, таямнічасьць і канспірацыя. Калі літаб'яднанне "Тутэйшыя" вырашыла легалізавацца і ператварылася ў Таварыства маладых літаратараў пры СП БССР, суполка сканала" [32]. "Канспіратыўная"

дзейнасць суполкі “Тутэйшыя”, “таямнічыя” сходкі ў інтэрнацкіх пакоях Анатоля Сыса і Алеся Бяляцкага, працягваліся ўсяго некалькі месяцаў (снежань 1986 – сярэдзіна лютага 1987 г.) і ўдзельнічала ў іх усяго шэсць-сем чалавек, прычым ніякай таямніцы для органаў бяспекі, паводле сведчання А. Бяляцкага, яны не ўяўлялі: “Як пазьней высьветлілася, адзін з нашай шасцёркі яшчэ раней быў завэрбаваны КДБ...” [33]. Усе паседжанні “Тутэйшых”, апісаныя Алесем Аркушам, праходзілі ў Доме літаратара (за выключэннем самага першага, якое адбылося 12 лютага 1987 г. у інтэрнацкім пакоі), у прысутнасці куратараў з СП і частых гасцей з ЦК, але нягледзячы на розныя перашкоды, пад афіцыйнай шыльдай Таварыства маладых літаратараў пры СП БССР, якое і мы самі, і ўсе іншыя ўсё роўна называлі “Тутэйшыя”, удалося сабрацца 30-60 маладым творцам, з рознымі эстэтычнымі ўяўленням, лёсамі, характарамі, але з вельмі падобнымі нацыянальна-адраджэнскімі ідэаламі і грамадска-палітычнымі перакананнямі.

Алесь Аркуш падрабязна апісвае паседжанні “Тутэйшых” да 29 траўня 1987 г., пазней ён не наведваў сустрэчы сяброў Таварыства, бо з восені 1987 г. жыў у Наваполацку. Сваё аддаленне ад “Тутэйшых” з прычыны пераезду Алесь Аркуш з вышыні часу ўспрымае як свядомы выбар, як нежаданне ўдзельнічаць у працы суполкі, якая сябе вычарпала. Аўтар артыкула цытуе свой ліст да Леаніда Галубовіча, напісаны 30.05.1987 г. (у лісце выказвалася занепакоенасць ваяўнічымі паводзінамі групоўкі Глобуса на паседжанні Таварыства, гаварылася пра неабходнасць уздымаць “іншую хвалю”) і дае наступны каментары: “Гэты мой юначы, наіўны ліст, пасьля прачытаньня яго сёньняшнімі вачыма, зьдзівіў мяне неверагодна. Атрымліваецца, ужо тады я думаў пра Таварыства Вольных Літаратараў. <...> Сьмерць “Тутэйшых” імкліва набліжалася” [34].

Насамрэч, у траўні 1987 г. “Тутэйшыя” знаходзіліся на ўздыме: наперадзе была славутая Вечарына ў Доме літаратараў 10 снежня 1987 г., якая выклікала дыскусію ў прэсе, пачалі з’яўляцца публікацыі пра Таварыства і інтэрв’ю з яго сябрамі ў беларускім ды агульнасаюзным друку, узнікла ідэя альманаха “Тутэйшыя” і пачалі збірацца для яго творы, у траўні 1988 г. адбылася рэспубліканская нарада “Тутэйшых”, а 30 кастрычніка 1988 г. па ініцыятыве “Тутэйшых” былі праведзены Дзяды, забароненыя ўладамі і жорстка разагнаныя міліцыяй... Менавіта пасля Дзядоў арганізацыйная дзейнасць “Тутэйшых” паволі спынілася, але пачаўся перыяд актыўнай творчасці сяброў Таварыства: пабачыў свет альманах “Тутэйшыя” (Мінск, 1989) і самвыдатаўскія зборнікі “Літаратура-1” ды “Літаратура-2”, на працягу 1988-1992 гг. у Бібліятэчцы часопіса “Маладосць” і ў выдавецтве “Мастацкая літаратура” выйшлі першыя кнігі большасці “тутэйшаўцаў” (С. Адамовіча, А. Аркуша, С. Астраўцова, І. Бабкова, А. Бадака, П. Васючэнкі, А. Глобуса, С. Дубаўца, С. Кавалёва, М. Клімковіча, В. Куртаніч, А. Мінкіна, В. Мудрова. А. Наварыча, Б. Пятровіча, Л. Рублеўскай, Т. Сапач, Л. Сільновай, У. Сіўчыкава, С. Сокалава-Воюша, М. Скоблы, У. Сцяпана, А. Сыса, А. Федарэнкі, В. Чаропкі, М. Шайбака, М. Шэлехава, Я. Янушкевіча ды інш.).

Другая частка артыкула “Вяртанне ў “Тутэйшыя” менш цікавая, чым першая: Алесь Аркуш прыдзірліва аналізуе змест самвыдатаўскай газеты “Кантроль” (выдавалася С. Дубаўцом і А. Бяляцкім напрыканцы 1988 – напачатку 1989 гг.) і крытыкуе лідэраў “Тутэйшых” (А. Сыса, А. Глобуса, А. Мінкіна) за тое, што яны ўступілі ў СП БССР. Напрыканцы артыкула апісваецца рэспубліканская нарада “Тутэйшых” (15.05.1988), а таксама наведванне групай “тутэйшаўцаў” хворага Пімена Панчанкі... Алесь Аркуш з сумам канстатуе завяршэнне дзейнасці суполкі: “Такім чынам, у СП падаліся амаль усе лідэры “Тутэйшых”. Ім Таварыства маладых літаратараў ужо не было патрэбнае. СП заставаўся адзіным легітымным шляхам у вялікую літаратуру. Альтэрнатыўны шлях нават не разглядаўся. <...> Кватэры, дачы й ганарары “прыкарытнікаў” не давалі спакою тутэйшаўцам. Але

на іх долю гэтых шчадротаў ужо не хапіла. Як "чорная хмара", насоўваліся часы "перабудовы" [35].

Безумоўна, чытаючы падобныя абвінавачанні можна папракнуць лідэра ТВЛ (які, дарэчы, таксама рабіў спробу "падацца ў СП") у залішняй прыдзірлівасці да сваіх колішніх паплечнікаў, але з іншага боку, калі б Алесь Аркуш так не лічыў, можа б і не ўзнікла ніколі Таварыства вольных літаратараў, якое адыграла важную ролю ў літаратурным працэсе сярэдзіны 90-х гг., а потым – непрыкметна развалілася, падзяліўшы лёс "Тутэйшых"...

Артыкул "Вяртанне ў "Тутэйшыя" не прэтэндуе на званне навуковага даследавання, гэта – успамін аднаго з удзельнікаў, спалучаны з пазнейшымі каментарыямі і ацэнкамі, таму суб'ектывізм аўтара цалкам зразумелы і "апраўданы жанрам". На пачатку артыкула Алесь Аркуш паведамляе, што неаднойчы прасіў былых "тутэйшаўцаў" напісаць успаміны і ўкласці кнігу, але пакуль ніхто не адгукнуўся. Напрыканцы артыкула-ўспаміна пра Анатоля Сыса старшыня Таварыства Алесь Бяляцкі паабяцаў, што наступныя ўспаміны будуць пра "Тутэйшых" [36].

Першае спецыяльнае даследаванне дзейнасці і творчасці "Тутэйшых" было напісана прадстаўніком іншага пакалення, дваццаццігадовай Аксанай Бязлепкінай: "Разам і паасобку: таварыства "Тутэйшыя". Гісторыя. Асобы. Жанры" (2003). Ацэньваючы сёння манаграфію, трэба памятаць, што гэта – апублікаваная дыпломная праца выпускніцы філалагічнага факультэта БДУ – выпадак беспрэцэдэнтны ў гісторыі беларускага літаратуразнаўства. Адвага маладой даследчыцы выклікае павагу, але не толькі адвага, але і багацце фактаграфічнага матэрыялу, прадуманасць кампазіцыі кнігі, імкненне да самастойных ацэнак і высноў. Манаграфія складалася з трох раздзелаў: у першым узнаўлялася гісторыя таварыства "Тутэйшыя" (паводле згадак у друку і інтэрв'ю аўтаркі з А. Глобусам, С. Кавалёвым, С. Дубаўцом, А. Федарэнкам), у другім аналізавалася творчасць чатырох прадстаўнікоў суполкі (А. Сыса, С. Кавалёва, С. Дубаўца, А. Глобуса), у трэцім разглядаліся жанравыя эксперыменты сяброў Таварыства (хоку, комікс, кінасцэнарый, дэтэктыў). Падсумоўваючы вынікі дзейнасці "Тутэйшых", А. Бязлепкіна адзначала: "Таварыства не было скасавана афіцыйна, не было заключнага пасяджэння з адпаведным пратаколам. Зараз "Тутэйшыя" існуюць у іншай якасці: назва таварыства стала найменнем цэлага пакалення пісьменнікаў, якое прынесла ў літаратуру новую эстэтыку" [37].

Адразу пасля выхаду кнігі давялося чуць прэтэнзіі да аўтаркі з боку некаторых тутэйшаўцаў: маўляў, яна занадта маладая, асабіста ў "Тутэйшыя" не ўваходзіла, не ведала абстаноўку "знутры" і карысталася ўспамінамі толькі чатырох з шасцідзесяці ўдзельнікаў Таварыства.

Нібыта прадчуваючы падобныя папрокі, аўтарка ва "Уступе" да манаграфіі пісала: "Ад моманту яго [Таварыства – *С.К.*] утварэння мінула больш за 15 гадоў, але дагэтуль пра яго напісана параўнальна мала. Гэта тлумачыцца, відаць, не ў апошнюю чаргу тым, што сведкі дзейнасці таварыства, то бок самі "тутэйшыя" і людзі з літаратурнага і літаратуразнаўчага асяродку, успрымаюць тыя падзеі як частку свайго жыцця, якая яшчэ занадта добра помніцца, каб быць гісторыяй" [38].

Безумоўна, самі тутэйшаўцы лепш за Аксану Бязлепкіну ведалі некаторыя факты і нюансы дзейнасці Таварыства, але ім бракавала часавай дыстанцыіі, навуковага аб'ектывізму: у кожнага з удзельнікаў была свая, суб'ектыўная версія дзейнасці суполкі, сваё бачанне і асэнсаванне падзеяў (яскравы прыклад – разгледжаны намі артыкул А. Аркуша "Вяртанне ў "Тутэйшыя"). Таму ўзрост аўтаркі манаграфіі, яе прыналежнасць да іншага, маладзейшага пакалення можна разглядаць не як недахоп, а як перавагу і неабходную перадумову для напісання першай манаграфіі пра таварыства "Тутэйшыя".

З вышыні сённяшняга часу ў манаграфіі А. Бязлепкінай можна заўважыць

асобныя прабелы і пралікі, напэўна, відавочныя і для самой аўтаркі. Гісторыя дзейнасці таварыства рэканструявана недастаткова дакладна, аўтарка занадта давярала вусным сведчанням сяброў суполкі, варта было б у другім раздзеле прадставіць асобы Алеся Бяляцкага, Ігара Бабкова, Уладзіміра Сцяпана, Андрэя Федарэнкі, а трэці раздзел скараціць за кошт падраздзелаў "Хоку" і "Кінасцэнарый" (фактычна, аўтарка разглядае жанравыя пошукі толькі аднаго крыла "тутэйшых", лідэрам якога быў Адам Глобус).

Кідаецца ў вочы залішняя эмацыйнасць аўтаркі ў падраздзеле "Пастараюся быць суб'ектыўным" пра Сяргея Дубаўца. А. Бязлепкіна, аналізуючы артыкулы крытыка, напісаныя ў часы "Тутэйшых" і напачатку 90-х гг. XX ст., слушна адзначае правакацыйнасць як адну з важнейшых рысаў стылю Дубаўца і лічыць найлепшай рэакцыяй на некаторыя яго рэзкія выказванні – адсутнасць усялякай рэакцыі. Але маладая даследчыца выразна дазваляе сябе справакаваць, увязваючыся ў палеміку з дасведчаным крытыкам і ўжываючы ў навуковай манаграфіі выразы кшталту "гэта не больш, чым эмацыянальнае словаплёцтва" [39], "С. Дубавец ад любой хваробы гатовы лячыць гільяцінай" [40]. Напэўна, апублікаваны ў 1998 г. артыкул С. Дубаўца "Ружовы туман" не варта было разглядаць у кнізе, прысвечанай падзеям другой паловы 80-х гг. З іншага боку, А. Бязлепкіна прасочвае творчую эвалюцыю крытыка, імкнецца вызначыць універсальную сутнасць яго творчага метаду: "Крытыку С. Дубаўца можна лічыць параджэннем ягонага стылю, сам жа стыль пераўтварыўся ў тэхнічны прыём, якім можа скарыстацца любы крытык. І, здавалася б, плынь не новая, да яе цяжка прывыкалі (а хтосьці так і не здолеў прывыкнуць), і прызвычаіліся не рэагаваць, але С. Дубавец мяняе аб'ект крытыкі і зноў выклікае хвалю абурэння. Ён удасканальвае тэхніку, падбірае красамоўныя прыклады і прапаноўвае выкінуць беларускую савецкую літаратуру з курса беларускай літаратуры, бо яе лепш вывучаць у межах іншай дысцыпліны – "Гісторыя таталітарызму ў Беларусі". Няма больш ахвотнікаў абараняць перад С. Дубаўцом Янку Купалу, і аўтар дзейнічае па законах эканомікі: прапаноўвае новы прадукт, які будзе карыстацца вялікім попытам" [41].

Аналізуючы артыкулы і рэцэнзіі крытыкаў-тутэйшаўцаў, выпускніца філфака БДУ адначасова вызначае ўласныя арыенціры і прыярытэты ў галіне літаратурнай крытыкі: нешта прымае, ад нечага рашуча дыстанцуецца. Таму манаграфія "Разам і паасобку: таварыства "Тутэйшыя" цікавая таксама ў кантэксце навуковай эвалюцыі самой Аксаны Бязлепкінай, якая на працягу дзесяцігоддзя пасля выдання кнігі вырасла ў аднаго з самых цікавых даследчыкаў і папулярызатараў сучаснай беларускай літаратуры. Але і ў эўрыстычным плане першая манаграфія пра дзейнасць і творчасць "Тутэйшых" не страціла свайго значэння, стаўшы важным пунктам аднясення для пазнейшых публікацый на гэтую тэму [42].

Выразныя сляды інтэртэкстуальнай палемікі з Аксанай Бязлепкінай адчуваюцца ў кнізе Ганны Кісліцынай "Новая літаратурная сітуацыя: змена культурнай парадыгмы" (2006). Абапіраючыся на канцэпцыі В. Акудовіча і С. Дубаўца, знаны літаратурны крытык, непасрэдны сведка дзейнасці "Тутэйшых", напісала першую спецыяльную манаграфію пра "новую" беларускую літаратуру: пра грамадска-палітычныя і эстэтычныя змены канца XX – пачатку XXI ст., пра літаратурныя суполкі "Тутэйшыя", "Таварыства вольных літаратараў", "Бум-Бам-Літ", пра ўзмацненне феміністычнага дыскурсу і дыфузію літаратурных жанраў. У раздзеле "Тутэйшыя" [1] Г. Кісліцына неаднаразова спасылаецца на манаграфію малодшай калегі: часам як на дакументальную крыніцу (напрыклад, узнаўляючы гісторыю дзейнасці Таварыства альбо цытуючы легендарны "Маніфест"), а часам як на дыскусійны тэкст, карэктуючы і абвяргаючы меркаванні А. Бязлепкінай. Г. Кісліцына не згодная з тым, што ў "тутэйшых" было дэкларатыўнае, а не рэальнае супрацьстаянне са старэйшымі пісьменнікамі, з тым, што "тутэйшыя" ўтварыліся з меншых суполак,

і, самае галоўнае, – не згодная з крытыкай на адрас Сяргея Дубаўца. Г. Кісліцына “рэабілітуе” С. Дубаўца, падкрэслівае – і цалкам слушна – яго заслугі як аднаго з лідэраў “Тутэйшых”, аўтара легендарнага “Маніфеста”: “І якім бы наіўным не здаваўся некаторым зараз дубаўцоўскі “Маніфест”, ён быў вынікам калектыўнага роздуму над лёсам беларускай літаратуры: спробай пазбегнуць памылак папярэднікаў і выкрышталізаваць уласныя творчыя прынцыпы” [43].

Дарэмна пры гэтым даследчыца супрацьпастаўляе “ідэйных рухавікоў” таварыства (С. Дубаўца, А. Глобуса, А. Сыса) “папяровым кіраўнікам” (А. Бяляцкаму, С. Кавалёву, В. Казловай), інтэпрэтуе выбары Алеся Бяляцкага старшынёй як вымушанае рашэнне, якое дало магчымасць сапраўдным лідэрам “застацца па-за афіцыйнай увагай” [44]. Падобныя “разборкі”, імкненне перагледзець ролю і заслугі таго ці іншага тутэйшаўца ў дзейнасці таварыства, узвысіць “урбаністаў” над “вяскоўцамі” не ідуць на карысць навуковай манаграфіі, выдадзенай пад грыфам “Нацыянальная акадэмія навук Беларусі. Ордэна Дружбы Народаў Інстытут літаратуры”. Ацэньваючы свой уласны ўклад у дзейнасць таварыства досыць сціпла (дзякуй Анатолю Сысу, што ён запрасіў мяне калісьці ў “Тутэйшыя”), лічу, што роля А. Бяляцкага як кіраўніка таварыства была вельмі значная і без яго ўдзелу “Тутэйшыя” вельмі хутка разваліліся б і не здзейснілі б таго, што здзейснілі.

Безумоўна, кожны даследчык мае права на свой пункт гледжання, але важна, каб гэты пункт гледжання ён лагічна аргументаваў і паслядоўна абараняў. У Ганны Кісліцынай як крытыка пункт гледжання вельмі часта змяняецца, а ацэнка літаратурных твораў залежыць ад узаемаадносінаў з аўтарамі. У 2001 г. яна з захапленнем успамінала пра шчырасць і сяброўскую ўзаемапатрабавальнасць у асяроддзі “Тутэйшых”: “З таго, што пісалася тады пра Сыса, запомнілася хіба што рэцэнзія С. Кавалёва ў кнізе “Як пакахаць ружу”. Перачытваючы яе, дзіўлюся нават не таму, што напісаў крытык, а шчырасці, якая была нормаю адносінаў. Сыс і Кавалёў былі паплечнікамі, сустракаліся не толькі на “Тутэйшых”, але і ў жыцці, хоць сябрукамі іх не назавеш. Хутчэй добрыя знаёмыя. Але сяброўствы, знаёмствы, агульныя справы не мелі тады той улады над крытыкамі, як сёння. Рахунак быў “гамбургскі” – мяркуйце самі: “Калі нябачная прысутнасць гісторыі ў большасці вершаў А. Сыса ўзмацняе іх унутраны змест, то вершы “спецыяльна-гістарычныя” нічым, акрамя патрыятычнага настрою, пакуль не вылучаюцца і з мастацкага боку зусім бездапаможныя. Яны нагадваюць нейкія публіцыстычныя лозунгі, зарыфмаваныя і пакладзеныя на адзін з памераў дзеля “прыгожага” гучання і дзеля магчымасці выказацца на гэтую тэму ў друку. Празмерная паэтыка, бразганне мячамі, адсутнасць мастацкай глыбіні – характэрныя прыкметы такіх вершаў... Большай, куды большай працы над словам патрабуе гістарычная тэма!” <...> Гэтыя заўвагі былі зроблены тады, калі Сыс знаходзіўся на піку папулярнасці, а яго кніга “Пан Лес”, як і прадказваў яшчэ да яе выхаду сам паэт, сталася “праграмнай кніжкай для кожнага беларуса”. Той жа С. Кавалёў, нягледзячы на даволі жорсткія як па сённяшніх мерках патрабаванні, бачыў, як і ўсе мы, у Сысе прарока, вешчуна, у чыіх вершах выспявала ідэя новага нацыянальнага адраджэння” [45].

У 2006 г. у манаграфіі “Новая літаратурная сітуацыя: змена культурнай парадыгмы” Г. Кісліцына цытуе той самы фрагмент з нашага артыкула, але робіць супрацьлеглыя высновы: “Трэба прызнаць, што такія крытычна-настаўніцкія “натацыі”, якія часам пераходзілі ў пракурорскія прамовы, былі характэрныя для ўзаемаадносін сяброў Таварыства маладых літаратараў. <...> Зазвычай папрокі ў неаб’ектыўнасці найчасцей чуў С. Дубавец, але так выглядае, што ўся тутэйшаўская крытыка вызначалася с у б ’ е к т ы в і з м а м” [46].

З двух публікацый Г. Кісліцынай чытачу цяжка даведацца, якая ж атмасфера панавала ў “Тутэйшых”: патрабавальна-сяброўская ці ментарска-пракурорская...

Адзначаныя недахопы манаграфіі “Новая літаратурная сітуацыя: змена куль-

турнай парадыгмы” – суб’ектыўныя недахопы, суб’ектыўна адзначаныя – не перакрэсліваюць яе вартасці як першага і адзінага па сённяшні дзень канцэптуальнага даследавання новай беларускай літаратуры, як важнай пазіцыі ў дыскусіі пра феномен “Тутэйшых”.

Як памятаем, Валянцін Акудовіч лічыў, што заслуга “Тутэйшых” заключалася ў выказванні памкненняў цэлага пакалення, а ў сваіх *эстэтычных поглядах* большасць “тутэйшых” нічым не адрознівалася ад літаратурных папярэднікаў. Аксана Бязлепкіна, наадварот, сцвярджала, што “тутэйшыя” былі пакаленнем, якое прынесла ў літаратуру *новую эстэтыку*. Погляд Г. Кісліцынай на феномен “тутэйшых” можна лічыць “залатой сярэдзінай”: “Вялікая роля “Тутэйшых” для нацыянальнай літаратуры была ў тым, што яны здолелі сфармуляваць мастацкую канцэпцыю, актуальную для цэлага пакалення” [47]. Параўноўваючы таварыства “Тутэйшыя” з пазнейшымі па часе ўзнікнення суполкамі “Бум-Бам-Літ” і “Schmerzwerk”, Г. Кісліцына прыходзіць да высновы: “Пакуль ніводная з іх не толькі не ўпісалася ў літаратурны кантэкст, але і не паўплывала на кантэкст нацыянальны, як гэта было з “Тутэйшымі” <...> Можна меркаваць, што менавіта творчасць сяброў таварыства “Тутэйшыя” стварыла светапоглядныя перадумовы паўставаньня Новай літаратурнай сітуацыі, якая рэалізавалася пазней са з’яўленнем незалежнага друку” [48].

На даследаванні А. Бязлепкінай і Г. Кісліцынай абапіраўся ў сваёй манаграфіі “Пісьменства ў халодным клімаце. Беларуская літаратура ад 70-х гг. XX ст. да нашых дзён” [49] (2011) знаны англійскі славіст Арнольд Макмілін. Непасрэдна пра таварыства “Тутэйшыя” ў кнізе, якая налічвае каля 1000 старонак, напісана няшмат: узнікненне незалежных літаратурных суполак аўтар лічыць вынікам развалу Савецкага Саюза; “Тутэйшых” разглядае як адгалінаванне Саюза пісьменнікаў, у выніку канфлікту пакаленняў набыўшае самастойнасць; акцэнтуе ўвагу на барацьбе ўнутры таварыства паміж групоўкаі Анатоля Сыса і Адама Глобуса, узнаўляе структуру таварыства і змест альманаха “Тутэйшыя”, укладзенага Сяргеем Дубаўцом. “Узнікненне “Тутэйшых” і выданне аднайменнай анталогіі іх твораў сталася пераломным момантам у развіцці й адраджэнні беларускай літаратуры” [50], – сцвярджае прафесар Арнольд Макмілін, і гэтая думка яскрава адлюстравана ў канцэпцыі і кампазіцыі ўсёй кнігі. У раздзеле, прысвечаным “Тутэйшым”, разглядаецца творчасць С. Дубаўца, М. Клімковіча, М. Шайбака, Б. Пятровіча, П. Васючэнкі, С. Астраўца, У. Сіўчыкава, А. Наварыча, У. Сцяпана, І. Бабкова, Л. Рублеўскай, Т. Сапач, В. Куртаніч, А. Бадака, Т. Кашкурэвіча, П. Змітрука, у раздзеле “Некаторыя іншыя аўтары гістарычнай прозы” – творы А. Федарэнкі, у раздзеле “П’есы тэатральныя і літаратурныя” – драматургія П. Васючэнкі, С. Кавалёва, Л. Рублеўскай, У. Сіўчыкава, М. Клімковіча і М. Шайбака, А. Федарэнкі, І. Сідарука. Асобныя раздзелы прысвечаны Адаму Глобусу (“Адам Глобус – правакацыйны постмадэрніст”) і Анатолю Сысу (“Анатоль Сыс – спакутаваная душа”). Цікава, што такія знаныя пісьменнікі, як Алесь Асташонак, Леанід Дранько-Майсюк, Уладзімір Ягоўдзік, Хрысціна Лялько, Віктар Шніп, Ірына Багдановіч разглядаюцца ў раздзеле “Сучаснікі “Тутэйшых” (наўрад ці ім спадабаецца падобнае азначэнне), а пасля раздзелаў пра “тутэйшых” змешчаны раздзелы пра Уладзіміра Някляева, Уладзіміра Арлова, Алеся Разанава...

Відавочна, аўтар імкнуўся распавесці замежнаму чытачу пра сучасную беларускую літаратуру як мага больш, сваю задачу бачыў у панарамнай прэзентацыі багатага матэрыялу, а не ў падрабязным аналізе асобных тэкстаў, што спрыяла пэўнаму хаосу ў структуры гэтай унікальнай і важнай для папулярызацыі беларускай літаратуры ў свеце кнігі. Кур’ёзам можна лічыць аднясенне хроснага бацькі “Бум-Бам-Літу” Валянціна Акудовіча непасрэдна да “бум-бам-літаўцаў”, а Андрэя Хадановіча – у кампанію да “чатырох паэтак будучыні”. Назіраецца пэўная блытаніна і ў разглядзе творчасці “тутэйшых”: Людміла Рублеўская, Па-

вал Змітрук, Тодар Кашкурэвіч залічаны непасрэдна ў склад таварыства, а вось актыўныя ўдзельнікі – Людка Сільнова, Міхась Скобла, Славамір Адамовіч, Эдуард Акулін – аказаліся ўсяго толькі “сучаснікамі “Тутэйшых”.

Магчыма, беларускія літаратуразнаўцы папракнуць англійскага калегу ў тым, што “Тутэйшым”, “Бум-Бам-Літу” і сённяшнім маладым аўтарам прысвечана занадта шмат месца ў яго кнізе, але ў пэўным сэнсе гісторыя сучаснай беларускай літаратуры, напісаная А. Макмілінам, з’яўляецца адказам на акадэмічную “Гісторыю беларускай літаратуры XX стагоддзя” (Т. 4. Кн. 1-2), дзе новай літаратуры прысвечана ўсяго некалькі старонак, а самыя маладыя аўтары, якія “заслужылі” персанальныя раздзелы – гэта Генадзь Пашкоў, Аляксей Дудараў, Мікола Мятліцкі.

Апошнім часам таварыства “Тутэйшыя” і іншыя беларускія літаратурныя згуртаванні канца XX ст. прыцягваюць усё большую ўвагу айчынных і замежных навукоўцаў: як непасрэдны аб’ект даследавання, як мадэль для праверкі знаных тэорый і метадалогій, як аналогія з іншымі перыядамі гісторыі беларускай літаратуры. У 2010 г. у рамках V Міжнароднага кангрэса беларусістаў адбылася секцыя “Літаратурная сітуацыя першай чвэрці XX ст. і “новае беларускае адраджэнне” (канец 1980-х – 1990-я гг.)”, у якой бралі ўдзел Гун-Брыт Колер, Маргарэт Кандлін, Катажына Бартноўска, Ігар Жук, Павел Навуменка і аўтар гэтага артыкула. З апублікаваных пазней матэрыялаў для даследавання феномену “Тутэйшых” найбольшае значэнне мае праца знанага беларускага літаратуразнаўцы і крытыка Ігара Жука “Кумуляцыя і катастрофа: беларускі варыянт развязвання сітуацыі” [52]. І. Жук пералічвае цэлы шэраг літаратурна-грамадскіх суполак 20-х і 80-90-х гг. XX ст. і сцвярджае, што асноватворнымі з іх з’яўляюцца для беларускай культуры “Узвышша” і “Тутэйшыя”. У адрозненне ад А. Бельскага, які назваў “Тутэйшых” “рэплікай “Маладняка” з-за іх імкнення ісці “ў рожкі са старымі”, І. Жук звяртае ўвагу на імкненне да элітарнасці, абранасці ў сяброў таварыства, характэрныя для “Узвышша”, і таму адзначае дваістую прыроду “Тутэйшых”: “З аднаго боку, іх вабіла “маладнякоўства” з экстэнсіўнай устаноўкай катастрафальнага ўздзеяння на літаратурную сітуацыю. З другога боку, іх уласны творча-наватарскі тып набліжаецца да “Узвышша” з дамінавальнай камуляцыйнай устаноўкай на прынцып тварыць усё, а “што загіне – тое загіне” [53].

Характэрна, што І. Жук, як і Г. Кісліцына, выкарыстоўвае манаграфію А. Бязлепкінай у якасці фактаграфічнай крыніцы (напрыклад, апісвае, як атрымаў запрашэнне на чарговую сустрэчу суполкі Алесь Аркуш), што змяншае эўрыстычную каштоўнасць артыкула. Некаторыя цікавыя заўвагі даследчыка больш стасуюцца да “Таварыства маладых літаратараў” і “Бум-Бам-Літу”, чым да “Тутэйшых”: напрыклад, пра фатальную арыентацыю маладых літаратараў на безнацыянальны і касмапалітычны постмадэрнізм у варунках чарговага нацыянальнага адраджэння. Але нават з гэтымі агаворкамі трэба прызнаць, што артыкул І. Жука з’яўляецца першай у беларускім літаратуразнаўстве спробай асэнсаваць феномен “Тутэйшых” на такім тэарэтычным узроўні і на такім шырокім культурна-гістарычным фоне. “Што было б з літаратурай, калі б на пэўным этапе яе гісторыі не абазначылася прысутнасць “Тутэйшых”?” [54] — задае рытарычнае пытанне даследчык. І адказвае: “Іх, “Тутэйшых”, трэба было б выдумаць. Менавіта ў такім – катастрафальным і кумулятыўным – варыянце. Бо “катастрофа” не менш заканамерная і законная з’ява літаратурнага працэсу, чым і кумуляцыя. Таварыства, праўдападобна, рэалізавала патаемную мару “Узвышша” аб актыўным і шпаркім, масавым нараджэнні “не-вясковай” і “не-сялянскай” беларускай літаратуры, а сучаснасці прышчапіла павышаны “градус” сацыяльнай і эстэтычнай пратэстнасці” [55].

Падсумоўваючы агляд крытычнай і навуковай літаратуры пра дзейнасць і творчасць таварыства “Тутэйшыя”, можна зрабіць наступныя высновы. За дзвац-

цаць пяць гадоў “Тутэйшыя” сталіся “брэндам пакалення” (С. Дубавец), “міфам чарговага беларускага Адраджэння” (В. Акудовіч), “роўнакаштоўнай “Узвышшу” рэплікай беларускай літаратуры” (І. Жук), важным артэфактам нацыянальнай культуры. З аднаго боку, крытычнае прэпараванне міфа, навуковая дэканструкцыя разбураюць прыгожую легенду і часта дэфармуюць яе. З іншага боку, успаміны, літаратурныя артыкулы, навуковыя даследаванні дазваляюць глыбей зразумець сутнасць з'явы і вызначыць яе сапраўднае месца ў гісторыі літаратуры. Выклікае трывогу амаль поўная адсутнасць успамінаў “тутэйшых” пра часы маладосці (у адрозненне, напрыклад, ад вялікай колькасці ўспамінаў “бум-бам-літаўцаў”). Нешматлікія даследаванні пра “Тутэйшых” грунтуюцца на абмежаванай колькасці крыніцаў (“Маніфест”, анкеты і інтэрв'ю, падрыхтаваныя А. Бязлепкінай). Патрэбны новыя дакументальныя матэрыялы (напрыклад, сведчанні старэйшых пісьменнікаў, нататкі з архіваў КДБ, які пільна сачыў за дзейнасцю нефармальных суполак) і новыя інтэрпрэтацыі феномену “Тутэйшых”, здзейсненыя ў розных ракурсах даследчыкамі розных генерацыяў.

Спасылкі і заўвагі:


1. Дубавец С. Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду. Мінск, 2012.
2. Наш кар. Маладыя трымаюць экзамен // Літаратура і мастацтва. 1987. 18 снежня; Сямёнава А. “А хацелася б слова не марнага...” // Літаратура і мастацтва. 1988. 10 студзеня; Лецка Я. Экзаменатары, будзем справядлівымі // Літаратура і мастацтва. 1988. 5 лютага; Козлович А. Кто они – “Тутейшыя”? // Литературная газета. 1988. 10 августа; І гэта прыклад для маладых? // Літаратура і мастацтва. 1988. 19 жніўня; Міклашэўскі Я. Адказ на анкету “Маладосці” // Маладосць. 1989. №2. С. 167-170; Козлович А. Совсем распустились! // Литературная газета. 1990. 28 февраля; Купцоў С. Бацькі ці дзеці? // Літаратура і мастацтва. 1990. 8 чэрвеня.
3. Усё наперадзе: Анкета “Маладосці” // Маладосць. 1988. №4. С. 143-156.
4. “Неформалы” – кто вы?// Неман. 1988. №6. С. 159-168.
5. Хто вы, „Тутэйшыя”? // Бярозка. 1989. №3. С. 2-3, 22-23.
6. Maksymiuk J. Imiona umartwionej mowy. Esej o średniomłodej literaturze białoruskiej (niektyre imiona) // Kartki. 1997. №1. S. 6-8.
7. Manifest “Tutejszych”. Tłum. M. Wawrzeniuk // Kartki. 1997. №1. S. 12-13.
8. Maksymiuk J. Imiona umartwionej mowy. S. 6.
9. Ibidem. S. 7.
10. Maksymiuk J. Poeci wśryd ruin nadchodzącego krylestwa // Za niebokresem Europy. Antologia nowej poezji białoruskiej 1987-1997. Białystok, 1998. S. 101-115.
11. Maksymiuk J. Poeci wśryd ruin nadchodzącego krylestwa. S. 103.
12. Ibidem. S. 101.
13. Ад “Тутэйшых” да тутэйшых... // Літаратура і мастацтва. 1998. 24 красавіка. С. 6-7.
14. Акудовіч В. Уводзіны ў Новую літаратурную сытуацыю: Лекцыі для Беларускага калегіюма. “Фрагмэнты”. 1999. № 3-4. С. 213-250. Пазней гэты тэкст быў змешчаны ў кнізе В. Акудовіча “Разбурыць Парыж” (Мінск, 2004), паводле названага выдання ён і цытуецца ў нашым артыкуле.
15. Аркуш А. Ці ўлічыць вопыт “Тутэйшых” найноўшая генерацыя? // Літаратура і мастацтва. 1998. 4 верасня.
16. Аркуш А. Вяртаньне ў “Тутэйшыя” // http://txt.knihi.com/ arkus/tutejsyja.html.
17. Акудовіч В. Разбурыць Парыж. Мінск, 2004. С. 229.
18. Тамсама. С. 230.
19. Тамсама. С. 233.
20. Бельскі А.І. Сучасная беларуская літаратура. Станаўленне і развіццё творчых індывідуальнасцяў (80-90-я гг.). Мінск,1997. С. 7.
21. Тамсама. С. 7.
22. Тамсама. С. 7.
23. Бельскі А. Паэзія // Гісторыя беларускай літаратуры ХХ стагоддзя. Рэд. У.В. Гніламёдаў, С.С. Лаўшук. Т. 4. Кн. 2. Мінск, 2003. С. 48.
24. Андраюк С.А. Проза // Гісторыя беларускай літаратуры ХХ стагоддзя. Т. 4. Кн. 2. С. 33.

25. Аркуш А. Вяртаньне ў "Тутэйшыя" // http://txt.knihi.com/ arkus/tutejsyja.html. Матэрыял з'явіўся ў інтэрнэце ў 2000 г., пазней быў апублікаваны ў кнізе А. Аркуша "Аскепкі вялікага малюнка" (Мінск, 2007), паводле кніжнага выдання мы і цытуем яго ў нашым артыкуле.
26. Ад "Тутэйшых" да тутэйшых... С. 6.
27. Бязлепкіна А. Разам і паасобку: таварыства "Тутэйшыя". Мінск, 2003. С. 6-15.
28. Ад "Тутэйшых" да тутэйшых... С. 6.
29. Аркуш А. Аскепкі вялікага малюнку. Мінск, 2007. С. 56.
30. Бязлепкіна А. Разам і паасобку: таварыства "Тутэйшыя". С. 14.
31. Аркуш А. Аскепкі вялікага малюнку. С. 56.
32. Тамсама. С. 43.
33. Бяляцкі А. Трагедыя Толіка Сыса // Наша Ніва. 2005. 14 кастрычніка.
34. Аркуш А. Аскепкі вялікага малюнку. С. 59.
35. Аркуш А. Аскепкі вялікага малюнку. С. 64-65.
36. Бяляцкі А. Трагедыя Толіка Сыса.
37. Бязлепкіна А. Разам і паасобку: таварыства "Тутэйшыя. С. 146.
38. Тамсама. С. 3.
39. Тамсама, С. 77.
40. Бязлепкіна А. Разам і паасобку: таварыства "Тутэйшыя". С. 77.
41. Тамсама. С. 78.
42. Манаграфія паслужыла асновай артыкула А. Бязлепкінай "Маладзёжны літаратурны рух у Беларусі напрыканцы XX стагоддзя" ("Роднае слова", 2005. №2. С. 91-93), выкарыстана ў яе кнізе "100 слоў пра сучасную беларускую літаратуру" (Мінск, 2012) і часткова – у кандыдацкай дысертацыі "Ідэйна-мастацкая пераемнасць у беларускім літаратурным працэсе канца XX стагоддзя" (2006) – на жаль, неапублікаванай.
43. Кісліцына Г. Новая літаратурная сітуацыя: змена культурнай парадыгмы. Мінск, 2006. С. 43-74.
44. Тамсама. С. 50.
45. Тамсама. С. 48.
46. Кісліцына Г. "Прабач, паэт, прабач, расстрыга..." // Крыніца. 2001. №66. С. 44
47. Кісліцына Г. Новая літаратурная сітуацыя: змена культурнай парадыгмы. С. 57-58.
48. Тамсама. С. 50.
49. Тамсама. С. 73.
50. Макмілін А. Пісьменства ў халодным клімаце. Беларуская літаратура ад 70-х гг. XX ст. да нашых дзён" Беласток, 2011. С. 235-237. Англійскае выданне выйшла раней: McMillin A. Writing in a cold climate. Belarusian literature from the 1970s to the present day. London, 2010.
51. Тамсама. С. 235.
52. Жук І. Кумуляцыя і катастрофа: беларускі варыянт развязвання сітуацыі // Новае слова ў літаратуразнаўстве і фалькларыстыцы. Матэрыялы V Міжнароднага кангрэса беларусістаў. Пад рэд. І. Багдановіч. Мінск, 2012. С. 103-110.
53. Тамсама. С. 107.
54. Тамсама. С. 109.
55. Тамсама. С. 109-110.

Алесь Бяляцкі



...мы навучыліся...

глядзець свайму лёсу вочы ў вочы...

# Роднае гняздо

***Паліна Качаткова. Матылі. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 144 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка; вып. 29).***

Гэтую кнігу я даўно і доўга чакаў. Паліна Качаткова яшчэ ў студэнцкія гады пачала пісаць прозу. Часта першым чытачом яе апавяданняў быў я. Кола нашых сумесных інтарэсаў было шырэйшым. Яшчэ юначкаю яна далучылася да моладзевага нацыянальнага дэмакратычнага руху. 1986-87-я гады – перыяд бурнага развіцця моладзевых дэмакратычных нефармальных суполак “Талака”, “Тутэйшыя”, “Світанак”. Шматлікія студэнцкія групы і групкі як магнітам прыцягвалі і збіралі неабыякавую да беларушчыны моладзь. Праходзілі разнастайныя культурніцкія імпрэзы, круглыя сталы, навуковыя канферэнцыі па хвалюючых пытаннях існавання і далейшага развіцця беларускай культуры, архітэктурнай і гістарычнай спадчыны. І паўсюль на іх можна было ўбачыць Паліну. Яна, сціплая і знешне нясмелая студэнтка філфака, ездзіла і на свята паэзіі ў Ракуцеўшчыну, дапамагала Зянону Пазняку ў археалагічных раскопках Верхняга гораду ў Мінску, брала ўдзел у літаратурных і грамадскіх імпрэзах таварыства маладых літаратараў “Тутэйшыя”.




Яна часта прыходзіла ў аспіранцкі інтэрнат Акадэміі навук на вуліцы Акадэмічнай у Мінску, дзе ў той час жыў я, і дзе праз мой пакой праходзіла багата беларускай свядомай моладзі. Знаёмства з гісторыкамі, мастакамі, маладымі пісьменнікамі Анатолем Сысом, Адамам Глобусам, Анатолем Казловым ды іншымі моцна паўплывалі на фармаванне светапогляду і ўласнага "я" Паліны Качатковай.

Такім чынам, ужо са студэнцкіх гадоў у яе свядомасці былі закладзеныя непрыняцце фальшу савецкага ладу жыцця і камуністычнай ідэалогіі. Яшчэ ў школьныя гады, прачытаўшы зборнік вершаў Алега Мінкіна "Сурма", творы Уладзіміра Караткевіча, Паліна Качаткова натхнілася беларускім прыгожым словам. У Мінску ў моладзевым беларускім асяродку яе натхнёнасць вырасла і ўзмацнілася. У 1987 годзе Паліна Качаткова дапамагала ў выданні падпольнага каталіцкага часопіса "Вера", у падрыхтоўцы якога браў удзел і я. У тым самым годзе мы разам: Паліна Качаткова, я, Андрэй Федарэнка, Анатоль Дэбіш, Алесь Жлутка, Міхась Талочка на "тутэйшаўскім" чаўне сплывалі з іншымі беларускімі і латышскімі "нефармаламі" па Заходняй Дзвіне, пратэстуючы супраць будаўніцтва Дзвінскай (Даўгаўпілскай) гідраэлектрастанцыі. Паліна Качаткова была і на славутых Дзядах 1988-га года.

Вось у такім бурлівым грамадскім і культурным катле фармаваліся літаратурныя схільнасці тагачаснай студэнткі. Менавіта тады яна атрымала магутны жыццёвы зарад, светапоглядныя арыенціры, устойлівую пазіцыю нонканфармізму ў жыцці, якія з'яўляюцца тлом, падмуркам яе далейшай творчасці: сучаснай, гарадской, пазбаўленай комплексу архаічнасці і правінцыяналізму беларускай прозы.

У кнігу "Матылі" ўвайшлі творы, напісаныя з 1988 па 2011 гады. Такім чынам, мы маем зборнік прозы, напісанай аўтаркай на працягу чвэрці стагоддзя. За гэты час разваліўся Саюз, над Беларуссю памяняліся тры сцягі і тры гербы, і яшчэ багата што змянілася. Мінула цэлая эпоха, у якой засталася і вялікая частка нашага жыцця.

Яшчэ ў самых першых літаратурных спробах Паліны Качатковай заўважыўся яе адметны стыль, жаданне пісаць проста, уменне па-свойму, назіральна паглядзець на звычайныя, штодзённыя побытавыя з'явы і рэчы.

Арыгінальнасць прозы залежыць ад арыгінальнасці, складанасці і цікавасці асобы аўтара. Ёсць тут вартавочная сувязь. Але як часта ўменне слухаць, уяўляць, сuперажываць пераўтварае пісьменніка ў асобу, вобразна кажучы, з агаленымі нервамі. І як часта талент перастварэння ўскладняе творцу жыццё. Кожнаму па-свойму.

Значным этапам у жыцці Паліны Качатковай была праца ў музеі Максіма Багдановіча. Прыйшоўшы працаваць у музей адразу пасля ўніверсітэта, Паліна далучылася да сталых музейных працаўнікоў, знаўцаў сваёй справы. Праца над экспазіцыяй музея, над экскурсам, якая інтэнсіўна вялася ў тыя гады, адразу завабілі яе ў свет багдановічазнаўства і навучылі ашчадна ставіцца да кожнага слова, існуючага ў музейных анатацыях і тэкстах.

У музеі на той час склалася пэўнае творчае асяроддзе. Там працавалі паэт Эдуард Акулін, празаік Алесь Астраўцоў, літаратуразнаўца Мікола Трус, аднакурсніцы Паліны – Тацяна Равяка і Алена Лапцёнак. Дырэктарам музея быў тады я. Гэты ўнікальны музейны асяродак спрыяў творчаму развіццю Паліны Качатковай. І хоць у нас не было спецыяльных абмеркаванняў творчасці пісьменнікаў, якія працавалі ў музеі, але існавала спрыяльная сяброўская атмасфера, праводзіліся літаратурныя і музычныя вечарыны, выставы, падтрымліваліся новыя творы і новыя публікацыі.

Галоўнае, што я як літаратурны крытык раіў Паліне Качатковай – гэта болей

пісаць, распісвацца і ўдасканальваць уласную манеру пісьма. Універсальная, можа банальная, але слушная парада для любога празаіка. Бо апроч таленту для выніку неабходныя сістэматычныя практыкаванні. У працэсе пісання выпрацоўваецца стыль, уменне пры дапамозе слова перадаць сваю думку, пачуцці, эмоцыі. Мусіць ісці пастаянная праца над словам. І яна можа не выратаваць пісьменніка, калі адсутнічае праца думкі, калі чалавеку няма чаго сказаць.

Праца ў музеі натхніла Паліну Качаткову на напісанне некалькіх твораў. Гэта апавяданні ў кнізе “Кавалак жыцця”, “Пра адну кабету”, эсэ “Цені”. У апавяданні “Кавалак жыцця” хоць і прыдуманы сюжэт, але ягоныя героі-музейшчыкі – рэальныя асобы. Я назваў бы яго музейным апавяданнем, бо ў ім прысутнічае музейная атмасфера, музей паказваецца не толькі звонку, але і з сярэдзіны. Ужо ў гэтым апавяданні, напісаным у 1992 годзе, аўтарка закранае пытанні, якія будуць неадступна хваляваць яе ўсе наступныя гады. Там існуюць размовы пра жыццё і пра смерць, ёсць жыццёвая неспатоленасць, ёсць жаданне і чаканне зменаў. “Ты заўважыла, як дзеці любяць глядзець на пахаванні? Зразумела, што не ўсе. Некаторыя баяцца. А большасці – падабаецца. Таму што між волі цягнуцца да ўсяго жудаснага, незразумелага”.

У эсэ “Пра адну кабету” Паліна Качаткова апісвае лёс і адзінокую смерць адной з апошніх уладальніцаў фальварка Ракуцёўшчына, куды напачатку мінулага стагодзя прыязджаў адпачываць і працаваць Максім Багдановіч, а за нашым часам мы адбудавалі яго для філіі музея.

У эсэ “Цені” аўтарка апісвае Феадосію, Стары Крым, дзе ўлетку 1915 года адпачываў Максім Багдановіч. Яна спрабуе паглядзець на тыя самыя мясціны, якія ў свой час наведваў М. Багдановіч, сваімі вачыма, праз прорву часу ў яго 90 гадоў. Пісьменніца разважае над таямніцаю, якая захоўваецца ў музеі, – “інтымны дзённік паэта”, будуе розныя версіі яго напісання. Гэты “дзённік” уяўляецца Паліне Качатковай як “інструмент самааналізу, як фармат пратэсту супраць мастацкай творчасці, супраць вымыслаў і домыслаў”. У гэтых словах між іншага закладзены і далейшы накірунак развіцця творчага таленту самой Паліны Качатковай. Часта проза пісьменніцы набывае форму дзённіка, гранічна шчырага і часам нават бязлітаснага да яе складальніка, амаль так, як у Максіма Багдановіча...

Відавочна, што “багдановічаўская” тэма апавяданняў і эсэ важная і хвалюючая для аўтаркі. Яна падае сваю інтэрпрэтацыю ўчынкаў і дзеянняў паэта, імкнучыся як мага бліжэй трымацца праўды. Бо часам творчая, мастацкая гіпотэза даследчыка становіцца ўстойлівым стэрэатыпам. Так атрымалася з версіяй стасункаў паміж Максімам Багдановічам і ягоным бацькам Адамам Ягоравічам, выкладзенай у выдатным эсэ Міхася Стральцова “Загадка Багдановіча”. Пры больш уважлівым азнаямленні з існуючымі фактарамі з жыцця бацькі і сына аказваецца, што яна не вытрымлівае крытыкі. Урэшце, на тое і існуе мастацкая літаратура, каб хваляваць... чытача. І што як не асабістыя эмоцыі, уласны погляд на Максіма Багдановіча, ягонае асяроддзе, ажыўляе паэта, робіць больш зразумелымі і ягоныя ўчынкі, і ягоную творчасць.

Музей кансервуе эпоху: людзей, пачуцці, час. Паліна Качаткова здолела ўдыхнуць жыццё ў некаторыя старонкі біяграфіі вялікага беларускага паэта. За бронзавай постаццю класіка мы ўбачылі жывое аблічча таленавітага юнака.

Яшчэ адна адметнасць прозы Паліны Качатковай праявілася ў гэтым эсэ. Маецца на ўвазе ягоная частка, дзе падаецца амаль дакументальны запіс расповеду Ніны Дзябольскай, сваячкі сябра Максіма Багдановіча Дыядора Дзябольскага. Ён апрацаваны пісьменніцай. Там адчуваецца прысутнасць яе стылю, але ў той самы час ён максімальна набліжаецца да крыніцы аповеду.

Можна меркаваць, што выпрацоўцы гэтага лаканічнага, дакументальнага стылю Паліне Качатковай дапамагла праца над кнігаю “Трагедыя на Нямізе”, напісанай

ёй у суаўтарстве з Тацянай Равяка ў 1999 годзе. Далей у сваіх мастацкіх творах, літаратурных запісах, эсэ Паліна Качаткова будзе яшчэ не раз звяртацца да гэтага літаратурнага прыёму: аповеду галоўнага героя ў дакументальнай спавядальніцкай форме, якая надае тэксту эфект поўнай праўдзівасці і шчырасці. У прозе такога кшталту важнае ўменне аўтара адсеяць неістотнае і выбраць для тэксту тыя эпізоды, тыя часткі маналогу – споведзі апавядальніка, якія б стваралі неабходную для аўтара карціну. І Паліне Качатковай гэта бліскуча ўдаецца. Расповеды яе герояў зазвычай нешматслоўныя, ясныя, напоўненыя вялікай сэнсавай нагрузкаю. Яны сціснутыя і самадастатковыя. Па такім жа прынцыпе Паліна Качаткова будуе і дыялогі ў сваіх апавяданнях. З такіх дыялогаў, як кажуць, не выкінеш ніводнага лішняга слова, бо там іх... проста няма. Гэтым, дарэчы, проза Паліны Качатковай вылучаецца з агульнай плыні “жаночай” прозы. Сціснутасць і лаканічнасць тэкстаў у яе незвычайная.

Яшчэ адное апавяданне ў кнізе, звязанае з музеем, называецца “Сярод усяго”. У ім апісаныя “музейныя дзеці” – мой сын Адась і дачка Алены Лапцёнак Яна. Апісаныя яны даволі рэалістычна, з праўдзівымі дыялогамі і годнымі даверу паводзінамі. У мяне існуе дзіўнае пачуццё – бачыць дзяцей у апавяданні маленькімі. А мінула ўжо 17 гадоў, і яны павырасталі...

У гэтым апавяданні звяртае на сябе ўвагу такая адметная акалічнасць, як мазаічнасць тканіны твора. Агульная карціна складваецца з нязначных і зусім дробных фактаў, эпізодаў, падзеяў. Неаднаразова мяняецца і тэма апавядання. Робіцца гэта аўтаркаю па-майстэрску непрыкметна. Паліна Качаткова, як пацеркі ў каралях, нанізвае на сюжэтную нітку-канву разнастайныя гісторыі, пачуцці, успаміны, рэфлексіі, дзеі. Гэтае ўменне – ствараць агульную карціну-фрэску з розных кавалачкаў жыццёвай смальты – Паліна Качаткова будзе развіваць у сваёй далейшай літаратурнай творчасці. Часам, прачытаўшы такое апавяданне, чытач можа задаць пытанне – дык пра што яно? Пра жыццё. Пра нашае жыццё, такое, якое яно ёсць.

Узорам тут можа паслужыць адное з лепшых, на мой погляд, апавяданняў у зборніку – “Чужое гняздо”. На трох старонках тэксту гаворка ідзе пра мінскую заалагічную краму “Прырода”. Пра рыбак, папугаяў, сабакаў, пра знаёмую паэтку, пра Максіма Багдановіча, пра любімага чалавека і стасункі з ім, пра чужое гняздо, дзе жыве любімы чалавек з жонкаю, пра іхнія стасункі, пра Балгарыю і ўсвядомленую там карціну шчасця.

Гэтае апавяданне прымушае ўчытвацца ў кожны сказ. Бо наступны новы сказ – гэта цікавы паварот думкі, сюжэту, пачуццяў. Чытаючы яго, я адчуваў сябе як у байдарцы, калі плывеш па вузкай, але глыбокай, звілістай рэчцы, дзе за кожнай новай паваротаю цябе чакае штосьці новае, неспазнанае, дзе з кожным узмахам вясла адчыняецца ціхая радасць першаадкрыцця.

На дакументальным прынцыпе размоваў з маці, бабуляй, цёткаю, знаёмымі пабудаваныя апавяданні “Трафеі”, “Лялечны куток”, “Вучні”, “Нешта аднаго берагае, а іншага адразу губіць”.

У форме электроннай перапіскі галоўнай гераіні і яе сяброўкі напісана апавяданне “Знаёмства з Робертам Кангасам”. Апавяданне цікавае для мяне з розных прычынаў. Адна з іх – абраная форма дыялогу паміж галоўнай гераіняй і яе сяброўкаю ў выглядзе электронных лістоў. І хоць зараз кампутар з інтэрнэтам можна ўбачыць і ў вясковай хаце, але апавяданне было напісана ў 2001 годзе, і тады гэта быў прадмет гарадскога інтэр’еру.

Трохі адыйду ў бок, заакцэнтую на гэтым увагу. Паліна Качаткова – гарадская жыхарка ўжо як мінімум у чацвёртым пакаленні. Яна з’яўляецца натуральнай носьбіткай гарадской беларускай культуры, пра якую мы так доўга думалі-гадалі – а якая ж яна будзе і ці ўзрасце яна ўвогуле на гарадскім асфальце. Нават

жывучы апошнія гады ў Оршы, у прыватнай хаце, можна сказаць, на зямлі, Паліна Качаткова ўсё роўна глядзіць на гэтую зямлю вачыма гарадскога чалавека.

Цяперашняя манера перапіскі ў інтэрнэце – адрывістая і лаканічная. Яна моцна адрозніваецца ад паштовай перапіскі і хутчэй нагадвае даўнейшае пісанне цыдулак, якія некалі мы, вучні, крэмзалі адно аднаму падчас заняткаў. Яна ідэальна пасуе для творчай манеры пісьменніцы Паліны Качатковай. Электронныя лісты без пачатку і канца, з неабавязковымі для тлумачэння перапынкамі ў перапісцы, вельмі настраёвыя і сэнсоўныя, з адвольным пераходам ад адной тэмы да другой, з галоўнай лініі на іншую, здавалася б, нязначную і другасную, якая можа імгненна развіцца і праз момант стаць асноўнай.

Што яшчэ істотнае ў электроннай перапісцы, дык гэта адчуванне ілюзорнасці, якое яна дае. Дастаткова клацнуць клавішай – і ліста няма. Але яго можна захаваць, а можна раней знішчаны ліст, калі пастарацца, і аднавіць. У ім большая адпаведнасць з ілюзіямі пачуццяў і быцця сучаснага чалавека.

Апроч усяго, у гэтай навеле, як у расійскай ляльцы-матрунцы "схаваныя" яшчэ два пераказы навелаў шведскага пісьменніка Роберта Кангаса. Першую навелу галоўная гераіня пераказвае мужчыну, з якім яна сустракаецца, а другую яна абмяркоўвае з сяброўкай – перакладчыцай гэтых навелаў, якая ў сваю чаргу пераказвае меркаванне аўтару навелы.

Сюжэт гэтай навелы атрымаўся мудрагелістым і складаным. Але, урэшце, прайшоўшы ўсе павароткі, прачытаўшы ўсе дыялогі і асэнсаваўшы думкі дзейных асобаў, прыходзіш да высновы, што гэтая навела ўсе ж пра жаночую адзіноту. Тую адзіноту, якая ўсё больш становіцца нормай сучаснага жыцця.

Творчасць Паліны Качатковай можна аднесці да жаночай прозы, бо часта тое, пра што піша аўтарка, з'яўляецца і жаночымі гісторыямі, і чыста жаночымі перажываннямі. У іх існуе хімія жаночых стасункаў, паводзінаў, ацэнак. Але напісаныя яны незвычайна для жаночай прозы, больш сухой і дакладнай моваю.

Амаль ва ўсіх сваіх творах Паліна Качаткова любіць падрабязна апісваць, хоць мімаходзь, але абавязкова закрануць разнастайныя страхі, жахі, смерці. Як дзіўныя "готы", апранутыя ва ўсё чорнае, з выбеленымі тварамі і фіялетавымі пазногцямі, праходзяць праз размаіты кірмаш жыцця ў яе творах самагубцы, тапельцы, псіхапаты, таксікаманы, былыя зэкі-сухотнікі і педафілы. І напачатку ты на іх рэагуеш, часам палохаешся, а потым звыкаешся з імі. Бо калі яны скрозь існуюць у нашым звычайным жыцці, дык чаму б ім не быць і ў беларускай літаратуры? Сумленная ж літаратура адлюстроўвае жыццё. Ці не так? Але што не дазваляе творам Паліны Качатковай упасці ў прорву невылечнага песімізму, дык гэта гуманістычны погляд пісьменніцы на праявы жыцця. Нягледзячы на ўсе жорсткія і несправядлівыя недарэчнасці гэтага свету, якія паказвае і над якімі разважае аўтарка, дабрыня і гуманізм – незнішчальныя. Яны – неад'емная сутнасць чалавечай істоты.

Паліна Качаткова мае несумненны талент апавядальніка. Ён захоплівае і авалодвае тваёй увагаю, змушае суперажываць. І першыя прыкметы ўцягнутасці і далучанасці – гэта тое, што яе творы выклікаюць шэраг тваіх уласных асацыяцыяў. Чытаючы "Матылі", я адчуў, што і мне таксама хочацца распавесці штосьці сваё, каб працягнуць яе гісторыі і апавяданні.

Вось аўтарка піша пра пахаванне ва ўяўленні дзяцей, і я ўзгадваю тое пахаванне, якое ў дзяцінстве ўразіла мяне, калі хавалі 17-цігадовую дзяўчыну ў вясельнай сукні і вэлюме. Вось пісьменніца піша пра "беларускую аўчарку", і я ўзгадваю ракаўскага прыблуднага сабаку па мянушцы Воўк, які жыў у нас у двары, і ў думках вызначаю – што ў яго ад свойскага, тутэйшага заводу, а што – помесь, прынесеная аднекуль. А пасля чамусьці ўзгадваю сваю кошку Касю, з чорнай поўсцю і белым падпушкам. Кася з чорна-бліскучай на сонцы, бы антрацыт, пасля

купання станавілася белай коткаю з чорнымі голачкамі поўсці. А калі я вазіў яе ў ветэрынарную лякарню з Ракава ў Мінск, на яе запаўнялі картку і пыталіся: "Якая парода?" Я адказваў: "Ракаўская вясковая". Так у фармуляры і запісана, толькі дзе цяпер Кася, а дзе я...

Творы, напісаныя Палінай Качатковай у апошнія гады, у кніжцы вызначаюцца спеласцю думкі і адточанасцю формы. Відавочна, што яна дасягнула высокага ўзроўню прафесіяналізму. Яна працягнула працу над стылем, над думкаю, як скульптарка, дбайна адсякаючы кожнае лішняе слова.

Апавяданне "Два пінгвіны" мае відавочны філасофскі падтэкст. Аўтарка задумваецца над сэнсам чалавечага жыцця, крохкасцю яго існавання.

У невялікіх "блогаўскіх" тэкстах, аб'яднаных пад назваю "Дрэвы, спілаваныя зімой", з'яўляецца афарыстычнасць: "Прамерзлыя мёртвыя дрэвы, для якіх не будзе вясны, але яны пра гэтае яшчэ не ведаюць", "будучыня заўсёды цьмяная, а мінулага шкада".

Спалучэнне трагічнага з парадаксальна-цынічным, "жыццёвым", у зацемкахгісторыях "На беразе" ў выніку дае эфект чорнага гумару: "Вось калі памрэ ваш сабачка, вы яго да нас прыносьце, а мы вам замест яго мех касцявой мукі выдадзім".

Выдатныя кінематаграфічныя дыялогі чытаюцца ў зацемках-гісторыях "Чалавек жанчына":

"Хуткая плынь падчапіла і пацягнула Наташу.

– Я тону, тону, — закрычала яна.

– Нацыяналіст паспеў схапіць яе за руку:

– Паветра набірай, паветра.

– Я не понимаю, что такое паветра. Я тону! Говорите по-русски!

– Не буду гаварыць па-руску! Паветра набірай".

І ў гэтым жа зборы замалёвак ёсць бліскучыя жаночыя гісторыі "Мужагон", "Жаба".

Апошняе ў зборніку эсэ – "Здрада цела". Яно ж апошняе па часе напісання. Эсе, складзенае з асобных думак, запісаў, лістоў, жыццёвых гісторыяў, замалёвак прыроды. Гэтая вітражная разнастайнасць аб'яднаная гадавым цыклам. Падзеі пачынаюцца перад ледаставам: "Крыг на Дняпры ўсё больш, яны вялікія і плывуць запаволена. Яшчэ адная халодная ноч – і рака замерзне. Чорныя вароны на снезе. Адчуванне, што новы год будзе нядобрым". Праходзячы гадавое кола, ізноў надыходзіць зіма: "Вось... усё засыпана. Раніца, сонная, ціхая. Куст шыпшыны заснежаны, і елачка. Так не хочацца зімы!" Цыклічнасць у прыродзе задае і пэўную рытміку твора.

Чытаючы "Здраду цела", я згадваю "Камароўскую хроніку" Максіма Гарэцкага. У мяне з'яўляецца адчуванне, што гэтая проза напісаная па адных канонах з выкарыстаннем падобных мастацкіх прыёмаў.

Прачытаўшы зборнік прозы "Матылі", я задумаўся, чаму так позна ў маіх сяброў, беларускіх празаікаў, паэтаў, выходзяць першыя кніжкі. Можа таму, што яны напачатку спяшаюцца жыць? Жанчыны звычайна развіваюць свае творчыя здольнасці пазней за мужчынаў. Але яны даўжэй застаюцца творча актыўнымі. Таму я вельмі спадзяюся, што гэтая першая на паперы кніжка Паліны Качатковай застанецца не апошняй, што з'явяцца наступныя і наступныя кнігі. У беларускай літаратуры выразна і годна заявіла пра сябе таленавітая і арыгінальная пісьменніца.

Пэўна, што дзіцячыя і юнацкія страхі праходзяць, а замест іх з'яўляюцца страхі і праблемы дарослыя. Але мы ўжо выраслі і пасталелі. І мы навучыліся не замружвацца, не адварочвацца, а глядзець свайму лёсу вочы ў вочы.

*2 сакавіка 2013 года,*
*Бабруйск.*

крытыка

Ірына Шаўлякова



...адзін з самых важкіх вобразаў-топасаў прозы Уладзіміра Сцяпана апошняга дзесяцігоддзя набывае сімвалічную рэчыўнасць тутэйшага "Маконда"...

# Капаэйра ў сутонні

***Уладзімір Сцяпан. Адна капейка. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2012. — 224 с.***

Па ўсіх рамсах — паводле фактараў, перапрашаем, эндагенных (унутрылітаратурных) і экзагенных (калялітаратурных), — ключавым звяном харчовага ланцуга тутэйшага прыгожага пісьменства напачатку другога дзесяцігоддзя XXI стагоддзя з'яўляецца новая літэ*літа*, што складаецца са "старых" рэалістаў. Праўда, "навізна" яе ёсць умоўнатэарэтычнай, бо выяўляецца пераважна на тле векапомных дзевяностых, чый плён у калектыўным бессвядомым айчынага літаратурнага працэсу занатаваўся як высвятленне стасункаў з "ценямі згаслага свету" (Віктар Пялевін). Акрамя таго, "старасць" *тых* рэалістаў напаткала яшчэ цягам лімаўскай дыскусіі 1990-х з ласкі Андрэя Федарэнкі; сёння за "старых" іх варта ўважаць, бадай, таксама тэарэтычна — у межах айчыннай літаратурнай экасістэмы. Бо на практыцы іх з зайздросным апетытам "ядуць" усе ахвочыя (і літаратурныя людзі, і калялітаратурныя персанажы) — "за эстэтычнае




рэтраградства”, “мастацкі кансерватызм”, “няздатнасць да аўтамаркетынгу (самапродажу)”, “нееўрапейскасць” і г. д., — а яны ўпарта “прырастаюць” у сэнсе мастацкай уплывовасці, “прарастаючы” новымі творамі.

Няздатнасць “старых” да хаўрусавання, фармавання ў зграю як найбольш зручную форму жыццядзейнасці ў тутэйшым літпрацэсе бачыцца адначасова і вытокам, і вынікам іх спецыфічнай элітарнасці ў сённяшняй літаратурнай прасторы. Яўген Рагін у артыкуле “Пакаранне незалежнасцю (пра нацыянальны сіндром «раскіданага гнязда»)” (“ЛіМ”, 18 лютага 2000 г.) з горкім досціпам інвентарызаваў ключавыя складнікі “дакладнай явы” Беларусі досвітку нулявых: “Пятля — сякера — жабрацтва — знакі-капцы на разорах так і не засеянай беларускай нівы”. Праз дзесяць год на хаатычна (будзем лічыць — *інавацыйна...*) уробленых беларускіх літаратурных палетках адмысловымі “знакамі-капцамі” адзінотнічаюць *тыя* — “старыя” ва ўзросце творчай поўні.

Аксіялагічныя і эстэтычныя каардынаты сённяшняй творчай адасобленасці Уладзіміра Сцяпана (выключнай нават на фоне прадвызначанага адзінотніцтва “братоў па эліце”) прадчуваліся ўжо ў яго зборніках прозы “Вежа” і “Сам-насам” (абодва — 1990). “Адна капейка” (2012), куды, паводле анатацыі, увайшлі “лепшыя творы, напісаныя аўтарам за апошнія восем гадоў, — навелы, апавяданні і тэксты без пэўнай жанравай маркіроўкі”, рэпрэзентуе ўжо *сістэму* згаданых каардынат. Цікава, што нават найноўшыя “лангальеры”, генетычна (ab ova) запраграмаваныя на літжыццё як старававанне чужых мастацкіх сусветаў, “часапрастору” Уладзіміра Сцяпана амаль не разглядаюць у аспекце спажывецкім. Бо такая канцэнтрацыя мастакоўскай самадастатковасці і мастацкай цэльнасці аказваецца згубнай для арганізмаў, арыентаваных на вытворчасць *псеўды* (немалыя запасы яе ў родных “нетрах” некалі адшукаў Юры Станкевіч: згадаем яго аповесць “Псеўда”, што ўвайшла ў кнігу 2000 года “Любіць ноч — права пацукоў”).

Проза Уладзіміра Сцяпана ёсць асяродкам агрэсіўным для любых, нават самых “бяскрыўдных” праяваў псеўды, шматаблічнай і ўсюдыіснай. Напрыклад, крытык Павал Абрамовіч, падводзячы літаратурныя вынікі 2012 года ў “Нашай Ніве”, з матываванай (як на мой погляд) суровасцю рэагуе на чарговы “літаратурны трэнд Беларусі — «кнігай» называць зборнік: “Каб з’явілася кніга, трэба напісаць кнігу. Каб з’явіўся зборнік, дастаткова ўкласці зборнік. Не дзіўна, што рэдактары — укладальнікі зборнікаў зрабіліся «шэрымі кардыналамі» беларускай літаратуры”. Да *псеўда*тонкасцяў сённяшняга літаратурнага *“шыльдапісу”* — імкнення выдаць “мексіканскага тушкана” (празаічныя зборнікі) за “шанхайскага барса” (“кнігі прозы”) — Уладзімір Сцяпан паставіўся з элітарнай безуважнасцю. “Адна капейка” ёсць тым, чым падаецца яе аўтару: *кнігай прозы*, якая паслядоўна спраўджваецца ў адпаведным статусе ў планах кампазіцыйнай структуры, жанравага складу, на ўзроўнях сюжэтна-падзейным, вобразна-выяўленчым etc.

Між тым, вонкава “Адна капейка” пазбаўлена тых *архітэктанічных* раскошаў (раздзелаў і падраздзелаў, эпіграфаў, “пралогаў”, “паслясловаў”, (аўта)каментароў і да т. п.), ракайльная збыткоўнасць якіх у нас ахвотна прымаецца за ўмову і адначасова гарантыю ператварэння “набору тэкстаў” у “кнігу-твор”. Цэласнасць кампазіцыі гэтай кнігі прозы нагадвае рухомую цэльнасць *“доўгага выдыху”*. У выпадку з “Адной капейкай” спецыфічны тэмпарытм мастацкага (пра)маўлення “на выдыху” ад пачатку абумоўліваецца ўскладненасцю (а часам нават немагчымасцю) замяшчэння “паветра памяці” сутонневым “рэчывам сучаснасці”. Адпаведна, завершанасць *кнігатвора*, які ўлучае дваццаць шэсць тэкстаў, — настолькі ж пэў-

ная, наколькі... часовая. Гэта як сутыкненне ў “паўзе” паміж выдыхам і ўдыхам імгнення і бясконцасці. Адкрытая кампазіцыя кнігі прозы Уладзіміра Сцяпана натуральным чынам пераймае адкрытасць асобаснага сусвету як хаосмасу, дзе любая кропка, захоўваючы самадастатковасць, абавязкова ўлучаецца ў мноства шматкроп’яў.

Ускосна пра абумоўленасць кампазіцыі не столькі храналогіяй вонкавай гісторыі, колькі канцэнтрычнай падзейнасцю ўласна мастацкага сусвету можна меркаваць і паводле датавання твораў. Дата “паўставання” некаторых занатавана з падкрэсленай скрупулёзнасцю: напрыклад, “Адна капейка” — “19.09.2005 г.”; “Безназоўная рака” — “22.10.2003 г.”, “Зялёны бітончык” — “13.12.2005 г.”. Некаторыя выспявалі месяцамі (“Акварэльныя малюнкі. Дзед” — “кастрычнік — снежань 2008 г.”), некаторыя — гадамі (“Букет. Медаль. Шапка” — “2000-2004 гг.”, “Вяртанне” — “2004-2005 гг.”, “Вуліцы і людзі” — “2009-2010 гг.”). Але месца кожнага з іх у кнізе вызначаецца не ў адпаведнасці з “узростам” і нават не ў адпаведнасці з часам “вытрымкі”. Катэгарычна і разнастайна пазбягаючы лаўраў паталагаанатама аўтаравых “рэзонаў” і душэўна-стратэгічных памкненняў, для сябе вытлумачваю адмысловасць унутранай архітэктуры кнігі Уладзіміра Сцяпана з дапамогай “калібравальнай” літаратурна-медыцынскай тэорыі. Гэты пісьменнік валодае ўнікальнай здольнасцю “затрымліваць дыханне”: чым менш вонкавага “сутоння” ўдыхаеш — тым больш “паветра памяці” застаецца ўнутры цябе, парадаксальным чынам не даючы табе “задыхнуцца”. Па вялікім рахунку, згаданае паветра дарэшты можна “выдыхаць” толькі з самім сабою; гэтае пакутлівае разуменне дадаткова знітоўвае кнігу прозы на ўзроўні паўтаральных (лейтматыўных) перагукаў, “замоўных формулаў”: “...Не напісаў пра...” (“Мятлік белы. Ястраб шэры”), “хацелася напісаць пра...” (“Вяртанне”). Рэпрэзентацыя разумення і адчування быццам ў выглядзе “асобасных формулаў” мастацкую анталогію Уладзіміра Сцяпана не схематызуе і не спрашчае: “Можа, і ёсць так, што Бацькаўшчына там, дзе могілкі... А ўсё астатняе ад Бога? Малады святар у чорным і мой бацька ў святочным строі сядзяць на срэбных жэрдках вясковага плота. А вакол кветкі, аблокі і трава. Вецер і Радзіма...” (“Сто акварэльных малюнкаў. Бацька”).

У кнізе прозы “простыя формулы” (“Самагонка гарэла празрыстым нябачным полымем. Сіняватым, як неба ці дым... Агонь. Дзед. Неба. Дым”) паўстаюць дасканалым механізмам “канвертацыі” прыватнага ў сутнаснае, самавітасці — у самасць: “Узмежак. Баразна. Могілкі. Беларусь...”. Паказальна, што падсумоўваюць кнігу якраз працытаваныя “Акварэльныя малюнкі. Дзед” з іх разамкнутай кампазіцыяй і зместавай арыентаванасцю на прынцыповую *нонфінальнасць* аповеду: “Я закрываю твар рукамі, праз пальцы гляджу ў люстэрка, як мой дзед ператвараецца ў майго бацьку”. Нават смерць стрыжнявога героя — дзеда Ладзіміра — для аўтара ёсць падзеяй не фінальнай, але восевай: штораз яна становіцца адмысловай “кропкай біфуркацыі”, з якой пачынаюць множыцца ўсё новыя і новыя гісторыі.

Амаль усе *гісторыі*, уцялесненыя ў мастацкім хранатопе прозы Уладзіміра Сцяпана ў малых эпічных формах, утрымліваюцца ў полі прыцягнення *навелістычнасці.* “Адна капейка”, вядома, не ёсць зборнікам навелаў ці іх мадыфікацый; у гэтай кнізе прадстаўлены шырокі спектр жанравых разнавіднасцяў айчыннай малой прозы: апавяданні, абразкі, імпрэсіі, лірычныя запісы і да т. п. Аднак творы, якія сам аўтар называе “аповедамі” ці “акварэльнымі малюнкамі”, вылучаюцца якраз *адмысловай* навелістычнасцю: нават самыя кароткія мініяцюры вызначаюцца фабульнасцю, дынамічнасцю дзеяння (“вонкавага” або “ўнутранага”), “непрагназуемасцю” высноваў. Словам, нават той, хто мае асабістую непрыязнасць да “філфакаў”, можа без пагрозы для рэпутацыі прыроджанага знаўцы прыгожага пісьменства разглядаць згаданую навелістычнасць у якасці стылявой дамінанты індывідуальна-творчага стылю Уладзіміра Сцяпана.

Незалежна ад “тэкстаметрычных” характарыстык (кампазіцыйнай будовы, ступені разгорнутасці сюжэтных калізій, сістэмы вобразаў і г. д.) адпаведную адзнаку без страху і дакору можна рабіць у жанрава-стылявым пашпарце любога твора з “Адной капейкі”. У некаторых выпадках — напрыклад, у “Каханні” — навелістычнасць ёсць “целам” тэксту, настолькі відавочныя “паўнамоцтвы” яе на ўсіх узроўнях мастацкай структуры, ад вонкавай архітэктонікі (твор складаецца з “Гісторыі І”, “Гісторыі ІІ”, “Гісторыі ІІІ”) да ўнутранай драматургіі развіцця вобразаў-персанажаў.

У “Мінскім альбоме”, я-герой якога “маляваў Мінск, як Парыж”, класічная матрыца навелістычнага пісьма “нечакана” адкрываецца ў новых функцыянальных (выяўленчых і сугестыўных) магчымасцях — дзякуючы “апладненню” тэхнікай кадрапланаў. Пры гэтым “няяўная” ўплывовасць навелістычнасці можа раптоўным “выбухам” зруйнаваць, напрыклад, каштоўнасную іерархію вобразаў-персанажаў. Асабліва ўражваюць у гэтым сэнсе “метамарфозы” вобраза гаспадыні, у якой я-герой твора здымаў пакой. Літаральна адзін строга вывераны аўтарскі “жэст” хоць і не *“ператварае”* класічную сволач і скнару ў спагадлівую альтруістку, але дакладна аргументуе прынцыповую немагчымасць “пралічыць” чалавека.

У творы “Безназоўная рака” пратэістычны характар навелістычнасці выяўляецца таксама адмыслова: праз цэлую “серыю” падманаў чытацкіх чаканняў. Сутнасць сюжэтабудаўніцтва ў прозе Уладзіміра Сцяпана дакладна акрэслівае Лада Алейнік у сваёй “Залатой капейцы” – прадмове да кнігі: “Сюжэты навел... узрастаюць, як правіла, з аднаго лакальнага эпізоду, за якім урэшце расхінаюцца далягляды чалавечага быцця, дзіўныя і супярэчлівыя перыпетыі непрадказальнага лёсу”. Менавіта дзякуючы “Адной капейцы” можна прадметна (на канкрэтным мастацкім матэрыяле) пераканацца, што У. Сцяпан – насамрэч *адмысловец*, спецыяліст па навелістычным “цюнінгу” тутэйшай паўсядзённасці. Пачатак “Безназоўнай ракі”, нягледзячы на лаканічнасць, нават аскетычнасць маўлення амаль “закалыхвае” пазнавальнасцю (ці не на рыбалку збіраюцца бацька з сынам?) і прадказальнасцю – як высвятляецца неўзабаве, *уяўнай*. Перамяшчэнне з “шараговасці” ў безназоўнае чымсьці нагадвае барокавы “зрыў – пераварот”, але аб’ектам аўтарскіх маніпуляцый у “Безназоўнай рацэ” становяцца не героі, а даверлівы, закалыханы міфапаэтыкай дзяцінства чытач. Рэзкая змена апавядальнай манеры ў межах твора, натуральнае суседства “глянцу” і “чарнухі” – у межах абзаца; адчайна-лагічная неадпаведнасць быційных “формаў” (велічнасць, патрыярхальнасць прыродных “дэкарацый”) і жыццёвага “зместу” (калі любыя чалавечыя стасункі ўганароўваюцца разборкамі)... Аўтар нібыта й не хавае жорсткай абумоўленасці развязкі, яе зададзенасці самім выракам быць *тут* – чалавекам. А чытачу ўсё роўна зручна адчуваць сябе падманутым: а ці ж табе, аўтару, шкада было надзеі, а хоць драбо-о-ок?.. а што ж ты, аўтарыку, такі рэаліст зацяты?.. а што ўжо “хлопчыка” не збярог ад пагібелі – няма даравання!..

Сутыкненне нос да носу з рэчаіснасцю ў роднай літаратурнай прасторы сёння можа выклікаць такую ж некантраляваную рэакцыю “культурнага арганізму”, як спатканне з “сюрам у пралетарскім раёне” (наступствы тыпалагічныя да тых, што апісаны ў аповесці дваццацігадовай даўніны расійскага пісьменніка Уладзіміра Маканіна). Нават тыя, хто “прачнуўся” пасярод новай інфармацыйнай рэальнасці ва ўзросце сталым, усё лягчэй ахвяруюць ведамі (дакладней, успамінамі) пра рэальнасць *рэальную*: так зручней адпавядаць навакольнай “часапрасторы”. Толькі рэдкія — элітарныя, анягож! — асобіны кшталту Уладзіміра Сцяпана вынаходліва не даюць культурнаму беларусу *супасці* з найноўшасцю, вяртаючы рэчаіснасці яе сапраўдныя контуры. Прычым аўтар “Адной капейкі” робіць гэта на грунце асвечаных традыцыяй “завостраных этычных канфліктаў” (Лада Алейнік) з дапамогай інструментарыя далёка не традыцыяналісцкага. “Калыханка для дзесяцігадовай дзяўчынкі” ў яго пачынаецца з... пісталета (“Сі-та-та”). Пад № 1 у спісе патрэбных рэчаў значыцца “ножык-складанчык на тры лязы” (“Адна ка-

пейка”), які ў хранатопе кнігі набывае статус універсальнай (прычым не заўсёды “мастацка-сімвалічнай”!) зброі (“Ножыкі”, “Чырвоны мячык”). Малочны бітончык у светабудове юнага героя твора “Зялёны бітончык” займае адыгрывае ж вызначальную ролю, як чароўныя рэчы ў казачным эпасе ўсіх магчымых народаў свету. Колішні “валадар бітончыка” цягам сваіх падлеткавых вандровак да “малочных рэк”, што працякалі праз савецкія крамы, перажыў такія катастрофы свядомасці, што сёння той зялёны бітончык мроіцца “баявым штандарам” цэлага пакалення — пакалення-чэмпіёна па страце сэнсу жыцця (“Вуліцы і людзі”).

Зрэшты, у я-героя Уладзіміра Сцяпана ў сутонні паўсядзённасці ёсць як мінімум дзве “кропкі апоры” — “субстанцыі”, у *пэўнасці* і *змястоўнасці* якіх так ці інакш пераконваюцца ўсе “інкарнацыі” згаданага я-героя, “воблачна” рассеяныя па кнізе прозы “Адна капейка”. Першую з гэтых “кропак”, дарэчы, варта было б разглядаць як “выспу”: безыменны пасёлак (“гэпэ”) — адзін з самых важкіх вобразаў-топасаў прозы Уладзіміра Сцяпана апошняга дзесяцігоддзя — набывае сімвалічную рэчыўнасць тутэйшага “Маконда” (“Вогненнае воблака”, “Дзве гадзіны”, “Вуліцы і людзі”). Арыгінальныя ўвасабленні тыпалагічна падобных “выспаў сапраўднасці” як “выспаў роднасці” адшукваюцца і ў найноўшай прозе (згадаем Мястэчка Міхася Андрасюка), і ў паэзіі (вёска Вороніна ў “вершах пасля вершаў” Леаніда Галубовіча). “Непаўтаральнасць”, “аўтэнтычнасць” *версіі* Уладзіміра Сцяпана звязана якраз з другой “кропкай апоры”, з дапамогай якой я-герой яго прозы “пераўтварае” не толькі свет фізічны, але і яго метафізічныя ваколіцы:

“Я спрабую намаляваць партрэт бацькі словамі. Заходжу з розных бакоў. Праз рэчы, якія яму падабаліся альбо якія ён не любіў. Праз краявіды, у якіх яго бачыў, якія яму падабаліся, праз яго кепскія і добрыя звычкі... але не атрымліваецца. Яго вобраз сыходзіць, цячэ, як вада, ляціць, як тапалёвы пух... я злуюся на сваё няўмельства, на тое, што бракуе патрэбных слоў, што зробленае — нейкая паўпраўда... Злуюся, што словы застаюцца словамі... Перабіраю ў памяці карціны сапраўдных мастакоў, перабіраю імёны і прозвішчы” (“Сто акварэльных малюнкаў. Бацька”).

Найбольш дасканалай сістэмай “дэшыфроўкі” і “прамаўлення” рэчаў сутнасных у кнізе прозы “Адна капейка” ёсць не славеснае, але выяўленчае мастацтва. На фоне айчыннай прозы 2000-х уражвае тое, што літаральна кожны твор Уладзіміра Сцяпана можа ўважацца за *ўзор выяўленчай прозы*. Аргументы на карысць гэтага меркавання адшукваюцца не толькі “на паверхні” кнігі прозы, калі маляванне (як працэс і мэта адначасова) становіцца сюжэтным грунтам (“Мінскі альбом”) альбо аб’ектам мастацкай інтэрпрэтацыі: “Гэты малюнак — бела-зялёны і халаднаваты, як цень на вадзе ў лашчыне”; “А таму я намалюю дождж і мокры лес, дрэвы з чорнымі камлямі і мужчыну ў кепцы, які ідзе нетаропка па рудым дыване і трымае ў руцэ колькі барвовых і зыркіх, як агонь, лістоў... Няхай і кляновых...” (“Сто акварэльных малюнкаў. Бацька”).

Не толькі твор у цэлым, але кожная частка твораў “фрагментарнай”, “сегментаванай” кампазіцыі вызначаецца выбудаванай экспазіцыяй, рэльефнасцю вобразаў, раскрыццём сутнасных прыкмет той ці іншай з’явы з дапамогай тонкіх сэнсавых і эмацыянальных нюансаў, спалучэннем дакладна выпісаных контураў і багацця колеравых пераліваў-пераходаў: “Кастрычнік. Восеньская імжа. Вялікае-вялікае неба бела-шэрага колеру, руды іржэўнік, невялікі статак кароў, цяпельца, бялёсы, як малако ў вадзе, дым, што ціснецца да колкай зямлі. Я сяджу пры вогнішчы і пяку бульбу. Побач ходзяць каровы. Яны пазіраюць на мяне сумнымі вільготнымі вачамі” (“Сто акварэльных малюнкаў. Бацька”).

Шкадую зацятых урбаністаў, бо ацаніць дасканаласць гэтага “малюнку” *знутры* могуць, бадай, толькі тыя, хто *там* (у тым часе, у тым кастрычніку, на тым выгане) *быў*. Зрэшты, цалкам верагодна, што зацятыя ўрбаністы наконт гэтага па вызначэнні *не заганяюцца*.

*Выяўленчасць* пісьма побач з навелістычнасцю менавіта ў кнізе прозы “Адна капейка” рэльефна выявілася ў якасці адной з дамінант індывідуальна-творчага стылю Уладзіміра Сцяпана. Для мяне як для безнадзейнай няздары ў сэнсе здольнасці маляваць сутнасць яе паўстае з *чароўнага* сінтэзу кампазіцыйнай выверанасці, “графічнай” дакладнасці ў дачыненні да контураў разнастайных праяваў жыцця — і ўнутранай рухомасці, “дыхання” малюнка, імпрэсіяністычнага і экспрэсіўнага адначасова: “Яны ідуць мерна, крок у крок. Мой дзед і шэры вялікі конь. Яны ідуць урачыста, святочна. І мужчыны, і жанчыны, і паштарка на ровары зайздросцяць майму дзеду Уладзіміру, бо яго пяцігадовы ўнук Воўка сядзіць на кані, як клешч, і не падае. Калі мы будзем вяртацца з канюшні, то мае далоні будуць пахнуць канём, а стомленыя ногі крыху падгінацца” (“Акварэльныя малюнкі. Дзед”).

На ўзроўні “тэхнікі пісьма” згаданая “выяўленчасць” ніколі не выраджаецца ў арнаментальнасць, стылявую збыткоўнасць. Так, насычанасць, амаль “рэчыўнасць” колераў у творах Уладзіміра Сцяпана заўсёды матываваная неабходнасцю прамовіць сутнаснае як роднае, “выдыхнуць” сутнасць “майго” — і не “задыхнуцца”: “Хопіць вохры залацістай, крышку блакітна-бялёсай, якой намалюю лапікі неба і дым папяросы, яблынька ж атрымаецца сама, калі змяшаць золата вохры з блакітам... А бацькава кашуля будзе светлай, як пясок на дарозе пад соснамі...” (“Сто акварэльных малюнкаў. Бацька”). У некаторых выпадках якраз адмысловая мінімалістычнасць выказвання (згадаем твор “Штурман” з яго “рубленым” тэмпарытмам) адкрывае новыя магчымасці для выяўлення мастацкай экспрэсіі.

Асобаснае перажыванне ў прозе Уладзіміра Сцяпана без дыдактычнай зададзенасці “вымыкаецца” ў сферу агульназначнага, універсальнага: “Большага дрэва я не бачыў ніколі. <...> Бачыў, як доўга бегла па дрэве хуткая вавёрка. Чуў, як нябачны дзяцел грукаціць без супынку высока ў небе, шуміць вецер, дажджом цярушацца голкі... ад той сасны — сёння яе няма — для мяне пачынаецца мой бераг...” (“Сто акварэльных малюнкаў. Бацька”). Насуперак найноўшым брэндам і трэндам аўтар імкнецца аднавіць, у літаральным сэнсе ўрэчавіць свой свет у яго “аўтэнтычных” межах, усталяванне якіх звязана для я-героя “Адной капейкі” з дзяцінствам як часам сіне-залатых снабачанняў: “Ні дзед, ні баба маліцца мяне не вучылі. У маладыя гады дзед спяваў у царкоўным хоры. Аднойчы ён расказаў доўгую малітву. Тое было, калі я хварэў. Я ляжаў у ложку пад ватнай коўдрай і глядзеў на дыванок. На залатых аленяў, на сінюю ваду, кучаравыя аблокі і дзівосныя дрэвы... Дзед сядзеў побач, гладзіў маё плячо і няспешна гаварыў. Незразумелыя словы не давалі заснуць... Сніліся мне алені і бліны” (“Акварэльныя малюнкі. Дзед”). У адзінкавых выпадках аповед падаецца збыткоўна шчырым у сваёй рэалістычнасці: “Жалезныя скіўіцы сціскалі вялізнага пацука з кароткім хвастом. “Вось і трапілася, бач ты — цяжарная... А пастка добрая. Секанула, аж шлунне павылазіла”. Дзед узяў у паветцы рыдлёўку, і мы з ім пайшлі закопваць цяжарную пацучыху пад плот. А пастку дзед павесіў высока ў паветцы, скіўіцы скруціў дротам, каб я крый Божа, не расціснуў. Мне радасна, калі згадваю тыя дні” (“Акварэльныя малюнкі. Дзед”).

Зрэшты, і тут Уладзімір Сцяпан выяўляе *фірмовую* (па ўсіх рамсах!) паслядоўнасць новай “старой” *літ*эліты: з алімпійскай безуважнасцю да выклікаў сутоння даводзіць роўнасць *сябе — свайму* (сутнаснаму, надчасаваму). На вокладцы (што зараз падаецца “безварыянтнай”, настолькі арганічна “зрослася” з кнігатворам фотаздымак Міраслава Адамчыка) “Адной капейкі” месца не хапіла б для “знакаў якасці” (каштоўнаснай, эстэтычнай, стылявой і г. д.). Але памянёныя “старыя” ўпарта (паслядоўна!) заўсёды гатовыя не да ўганараванняў, але да нападу. І спачуваць трэба не ім. Бо менавіта яны некалі вынайшлі ўнікальны спосаб (вы)жы(ва)ць у тутэйшай літаратурнай экасістэме: няма такой барацьбы, якую нельга “*перажыць*” у мастацтва. Капаэйра ў сутонні. “Адна капейка” — аўтарская методыка Уладзіміра Сцяпана.

Леанід Галубовіч



...кроўны талент за Смаленскам
не схаваеш...

# Пра гоблінаў і халопаў

*“Усю ноч беглі да святла, а сонца ўзышло за спіною”*
Валерый Казакоў.

Гады чатыры таму ў беларускай нацыянальнай літаратуры з’явілася імя пісьменніка Валерыя Казакова. Ураджэнца Беларусі (станцыя Рэста Магілёўскай вобласці, 1952), які пасля вучобы ў Вышэйшым ваенна-палітычным вучылішчы ўвесь час жыў і працаваў у Расіі (пераважна ў Маскве). У сваім жыцці, у звязку са службовым становішчам, ён зведаў шмат пературбацый найноўшай расейскай гісторыі. Служыў ваенным карэспандэнтам у розных гарачых кропках, займаў чыноўныя пасады блізу вярхоў дзяржаўнай улады. Адначасна, пры магчымасці, аддаваўся літаратурнай творчасці (завочна скончыў Літаратурны інстытут імя А.М. Горкага). Няспешна выходзілі ў свет яго зборнікі вершаў, прозы і публіцыстыкі. На рускай мове – можа, таму беларускамоўнаму чытачу да нядаўняй пары ён быў не асабліва вядомы. (Хоць яго творы перакладаліся на сербскую, украінскую, польскую і эстонскую мовы, асобныя фрагменты раманаў на французскую і




ангельскую. Казакоў – лаўрэат Вялікай літаратурнай прэміі Расіі, Міжнароднай прэміі імя В. Пікуля, прэміі А. Грыбаедава, Нацыянальнай сербскай прэміі).

І вось у 2008 годзе ў Мінску пабачыў свет яго раман **"Цень Гобліна"**, а ўслед за ім і **"Халоп Яснавяльможнага Дэмакрата"** (2009). Гэтым разам на роднай яму беларускай мове. Шчыра кажучы, уласна для мяне гэта не сталася нейкім адкрыццём ці нечаканасцю, бо я ведаў Валерыя Казакова яшчэ з часоў яго вучобы ў Літаратурным інстытуце. Недзе ў сярэдзіне 1980-х ён наведаўся да мяне ў вёску з прапановай перакладу на рускую мову майго першага паэтычнага зборніка "Таемнасць агню". Безумоўна, не зважаючы на вайсковую лейтэнанцкую форму, гэта быў беларус: мы з ім варочалі, сушылі і складвалі ў копы сена на поплаве маіх бацькоў, і па тым, як ён упраўляўся з граблямі ды сахарам, было зразумела, што гэта не гарадскі мамчын сынок, а мужны мужчына з вясковай беларускай закваскай. Скажу, што апроч сена, мог падняць ён і добрую, але не празмерную, у адрозненне ад мяне, чарку самагонкі (якраз стаяла пара гарбачоўскага "сухога закона"). Мы хутка асвойталіся, знайшлі сваю агульную мову, і неўзабаве ён з задавальненнем і нейкай натхняльнай утрапёнасцю пераклаў мае вершы. Праўда, пасля, падчас вучобы на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве, мяне добра-такі "перакруцілі ў сталічным целаадборніку", і мой рускамоўны зборнік вершаў выйшаў у перакладах іншага аўтара. Разам з тым, праўда, запознена, прыйшло ўсведамленне здрады, глыбокае адчуванне сораму і няёмкасці... Словам, шляхі нашы ў той грамадска-палітычнай куламесе надоўга разышліся... Знайшоў ён мяне ў другой палове 1990-х (у часопісе "Крыніца") і мы ўдосталь (разам з рэдакцыяй) *змачылі* нашы на той час *ссушаныя* ўзаемадачыненні. Я быў удзячны яму. А ўжо ў 2008 годзе нашы таварыскія стасункі, можна сказаць, і ўвогуле зноў сталі паўнамоцнымі. Тым больш, што цяпер Валерый Казакоў у Беларусі *госць* часты, а зрэшты, і **гаспадар** на тым лецішчы, якое ён давёў да ладу пад Баранавічамі...

Напрыканцы 2012 (юбілейнага для аўтара) года выйшаў у "Беларускім кнігазборы" яго том **"Выбраных твораў"**. Ён складзены з раманаў "Цень Гобліна" і "Халоп Яснавяльможнага Дэмакрата", а таксама асобных апавяданняў ды нізкі лірычных мініяцюр.

"Мне беларуская мова патрэбная дзеля таго, каб размаўляць з Госпадам", – кажа аўтар у адной са сваіх запамінальных мініяцюр. І яму верыш, бо гэта не пустыя словы. І яны ўжо спраўджваюцца.

Першы свой раман "Цень Гобліна" В. Казакоў пісаў доўга і няпроста. Гэта была не звычная літаратурная праца, а пэўным чынам учынак, дзея (самадзейнасць і саманадзейнасць!), выяўленне ўласнай не толькі пісьменніцкай, але і грамадзянскай пазіцыі ў дачыненні да тых супярэчлівых і неадназначных палітычных працэсаў, што адбываліся ў Расеі цягам сярэдзіны і канца 1990-х гадоў. Тым больш, што раман пісаўся не на адвольна змысленым, а на рэальным (перажытым на ўласным вопыце) матэрыяле. Час паміж першым і другім тэрмінамі Ельцына. Перадвыбарчая барацьба ў чыноўніцкіх кабінетах. Патаемныя ўнутраныя групоўкі, распадзел ідэйных і матэрыяльных сіл, станаўленне і сталенне новых кланаў і акул бізнэсу... У гэтай "жорсткай гульні" трэба было трымаць нос па ветры. І малады чыноўнік, начальнік упраўлення Рады нацыянальнай стабільнасці Малюта Скураш, намагаецца не выпасці з гэтага раскладу, не парушыць правілаў той гульні, што ўрэшце паступова пяройдзе ў чарговую крамлёўскую

змову. В.Казакоў вельмі трапна, асабліва не хаваючы прататыпаў, паказвае, як мяняецца і гартуецца ў гэтым палітычным гарніле яшчэ даволі малады чыноўнік, як абрастае ён, дзякуючы падказкам, павучанням і намёкам старэйшых калег, бюракратычнымі мышцамі. Ён не просты сам па сабе, разважлівы, абачлівы, сабе, як кажуць, на розуме (відаць, і прозвішчам, блізкім па гучанні з вядомай гістарычнай асобай Малютам Скуратавым, аўтар надзяліў яго нездарма). І ўсё ж для аўтара рамана галоўным было не выяўленне Скураша як тыповага дзяржчыноўніка высокага палёта), а паказ праз яго дзейнасць механікі ўсёй дзяржаўнай кіраўнічай машыны. І, трэба адзначыць, гэта яму ўдалося зрабіць адмыслова. Нават чытаючы і параўноўваючы свае ўражанні адносна таго часу (а беларусы той расейскі палітычны вэрхал глядзелі штодня па тэлебачанні, больш, чым уласна беларускі), разумееш, што не ўсё існае падавалася на вочы публікі, тады як галоўныя падводныя плыні заставалі для простага люду нябачнымі ці завуаліраванымі. Малюта патрапляе ў акружэнне Плаўскага (генерала Лебедзя) і застаецца з ім нават пасля паразы дзякуючы езуіцкім схільнасцям мыслення яго начальства, якое і накіроўвае яго ўслед за губернатарам Плаўскім у Ясейск (Краснаярск) у якасці "царовага вока". Агулам як у працэсе змовы, так і пасля яе вельмі ясна прачытваюцца ўсе персанажы рамана: Беразоўскі, Чубайс, Лужкоў, Хадаркоўскі і г.д., тады як сам Ельцын, па сутнасці, застаецца ў ценю са сваімі чаркамі і спадарожнымі ім хваробамі... Грошы, прыватызацыя, капіталізацыя, масонства, "сям'я", бескампрамісная і жорсткая барацьба за ўладу, што прыводзіць да дэградацыі чынавенства і расейскага народа агулам – вось галоўны лейтматыў рамана.

"У аснове векавой расійскай веры ў светлага Цара, – разважае аўтар, – ляжала ўсё: і хрысціянства, і паганства, і асновы земляробскай супольнасці, і старажытныя цэхавыя традыцыі, і прыроджаны славянска-татарскі калектывізм, і амаль стогадовая ўраўнілаўка, а галоўнае, звярыная нуда па волі і лепшай долі. Самае дзіўнае, што гэты круты замес нікуды не знік з душ людзей. (...) Вось чаму ўлада не можа трываць у сваіх шэрагах сумленных, добрых і годных людзей, яна іх высушвае і ачарсцвяе яшчэ на першых пабягушных пасадах, даводзячы да сярэднестатыстычнага ўзроўню безасабовай выканальніцкай масы. Калі ж гэтага не адбываецца, чалавек выганяецца, як пракажоны, ператвараецца ў вар'ята, бунтаўшчыка, рэвалюцыянера, ворага народа, здрадніка дэмакратыі, раскрадальніка народнага набытку". Як быццам гэта пішацца і пра беларускую рэчаіснасць. А якія запамінальныя, па-мастацку вытанчаныя партрэты герояў выпісвае В. Казакоў. Як, да прыкладу, Аляксея Старыкава, ідэйнага кіраўніка ў атачэнні Плаўскага: "Сярэдняга росту, хударлявы, злёгку касабокі, з бясколерным, пагнутым тварам, таму рот прыкметна крывіўся, а вусны, згортваючыся ў трубачку, выплёўвалі шапялявыя і пры хуткім вымаўленні цяжка зразумелыя словы. Шэры, ніколі не ведаўшы сонца, твар быў маларухомы, меланхалічны і поўны невытлумачальнай скрухі, якая палохала." Часта праходзіць скрозь тэкст рамана ненавязлівая лінія адчування паступовай страты нацыянальнай свядомасці расейскага народа. Гэта ёсць і ў развагах Скураша, і самога Плаўскага. Вось, скажам, з аўтарскага тэксту: "Ужо неяк так спрадвеку павялося, што Расіяй увогуле рускія ніколі не кіравалі, і пры вялікіх князях, і пры царах, і пры камуністах, ды і сёння гэтыя традыцыі не парушаныя, і, магчыма, маюць рацыю тыя філосафы, якія лічаць "рускасць" катэгорыяй наднацыянальнай, якая да пытанняў роду і крыві ніякага дачынення не мае". А то і ўвогуле нешта блізкае да ідэйных пасылаў, што нярэдка выяўляюцца ў творах пісьменніка Юрыя Станкевіча: "Мне апошні час наогул падаецца, што ідзе актыўная трансфармацыя ўсёй нашай цывілізацыі, а мы, як сляпыя, гэтага не бачым. Можа, ты і маеш рацыю, сапраўды будзе сусветная кастрацыя хрысціянскіх каштоўнасцяў

і створанай на іх базе культуры. Да чаго гэта прывядзе, невядома. І якая сіла вылезе з-пад абломкаў старой атлантычнай Еўропы, ніхто знаць не можа, ды, падобна, асабліва і не імкнецца даведацца, а спахопяцца, ды, баюся, позна будзе. Аднак трэба разумець, што гэта будзе сіла, глыбока нам чужая і варожая. На жаль, аб гэтым мала хто здагадваецца...”

Таму адназначна аднапалярным раман назваць нельга. Гэта і па-мастацку вылеплены аскепак пэўнага часу новай расейскай гісторыі, і развагі, пакінутыя на памятку чытачу пра магчымыя глабальныя катарсісы, якія могуць узнікнуць пры такім інерцыйным развіцці падзей, тыпу “дзялі і ўладар”...

Калі першая частка рамана мела назву “Міжлізень” (“гэта прамежак часу, калі адна, выбачайце, ср...ка сыйшла, а іншая яшчэ не прыйшла, і лізаць беднаму дзяржчыноўніку няма чаго, а язык жа без гэтага ўжо не можа. Вось тут-та і глядзі, як бы чаго благога не лізнуў”), то другая – “Цень Гобліна” (“Гоблін, гаворыш? Якое гнюснае і злавесная слова! – разглядаючы свой куфаль, расцягваючы словы, вымавіў Плаўскі. – Папомніце мяне, ён проста так ад нашай зямлі не адстане. Колькі ж паскуддзя ты яшчэ народзіш на сваю пагібель, мая зямля? А можа, зямля і не нараджае нічога падобнага, можа, мы самі неяк пакутова і неўзаметку для саміх сябе пераўтвараемся ў гоблінаў, і ўжо недалёка той час, калі на зямлі будуць жыць адны гобліны? Адно радуе – мы да гэтага не дажывём! А пакуль толькі іх цені лунаюць над намі...”). Пад мянушкай Гобліна меўся на ўвазе найперш палітычны інтрыган Амроцкі, адзін з крамлёўскіх шэрых кардыналаў. Як паказаў час, Плаўскі меў рацыю. Ён неўзабаве і гіне ў авіякатастрофе... А на змену экстрэмалам да кіравання краінай прыходзіць чалавек сістэмы, які прыводзіць сітуацыю ў краіне да пэўнай устойлівасці і ўраўнаважанасці.

Чытач адчувае, што аўтар не тыцкае пальцам у неба, мройна зморшчыўшы лоб, пішучы гэты твор, ён абапіраецца на свой уласны службовы досвед, пра што можна даведацца з аўтабіяграфічнай даведкі гэтага кнігазбораўскага тома. І тое прыдае твору яшчэ большай даверлівасці, і яшчэ большай таямнічасцю агортвае яго па-мастацку закамуфляваны змест. Можна не сумнявацца, што аўтар рамана неаспрэчна падзяляе тыя погляды, якія прыпісвае сваяму герою: “Ты паглядзі вакол – і ў літаратуры, і ў жывапісе, і ў кіно, і нават на нашым памыйным тэлебачанні калі нешта і выплывае таленавітае, дык абавязкова ці чарнуха суцэльная, ці такі авангардны залом, што жыць не хочацца. Свет сапраўды паскорана спаўзае з рэалістычных крытэраў, а дэфармаванае мастацтва непазбежна спараджае дэфармаваную свядомасць”.

Асноўную ж ідэю канцэнтруе на сабе неардынарны (як бы міжволі **раздвоены**, назавём яго – *віртуальны*) вобраз Малюты Скураша: з аднаго боку – малады, са свежымі задумкамі ў галаве новы чыноўнік маладой Расеі, якому, аказваецца, каб захаваць сваё крэсла, а, тым больш, расці далей па кар’ернай лесвіцы, аніяк нельга выбівацца з находжанай з даўніх часоў бюракратычнай каляіны, з другога боку – сам аўтар, які, ідучы наўзбоч Малюты, выказвае ўласныя ідэйныя і духоўныя прыхільнасці, а таксама высокія маральныя пастулаты... Цікавы мастацкі прыём. Гэткі своеасаблівы сімбіёз. Ці магчымы ён насамрэч? Гэтае пытанне Валерый Казакоў і пакідае для развагі чытачам рамана. Асабіста мне здаецца, што ў стане падобнага сімбіёза расейская ўлада знаходзіцца і сёння.

Раман “Халоп Яснавяльможнага Дэмакрата” пэўным чынам выстраены ў працяг ужо абгаворанага намі твора. Гэта праекцыя магчымай будучыні краіны гоблінаў (2050-я гады), вынік іх прагі да глабалізацыі (збірання, забірання і прысвойвання матэрыяльных набыткаў народа), якая пасля вайны з Хахлабульбіяй, у рэшце рэшт, сталася стратай усяго: цэласнасці краіны (яна стала Сібрусіяй), мовы, замест якой быў уведзены моўны гібрыд з лексемамі кітайскай,

азербайджанскай і гутарковай амерыканскай моў, духоўнасці народа ўвогуле, падзелу тэрыторыі на ўезды, дзе вольна і амаль беспакарана дзейнічаюць атрады рабаўнікоў і бандытаў розных калібраў... Часта каларыт апісанага жыцця больш напамінае мінулае (XVIII – XIX стст.), чым будучыню (XXI ст.). Не развіццё, а дэградацыю, не шлях наперад, а дарогу адступлення.

Па сваім жанры раман "Халоп Яснавяльможнага Дэмакрата" – гэта гратэск, нярэдка даведзены да абсурду, часам блізкі да фантастыкі і фантасмагорыі (усе гэтыя прыёмы, так ці іначай, у тэксце сустракаюцца).

Сюжэт такі. Намеснік Генерал-Намесніка па Чулымскім уездзе Енах Мінавіч Понт-Калацізкі (дарэчы, большасць імёнаў і прозвішчаў герояў рамана маюць азіяцкія адценні) пасля зацвярджэння ў Маскве быў схоплены адной з рабаўнічых бандаў, вяртаючыся са сталіцы дадому. Пакуль разбойнікі патрабуюць выкуп, у самім уездзе адбываюцца не менш цікавыя справы. Дачка мясцовай пані, маладзіца Маша, ды яе сяброўка-служанка Даша са сваім палюбоўнікам панскім конюхам Юнькам выпадкова робяцца сведкамі навасветных дзівосаў – адкрыцця Шамбалы... Людзі нарэшце разумеюць, што ёсць яшчэ недзе светлы, прыгожы і дабрадзейны свет жыцця. І, як яны бачаць на свае вочы, ён магчымы і тут, на іхняй зямлі. Аднак пра Шамбалу паступова дазнаюцца ўсе – і крамлёўская ўлада, і бандыты. І кожны бок хоча скарыстаць гэтае адкрыццё і яго прысабечыць дзеля ўласнай карысці. І ніяк іначай. Праўда, раздумаўшыся, Крэмль увогуле вырашае ўзарваць Шамбалу ядзерным узрывам, каб не справакаваць чорт ведае якіх наступстваў (магчыма, нават страты ўлады). Вось як угаворвае злоўлены маскоўскі палонны са спецгрупы, якая павінна была ўзарваць Шамбалу, камандзіра бандыцкага атрада, які паўстае супраць гэтай акцыі: "Эх, атаман, атаман, калі вырашаецца лёс Айчыны, жыцці людзей ва ўлік ніколі не бяруцца, наадварот, чым больш пераб'юць, тым святлейшай і доўгачаканейшай будзе перамога, а галоўнае, у памяці людзей застануцца боль і страх. Страх – вялікі эканом! Адсюль і народнае: "Ужо як-небудзь ператрываем, абы вайны не было". Ці не праўда, да болю знаёмы большыні беларусаў выраз? Тым часам Енах і Маша, схопленыя бандытамі, адчуваюць моцнае каханне адно да аднаго. Але, прачуўшы магчымасць ядзернага ўзрыву, Енах настойліва змушае каханку ўцякаць адсюль разам з ім. Маша ж, чыстая душа, наадварот, хоча аб спецаперацыі Крамля паведаміць людзям, каб тыя ратаваліся або паспрабавалі ўратаваць Шамбалу. І Енах забівае Машу – жорстка, каменем. Маўляў, калі ты не хочаш быць маёй, то нікому іншаму таксама не дастанешся. У яго, аказваецца, на генным узроўні ўсё тое ж чыноўна-бюракратычнае мысленне (калі не нам, то нікому). Напершапачатку яго душа адгукнулася на чыстае каханне, але пры першых жа складанасцях вярнулася ў свой жывёльны стан... Урэшце, пасля забойства ў сваё апраўданне Енах разважае так: "Мусіць, праўду казаў дзед: залішняя адукаванасць вядзе да расслаблення волі... і тройчы мае рацыю Яснавяльможны, які скасаваў чытанне і ўсе гэтыя дурныя іспыты па літаратуры, ад якіх толькі душэўная гнілата і сумятня ў галаве. Уся нацыя, усе саслоўі, прыведзеныя да вялікага адзінства, усе да адзінага – халопы Яснавяльможнага Дэмакрата, усе, уключаючы бацькоў і дзяцей самога Пераемніка. Халопу гідка быць інтэлігентам, а ты соплі распускаеш. Не каханне ты забіў сваё, а спыніў дзейнасць патэнцыйнага ворага..."

І ўсё ж Шамбалу агульнымі намаганнямі адэкватных людзей выратоўваюць ад гібелі. Гэта значыць, пакідаюць надзею на магчымае добра і светлае будучае. Такі прыкладна лейтматыў своеасаблівага рамана-папярэджання Валерыя Казакова.

Трэба адзначыць высокае літаратурнае майстэрства пісьменніка. У паказе чынавенства прасочваецца дасціпны гумар, лёгкая і бяскрыўдная іронія М. Гогаля,

месцамі едкая сатыра і з’едлівы сарказм М. Салтыкова-Шчадрына, а зрэдзьчасу і помная атмасфера кабінетных сцэн і дыялогаў нашага А. Мрыя.

“О ноч, ноч! Якая вялікая неразгаданая таямніца тоіцца ў тваіх цёмных пакрывалах, чаму ва ўсе часы чалавек, пераадолеўшы страх, раствараўся ў табе, шукаючы кахання, разумення і супакою. Можа мы – дзеці ночы? Мы вынырнулі на нейкія імгненні з твайго беспрасыпнага цемрыва, павесяліліся ў жорсткіх праменнях дзённага свяціла, паззялі сваім розумам, несуцішным тэмпераментам, палязгалі дурнатой ды зноў назаўжды загінулі, растварыліся ў тваім усёпаглынальным морыве”. Альбо вось яркі ўзор апісання карціны прыроды: “Наколькі ж добрая таежная ноч пад поўняй! Ні ветрыку, ні гуку, толькі ледзь чутна плёскаецца рака на невялікіх перакатах, роўна гудзе камарэча, пра штосьці сваё крэкчуць дрэвы, слізгаюць няпэўныя цені начных птахаў ды чуюцца часам жудаснаватыя шоргаты. А пахі якія тут буяняць, якія пахі водараць! Кожная травінка, кожны кусцік, кожнае дрэўца, кожны каменьчык, кожная секарашка, кожны павучок струменіць свой непаўторны водар жыцця, і ўсё гэта, змешваючыся з духам патурбаванай чалавекам або зверам зямлі, атрымлівае нейкую містычную сілу, у якую хочацца акунуцца, як у цёплую перадсвітальную раку, і змыць з сябе смурод гарадской нежыці, якая збіралася гадамі! Так, мусіць, пахне сама натура: даўка, рэзка, соладка, неапісальна і непаўторна”.

Ці не праўда, як ап’яняльна дыхнула Гогалем! Ды аўтар гэтай паралелі і не завуалёўвае, пра што прамым тэкстам гаворыць ужо праз пятнаццаць старонак, упамінаючы гогалеўскую брычку з Чычыкавым, у працяг лініі паводзінаў свайго героя. Не выходзіць з памяці і апісаны ў булгакаўскім стылі сон апрычніка Эдмунда Чэкісавіча, прыснёны ім у адзінай захаванай бібліятэцы. Гэта суд кніг (чытай, суд гісторыі) над былымі катамі і ўзурпатарамі. Вось кароткі фрагмент: “– Працэс “Літаратура супраць улады” аб’яўляю адкрытым! – Стук малатка балюча гухнуў па перапонках. Пракурорам выступаў зусім нікому не вядомы таўшчэзны том. Насельнікі клеткі і так і сяк выварочвалі шыі, каб прымудрыцца прачытаць пазалочаны надпіс на пацёртым карэньчыку кнігі. – Пуш-кін, – шаптаў па складах Уладзісур, прасунуўшы вузкі твар між жалезных прантоў. – Артылерыст нейкі, – паспрабаваў адгадаць спадар са слаба знаёмых”. Але ў працэсе справы нечакана да падсудных са сваёй лавы звяртаецца Іосіф Вісарыёнавіч: “– Ды вас бы за такое абыякавае стаўленне да справы народа варта было б паставіць да сценкі, – скрушна хітаючы галавой, вымавіў Сталін і, пыхнуўшы люлькай, дадаў: – Вунь пасля мяне ўсё чыста: ні міністраў, ні культуры, затое якая літаратура засталася!”

Вельмі натуральна выпісаны партрэты і характары разналікіх герояў рамана, нязмушаныя жывыя дыялогі, запамінальныя замалёўкі прыроды. Адным словам, літаратурная палітра пісьменніка шырокая і размаітая, да таго ж, што сёння рэдкасць, неабцяжараная густым пустаслоўем. Проста кажучы, творы, напісаныя і прадстаўленыя ў гэтым гожым томе, чытэльныя і глыбокія па сваёй задуме і заяўленай ідэі.

Дапаўняюць важкі змест кніжкі: вязанка аповедаў, нізка філасофска-лірычных мініяцюр **“Абібокі”** ды эсэ пра стасункі аўтара з вядомым беларускім вучоныматамшчыкам Б. Кітам. Найперш коратка пра апавяданні, бо, апроч пары аповедаў у працяг паказу характараў чынавенства, яны ў пераважнай бальшыні закранаюць беларускую тэматыку: неардынарная аўтарская версія Крыжа Еўфрасінні Полацкай, вызваленне Магілёва месцічамі ад маскоўскіх стральцоў цара Аляксея Міхайлавіча, гістарычна-рамантычныя легенды і прыпавесць на ваенную тэму, блізкая па псіхалогіі да твораў В. Быкава (паліцаі выдаюць сябе за партызан, прывёўшы ў замяшальніцтва свайго ж паліцая, тым самым выкрываючы яго “здрадніцкую” ці, па-простаму кажучы, беларускую памяркоўную (у тым ліку і

да партызан) натуру, забіваючы яго, як ворага (чыйго?)... А вось як у аповедзе "Крыж Еўфрасінні" палкоўнік ФСБ тлумачыць мітрапаліту Фелафею ідэю перазахавання перавезенай падчас апошняй вайны ў Маскву з Беларусі нашай нацыянальна-гістарычнай рэліквіі: "Не мне вам, спрактыкаванаму тэолагу, тлумачыць, што ўсякая імперыя на роўні з зямным, матэрыяльным увасабленнем мае і сакральнае, містычнае ўвасабленне. Дык вось, крыж гэты ўтрымлівае вашу краіну ў межах адзінай імперыі, ну, скажам, Раманавых – і перамяшчэнне яго ў ваш край можа прывесці да вельмі непрадказальных наступстваў. Ні нам, то бок Расіі, ні вакольнаму свету не патрэбен моцны, самастойны Заходні край. Не ўпісваецца ён у новы падзел свету, так што крыж гэты народ ваш ніколі назад не атрымае".

Так думае палкоўнік ФСБ. Ну, што ж...

Трэба аддаць належнае пісьменніку (яго мудрасці і абачлівасці), у сваіх творах ён не дае просталінейных адказаў на глабальныя пытанні часу, а найперш востра і бескампрамісна ставіць іх перад сваімі чытачамі, спадзеючыся іх вырашыць разам з імі.

Цяпер Валерый Казакоў вельмі часта бывае на Бацькаўшчыне, таму, мяркую, што ў хуткім часе мы будзем чытаць яго новы раман на актуальную беларускую тэму... Кроўны талент за Смаленскам не схаваеш, кажу я, то давайце ж аддамо яму належнае. А пакуль што можна з упэўненасцю канстатаваць, што ў беларускай літаратуры з'явіўся смелы і даравіты творца, які неўзабаве можа *праявіць* перад чытацкімі вачыма *мастацка-рэнтгенаўскі здымак* агульнага стану здароўя нашай нацыі і ўсяго беларускага грамадства агулам.

Ганна Навумава



...Міленка Ергавіч намагаецца разгадаць загадку баснійскай зямлі...

# Супярэчнасці Балкан у літаратурным увасабленні

***Ергавіч Міленка. Іншала, Мадона, іншала / Пераклад з баснійскай мовы Сяргея Шупы. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2012.***

Апавяданне ў Босніі – гэта больш, чым проста літаратурны жанр. Гэта лад жыцця. Усё, што перажыта баснійцамі, становіцца легендамі, паданнямі, міфамі. Вельмі многа паэзіі ў іх жыцці, якое перапоўнена неверагодным трагізмам і невырашальнасцю супярэчнасцяў. Супярэчнасці ўяўляюць якраз сутнасць баснійскага асяроддзя. Няма дысгармоніі – няма і Босніі, няма яе непаўторнасці. Паэзія меланхоліі тут замяняе шчасце, якому няма месца. Такі дух Босніі ва ўсім: у людзях, адносінах між імі, у прыродзе, у архітэктурных помніках, у выяўленчым мастацтве. Здаецца, што баснійскае паветра прасякнута адчуваннем напружанасці і адначасова творчай непасрэднасці.

Кніга "Іншала, Мадона, іншала" Міленкі Ергавіча – апавяданні паводле сюжэтаў народных песень. Настрою, мелодыі, танальнасці дастаткова для таленавітага апавядальніка, вы-




хадца з Босніі, каб даствараць і перастварацьжорсткія лёсы, пакуты жыцця, сямейныя ці асабістыя трагедыі. Пра адно і тое ж гавораць безыменны пясняр мінулага, аўтар народнай песні, і вядомы сучасны пісьменнік М. Ергавіч – настолькі непарыўна звязана ўсё між сабою ў гэтай краіне.

У галерэі герояў М. Ергавіча шмат людзей не такіх, як усе: дзівакоў, калек, самотнікаў, выгнанцаў, сірот... Але ў цэнтры ўвагі, здаецца, не сацыяльныя канфлікты паміж асобай і грамадствам, а трагедыя кожнай асобы на фоне непадобнасці да астатніх. Пры гэтым праблемы герояў агульначалавечыя. Проста ва ўмовах, у якіх яны апынуліся, канфлікт становіцца прынцыповым і таму больш відавочным.

Цесна пераплятаюцца ў апавяданнях мінулае і сучаснасць. І невыпадкова, бо калі б не складаныя перыпетыі баснійскай гісторыі, не было б і сённяшняга дня. Умоўны лад тут не для таго, каб шкадаваць, намерваючыся павярнуць ход гісторыі. Аднак зразумець і адчуць, што такое Боснія XXI стагоддзя, магчыма толькі праз падарожжа на некалькі стагоддзяў назад. І зноў – сувязь чалавека і гісторыі, мінулага і сучаснага...

Сувязь усяго і адначасова поўная адсутнасць адзінства... Вузкая прастора, а на ёй чатыры рэлігіі, некалькі этнасаў. Скажам, Горан павінен выбіраць паміж жонкай-сербкай і маці-харваткай (“Тэспіх”), а з’яўленне мусульманскай жанчыны ў хрысціянскім манастыры ўразіла людзей больш, чым забойствы ўладароў і ўсе войны ў гісторыі краю (“Зулум”). Сёння Боснію лічаць адной з самых супярэчлівых краін Еўропы. Разам з тым, кангламерат культур стаў прычынай фарміравання ў Босніі абсалютна спецыфічнай сістэмы каштоўнасцяў, аналіз якіх прыцягваў увагу шматлікіх навукоўцаў, этнолагаў, філосафаў, пісьменнікаў. Свая канцэпцыя Босніі ў нобелеўскага лаўрэата Іва Андрыча. Па-свойму разглядаў духоўны свет героя-баснійца і Меша Сялімавіч. А з сучасным пісьменнікам Вукам Драшкавічам, аўтарам вядомага рамана “Нож”, М. Ергавіча аб’ядноўвае адзін вельмі смелы і паказальны матыў. Канфлікт названага рамана засноўваецца на тым, што дзяцей з розных сем’яў падмянілі, і праваслаўнага хлопчыка выхавала маці-мусульманка, а яе сапраўдны сын вырас хрысціянінам. У апавяданні “Алкатмэр” сітуацыя крыху іншая, М. Ергавіч не дае нам убачыць, што атрымалася з падмены. Увага чытача засяроджваецца на сумневах героя-апавядальніка, які здагадваецца пра падман: “Хай ён і тры разы Каран напамяць вывучыць, а ўсё адно застанецца тым, кім ёсць – Мілашавым братам, а не плодам нашага супольнага сораму”.

Міленка Ергавіч становіцца ў адзін шэраг з названымі вышэй пісьменнікамі ўжо таму, што сваёй творчасцю намагаецца разгадаць загадку баснійскай зямлі. А наколькі эстэтычна ўдала і трапна ён гэта зрабіў, пакажа час.

Шмат у творах М. Ергавіча адметнага, нацыянальна-каларытнага, што прываблівае чытача-беларуса сваёй экзатычнасцю і арыгінальнасцю. Але ёсць у апавяданнях балканскага пісьменніка і тое, што аб’ядноўвае пошукі творцаў усяго свету. Універсальныя канфлікты, агульначалавечыя праблемы, якія вырашаюць героі, знаёмыя і нам – ці з уласнага жыцця, ці з твораў айчыннай літаратуры. Таму ў кнізе М. Ергавіч заўважае безліч унутраных і знешніх канфліктаў, дылем, ілюзій, зманаў, пошукаў.

Безумоўна, пераклад на беларускую мову і выданне кнігі “Іншала, Мадона, іншала” – факт вельмі істотны; асабліва для аматараў і знаўцаў паўднёваславянскіх літаратур. Шмат чаго са скарбніцы балканскага мастацтва слова яшчэ не адкрыта беларусам, і рухацца ў гэтым кірунку трэба. Літаратуры народаў былой Югаславіі, бясспрэчна, заслугоўваюць вялікай увагі.

Сведчаннем таго, што знаёмства беларускіх чытачоў з кнігай М. Ергавіча дае карысць, можа служыць тое, што многія апавяданні схіляюць да роздуму, а некаторыя заклікаюць пасправачацца.

Майстэрства перакладчыка Сяргея Шупы праявілася ў кнізе як належыць. Яму пры перакладзе твораў М. Ергавіча даводзілася перадаваць не толькі агульны сэнс, змест, але і пачуцці, жаданні, імкненні. Па вялікім рахунку, гэта трэба самому адчуць, перажыць, а затым стварыць нанова ў той парадыгме, якую разумеюць нашы суайчыннікі.

Спрэчнае пытанне, ці варта захоўваць лексіку, спецыфічную для пэўнага замежнага рэгіёна, але незразумелую беларусам. Трэба памятаць, што "каларытныя" словы пры чытанні ў арыгінале не выклікаюць ніякіх цяжкасцяў, успрымаюцца натуральна. А ў перакладзе, несучы лакальны каларыт, яны прымусяць чытачабеларуса спыніцца, будуць звяртаць на сябе зашмат увагі. Аднак, здаецца, дыялектыку самабытнага і зразумелага перакладчык С. Шупа спасціг. Тым не менш, заўважаюцца і пэўныя недакладнасці, агрэхі. Асабліва ў тэксце "Пасляслоўя да беларускага выдання", калі непасрэдна параўноўваць прыведзеныя там арыгінальныя тэксты народных песень з іх падрадкоўнікамі.

Узнікае яшчэ і такое пытанне: ці трэба было захоўваць ненарматыўную лексіку ў перакладзе? Сербы, баснійцы, харваты вельмі лёгка, на жаль, яе выкарыстоўваюць. Ды калі ў беларускім тэксце сустракаем нібыта "сваю" лаянку – грубую і непрыстойную, то ўражанне складваецца зусім не такое, як ад арыгінала.

Адразу звяртае на сябе ўвагу назва мовы, з якой перакладзена кніга: баснійская. Наш тыповы чытач, мабыць, няшмат ведае пра сітуацыю на тэрыторыі былой Югаславіі. А трэба, каб ён усведамляў, што не ўсё так адназначна. Сучасныя мовы Сербіі, Харватыі, Босніі і Герцагавіны, Чарнагорыі маюць непадзельную агульнасць. І цяпер яны ў такім стане, што іх носьбіты лёгка абыходзяцца без перакладчыка. Сербы жартуюць: хутка нават чарнагорская мова падзеліцца на "чарнскую" і "горскую". Аднак усміхацца перастаеш, калі ўсведамляеш, што значыць палітычнае абгрунтаванне такіх лінгвістычных падзелаў. Рашэнне, як вызначыць назву мовы, адлюстроўвае не толькі культурную, але і палітычную пазіцыю. Атрымліваецца, што мы, беларусы, пішучы на вокладцы "баснійская мова", падтрымліваем тэндэнцыі адасаблення нават у тым, што аб'ектыўнай абумоўленасці не мае.

Як мы бачым, вызначэнне мовы арыгіналу выклікае амаль невырашальныя, ідэйныя сумненні. Вось наколькі ўсё незразумела, таямніча, пераблытана там, сярод народаў Балкан. Менавіта так, як паказвае нам Міленка Ергавіч у сваіх апавяданнях. Ці гэта не мастацкая задума перакладчыка: заявіць на вокладцы правакацыйную назву мовы, каб удумлівы чытач на ўласным вопыце адчуў, як нялёгка, заблытана ўсё там, у тых краях, пра якія распавядае аўтар? Напэўна, не, але атрымалася вельмі дарэчы.

# Асвечаныя Беларушчынай

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*




**Алесь Аркуш. Палімпсэст. – Мінск: Галіяфы, 2012. – 164 с. – (Бібліятэка Таварыства Вольных Літаратараў).**

Алесь Аркуш, стваральнік Таварыства Вольных Літаратараў, вядомы публіцы перадусім як паэт, прапануе чытацкай аўдыторыі нарэшце буйны празаічны твор – раман “Палімпсэст”.

Шматузроўневасць, заяўленая ў назве, цалкам раскрываецца на старонках кнігі, дзе аўтар прапануе чытачу суплёт дзённікавых запісаў, успамінаў, паасобных думак, рэальных гісторыяў і нават сноў. Як і вынікае з наймення, вызначыць адну тэму твора амаль немагчыма – у рамане закранутыя ўсе вечныя тэмы – і каханне, і сяброўства, і творчыя пакуты, і самавызначэнне чалавека. Усё гэта аб’ядноўвае цёплы лірычна-філасофскі погляд аўтара, уласцівы яму як паэту.

Нягледзячы на відавочны аўтабіяграфізм, кнігу ўсё ж наўрад не варта лічыць цалкам дакументальнай. Хутчэй, гэта ўспаміны аб часе і асобах, якія, прайшоўшы праз прызму аўтарскага бачання, сталіся “Палімпсэстам”.




**Алесь Бяляцкі. Асьвечаныя Беларушчынай. – Вільня, 2012. – 464 с.**

Намаганнямі сяброў і калегаў Алеся Бяляцкага (перадусім – укладальніцы кнігі Паліны Сцепаненка) пабачыў свет зборнік яго літаратуразнаўчых эсэ і нарысаў. Гэтую кнігу Алесь Бяляцкі задумваў выдаць да свайго пяцідзесяцігоддзя, загадзя пачаўшы збіраць тэксты, аднак за год да таго, у жніўні 2011, быў арыштаваны.

Адкрываюць зборнік тэксты, напісаныя за кратамі, – сем лістоў пад агульным назовам «Пра беларускую “турэмную” літаратуру» (створаныя ў бабруйскай калоніі), нарыс «“Подзьвіг” Хвядоса Шынклера» (напісаны ў жодзінскай турме), нататкі пра зборнік Сержука Сыса (у Бабруйску). Літаратуразнаўчая частка кнігі змяшчае даследаванні творчасці Анатоля Сыса, Янкі Юхнаўца, Антона Луцкевіча, Францішка Аляхновіча, Максіма Багдановіча, Янкі Купалы і інш., тыпалагічна-аналітычныя агляды беларускай літаратуры розных эпох. Літаратурна-крытычную частку складаюць рэцэнзіі, што друкаваліся ў перыёдыцы, апісваюць літаратурны працэс сярэдзіны 1990-х. Сабраныя разам, гэтыя тэксты вызначаюць мастацкія прыярытэты, упісваюць як добра вядомыя, так, часам, і падзабытыя імёны ў пэўныя кантэксты, ствараючы, па трапным вызначэнні Андрэя Скурко, *цэласны літаратурны канон.*




**Сяргей Календа. Кантынентальны сняданак. – Мінск: І.П. Логвінаў, 2012. – 112 с.**

Два з паловай дзясяткі апавяданняў, што ўвайшлі ў кнігу, аб’яднаныя не толькі аўтарскім стылем, але і інтрыгоўным прысвячэннем: *“Усім, хто выдаткоўвае сваё жыццё на карысць іншых людзей, хто гатуе для чужынцаў, хто мые і прасуе чужыя брудныя анучы... усім, хто робіць жыцьцё ў незнаёмай краіне цікавым і ўтульным”.*

Героі Сяргея Календы – людзі, на якіх мы часцяком не звяртаем

увагі, людзі, якія ўспрымаюцца часткаю інтэр’еру ці паслугамі па сістэме “ол-інклюзіў”. Яны існуюць побач з намі амаль незаўважна, што часткова ёсць спецыфікай іх працы, а часткова – вымушанай самаахоВай ад нахабства, агрэсіі і блюзнерства свету. Фірмовы брутальны гумар з элементамі сада-маза і вусцішныя фінальныя развязкі – вызначальныя складнікі кнігі “Кантынентальны сняданак”.

**Новы замак: літаратурны альманах. Гродна. MMXII / укл. С. Астравец. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 248 с.**




З’яўленне гарадзенскага літаратурнага альманаха – прыемнасць, але не нечаканасць. Беларушчына ў шырокім разуменні гэтае з’явы, нягледзячы на дзесяцігоддзі дэнацыяналізацыі, мае ў заходнім рэгіёне натуральнае і трывалае апірышча. (Невыпадкова ў слыннай кнігарні “ЛогвінаЎ”, сярод розных раздзелаў, ёсць адмысловая “Гродзенская палічка”). Таму выхад альманаха стаўся лагічным крокам гарадзенскай пісьменніцкай супольнасці на шляху замацавання сваёй творчай адметнасці і краёвай згуртаванасці.

У альманаху спалучыліся дыхтоўная традыцыйнасць з імкненнем да развіцця і пошуку. І калі першае фармулюецца ў вобразе “замка”-цвержы, фартэцыі, з яе магутнасцю і непахіснасцю, то другая частка выяўляецца ў яго “навасці” з адкрытасцю да свежых поглядаў і сучасных тэндэнцыяў. У спалучэнні ж мы атрымліваем шматузроўневасць, здольную аб’яднаць пад адною вокладкай творцаў розных стыляў і пакаленняў. Рэдакцыя ў складзе Юркі Голуба, Сяргея Астраўца, Ігара Жука, Аляксея Пяткевіча і Сяргея Чыгрына прапануе чытачу класічную будову замкавага гмаху: паэзія, проза, пераклады, крытыка, дзённікі... Дык чытайма!

**Алесь Няўвесь. Слон пад мікраскопам. – Смаленск: Універсум, 2013. – 400 с.**




Смех – найлепшы сродак супраць страху. Сатыра – лепшы сродак супраць дыктатуры (і вонкавай, і ўнутранай). Беларуская сатыра найноўшага часу можа пахваліцца адзінкавымі прыкладамі-імёнамі. Вершаваныя фельетоны Алеся Няўвеся, якімі ён адгукаецца на “недарэчнасці і глупствы, якія адбываюцца ў нашым грамадстве”, заўжды трапляюць у “дзясятачку”. Яны бездакорныя па тэхніцы і падачы. Пад мікраскопам сатырыка – усе значныя падзеі, што адбыліся ў нашай трагікамічнай рэчаіснасці ў 2012 годзе.

**Леанід Маракоў. Непамяркоўныя. – Мінск: Кнігазбор, 2012. — 184 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; выпуск 31).**




Пабачыла свет другое выданне кнігі журналіста, пісьменніка, гісторыка, энцыклапедыста Леаніда Маракова “Непамяркоўныя”.

“Непрыдуманыя, амаль дакументальныя, а шмат у чым і аўтабіяграфічныя апавяданні па часе ахопліваюць ледзь не ўсё ХХ стагоддзе”, — паведамляецца ў анатацыі. Напісаны яны свежым, лёгкачытэльным стылем і ў сваёй аснове маюць вострыя, дынамічныя сюжэты. Сюжэты нібы прыдуманыя самой гісторыяй, самім жыццём. Жыццём-палётам над безданню...

# Нашыя аўтары

**Андрыч Іва** – югаслаўскі пісьменнік і дыпламат. Адзіны пісьменнік былой Югаславіі, уганараваны Нобелеўскай прэміяй у галіне літаратуры. Найбольш вядомыя раманы Андрыча – «Мост на Дрыне», «Траўніцкая хроніка», «Гаспадыня». Нарадзіўся ў 1892 годзе ў Долацы (Боснія). Памёр у 1975 годзе.

**Астравец (Астраўцоў) Сяргей** — празаік, публіцыст, журналіст. Аўтар кніг «Янычары», «Цэнзарскія нажніцы», «Лісты да хома саветыкуса», «Каты Ёзафа Ратцынгера» і інш. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Мінску. Жыве ў Гародні.

**Барадулін Рыгор** — народны паэт Беларусі. Паэт, перакладчык, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1976). Аўтар кніг паэзіі «Маладзік над стэпам», «Рунець, красавань, налівацца!», «Нагбом», «Адам і Ева», «Рум», «Вечалле», «Евангелле ад мамы», «Ксты» і інш. Нарадзіўся ў 1935 годзе на хутары Верасоўка на Ушаччыне. Жыве ў Мінску.

**Бяляцкі Алесь —** празаік, крытык, літаратуразнаўца, публіцыст. Аўтар кніг «Літаратура і нацыя», «Прабежкі па беразе Жэнеўскага возера», «Асьвечаныя беларушчынай». Нарадзіўся ў 1962 годзе ў Карэліі. Цяпер знаходзіцца ў зняволенні ў Бабруйску.

**Бубен Уладзіслаў** – празаік, музыка, мастак і інсталятар. Аўтар радыёпраграм «Затеряный мир», «Інтэлектуальныя тэхналогіі», «Шузы на маннай кашы», «Чорная пятніца» і тэлепраграмы на MTV-Беларусь «Электрыкаў выклікалі?». Проза друкавалася ў газеце «Навінкі» і часопісе «Гаўдэамус». Нарадзіўся ў 1973 годзе ў Чачэрску. Жыве ў Мінску.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гілевіч Ніл** — народны паэт Беларусі. Заслужаны дзеяч навукі Беларусі. Прафесар. Паэт, драматург, перакладчык, фалькларыст, літаратуразнаўца. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Аўтар кніг «Песня ў дарогу», «Прадвесне ідзе па зямлі», «Перазовы», «Паэтыка беларускай народнай лірыкі», «Святлынь», «Родныя дзеці», «І чую я голас...», «Замова ад страху» і інш. Нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Слабада на Лагойшчыне. Жыве ў Мінску.

**Грушас Юозас** – летувіскі празаік, драматург, перакладчык. Скончыў факультэт тэалогіі і філасофіі ва ўніверсітэце Вітаўта Вялікага. Выкладаў гісторыю і літоўскую мову, пасля 1949 года поўнасцю аддаў сябе літаратурнай працы. Аўтар кніг «Кар'ерысты», «Цяжкая рука», «Геркус Мантас», «Прафесар Марк Відзін» і інш. Нарадзіўся ў 1901 годзе ў вёсцы Калнішкяй (Летува). Памёр у 1986 годзе ў Каўнасе, дзе ягоным імем названая вуліца.

**Уладзімір Дамашэвіч** — празаік, нарысіст. Заслужаны работнік культуры Беларусі, лаўрэат літаратурнай прэміі імя І. Мележа. Аўтар кніг «Заклінаю ад кулі», «Між двух агнёў», «Абуджэнне», «Каб радзіла зямля», «Кожны чацвёрты», «Камень з гары» і інш. Нарадзіўся ў 1928 годзе ў вёсцы Вадзяціна на Ляхавіччыне. Жыве ў Мінску.

**Івашчанка Анатоль** — паэт, празаік. Аўтар кніг «Вершnick», «Паэтыка Алеся Разанава: між медытацыяй і рацыяй». Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Іофе Эмануіл** – гісторык, палітолаг, сацыёлаг, культуролаг. Прафесар БДПУ, доктар гістарычных навук. Аўтар звыш за 1730 друкаваных прац, у тым ліку 46 кніг і брашур. Сярод іх – «Из истории белорусской деревни», «Страницы истории евреев Беларуси», «Белорусские евреи в Израиле», «История Беларуси XVIII-XX веков» і інш. Нарадзіўся ў 1939 годзе ў Беразіно. Жыве ў Мінску.

**Кавалёў Сяргей** — драматург, паэт, крытык, літаратуразнаўца. Доктар філалагічных навук. Аўтар кніг «Мэва», «Як пакахаць ружу», «Партрэт шкла», а таксама зборнікаў п'ес «Хохлік», «Стомлены д'ябал», «Навука кахання», «Сёстры Псіхеі» і інш. П'есы ставіліся ў Беларусі,

Украіне, Расіі, Польшчы, Славакіі. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Магілёве. Жыве ў Любліне (Польшча).

**Лукашук Аляксандр** – празаік, публіцыст, эсэіст. Аўтар кніг «Зьдзек», «За кіпучай чэкісцкай работай. З жыцьця катаў», «У фіялетавай ночы вугал крыла», «Прыгоды АРА ў Беларусі», «Сьлед матылька. Освальд у Менску» і інш. Нарадзіўся ў 1955 годзе на Берасцейшчыне. Жыве ў Празе.

**Мінскевіч Серж** – паэт, перакладчык. Аўтар кніг «Праз галеРэю», «Менскія санэты/Мінскія санэты», «Я з БУМ-БАМ-ЛІТа» і інш. Нарадзіўся ў 1969 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Навумава Ганна** – перакладчык, даследчык сербскай літаратуры. Студэнтка БДУ. Некалькі яе прац – рэцэнзій, перакладаў, навуковых артыкулаў, прысвечаных творчасці пісьменніка Іва Андрыча, – апубліканвана ў Сербіі. Нарадзілася ў 1991 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Някляеў Уладзімір** — паэт, празаік, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (2000), прэміі імя Ежы Гедройца (2013). Аўтар кніг паэзіі «Адкрыццё», «Вынаходцы вятроў», «Наскрозь», «Прошча», «Так», «Лісты да Волі» прозы «Цэнтр Еўропы», «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Смаргоні на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Сітніца Рыгор** — мастак, паэт, публіцыст. Акадэмік Беларускай акадэміі мастацтваў. Творы знаходзяцца ў музеях Беларусі, Польшчы, Грэцыі, у прыватных зборах Беларусі, Летувы, Польшчы, Германіі, Галандыі, Ізраіля, Вялікабрытаніі, Грэцыі. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Курыцічы на Петрыкаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Спрынчан Аксана** — паэт, празаік. Аўтар кніг паэзіі «Вершы ад А.», «ЖываЯ». Нарадзілася ў 1973 годзе ў Лунінцы. Жыве ў Мінску.

**Сцяпан Уладзімір** — празаік, паэт, мастак. Аўтар кніг прозы «Вежа», «Самнасам», «Адна капейка». Нарадзіўся ў 1958 годзе ў мястэчку Касцюкоўка на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Травень Кастусь** – празаік. Аўтар кніг «Маўчы і будзь хітрым», «Гульня белымі фігурамі» і інш. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Суботнікі на Іўеўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Усеня Алесь** – паэт, празаік, сатырык, выдавец. Аўтар кніг «Я хачу на сваю планету», «Здань на хутары», «Дзежка дзёгцю, «Пустадомкі», «Мой лістапад» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Пасека на Старадарожчыне. Жыве ў Мінску.

**Хадановіч Андрэй** — паэт, перакладчык. Аўтар кніг паэзіі «Лісты з-пад коўдры», «Старыя вершы», «From Belarus with love», «Бэрлібры», «Несымэтрычныя сны» і інш. Перакладае з ангельскай, французскай, польскай і ўкраінскай моваў. Нарадзіўся ў 1973 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Шаўлякова Ірына** — крытык, літаратуразнаўца, паэт. Аўтар кніг «Галерэя сноў», «Сентыментальнае паляванне», «Рэстаўрацыя шчырасці». Нарадзілася ў 1970 годзе ў Чэрвені на Міншчыне. Жыве ў Мінску.

**Штэйнер Іван** – літаратуразнаўца, крытык, публіцыст. Аўтар кніг «Беларуская балада: Вытокі жанру і паэтычная структура», «Варожасць балады вякоў: Беларуская балада і славянскія традыцыі» і інш. Нарадзіўся ў1953 годзе ў вёсцы Беражное на Століншчыне. Жыве ў Гомелі.

**Шыпіла Наталля** – паэт. Студэнтка гісторыка-філалагічнага факультэта Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта. Нарадзілася ў 1990 годзе ў Наваполацку. Жыве ў Наваполацку.

**Шыпіла Уладзімір** – паэт. Магістрант Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта па спецыяльнасці «Айчынная гісторыя». Нарадзіўся ў 1988 годзе ў Наваполацку. Жыве ў Наваполацку.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца*** ў любым паштовым аддзяленьні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**

### Лаўрэаты літаратурнай прэміі «Залаты апостраф» — за лепшыя публікацыі ў часопісе «Дзеяслоў» у 2012 годзе:

***«Паэзія».*** **Алесь РАЗАНАЎ. За пункціры "Столькі і гэтулькі", №2 (57).**

***«Проза».*** **Алесь ПАПЛАЎСКІ. За аповесць "Lapido", №3 (58).**

***«Дэбют».*** **Марына ЯЎСЕЙЧЫК. За аповеды "Казкі лесу", №6 (61).**

***Прэмію часопіса "Дзеяслоў" і Алеся Усені «За ўклад у развіццё сучаснай беларускай літаратуры»*** **атрымаў Анатоль КУДРАВЕЦ.**






**«Дзеяслоўцы» шчыра віншуюць новых лаўрэатаў.**

Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Сяргея Шапрана, Уладзіміра Крука,
Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага,
Юрыя Дзядзінкіна, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.